Мікола ЕРМАЛОВІЧ

# СТАРАЖЫТНАЯ БЕЛАРУСЬ



## ПОЛАЦКІ І НОВАГАРОДСКІ ПЕРЫЯДЫ

Мікола ЕРМАЛОВІЧ

# СТАРАЖЫТНАЯ БЕЛАРУСЬ

## ПОЛАЦКІ І НОВАГАРОДСКІ ПЕРЫЯДЫ

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1990

ББК 63.3(2Б)
Е 72

ПРАДМОВА ДОКТАРА ГІСТАРЫЧНЫХ НАВУК
М. А. ТКАЧОВА

Книга популярного белорусского историка Миколы Ермоловича представляет собой плод его многолетних научных поисков и посвящена восстановлению по крупицам истории Белоруссии полоцкого и новогородского периодов. Используя скупые данные летописей, топонимики, археологии, автор прослеживает судьбу нашей земли, начиная с древнейших времен и кончая образованием и укреплением Великого княжества Литовского.

Смелость и оригинальность позиции, неприятие идеологических догм и шаблонов, которые господствовали в исторической науке на протяжении многих лет, видимо, и стали причиной того, что эта работа М. Ермоловича сможет увидеть свет лишь теперь.

## НАПІСАНАЕ ЗАСТАЕЦЦА

Цяпер часцяком даводзіцца чытаць і чуць, што за перыяд застою гісторыкі, у адрозненне ад літаратараў, нічога не назапасілі з прац, якія былі б неардынарныя, смелыя, сумленныя, з аб'ектыўным паказам праблем, «балявых кропак» і «белых плям» нашай гісторыі. Такая думка і такія словы ў нечым слушныя. Але такі папрок менш за ўсё датычыцца гісторыкаў і археолагаў, якія вывучалі гісторыю і матэрыяльную культуру эпохі Кіеўскай Русі, раннюю гісторыю старажытнабеларускіх зямель. Тут даследчыкамі Масквы, Ленінграда (М. М. Улашчык, В. В. Сядоў, Л. В. Аляксееў, П. А. Рапапорт, Ф. Д. Гурэвіч, М. У. Малеўская, В. А. Булкін і іншыя) і Беларусі (Л. Д. Побаль, Э. М. Загарульскі, Г. В. Штыхаў, П. Ф. Лысенка, Я. Т. Звяруга, А. А. Трусаў, З. С. Пазняк, Л. У. Калядзінскі і многія іншыя) без залішняга шуму і галасу з году ў год, метадычна, кваліфікавана вялася карпатлівая, на мяжы падзвіжніцтва, праца.

Сярод тых, хто ўпарта, пастаянна, з энтузіязмам і самаахвярнасцю з дня ў дзень пералапачваў «культурны пласт» нашай гісторыі, вымываў з тысяч і тысяч старонак «летапіснай руды» залацінкі нашай нябеднай мінуўшчыны, быў і Мікола Ермаловіч. Больш двух дзесяткаў гадоў, жывучы ў Маладзечне, ён амаль штодня ездзіў у Мінск, прыходзіў у беларускі аддзел «Ленінкі» і чытаў, чытаў, выпісваў, карпеў над чарговай хронікай, даўняй манаграфіяй ці свежай працай даследчыкаў. Гэтаму чалавеку ніхто не даводзіў навуковых планаў, не плаціў грошай, не адчыняў «зялёную вуліцу» на старонкі выданняў, не абнадзейваў публікацыяй манаграфіі. Рэдка яго артыкулы па гісторыі старадаўняй Беларусі прабіваліся ў друк. Але яны нікога не пакідалі абыякавымі: ні шчырых прыхільнікаў роднай гісторыі, ні тых аглабельшчыкаў ад навукі, што столькі гадоў загароджвалі праўдзе дарогу ў храм гісторыі. А ў тым святым для кожнага народа храме багіні Кліо часта гучалі псеўдагістарычныя казанні і спевы зрэджанага хору, які раз-пораз браў фальшывыя ноты. Маладыя, свежыя, самабытныя галасы гісторыкаў вельмі б прыдаліся гэтаму хору, але брамнікі храма былі пільныя, яны такіх і блізка не падпускалі, пагрозліва махаючы сваёй зброяй, а то і пускаючы яе ў ход. Ды рух думкі, рух гісторыі запыніць навек яшчэ нікому і ніколі не ўдавалася. Рух гэты можна запаволіць, людзей можна застрашыць, але аб'ектыўныя законы гістарычнага развіцця, дыялектыка жыцця возьмуць сваё рана ці позна. І гэты час настаў!

Свежы вецер рэвалюцыйных змен, перабудова і дэмакратызацыя шырока расчынілі браму ў храм гісторыі для сумленных даследчыкаў. Вяртанне партыі да ленінскай канцэпцыі пабудовы сацыялізму, абвяшчэнне галоснасці, гуманізацыі і сацыялістычнага плюралізму ва ўсіх сферах жыцця далі свой шанц руплівым працаўнікам навукі. У тым ліку і гісторыкам. Пасля доўгіх гадоў дагматычнай скаванасці, тузанняў лейцамі бюра-

крата ад навукі яны ўрэшце атрымалі сваё законнае, рэвалюцыяй дадзенае права аб'ектыўна вывучаць і праўдзіва пісаць, выказваць сваю асабістую думку аб розных спрэчных пытаннях нашай мінуўшчыны. Атрымалі права гаварыць пра набалелае. Гэта гарантаванае канстытуцыяй права атрымаў нарэшце і Мікола Ермаловіч, праца якога цяпер можа дайсці да шырокага чытача. Колішні школьны настаўнік і выкладчык Маладзечанскага настаўніцкага інстытута, чалавек амаль зусім пазбаўлены зроку (няхай мне даруе Мікола Іванавіч гэту «дробязь» з біяграфіі яго няпростага жыцця, але ж удумаемся, якая гэта «дробязь»!), выносіць на аб'ектыўны суд зацікаўленага чытача, і перш за ўсё нашых гісторыкаў, сваю шматгадовую працу аб ранняй гісторыі Беларусі часоў Полацкай зямлі — аднаго з буйнейшых і самых ранніх ва Усходняй Еўропе дзяржаўных утварэнняў. Полацкая зямля— гэта залатое зерне залатога коласа, якім была Кіеўская Русь. Паступальнае развіццё феадалізму прывяло да раздраблення гэтай адной з буйнейшых еўрапейскіх імперый, якая распалася, спарадзіўшы такія новыя і жыццяздольныя дзяржавы-«землі», як перш за ўсё Полацкая, Смаленская, Тураўская, Растова-Суздальская, як Наўгародская феадальная рэспубліка.

Адной з самых першых ад «шматковай імперыі Рурыкавічаў» (К. Маркс) пачала адыходзіць Полацкая зямля. Па сваіх памерах, геаграфічных абсягах, прыродных і эканамічных багаццях яна стала ўпоравень з многімі тагачаснымі еўрапейскімі дзяржавамі. Кіеў, Ноўгарад і Полацк спрачаліся і змагаліся за прыярытэт на Русі. Менавіта тут былі пабудаваны адзіныя на Русі тры дзяржаўныя храмы святой Сафіі («Прамудрасці Боскай»). Гісторыя ўсходняга славянства IX—XIII стст. у значнай ступені развівалася ў гэтым «трохкутніку» па ўсіх канонах тагачаснага, далёкага ад ідыліі, феадальнага жыцця; з крывавымі войнамі, раптоўнымі і вераломнымі нападамі, клятваадступніцтвам, саюзамі і здрадамі. Ноўгарад, Кіеў, Пскоў, Смаленск мусілі лічыцца з Полацкай зямлёй, якую можна было тады адужаць толькі ў саюзе. З сілаю Полаччыны лічыліся нямецкія крыжаносцы, за якімі стаяла паў-Еўропы і якія пнуліся завалодаць усім Падзвіннем. У сваёй «Лівонскай хроніцы» крыжакі называлі Полацкую зямлю магутным «каралеўствам», а яе князя — каралём. Ваенная сіла Полацка была той заставай-асілкам, што наглуха зачыніла «псам-рыцарам» дарогу на Смаленск, Маскву, у глыб велікарускіх зямель. Роля Полацкай зямлі ў процістаянні крыжацкай навале, у вызваленчай барацьбе народаў Усходняй Еўропы яшчэ чакае рупных даследчыкаў.

Нягледзячы на шматлікія працы па гісторыі Кіеўскай Русі, у гісторыі Полацкай зямлі яшчэ шмат «белых плям», недакладнасцей, схематызму, а то і проста блытаніны. Усё яшчэ існуюць гістарычныя міфы, якія груба скажаюць і прыніжаюць яе гісторыю, культывуюць ідэі культурна-гістарычнай непаўнацэннасці гэтых земляў, якія нібыта былі дробнай манетай у гістарычнай гульні суседніх народаў. І гэта гаворыцца аб той самай Полацкай зямлі, якая мела сваю асобную ад Рурыкавічаў дынастыю князёў, якая напрамую раднілася з візантыйскім імператарскім домам Камнінаў, з якой парадніўся Аляксандр Неўскі (відаць жа, лічыў за гонар такое сваяцтва!).

Праца М. Ермаловіча пралівае святло на сутнасць летапісных паняццяў «літоўцы» і «Літва», якія многімі даследчыкамі неправамерна атаясамліваюцца з сучаснымі этнічнымі паняццямі. Аналіз гістарычных крыніц паказвае ўсю штучнасць і хадульнасць ідэі «Русь слабела, Літва мацнела», якая на стала прапісалася ў гістарыяграфіі.

У сваіх разважаннях і вывадах М. Ермаловіч мае не менш аргументаў, чымся многія з яго апанентаў, якія, як і ён, карыстаюцца аднымі і тымі ж нешматлікімі летапіснымі звесткамі.

Перакрыжаваны аналіз рускіх, беларуска-літоўскіх летапісаў, тацішчаўскіх звестак, нямецкіх і польскіх хронік дазволіў аўтару грунтоўна прасеяць гісторыю Полацкай і іншых земляў і адкінуць пустую мякіну, выказаць трапныя і слушныя меркаванні, здагадкі, заўвагі. Магчыма, не з усімі вывадамі і назіраннямі М. Ермаловіча можна будзе пагадзіцца. Публікацыя, мабыць, выкліча спрэчкі, а можа, нават і дыскусію, чаго, дарэчы, нашай гістарычнай навуцы акурат і не стае. Яна, гэта дыскусія, нам вельмі патрэбная — здаровая, плённая, са шчырай зацікаўленасцю ўдзельнікаў, з павагай да ўласных і чужых нестандартных думак і вывадаў, без навешвання зачумленых ярлыкоў — інтэлігентная дыскусія інтэлігентных людзей. Толькі так мы пазбавімся ў гісторыі канцэптуальнай заскарузласці і закасцянеласці. Кожны павінен мець слова і права голасу, як мае права голасу і праўдзівая гісторыя нашай зямлі, нашых прашчураў.

*Міхась ТКАЧОЎ,*
*доктар гістарычных навук.*

# НАРОД І ЯГО ГІСТОРЫЯ

Пачнём збіраць зярно к зярняці,
Былое ў думках ўваскрашаць,
Каб быт на новы лад пачаці
І сеўбу новую пачаць.

*Янка Купала*

*У гэтых словах нашага вялікага песняра з выключнай выразнасцю і глыбінёй раскрыта для народа неацэннае значэнне яго мінуўшчыны. Так, народ павінен ведаць сваю гісторыю, але не на тое, каб яе паўтараць, бо паўтарэнне гісторыі, нават самай бліскучай, азначае, што народ гэты не мае ўжо сваіх ідэалаў у будучым, што ён бачыць іх толькі ў мінулым, а гэта раўназначна яго пагібелі. Не, хоць гісторыя па сваім змесце заўсёды звернута ў мінулае, яна даследуецца і вывучаецца ў імя будучыні. Даўно ўжо стала неабвержнай ісцінай выснова, што народ, які не ведае сваёй мінуўшчыны, не варты і будучыні. Як чалавек, што, страціўшы памяць, становіцца зусім бездапаможным і, па сутнасці, перастае быць чалавекам, так і народ, які забывае сваё мінулае, становіцца бездапаможным у гістарычным быцці і, па сутнасці, перастае быць народам.*

*Пройдзенае народам — гэта не баласт, які абцяжарвае далейшы рух і які таму можна скінуць з сябе. Гістарычны вопыт — гэта адна з тых неабходных для народа ношаў, з якой ён бярэ патрэбныя для поступу наперад жыццёвыя рэсурсы. З свайго мінулага народ чэрпае ўласныя прыклады як таго, што натхняе, так і таго, што засцерагае ад паўтарэння зробленых памылак. Усё гэта добра ведалі рознага роду заваёўнікі, і таму, падначаліўшы сваёй уладзе іншы народ і імкнучыся назаўсёды задушыць яго імкненне да волі, яны найперш адбівалі яму памяць, вынішчаючы дашчэнту ўсё тое, што нагадвала пра яго мінуўшчыну.*

*У дзвюх рэчах асабліва заўзята дзейнічалі заваёўнікі: у апляванні нашай мовы і скажэнні нашай гісторыі. І гэта зразумела: кожная мова і гісторыя — асабліва красамоўныя*

*сведчанні самабытнасці, у чым нам найбольш адмаўлялі. Але калі мову нельга вынішчыць, то яе можна зганьбіць, і да такой ступені, каб і сам народ яе саромеўся ўжываць і цураўся. Гісторыю таксама немагчыма закрэсліць. Але яе можна сказіць і перайначыць да непазнавальнасці ці прыпісаць іншым. Так і рабілася. І гэта таксама не засталося без вынікаў. На жаль, мы слаба ведаем сваю гісторыю, хоць яна мае тысячагадовую даўнасць. Да таго ж гэта гісторыя аднаго з самых стойкіх і жыццяздольных народаў. Гэта гісторыя — эпапея мужнасці і непераможнасці. Нам нішто не давалася лёгка. Усё здабывалася намі ў цяжкай працы і барацьбе. Лёс не быў шчодры і літасцівы да нас. Ён не даў нам непрыступных гор, якія маглі б адгарадзіць і схаваць нас ад ворагаў. Не надзяліў ён нас ні ўрадлівымі глебамі, ні багатымі выкапнямі. Замест гэтага даў нам лёс непраходныя пушчы, якія хоць і давалі спажыву, але стагоддзямі іх трэба было церабіць, і велізарныя топкія балоты, якія хоць і ратавалі часамі, але і разгароджвалі нас. Праўда, лёс даў нам некалькі буйных рэк (не кажучы ўжо пра нязлічныя малыя), якія саслужылі нам добрую службу. Але бяда была ў тым, што яны цяклі ў розныя бакі і таму былі сімваламі нашай долі. Як гэтыя рэкі, так сіла, багацце і здабыткі нашы плылі ў іншыя краі.*

*З першых дзён нашага гістарычнага жыцця нам прыйшлося змагацца за права на сваё існаванне. Кроў князя Рагвалода і яго двух сыноў стала барвовай зарой Беларусі. Наша гісторыя рана зрабілася трагедыяй. Былі моманты, калі здавалася (асабліва нашым непрыяцелям), што гэта трагедыя пераходзіць у перадсмяротную агонію. Аднак мы ўсё ж выстаялі. Страціўшы на доўгі час сваю дзяржаўнасць, мы тым не менш пашыралі сваю прастору, але рабілі гэта, як было зазначана ў мінулым стагоддзі, «без шуму і гвалту»*[1]*. Вельмі трапнае вызначэнне нашага гістарычнага почырку.*

*Як і кожны народ, мы на працягу сваёй гісторыі мелі не толькі здабыткі, але і страты. Іх добра бачылі і класікі марксізму. Ф. Энгельс гаварыў пра апалячванне беларускага дваранства*[2]*, у выніку чаго значныя нашы інтэлектуальныя сілы пайшлі набок. Не менш адмоўныя вынікі мела і страта нашымі продкамі свайго гандлёва-прамысловага класа, выцесненага яўрэйскай буржуазіяй, што адзначыў К. Маркс*[3]*. У гэтых акалічнасцях, магчыма, і заключана галоўная, гаворачы словамі Я. Купалы, «прычына нашых крыўд і бед». Адзначаныя страты прывялі да важных змен у класавым складзе нашага народа, які ў выніку стаў «мужыцкай» нацыяй», на існаванне якіх указваў У. І. Ленін, аднёсшы да іх («мужыцкіх» нацый») найперш беларусаў, паколькі яны — «галоўным чынам сяляне»*[4]*. І усё ж наш мужыцкі народ,*

*абрабаваны матэрыяльна і духоўна, змог вытрымаць і гэтыя вялікія выпрабаванні, не растварыцца ў чужой масе і знайсці ў сабе сілы, каб адрадзіцца да нацыянальнага жыцця. А гэта было ва ўмовах Беларусі «абаронай дэмакратыі, роднай мовы, палітычнай свабоды супроць прыгнятаючых нацый, супроць сярэдневякоўя»[5]. У. І. Ленін быў першы, хто паставіў пытанне аб адраджэнні дзяржаўнасці Беларусі, як і некаторых іншых ускраін Расіі. Незадоўга перад Кастрычнікам ён гаварыў, што пралетарская ўлада падтрымае «неадкладнае аднаўленне поўнай свабоды для Фінляндыі, Украіны, Беларусі, для мусульман і г. д.»[6].*

*У нашым даследаванні, якое прапануецца чытачам, выкладаецца гісторыя Старажытнай Беларусі полацкага і навагародскага перыядаў. Гэта адзін з самых зацемненых часоў нашай мінуўшчыны. У працах і падручніках па гісторыі Беларусі аб ім гаворыцца вельмі бегла, факты яго гісторыі часцей за ўсё толькі называюцца, а некаторыя і зусім замоўчваюцца. Мы таму і паставілі сваёй галоўнай задачай даць дэталёвае асвятленне ўсіх гістарычных падзей гэтага часу, якія данеслі да нас крыніцы. Толькі пры такой умове можна стварыць больш-менш аб'ектыўную карціну тагачаснай рэчаіснасці. Асаблівым прадметам нашага даследавання будзе палітычная гісторыя, якой у нас зусім мала надаецца ўвагі. А менавіта тут найбольш праблем, якія патрабуюць пераасэнсавання. І па-другое, у палітычнай гісторыі найбольш і выяўляецца арыгінальнасць пройдзенага народам шляху.*

*Хоць асноўную тэрыторыю Старажытнай Беларусі ахаплялі Полацкае, Тураўскае, Наваградскае княствы і летапісная Літва, аднак частка яе ўсходу і паўднёвага ўсходу ўваходзіла ў склад Смаленскага і Чарнігаўскага княстваў, гісторыя якіх таксама намі разглядаецца. Беларускія землі на працягу таго ці іншага часу ўваходзілі ў склад Старажытнарускай дзяржавы, і таму намі ўдзелена належная ўвага яе ўтварэнню і гісторыі.*

*Само сабой зразумела, што мы не прэтэндуем на вырашэнне ўсіх пытанняў пачатковай беларускай гісторыі, тым больш канчатковае. У цэлым шэрагу выпадкаў намі толькі ставяцца пытанні, вырашэнне якіх будзе чакаць наступных даследчыкаў. Вялікая адказнасць кладзецца на таго, хто даследуе родную гісторыю. Наколькі ён павінен быць уважлівы да яе своеасаблівасці, не падганяць яе пад іншыя схемы. Колькі ў ёй народнай крыві і поту, і як шмат павінен узважыць гісторык, перш чым сказаць сваё слова.*

## ПАЧЫНАЕЦЦА З ГЕАГРАФІІ

Гісторыя народа пачынаецца з геаграфіі яго краіны. І сапраўды, народ як адметная гістарычная адзінка вырастае на зямлі, якая ў сваю чаргу з'яўляецца адметнай прыроднай адзінкай. Болей таго, геаграфічныя асаблівасці краіны ў вялікай меры даюць кірунак гістарычнай плыні народа, асабліва ў старажытныя часы, калі гісторыя і геаграфія выступаюць у надзвычай шчыльнай сувязі. Вось чаму і паўстае неабходнасць указаць на істотныя рысы тэрыторыі Беларусі як адзінай геаграфічнай суцэльнасці.

Найперш заслугоўвае ўвагі тое, што тэрыторыя Беларусі, размешчаная на захадзе Усходне-Еўрапейскай раўніны, знаходзіцца ў самым геаграфічным цэнтры Еўропы, на водападзеле Чорнага і Балтыйскага мораў. Гэта акалічнасць, як мы ўбачым, мела немалаважнае значэнне ў нашай гісторыі, паколькі такое сярэдзіннае становішча рабіла Беларусь месцам, дзе сустракаліся і ўваходзілі ва ўзаемную варожасць і барацьбу інтарэсы спачатку Поўначы і Поўдня, а пасля — Захаду і Усходу, што не магло не абцяжарыць істотна гістарычнага шляху нашага народа.

Паверхня Беларусі мае своеасаблівы рэльеф. Спадаючы на захад і часткова на поўдзень, яна ў пераважнай большасці пакрыта марэннымі ўзгоркамі і толькі ў Палессі з'яўляецца нізінай, аднак усё ж вышэйшай за ўсе сумежныя заходнія нізіны. Разнароднасць і разнастайнасць краявідаў на самых невялікіх адлегласцях — адметная рыса знешняга вобліку Беларусі. Гэтага няма ні ў аднастайным украінскім стэпе, ні ў прыбалтыйскіх нізінах, ні ў бязмежных прасторах плоскіх узвышшаў Расіі.

Разнастайныя і пераважна больш лёгкія глебы Беларусі таксама істотна розняцца ад глебаў суседніх краін: ад чарназёму Украіны, ад цяжкіх глебаў Літвы і ад халодных глеб Расіі. Расліннасць Беларусі вызначаецца буйнасцю і багаццем. Мяшаныя лясы, травяністыя балоты і робяць Беларусь асобнай расліннай краінай.

Аднак лясы і балоты з'яўляюцца не толькі істотным фактарам нашай прыроды. Не меншае значэнне яны маюць і ў нашай гісторыі. Займаючы вялікія прасторы, яны паасобку ці ў сукупнасці ў вялікай меры вызначылі натуральныя межы Беларусі. І сапраўды, на поўдні яе аддзяляюць лясы і балоты Палесся, на захадзе — лясныя пушчы, на поўначы — лясы, балоты і ў значнай ступені азёры, на ўсходзе — лясы. У той самы час пушчы і балоты ўнутры самой Беларусі, як мы ўбачым, вызначалі паасобныя гістарычныя вобласці ці лакальныя культуры пры агульнай геаграфічнай еднасці.

Вельмі цікава, што Беларусь мае і свае кліматычныя межы. Калі заходні рубеж яе ляжыць на ўскраіне вільготнага клімату захаду, то за яе ўсходняй мяжой рэзка пачынаецца зона кантынентальнага клімату. Сваёй памяркоўнасцю клімат Беларусі адрозніваецца і ад халоднай поўначы і ад цёплага поўдня[7].

Але з усіх геаграфічных фактараў найбольшае значэнне ў нашай гісторыі мелі рэкі. Менавіта яны звязалі ў адзінае цэлае паасобныя часткі Беларусі і вызначылі жыццёвую прастору яе народа. Сапраўды, наша зямля цалкам займае верхнюю частку Падняпроўя і большыя часткі Падзвіння і Панямоння. Вось чаму землі будучай Беларусі і з'явіліся тым месцам, дзе вялікія водныя артэрыі, дзякуючы шматлікім прытокам і волакам, злучаліся паміж сабою ў адзіную рачную сетку, што стала той прыроднай асновай, на якой ткалася наша гісторыя.

Такім чынам, адметнасць нашай гісторыі пачынаецца з прыроднай адметнасці нашай тэрыторыі. Спачатку як геаграфічны, а пасля як этнічны, эканамічны і палітычны комплекс Беларусь склалася ў вельмі даўнія часы. Прычым зраслася яна настолькі трывала, што, нягледзячы на многія стагоддзі разбуральных войнаў і палітычных падзелаў, яна нязменна захоўвала сябе.

## ПЕРШЫЯ НАСЕЛЬНІКІ БЕЛАРУСІ

Чалавек на тэрыторыі Беларусі мог з'явіцца ўжо 300 тысяч гадоў таму назад[8]. Аднак шэраг ледніковых навал не толькі прымушаў яго адступаць на поўдзень, але і сціраў яго сляды тут. Больш-менш сталае пражыванне чалавека на нашай зямлі прасочваецца прыкладна ад 100—40 тысяч гадоў назад, у сярэднім палеаліце, у так званую «мусцьерскую эпоху»[9]. Поўнае ж засяленне Беларусі адбылося ў мезаліце, недзе каля 10 тысяч гадоў таму назад.

Бердыжская і Юравіцкая стаянкі (30—20 тысяч гадоў



*Першая старонка «Аповесці мінулых гадоў»*

да н. э.) сведчаць, што ўжо ў познім палеаліце ўзніклі мясцовыя этнаграфічныя асаблівасці[10]. Адкрытая тэрыторыя Беларусі і наяўнасць вялікіх рэк давалі магчымасць засяленню яе з розных тэрыторый (Украіны, Польшчы, Цэнтральнай Еўропы). Ніводная з гэтых груп мігрантаў не была, відаць, настолькі вялікая, каб засяліць значную тэрыторыю і гэтым самым заняць дамінуючае становішча над іншымі. Гэта і прывяло да ўтварэння паасобных этнічных абласцей, якія, між іншым, вызначаліся выключнай устойлівасцю, бо амаль нязменна існавалі на працягу ўсяго мезаліту і неаліту[11]. На жаль, даіндаеўрапейскае насельніцтва не пакінула нам сваёй гідраніміі, што можа тлумачыцца яго крайняй малалікасцю[12]. Гэта акалічнасць абцяжарвае для нас вызначэнне яго этнічнай прыналежнасці. А. Шахматаў лічыў, што ў басейне Прыпяці на тэрыторыі Мінскай і Гродзенскай губерняў жылі продкі заходніх фінаў, а ў басейне верхняга цячэння Дняпра і Дзясны — продкі мардвы[13]. Сучасная навука дапускае наяўнасць угра-фінаў толькі ў Падзвінні, што пацвярджаецца тапанімікай і антрапалогіяй[14].

Мы прытрымліваемся той думкі, што ніякія перасяленні не маглі поўнасцю змяніць насельніцтва той ці іншай тэрыторыі, што пэўная частка яго захоўвалася і пасля змешвалася з прышлым. Гэта дае нам падставу лічыць у той ці іншай ступені продкамі беларусаў усе плямёны, якія жылі тут у даіндаеўрапейскі перыяд. Аднак толькі адны угра-фіны з'яўляюцца гістарычна вядомымі для нас.

У канцы неаліту і ў пачатку бронзы магутная хваля індаеўрапейцаў, што прыйшла з Сярэдняга Прыдняпроўя, пакрыла сабою этнічна стракатую тэрыторыю Беларусі. З асяроддзя індаеўрапейцаў і выдзеліліся балтыйскія плямёны, ці, як іх называюць у навуцы, балты.

У даследчыкаў няма адзінай думкі наконт часу фармавання балтаў. Адны (В. Тапароў і А. Трубачоў) лічаць, што гэтыя плямёны позна ўступілі на гістарычную арэну (у I — пачатку II тыс. н. э.). Некаторыя гісторыкі (Т. Лер-Сплавінскі) сцвярджаюць, што фармаванню балтаў папярэднічала балта-славянскае адзінства. Аднак у сучасны момант гэта думка ўсё больш бярэцца пад сумненне, і больш пераканаўча даводзіцца аб выдзяленні балтаў з індаеўрапейцаў яшчэ ў III — пачатку II тыс. да н. э. Сапраўды, без гэтага нельга зразумець, як маглі рассяліцца балты на тэрыторыі ад Віслы да верхняй Волгі, тэрыторыі, якая вызначалася да гэтага этнічнай стракатасцю[15]. Перавага ў колькасці, больш прадукцыйная жывёлагадоўча-земляробчая гаспадарка і далі магчымасць балтам асіміляваць ранейшае паляўніча-рыбалоўнае насельніцтва.

Хоць балцкае засяленне тэрыторыі Беларусі магло адбыцца і ў больш ранні час, аднак даступныя навуцы матэрыялы даюць магчымасць разглядаць яго гісторыю тут толькі з VII—VI стст. да н. э.[16].

На жаль, не ўсе балцкія плямёны, што жылі на Беларусі, упомнены пісьмовымі дакументамі, а частка тых, што былі зафіксаваны (літва, земігола, латыгола, яцвягі), засталіся без абазначэння іх месцапражывання. А між тым этнічныя і геаграфічныя назвы вельмі няўстойлівыя, яны могуць змяняцца, пераходзіць з аднаго месца ў другое. Менавіта так і адбылося з назвамі «латыгола» і «літва».

Яшчэ рускі гісторык Барсаў лічыў, што летапісная латыгола («лотьгола») у старажытныя часы жыла намнога далей ад сучаснай Латвіі, уверх па Дзвіне і яе прытоках, г. зн. на поўначы сучаснай Беларусі[17]. Пацверджаннем гэтаму можа быць тое, што на тэрыторыі Бешанковіцкага, Верхнядзвінскага, Віцебскага, Гарадоцкага, Сенненскага, Талачынскага, Чашніцкага, Глыбоцкага раёнаў Віцебскай вобласці сустракаюцца такія назвы, як Латыгаль, Латыгава і ім падобныя. Звяртае ўвагу тое, што ў цэлым арэал пашырэння латыгольскіх тапонімаў супадае з вобласцю бытавання днепра-дзвінскай археалагічнай культуры балтаў[18]. Таму цалкам дапушчальна, што яе носьбітамі былі продкі латыголы. Як і ўсе балцкія назвы, назва «латыгола» з цягам часу прасунулася на захад і замацавалася за ўсходняй часткай Латвіі — Латгаліяй.

Мы ўжо ў свой час паказалі, што трэба адрозніваць Старажытную (летапісную) Літву ад сучаснай і на падставе летапісных, тапанімічных і іншых матэрыялаў паказалі яе месцазнаходжанне ў Верхнім Панямонні, у прасторы паміж Менскам і Навагрудкам з усходу на захад і паміж Маладзечнам і Слонімам з поўначы на поўдзень[19]. Каб не паўтарацца, не будзем зараз прыводзіць факты ў пацверджанне гэтай думкі, а будзем закранаць гэтае пытанне пры разглядзе далейшай нашай гісторыі ў адпаведных месцах.

У суседстве з Літвой, а то і ўперамежку з ёй жыло племя яцвягаў. Паколькі на гэтай тэрыторыі ёсць яцвяжскія гідронімы, а літоўскіх няма, то можна вывесці меркаванне, што яцвягі пасяліліся тут раней, а літва прыйшла сюды пазней і, заняўшы частку іхняй тэрыторыі, увесь час адціскала іх на захад. Як пераканаўча паказаў В. Сядоў, паселішчы яцвягаў былі паміж Нёманам і Вяллёй па рэках Дзітве, Жыжме, Мерачанцы (гэта вобласць называлася Дайновай), а таксама па Свіслачы, Росі, Зэльве, Заходнім Бугу, Нарве, Ясельдзе (уласна Яцвязь)[20]. У гэтых месцах і засталіся археалагічныя помнікі яцвягаў — каменныя магілы.



*Гарадзішча ў вёсцы Камень Лепельскага раёна — помнік балцкай культуры. Першыя стагоддзі нашай эры*

Аналіз геаграфічных назваў прыводзіць да высновы, што адным з балцкіх плямёнаў, якое не называюць пісьмовыя дакументы, было лотва, ці лота. Менавіта гідронімы і айконімы гэтага тыпу (Лотва, Лотаўка, Лотаў, Лотвічы, Латвяны і ім падобныя) раскіданы на пэўнай тэрыторыі, і асабліва на яе ўскраінах, дзе лотва сутыкалася з іншымі плямёнамі. Так, возера і вёска Лотва ў Мядзельскім, в. Латаўшчына ў Мёрскім, в. Лотавая ў Лёзненскім раёнах размешчаны ў суседстве са старажытнай латыголай. Дарэчы, назва апошняй і азначае «лоты канец»[21], г. зн., што яна была размешчана ў канцы лоты, за ёю. Некалькі тапонімаў «Лотва» мы сустра-

каем на правым беразе Дняпра, у Шклоўскім і Магілёўскім раёнах, з чаго можна заключыць, што ўсходняя мяжа лотвы ішла па Дняпры. Лотвіцкія гідронімы і айконімы мы знаходзім і на ўзмежжы са старажытнай Літвой. Гэта: р. Лотва (прыток Тур'і, што ўпадае ў вярхоўе Нёмана), в. Латвяны на ёй (Копыльскі р-н), вв. Вялікая і Малая Лотвы (Ляхавіцкі р-н) і Лотвічы (Баранавіцкі р-н). Такім чынам, лотва займала цэнтр усходняй Беларусі, ад правага берага Дняпра і да вярхоўяў Нёмана, Бярэзіны і Вяллі. У заходняй частцы Беларусі яна, відаць, уключала ў сябе прыкладна тэрыторыі сучасных Докшыцкага, Мядзельскага, Смаргонскага, Ашмянскага, часткі Вілейскага і Пастаўскага раёнаў. Далей племя лотва займала ўсходнюю частку сучаснай Літвы і называлася тут дзявалотвай (дзяволтвай). У Хлебнікаўскім і Пагодзінскім спісах Іпацьеўскага летапісу яна і называецца лотвай[22].

Літва і лотва былі блізкімі адно да другога плямёнамі, што падкрэсліваюць і іх назвы. Нездарма тэрыторыя іх пражывання ў цэлым упісваецца ў арэал пашырэння культуры штрыхаванай керамікі. Магчыма, што іх продкі прыйшлі сюды з Балканаў, дзе мы знаходзім рэкі Літаву і Латарыцу[23], дзе жыло племя латавіцы і дзе яшчэ ў сярэдзіне XIII ст. існавала княства Літва (kenesat Lytwa)[24]. Назва «лотва» пазней перайшла на Латвію, дарэчы, палякі і цяпер латышоў называюць лотвай[25].

У далейшым будзе важным для навукі высветліць, якія балцкія плямёны жылі ва Усходнім Падняпроўі і на поўдні Беларусі, дзе пашыраны былі юхнаўская і мілаградская археалагічныя культуры. Што да поўдня Беларусі, то, паводле думкі некаторых даследчыкаў, сюды балты прыйшлі з Верхняга Падняпроўя толькі ў V ст. н. э., на месца славянаў, якія ў гэты час адышлі адсюль, з сваёй прарадзімы, на Дунай. Адным з пацверджанняў гэтага меркавання можа быць такі факт. У Магілёўскім і Быхаўскім раёнах працякае рэчка Лахва (гэта тыповая балцкая назва). У той жа час аднайменныя тапонімы маюцца ў значнай колькасці на ўсход ад Лунінца[26]. Іх з'яўленне тут можна растлумачыць перасоўваннем насельніцтва ў даўнія часы з ракі Лахвы. Магчыма, што яно і перанесла на сябе назву гэтай ракі, як звычайна было ў старажытнасці. Сведчаннем пераходу верхнедняпроўскага насельніцтва на поўдзень Беларусі і далей можа быць і пашырэнне на гэтых месцах паўночных тыпаў посуду[27].

На працягу першай паловы I тыс. н. э. у грамадскім жыцці балтаў адбываліся выключна важныя змены. У выніку распаду першабытнаабшчыннага ладу меў месца масавы пераход насельніцтва з умацаваных гарадзішчаў у адкрытыя селі-



*Назва возера Чарсцвяды —*
*гідронім старажытнага славянскага паходжання*

шчы. Усё большую ролю ў балтаў набывае сельская абшчына, заснаваная не на кроўна-сваяцкіх, а эканамічных сувязях. Асноўнымі галінамі гаспадаркі іх сталі падсечнае земляробства і жывёлагадоўля, тым часам як рыбалоўства і паляванне мелі ўжо толькі дапаможны характар. Высокага і разнастайнага развіцця дасягнулі рамёствы. Дадзеныя археалогіі сведчаць пра наяўнасць у балтаў такой грамадскай і ваеннай арганізацыі, якая, магчыма, нагадвала саюз плямёнаў.

Змены ў вытворчасці і грамадскіх адносінах не маглі, зразумела, не паўплываць на культуру. І сапраўды, у сярэ-

дзіне I тыс. н. э. на грунце ранейшых лакальных культур (днепра-дзвінскай, юхнаўскай і штрыхованай керамікі) склалася адзіная балцкая культура, якая ў навуцы атрымала назву культуры верхняга пласта Банцараўшчыны і Тушэмлі[28]. Магчыма, усе гэтыя факты, разам узятыя, гавораць за тое, што балты ў V—VI стст. былі напярэдадні ўтварэння сваёй вялікай дзяржавы. I хоць гэты працэс быў перарваны масавым прыходам славянаў, аднак гэта не значыць, што ён знік бясследна. Ён быў працягнуты новымі насельнікамі.

## СЛАВЯНСКАЕ ЗАСЯЛЕННЕ З ПОЎДНЯ

Ёсць падзеі, што вызначаюць сабою гісторыю той ці іншай краіны на вялікі прамежак часу, які можа адлічвацца тысячагоддзямі. Прыход славянскіх плямёнаў на тэрыторыю Беларусі і з'явіўся такім вызначальным момантам. Ім і была заведзена спружына ўсёй нашай далейшай гісторыі.

З'яўленне славянаў на Беларусі стала вынікам апошніх хваляў вялікага перасялення народаў, якімі былі рух готаў (II—III стст. н. э.) і нашэсці гунаў (IV ст. н. э.) і авараў (сярэдзіна VI ст. н. э.).

Пытанне паходжання славянаў — вельмі складанае і заблытанае, пакуль што далёкае ад навуковага вырашэння. Можа быць, галоўная прычына гэтага ў познім з'яўленні пісьмовых сведчанняў пра іх — у сярэдзіне VI ст. н. э. Бясспрэчнымі толькі трэба лічыць паказанні старажытных аўтараў, што «славяне былі мнагалюдным народам» (Іардан), які займаў «непамерную прастору» (Пракопій Кесарыйскі), бо без гэтага нельга растлумачыць, чаму славяне змаглі рассяліцца на вялікай тэрыторыі, асіміляваўшы шматлікія плямёны і народнасці.

Прарадзімай славянаў называліся і называюцца розныя мясцовасці: гэта і Сярэдняе і Ніжняе Падунайе, і Паўночнае Прычарнамор'е, і Паўночнае Прыкарпацце, і нават Закаўказзе і Паўночны Іран. У апошні час найбольш верагоднымі месцамі фармавання славянаў указваюцца Вісла-Одэрскае міжрэчча і паўднёвая частка лясной зоны Усходняй Еўропы (сюды ўваходзіць і поўдзень Беларусі). Цяжка аддаць перавагу якой-небудзь з гэтых апошніх гіпотэз, абедзве яны маюць аднолькавае права на часовае існаванне. Але калі нават і пагадзіцца з тым, што і на Беларусі была прарадзіма славянаў, то ўсё ж аўтары гэтай гіпотэзы гавораць аб поўным адыходзе славянскага насельніцтва адсюль у канцы V — пачатку VI стст. на Дунай[29] і прасоўванні на яго месца балтаў, аб чым ужо гаварылася вышэй. Вось чаму можна лічыць, што

масавы прыход славянаў на Беларусь і іх канчатковае ўкараненне тут пачалося на рубяжы VI—VII стст. н. э.

Трэба зазначыць, што славянскае засяленне Беларусі, як і іншых усходнееўрапейскіх земляў, не было аднаразовай падзеяй: яно расцягнулася на доўгі перыяд, магчыма, на некалькі стагоддзяў. Доўгі час у навуцы існавала думка, што славяне ішлі на Беларусь толькі з поўдня. Але ўжо Я. Карскі заўважыў, што «галоўная маса славянаў, якія склалі беларускае племя, рушыла з поўдня (з Прыпяці і яе прытокаў) і захаду (можа быць, з Зах. Буга і Нарвы) спачатку да Нёмана, а адсюль да Зах. Дзвіны на поўначы і да Дзясны на ўсходзе»[30]. Цяпер пяройдзем да разгляду славянскіх плямёнаў, якія прыйшлі на Беларусь.

ДРЫГАВІЧЫ былі адным з тых плямёнаў, што адыгралі вырашальную ролю ва ўтварэнні беларускага народа. Хоць яны па традыцыі і лічацца племем паўднёвага паходжання, аднак у некаторых сучасных даследчыкаў няма цвёрдай упэўненасці ў гэтым[31], а іншыя нават адносяць іх да плямёнаў заходняга паходжання[32]. Усё ж летапіснае паведамленне пра тое, што дрыгавічы пасяліліся паміж Прыпяццю і Дзвіной, паказвае, што кірунак іх рассялення ішоў з поўдня на поўнач. Не выключана, што дрыгавічы былі патомкамі зарубінецкіх плямёнаў, якія жылі і на поўдні Беларусі і якія некаторыя даследчыкі лічаць за славянскія.

Назву дрыгавічоў старажытны летапісец выводзіў ад «дрыгвы», якая была характэрнай асаблівасцю мясцовасці, дзе яны аселі. Хоць такая думка пра паходжанне гэтай племяннай назвы і цяпер падтрымліваецца некаторымі даследчыкамі, аднак гэты погляд трэба прызнаць устарэлым. Па характары мясцовасці, паводле летапісу, празваны далёка не ўсе ўсходнеславянскія плямёны, а толькі паляне, драўляне і дрыгавічы. Аднак паляне былі і ў Польшчы (адсюль і палякі). Драўляне, ці дзераві, жылі і на левым беразе Эльбы. Тое ж самае ў адносінах дрыгавічоў. Асноўная іх маса, бясспрэчна, пасялілася на Беларусі. Але некаторыя часткі гэтага племя апынуліся ў іншых мясцовасцях, дзе яны мелі тую ж самую назву, хоць там ніякай дрыгвы не было, як, напрыклад, у Македоніі (у ваколіцах г. Сялуна), па звестках паміж 669 і 886 гг., ці ў Фракіі на р. Драгавіц, паміж Салонікамі і Вярэяй. Былі дрыгавічы і ў палабскіх славянаў, пра што сведчаць дрыгавіцкія назвы вёсак, засведчаныя дакументамі 946 і 1150 гг. і пазнейшым часам[33]. Усе гэтыя факты прымушаюць усумніцца ў паходжанні назвы дрыгавічоў, як і палянаў, і драўлянаў, ад характару мясцовасцяў, у якіх яны аселі. Што да назвы дрыгавічоў, то наяўнасць у ёй суфікса «іч» наводзіць на думку аб яе патранімічным характары. Гэта прызна-



*Капыльскае гарадзішча дрыгавічоў*

ваў і У. Завітневіч[34]. І сапраўды, калі б яна была ўтворана ад «дрыгвы», то мела б форму «дрыгаўляне» (па ўзору «паляне» і «драўляне»). Хутчэй за ўсё, мабыць, што назва дрыгавічоў паходзіць ад славянскага імя Дрыгавіт[35], як радзімічы ад Радзіма і вяцічы ад Вяткі. Гэта тым больш верагодна, што ў Канстанціна Парфірароднага і ў «Жыціі Дзмітрыя Салунскага» яны выступаюць як «другувіты», «драгувіты» і «дрогувіты»[36]. Пры «р» быў досыць невыразны галосны гук, які перадаваўся па-рознаму візантыйцамі. Ён па-рознаму мог гучаць і ў славянскім вымаўленні. Як бачым, больш правільнай формай гэтай назвы трэба лічыць «драгавічы». І вельмі шкада, што ў беларускай навуковай літаратуры ўкаранілася яўна няправільная форма «дрыгавічы». Тут дарэчы будзе адзначыць пахвальную спробу Л. Аляксеева ўжываць форму «дроговичи».

Паўднёвая мяжа рассялення дрыгавічоў ішла на поўдзень ад Прыпяці па мяжы былых Менскай і Валынскай губерняў, дзе-нідзе толькі заходзячы яшчэ далей на поўдзень (у міжрэччы Гарыні і Стыры). Тут дрыгавічоў ад драўлянаў аддзяляла досыць шырокая балоцістая прастора[37].

Густынскі летапіс, гаворачы пра дрыгавічоў, зазначыў, што яны рассяліліся паміж Прыпяццю, Дняпром і Дзвіною[38]. І гэтым самым у адрозненне ад іншых летапісаў адзначыў іх усходнюю мяжу. А яна ішла па левым беразе Дняпра на поўнач ад упадзення ў яго Прыпяці.

Вельмі дыскусійнымі ў навуцы былі паўночныя і заходнія рубяжы дрыгавічоў. У летапісе сказана, што дрыгавічы жылі паміж Прыпяццю і Дзвіною, з чаго можна зрабіць вывад, што яны рассяліліся да самай Дзвіны (у далейшым пры разглядзе іншага важнага пытання мы прывядзём яшчэ адно летапіснае сведчанне аб пранікненні дрыгавічоў да Дзвіны).

Калі ўлічыць, што дрыгавіцкая каланізацыя на поўнач ішла па левых прыпяцкіх прытоках Случы, Пцічы і асабліва па Дняпры і яго правых прытоках Бярэзіне і Друці, то гэта ўжо не так і неверагодна. Але археолагі на падставе сваіх матэрыялаў, дарэчы, больш позняга паходжання (X—XI стст.), адмаўляюць гэта сведчанне летапісу і лічаць, што паўночная мяжа дрыгавічоў ішла па лініі Заслаўе — Лагойск — Барысаў — водападзел Бярэзіны і Друці[39]. У свой час У. Завітневіч, палемізуючы з М. Барсавым, даказваў, што мяжа паміж дрыгавічамі і крывічамі ішла па водападзелу Вяллі і Бярэзіны з аднаго боку і Зах. Дзвіны з другога боку[40]. Мы лічым праблему дакладнага размежавання ў старажытнасці крывічоў і дрыгавічоў некалькі штучнай. Справа ў тым, што паміж гэтымі плямёнамі ніколі не існавала стабільнай мяжы, яна ўвесь час мянялася, паколькі яны былі ўвесь час у стане ўзаемапранікнення і абодва засялілі ўсю тэрыторыю Беларусі. І сапраўды, калі крывічы прыйшлі да Прыпяці, то дрыгавічы — да Дзвіны. Е. Раманаў, грунтуючыся на дадзеных мовы, песеннай творчасці і бытавой абраднасці, сцвярджаў, што дрыгавічы дасягнулі Дзвіны, засялілі Дрысенскі павет, прасунуліся на захад, дзе засялілі ўсходнюю частку Дзвінскага павета і паўднёвую — Люцынскага[41]. Цалкам дапушчальна, што наяўнасць тапоніма Дрыгучы (Мёрскі р-н), які можа быць сцягнутай формай назвы «дрыгавічы», пацвярджае думку Е. Раманава пра рух дрыгавічоў з-пад Дрысы на захад (в. Дрыгучы знаходзіцца на правым беразе Дзвіны[42]). Не выключана, што тапонімы Дрэгелі і Дрэгі ў б. Дзвінскім павеце[43] таксама пакінуты дрыгавічамі, гэтак жа як і тапонімы і антрапонімы Драгуны, якія сустракаюцца ў паўночна-заходняй Беларусі[44]. Даследчыкамі адзначалася, што дрыгавічы не пакінулі сваіх тапонімаў[45]. А гэта тлумачыцца, як бачым, тым, што іх шукалі не там, дзе яны былі. А знаходзіліся яны ў раёне Зах. Дзвіны, якая, такім чынам, з'яўлялася паўночнай мяжой іх рассялення, што цалкам стасуецца з наказаннямі летапісу.

Трэба прызнаць слушнай думку ранейшых даследчыкаў М. Барсава, А. Андрыяшава, М. Доўнар-Запольскага і сучаснага М. Грынблата, якія грунтоўна даказалі прыналежнасць дрыгавічам тэрыторыі Берасцейскай зямлі і б. Гродзенскага павета[46]. Навукай выключна дакладна ўстаноўлена, дзе сутыкнуліся рубяжы дрыгавіцкай і польскай (мазавецкай) каланізацый: крайнім мазавецкім горадам была Візна. Можна і цяпер прасачыць лінію ў Бельскім і Беластоцкім паветах, дзе стрэліся дзве славянскія стыхіі: на ўсходнім баку знаходзяцца вв. Слохі, Агароднікі, Клекатава, Крупец, Рогаўка, Клюкава, Верашэйкі, Журобіца, Горнава, Дубрэйкі. Усюды

тут цяпер гавораць па-беларуску[47]. Тое, што тут пры наяўнасці досыць узмоцненай валынскай каланізацыі ўсё ж запанавала беларуская мова, гаворыць за перавагу тут дрыгавіцкай каланізацыі. Адначасова гэта было і вынікам таго, што тут, на заходніх рубяжах, як і ў іншых месцах Беларусі, дрыгавічы ішлі рука ля рукі з крывічамі, што будзе паказана намі далей.

Рассяленні дрыгавічоў на такой вялікай прасторы (Папрыпяцце, Падняпроўе, Панямонне і Пабужжа) мела ў далейшым надзвычай важныя вынікі як для лёсу самога племя, так і для гісторыі ўсёй Беларусі.

ДУЛЕБЫ. З поўдня, правільней — з паўднёвага захаду, выселілася на Беларусь частка дулебаў — аднаго з самых старажытных славянскіх плямёнаў. Паводле А. Шахматава, гэта магло адбыцца ў выніку нашэсця авараў[48]. Можна думаць, што, дайшоўшы да вусця Бярэзіны, частка дулебаў пайшла ўверх па гэтай рацэ і асела ў сярэднім яе цячэнні, на р. Ольсе, пра што сведчаць тут гідронім Дулебка, тапонімы Дулебна (Клічаўскі р-н) і Дулебы (Бярэзінскі р-н) і антрапонім Дулеба[49]. Другая ж частка дулебаў перайшла Дняпро і асела ў Пасожжы (р. Дулепа, прыток Чачоры[50]).

Зазначым, што дулебскія гідронімы могуць гаварыць аб вельмі раннім пранікненні сюды гэтага племя, магчыма, раней за дрыгавічоў. Калі па Бярэзіне нейкая колькасць дулебаў выйшла ў Дзвінскі басейн і дасягнула Пскоўшчыны (в. Дулебы Астраўскага пав.), то з Пасожжа яны прайшлі ў басейн Акі (в. Дулебіна Кашырскага пав. Тульскай губ.[51]).

Відаць, бярэзінская групоўка дулебаў была самая значная на Беларусі. Цікава, што тут менавіта і захаваліся легенды пра іх мінулае. Адна з іх, што легла ў аснову верша К. Каганца «Сцяты камень», апавядае пра адзінаборства дулебскага князя Кумара з варожым князем Гудам[52]. Магчыма, у ёй захаваўся ўспамін пра барацьбу з готамі.

Дарэчы, знаходжанне дулебаў на Бярэзіне робіць беспадстаўным сцверджанне аб познім пранікненні сюды славянаў[53].

ВАЛЫНЯНЕ (велыняне), якія жылі ў вярхоўях Зах. Буга і вытокаў Прыпяці, мелі спрыяльныя ўмовы для пранікнення ў паўднёвую і паўднёва-заходнюю часткі Беларусі. І сапраўды, іх каланізацыя тут набыла значныя памеры. Паасобныя ж высяленні валынянаў былі і ў паўночных раёнах Беларусі (вв. Валынь Глыбоцкага, Валынцы Верхнядзвінскага, Валынцава Горацкага раёнаў). Антрапонім «Валынец» і яму падобныя — вельмі частыя ў Беларусі. І хоць валынскія ўплывы ў нас нідзе не набылі дамінуючага

значэння, усё ж яны пакінулі свае сляды і ў паасобных беларускіх гаворках, і нават у антрапалагічных рысах беларусаў[54].

ДРАЎЛЯНЕ пакінулі толькі паасобныя свае выселкі ля паўднёвых межаў дрыгавічоў.

## СЛАВЯНСКАЕ ЗАСЯЛЕННЕ З ЗАХАДУ

Цяпер пяройдзем да плямёнаў заходняга паходжання. Ёсць падставы думаць, што з захаду славяне пачалі вычляняцца тады, калі яны яшчэ насілі назву венеды (венеты, венды). Інакш цяжка растлумачыць з'яўленне тапонімаў Вендараж і Вендрыж у Магілёўскім р-не.

СЛАВЕНЕ былі тым славянскім племем, якое першае вялікай масай ішло з захаду цераз Беларусь і часткова асела ў ёй. Яшчэ І. Забелін, грунтуючыся на тапаніміцы, на наш погляд, пераканаўча давёў факт прасоўвання славенаў па Нёмане. Сапраўды, наяўнасць на ўсім працягу гэтай ракі і яе правых прытокаў, а таксама прытокаў Верхняга Дняпра і Дзвіны такіх тапонімаў, як Шлаванты, Славянцішкі, Славенск, Славагошч, Славені і ім падобныя, пацвярджае такі вывад. І. Забелін лічыў, што Славенск (зараз вёска ў Валожынскім р-не) і Славагошч (Лагойскі р-н) доўгі час былі важнымі цэнтрамі славенскай каланізацыі[55]. Праўда, П. Шафарык думаў, што тапонімы Славені і ім падобныя былі сведчаннем таго, што ў дагістарычныя часы на тэрыторыі Мінскай, Магілёўскай і Валынскай губ. жылі славене, якія ў VI ст. перасяліліся на Балканы, а іх месца занялі іншыя славянскія плямёны, і таму назвы крывічоў, палачанаў узмацніліся, а імя славенаў зменшылася і засталося толькі за ільменскімі славенамі[56]. М. Грынблат дапускаў, што тапонімы тыпу «Славені» з'явіліся на тэрыторыі крывічоў і дрыгавічоў у выніку паасобных тут пасяленняў славенаў[57]. Але ў першым і другім выпадках не было ўзята пад увагу тое, што гэтыя тапонімі цягнуцца ад вусця Нёмана, ясна ўказваючы, адкуль ішлі славене. І таму мы лічым думку І. Забеліна больш слушнай. Усё гэта прымушае вывесці меркаванне аб славенах як магчымых славянскіх насельніках Беларусі, тым больш што В. Сядоў у апошні час таксама пацвердзіў прыход славенаў, як і крывічоў, з паўночнага захаду[58]. А гэта значыць, што яны маглі ісці толькі цераз Беларусь. На жаль, В. Сядоў нічога не сказаў пра тое, хто ж раней ішоў — крывічы ці славене? Праўда, у адным месцы ён зазначыў пра даўняе пранікненне славенаў на тэрыторыю



*Па даліне ракі Ушачы ішло рассяленне крывічоў*

пскоўскіх крывічоў[59], з чаго можна зрабіць вывад, што ён лічыць крывічоў больш даўнімі насельнікамі за славенаў, прынамсі, у гэтым раёне. З свайго боку, мы мяркуем, што славене, выціснутыя крывічамі, якія прыйшлі пазней, павінны былі адступаць на поўнач, да Ільменя, дзе і стварылі пазней сваё княжанне. Магчыма, з гэтага часу і бярэ пачатак варожасць паміж крывічамі-палачанамі і славенамі-наўгародцамі, якая так выразна выяўлялася ў пазнейшы час.

Але трэба з жалем канстатаваць, што ў пытаннях славянскага засялення Беларусі ўсё яшчэ даводзіцца ў вялікай ступені абыходзіцца здагадкамі. І. Забелін, выклаўшы сваю

гіпотэзу, зазначыў: «Правільныя раскопкі курганаў і гарадзішчаў у тых мясцовасцях, дзе сустракаюцца тапонімы тыпу «Шлаванты», «Славенск», «Славені», маглі б раскрыць многае ў адносінах праверкі гэтага меркавання»[60]. Амаль праз стагоддзе В. Сядоў паўтарае тое ж самае ў адносінах крывіцкіх (калі яны сапраўды крывіцкія і калі яны там ёсць) доўгіх курганоў у Верхнім Панямонні: «На жаль, гэтыя старажытнасці дасюль не падвяргаліся сур'ёзным раскопачным даследаванням»[61]. Усё гэта добра характарызуе, як наша навука топчацца на адным месцы ў вырашэнні важнейшых праблем. Трэба зазначыць, што ў Панямонні захавана нямала таямніц, раскрыццё якіх зможа больш-менш здавальняюча растлумачыць паасобныя моманты нашай гісторыі.

КРЫВІЧЫ побач з дрыгавічамі адыгралі першаступенную ролю ў фармаванні беларускага народа. Яны, бясспрэчна, былі самым шматлікім усходнеславянскім племем. Пра гэта сведчыць тая вялікая прастора, на якой яны рассяляліся, а менавіта: ад Верхняга (а магчыма, і Сярэдняга) Панямоння да Кастрамскога Паволжа, ад Пскоўскага возера да Верхняга Сожа і Дзясны[62].

І па сённяшні дзень ідуць спрэчкі аб тым, ці былі крывічы славянамі. У свой час А. Шлёцар на падставе таго, што ў першым пераліку ўсходнеславянскіх плямёнаў Лаўрэнцьеўскі летапіс не ўпамінае крывічоў, палічыў немагчымым адносіць апошніх да славянаў і прызнаваў іх за латышоў. П. Шафарык абвяргаў гэту думку. У ліку іншага ён заўважыў, што латышы ўсіх усходніх славянаў называюць «крэвамі», г. зн. крывічамі, якія былі іх непасрэднымі суседзямі. Такога, вядома, не адбылося б, калі б крывічы з'яўляліся родзічамі латышоў.

У далейшым даследчыкамі не выказвалася сумненне ў славянскай прыналежнасці крывічоў, аднак у самы апошні час зноў усплыла напаверх думка Шлёцара, і пра іх сказана, што яны былі або ўсходнім балцкім племем, або моцна збалтызаванымі славянамі[63]. Першае наўрад ці можа быць правільным, бо ў тым месцы летапісу, дзе гаворка ідзе пра паганскія звычкі славянскіх плямёнаў, побач з вяцічамі, радзімічамі і севяранамі названы і крывічы[64]. Што да другога, то не толькі крывічы, але і дрыгавічы і радзімічы, пасяліўшыся сярод балтаў і пражыўшы доўгі час у іх асяроддзі, сталі ў пэўнай ступені збалтызаванымі.

Дадзеныя, якія маюцца ў распараджэнні сучаснай гістарычнай навукі, даюць падставу лічыць устарэлай думку аб прыходзе крывічоў з поўдня. Сапраўды, цяжка ўявіць, каб такое магутнае племя магло быць выціснена з поўдня Бела-



*Полацкае гарадзішча*

русі дрыгавічамі, як у свой час лічыў П. Галубоўскі[65] і іншыя даследчыкі, і замацавацца толькі на Дзвіне. Апроч таго, вельмі розняцца археалагічныя культуры крывічоў і славянаў Сярэдняга Падняпроўя. Адрозненне назіраецца і ў моўных асаблівасцях гэтых славянскіх груп[66].

У пачатку 20-х гадоў нашага стагоддзя К. Буга і А. Спіцын выказалі думку аб заходнім паходжанні крывічоў: першы — з Польшчы, другі — з Германіі. У апошні час гэты погляд на рознабаковым навуковым матэрыяле (археалагічным, лінгвістычным і тапанімічным) пацвердзіў В. Сядоў. Праўда, некаторыя даследчыкі яго аспрэчваюць. Аднак такі аргумент, як адсутнасць доўгіх курганоў у Бужска-Вісленскім міжрэччы, не можа быць сур'ёзна ўзяты ў разлік, бо ў апошні час прыналежнасць доўгіх курганоў да крывіцкіх старажытнасцяў бярэцца пад сумненне[67]. Наогул, археалагічныя довады пакуль што яшчэ вельмі спрэчныя і хісткія, каб толькі на іх можна было абаперціся ў навуковай дыскусіі.

Са свайго боку, было ўказана на вобласць пашырэння прозвішчаў з суфіксам «енка» (тыпу «Бандарэнка»), што цягнецца суцэльнай непарыўнай паласой з Сярэдняга Падняпроўя ў Верхняе і ўніз па Заходняй Дзвіне, уключаючы раён Полацка[68]. Гэта быццам бы гаворыць пра дняпроўскае паходжанне крывічоў. Аднак нельга прозвішчамі, якія з'явіліся ў пазнейшы час, абгрунтоўваць з'явы глыбокай старажытнасці.

Гэтак жа як і рух славенаў, так і рух крывічоў добра паказвае тапаніміка. Найперш звернем увагу на наяўнасць



*Заслаўе. Гарадзішча «Замачак»*

крывіцкіх тапонімаў у палабскіх вёсках, што ўпамінаюцца ў граматах каля 1160 і 1320 гг. А некаторыя крывіцкія назвы існавалі яшчэ ў XIX ст.[69]. Трэба звярнуць увагу і на тое, што на польскіх землях таксама рассыпана нямала крывіцкіх тапонімаў. Мы знаходзім іх у былых губернях: Варшаўскай, Люблінскай, Калішскай, Келецкай, Плоцкай, Седлецкай і Петракоўскай[70].

Асабліва шмат крывіцкіх тапонімаў у былой Сувалскай губерні: Крэйвяны, Крэйвае, Крэйва, Кржывулькі, Кржывец, Крэўнішкі, Крэвінскі, Кржыве, Крэйвінцы, Кржыванды і Крэйве[71]. Цалкам магчыма, што апошнімі тапонімамі адзначаны шлях прасоўвання крывічоў на ўсход, у Панямонне. А ў цэлым прыведзеныя тапонімы могуць пацвярджаць думку аб прыходзе гэтага племя праз Нёманска-Бугаўскае міжрэчча.

Нельга таксама абысці факт наяўнасці крывіцкіх тапонімаў у Венгрыі, Галіцыі, на Падоллі і Валыні, у былой Кіеўскай губ.[72]. Крывіцу ў Ровенскім павеце польскі гісторык Нарушэвіч нават лічыў сталіцай крывічоў[73]. Гэтыя факты не даюць магчымасці выключыць руху крывічоў з-пад Карпатаў цераз Падолле, Валынь і Кіеўшчыну ў заходнюю частку Беларускага Палесся, дзе мы знаходзім тапонімы: Крыўляне (Брэсцкі пав.), Крыўляны (Кобрынскі пав.), Крывічы (Пінскі пав.)[74].

Усе ўказаныя тапонімы адхіляюць думку, што крывічамі стала называцца тая група славянаў, якая асімілявала мясцовае іншапляменнае насельніцтва Беларусі[75]. Як бачым, крывічамі яны называліся яшчэ да прыходу на нашу зямлю. Тут дарэчы будзе пагаварыць пра гэту назву. Нядаўна апублікаваны матэрыял, згодна з якім крывічы сваё імя нібыта ўнаследавалі ад сярэдняй дачкі міфічнага славянскага цара Багуміра—Скрэвы і таму першапачаткова называліся скрывічамі (правільней скрэвічамі). У пацверджанне гэтага

прыводзіцца дакумент, згодна з якім рымскі папа ў 834 г. назначыў Ансгарыя сваім легатам да ўсіх паўночных народаў, у тым ліку да славенаў і скрыдэвіндаў. Пад апошнімі, маўляў, і трэба разумець скрывічоў[76]. Хаця і Багумір і Скрэва пэўна ж былі пазней прыдуманы, але ўсё ж нам здаецца, што крывічы спачатку сапраўды называліся скрэвамі. Намі выяўлены тапонімы Скржывін (у 30 км на поўнач ад Познані балоцістая мясцовасць над р. Вартай) і Скрыжывец (Цешынскі пав. у Аўстрыі)[77]. Прычым першы з іх мае форму і Кржэвіны, што ясна ўказвае на яго прыналежнасць да крывіцкіх тапонімаў. Можна думаць, што пачатковае «с» у далейшым магло адпасці пры збегу трох зычных і назва атрымала форму «крэвы», «крывы», «крывічы». У Верхнім Панямонні крывічы, відаць, былі больш вядомы як «крэвы». Сапраўды, нельга лічыць выпадковым канцэнтрацыю ў адным рэгіёне такіх назваў, як Крэва і Закрэўе (Смаргонскі р-н), Крэйванцы (Ашмянскі р-н), Крэвалоск (упамінаецца ў 1657 г. у Ашмянскім павеце)[78], Крэйвішкі (Маляцкая вол. Віленскага пав.), Крэйвы (Янішская вол. таго ж пав.), Крэўны (Шырвінцкая вол. таго ж пав.). Аднак трэба зазначыць, што тут побач бытуюць такія тапонімы, як Крывічы (Няменчынская вол. Віленскага пав. і Беліцкая вол. Лідскага пав.) ці Крыўск (Забрэзская і Крэўская вол. Ашмянскага пав.)[79], але яны адзінкавыя. Нават калі па-польску Кржывін[80], то па-нямецку Крэвін[81]. Па ўсім відаць, што і Вільня спачатку мела назву не Крывіч-горад[82], а Крэва-горад, што і пацвярджае яго літоўская назва Крэвайпіліс[83]. З цягам часу яна перайначылася ў Крывы горад. Зазначым, што падобная назва — Крывагарадзішча — існавала і ля вытокаў Акі, на захад ад г. Кромы[84]. Паказальна, што ў латышскай мове захавалася найбольш старажытная форма назвы крывічоў — крэвы. Ва Усходняй Латвіі (Латгаліі) захавалася значная колькасць адпаведных тапонімаў: у Дзвінскім павеце — 15, у Рэжыцкім — 9, у Люцынскім — 3[85]. Больш таго, крывічы, якія высяліліся далёка на ўсход, нярэдка захоўвалі сваё старажытнае імя (с. Крэва пры вусці ракі Крэўкі ў Корчаўскім пав. Цвярской губ. і с. Крэўе ў Болхаўскім пав. Арлоўскай губ.)[86].

У свой час М. Касторскі і некаторыя іншыя даследчыкі на падставе сведчанняў Адама Брэменскага і Пятра Дусбурга лічылі, што крывічы атрымалі сваю назву ад літоўскага паганскага святара Крэва-Крэвейты, якому яны нібыта ездзілі пакланяцца[87]. А. Кіркор нават сцвярджаў, што першапачатковая назва Вільні — Крывы горад — паходзіць ад імя жраца Крэве, які нібыта жыў у гэтым горадзе[88]. Аднак гістарычная навука ўжо ў канцы мінулага стагоддзя ўзяла пад



*Каменная ліцейная форма. VI—VIII стст.*
*З раскопак г. Віцебска.*
*Гаршчок крывічоў. IX ст. Полацкае гарадзішча.*
*Манета Уладзіміра Святаславіча*

сумненне факт існавання Крэва-Крэвейты. Калі б ён і сапраўды існаваў, то хутчэй трэба было б лічыць, што не ён даў назву цэламу племю, а наадварот, сам быў выхадцам з крэваў-крывічоў, адкуль і магла пайсці назва паганскага сану.

Паводле М. Фасмера, назва «крывічы» нібыта паходзіць ад імя іх роданачальніка Крыва[89]. На жаль, такое імя не зарэгістравана ніводным дакументам. Затое былі імёны Крэў (Кревь) і Крэва (Крева), якія бытавалі яшчэ ў 1565 г. у Маскоўскай Русі і ў 1674 г. у Запарожскім войску[90]. Усе прыведзеныя вышэй факты гавораць за тое, што назва «крывічы» — патранімічная і што яе першапачатковая форма — «крэва».

Вялікая канцэнтрацыя крывіцкіх тапонімаў у Верхнім Панямонні дае пэўную падставу меркаваць, што менавіта тут, на тэрыторыі сучасных Беларусі і Літвы, і было першае сталае прыстанішча крэваў-крывічоў. Ва ўсякім выпадку, толькі зыходзячы з гэтага можна растлумачыць ужыванне пруcкім храністам П. Дусбургам у пачатку XIV ст. назвы «Крывіція».



*Скроневае кольца з гарадзішча Баронікі пад Віцебскам. VI—VIII стст.*

Прускі военачальнік Генрых, робячы ў 1314 г. паход на Літву, перш пайшоў на Крывіцію. Узяўшы Наваградак, ён дарэмна стараўся авалодаць Крывічгорадам, які стаяў на Нёмане[91]. (Магчыма, што на месцы гэтага Крывічгорада зараз знаходзіцца в. Крывічы ў Іўеўскім раёне.) З гэтага запісу П. Дусбурга П. Шафарык зрабіў вывад, што зямля Крывіція знаходзілася на поўнач ад Наваградка, там, дзе ёсць паселішчы Крэва і ім падобныя[92]. Праўда, ён думаў, што гэта назва засталася тут ад полацкіх крывічоў, якую яны ў сябе страцілі. Але, відаць, усё было наадварот. Крывіцкая назва ішла не з Полацка, а з Верхняга Панямоння. І не дзіўна таму, што аж да канца XIX ст. лічылася, што ў Віленскім пав., у паўднёваўсходняй частцы Ашмянскага і на ўсім працягу за правым берагам Дзітвы жылі крывічы[93]. Прыкладна гэта ж самае сцвярджаў і А. Кіркор, прычым ён адрозніваў крывічоў ад беларусаў[94].

Усё гэта не было вучонай выдумкай, бо грунтавалася на ўсведамленні часткі насельніцтва гэтага раёна сваёй этнічнай прыналежнасці: пры перапісе 1859 г. звыш 23 тыс. жыхароў Віленскай губ. назвалі сябе крывічамі, звыш 150 тыс.— беларусамі[95]. Невыпадкова і тое, што Я. Чачот, ураджэнец Верхняга Панямоння, відаць, у згодзе з традыцыямі свайго краю, называў беларусаў крывічамі, а іх мову — крывіцкай[96].

Такая здзіўляючая ўстойлівасць племянной назвы можа





*«Качачкі» —*
*жаночыя ўпрыгожанні крывічоў*

быць растлумачана тым, што менавіта тут найперш і аселі крывічы і тут была Крывіцiя.

Цяжка пакуль сказаць, ці адразу пайшлі крывічы далей, заняўшы Верхняе Панямонне, ці яны тут на пэўны час спыніліся. Але гэта не мае прынцыповага значэння. Важна толькі падкрэсліць, што Верхняе Панямонне — адзін з першых ва Усходняй Еўропе значных асяродкаў славяншчыны, створаны славенамі і асабліва крывічамі, чаму і атрымаў назву Крывіціі. Мы можам толькі прыблізна акрэсліць яе рубяжы. Яна размяшчалася на правабярэжжы Нёмана, прыблізна ад Зах. Бярэзіны да Дзітвы на поўдні і да Вяллі на поўначы (з уключэннем Крэва-горада — Вільні).

З гэтай Крывіціі і ішло ў далейшым рассяленне крывічоў, на што ўказваюць тапонімы Крывічы (Мядзельскі р-н), Крэвінцы і Крывічаны (Докшыцкі р-н) і Крывічы (Глыбоцкі р-н), якія ідуць уздоўж чыгункі Вілейка — Полацк і абрываюцца ў раёне Празарокаў. Відаць, што дарогу ім загара-

дзіла вялікая маса балтаў, а хутчэй за ўсё — дрыгавічы, якія прыйшлі сюды раней з поўдня. Магчыма, гэта прымусіла крывічоў пайсці ў кірунку р. Вялікай і Пскоўскага возера. Шлях іх туды ішоў цераз паўночна-заходнюю ўскраіну Беларусі і ўсходнюю Латвію. Тапонімы Крэўні (Пастаўскі р-н), Крэўнікі (Верхнядзвінскі р-н), указаная раней вялікая група крывіцкіх тапонімаў у Латгаліі могуць засведчыць гэта. Цікава, што апошніх найболей у былым Дзвінскім павеце, у яго заходняй частцы (15), і чым далей на ўсход, тым іх становіцца меней (у Рэжыцкім — 9, у Люцынскім — 3). Гэта зноў-такі пацверджанне таго, што крывічы ў Латгалію ішлі з поўдня і паўднёвага ўсходу і што раён Дзвінска — Рэжыцы — стаў чарговым прыстанішчам крывічоў. Адсюль яны пайшлі ў напрамку Люцына, пераадолеўшы водападзел Зах. Дзвіны і Вялікай (Крывіна і Крывены), пасля выйшлі на р. Кудэб (Крывіна), а адсюль на Пскоўскае возера (Крыўска і Крывовін)[97]. Раён р. Вялікай і Пскоўскага воз. не быў свабодны. Апроч фінскага насельніцтва, тут былі ўжо славене, на што ўказвае першапачатковая назва Ізборска — Славенск[98].

Верагодна, што далейшае суцэльнае прасоўванне крывічоў на поўнач і паўночны ўсход было спынена славенамі, і гэта прымусіла першых павярнуць на поўдзень і асесці на р. Палаце[99].

Узнікненне Полацка на правым беразе Дзвіны — яшчэ адзін доказ таго, што крывічы сюды ішлі з паўночнага боку, а не з Падняпроўя. У пачатку XII ст. ужо забылася, што крывічы ішлі з Панямоння (пачатковы летапіс наогул не ведае гэтага краю і не ўпамінае Нёман), але яшчэ памяталася, што на Палату яны прыйшлі з боку славенаў-наўгародцаў. Гэта, відаць, і было прычынай таго, што летапісец палічыў палачанаў за славенскіх высяленцаў і запісаў: «Словене (пачалі трымаць княжанне.— *М. Е.*) своё в Новегороде, а другое на Полате, иже и Полочане»[100].

Аб крывічах як першых насельніках Полацка ёсць таксама яснае і бясспрэчнае сведчанне летапісу («Перьвии насельници в Полотьске — кривичи»)[101]. Полацк стаў адным з буйнейшых апорных пунктаў крывічоў пасля Крэва і Крэвагорада (Вільні), што дало яму магчымасць стаць у далейшым дзяржаваўтваральным цэнтрам і базай найшырэйшага рассялення крывічоў. Гэта таксама добра было вядома летапісцу. І хоць у пачатку XII ст. ужо шырока ўжываўся тэрмін «палачане», ён (летапісец) тым не менш не забываецца адзначыць, што ад іх «кривичи, еже живут на верх Волги и на верх Двины и на верх Днепра, их же град есть Смоленск и *прочии Полотские власти*»[102]. Падкрэсленыя намі словы,



*Бранзалеткі і шыйныя ланцугі ад грыўны.*
*X ст. Скарб з Полацка.*

якія маюцца толькі ў Цвярскім летапісе, вельмі добра выяўляюць значэнне Полацка як метраполіі для шматлікіх сваіх калоній.

Рассяліўшыся на вярхоўях Нёмана, Дзвіны, Дняпра і Волгі, крывічы трымалі ў сваіх руках вузлы ўсіх галоўных шляхоў Усходняй Еўропы. З аднаго боку, гэта садзейнічала іх яшчэ больш шырокаму рассяленню, а з другога боку, розныя рачныя сістэмы, якія яны занялі, і розныя этнічныя субстраты, якія яны ўвабралі ў сябе, парушылі іх адзінства і племянную сувязь, паставілі іх у розныя этнічныя, эканамічныя і палітычныя ўмовы.

Вельмі верагодна, што шлях СЕВЯРАНАЎ ішоў цераз Беларусь і таксама з захаду. Як славене і крывічы, севяране таксама ішлі па Нёмане, і іх тапонімы раскіданы ў яго басейне: Сеўрука і Сеўрукоўшчына (Лідскі пав.), Сеўрукі (Баранавіцкі р-н), Свярынава (Стаўбцоўскі р-н), Севеляны (Троцкі пав.), Сеўрукі і Сеўруманцы (Віленскі пав.), Сеўрымы (Ашмянскі пав.). З вярхоўяў Нёмана нейкая частка севяранаў пранікла на Случ: Севярынава і Севярыны (Слуцкі пав.). Аднак асноўная маса севяранаў з Панямоння пайшла ў Падзвінне і ў цэлым паўтарыла шлях крывічоў: Севярыны (Ушацкі р-н), Севярынава (Полацкі пав.), Севелі (Рэчыцкі пав.), Север, ці Сівер (возера ў паўночна-ўсходняй частцы Дзвінскага пав.), Северыкі (Люцынскі, Себежскі і Веліжскі пав.)[103]. Севяране таксама праніклі і ў Верхняе Паволжа: Севаналочак і Севальніха (Сычоўскі пав.) і ў Верхняе Падняпроўе: Сеўрукі (Дарагабужскі пав., недалёка ад вытокаў

Дзясны)[104]. Усё гэта ў нейкай меры можа растлумачыць адно месца летапісу. У ім, пасля таго як гаворыцца аб крывічах, сказана: «Та же Север от них» (г. зн. ад крывічоў). Чаму летапісец мог так запісаць? Відаць, таму, што севяране ішлі разам з крывічамі і разам з імі дасягнулі вярхоўяў Дзвіны, Волгі і Дняпра, адкуль яны ўжо адны выйшлі ў сваё сталае прыстанішча на Дзясне, Сейме і Суле. Гэта акалічнасць у пэўнай ступені пацвярджаецца і археалогіяй. Было заўважана, што форма і арнаментацыя роменска-боршчаўскай керамікі, якая звязваецца з летапіснымі севяранамі, мае свае адпаведнасці ў форме і арнаментацыі керамікі Верхняга Падняпроўя. І гэта было ў нейкай ступені загадкай[105]. У святле прыведзеных фактаў гэта становіцца зразумелым. Севяране, пэўны час сядзеўшы ў Верхнім Падняпроўі, успрынялі культурныя ўплывы яго насельніцтва. Цікава, што ў беларускай назве севяранаў — сеўрукі — захаваўся першапачатковы корань назвы — «сеўр».

Указаныя намі вышэй тапонімы добра сведчаць пра тое, што ў розных месцах Беларусі асела значная колькасць севяранаў. Магчыма, што самая значная з іх была на левым беразе Верхняга Нёмана. Невыпадкова ж, што гідронім «Сула» і тапонім «Сноў» былі імі перанесены на іх сталае аселішча ў Падзясенне.

РАДЗІМІЧЫ па велічыні заселенай імі тэрыторыі непараўнальна саступаюць дрыгавічам і крывічам, тым не менш яны побач з апошнімі ўнеслі вялікі ўклад у беларускае народаўтварэнне. Паколькі ў пачатку XII ст., калі складалася «Аповесць мінулых гадоў», яшчэ жыло паданне пра іх прыход «ад ляхаў» і пра паходжанне іх назвы ад імя іх роданачальніка Радзіма, то можна меркаваць, што радзімічы ішлі ў ар'ергардзе славянскага руху і прыйшлі пазней за іншыя славянскія плямёны. У апошні час зроблена спроба паказаць на матэрыяле гідраніміі, што Верхняе Паднястроўе, якое знаходзілася ў бліжэйшым суседстве з ляшскай тэрыторыяй, было тым месцам, адкуль прыйшлі радзімічы ў Пасожжа[106].

Згодна з другой сучаснай гіпотэзай, радзімічы, як і вяцічы, прыйшлі з Павіслення. Гэта было абумоўлена тым, што дунайскія славяне пад націскам авараў, а пасля Візантыі і раманскага насельніцтва павінны былі адступаць на поўнач, у Павісленне, і на паўночны ўсход, у лясную зону Усходняй Еўропы. Славяне, што прыйшлі ў Павісленне, націснулі на ўсход і на захад тых славянаў, якія заставаліся тут. Радзімічы і вяцічы пайшлі на ўсход[107]. А. Шахматаў выказаў думку, што радзімічы, прыйшоўшы ў Пасожжа, націснулі крывічоў і прымусілі іх ісці ў Верхняе Паволжа.

Магчыма таксама, што радзімічы выціснулі севяранаў з Пасожжа на Дзясну, бо тапонімы Сеўрукі (Гомельскі р-н), Северск (Рэчыцкі пав.) і Севярынаўка (Мазырскі пав.) могуць сведчыць аб прабыванні севяранаў у Пасожжы. Відаць, прыход радзімічаў на іх сталае селішча быў далёка не мірны, бо і да гэтага часу захавалася прыказка на Магілёўшчыне: «Каб цябе радзіміч узяў».

Прыходам радзімічаў не вычэрпваецца пытанне славянскага засялення Беларусі. Мы ўжо адзначалі, што апошняе не было аднаразовым актам, яно зацягнулася на некалькі стагоддзяў. Відаць, прыход славянаў быў асабліва працяглы з-за Одры і з Памор'я. Нежаданне гэтых славянаў пакарыцца нямецкай уладзе і хрысціянізацыі прымушала іх пакідаць сваю радзіму і ісці на ўсход, дзе панавала язычніцкая стыхія балцкага і славянскага насельніцтва. На жаль, і пра гэтыя перасяленні мы не маем пісьмовых крыніц і таму найперш карыстаемся тапанімічнымі дадзенымі. Вось, напрыклад, такі факт. На карце Памераніі XVII ст. мы знаходзім паселішча Ракаў [108]. Што выхадцы з гэтага паморскага Ракава заснавалі ў Беларусі Ракаў (зараз Валожынскі р-н), вельмі верагодна: побач з гэтым Ракавам знаходзіцца вёска Паморшчына. Магчыма, што ў гэтую мясцовасць перасялілася і частка племя ратараў, на што ўказвае назва вёскі Ратынцы.

Тапаніміка паказвае і на пасяленні ў нашых старадаўніх землях пянянаў, сітнянаў, ранаў, кашубаў, мазураў, палякаў, чэхаў.

Перш чым закончыць пытанне славянскага засялення Беларусі, неабходна яшчэ спыніцца на пытаннях аб неўрах і волатах.

НЕЎРЫ ўпершыню былі названы Герадотам. Іх краіна Неўрыда быццам бы знаходзілася на поўнач ад скіфаўаратых, у верхнім цячэнні Днястра і Буга. Аднак апошняму супярэчыць паказанне пазнейшага гісторыка Плінія. Паводле яго, вытокі Дняпра знаходзяцца ў краіне неўраў. Невядома, што лічыў гэты аўтар за вытокі Дняпра: сам Дняпро ці Бярэзіну. На думку некаторых даследчыкаў, у старажытныя часы Дняпро называўся Бярэзінай (адсюль і яго грэчаская назва Барысфен). У апошнім выпадку Неўрыду трэба змяшчаць ля вытокаў Бярэзіны. П. Шафарык, Л. Нідэрле, П. Траццякоў адносілі неўраў да продкаў славянаў. Гэтаму асабліва садзейнічала паведамленне Герадота аб чутках, быццам неўры штогод на некалькі дзён ператвараліся ў ваўкоў, а таксама і тое, што яны змянілі сваё месца жыхарства з-за змеяў, якіх шмат развялося там. Вучоныя, як на паралель гэтаму, сталі прыводзіць беларускія паданні

аб ваўкалаках і змеях і сведчанне «Слова аб палку Ігаравым» пра Усяслава Полацкага, што нібыта ён воўкам бегаў. Звярталі ўвагу і на блізкасць імя «неўры» да назваў рэк у басейне Зах. Буга і сумежных тэрыторый, такіх, як Нура, Нурэц, Нурчык і ім падобныя. З аднаго боку, неўры атаясамліваюцца з групай усходне-балтыйскіх плямёнаў[109], а з другога боку, яны адносяцца да кельтаў, пазней, магчыма, асіміляваных балцкім племем эстыеў (аістаў)[110]. Што неўры жылі на тэрыторыі заходняй часткі Беларусі і на ўсходзе сучаснай Літвы, можа сведчыць наяўнасць такіх тапонімаў, як Наўры (Княгінінская вол. Вілейскага пав.), Нераўка (Крэўская вол. Ашмянскага пав.), Нарвелішкі (Трабская вол. Ашмянскага пав.) і асабліва Неўрышкі (Жыжморская вол. Троцкага пав.), гэтак жа сама як і літоўская назва ракі Вяллі — Нерыс. Цяжка сказаць, ці тут быў асноўны масіў неўраў, ці толькі нейкая частка іх, але яны, бясспрэчна, тут жылі і таму не маглі не пакінуць сваіх слядоў у тапаніміцы і фальклоры, на што, як мы бачылі, указвалі даследчыкі. Такім чынам, незалежна ад таго, кім у этнічных адносінах былі неўры — славянамі, балтамі ці кельтамі,— іх мы можам з поўным правам адносіць да ліку нашых продкаў.

ВОЛАТЫ шэрагам даследчыкаў лічыліся першымі насельнікамі Беларусі. І гэта, на першы погляд, мела пад сабой сур'ёзную падставу. Сапраўды, у многіх месцах Беларусі і сумежных з ёй раёнаў мноства айконімаў і паасобныя гідронімы звязаны з волатамі (да таго ж курганы называюць валатоўкамі, у якіх, паводле паданняў, пахаваны волаты, нашы продкі, прычым волаты разумеюцца не як асобныя адзінкі, а як цэлы народ). Такой думкі прытрымліваліся П. Шафарык, Ф. Буслаеў, А. Спіцын. Першы з іх выклаў тэорыю, што волаты азначалі народ велетаў, якія, у сваю чаргу, атаясамліваліся з славянскім племем люцічаў, што адначасова называліся ваўкамі. Зазначым, што геаграфічная наменклатура Беларусі і Расіі ведае вялікую колькасць гідронімаў і айконімаў, якія вядуць сваё паходжанне і ад велетаў і волатаў, і ад люцічаў і ваўкоў (ваўчкоў), і таму па іх цяжка меркаваць, ці гэта розныя плямёны, ці гэта розныя назвы аднаго племя.

Аднак атаясамленне велетаў-волатаў з люцічамі-ваўкамі вельмі праблематычнае, як адзначыў у свой час А. Ясінскі. Ён слушна заўважыў, што велеты, упершыню названыя Пталамеем як вельты і паказаныя ім у вусці Нёмана, хутчэй за ўсё былі балтамі з рэшткамі кельтаў і што не было славянскага народа, які называў бы сябе велетамі [111]. Паколькі велеты былі балтамі і жылі ў вусці Нёмана, то можна дапусціць, што яны былі захоплены ў каланізацыйным руху

крывічоў і разам з імі ішлі ў глыб сённяшніх беларускіх і рускіх земляў. Нездарма ж там, дзе існуюць крывіцкія тапонімы, ёсць і велетаўскія, як, напрыклад, у Лемяшоўскай вол. Пінскага пав., у Старобінскай вол. Слуцкага пав. і ў Красналуцкай вол. Барысаўскага пав., дзе побач з назвамі Крывічы і Крыўкі мы знаходзім назвы Вяляцічы і Волатава. Не выключана і тое, што крывічоў, якія змяшаліся з велетамі-волатамі ў суседніх абласцях, куды яны сталі пранікаць, таксама называлі волатамі. Гэтым, відаць, трэба тлумачыць і наяўнасць тапонімаў ад назвы «волат» у Наўгародскай, Цвярской, Уладзімірскай, Маскоўскай, Тульскай і іншых былых губернях, куды пранікала крывіцкая каланізацыя. Праўда, А. Ясінскі адмаўляў існаванне волатаў як народа, лічыў іх міфалагічнымі істотамі, у якіх увасоблена народнае ўяўленне пра веліканаў, што некалі засялялі зямлю. Аднак гэта не здымае пытання аб існаванні волатаў як народа.

Добра вядома, што і ў іншых народаў назвы гігантаў маюць этнічнае паходжанне: у рускіх «исполин» ад спален (назва народа), у палякаў ад обраў, у немцаў магіла веліканаў называецца магілай гуна і г. д. Трэба думаць, што і волаты ў беларусаў не складаюць выключэння. Абазначэнне імі магутнага чалавека, асілка паходзіць таксама ад назвы народа — волатаў.

Такім чынам, адносіць волатаў да славянаў пакуль што няма сур'ёзных падстаў. Болей за ўсё верагодна, што балцкае племя велетаў, захопленае крывічамі ў іх руху на ўсход, рассялілася разам з імі, а пасля, аславяніўшыся, стала вядомым пад назвай велетаў-волатаў.

Усё гэта патрабуе далейшага даследавання, у выніку чаго можа быць раскрыта адна з важнейшых таямніц нашай старажытнасці.

Такім чынам, можна меркаваць, што тэрыторыя Беларусі была месцам выключна інтэнсіўнага славянскага засялення і рассялення. Тут праходзілі і скрыжоўваліся шматлікія славянскія дарогі. Апроч дрыгавічоў, крывічоў і радзімічаў, якія склалі асноўны масіў славянства на Беларусі, тут прайшлі або часткова аселі дулебы, славене, драўляне, севяране, а таксама многія высяленцы з паморскіх славянскіх земляў.



*Валатоўкі на беразе возера Доўжыца — славянскія пахаванні X—XI стагоддзяў*

# ПЛЕМЯННЫЯ САЮЗЫ І «КНЯЖАННІ»

Што ж сабой уяўлялі славянскія плямёны, у тым ліку дрыгавічы, крывічы і радзімічы? Розныя даследчыкі па-рознаму глядзелі на іх. Адны лічылі іх устойлівымі этнічнымі ўтварэннямі, другія бачылі ў іх слаба звязаныя між сабою паасобныя групы і нават сем'і, якія не мелі сталых межаў, увесь час рассяляючыся. Аднак, на наш погляд, нельга адной меркай мераць усе плямёны, не ўлічваючы канкрэтных умоў рассялення кожнага з іх. Што характэрна было для аднаго племя, таго не было ў іншага і наадварот. Сапраўды, хіба можна ставіць знак роўнасці паміж радзімічамі з аднаго боку і дрыгавічамі і крывічамі з другога боку. Калі радзімічы з прычыны іх малалікасці занялі строга акрэсленую тэрыторыю — Пасожжа, то дрыгавічы і крывічы ўвесь час рассяляліся, мяняючы свае межы і пашыраючы сваю тэрыторыю. Паводле тых рачных сістэм, якія яны занялі, мы адрозніваем прыпяцкіх (карэнная іх тэрыторыя), бярэзінска-друцкіх, нёманскіх і дзвінскіх дрыгавічоў. Крывічоў па тым жа прынцыпе мы дзелім на нёманскіх, дзвінскіх, дняпроўскіх, пскоўскіх (па р. Вялікай іх некаторыя сучасныя даследчыкі адмаўляюць) і волжскіх.

І не толькі ў геаграфічным, але і ў этнічным плане славянскія плямёны не былі адзіныя, прынамсі, у пачатку іх гісторыі. Дрыгавічам, крывічам і радзімічам, магчыма, на новым месцы спатрэбілася весці барацьбу з іншымі славянскімі плямёнамі ці родамі, якія для нас засталіся невядомымі, за сваё дамінуючае становішча, бо тое, што летапіс называе племем, сучасная гістарычная навука лічыць саюзам плямёнаў. Гэта пацвярджае і археалогія. Г. Ф. Салаўёва ўстанавіла на тэрыторыі дрыгавічоў два тыпы славянскіх пахаванняў, у заходніх (г. зн. беларускіх) крывічоў — тры, а ў радзімічаў нават восем.

Адносна дрыгавічоў і крывічоў летапіс сведчыць, што ў іх, як і ў палянаў, драўлянаў і славенаў, былі свае «княжанні». Можна думаць, што мелася сваё княжанне і ў радзімічаў, бо без сур'ёзнай іх арганізацыі не было б патрэбы ў 984 г. ваеннай сілай падначальваць іх уладзе Кіева. Разам з сваёй палітычнай самастойнасцю радзімічы, відаць, былі пазбаўлены і свайго «княжання», і памяць аб ім да пачатку XII ст., калі складаўся летапіс, страцілася. Праўда, гэта не прывяло радзімічаў да страты свайго этнічнага вобліку. Жывучы пасля ў розных палітычных сістэмах, яны захавалі сваю еднасць і сувязь з усёй тэрыторыяй сённяшняй Беларусі і ўвайшлі ў яе склад.

Летапісная інфармацыя аб «княжаннях» вельмі скупая, і таму цяжка выказаць пра іх пэўную думку. Можна меркаваць, што дрыгавічы яшчэ да перасялення на Беларусь мелі сваё «княжанне», бо пад 685 г. у македонскіх дрыгавічоў, якія, відаць, з'яўляліся супляменнікамі нашых, упамінаюцца князі [112]. Не выключана, што такія «княжанні», а разам з імі і князі былі да перасялення і ў крывічоў і радзімічаў, бо без гэтага ім наўрад ці ўдалося б заняць дамінуючае становішча і сярод балтаў і сярод іншых славянскіх родаў. Што да радзімічаў, то летапіс называе Радзіма, на чале з якім яны і прыйшлі на Сож. Магчыма, што ён і быў іх князем.

Летапісныя «княжанні» дрыгавічоў і крывічоў былі самастойнымі племяннымі адзінкамі, у аснове якіх ляжала родавая абшчына і якія кіраваліся князем, цалкам залежным ад веча. У сучаснай гістарычнай навуцы ўсё болей умацоўваецца перакананне, што племянныя «княжанні» былі зародкавай формай дзяржаўнасці[113]. І з гэтым трэба пагадзіцца, хоць у той час яшчэ не было класавага грамадства. Дзяржаўная арганізацыя ўзнікае найперш як вынік ускладнення грамадскага жыцця (асабліва з прычыны росту насельніцтва) і неабходнасці яго рэгулявання. У развіцці грамадства наступае такі момант, калі ўжо ўменне і аўтарытэту родавага ці племяннога старэйшыны недастаткова для забеспячэння грамадскага парадку і паступова вырастае неабходнасць мець асобных людзей, якім даручаецца адказнасць за паасобныя бакі грамадскага жыцця. Так узнікае дзяржаўны апарат. Толькі пасля ўжо ён выкарыстоўваецца больш моцнымі элементамі грамадства ў сваіх інтарэсах. А з гэтым самым узнікае яго класавая сутнасць.

## СЛАВЯНЕ І БАЛТЫ

Само сабой зразумела, што масавы і неаднаразовы прыліў славянаў на тэрыторыю балтаў не мог не прывесці да своеасаблівай этнічнай рэвалюцыі. Менавіта з часу прыходу славянаў на тэрыторыю Беларусі і пачатку іх сумеснага жыцця з балтамі і пачынаецца самазараджэнне беларускага народа і яго самаразвіццё.

У сучаснай гістарычнай навуцы дамінуе думка, што ўзаемаадносіны славянаў з карэннымі насельнікамі былі ў асноўным мірныя[114]. Але адначасова чуюцца галасы пакончыць з саладжавай ідэалізацыяй працэсу славянскай каланізацыі балцкіх і фіна-угорскіх земляў, які нібыта працякаў

у выглядзе павольнай мірнай інфільтрацыі славянаў на пустуючыя ўчасткі ўладанняў сваіх суседзяў. Славяне, гаворацць гэтыя даследчыкі, нічым не адрозніваліся ад іншых народаў, якія шляхам заваяванняў пашыралі сваю тэрыторыю[115]. І гэта не беспадстаўна. Устаноўлена, што на рубяжы VII—VIII стст. большасць умацаванняў балцкага насельніцтва банцараўска-тушэмленскай культуры загінула ў выніку пажараў[116]. Гэта вельмі красамоўны факт, і ён, бясспрэчна, звязаны з гвалтоўнымі дзеяннямі. У археолагаў няма адзінай думкі наконт існавання ваенна-палітычнай арганізацыі балтаў. Адны з іх адмаўляюць яе[117], другія сцвярджаюць, што яна існавала на ўзроўні саюзу плямёнаў і магла захоўваць бяспеку асобных абшчынаў[118]. Супраціўленне балтаў новым прышэльцам, відаць, і прывяло да гібелі балцкіх умацаванняў.

Тое, што балцкае насельніцтва ў асноўным працягвала жыць на старых месцах, таксама не можа быць сведчаннем мірных адносін яго да славянаў. Як мы ўжо ўпэўніліся, славяне ішлі з розных бакоў, асабліва з поўдня, паўднёвага захаду і захаду, і балтам, па сутнасці, не было куды ўцякаць. Хоць, вядома, нельга і поўнасцю адмаўляць перамяшчэнне іх у паасобных месцах. Магчыма, што ў Волга-Окскае міжрэчча балты праніклі ў выніку славянскага націску з поўдня і захаду. Толькі пасля ўжо, калі было зламана супраціўленне балтаў і калі яны былі з усіх бакоў акружаны славянамі, маглі ўстанавіцца больш-менш мірныя адносіны паміж прышэльцамі і мясцовымі жыхарамі.

Дарэчы тут будзе заўважыць, што спробы шэрагу даследчыкаў устанавіць пэўныя скразныя межы паміж балцкім і славянскім насельніцтвам у той ці іншы час з'яўляюцца марнымі, бо як славяне, так і балты былі размешчаны адны каля адных астравамі. І наогул нельга ўяўляць славянскую асіміляцыю балтаў прасталінейным працэсам. У літаратуры зусім слушна ўказвалася, што «асімілёўвалі не толькі славяне балтаў, але і ў шэрагу выпадкаў славяне былі асіміляваны балтамі»[119]. Толькі ў канчатковым выніку перамагла славянская стыхія.

Славянска-балцкае сумеснае жыццё мела надзвычай важныя гістарычныя вынікі. Як сведчыць археалогія, істотнай розніцы ва ўзроўні сацыяльна-эканамічнага развіцця славянаў і балтаў не было[120]. Як у адных, так і ў другіх земляробства і жывёлагадоўля з'яўляліся галоўнымі занняткамі, як адны, так і другія ўступалі ў стадыю разлажэння родавага ладу. Усё гэта, вядома, не магло не садзейнічаць арганічнаму зрашчэнню славянскага і балцкага насельніцтва ў адзіны сацыяльна-эканамічны комплекс.

Немалаважнае значэнне ў паскарэнні гэтага працэсу мела і аднолькавасць рэлігійных вераванняў. Як славяне, так і балты былі язычнікамі. Не выключана, што славяне, апынуўшыся сярод балтаў, маглі аказацца пад моцным уплывам язычніцтва абарыгенаў і шмат чаго запазычыць у іх. Аднолькавая рэлігія спрыяла і этнічнаму збліжэнню славянаў з балтамі.

Факты паказваюць, што ніяк нельга зменшваць ролі балцкага субстрату ва ўтварэнні беларускага народа. На нашу думку, бессэнсоўна падзяляць усходнеславянскія плямёны ў час іх рассялення на велікарускія, украінскія і беларускія, як гэта ў свой час рабілі А. А. Шахматаў і А. А. Спіцын. Так, напрыклад, яны да велікарускіх плямёнаў побач з наўгародцамі-славенамі адносілі ўсіх крывічоў, а да беларускіх (Шахматаў) — дрыгавічоў, радзімічаў і вяцічаў, Спіцын — радзімічаў і вяцічаў[121]. Аднак гэта схема супярэчыла сапраўднасці, і Спіцын заўважыў, што там, дзе археолагі выявілі пашырэнне крывіцкіх (полацкіх і смаленскіх) курганоў XI ст., у сучасны момант жывуць не велікарусы, а беларусы. І ён у роспачы адзначыў, што не бачыць выхаду з гэтай дылемы[122]. І ўсё ж выхад трэба шукаць. Справа ў тым, што славянскія плямёны сталі велікарускімі, украінскімі і беларускімі не да перасялення ва Усходнюю Еўропу, а пасля яго і ў залежнасці ад таго, на якой тэрыторыі яны пасяліліся і з якім карэнным насельніцтвам уступілі ў сумеснае жыццё. Вяцічы, як і радзімічы, з якімі яны былі, відаць, вельмі блізкія, маглі стаць беларускім племем, калі б яны таксама пасяліліся на балцкай тэрыторыі. Аднак гэтага не адбылося, яны аселі на угра-фінскім субстрацe і таму ўвайшлі ў склад велікарусаў. У свой час П. Галубоўскі (ён быў першы, хто звярнуў увагу на значэнне балтаў ва ўтварэнні беларускага народа і мовы) выдатна праілюстраваў значэнне субстрату на лёсе крывічоў. Тая частка іх, якая пасялілася ў верхнім Паволжы, не ўвайшла ў склад беларусаў і гаворыць на велікарускай мове. Прычына таму — гэтыя крывічы, у адрозненне ад сваіх заходніх супляменнікаў, аселі не на балцкай тэрыторыі, а на фіна-угорскай і таму сталі не беларусамі, а велікарусамі. Іншы субстрат — іншы народ[123].

На значэнне балтаў у фармаванні беларусаў указвалі ў сваіх працах А. Качубінскі, А. Пагодзін, К. Буга, М. Фасмер. Зараз гэтае пытанне ў цэлым вырашана, яно пацверджана археалагічнымі, тапанімічнымі, этнаграфічнымі, антрапалагічнымі і лінгвістычнымі матэрыяламі, знайшло сваё найбольш поўнае выяўленне ў кнізе В. Сядова «Славяне Верхнего Поднепровья і Подвинья». З шматлікіх

змешчаных у ёй прыкладаў прывядзём адзін характэрны факт. Даследчык паказаў, як дрыгавічы, прасоўваючыся на поўнач, у глыбіню балцкай тэрыторыі, і асімілёўваючы балцкае насельніцтва, у той жа час самі засвойвалі паасобныя яго асаблівасці, пра што сведчаць іх пахаванні з усходняй арыентацыяй ці наяўнасць зольна-вугальнай праслойкі ў іх курганах[124].

Але, падкрэсліваючы значэнне балцкага элемента ў фармаванні беларусаў, мы адначасова не павінны і пераацэньваць яго, бо беларусы хутчэй за ўсё з'яўляюцца не збалтызаванымі славянамі, а аславяненымі балтамі. У гэтых адносінах асабліва каштоўныя сведчанні антрапалогіі, якія паказваюць, што роля балцкага субстрату ў этнагенезе беларусаў меншая, чым, напрыклад, угра-фінаў у этнагенезе велікарусаў[125]. Здзіўляе таксама і малая колькасць балтыйскіх запазычанняў у беларускай мове, хоць, на першы погляд, іх павінна б быць значна болей[126], асабліва ўлічваючы вялікую колькасць балцкіх гідронімаў у Беларусі. І гэта не дзіўна. Як мы ўжо бачылі, Беларусь у сілу яе геаграфічнага становішча была месцам, дзе асабліва канцэнтраваўся славянскі элемент, і таму ён мог значна пераважаць і перамагаць балцкі. Нельга забывацца і пра слабую заселенасць паасобных месц у балцкую эпоху. Так, землі на поўдзень ад Менска, міжрэчча Вяллі і Гайны і інш. амаль поўнасцю пуставалі, мала было паселішчаў на поўдзень ад Полацка[127]. Зразумела, што славяне, якія ў значнай колькасці засялялі гэтыя мясцовасці, толькі ў малой меры маглі ўбіраць балцкія рысы.

Нельга пагадзіцца з тымі даследчыкамі, якія сцвярджаюць, што асіміляцыя балтаў закончылася ў XII—XIII стст. Яна ішла на працягу ўсёй далейшай нашай гісторыі, ужо тады, калі сфармаваўся беларускі народ, і нават мела месца ў зусім нядаўнім мінулым, ужо ў нашым стагоддзі[128].

## КРЫВІЦКА-ДРЫГАВІЦКІЯ ЎЗАЕМААДНОСІНЫ І ЎЗВЫШЭННЕ ПОЛАЦКА

Яшчэ большае значэнне ў складванні беларускага народа мелі ўзаемаадносіны славянскіх плямёнаў. Дрыгавіцкае і крывіцкае племянныя «княжанні» належалі да ліку тых, якія не распаліся і не зніклі, а паступова перараслі ў палітычныя ўтварэнні і атрымалі назву Тураўскага і Полацкага княстваў па сваіх цэнтрах. Гэта было найважнейшым гістарычным працэсам на беларускіх землях ад пачатку іх славян-

скага засялення і да сярэдзіны IX ст. Аднак працякаў ён не ўсюды аднолькава, што было абумоўлена рознымі прычынамі, і найперш характарам рассялення дрыгавічоў і крывічоў. Дрыгавічы, як мы ведаем, занялі вялікую прастору ад Прыпяці да Дзвіны. Тое, што яны змаглі пранікнуць так далёка, можа сведчыць аб раннім, магчыма, яшчэ на рубяжы нашай эры[129], з'яўленні гэтага племя (правільней, яго продкаў) на тэрыторыі Беларусі, у прыватнасці на яе поўдні. Пасяліўшыся сярод балотаў і пушчаў, дрыгавічы, натуральна, пачалі траціць адзінства і распадацца на асобныя галіны. Выключна важным па гістарычных выніках быў лёс іх падзвінскай часткі, самай аддаленай ад іх прыпяцкай метраполіі і таму менш звязанай з апошняй. Менавіта ў непасрэднай блізкасці ад яе дзесьці ў пачатку VIII ст.[130] узнік пры ўпадзенні ракі Палаты ў Зах. Дзвіну самы моцны на той час цэнтр крывічоў Полацк. Ёсць думка, што назва Палаты паходзіць ад балцкага слова «палтэ», ці «палтс», што азначае «лужына»[131]. Месца заснавання Полацка з'яўлялася выключна выгодным. Дзвіна, паблізу якой ён размясціўся, была часткай таго шляху, па якім ішоў міжнародны гандаль Хазарыі і Арабскага халіфата з усходнеславянскімі плямёнамі і з скандынаўскімі краінамі[132], што, вядома, не магло не спрыяць эканамічнаму росту Полацка і ператварэнню яго напачатку, магчыма, толькі з месца збору вечавых сходаў, пасля ўмацаванага паселішча — «града» ў сапраўдны горад, г. зн. у цэнтр гандлю і рамёстваў. Такім чынам, Зах. Дзвіна, стаўшы першай жыццёвай артэрыяй Полацка, вызначыла і кірунак яго гістарычнай плыні, і першапачатковую вобласць яго жыццёвых інтарэсаў, а разам з гэтым і яго асобнасць. Цалкам зразумела, што вакол такога моцнага асяродку крывічоў не магло не складвацца асобнае «княжанне». Яно ў самым пачатку было таксама племянным (успомнім, што летапіс называе першых насельнікаў Полацка крывічамі).

Але Полацк, як яскрава пасведчыў летапіс, быў і цэнтрам крывіцкага рассялення «наверх Дзвіны, Дняпра і Волгі». Таму, зразумела, прыйшоўшы спачатку на правы бераг Дзвіны, яны пачалі пераходзіць і на яе левы бераг. Як паказвае археалогія, асабліва інтэнсіўны быў рух крывічоў на поўдзень ва ульска-ўшацкім міжрэччы, а таксама па Бярэзіне[133]. А гэта мела сваім вынікам тое, што крывічы пачалі мяшацца з прыдзвінскімі дрыгавічамі, якія, аддаліўшыся ад свайго племяннога цэнтра ў Папрыпяцці, у сваю чаргу сталі прымыкаць да Полацка.

Паміж даследчыкамі даўно вядуцца спрэчкі наконт таго, хто такія палачане. Справа ў тым, што ўжо першапачатковы

летапіс зрабіў гэта пытанне праблематычным. Сапраўды, у пераліку ўсходнеславянскіх плямёнаў, які быў зроблены двойчы, названы палачане, у той час як крывічы ў ім не ўпомнены. Аднак у паведамленнях аб пазнейшых падзеях, такіх, як «прызванне» варажскіх князёў, паход Алега ў 882 г. на Кіеў і ў 907 г. на Візантыю і інш.,— усюды ўпамінаюцца крывічы і адсутнічаюць палачане, хоць полацкія крывічы і прымалі ўдзел ва ўсіх гэтых падзеях. І ў давяршэнне ў летапісе непасрэдна сказана, што ад палачанаў «крывічы, якія сядзяць на вярхоўях Дзвіны, Волгі і Дняпра». Дык хто ж такія палачане і ў якіх яны адносінах знаходзіліся да крывічоў? Хто ад каго паходзіць: крывічы — ад палачанаў ці — палачане ад крывічоў? Адказы на гэтыя пытанні былі розныя. Адны катэгарычна прымалі палачанаў за асобнае ўсходнеславянскае племя (А. П'янкоў), другія лічылі іх «малым племем», што было ядром «вялікага племя», якім з'яўляўся палачанскі саюз плямёнаў (Г. Лаўмяньскі), паводле трэціх, палачане — гэта крывічы, што асімілявалі балтаў і адначасова самі ўвабралі некаторыя рысы асіміляваных плямёнаў (Л. Аляксееў). Былі выказаны і іншыя меркаванні, якія мы адзначым пасля. Хоць некаторыя з гэтых думак, як, напрыклад, Л. Аляксеева, у некаторай ступені слушныя, аднак усе яны абміналі галоўную сутнасць палачанаў як прынцыпова новай гістарычнай з'явы. А прычына гэтаму — ігнараванне летапіснага паведамлення аб рассяленні дрыгавічоў да Дзвіны. Таму мы яшчэ раз падкрэсліваем негрунтоўнасць гэтай папраўкі да летапісу. Асабліва здзіўляе тое, што археолагамі выключаецца поўнасцю магчымасць мяшання крывіцкага і дрыгавіцкага насельніцтва, прынамсі, у цэнтральнай, як пісаў Л. Аляксееў, частцы Беларусі. Маўляў, «у XI ст. стыхійнае прасоўванне крывічоў спынілася: яны ўвайшлі ў сутыкненне з дрыгавічамі, якія засялілі землі на поўдзень ад Менска, Барысава і Друцка»[134]. Пры гэтым сцвярджаецца, што дрыгавічы толькі ў XI—XII стст. рассяліліся да лініі Заслаўе — Менск — Барысаў — Орша, а крывічы падышлі да гэтага рубяжа ў X—XI стст.[135], хоць далей указваецца, што палачане, якія лічацца галіной крывічоў, дайшлі дасюль толькі к XV ст.[136]. Усё гэта, вядома, не можа не выклікаць недаверу.

Свае вывады археолагі абгрунтоўваюць характарам пахавальных абрадаў і такімі рэчамі, як скроневыя колцы і пацеркі. Вядома, гэтага ігнараваць нельга, але і нельга толькі на гэтым матэрыяле, вельмі абмежаваным, вырашаць складаныя праблемы этнічнай прыналежнасці.

Асабліва супярэчаць вывадам археолагаў аб мяжы рассялення дрыгавічоў дадзеныя мовазнаўства, этнаграфіі і

фальклору. Е. Раманаў, грунтуючыся на дадзеных мовы, песеннай творчасці і бытавой абраднасці, прыйшоў да вываду, што «можна з большай праўдападобнасцю лічыць, што дрыгавічы дасягнулі Зах. Дзвіны, засялілі Дрысенскі павет, прасунуліся на захад, дзе засялілі ўсходнюю частку Дзвінскага павета і паўднёвую Люцынскага»[137]. Дрыгавічы праніклі да Заходняй Дзвіны найперш у раёне Полацка, таму што яны спачатку рухаліся па Дняпры і Бярэзіне[138], а з апошняй пераходзілі на Улу і Ушачу. У. Пічэта таксама лічыў, што паўночная мяжа дрыгавіцкіх паселішчаў праходзіла недалёка на паўночны захад ад Полацка[139]. Дрыгавіцкія моўныя рысы на поўначы Беларусі адзначаў П. Растаргуеў[140]. Фальклорна-этнаграфічныя матэрыялы, сабраныя С. П. Сахаравым сярод беларусаў Латгаліі, таксама яскрава выяўляюць у іх мове і культуры спалучэнне крывіцкіх і дрыгавіцкіх элементаў[141]. М. Я. Грынблат паказаў на пашырэнне далёка на поўнач дрыгавіцкай матэрыяльнай культуры, у прыватнасці палескай сахі[142]. Ён жа ўказаў на характэрны для палачанаў каравайны рытуал абраднасці, які распаўсюджаны на ўсёй дрыгавіцкай тэрыторыі[143]. Усё гэта побач з моўнымі з'явамі, як цвёрдае «р», аканне, фрыкатыўнае «г», пераход «в» у «ў», магло перайсці да палачанаў не сумежнымі кантактамі двух плямёнаў, а толькі ў выніку сталага пражывання дрыгавічоў на гэтай тэрыторыі і мяшання дрыгавіцкага і крывіцкага насельніцтва.

Вельмі шкода, што даследчыкі не звярнулі ўвагу на непасрэднае сведчанне пра ўтварэнне палачанаў, якое маецца ў адным з летапісных варыянтаў і данесена да нас тацішчаўскімі матэрыяламі: «Инии (маюцца на ўвазе плямёны.— *М. Е.*) сели меж Припятью и Двиною, нарекшися кривичи и дреговичи на Двине, а потом и назвалися полочане от реки текусчей в Двину Полоты»[144]. Гісторык І. Бяляеў сцвярджаў, што ў выніку мяшання дрыгавічоў і палачанаў (гэтых апошніх ён лічыў першапачатковым племем) утварыліся крывічы[145]. Але, як бачым з прыведзенага летапіснага запісу, палачанамі называліся крывічы і дрыгавічы, што пасяліліся на Дзвіне.

У свой час І. Завітневіч выказаў зусім слушную думку, што ўжо ў самыя старажытныя часы дрыгавічы разам з крывічамі склалі адно палітычнае цэлае[146]. І гэта было вынікам іх этнічнага зрашчэння, якое пачалося найперш на дрыгавіцка-крывіцкім сумежжы ў Падзвінні і прадаўжалася па меры прасоўвання крывічоў на поўдзень, у глыб дрыгавіцкай тэрыторыі аж да Прыпяці. Працэс гэты быў глабальны для ўсёй Беларусі. Інтэнсіўны рух крывічоў быў не толькі на поўдзень, у раён Бярэзіны, але і на ўсход, дзе ўзнікаюць такія іх

буйныя каланізацыйныя цэнтры, як Віцебск на Заходняй Дзвіне і Смаленск на Дняпры. Крывіцкае прасоўванне на поўдзень і на ўсход цягнула за сабою зрашчэнне найперш земляў дзвінскага і дняпроўскага басейнаў. Найноўшыя археалагічныя даследаванні паказваюць, што днепра-дзвінскае міжрэчча ў перыяд VIII—X стст. уяўляла сабою дастаткова адасоблены і разам з тым *унутрана адзіны* (курсіў наш.— *М. Е.*) арганізм[147]. Адсюль становіцца ясным, чаму гэты раён стаў сарцавінай нашай першапачатковай гісторыі.

Радзімічы таксама былі ўцягнуты ў працэс зрашчэння беларускай тэрыторыі. У парэччы Дняпра на Гомельшчыне яны змешваліся з дрыгавічамі, а ў басейне Асцёра і вярхоўі Іпуці — з крывічамі, толькі ўжо не з полацкімі, а з дняпроўскімі (смаленскімі)[148]. У Панямонні ж факт мяшання дрыгавічоў і крывічоў прызнаецца і археолагамі, і спрэчка паміж імі ідзе толькі ў пытанні: хто пераважаў тут — крывічы ці дрыгавічы[149].

Вось гэта ўзаемапранікненне і мяшанне дрыгавіцкага, крывіцкага і радзіміцкага насельніцтва і стала найгалоўнейшай з'явай нашай старажытнай гісторыі, беларускага этнагенезу і фармавання беларускай тэрыторыі. Дзякуючы гэтаму ўзмацняўся славянскі элемент, што садзейнічала хутчэйшай асіміляцыі балцкага насельніцтва. Палачане былі першым на тэрыторыі Беларусі вынікам дрыгавіцка-крывіцкага зрашчэння і асіміляцыі гэтымі плямёнамі балтаў. Яны з'явіліся першай па часе мадэллю беларусаў.

З другога боку, умовы славянскага засялення Беларусі мелі сваім вынікам і карэнныя змены ў сацыяльных адносінах. Найперш яны аказалі вырашальны ўплыў на разлажэнне родавага ладу. Можна ўявіць сабе, якая этнічная цераспалосіца ўтварылася на Беларусі ў выніку прыходу славянаў. Адны плямёны і роды асядалі тут на сталае жыхарства, другія, праходзячы, толькі часткова пакідалі тут сваіх супляменнікаў і суродзічаў. Усе яны, апынуўшыся на новым месцы, павінны былі наладжваць і новыя ўзаемаадносіны як з балтамі, так і між сабой. Яшчэ В. Ключэўскі адзначаў, што ўмовы перасялення славянаў і каланізацыя імі новых земляў «разбуралі супольнае жыццё родзічаў»[150], што спрыяла адміранню родавай сваяцкай абшчыны. Сапраўды, ужо ўзаемаадносіны славянаў з балтамі, як і балтаў са славянамі, маглі будавацца не на грунце роднасці, а толькі на грунце супольнага тэрытарыяльнага жыцця, што было вялікім крокам наперад, бо выводзіла і славянскае і балцкае насельніцтва з вузкага кола родаплемянных інтарэсаў і аб'ядноўвала яго агульнымі тэрытарыяльнымі інтарэсамі. Тым болей гэты працэс узмацніўся яшчэ і ў выніку сумеснага

пражывання дрыгавічоў і крывічоў. Гэтым і тлумачыцца паскарэнне грамадскага развіцця ў полацкім Падзвінні, дзе сустрэліся балцкая, дрыгавіцкая і крывіцкая стыхіі. Вось чаму Полацкае «княжанне», якое ў пачатку было племянным крывіцкім, стала першым пераўтварацца ў палітычна-тэрытарыяльную адзінку, што і дало яму значную перавагу ў пашырэнні сваёй тэрыторыі, у паступовым уключэнні ў яго склад дрыгавіцкіх земляў, прынамсі, іх паўночнай часткі, прыкладна па лініі ўпадзення Свіслачы ў Бярэзіну. Лішне гаварыць, што гэта было вынікам прасоўвання крывічоў, якія, мяшаючыся з дрыгавічамі, павялічвалі колькасць палачанаў і пашыралі іх тэрыторыю. Гэтым і тлумачыцца, чаму ў пазнейшы час назва дрыгавіцкай зямлі захавалася толькі за яе прыпяцкай часткай, у якой гістарычны працэс працякаў павольней.

Магчыма, адной з прычын апошняга з'яўлялася меншая ў параўнанні з Полаччынай ступень рознаэтнічнасці ў гэтым рэгіёне. Балцкі элемент тут, як паказваюць гідранімія і археалогія, быў значна радзейшы і таму слабейшы. Крывічы прыйшлі сюды пазней і ў меншай колькасці. Цяжка сказаць, дзе быў племянны цэнтр дрыгавічоў. Наўрад ці з'яўляўся ім Тураў, бо летапісныя і археалагічныя дадзеныя гавораць аб яго ўзнікненні толькі ў канцы X ст. Менавіта заснаванне Турава і было выяўленнем пераўтварэння дрыгавіцкага племяннога княжання ў Тураўскае княства, якое ўжо з'яўлялася тэрытарыяльна-палітычнай адзінкай. Праўда, размешчанае ў непасрэднай блізкасці ад Кіева, яно доўгі час знаходзілася ў сферы яго палітычнага прыцягнення і таму не магло набыць той ролі, якую мела Полацкае княства. І ўсё ж, хоць тураўская гісторыя не была такой бліскучай, як полацкая, нельга прымяншаць яе значэння. Трацячы свае землі на Дзвіне, па Бярэзіне і Друці, дрыгавічы пашыралі сваю тэрыторыю ў Пасожжы, Панямонні і Пабужжы, гэтым самым намнога павялічваючы абшар Беларусі. Менавіта дрыгавічы тварылі сваю гісторыю «без шуму і гвалту», і гэты іх почырк у пазнейшыя надзвычай цяжкія часы страты дзяржаўнасці быў засвоены ўсімі беларусамі. Калі ў Падзвінні склаўся як адзін з праобразаў беларуса — палачанін, то ў Папрыпяцці ў той жа якасці ўзрос паляшук, наш найболей чысты славянскі тып.

Гэтак жа інтэнсіўна, як і ў Полаччыне, але трохі пазней адбываўся этнаўтваральны працэс у Панямонні, дзе на землях балцкіх плямёнаў літвы і яцвягаў таксама сустрэліся крывіцкая і дрыгавіцкая каланізацыя і асіміляцыя. А гэта зноў-такі пацвярджае галоўную асаблівасць пачатковай нашай гісторыі — арганічнае зрашчэнне дрыгавіцкага і кры-

віцкага насельніцтва, што стала грунтам, на якім выраcталі Беларусь і беларусы. Гэты галоўны закон беларусаўтварэння ў поўную моц дзейнічаў і ў Панямонні. Не дзіўна таму, што тут узнік другі пасля Полацка і роўны яму па значэнню дзяржаўны цэнтр Беларусі, які ў сярэдзіне XIII ст. прыйшоў на змену Полацку. Невыпадкова, што тут вырас і трэці прататып беларуса — ліцвін, які і аб'яднаў усю Беларусь у адзінае цэлае і даў ёй на доўгі час сваё імя.

Але да сярэдзіны XIII ст. рэй нашай гісторыі вёў Полацк. Вось чаму яна ў гэты час была пераважна полацкая. На нашу думку, рост полацкай тэрыторыі ішоў больш-менш бесперашкодна прыкладна да сярэдзіны IX ст. К гэтаму часу па меры рассялення крывічоў улада Полацка на ўсходзе абдымала вярхоўі Зах. Дзвіны і Дняпра, на поўдні заходзіла за Свіслач да вярхоўяў Пцічы, на захадзе цягнулася ад вярхоўяў Нёмана да вярхоўяў Дзісны, на поўначы ішла ад Усвята праз вярхоўі Дрысы і далей паралельна Зах. Дзвіне заходзіла ў межы сучаснай Латвіі.

Як бачым, Полацк ужо ў IX ст. сканцэнтраваў вакол сябе велізарную тэрыторыю і стаў адным з важнейшых і магутнейшых дзяржаваўтваральных цэнтраў Усходняй Еўропы. Гэта і дало яму магчымасць выйсці пераможцам з цяжкіх выпрабаванняў, якія пачаліся для яго з сярэдзіны IX ст.

## КІЕЎ — НОЎГАРАД — ПОЛАЦК

З гэтага часу пачынаецца наша датаваная гісторыя. Праўда, крыніцы пра падзеі гэтага перыяду — адзінкавыя і, што асабліва дрэнна, супярэчлівыя і невыразныя. Яны і з'яўляюцца тымі «костачкамі», па якіх мы і павінны хоць большменш прыблізна ўзнаўляць нашу пачатковую гісторыю. Вядома, што пры такім стане крыніц нельга чакаць цвёрдых станоўчых сцверджанняў пра гэты час. Мы можам задавольвацца толькі гіпотэзамі.

Пяройдзем да разгляду гэтых пісьмовых паведамленняў. У летапісе пад 859 г. адзначана, што ў той час, як варагі, якія прыходзілі з-за мора, бралі даніну з чудзі, славенаў, меры і крывічоў, хазары спаганялі яе з палянаў, севяранаў, вяцічаў. Найбольшая каштоўнасць гэтага паведамлення ў тым, што яно сведчыць пра існаванне ў той час двух саюзаў плямёнаў: паўночнага і паўднёвага. Падобна на тое, што летапіс раскрывае і прычыну ўзнікнення гэтых аб'яднанняў, якая заключалася ў неабходнасці барацьбы са знешнімі ворагамі: для першага — з варагамі, для другога — з хазарамі.

Летапіс яскрава паказаў, што крывічы належалі да паўночнага саюза. Блізкасць крывічоў да славенаў была ўжо адзначана, як мы гаварылі вышэй, дакументам 834 г. пра Ансгарыя — папскага легата ў паўночных народаў, у тым ліку ў славенаў і крывічоў. Дарэчы будзе звярнуць увагу і вось на што. Калі ў летапісе ўпамінаюцца угра-фінскія плямёны, сярод якіх жылі славене — чудзь і мера,— балцкія плямёны (літва, латыгола, лотва), сярод якіх і побач з якімі жылі крывічы,— не ўпамінаюцца. Магчыма, гэта можна растлумачыць тым, што названыя плямёны да сярэдзіны IX ст. былі ўжо ў цэлым асіміляваны і страцілі самастойнае значэнне. Але не так даўно было выказана меркаванне, якое грунтуецца на паказаннях Наўгародскага I летапісу, што пад упомненымі ў запісе 859 г. славенамі, крывічамі і мерай трэба разумець не плямёны, а толькі выхадцаў з іх, якія былі першымі насельнікамі Ноўгарада[151]. У такім выпадку, вя-

дома, балцкія плямёны не маглі ўпамінацца. Але выказанае меркаванне даволі спрэчнае. Паколькі ў запісе 859 г. называюцца паўднёвыя плямёны, то ім маглі супрацьпастаўляцца таксама толькі цэлыя плямёны, а не часткі іх.

Дрыгавічы ні ў першай, ні ў другой групе плямёнаў не названы. Толькі Іаакімаўскі летапіс, як убачым далей, дае намёк на ўваходжанне дрыгавічоў у паўночны саюз.

Радзімічы таксама не ўпомнены ў запісе пад 859 г. Але з паведамлення 885 г. пра тое, што гэта племя плаціла даніну хазарам, можна зрабіць вывад, што яно ўваходзіла ў паўднёвую групу.

Многія гісторыкі бачаць галоўную прычыну ўтварэння Старажытнарускай дзяржавы ў развіцці феадалізму. Але наўрад ці можна гэту прычыну лічыць сур'ёзнай. Цяжка гаварыць пра наяўнасць феадалізму нават у сярэдзіне X ст., калі кіеўскія князі хадзілі на зіму ў палюддзе ў залежныя землі, дзе і карміліся са сваімі дружынамі і забіралі даніну. Які ж гэта феадалізм? Хутчэй за ўсё ў гэты час існавала яшчэ ваенная дэмакратыя, прыстасаваная перш за ўсё для арганізацыі набегаў на іншыя, звычайна больш багатыя, землі з мэтай захопу здабычы. Мы, вядома, не адмаўляем наяўнасці ў той час знаці, але яна не была феадальная, бо не жыла за кошт эксплуатацыі сялянства, якое заставалася ў асноўнай масе свабоднае[152]. Нават некаторыя сучасныя даследчыкі сумняваюцца ў тым, што да IX ст. маглі быць класы і эксплуатацыя[153]. Праўда, земляробства было галоўным заняткам насельніцтва, але яно стаяла яшчэ на нізкім узроўні і задавальвала толькі мінімальныя патрэбы сялянства і, відаць, не магло даваць яшчэ прыбавачнага прадукту. Нездарма ж заваяваныя землі абкладваліся данінай у выглядзе пушніны. А гэта гаворыць пра тое, што, нягледзячы на развіццё земляробства, у той час не трацілі свайго даволі прыкметнага значэння паляванне, бортніцтва, рыбалоўства. І сапраўды, калі лясы кішэлі зверынoю і пчоламі, а рэкі — рыбай, не мела ніякага практычнага значэння закідваць паляванне, рыбалоўства і бортніцтва. Яны і давалі прыбавачны прадукт насельніцтву і забяспечвалі пушнінай, мёдам, воскам гандаль, у першую чаргу замежны.

Вызначальную ролю ў гістарычнай плыні як гэтага, так і пазнейшага часу меў водны шлях, які атрымаў у летапісе назву «з варагаў у грэкі», бо злучаў сабою цераз сістэму рэк Дняпра, Дзвіны, Ловаці і Волхава Скандынавію і Візантыю. Уздоўж яго была сканцэнтравана асноўная маса ўсходнеславянскага насельніцтва. Таму зусім заканамерна, што гэта важная водная магістраль, па якой у асноўным ішоў міжнародны гандаль і ажыццяўляліся ваенныя паходы на

Візантыю, і стала воссю дзяржаваўтваральнага працэсу. Менавіта імкненне племянной знаці да валодання гэтым шляхам і было грунтам для ўзнікнення Усходнеславянскай дзяржавы, якая атрымала ў гістарычных даследаваннях не зусім правільную назву Кіеўскай (у крыніцах яе няма). Нездарма ж яе ўтварэнне супадае з канчатковым сфармаваннем гэтага шляху ў канцы IX ст., гэтак жа як і яе канчатковы распад у пачатку XII ст. супадае з канчатковай стратай ім свайго эканамічнага значэння.

Дзеля таго і заваёўваліся прылеглыя да воднага шляху землі, каб трымаць у сваіх руках гандаль па ім. Дзеля таго і збіралася з заваяваных земляў шматлікае і шматплямённае войска, каб рабіць з ім паходы на Візантыю. Дасягненне ўказаных мэт і вызначала галоўныя функцыі гэтай дзяржавы.

К. Маркс называў Кіеўскую дзяржаву «імперыяй Рурыкавічаў», якая была «недарэчнай» («несообразной»), «нязграбнай» («нескладной»), «скараспелай» і «шматковай» («лоскутной»)[154]. На жаль, у апошні час гэтая выключна глыбокая і трапная характарыстыка чамусьці забылася нашымі гісторыкамі-марксістамі, і яны пачалі паказваць Кіеўскую дзяржаву як цэнтралізаваную і адзіную. У сапраўднасці ж, як і імперыя Карла Вялікага, яна была штучным і таму нетрывалым ваенна-адміністрацыйным аб’яднаннем. У яе наспех і насуперак іх волі і інтарэсам уключаліся племянныя землі, і таму яна не мела агульнай эканамічнай базы.

У такіх гістарычных абставінах становіцца праблематычным узнікненне старажытнарускай народнасці, існаванне якой сцвярджаецца шэрагам нашых даследчыкаў. Вядома, нельга адмаўляць пэўных тэндэнцый у яе складванні, аднак наўрад ці мог мець сваё завяршэнне гэты гістарычны працэс у «скараспелай» і «шматковай» дзяржаве. Сцверджанню аб існаванні старажытнарускай народнасці найперш супярэчыць той яскравы гістарычны факт, што Кіеўская дзяржава распалася канчаткова ў пачатку XII ст. на часткі, адпаведныя ранейшым племянным тэрыторыям. А гэта паказвае, што ўсходнеславянскія плямёны прадаўжалі існаваць. Так, напрыклад, у Лаўрэнцьеўскім летапісе крывічы ўпаміналіся яшчэ пад 1162 г., дрыгавічы — пад 1149 г., радзімічы — пад 1169 г. Хочацца спадзявацца, што наша гістарычная навука яшчэ раз звернецца да пытання аб старажытнарускай народнасці і ў ходзе плённай дыскусіі будуць вызначаны разнастайныя погляды на гэту праблему.

К. Маркс адзначаў, што ў склад кіеўскіх дружын ўліваліся новыя элементы, «прагнучыя славы і здабычы», якія пазней сфармавалі пануючы эксплуататарскі клас і былі

тымі, чыім інтарэсам у першую чаргу служыла гэтая дзяржава.

Мы ўжо бачылі, што найперш дзякуючы рачной гандлёвай магістралі, у дадзеным выпадку Заходняй Дзвіне, узвысіўся Полацк. Гэтак жа і шлях з «варагаў у грэкі» вызначыў значэнне як важных палітычных цэнтраў Усходняй Еўропы Кіева і Ноўгарада. Калі Ноўгарад засланяў яго з поўначы, то Кіеў — з поўдня. Паміж імі і ўзнікла суперніцтва ў аб'яднаўчай палітыцы. У фокусе гэтай барацьбы адразу апынуліся і беларускія землі. Менавіта ў той час і выявілася выключнасць іх становішча: размяшчэнне на скрыжаванні водных шляхоў і ўкліньванне паміж землямі Паўночнай і Паўднёвай Русі. Абшары крывічоў і дрыгавічоў ляжалі ўздоўж вялікай воднай магістралі, і цераз іх праходзілі яе важнейшыя адрэзкі. Полацк знаходзіўся на Заходняй Дзвіне, па якой ішоў галоўным чынам міжнародны гандаль з краінамі Прыбалтыкі[155], а праз дрыгавіцкую зямлю пралёг прыпяцка-бугскі шлях, што вёў у Заходнюю Еўропу. Маючы важнае эканамічнае і стратэгічнае значэнне, крывіцкая і дрыгавіцкая землі адразу сталі прадметам барацьбы паміж Кіевам і Ноўгарадам. Без падначалення іх нельга было ўпэўнена валодаць усім шляхам з «варагаў у грэкі», а гэтым самым і мець першынство ў справе аб'яднання ўсходнеславянскіх земляў.

Летапіснае паведамленне 862 г. і выяўляе адзін з момантаў барацьбы за беларускія землі, у першую чаргу за Полацк. Гэты запіс паведамляе гісторыю аб так званым «прызванні» варажскіх князёў Рурыка, Сінявуса і Трувара, кожны з якіх сеў княжыць у Ноўгарадзе, Белавозеры і Ізборску[156]. Як бачым, летапіс з'яўленне першых рускіх князёў звязвае з дзейнасцю т. зв. варагаў, пад якімі разумеліся выхадцы са Скандынавіі — нарманы. Як у Заходняй, так і ва Усходняй Еўропе нарманская экспансія насіла розныя формы: пошукі новых земляў і перасяленні, грабежніцкія напады і пірацтва, буйныя ваенныя паходы і гандлёвыя паездкі. Мы не схільны адмаўляць пэўнага значэння варагаў ва ўсходнеславянскай гісторыі, у тым ліку і ў полацкай, паколькі найперш па Заходняй Дзвіне яны пранікалі на ўсход і на поўдзень, пра што сведчаць скандынаўскія сагі. Варагам, бясспрэчна, належыць пэўная роля ва ўтварэнні нашага ваенна-феадальнага класа і купецтва. Аднак яны не мелі і не маглі мець вырашальнага значэння ва ўтварэнні ўсходнеславянскіх дзяржаў, хоць нават і стаялі пэўны час на чале іх. Працэс дзяржаваўтварэння пачаўся задоўга да сярэдзіны IX ст., але паколькі завяршэнне яго супала са з'яўленнем варагаў, то гэта і дало повад летапісцу паказаць

апошніх як першых усходнеславянскіх князёў. Трэба таксама ўлічваць, што шэраг гісторыкаў (С. Гедэонаў, І. Забелін і інш.) адмаўлялі нарманскае паходжанне варагаў і лічылі іх выхадцамі з балтыйскіх славянаў. А сучасны гісторык А. Г. Кузьмін паказвае іх як славянізаваных кельтаў[157]. Мы не надаём значэння паходжанню варажскіх князёў. Галоўнае не паходжанне, а тое, чыімі інтарэсамі яны кіраваліся ў сваёй дзейнасці. А кіраваліся яны, бясспрэчна, інтарэсамі той мясцовасці, дзе яны княжылі, інакш бы яны так доўга не сядзелі там. Нават калі ўказаныя князі былі і скандынаўскага паходжання, гэта ніколькі не паўплывала на славянскі характар першых усходнеславянскіх палітычных утварэнняў.

У адносінах да Рурыка і яго братоў хочацца звярнуць увагу на адну акалічнасць. Яны, як сведчыць летапіс пад 862 г., прыйшлі «с роды своими». Нам здаецца, што ў гэтым схавана разгадка таго, чаму трохі раней паўночныя плямёны прагналі варагаў за мора і адмовіліся плаціць ім даніну. Бо тыя варагі былі тыповымі «находнікамі», якія больш клапаціліся пра свае інтарэсы і інтарэсы сваіх родаў, што жылі ў Скандынавіі. Таму прадстаўнікі паўночных плямёнаў, трэба думаць, і паставілі адной з умоў новым варажскім князям ісці з усімі сваімі родамі, чым забяспечвалася хутчэйшае ўкараненне іх у новых землях, а разам з тым і зрашчэнне іх інтарэсаў з інтарэсамі апошніх. Але мы трохі адхілімся ўбок.

Для нас самым важным з летапіснага запісу 862 г. з'яўляецца паведамленне пра тое, што Рурык пасля смерці сваіх братоў зрабіўся адзінадзяржаўцам, стаў раздаваць сваім мужам гарады, у тым ліку аднаму з іх Полацк[158]. Нам здаецца, што ў гэтым запісе, незалежна ад таго, наколькі ён праўдзівы ў дэталях, вельмі добра выявілася тэндэнцыя Ноўгарада да ператварэння саюза паўночных плямёнаў, магчыма, добраахвотнага, выкліканага неабходнасцю барацьбы з варагамі, у больш аб'яднаную дзяржаву. Калі ўлічыць, што Рурык пасадзіў сваіх «мужоў», апроч Полацка, у Растове і Белавозеры, то можна лёгка ўбачыць, на якую вялізную тэрыторыю пашырыў сваю ўладу Ноўгарад. Асаблівым поспехам для яго было падначаленне Полацка, што не магло не ўстрывожыць Кіеў і не выклікаць неадкладных мер з боку яго князёў Аскольда і Дзіра. Мы дазволім сабе крыху больш падрабязна спыніцца на наступнай гістарычнай падзеі, паколькі яна пакуль што недастаткова асветлена ў літаратуры, хоць і мела, як убачым, важныя вынікі для лёсу беларускіх земляў.

Дзеля гэтага звернемся да Ніканаўскага летапісу. Трэба

зазначыць, што ў ім падзеі, пра якія апавядаецца ў «Аповесці мінулых гадоў» пад 862 г., разбіты на некалькі гадоў. І ў гэтых адносінах Ніканаўскі летапіс хоць і пазнейшая, але больш каштоўная крыніца, чым «Аповесць...». Сапраўды, усе гэтыя падзеі: і выгнанне варагаў, і прызнанне Рурыка і яго братоў, і смерць Трувара і Сінявуса і інш.— не маглі адбыцца ў адзін год. Дык вось у Ніканаўскім летапісе паведамленне пра раздачу Рурыкам гарадоў дадзена пад 865 г. І пад гэтай жа датай мы чытаем далей: «Ваявалі Аскольд і Дзір палачанаў і многа зла натварылі»[159]. Запіс гэты вельмі кароткі і цьмяны, і таму даследчыкі імкнуліся да яго расшыфроўкі. Некаторыя ж, як М. Карамзін, лічылі гэты факт выдумкай пазнейшага летапісца[160]. Але з ім пагадзіцца нельга, бо пра гэту падзею паведамляецца і ў іншых крыніцах. У «Гісторыі Расійскай» В. Тацішчава, напісанай на падставе крыніц, некаторыя з якіх не дайшлі да нас, гаворыцца, але ўжо пад 867 г. (разбежка ў датах тут не мае істотнага значэння, бо, як паказаў В. Ключэўскі, усе першыя летапісныя даты ўмоўныя[161]): Аскольд і Дзір хадзілі і на крывічоў і тых перамаглі[162]. У адноўленым Троіцкім летапісе і ва «Уладзімірскім летапісцы» амаль слова ў слова гаворыцца пра тое, як Аскольд і Дзір, застаўшыся ў Кіеве, «много Варяги совокуписта и начаста владети Полотескою землею. Рюрику же княжаще в Новегороде»[163]. Праўда, ва ўсіх іншых летапісах, дзе ўпамінаецца гэта падзея, замест слова «Полотескою» стаіць «Полянскою», г. зн. Кіеўскаю, што, на першы погляд, здаецца больш лагічным, бо гэтыя князі, паводле летапіснай легенды, заняўшы Кіеў, сапраўды сталі ўладарамі і Палянскай зямлі, сталіцай якой ён быў. Аднак, прачытаўшы гэтае месца ў такой рэдакцыі больш уважліва, мы ўбачым у ім адну супярэчнасць. Сапраўды, ва ўсіх летапісах без выключэння гаворыцца, што Аскольд і Дзір без ніякага супраціўлення з боку кіяўлянаў засталіся княжыць у Кіеве, тым болей што там не было ў той час князя. Паводле звычаяў таго часу, авалоданне стольным горадам азначала адначасова і авалоданне ўсёй зямлёй[164]. Такім чынам, Аскольду і Дзіру, укняжыўшыся ў Кіеве, не было патрэбы збіраць шмат варагаў, каб авалодваць Палянскаю зямлёю. Гэта патрэбна было для заваявання іншай зямлі, а менавіта Полацкай. Вось чаму мы лічым правільнай рэдакцыю запісу гэтай падзеі ў Троіцкім і Уладзімірскім летапісах. Відаць, пазнейшыя перапісчыкі, якім ужо не быў зразумелы сэнс гэтай падзеі, і падмянілі Полацкую зямлю Палянскай.

Сказанае высвятляе і сутнасць заключнай фразы разгледжанага намі летапіснага паведамлення: «Рюрику же княжаще в Новегороде». Гэта значыць, што Полацк быў адабра-

ны ад Рурыка і апошні павінен быў задаволіцца толькі Ноўгарадам. Як бачым, Полацк быў уключаны ў сферу ўплыву Кіева яшчэ Аскольдам і Дзірам. Гэтым і тлумачыцца, чаму нічога не гаворыцца аб заваяванні Полацка ў пазнейшы час, у прыватнасці Алегам у 882 г.

Такім чынам, кароткі запіс Ніканаўскага летапісу, пацверджаны і ўдакладнены іншымі крыніцамі, паказаў, што ўжо ў сярэдзіне IX ст. склаўся палітычны трохкутнік Кіеў — Ноўгарад — Полацк.

Але сказаным не вычэрпваецца ўсё значэнне разгляданай намі падзеі. З ёю, відаць, быў звязаны і далейшы лёс дрыгавічоў. Яшчэ С. Салаўёў звярнуў увагу на тое, што ў Іаакімаўскім летапісе (у іншых крыніцах пра гэта нічога не сказана) дрыгавічы разам з крывічамі ўспомнены ў ліку тых плямёнаў, якія ўдзельнічалі ў прызванні Рурыка[165], што можа сведчыць пра іх уваходжанне ў саюз паўночных плямёнаў і іх даўнія шчыльныя сувязі з крывічамі, пра што мы ўжо гаварылі. Відаць, у сярэдзіне IX ст., пасля таго як у ім быў пасаджаны «муж» Рурыка, Полацк, абапіраючыся на Ноўгарад, мог далучыць да сваіх уладанняў і прыпяцкую частку дрыгавічоў. Гэта не магло не стварыць непасрэднай пагрозы Кіеву і, трэба думаць, з'явілася непасрэднай падставай для паходу Аскольда і Дзіра на Полацк і даволі жорсткай расправы іх менавіта з палачанамі («шмат зла зрабілі», зазначыў летапісец). Тацішчаўскі тэкст сведчыць, што Аскольд і Дзір перамаглі палачанаў, а гэта значыць, што апошнія аказалі моцнае супраціўленне кіеўскім князям.

А. Грушэўскі тлумачыў адсутнасць сведчанняў летапісаў аб уключэнні дрыгавічоў у склад кіеўскіх уладанняў тым, што гэта прайшло параўнальна спакойна, без вялікага напружання сіл з боку Кіева і без упартага супраціўлення дрыгавічоў[166]. Але спакойна адбылося і заваяванне Алегам радзімічаў, аднак яно ўсё ж адзначана ў летапісе, гэтак жа як і пазней другое, ужо зусім не спакойнае заваяванне іх Уладзімірам. Як бачым, летапісы адзначалі і спакойныя (калі яны толькі былі такія) і неспакойныя заваяванні, і таму думка А. Грушэўскага не можа быць прынята ў разлік. Лепш будзе пагадзіцца з У. Завітневічам, які бачыў прычыну адсутнасці звестак у летапісе пра падначаленне Кіевам дрыгавічоў у тым, што іх заваяванне адбылося разам з палачанамі. Думка гэта тым болей слушная, што без заваявання дрыгавічоў нельга было б і заваёўваць палачанаў. Той жа акалічнасцю У. Завітневіч тлумачыў, чаму дрыгавічы наогул зніклі на доўгі час з летапісаў, і лічыў, што іх трэба падразумяваць усюды, дзе ўпамінаюцца крывічы[167]. Сапраўды,

шырока рассяляючыся па Дрыгавіцкай зямлі, крывічы фактычна станавіліся пануючым племем, і іх назва магла абдымаць і дрыгавічоў. Але трэба прымаць пад увагу і магчымасць таго, што Дрыгавіцкая зямля была адарвана ад Полацка і ўключана ў непасрэдныя ўладанні Кіева і яго летапісцы палічылі непатрэбным прымаць дрыгавічоў за асобнае племя.

Такім чынам, паход Аскольда і Дзіра не быў «нязначнай падзеяй», як лічаць некаторыя даследчыкі [168]. Апроч усяго іншага, гэта падзея дэталізуе працэс утварэння Кіеўскай дзяржавы. Мы бачым, што Аскольд і Дзір, заваяваўшы Полацкую і Дрыгавіцкую землі, гэтым самым намнога ўмацавалі пазіцыю Кіева ў яго збіральніцкай дзейнасці. Звяртаем увагу і на тое, што Полацкая і Дрыгавіцкая землі, як і Палянская і Драўлянская, знаходзіліся на правым беразе Дняпра. А гэта паказвае, што Кіеў спачатку падначальваў сабе правабярэжныя тэрыторыі. Нездарма ж пасля Лісцвіцкай бітвы 1023 г. Кіеўская дзяржава часова распалася на левабярэжную і правабярэжную часткі. А з гэтага, на думку некаторых даследчыкаў, і пачаўся распад «імперыі Рурыкавічаў»[169].

Паход Аскольда і Дзіра на Полацк і заваяванне імі палачанаў і дрыгавічоў не толькі пашырылі ўладанні Кіева, але і намнога ўзмацнілі яго, што і дало магчымасць кіеўскім князям у 866 г. (гэта дата ўказана ў «Аповесці...» і ў Ніканаўскім летапісе, што прымушае даверліва аднесціся і да яе і да самой падзеі) зрабіць паход на Візантыю. Ужо гэты прыклад красамоўна паказвае, што падначаленне плямянных тэрыторый для Кіева найперш было патрэбна для таго, каб прадпрымаць свае ваенныя паходы на Візантыю, якія, як ужо зазначалася вышэй, былі бадай што галоўнай мэтай першых кіеўскіх князёў.

## ПАДЗЕІ 80-х ГАДОЎ IX СТАГОДДЗЯ І ПАХОДЫ НА ВІЗАНТЫЮ

Даследчыкамі адзначалася, што той раздзел «Аповесці...», які апавядае пра падзеі IX ст. да з'яўлення варагаў, моцна скарочаны і перароблены. Многія часткі аказаліся проста выкінутыя, а замест іх была ўстаўлена рэдактарамі XII ст. наўгародская легенда аб прызванні князёў-варагаў у Ноўгарад[170]. Нам здаецца, што з гісторыяй утварэння Кіеўскай дзяржавы адбылося тое, што пазней адбылося з гісторыяй утварэння Вялікага княства Літоўскага: яна была пастаўлена з ног на галаву. Як жамойцкія феадалы прыдумалі ў XVI ст. байку пра заваяванне іх князямі ў сярэдзіне

XIII ст. Новагародка, які яны нібыта зрабілі сваёй сталіцай, так і наўгародскія феадалы ў XII ст. прыдумалі байку пра заваяванне іх князямі Кіева ў 882 г., у якім яны і аселі, зрабіўшы яго сваёй сталіцай. На вялікі жаль, дзве гэтыя грубыя фальсіфікацыі пакуль што прымаюцца нашай гістарыяграфіяй за праўдзівыя факты. Вельмі добра, што ў апошні час даследчыкамі бярэцца пад сумненне летапіснае сцверджанне, што Ігар быў сынам Рурыка і такім чынам паходзіць з Ноўгарада[171]. Мы, з свайго боку, падтрымліваем такую думку і выказваем свае меркаванні наконт гэтага. На наш погляд, Аскольд і Дзір таксама не былі варагамі па паходжанні, а з'яўляліся князямі карэннай кіеўскай дынастыі. Ва ўсякім выпадку, у Ніканаўскім летапісе, у якім утрымліваецца найбольш звестак пра гэтых князёў, нічога не гаворыцца пра тое, што яны былі ў дружыне Рурыка і прыйшлі ў Кіеў з Ноўгарада, а ў Наўгародскім летапісе сказана, што яны прыйшлі з Ноўгарада, але перад «прызваннем» Рурыка і яго братоў [172]. Такія супярэчнасці — паказчык таго, што гэтыя факты маюць на сабе адбітак тэндэнцыйнай апрацоўкі.

Магчыма, што Ігар па паходжанні быў кіеўскім князем, пасаджаным у Ноўгарадзе ў малалетнім узросце, і таму знаходзіўся пад апякунствам свайго блізкага родзіча Алега, накшталт таго, як пазней Уладзімір Святаславіч, таксама малалетні, княжыў у Ноўгарадзе пад апякунствам свайго дзядзькі Дабрыні. Цалкам дапушчальна, што каля 882 г. узнікла барацьба паміж кіеўскім і наўгародскім князямі, як у 70-х гадах X ст. паміж Яраполкам і Уладзімірам Святаславічамі, і яна закончылася перамогай наўгародскага князя Ігара і яго апекуна Алега над кіеўскімі князямі Аскольдам і Дзірам. Гэтак жа сама пазней перамогай закончылася барацьба наўгародскага князя Уладзіміра над яго братам кіеўскім князем Яраполкам. А яшчэ пазней мела пераможны зыход барацьба Яраслава Уладзіміравіча, што княжыў у Ноўгарадзе, над Святаполкам Акаянным, які захапіў уладу ў Кіеве. Усе гэтыя прыклады могуць гаварыць пра першаступеннае значэнне Ноўгарада ў вызначэнні гістарычнага лёсу дзяржавы, якая па праву павінна была б называцца Кіеўска-Наўгародскай. Толькі тады, калі ў Кіеве садзіўся ранейшы наўгародскі князь і гэтым самым ствараліся ўмовы для забеспячэння ў Кіеве інтарэсаў Ноўгарада, у краіне ўсталёўваліся палітычная раўнавага і мір.

Цалкам магчыма, што Ігар быў роданачальнікам новай дынастыі. Нездарма ж у шэрагу летапісаў пералік кіеўскіх князёў пачынаўся з яго, якога называлі Старым[173]. Не выключана таксама і тое, што Ігар і Алег з самага пачатку

былі ў Кіеве і ім удалося ў міжусобнай барацьбе перамагчы і забіць Аскольда і Дзіра, і толькі пазней наўгародскія летапісцы прыпісалі ім варажскае паходжанне, пра што мы будзем гаварыць ніжэй. Як бачым, у пытанні ўтварэння Кіеўска-Наўгародскай дзяржавы і дасюль шмат незразумелага і нявысветленага. Адзначанае намі хоць у нейкай ступені можа вытлумачыць, чаму такое супярэчлівае паведамленне пра захоп Алегам Смаленска ў 882 г.

Паводле летапісу, Алег, які пасля смерці Рурыка (879 г.) стаў апекуном малалетняга Рурыкавіча — Ігара і гэтым самым фактычна зрабіўся паўнаўладным гаспадаром, у 882 г. пайшоў з Ноўгарада ў Кіеў з войскам, якое сабраў з варагаў, чудзі, славенаў, меры, весі і крывічоў (відаць, пскоўскіх, бо, будучы ў Ноўгарадзе, не мог ён набраць полацкіх крывічоў, што знаходзіліся пад уладай Кіева). І першым яго заваяваннем у гэтым паходзе быў Смаленск (зноў-такі незразумела, навошта было заваёўваць Смаленск з Ноўгарада, якому ён верагодней за ўсё належаў. Больш лагічным было б, каб ён заваёўваў Смаленск з Кіева, што, магчыма, так і было). Дзіўна і тое, чаму Алег, маючы шматпляменнае войска, да Смаленска падышоў толькі з крывічамі: «и прийде к Смоленьску с кривичи»[174]. Праўда, С. Салаўёў лічыў, што замест «с кривичи» трэба чытаць «в кривичи», бо, маўляў, пазнейшы перапісчык не зразумеў, што значыць «в кривичи», паколькі раней было сказана, што Алег ужо ішоў з крывічамі, і таму напісаў «с кривичи»[175]. Паколькі лепшага тлумачэння пакуль што няма, з гэтай думкай С. Салаўёва можна пагадзіцца. «Прия град», як сказана ў летапісе, Алег пасадзіў у ім «муж свои». Вось гэта акалічнасць асабліва важная для нас. У працэсе рассялення дняпроўскія крывічы далёка адышлі ад сваёй полацкай метраполіі і таму з цягам часу ўсё менш адчувалі сувязь з ёй. Мы добра ведаем, якое значэнне ў жыцці старажытнага насельніцтва мелі рэкі. Менавіта Дняпро і стаў вызначаць свой кірунак жыцця крывічоў, што пасяліліся ў яго басейне. Смаленск і з'явіўся тым цэнтрам, які стаў гуртаваць іх у асобную адзінку. Пасля заваявання Полацка Аскольдам і Дзірам адасобленасць Смаленска атрымала і знешняе выяўленне: ён быў палітычна адрэзаны ад Полацка. Становішча, як бачым, не змянілася і пасля падзей 882 г. У Смаленску быў пасаджаны свой «муж», г. зн., што кіраванне ім з Кіева ажыццяўлялася асобна ад кіравання Полацкам.

Але не толькі геаграфічныя ўмовы вызначылі адметнасць дняпроўскіх (смаленскіх) крывічоў. Даследчыкі ўказваюць на шэраг рысаў, якія адрозніваюць іх ад палачанаў. Калі фармаванне апошніх ішло ў працэсе збліжэння крывічоў з

дрыгавічамі на балцкім субстраце, то смаленскія крывічы з'яўляюцца вынікам мяшання крывічоў з радзімічамі на балцкім і часткова угра-фінскім субстраце. Усё гэта вызначыла і іх некаторую адметнасць у дыялекце (мяккаэрасць, цоканне), звычаях (стаўбавы абрад), у матэрыяльнай культуры (аднакамерная хата) і інш.[176]. Раён Віцебска адносіцца да арэалу пашырэння гэтых асаблівасцяў, і таму цалкам апраўдана назва ўсходніх крывічоў як смаленска-віцебскіх[177].

Звяртае на сябе ўвагу і вось яшчэ што. Чаму Алег, які, паводле летапісу, ідучы з Ноўгарада ў Кіеў, заваяваў толькі адзін Смаленск? Няўжо на такім доўгім шляху не было іншых гарадоў (Любеч, які з'яўляецца ў паасобных летапісах,— пазнейшая ўстаўка)?[178] Тут могуць быць два тлумачэнні. Магчыма, што былі заваяваны і іншыя гарады, але летапісец, робячы асаблівы націск на Смаленску, іх не называе. З другога боку, магчыма і тое, што толькі Смаленск і быў заваяваны тады, асабліва калі прытрымлівацца думкі, што гэта было зроблена не з Ноўгарада, а з Кіева. Сапраўды, калі ў складзе кіеўскіх уладанняў былі дрыгавіцкія і полацкія землі, то Смаленск заставаўся тым адзіным звяном, якое магло канчаткова звязаць Паўднёвую (Кіеўскую) і Паўночную (Наўгародскую) Русь. Трэба памятаць, што Смаленск к канцу IX ст. набыў выключна важнае значэнне як месца, дзе скрыжоўваліся гандлёвыя шляхі як з усходу на захад, так і з поўдня на поўнач. Авалоданне Смаленскам азначала для таго часу — поўнасцю ўзяць у свае рукі шлях «з варагаў у грэкі» з усімі яго адгалінаваннямі. Такім чынам, заваяванне Смаленска з'явілася апошнім этапам у працэсе ўтварэння Кіеўска-Наўгародскай дзяржавы. Як убачым пасля, ключавое значэнне Смаленск меў не толькі ў барацьбе Поўдня і Поўначы, але і пазней — у барацьбе Захаду і Усходу. Захоп Смаленска Алегам азначаў уключэнне пад уладу кіеўска-наўгародскіх князёў усіх крывічоў.

Сеўшы ў Кіеве, Алег, паводле летапісу, «устави дани словенам, кривичем и мери»[179]. Зноў-такі незразумела, чаму Алег, які прыйшоў з славенскай сталіцы Ноўгарада і заваяваў Кіеў, абкладвае данінай славенаў, а не палянаўкіяўлянаў? Гэта дэталь таксама можа сведчыць пра заваяванне Алегам славенаў і крывічоў (смаленскіх) з Кіева. Праўда, даследчыкі звяртаюць увагу на тое, што Алег «устави дани», а не «возложи» іх, што тэрмін «устави» ўжываецца ў сэнсе ўпарадкавання, узаконення пэўнага парадку, тады як «возложи» ўжываецца ў сэнсе накладання даніны на пакароныя народы [180]. Значыць, у адносінах да славенаў і крывічоў Алег дзейнічае не як заваёўнік, а як дзяржаўны дзеяч, які вызначае павіннасці сваіх падданых. Але чамусьці

ў летапісе пад 885 г. у пераліку плямёнаў, якімі «обладая» Алег, няма ні славенаў, ні крывічоў. З гэтай супярэчнасці можна выйсці толькі пры ўмове, калі лічыць, што тут указаны тыя плямёны, якія былі пакораны Алегам з Кіева і на якія ён «возложи» даніну.

Але мы не павінны выключаць і таго, што ў той час, калі Алег быў заняты заваяваннем паўднёвых плямёнаў, славене і крывічы маглі выйсці з-пад яго ўлады. З летапісу вядома, што кіеўскія князі неаднаразова падначальвалі адны і тыя ж плямёны. Няма падстаў думаць, што такія моцныя плямёны, як крывічы і славене, маглі адразу зміршцца з сваім падуладным становішчам. Магчыма, што запіс 885 г. засведчыў гэта.

У 885 г. Алег падначаліў сабе радзімічаў. Паводле летапісу, адбылося гэта вельмі проста. Алег спытаўся ў радзімічаў: «Каму даніну даеце?» Яны адказалі: «Казарам». І сказаў ім тады Алег: «Не давайце казарам, а мне дайце». Яны сталі даваць Алегу па шэлегу, як і казарам. Ідылічнасць гэтай гісторыі абверг пазнейшы факт непакорнасці радзімічаў. Трэба думаць, што не толькі ў 984-м, але і ў 885 г. не адбылося без гвалту і крыві. Падобна на тое, што з заваяваннем радзімічаў закончылася падначаленне Кіевам усіх беларускіх земляў.

Крывічоў і радзімічаў (пэўна ж, былі і дрыгавічы, але яны не ўпаміналіся ў летапісе) мы бачым у ліку шматпляменнага войска, з якім Алег у 907 г. пайшоў на Царград. У адрозненне ад паходу Аскольда і Дзіра ў 866 г. паход Алега быў удалы, і кіеўскі князь атрымаў вялікую кантрыбуцыю, у тым ліку і для Полацка, які аднесены да тых гарадоў, дзе «сядяху велиции князи, под Олго суще»[181]. Усё гэта як быццам сведчыць пра ўваходжанне Полацка гэтым часам у склад Кіеўскай дзяржавы. Але, па-першае, многія даследчыкі аспрэчваюць факт паходу Алега ў 907 г. на Царград, а таксама даказваюць, што дагавор пад гэтым годам з'яўляецца часткай дагавору 911—912 гг.[182]. Па-другое, і што самае важнае для нас, яны лічаць упамінанне ў гэтым дагаворы Полацка, Растова і Любеча пазнейшай устаўкай[183], паколькі ў ім, дзе гаворыцца аб атрыманні месячнага рускімі купцамі, гэтыя гарады не ўпамінаюцца, а называюцца толькі Кіеў, Чарнігаў і Пераяслаўль. Усё гэта робіць пытанне пра падначаленне Полацка Кіеву ў гэты час праблематычным. Ва ўсякім выпадку гэты факт можна прымаць толькі з пэўнымі агаворкамі. Усё тое ж самае можам сказаць і аб паведамленні пра паход кіеўскага князя Ігара на Візантыю ў 944 г. і пра заключаны ім дагавор у 945 г. У паходзе ўдзельнічалі крывічы, але ў дагаворы не ўпамінаецца Полацк. Апошняе і дае падставу даследчыкам выказваць меркаванне аб магчы-

масці ўжо ў гэты час выхаду Полацка з-пад улады Кіева[184]. І ўсё ж гэтаму як быццам супярэчыць паведамленне пра ўдзел у паходзе крывічоў, а таксама і сведчанні візантыйскага імператара Канстанціна VII Парфірароднага. Прыкладна каля 949 г. ім быў напісаны вялікі па памеры трактат «Пра кіраванне дзяржавай». У ім меліся і важныя звесткі пра Кіеўскую дзяржаву. Так, пералічваючы плямёны, у землі якіх кіеўскія князі ходзяць у палюддзе і якія плацяць даніну русам, ён называе дрыгавічоў (другувітаў) і крывічоў[185]. Фактычна, тут мы маем адзінае непасрэднае сведчанне пра знаходжанне дрыгавічоў пад уладай Кіева ў X ст.

Варта ўвагі тое, што радзімічы ў паходзе Ігара ўжо не ўдзельнічалі. Усё гэта дае падставу думаць, што яны разам з севяранамі і вяцічамі (тыя таксама ў паходзе Ігара адсутнічалі, хоць былі ў паходзе Алега) дзесьці ў прамежку 911—944 гг. адкалоліся ад Кіева.

Зразумела, што гэтыя вельмі скупыя пісьмовыя звесткі не могуць выявіць багатага зместу нашай гісторыі за цэлае стагоддзе с сярэдзіны IX да сярэдзіны X, асабліва ў дачыненні да Полацкай зямлі. Аб ім мы можам болей здагадвацца, улічваючы той вялікі вынік, які ён даў, а менавіта вызваленне Полацка з-пад улады Кіева і аднаўленне ім сваёй палітычнай самастойнасці.

Як старая, так і новая гістарыяграфія ў адзін голас гавораць аб бясспрэчным факце таго, што Полацкае княства было першае, якое выйшла з-пад улады Кіева.

Вядома, гэтаму нямала спрыяла геаграфічнае становішча зямлі, якая знаходзілася на паўночна-заходняй ускраіне кіеўскіх уладанняў, а ўскраінныя землі хутчэй за ўсё ўспрымаюць працэс дэцэнтралізацыі. Звяртаецца ўвага і на тое, што, калі многія ўсходнеславянскія землі падупалі разбуральным набегам розных заваёўнікаў, у Полацка адносіны з іншапляменнымі суседзямі былі ў асноўным мірныя, што мела немалое значэнне ў яго ўнутраным умацаванні[186].

Ранняе адасабленне Полацкай зямлі шэрагам даследчыкаў тлумачыцца найперш тым, што ў ёй хутчэй, чым у іншых усходнеславянскіх землях, ішло развіццё феадальных адносін. Цалкам адмаўляць гэтага нельга, аднак у той час феадальныя адносіны былі фактычна ў зародкавым стане і таму не маглі мець рашаючага значэння для палітычнага адасаблення Полаччыны. Больш важнай прычынай было тое, што Полаччына размяшчалася на важных гандлёвых шляхах, і гэта дало магчымасць умацавацца эканоміцы Полацка, што, у сваю чаргу, адчыніла яму шлях да палітычнай самастойнасці. Але не трэба забывацца, што Полацкая зямля як самастойная адзінка са сваімі эканамічнымі інтарэсамі

і палітычнымі мэтамі сфармавалася яшчэ да сярэдзіны IX ст. І хоць Полацк вымушаны быў плаціць даніну Кіеву і ўдзельнічаць у паходах на Візантыю (а апошняе прыносіла і яму пэўную карысць, як, напрыклад, у 911 г.), усё ж гэта не магло спыніць яго далейшага палітычнага і эканамічнага развіцця. Сілы, магчымасці і значэнне Полацкай зямлі не ўкладваліся ў цесныя рамкі залежнасці, і таму яе знаходжанне ў складзе Кіеўска-Наўгародскай дзяржавы было кароткатэрміновым у параўнанні з іншымі землямі.

Разгледжанае стагоддзе прынесла для Полацка і страты. Адной з іх у гэты час было палітычнае раз'яднанне крывіцкіх земляў, у першую чаргу полацкіх і смаленскіх, а таксама дзвінскіх і прыпяцкіх. Аднавілі сваю самастойнасць у X ст. толькі заходнія (полацкія) крывічы, у той час як дняпроўскія (смаленскія) засталіся пад уладай кіеўскіх князёў. Больш за тое, апошнія, страціўшы Полацкую зямлю, сталі яшчэ болей умацоўваць уладу над Смаленскам і Віцебскам, бо толькі дзякуючы валоданню імі Кіеўская і Наўгародская землі маглі быць злучаны ў адзінае цэлае.

Вядома, Полацк не мог з гэтым прымірыцца. Ён паранейшаму лічыў Смаленск сваім уладаннем. Відаць, у гэты час і сфармаваўся выяўлены ў Цвярскім летапісе погляд на Смаленск і іншыя тэрыторыі, заселеныя крывічамі, як «полотские власти». Праўда, і Смаленск у сваю чаргу таксама не забываўся пра сваё крывіцкае паходжанне і пазней, у XII—XIII стст., глядзеў на сябе як сталіцу крывічоў і выступаў сапернікам Полацка ў аб'яднанні крывіцкіх земляў.

Імкненне Полацка да ўз'яднання дзвінскіх і дняпроўскіх крывічоў, а таксама да канчатковага аб'яднання крывіцкіх і дрыгавіцкіх земляў і вызначыць галоўны кірунак дзейнасці полацкіх князёў, першым з якіх быў Рагвалод.

## ЛЕТАПІСНЫЯ АПАВЯДАННІ 980, 988 і 1128 гадоў

Новы перыяд нашай гісторыі, які прыпадае на другую палову X ст., з поўным правам можа быць названы рагвалодаўскім, бо ён непарыўна звязаны з імем і дзейнасцю першага гістарычна вядомага полацкага князя Рагвалода. Паказальна тое, што імя яго заззяла ў нашай гісторыі не адзінокім, а ў цэлым сузор'і выдатных імёнаў. З'яўленне першых гістарычных асоб — факт выключна важнага значэння ў працэсе станаўлення народа. З ім народ як бы выходзіць са змроку сваёй перадгісторыі на шлях сапраўднай гісторыі, асветленай славутымі імёнамі і падзеямі.

У цэлым усе звесткі пра нашых першых гістарычных асоб знаходзяцца ў летапісных апавяданнях, якія дайшлі да нас у «Аповесці мінулых гадоў» пад 980 г., у Лаўрэнцьеўскім летапісе пад 1128 г. і ў Цвярскім і Густынскім летапісах пад 988 г. Найперш разгледзім запісы 980 і 1128 гг.

Змест першага такі. Уладзімір Святаславіч, які княжыў у Ноўгарадзе, перад паходам на свайго брата, кіеўскага князя Яраполка, паслаў да полацкага князя Рагвалода сказаць: «Хачу дачку тваю ўзяць за жонку». Рагвалод спытаўся ў дачкі: «Ці хочаш ісці за Уладзіміра?» Яна адказала: «Не хачу разуць сына рабыні, а хачу за Яраполка». Гэты Рагвалод прыйшоў з-за мора, маючы сваю воласць у Полацку, а Тур — у Тураве, па ім і празваліся тураўцы... І прыйшлі слугі Уладзіміра і паведамілі яму словы Рагнеды. Уладзімір жа сабраў шмат воінаў — варагаў, славенаў, чудзі і крывічоў — і пайшоў на Рагвалода. А ў гэты час ужо сабраліся везці Рагнеду да Яраполка. І напаў Уладзімір на Полацк і забіў Рагвалода і яго двух сыноў, а дачку яго змусіў быць сваёй жонкай і пасля гэтага пайшоў на Яраполка.

А. Шахматаў лічыў, што апавяданне 1128 г. захавала ў сабе першапачатковую версію. І сапраўды, хоць яно мае шэраг агульных месцаў з апавяданнем 980 г., але ў ім ёсць і істотныя адрозненні. Так, паводле яго, Уладзімір не сам сватаецца да Рагнеды, бо быў яшчэ зусім малалетні, а яго сватае ягоны дзядзька Дабрыня. Менавіта апошні і падгаварыў Уладзіміра на дзікі гвалт над Рагнедай і на забойства яе бацькі. Тут жа гаворыцца, што Уладзімір даў Рагнедзе новае імя — Гарыслава. У гэтых дэталях і захаваны тыя вельмі важныя падрабязнасці, што былі апушчаны ў «Аповесці мінулых гадоў».

Пасля запіс 1128 г. паведамляе пра далейшы лёс Рагнеды. Яна пачала ненавідзець Уладзіміра за тое, што ён, беручы сабе іншых жонак, забыўся пра яе. І вось аднойчы, калі ён, заехаўшы да яе, заснуў, яна рашыла яго зарэзаць. Але Уладзімір абудзіўся і схапіў яе за руку. Рагнеда без страху сказала Уладзіміру, чаму яна хацела яго забіць: «За тое, што бацьку майго забіў і зямлю яго паланіў і не любіш мяне з гэтым дзіцянём» (маецца на ўвазе сын Ізяслаў). Уладзімір загадаў ёй апрануцца ў царскае адзенне, у якім яна была ў час шлюбу, і сесці на пасцелі. Чакаючы расправы, Рагнеда дала голы меч сыну Ізяславу, пры гэтым дадаўшы: «Калі бацька прыйдзе сюды, скажы яму: «Ты не адзін тут» (у некаторых летапісах іншыя словы). Ізяслаў так і зрабіў; Уладзімір, пачуўшы гэта і прамовіўшы: «А хто ведаў, што ты тут», — апусціў меч, склікаў баяр і паведаміў ім аб усім. І яны сказа-

лі: «Ужо не забі яе дзеля дзіцяці гэтага, але аднаві айчыну яе і дай ёй з сынам сваім». Уладзімір так і зрабіў. Ён збудаваў горад, які назваў Ізяслаўлем, і паслаў туды Рагнеду з сынам. І з гэтага часу меч узнімаюць Рагвалодавы ўнукі (г. зн. полацкія князі) супроць унукаў Яраслава (г. зн. кіеўскіх князёў) — такімі словамі заканчваецца летапіснае апавяданне.

У Цвярскім і Густынскім летапісах пад 988 г. апавядаецца пра рашучую адмову Рагнеды на прапанову Уладзіміра выйсці замуж за якога-небудзь з яго вяльможаў, паколькі ён, прыняўшы хрысціянства, павінен жыць цяпер з жонкай-хрысціянкай. Рагнеда рашыла далейшае сваё жыццё прысвяціць Хрысту. І як толькі яна сказала аб гэтым, сын яе (Яраслаў), калека, адразу пачаў хадзіць. Рагнеда стала манашкай, прыняўшы імя Анастасіі.

Кожны з гэтых запісаў мае пэўную палітычную тэндэнцыю, якая і вызначае яго змест. У рэдакцыі 980 г. полацкія падзеі выступаюць толькі як адзін з эпізодаў барацьбы наўгародскага князя Уладзіміра са сваім братам, кіеўскім князем Яраполкам, і пра іх гаворыцца як бы мімаходзь. Таму гэтае апавяданне вельмі сціслае па сваім змесце. У запісе 1128 г. галоўнае месца займае апавяданне пра помсту Рагнеды Уладзіміру. Гэтай помстай і тлумачыцца, чаму Уладзімір аднавіў айчыну Рагнеды і чаму ў варожых адносінах знаходзіліся полацкія і кіеўскія князі. Апавяданні Цвярскога і Густынскага летапісаў найбольш тэндэнцыйныя. Іх галоўнай задачай было паказаць цудадзейную сілу новапрынятай хрысціянскай веры.

Як бачым, у гэтых летапісных апавяданнях гісторыя выступае не сама па сабе, а як бы праходзіць скрозь поўны драматызму лёс полацкай князёўны Рагнеды. Але гэта ніколькі не зніжае гістарычную каштоўнасць запісаў. Наадварот, гэта надало ім каларытнасць і пераканаўчасць жывых чалавечых дакументаў, якія адначасова нясуць у сабе і багатую гістарычную інфармацыю. Бясспрэчна, што з цягам часу, перадаючыся з аднаго пакалення ў другое, пакуль не былі занесены ў летапіс, апавяданні пра Рагнеду ўвабралі ў сябе і нямала легендарнага, на што будзе ўказана далей. Аднак, аддзяляючы легендарнае ад праўдзівага, мы тым самым ніколькі не хочам абясцэніць яго. У легендарным народ асэнсоўваў сваё гістарычнае быццё. Бадай, не знойдзецца ніводнага народа, які б пачатак сваёй гісторыі не звязваў з той ці іншай легендай.

Тое, што ў «Аповесці мінулых гадоў» разгляданыя намі падзеі пададзены пад 980 г., яшчэ не значыць, што яны сапраўды мелі месца ў гэты год. Зразумела, што яны не маглі

адбыцца так хутка і толькі ўмоўна былі занесены летапісам пад 980 г. Дарэчы зазначым, што ўся гісторыя, звязаная з барацьбой Уладзіміра з Рагвалодам, а пасля і з Яраполкам, вельмі заблытаная, асабліва ў адносінах храналогіі, і таму зразумелая спроба даследчыкаў унесці яснасць у гэта пытанне. А. Шахматаў даводзіў, што Уладзімір пайшоў на Полацк адразу пасля таго, як стаў наўгародскім князем, г. зн. у 970 г. Аднак у той час былі вельмі малалетнія і Уладзімір, і Рагнеда, і Яраполк, і гэту дату можна прыняць толькі як крайнюю, раней якой не мог адбыцца паход Уладзіміра на Полацк. З другога боку, не магло тое адбыцца і пазней 11 чэрвеня 978 г., бо пад гэтай датай у «Пахвале» Якава адзначана заняцце Уладзімірам кіеўскага пасада. Іаакімаўскі летапіс і Летапісныя зводы 1497 і 1518 гг. датуюць полацкія падзеі 977 г. З гэтым можна было б і пагадзіцца, але вядома, што Яраслаў Мудры памёр у 1054 г. у 76-гадовым узросце. Значыць, ён нарадзіўся ў 978 г. Паколькі Яраслаў быў другім сынам Рагнеды, то першы — Ізяслаў — мог нарадзіцца не пазней 977 г., і, такім чынам, напад Уладзіміра на Полацк і яго жаніцьба з Рагнедай маглі адбыцца не пазней 976 г. А гэта паказвае, што вайна Уладзіміра з Рагвалодам была самастойнай гістарычнай падзеяй, незалежнай ад яго барацьбы з Яраполкам, якая бярэ свой пачатак з 977 г.[187].

## РАГВАЛОД

Перш за ўсё ўвагу прыцягвае Рагвалод. Ён першы полацкі князь, імя якога ўпомнена ў гістарычных крыніцах. Ці былі да яго князі ў Полацку? Бясспрэчна, што былі, бо ў летапісе пад 907 г. пра гарады, сярод якіх быў і Полацк, сказана, што ў іх «седяху велиции князи под Ольгом сущи».

Найбольш спрэчным з'яўляецца пытанне: адкуль з'явіўся Рагвалод у Полацку і хто ён па паходжанні? У летапісе сказана, што Рагвалод прыйшоў «з-за мора». Для гісторыкаўнарманістаў гэтага было дастаткова, каб аб'явіць яго нарманам, якому ўдалося ў канцы X ст. падначаліць сабе Полацк і стаць у ім князем. Імя яго, як і яго дачкі Рагнеды, стала выводзіцца са скандынаўскіх моваў. Але з гэтым пагадзіцца нельга. Імя Рагвалод (у некаторых варыянтах Рагаварод) — чыста славянскае, яно азначае «ўладар рога», г. зн. мыса, і пашырана ў іншых славянскіх народаў, у прыватнасці ў чэхаў[188], да якіх нарманы не даходзілі. Славянскім з'яўляецца і імя Рагнеда, правільней Рагнедзь. Яно таксама мае свае варыянты ў чэхаў. І ў Наўгародскім летапісе пад 1135 г. упамі-

наецца княгіня Рагнедзь. У карысць славянскага паходжання Рагвалода гавораць і словы Рагнеды, што яна не хоча разуць свайго жаніха. А разуванне жаніха нявестай — славянскі звычай, яго не было ў германцаў, у якіх, наадварот, жаніх абуваў нявесту ці дарыў ёй абутак[189]. А. Насонаў не без падстаў гаварыў аб вялікай долі верагоднасці таго, што Рагвалод паходзіў з мясцовага княскага роду і што яго заморскае паходжанне было данінай пазнейшай модзе — абавязкова выводзіць род значных асоб з-за мяжы.

Але і прыход «з-за мора» не можа яшчэ сведчыць пра нарманскае паходжанне. Полацк па Заходняй Дзвіне падтрымліваў сувязі з паморскімі славянамі, якія жылі на паўднёвым узбярэжжы Балтыйскага мора. Як вядома, у пачатку XIII ст. полацкі князь Барыс быў жанаты з паморскай князёўнай Святохнай, і таму не выключана, што адтуль у свой час мог прыйсці і Рагвалод. Заморскае паходжанне, як лічыў А. Насонаў, магло быць прыпісана Рагвалоду пазней. Гісторык І. Галубоўскі выказаў меркаванне, што гэта адбылося ў XII ст., калі ўзаемная барацьба кіеўскіх і полацкіх князёў дасягнула найвышэйшага напалу. Паколькі ў гэты час склалася ўяўленне аб прызванні з-за мора Рурыка, ад якога кіеўскія князі вялі свой род, то і ў Полацку была складзена легенда аб заморскім паходжанні самастойнай княскай дынастыі, што ставіла яе па годнасці роўнай кіеўскай [190]. Сапраўды, у адным з летапісаў сказана, што продак Рагвалода прыйшоў з варагаў разам з Рурыкам[191].

Мы, са свайго боку, хочам звярнуць увагу на адну акалічнасць. Нам здаецца, што даследчыкі не раскрылі належным чынам змест летапіснага паведамлення: «Бе бо Роговолод пришёл (а ў Лаўрэнцьеўскім і Іпацьеўскім «перешёл».— *М. Е.)* і — заморья, имяше свою волость в Полотьске». З яго можна зрабіць вывад, што Рагвалод прыйшоў (ці перайшоў, што яшчэ больш паказальна) з-за мора ў Полацк, маючы тут сваю воласць, г. зн. сваё законнае ўладанне. Відаць, у гэты час Полацк застаўся без князя, хутчэй за ўсё з прычыны яго смерці, і яго месца як наследны ўладар і заняў Рагвалод. Хто ж мог быць перад ім у Полацку? У гэтых адносінах нашу ўвагу прыцягвае ўпомненая ў дагаворы кіеўскага князя Ігара з Візантыяй у 945 г. Прадслава, якая ў ліку іншых прадстаўнікоў вышэйшай знаці мела свайго пасла[192]. Магчыма, што яна і княжыла ў той час у Полацку, а пасля яе смерці сын Рагвалод, які па звычаю таго часу мог княжыць і дзесьці ў замор'і, у тых жа паморскіх славянаў, вярнуўся ў Полацк як у сваю воласць. Зазначым, што імя Прадслава — адно з тых імёнаў, што шырока бытавалі ў

Полаччыне. Відаць, нездарма ж дачка Рагвалода Рагнеда дала сваёй дачцэ гэта імя, магчыма, у гонар сваёй бабкі. Імя Прадслава насіла да пастрыжэння ў манашкі і вядомая Ефрасіння Полацкая. Як бачым, адзначаны ў летапісе прыход ці, магчыма, пераход, што больш верагодна, «з-за мора» Рагвалода цяжка ўкладваецца ў канцэпцыю пра яго нарманскую прыналежнасць. Хутчэй за ўсё ён паходзіў з мясцовага княскага роду. Аднак, зрэшты, не паходжанне самае важнае. Важней тое, што Рагвалод выступае як гістарычны дзеяч, поўнасцю аддадзены інтарэсам Полацка.

Калі ж ён з'явіўся у Полацку? На гэтае пытанне дае адказ Маскоўскі летапісны звод канца XV ст.: «...во дни Святослава Игоревича» [193]. Апошні быў вялікім кіеўскім князем з 945 па 972 гг. Ён амаль усё жыццё правёў у ваенных паходах, што адцягвала яго ўвагу ад унутраных спраў дзяржавы. Ён нават меў намер перанесці сталіцу з Кіева на Дунай. Менавіта аслабленне цэнтральнай улады ў гэты час і выкарыстаў Рагвалод у мэтах вызвалення Полацка з-пад улады Кіева. Але як канкрэтна адбылося адасабленне Полацкай зямлі, мы не ведаем, летапіс пра гэта маўчыць. Паколькі момант Рагвалодам быў выбраны ўдала, то не выключана, што ўсё адбылося без крыві.

Як адзначалася ў літаратуры, Полаччына раней за іншыя землі пачала пашыраць сваю абласную тэрыторыю[194]. Відаць, першым крокам Рагвалода ў гэтым напрамку і было аднаўленне адзінства Полацкай і Дрыгавіцкай земляў. Летапіс на гэта дае толькі намёк, паставіўшы побач з Рагвалодам тураўскага князя Тура. Больш дэталёва гэта раскрыта ў паданні, запісаным у 70-х гадах XIX ст. Паводле яго, Рагвалод накіраваўся на поўдзень па цячэнні Дняпра і, прыйшоўшы да вусця Прыпяці, выслаў уверх па гэтай рацэ адну з сваіх дружын на чале з Турам, і апошні, выбраўшы выгаднае месца, пасяліўся на ім і збудаваў пасля горад [195]. У нас няма падстаў адмаўляць гістарычную праўдзівасць гэтага падання. Рагвалод мог ісці толькі ўздоўж Дняпра, тады іншых дарог, як па рэках і паўз іх, не было. Спыніцца ён мог толькі пры ўпадзенні Прыпяці ў Дняпро, каб гэтым самым, загарадзіўшы дарогу кіеўскаму войску, якое магло толькі тут ісці, даць магчымасць Туру замацавацца ў Дрыгавіцкай зямлі. Падначаліўшы яе і гэтым самым намнога ўмацаваўшыся, Рагвалод перавёў свой позірк на поўнач.

Мы ўжо ведаем летапісную легенду аб прычыне нападу Уладзіміра на Полацк. Сапраўдная ж прычына гэтага раскрыта ў Іаакімаўскім летапісе, у якім сказана, што Рагвалод напаў на наўгародскія валасці[196]. Гэта гаворыць пра тое, што

ўжо ў 70-х гадах X ст. інтарэсы Полацка прыйшлі ў супярэчнасць з інтарэсамі Ноўгарада. На жаль, Іаакімаўскі летапіс не ўказвае, на якія менавіта наўгародскія воласці напаў Рагвалод, і пра гэта мы можам толькі здагадвацца. Наўрад ці правільна, што ўсе валокі ў міжрэччы Дняпра і Дзвіны ў той час належалі Полацку[197]. Гэта, як мы ўбачым, абвяргаюць падзеі 1021 г. Але яшчэ задоўга да гэтага разбагацелыя полацкія купцы імкнуліся выйсці да Дняпра і гэтым самым мець у сваіх руках ключавыя пазіцыі на водным шляху «з варагаў у грэкі», які ў канцы X ст. набывае асабліва вялікае значэнне[198]. А яны былі ў руках Ноўгарада, і таму Рагвалод і напаў хутчэй за ўсё на ўладанне апошняга. Гэта супрацьпастаўленне інтарэсаў Полацка і Ноўгарада асабліва добра выяўлена ў Лаўрэнцьеўскім летапісе: «Рогволоду держащю и владеющю и княжащю Полотьскую землю, а Володимиру сущю в Новегороде».

Аб вялікай сіле Полацка ў гэты час сведчыць тое, што Уладзімір для паходу супроць яго збірае «вои многи» з варагаў, славенаў, чудзі, крывічоў (відаць, ізборскіх і смаленскіх). Фактычна супроць Полацка былі кінуты ўсе сілы Паўночнай Русі. Рагвалод выйшаў насустрач небяспецы, але, пацярпеўшы паражэнне, адступіў у Полацк, за сценамі якога мужна абараняўся са сваім войскам. Узяты ў палон, ён быў забіты разам з жонкай і двума сынамі. У апошнім учынку нельга не бачыць імкненне Уладзіміра знішчыць дынастыю полацкіх князёў, якая, магчыма, ішла яшчэ з роду племянных старэйшын. Сляды пажарышча, якое археолагі датуюць канцом X ст., сведчаць аб разбурэнні Уладзімірам Полацка[199].

Такім чынам, першая спроба Полацка вырвацца па Заходняй Дзвіне да Дняпра аказалася беспаспяховай і трагічнай як для Рагвалода, так і для ўсёй зямлі. Аднак гэта не закрэслівае значэння Рагвалода ў нашай гісторыі. Ён першы ўбачыў і па-сапраўднаму ацаніў вялікія магчымасці Полацкай зямлі як асобнай дзяржавы са сваімі мэтамі і інтарэсамі, супрацьлеглымі мэтам і інтарэсам Кіева, і аднавіў яе самастойнасць. Пачаўшы барацьбу за ўз'яднанне дзвінскіх і дняпроўскіх крывічоў і канчатковае аб'яднанне Полацкай і Дрыгавіцкай земляў, ён аднавіў таксама наступальны характар Полаччыны, часова страчаны ёю ў перыяд залежнасці. Усё гэта выяўляе ў асобе Рагвалода выдатнага гістарычнага дзеяча. Невыпадкова таму, што менавіта ён і быў першы з полацкіх князёў, занесеных у аналы сусветнай гісторыі.

## ТУР

Калі факт існавання Рагвалода як гістарычнай асобы ўсімі даследчыкамі прызнаецца, то ў адносінах Тура такой адзінай думкі няма. Шэраг гісторыкаў (А. Шахматаў, М. Доўнар-Запольскі, А. Грушэўскі, Д. Ліхачоў) сцвярджаюць, што Тур — асоба выдуманая. Іншыя (В. Тацішчаў, В. Ключэўскі, У. Завітневіч, М. Ціхаміраў) не адмаўлялі гістарычнай сапраўднасці Тура. Праўда, усе яны лічылі яго нарманам, але гэтага прыняць нельга. Не маюць рацыі і тыя, хто сцвярджае, што ў старажытных славянаў адсутнічала імя Тур. Яно зарэгістравана ў рускіх летапісах, было і ў іншых славянскіх народаў [200].

Прычынай рознагалосіцы даследчыкаў аб Туры з'яўляецца выключна бедная інфармацыя пра яго. Летапісец, паведаміўшы пра Рагвалода, што ён меў уласць у Полацку, дадаў: «...а Туры Турове, от него же и туровцы прозвашася» (ва Усцюжскім летапісе Тур названы братам Рагвалода). І ўсё. Гэта кароткая фраза, сказаная летапісцам пра Тура як бы мімаходзь, дала падставу некаторым гісторыкам лічыць яе пазнейшай штучнай устаўкай. І. Галубоўскі даводзіў, што яна была ўнесена ў летапіс у разгар барацьбы кіеўскіх і полацкіх князёў у 20-х гадах XII ст., якая быццам бы вялася галоўным чынам за Дрыгавіцкую зямлю, і што ў гэты час у Полацку складваецца ўяўленне пра даўнія сувязі Полацка з ёю, і гэта ў традыцыях таго часу падмацоўвалася ўказаннем на дынастычную сувязь Рагвалода і Тура[201]. Але справа ў тым, што менавіта ў запісе Лаўрэнцьеўскага летапісу пад 1128 г., перад якім ставілася галоўнай задачай абгрунтаванне прычыны варожасці Рагвалодавічаў і Яраславічаў, і адсутнічае паведамленне пра Тура. І таму думка І. Галубоўскага не з'яўляецца пераканаўчай. Мы бачылі, што адзінства Полацкай і Дрыгавіцкай земляў вызначылася ўжо ў даўнія часы, што і адзначана яшчэ ў запісе пад 980 г. Летапісец тут выявіў сапраўды праніклівае бачанне гістарычнай тэндэнцыі.

Непрымальнае таксама сцверджанне, што імя Тура было прыдумана для таго, каб вытлумачыць назву Турава і тураўцаў. Аднак мы лічым, што сапраўды летапісны Тур быў заснавальнікам горада Турава. Гэтаму не супярэчаць і дадзеныя археалогіі, якія паказваюць, што ніжні культурны пласт тураўскага гарадзішча адносіцца да канца X ст.[202], г. зн. да часу, калі, паводле летапісу, пачаў княжыць Тур. Такім чынам, Тураў узнік як палітычны цэнтр княства, і таму ён не мог быць племянным цэнтрам дрыгавічоў. Ім, відаць, быў якісьці іншы горад, які ў адрозненне ад Полацка па нейкіх

прычынах не змог стаць сталіцаю княства. Тур палічыў патрэбным узвесці новы горад, што па імені заснавальніка і атрымаў сваю назву. У карысць гэтага як праўдзівага гістарычнага факта сведчыць, апроч упомненага вышэй, і народнае паданне, запісанае ў 20-я гады нашага стагоддзя. У ім таксама гаворыцца аб прыходзе Тура сюды з вялікім войскам і збудаванні ім Турава ў дадзеным месцы таму, што тут «былі вялікія выгоды — звяры, рыба і рознае птаства»[203]. Вядома, побач з гэтым больш важнае значэнне мела геаграфічнае становішча Турава, які быў закладзены ў самым цэнтры Дрыгавіцкай зямлі. Перад ім Прыпяць прымала свае буйнейшыя прытокі Піну, Ясельду, Случ, Гарынь і Убарць, што звязвалі Тураў з басейнамі Нёмана, Заходняга Буга і гэтым самым рабілі яго вузлом важных водных шляхоў[204]. У свой час лічыўся легендарным і Кій як заснавальнік Кіева. Зараз даказана, што гэта сапраўды так і было[205]. Зусім верагодна, што і князь Тур — таксама заснавальнік Турава. Усё сказанае можа пацвердзіць слушную думку У. Завітневіча: «Калі гістарычнае існаванне Рагвалода апраўдана пазнейшымі падзеямі, дык, застаючыся паслядоўнымі, мы павінны прызнаць і Тура за сапраўдную гістарычную асобу»[206].

## БАРАЦЬБА РАДЗІМІЧАЎ

Заняцце Полаччыны з'явілася для Ноўгарада трохі пазней важным козырам у барацьбе з Кіевам. Нездарма ж Іаакімаўскі летапіс сведчыць, што пасля нападу наўгародскага Уладзіміра на кіеўскага Яраполка апошні «посла же и воинство во кривичи да воспретят Владимиру воевать»[207]. Тэкст гэты вельмі цьмяны. Калі прытрымлівацца граматыкі, то крывічы павінны былі перашкодзіць ваяваць Уладзіміру, а калі прытрымлівацца сэнсу, то гэта павінна было зрабіць войска, бо для чаго ж тады яно пасылалася. Але, як бы там ні было, і ў першым і ў другім выпадках падкрэсліваецца вялікае значэнне Крывіцкай зямлі ў барацьбе Кіева і Ноўгарада. Больш за тое, паводле таго ж летапісу, нават вырашальная бітва паміж Уладзімірам і Яраполкам адбылася не каля Кіева, а на р. Дручы (г. зн. Друці) у трох днях ад Смаленска[208]. Апошняе ўдакладненне выклікае асаблівы давер да гэтага паведамлення. На жаль, гістарычная навука пакуль што не прымае яго пад увагу, гэтак жа як і дакладную дату ўкняжання Уладзіміра ў Кіеве — 11 чэрвеня 978 г., указаную ў «Пахвале» Якава. А дарэмна. Уважлівы разгляд гэтых паведамленняў мог бы праліць святло на вельмі заблытаную

гісторыю падзей, звязаных з барацьбой Уладзіміра і Яраполка.

З уступленнем Уладзіміра на велікакняскі пасад аднаўлялася (але зноў толькі часова) адзінства і палітычная раўнавага Кіеўска-Наўгародскай дзяржавы. Гэта і дало ёй магчымасць аднавіць зноў вайсковую палітыку. У 981 г. Уладзімір хадзіў на ляхаў, у гэтым жа і наступных гадах — на вяцічаў. У 983 г. быў зроблены паход на яцвягаў (гэта першае ўпамінанне іх у летапісе) і ўзята іх зямля. На жаль, у крыніцы не ўдакладняецца месца паходу. Яцвягі займалі, як мы ведаем, значную тэрыторыю, і таму не выключана, што гэты паход мог быць прадпрыняты на тэрыторыю Беларусі, у раёны Папрыпяцця, ці Панямоння, ці Пабужжа.

Але для нас асаблівую цікавасць складае паведамленне летапісу пад 984 г. пра заваяванне радзімічаў. Зразумела, што з пакарэннем вяцічаў лёс радзімічаў быў прадвырашаны. Уладзімір, робячы паход на іх, наперадзе сябе паслаў ваяводу па прозванню Воўчы Хвост, які сустрэў радзімічаў на рацэ Пяшчане і перамог іх. З таго часу і з'явілася прымаўка, якой дражняць радзімічаў: «Пяшчанцы воўчага хваста бегаюць». У заключэнне летапісец яшчэ раз паўтарыў, што радзімічы ад роду ляхаў і аселі тут, а таксама дадаў, што яны «плацяць даніну Русі, павоз вязуць і дагэтуль»[209].

Розныя даследчыкі па-рознаму адносіліся да гэтай падзеі. Адны бачылі ў ёй карную экспедыцыю супроць радзімічаў, якія паўсталі ці адклаліся, другія — сутычку Уладзіміра і яго дружыннікаў у час збору даніны, трэція лічылі, што гэта падзея перанесена з часоў Алега, а чацвёртыя наогул прымалі яе за легенду, створаную для тлумачэння народнай прымаўкі[210]. Ні з воднай з гэтых думак нельга пагадзіцца. Для правільнай ацэнкі гэтай падзеі трэба прыгадаць, што яшчэ ў прамежку 912—944 гг. радзімічы разам з вяцічамі і севяранамі выйшлі з-пад улады Кіева. Таксама паказальны факт, калі ўспомніць, што летапісец паказваў гэтыя тры плямёны блізкімі па сваіх звычаях. І гэта невыпадкова. Мы ўжо бачылі, што шлях севяранаў ішоў з Польшчы, а радзімічы і вяцічы таксама вялі свой род з ляхаў. Нездарма ж і пасяліліся яны побач адзін аднаго. Ці не ўтварылі гэтыя тры плямёны, аддзяліўшыся ад Кіева, нейкую асобную палітычную адзінку, магчыма, нешта накшталт федэрацыі? Гэта тым больш верагодна, бо ў далейшым з іх тэрыторыі поўнасцю склалася Чарнігаўскае княства. Сцверджанне пра заваяванне радзімічаў Святаславам не пацвярджаецца крыніцамі[211]. Зыходзячы з гэтага, паход Уладзіміра ў 984 г. трэба лічыць заваёўчым паходам з мэтай вярнуць радзімічаў пад уладу Кіева. Гэта пацвярджаецца і тым, што сутычка

адбылася на рацэ Пяшчане (правым прытоку Проні), якая была рубяжом радзіміцкіх паселішчаў, і таму натуральна, што радзімічы менавіта тут сустрэлі праціўніка[212]. Але паўторнае заваяванне радзімічаў апроч даніны давала Кіеву яшчэ адну эканамічную выгоду. Справа ў тым, што тэрыторыя радзімічаў, як і сумежных з ёю раёнаў, была багатая балотнымі рудамі, нават вядомая ўжо нам рака Пяшчана мела другую назву — Рудніца. Са шматлікіх радзіміцкіх балотаў здабываўся сырэц для выпрацоўкі металу[213]. Калі гэтая рака не страціла свайго прамысловага значэння яшчэ на рубяжы XVIII—XIX стст.[214], то няцяжка ўявіць, як яна цанілася ў канцы X ст. Не можа быць сумнення, што авалоданне радзіміцкімі руднымі багаццямі было адной з важнейшых мэт пакарання радзімічаў Уладзімірам. Нездарма ж таму Воўчы Хвост найперш накіраваўся на Пяшчану, асабліва багатую рудамі, і нездарма ж радзімічы тут сканцэнтравалі сваю абарону: тут знаходзілася іх найбольшае багацце.

## РАГНЕДА

Вяртаючыся да Полацка, мы звернем увагу зноў на Рагнеду, якая, па сутнасці, з'яўляецца галоўным героем летапісных апавяданнаў 980, 988 і 1128 гадоў і з якой звязаны далейшы лёс яе радзімы. Вобраз яе найбольш успрыняў легендарныя рысы, але гэта, вядома, не значыць, што яе не было ў сапраўднасці. Пра яе неаднаразова ўпамінаюць летапісы, называюцца яе дзеці, указаны год яе смерці (1000), пра яе ў народнай памяці таксама засталіся паданні.

Асоба яе прыцягвала да сябе асабліва пільную ўвагу даследчыкаў. І гэта тлумачыцца ў значнай меры яе легендарнасцю, выяўленне якой і выклікала найбольш спрэчак. Некаторыя вучоныя, зыходзячы з тэорыі запазычання сюжэтаў у народным эпасе, даходзілі да крайнасцяў. Б. Сакалоў аб'яўляў Рагнеду злепкам з тыпу «дзевы-асілка» са старанямецкага эпасу[215]. Адзначалася таксама падабенства лёсу Рагнеды з лёсам гераінь скандынаўскіх сагаў. Сапраўды, у адной з іх апавядаецца пра сватанне нарвежскага конунга да дачкі другога, якую звалі Асай. Атрымаўшы адмову, ён гэтак жа, як і Уладзімір, ідзе вайной. У баі гінуць і бацька і брат Асы, а яе самую пераможца бярэ сабе за жонку, але праз гады два гіне ад рукі падасланага ёй забойцы. У Асы, як і ў Рагнеды, ёсць сын ад мужа-захопніка, і гэтак жа, як Рагнеда пасля разрыву з Уладзімірам атрымлівае з Ізяславам сваю вотчыну, Аса таксама па смерці мужа ідзе ў тое княства, якім валодаў яе бацька, і там выхоўваецца яе сын[216].

Ёсць агульнае ў Рагнеды і з гераіняй сагі аб Алаве — Гудрун[217]. Указваючы на гэтыя факты, Е. А. Рыдзеўская не выключала магчымасці пранікнення летапіснага сказання пра Рагнеду ў нарвежскі эпас[218], асабліва ў сагу пра Алава. Амерыканскі вучоны Крос у 1931 г. выказаў думку, што ў жонцы Уладзіміра, якая апекавалася над юным Алавам у час яго знаходжання на Русі, трэба бачыць нікога іншага, як Рагнеду, хоць яна і ўведзена ў сагу пад імем Алогіі (Вольгі).

Аднак вывады пра запазычанне сюжэтаў трэба рабіць вельмі асцярожна. Нельга забывацца, што ў тыя старадаўнія часы паміж шматлікімі ўдзельнымі князямі вельмі частымі былі войны, у якіх маглі паўтарацца або вар'іравацца аднолькавыя жыццёвыя сітуацыі, такія, напрыклад, як жаніцьба пераможцы на дачцэ пераможанага ці забітага князя, за чым, натуральна, паколькі шлюб быў гвалтоўны, магла ісці помста маладой жонкі нялюбаму мужу, ад'езд яе на радзіму і інш. Менавіта гэтым найперш (а не выключна запазычаннем) і трэба тлумачыць падабенства і ўстойлівасць сюжэтаў народнага эпасу.

І ў той жа час кожная жыццёвая сітуацыя, што адбівалася ў тым ці іншым творы, нягледзячы на падабенства, захоўвае ў сабе і шэраг непаўторных момантаў. І сапраўды, як ні нагадвае летапіснае апавяданне пра Рагнеду некаторыя скандынаўскія сагі, усё ж ніводная з іх гераінь не адмаўляе свайму жаніху з прычыны яго нізкага паходжання. Ніводная сага не гаворыць пра заступніцтва за маці малалетняга сына, як гэта мы бачым у апавяданні аб Рагнедзе. Не адзначана ў іх і заступніцтва за гераіню баяраў, што мела месца ў выпадку з полацкай князёўнай. Гэтыя і іншыя дэталі паказваюць, што апавяданне аб Рагнедзе мае больш праўдзівыя гістарычныя вытокі і яго нельга цалкам аб'яўляць летапіснай легендай, як гэта назіраецца ў некаторых даследаваннях. Тое, што асоба Рагнеды з цягам часу аздобілася легендамі, толькі падкрэслівае яе незвычайнасць, а не адмаўляе яе сапраўднасці.

Кожнае летапіснае апавяданне раскрывае паасобныя рысы характару Рагнеды, і ўсе яны даюць цэласнае ўяўленне пра яе. У запісе 980 г. мы бачым Рагнеду гордай князёўнай, што не пажадала выйсці замуж за сына рабыні (маці Уладзіміра была ключніцай), сказаўшы пры гэтым: «Не хачу разуць рабычыча». Мы ўжо гаварылі, што не гэтыя словы з'явіліся прычынай нападу Уладзіміра на Полацк. Магчыма, яна іх не гаварыла і яны прыпісаны ёй паданнем. Думаем, што гэтыя словы былі хутчэй за ўсё сказаны Уладзіміру пасля захопу Полацка, калі ён самохаць захацеў узяць яе за жонку. Яны і былі прычынай жорсткай расправы з яе бацькамі

кам, маці і братамі. У адным з летапісаў ёсць такія словы Рагнеды, звернутыя да Уладзіміра: «Ты, озлобясь за одно моё слово, отца моего убил, землёю его овладел, меня, яко пленницу, в жёны взял...»[219] Можна думаць, што ў пазнейшы час зняважлівыя словы Рагнеды пра Уладзіміра, згодна з фальклорнымі традыцыямі, былі ўспрыняты як галоўная прычына нападу апошняга на Полацк.

У гістарычнай літаратуры словы Рагнеды «хачу за Яраполка», сказаныя ёю пасля адмовы Уладзіміру, тлумачацца як паказчык таго, што Рагвалод быў у саюзе з Кіевам, дзе княжыў Яраполк. Зразумела, што Полацк, знаходзячыся паміж Кіевам і Ноўгарадам, якія супернічалі між сабою, і будучы пакуль што слабейшым за кожны з іх, павінен быў весці вельмі складаную і тонкую дыпламатыю, якая заключалася галоўным чынам у выкарыстанні супярэчнасцяў паміж імі і перацягненні на свой бок то Кіева для барацьбы з Ноўгарадам, то Ноўгарада для барацьбы з Кіевам. Таму цалкам магчыма, што Рагвалод, збіраючыся нападаць на Ноўгарад, мог увайсці ў саюз з Яраполкам, замацаваўшы гэта ў звычаях таго часу шлюбнымі адносінамі. І ўсё ж ёсць падставы лічыць гэтыя словы за пазнейшую ўстаўку ў летапісе. Па-першае, добра вядома, што Яраполк быў ужо жанаты з палоннай грэчаскай манашкай. Праўда, Яраполк быў язычнікам і таму мог мець некалькі жонак. Але трэба ўлічваць, што ён выхоўваўся яго бабкай хрысціянкай Вольгай. У адным летапісе сказана, што Яраполк «любіў хрысціян і калі сам не ахрысціўся, баючыся народа, то, прынамсі, другім не перашкаджаў»[220]. Некаторыя гісторыкі (В. Тацішчаў, С. Салаўёў) схільны былі бачыць яго паражэнне ў барацьбе з Уладзімірам яго прыязнасцю да хрысціянства. Але нават калі б Яраполк і пасватаўся да Рагнеды, то гэта гордая князёўна наўрад ці задаволілася б роляю другой жонкі. З усяго гэтага можна зрабіць дапушчэнне, што словы «Яраполка хачу» з'яўляюцца тэндэнцыйнай устаўкай летапісца-кіяўляніна, каб гэтым самым падкрэсліць прыхільнасць Полацка да Кіева. Увядзенне Яраполка ў гэта летапіснае апавяданне стварыла асабісты трохкутнік, у якім нельга не бачыць увасабленне палітычнага трохкутніка. Наогул, у легендарнай гісторыі сватання наўгародскага і кіеўскага князёў да дачкі полацкага князя летапісцам асэнсаваны тагачасныя палітычныя ўзаемаадносіны, і ў першую чаргу барацьба Ноўгарада і Кіева за ўплыў у Полацку.

Запіс 1128 г. высвятляе нам новыя выдатныя якасці Рагнеды: яе бязмежную адданасць айчыне і пякучую нянавісць да яе ворагаў, высокі жаночы гонар і мужную мацярынскую любоў. Усё гэта і штурхае яе на гераічны ўчынак —

помсту Уладзіміру. І калі ёй не ўдаецца забіць яго, яна бясстрашна чакае смерці, ад якой выратоўвае яе сын Ізяслаў. Што гэта: легенда, якая ўспрымаецца як праўда, ці праўда, якая з цягам часу стала легендай? Хутчэй за ўсё адно і другое тут зніталіся ў арганічнае цэлае, каб не толькі праўдзіва перадаць, але і ўзвялічыць высакародную непаўторную постаць Рагнеды. Цвярскі і Густынскі летапісы таксама пацвердзілі ў традыцыях свайго часу яе духоўнае хараство і яе маральную перавагу над Уладзімірам.

У свой час беларускі гісторык Д. Леанардаў адзначыў, што горды воблік Рагнеды навечна адбіўся ў памяці народа як «зыходная падзея»[221] яго гісторыі. І сапраўды, вобраз Рагнеды ўвасабляе сабой канчатковае заваяванне Полацкам сваёй незалежнасці і непрымірымасці яго да Кіева. Вобраз палымянай непакорнай палачанкі прайшоў скрозь тоўшчу стагоддзяў і заззяў новым нязгаслым святлом у мастацкіх палотнах, у музычных творах, у паэмах такіх рэвалюцыйных паэтаў, як К. Рылееў, Т. Шаўчэнка і Я. Купала. І трэба толькі здзіўляцца, што ў апошні час выявілася тэндэнцыя прынізіць вобраз Рагнеды і ўзвысіць вобраз Уладзіміра. І ўжо не крывавым дэспатам-забойцам Рагвалода і яго сыноў выступае Уладзімір у аднайменным рамане С. Склярэнкі, а гуманным князем, і ўжо не гордай, а пакорнай мы бачым Рагнеду, якая сама разувае Уладзіміра, дарэчы, называючы яго конунгам Вальдэмарам (відаць, С. Склярэнка гэтым хацеў сказаць, што яна была нарманкай). Большага здзеку над гістарычнай праўдай прыдумаць нельга.

## ПАШЫРЭННЕ ХРЫСЦІЯНСТВА

Рагнеда, як мы ўжо бачылі, прычынілася і да пашырэння хрысціянства ў Полаччыне. Прыняцце новай веры было адной з найважнейшых падзей у нашай гісторыі. Хоць і бясспрэчна, што хрысціянства як масавая з'ява ішло да нас з Кіева, аднак яно зусім новым фактам для насельніцтва Беларусі не магло быць. Нельга забывацца, што ўпомнены намі вышэй Ансгарый у 30-я гады IX ст. рабіў пэўныя спробы пашырэння хрысціянства ў славенаў і крывічоў. Паколькі полацкія воіны ўдзельнічалі ў паходах на Візантыю і некаторыя з іх маглі прыняць новую веру яшчэ да масавага хрышчэння, не выключана ранейшае існаванне ў Полацку хрысціянскай абшчыны, як гэта было ў Кіеве.

Афіцыйна хрысціянства прынята Кіевам у 988 г. па ініцыятыве вялікага князя Уладзіміра, які за гэта атрымаў тытул Святога. Хрышчэнне ўсходнеславянскага насель-

ніцтва было гвалтоўным актам. У Ноўгарадзе, напрыклад, як сведчыць прыказка, хрысцілі «мячом і агнём»[222]. Народ нялёгка адракаецца ад сваіх ранейшых поглядаў, вераванняў і звычаяў.

Навукай устаноўлена, што прынятае хрысціянства доўгі час было толькі знешняй фармальнасцю, што новая вера павінна была ўжывацца з старой верай і прыстасоўвацца да яе. У выніку гэтага ўтварылася своеасаблівае двухвер'е. Каб зразумець прычыну жывучасці язычніцтва, трэба нагадаць тое, што хрысціянства спачатку пашыралася толькі сярод славянскага насельніцтва, у той час як неславянскае пакідалася ў старой веры[223]. Трэба думаць, што доўгі час на тэрыторыі Беларусі заставаліся астравы балцкага насельніцтва, якія таксама жывілі сабою язычніцкія перажыткі ў славянскага насельніцтва. Магчыма, гэтым і трэба тлумачыць позняе хрышчэнне радзімічаў[224], на тэрыторыі якіх, як лічаць даследчыкі, было досыць густое балцкае насельніцтва, позна аславяненае[225]. Пра тое, што неславянскае насельніцтва доўгі час не падпадала хрысціянізацыі, ніяк нельга забывацца. Гэта акалічнасць давала сябе знаць яшчэ ў сярэдзіне XIII ст., нават у канцы XIV ст. і растлумачвае некаторыя незразумелыя на першы погляд факты нашай гісторыі, пра што мы будзем гаварыць пазней.

Паводле летапісу, Уладзімір, хрысціўшыся сам, ахрысціў і сваіх сыноў, якіх пасля разаслаў па гарадах, у тым ліку Ізяслава ў Полацк, а Святаполка ў Тураў[226]. Даследчыкі ўжо даўно ўсумніліся ў магчымасці таго, што ўсе сыны Уладзіміра ў 988 г. маглі быць разасланы па гарадах, бо многія з іх былі зусім малалетнія, а некаторыя, магчыма, яшчэ не нарадзіліся[227]. Таму зразумела, што гэты запіс можа толькі праўдзіва сведчыць, куды быў пасланы той ці іншы сын Уладзіміра, а не дату гэтых падзей. Як мы бачылі, аб разасланні сыноў Уладзіміра гаворыцца непасрэдна ўслед за паведамленнем пра іх хрышчэнне. Відаць, гэтым падкрэслівалася, што хоць разам з імі пасылаліся епіскапы, на іх таксама ўскладаліся і абавязкі па пашырэнні хрысціянства ў іх абласцях. Нягледзячы на адсутнасць непасрэдных сведчанняў, даследчыкі ўсё ж з вялікай доляй упэўненасці мяркуюць, што епіскапствы ў Полацку і Тураве былі ўтвораны аднымі з першых, недзе ў 991—992 гг.[228].

Пра падзеі, звязаныя з увядзеннем хрысціянства ў Тураве, захаваліся некаторыя паданні, якія адначасова могуць праліць святло і на далейшы лёс Тура. Ці сядзеў ён у Тураве пасля забойства Рагвалода? Нам здаецца, што Тур знаходзіўся ў Тураве, прынамсі, да таго часу, пакуль туды не быў пасланы пасля прыняцця хрысціянства сын Уладзіміра —

Святаполк. Падставай для такога меркавання з'яўляецца паданне, паводле якога Тураў аказаў супраціўленне прыняццю хрысціянства[229]. На крывавыя падзеі, звязаныя з хрышчэннем тураўцаў, указвае і паданне пра каменныя крыжы (яны ёсць і цяпер у Тураве), якія нібыта самі некалі прыплылі з Кіева[230] па вадзе да горада, і рака пачырванела ад крыві[231]. Відаць, у гэты час і быў знішчаны Тур, і расправа з ім была не менш жорсткай, чым з Рагвалодам, а яго месца заняў Святаполк, які пазней за сваю жорсткасць атрымаў ганебны тытул Акаяннага. Ускосна гэта можа пацвердзіць паданне, якое гаворыць, што пасля Тура ў Тураве стаў князем Уладыка [232]. Як вядома, апошняе — тытул епіскапа. Як бачым, легенда дакладна перадае сутнасць справы. Тура ў Тураве не стала пасля насаджэння хрысціянства і з'яўлення там епіскапа («уладыкі»). Уяўленне народа аб уладыку як тураўскім князю магло скласціся і таму, што Святаполк быў яшчэ малалетні (10—12 гадоў) і ім мог апекавацца епіскап — уладыка.

## ІЗЯСЛАЎ І АДНАЎЛЕННЕ ПОЛАЦКАЙ ДЫНАСТЫІ

Першым і найбольш важным станоўчым вынікам прыняцця хрысціянства з'явілася ўвядзенне і пашырэнне пісьменства, а разам з ім і развіццё асветы і культуры. Не толькі дзяржаўным дзеячам, але і першаасветнікам Полаччыны быў князь Ізяслаў. Вобраз яго таксама ўвабраў у сябе нямала легендарнага, што знайшло сваё выяўленне ў вельмі супярэчлівых летапісных звестках пра яго. Запіс 1128 г. гаворыць, што ён пасля свайго заступніцтва за маці быў разам з ёю адасланы ў Полаччыну ў збудаваны для іх горад Ізяслаўль (сучаснае Заслаўе, недалёка ад Мінска). А ў «Аповесці мінулых гадоў», як мы ведаем, сказана, што ён пасля хрышчэння быў адасланы ў Полацк у 988 г. без указання на тое, адзін ці з маці. З другога боку, паводле Цвярскога і Густынскага летапісаў, разам з Рагнедай быў не Ізяслаў, а Яраслаў (праўда, тут не названа месца, дзе яны жылі і куды пасылаў Уладзімір сваіх паслоў). Але наколькі б ні былі заблытаныя летапісныя звесткі, усё ж адно, і гэта галоўнае, бясспрэчна: Ізяслаў быў князем у Полацку.

У апавяданні 1128 г. сказана, што Уладзімір на параду сваіх баяраў вырашыў аднавіць айчыну Рагнеды і паслаць яе туды разам з сынам Ізяславам. Вядома, што гэта легендарнае тлумачэнне бясспрэчнага факта аднаўлення Полаччыны, якое магло быць вынікам добрай волі Уладзіміра і яго бая-

раў. Яны не маглі не бачыць, што разбурэнне Полаччыны не спыніла яе эканамічнага і палітычнага развіцця і што толькі сілай яе нельга было ўтрымаць. Апроч таго, Уладзімір не мог не бачыць варожасці Ноўгарада да Кіева. Вось чаму была важная для яго прыхільнасць Полацка і прымірэнне з ім. Даючы Полацку ў князі старэйшага сына Рагнеды Ізяслава, ён як бы ўзнаўляў род полацкіх князёў, а гэтым самым і княства.

І. Бяляеў лічыў, што Уладзімір заснаваў Ізяслаўль для таго, каб вызваліць полацкага князя ад усемагутнага ўплыву полацкага веча[233]. Тым самым ён, па сутнасці, меў намер перанесці сталіцу зямлі, што не выключана, бо ў такім выпадку кіеўскаму князю лягчэй было б трымаць полацкага князя пад сваім наглядам. Але трэба думаць, што ўзнікненне Ізяслаўля дыктавалася найперш эканамічнымі прычынамі, паколькі горад быў збудаваны ў вярхоўі Свіслачы, дзе сутыкаліся Дняпроўскі і Нёманскі басейны. Магчыма, гэта і было першай спробай асваення важнага гандлёвага шляху і замацавання на ім. Новазбудаваны Ізяслаўль хутчэй за ўсё стаў уладаннем Рагнеды (некаторыя даследчыкі лічаць яго першым феадальным уладаннем ва Усходняй Еўропе[234]). Калі паданне пра тое, што тут Рагнеда, стаўшы манашкай Анастасіяй, заснавала манастыр, мае нейкую падставу, то тады Ізяслаўль трэба лічыць адным з першых, а то і першым важным асяродкам хрысціянства, а разам з гэтым і асветы на Беларусі.

Ізяслаў жа жыў у Полацку, які пасля разбурэння Уладзімірам к гэтаму часу ўжо быў адбудаваны, і замест ранейшага, разбуранага таксама, дзядзінца ўзведзены новы і на новым месцы[235]. На жаль, пісьмовыя крыніцы нам нічога не гавораць пра Ізяслава як дзяржаўнага дзеяча. Затое ў пазнейшым Ніканаўскім летапісе дадзена высокая пахвала Ізяславу як чалавеку і хрысціяніну: «Бысть же сий князь тих и кроток, и смирен, и милостив, и любя зело и почитая священнический чин иноческий, и прилежаще прочитанию божественных писаний, и отвращаяся от суетных глумлений, и слезен, и умилен, и долготерпелив»[236]. Як супярэчаць словы гэтага летапісу аб ціхім Ізяславе нашаму ўяўленню пра таго рашучага з мечам у руках малалетка Ізяслава, заступніка за сваю маці, якога так спалохаўся Уладзімір і адрокся ад свайго намеру забіць Рагнеду. Аднак гэтая супярэчнасць цалкам зразумелая. Складальнік Ніканаўскага летапісу хацеў бачыць у асобе Ізяслава ўвасабленне лепшых хрысціянскіх дабрачыннасцяў, а аўтар полацкай легенды хацеў бачыць у Ізяславе пачынальніка векавой крывавай барацьбы Полацка з Кіевам. І хоць і ў першым і ў другім выпадках Ізяслаў, бяс-

спрэчна, ідэалізаваны, гэта ніколькі не значыць, што ўказаныя дзве крыніцы не заслугоўваюць ніякага даверу. У аснове як адной, так і другой ляжыць бясспрэчная гістарычная праўда. Ізяслаў, стаўшы полацкім князем, гэтым самым прыняў ад сваёй маці Рагнеды эстафету барацьбы, пачатую яе бацькам, і перадаў сваім нашчадкам, якія працягвалі яе. І ўжо зусім не пазбаўлены праўдзівасці Ніканаўскі летапіс, які дае падставу гаварыць пра Ізяслава як першаасветніка Полаччыны, які, бясспрэчна, увёў у ёй пісьменства. Што пры ім пісаліся ў Полацку граматы, пацвярджаецца яго пячаткай з надпісам, які з'яўляецца першым помнікам усходнеславянскага пісьменства. Гэта вельмі красамоўны факт, ён гаворыць за тое, што Полаччына ішла ў авангардзе культурнага развіцця Усходняй Еўропы. І нездарма ж Ізяслаў з'явіўся першым з усходнеславянскіх князёў, ахарактарызаваных у летапісе як кніжнік. Памёр ён у 1001 г. (годам пазней за сваю маці), пражыўшы не болей 25—26 гадоў.

Пасля смерці Ізяслава ніхто з яго братоў не сеў у Полацку, і таму не адбылося чарговага перамяшчэння іх з месца на месца, як гэта, напрыклад, было пасля смерці Вышаслава ў Ноўгарадзе, калі ў гэты горад быў прысланы Яраслаў, што да таго сядзеў у Растове, а ў апошні быў пасланы Барыс[237]. У Полацку стаў княжыць хутчэй за ўсё сын Ізяслава Усяслаў. Праўда, у адным з тацішчаўскіх тэкстаў сказана, што па Ізяславу «наследаваў яго сын Брачыслаў»[238]. Але наўрад ці паведаміў бы летапісец пад 1003 г. пра смерць Усяслава, калі б ён не быў князем. Дарэчы, той жа тацішчаўскі тэкст прыпісвае Усяславу амаль усё тое[239], што гаварыў ніканаўскі летапісец пра Ізяслава. Аднак гэта яўнае непаразуменне: Усяслаў для гэтага быў зусім малалетні. Такім жа, трэба думаць, быў і яго брат Брачыслаў, калі заняў полацкі пасад пасля Усяслава.

Усё гэта выяўляе бясспрэчны факт аднаўлення полацкай княскай дынастыі. Такім чынам, Полаччына канчаткова аформілася як самастойная. І гэта было галоўным вынікам нашага гістарычнага развіцця ў другой палове X ст. Таксама важна і тое, што ўжо ў час Тура Дрыгавіцкая зямля, стаўшы Тураўскім княствам, набыла значэнне палітычнага ўтварэння. Такой жа яна засталася і пры Святаполку.

## СТАРАЖЫТНАЯ ЛІТВА

У пачатку XI ст. з'яўляецца першае датаванае паведамленне пра Літву. Да гэтага яна двойчы ўпаміналася ў недатаванай частцы «Аповесці мінулых гадоў»: першы раз — у пераліку народаў, якія адносіліся да роду Яфета, другі раз — у пераліку тых плямёнаў, што не адносіліся да Русі і давалі ёй даніну[240]. На жаль, ніякіх геаграфічных каардынатаў Літвы тут не было ўказана, што ў далейшым прывяло да вялікай блытаніны ў гэтым пытанні. І вось у 1009 г. у выніку адной трагічнай падзеі Літва трапіла на старонкі Кведлінбургскіх аналаў. Пад гэтай датай паведамлялася пра смерць біскупа Брунона, які ў змове з польскім каралём Баляславам Храбрым пайшоў у край не то прусаў, не то яцвягаў, каб схіліць іх да прыняцця хрысціянства, але быў забіты са сваімі васемнаццаццю спадарожнікамі 9 сакавіка 1009 г. «in confinio Rusciae et Lituae», г. зн. «на сумежжы Русі і Літвы». Гэта вельмі красамоўнае сведчанне. Паказваючы, што Літва межавалася з Руссю, яно пацвярджае нашу думку, што Старажытная Літва не знаходзілася там, дзе сучасная Літва, правільней, яе ўсходняя частка, бо ў адваротным выпадку яна, адгароджаная яцвягамі, не магла б мець агульнай мяжы з Руссю. Толькі знаходзячыся ў Верхнім Панямонні, яна магла быць сумежнай («in confinio») з Руссю. Праўда, Е. Ахманьскі, а за ім і У. Пашута лічылі, што забойства Брунона адбылося на тэрыторыі яцвягаў [241]. І гэта зразумела. Прымаючы тэрыторыю Старажытнай Літвы за тэрыторыю сучаснай, яны бачылі, што ўваходзяць у супярэчнасць з першакрыніцай, і знайшлі выхад у падстаноўцы замест Літвы яцвягаў. Аднак гэта яўная нацяжка, бо ў такім выпадку было б сказана, што Брунон быў забіты на сумежжы Яцвязі і Русі. Звяртае на сябе ўвагу тое, што ў адзначанай крыніцы напісанне назвы Літвы па-лацінску супадае са славянскім яе гучаннем як «Літва». А гэта яшчэ раз пацвярджае сумежнасць Літвы з Руссю, што і вызначыла форму яе назвы ў першым яе ўпамінанні ў лацінскім дакуменце.

Было нямала спроб растлумачыць назву «Літва». Адзначым некаторыя з іх. У «Хроніцы Быхаўца» яна выводзіцца з «літус» (бераг) і «луба» (труба). З іх як быццам утварылася Лістубанія, якая ў вуснах простага народа гучала як Літабанія. Гэта імя нібы выйшла ад таго, што ў часы легендарнага князя Кернуса літоўцы ўпершыню пакрылі берагі Вяллі гукамі ваенных труб. Вядома, гэта фантастыка. Літва ніколі не называлася ні Літабаніяй, ні Лістубаніяй. Як быццам болей пераканаўчым з'яўляецца вывад назвы «Літва» ад літоўскага слова «летува», ці «летувіс», што значыць дождж, вільгаць. Аднак гэта таксама нацяжка, бо дождж па-літоўску «летус»[242]. І. Шафарык лічыў, што ў старажытнанямецкай мове «літус» і «летус» азначалі асобае саслоўе рабоў, якое, магчыма, паходзіла ад заняволенасці літаў, што жылі ў Заходняй Галіі за Рэйнам[243]. Гэта як бы сведчыць, што назва «Літва» — кельцкага паходжання ці нават што і само племя было кельцкім, тым болей што Тацыт указваў на падабенства мовы літаў з мовай брытанскай, г. зн. мовай венетаў, якія насялялі Брытанію[244].

У апошні час таксама звернута ўвага на тое, што «Літва» і «Латвія» маюць яскравыя паралелі ў варыянтах уэльскай назвы Брэтані: Litao, Latio, што значыць «зямля»[245]. З гэтага выцякае, што назва «Літва» і «Латвія» нібыта кельцкага паходжання. Але мы не можам пагадзіцца з такім меркаваннем А. Г. Кузьміна. Ён сцвярджае, што гэтыя назвы маглі быць дадзены кельцкімі ці кельцкамоўнымі насельнікамі балтыйскіх астравоў, для якіх пабярэжжа Літвы і Латвіі было «зямлёй». Аднак у тыя часы назвы «Літва» і «Латвія» не пашыраліся на балтыйскае ўзбярэжжа. Тады гэту тэрыторыю займалі прусы, жамойты, куроны, лівы. І ўсё ж меркаванне пра кельцкае паходжанне назвы «Літва» нельга скідаць з рахунку. Нямецкі гісторык XVIII ст. Л. А. Гебгардзі (1735—1802) прыводзіў пісьмовыя дакументы, з якіх відаць, што яшчэ ў XII ст. н. э. на левым беразе Дуная і ўздоўж ракі Ольты існавала мясцовасць Літва[246]. Тут жа мы знаходзім і раку Літаву. У свой час І. Барычэўскі зазначыў, што прарадзіму Літвы трэба шукаць у Фракіі[247]. Прыведзеныя Гебгардзі факты як бы пацвярджаюць гэту думку. Мы ўжо гаварылі, што назва «севяране» таксама кельцкага паходжання. Літва, якая была тут жа, дзе, бясспрэчна, пражывалі рэшткі кельцкіх плямёнаў, таксама магла атрымаць назву ад іх. Паколькі літва жыла на левым беразе Дуная, то для насельнікаў правага берага яе тэрыторыя сапраўды магла быць «зямлёй».

Літва, паводле «Аповесці мінулых гадоў», адносіцца не да славянскіх плямёнаў. Праўда, у Хлебнікаўскім і Цвярскім



*Старажытны Тураў*
*(рэканструкцыя П. Лысенкі, мастак Я. Каробушкін)*

летапісах мы яе знаходзім у пераліку славянскіх плямёнаў, дзе яна пастаўлена ўслед за люцічамі[248]. Аднак гэтыя звесткі мы не можам лічыць аб'ектыўнымі. Справа ў тым, што асновай Цвярскога летапісу з'яўляецца беларускі летапіс пачатку XVII ст.[249]. У сваю чаргу Хлебнікаўскі спіс увабраў у сябе шмат з Цвярскога. А к гэтаму часу Літва канчаткова аславянілася, і таму аўтары гэтых крыніц, улічыўшы такую акалічнасць, ужо ў пералік славянскіх плямёнаў унеслі і яе.

## ТУРАЎСКІЯ ПАДЗЕІ

Вельмі паказальныя падзеі адбыліся каля 1013 г. у Тураве. Праўда, яны чамусьці не знайшлі свайго адбіцця ў кіеўскім летапісанні, і звесткі пра іх дайшлі да нас з чужаземных крыніц, а менавіта з «Хронікі» Дзітмара, біскупа мерзебургскага.

Нам ужо вядома, што князем у Тураве быў пастаўлены Святаполк, адзін з сыноў Уладзіміра Святаславіча, хоць, паводле некаторых крыніц, ён мог быць і сынам Яраполка, з жонкай якога пасля перамогі над апошнім ажаніўся Уладзімір. Лічыцца, што Святаполк мог нарадзіцца ў 978—980 гг.[250]. Калі ён стаў тураўскім князем, як ужо адзначалася вышэй, дакладна невядома. Дзесьці ў прамежку 1008—



*Манета тураўскага князя Святаполка*

1013 гг. ён ажаніўся з дачкою польскага караля Баляслава. Даследчыкі бачаць у гэтым, з аднаго боку, імкненне Уладзіміра замацаваць за сабою заваяванае ў палякаў (у такім выпадку маюць большую рацыю тыя, хто адносіць гэты шлюб да 992 г., бо тады Уладзімір заваяваў Чэрвенскія гарады[251]), а з другога боку — імкненне Баляслава з дапамогай зяця ўзмацніць свой уплыў на ўсходзе[252].

Паводле Дзітмара, разам з жонкай Святаполка ў Тураў прыехаў і яе духоўнік, калабражскі біскуп Рэйнберг, задачай якога хутчэй за ўсё і было садзейнічаць пранікненню і пашырэнню інтарэсаў Баляслава. Ён нібыта зблізіўся з Святаполкам і з ведама Баляслава пачаў падбухторваць тураўскага князя да прыняцця лацінства і выступлення супроць бацькі. Але апошні даведаўся пра гэта і пасадзіў Святаполка ў цямніцу разам з жонкай і Рэйнбергам. Баляслаў у адказ на гэта збіраўся ісці супроць Уладзіміра, але з-за разладу з печанегамі паход прыпыніўся, магчыма, прычынай гэтага была і згода Уладзіміра на патрабаванне Баляслава вызваліць Святаполка.

Старая гістарыяграфія гэтыя падзеі разглядала толькі ў святле кіеўска-польскай барацьбы. Але ніяк нельга забывацца і пра інтарэсы Турава. Калі Полацку належала вырашальная роля ў барацьбе Кіева і Ноўгарада, то Тураў займаў такое ж месца ў барацьбе Кіева з Польшчай. Але як Полацк меў свае ўласныя інтарэсы і вёў сваю ўласную палітыку, выкарыстоўваючы супярэчнасці Кіева і Ноўгарада, так і Ту-


шанхъовьца азъкемьдверьи
ноижащекътовънидетьсъпсетсе
икънидеть инзидеть ипажить
обращеть·
Въпатък е не свя
от иоана· глава з г
ёгъ къпришьдъшиимъкънк
моуиюдеомъ·се гораднимаоцьлюб
ть якоазъполагаюдшжмоюждапа
кыприимоуюж·никъто жевъзьм
тьюотменеиазъполагаижосебе
областьвоимамъ положитиюж ио
властьимамъпакыприятиюже
юзаповедьприяхъоцамоюго
распьраже пакывзысть въиюдеи
хъ заслове сасн глаахжемно
зиоти ихъбесъимать инеисто

*Старонка Тураўскага евангелля XI ст.*

раў, нягледзячы на сваю залежнасць ад Кіева, таксама ніколі не забываўся пра свае інтарэсы і дзеля задавальнення іх мог іграць на супярэчнасцях Кіева і Польшчы і найперш уздзейнічаць на палітычныя паводзіны Святаполка. Пацверджаннем гэтаму можа быць і тое, што Святаполк і пасля, як быў выведзены з Турава, па-ранейшаму заставаўся яго князем, і, што самае важнае, ён падтрымліваў зносіны са сваімі прыхільнікамі тут. У час барацьбы з Яраславам ён збіраў, паводле Суздальскага летапісу, «вояў» у Тураўскай зямлі («в Пиньску»). У Дзітмара ёсць паведамленне, што Яраслаў, ваюючы з Святаполкам, заняў нейкі горад, пад якім, як мяркуюць некаторыя даследчыкі, трэба бачыць Тураў[253], што як быццам можа даказваць падтрымку гэтым горадам Святаполка. Хаця ўсё гэта не мае цвёрдага грунту, аднак магчымасць такога таксама нельга поўнасцю адмаўляць. Ва ўмовах гвалтоўнага далучэння паасобных гістарычных земляў пад уладу Кіева і назначаныя туды сыны вялікага князя маглі лёгка пранікацца мясцовымі інтарэсамі і станавіцца іх праваднікамі. Нават Яраслаў (стаўшы вялікім князем кіеўскім, ён жорстка караў за сепаратызм), седзячы ў Ноўгарадзе, рыхтаваў аддзяленне апошняга ад Кіева. Што ўжо тады гаварыць пра Святаполка, які сядзеў хоць і ў блізкай да Кіева зямлі, але вельмі ізаляванай ад яго



*Застаўка з Тураўскага евангелля*

прыроднымі ўмовамі, якая не магла не адчуваць усяго цяжару залежнасці.

Але якімі б для нас няяснымі і спрэчнымі ні былі падзеі 1013 г., у іх упершыню выявіліся вельмі важныя моманты нашай гісторыі: імкненне Турава да адасаблення ад Кіева, што пацвердзіць яго далейшая гісторыя; гэта першы зарэгістраваны крыніцамі факт суперніцтва Русі і Польшчы за адну з беларускіх земляў. У далейшым яно стане адным з неспрыяльных фактараў нашай гісторыі, які знаходзіцца ў шчыльнай сувязі з папярэднім — пачаткам барацьбы лацінства і праваслаўя за перавагу ў асяроддзі беларускага насельніцтва.

Непасрэдна з барацьбой Яраслава і Святаполка звязана і першае ўпамінанне горада Берасця (суч. Брэст). Іпацьеўскі летапіс паведамляе, што ў 1019 г. Святаполк, пацярпеўшы паражэнне ў барацьбе за велікакняскі пасад, уцякае за межы дзяржавы і на некаторы час спыняецца ў Берасці[254]. На падставе гэтага даследчыкамі выказваецца меркаванне, што гэты горад з'яўляўся апошнім пунктам перад «ляцкай зямлёй» і што ён, пабудаваны на зямлі, скаланізаванай дрыгавічамі, першапачаткова ўваходзіў у склад Тураўскага княства[255]. Археалагічныя матэрыялы дазваляюць датаваць перадмацерыковыя пласты старажытнага гарадзішча рубяжом X—XI стст.[256]. Узнікненне горада на мысе пры ўпадзенні Мухаўца ў Зах. Буг было абумоўлена яго значэннем як пагранічнай крэпасці і апорным пунктам славянскага асваення навакольнай тэрыторыі[257]. Адначасова ён меў і важнае гандлёвае значэнне. Парубежнае становішча Берасця прыводзіла да таго, што горад з самага пачатку сваёй гісторыі стаў аб'ектам заваёўніцкіх нападаў з розных бакоў. Так, ужо

ў 1022 г. Яраслаў робіць паход пад гэты горад[258]. Летапіс не паведамляе ні аб мэтах, ні аб выніках гэтага паходу, што і дало повад некаторым даследчыкам для меркавання, што Яраслаў рабіў гэты паход, каб вярнуць Берасце, захопленае ў 1020 г. Баляславам, і што дасягнуў гэтага ён толькі ў 1044 г.[259].

## ЧАС БРАЧЫСЛАВА

Першая палова XI ст. для Полаччыны абмяжоўваецца 1003—1044 гг., на якія прыпадае княжанне Брачыслава Ізяславіча. Намі ўжо адзначалася, што Брачыслаў заняў полацкі пасад зусім малалетнім, магчыма, ва ўзросце аднаго-двух гадоў. І гэты суб'ектыўны фактар мог пэўным чынам паўплываць на палітычнае жыццё Полаччыны, у прыватнасці на яе знешнюю актыўнасць. І сапраўды, да пачатку 20-х гадоў XI ст. летапісы не адзначылі ніякіх ваенных акцый полацкага князя. Але прычынай гэтага магло быць найперш тое, што ў гэты час ішло ўнутранае ўладкаванне і ўмацаванне Полацка. Краіна, карыстаючыся спрыяльнай знешняй кан'юнктурай (узаемная барацьба кіеўскага і наўгародскага князёў), назапашвала сілы, што і дало свае вынікі ў будучым, а менавіта ў 1019—1021 гг.

Звесткі пра гэтыя падзеі захаваліся ў розных па сваім змесце і характары крыніцах: у скандынаўскіх сагах, рускіх летапісах і ў Я. Длугаша. Найперш разгледзім сведчанні т. зв. «Эймундавай сагі». Бясспрэчна, яна, як і кожная сага, мае шмат фантастычнага і блытанага, і таму да яе паведамленняў трэба адносіцца з вялікай асцярогай. І тым не меней у ёй мы знаходзім калі не самі праўдзівыя факты, то хоць пэўныя ўказанні на іх. Паводле «Эймундавай сагі», нарманы, якія спачатку служылі Яраславу, пасварыўшыся з ім, пайшлі ў Полацк да Брачыслава, які тут называецца Варцілавам і лічыцца не пляменнікам, а братам Яраслава (Ярыцлейва). Барацьба паміж імі пачалася як быццам з-за таго, што Яраслаў патрабаваў ад Брачыслава вёсак і гарадоў, сумежных з кіеўскімі ўладаннямі, г. зн. пэўнай полацкай тэрыторыі. У ходзе ваенных дзеянняў жонка Яраслава Інгігерд трапляе ў палон да нарманаў, якія служылі Брачыславу. Дзякуючы ёй хутка паміж варожымі бакамі быў заключаны мір, згодна з умовай якога Яраслаў атрымаў ва ўладанне галоўную частку Гардарыка (так называлася тут Русь) — Ноўгарад (Хельмгард), Брачыслаў — другое, лепшае княства Кіеў (Кенугард), а Эймунду — важаку нарманаў, што служылі пачаргова Яраславу і Брачыславу, дастаўся Полацк і ўся тая



*Браслаў. Від Замкавай гары і азёр Навята і Дрывяты. З акварэлі Д. Струкава (1865)*

вобласць, якая ляжыць побач. Далей паведамлялася, што Брачыслаў пражыў пасля гэтага тры зімы і па яго смерці Яраслаў стаў княжыць і над Кіевам, і над Ноўгарадам. А Полацк пасля смерці бяздзетнага Эймунда застаўся яго пабраціму Рагнару[260].

Бясспрэчна, што тут шмат выдуманага, як, напрыклад, размеркаванне земляў Гардарыка паміж Яраславам, Брачыславам і Эймундам ці смерць Брачыслава пасля трох зім княжання ў Кіеве і інш., што абвяргаецца летапісцамі. Аднак тое, што Брачыслаў сядзеў у Кіеве на працягу трох зім, можа быць праўдай. Пра гэта сведчыць наяўнасць у Кіеве «двара Брачыслаўля», які ўпамінаецца ў летапісе ад 1068 г. Праўда, Л. Аляксееў лічыць, што ён атрымаў сваю назву таму, што быў нібыта пабудаваны Брачыславам у Кіеве пасля прымірэння яго з Яраславам як гандлёвае падвор'е полацкіх князёў у Кіеве[261]. Але ў такім выпадку ён хутчэй бы называўся полацкім дваром, чым «Брачыслаўлім» (пра што сведчаць прыведзеныя тут Л. Аляксеевым назвы «Новгородская божница», «Гоцкий двор» і «Псковский двор»). Менавіта назва яго найперш і сведчыць пра тое, што ў ім жыў Брачыслаў, што гэта была яго рэзідэнцыя.

Але калі мы адкінем тлумачэнне сагаю прычыны з'яўлення ў Кіеве Брачыслава, то чым яшчэ можна вытлумачыць гэта? Тут трэба прыгадаць адну акалічнасць. Калі Уладзімір Святаславіч браў за жонку Рагнеду, забіўшы перад гэтым яе бацьку і братоў, то ён меў на мэце быць і прадаўжальнікам

полацкай дынастыі і гэтым самым, паводле звычаяў таго часу, замацаваць сваю ўладу над Полацкам, паколькі яна ў такім выпадку магла выглядаць «законнай». Аднак гэта, з другога боку, давала прадстаўнікам полацкай дынастыі, адноўленай недзе ў канцы X ст., прад'яўляць свае правы на кіеўскі пасад. Ізяслаў Уладзіміравіч не мог гэтага зрабіць таму, што памёр раней за бацьку. Тое ж самае можна сказаць і пра Усяслава Ізяславіча. Аднак пасля смерці Уладзіміра ў 1015 г. полацкі князь Брачыслаў, як сын старэйшага ў родзе Ізяслава, побач з Яраславам, Святаполкам і іншымі сынамі Уладзіміра, з яго дзядзькамі, мог прэтэндаваць на велікакняскі пасад. Гэтым, відаць, і можна растлумачыць з'яўленне Брачыслава ў Кіеве. Р. Якабсан выказаў думку, што Брачыслаў сядзеў на велікакняскім пасадзе ў Кіеве ў 1019—1021 гг. І сапраўды, найбольш падыходзячым годам з'яўлення Брачыслава ў Кіеве мог быць 1019-ты, калі наступіў самы напружаны момант барацьбы Яраслава са Святаполкам перад рашаючай бітвай на р. Альце. Відаць, у гэты цяжкі для Яраслава час Брачыслаў, ужо ўзмужнелы юнак, і прад'явіў свае правы на Кіеў, на што Яраслаў быў вымушаны згадзіцца і прыняў яго да сябе як свайго суправіцеля. Меркаваць, што Яраслаў пасля гэтага пераехаў у Ноўгарад, а Брачыслаў адзін застаўся ў Кіеве, як гэта паказвае сага, нельга. У такім выпадку не было б патрэбы будаваць ці адводзіць пабудаваны ўжо раней асобны двор для Брачыслава, ён пасяліўся б у велікакняскім палацы. Можна думаць, што прынящце Брачыслава ў Кіеў было выгадным для Яраслава: яго войскі папоўніліся палачанамі, што і магло адыграць важную ролю ў канчатковай перамозе на р. Альце.

Тое, што Яраслава і Брачыслава сага называе братамі, можа служыць таксама сведчаннем знаходжання Брачыслава ў Кіеве. Рускія князі розных ступеняў сваяцтва называлі сябе братамі і афіцыйна і ў прыватнай размове. Менавіта гэта найменне Эймунд і яго спадарожнікі маглі чуць у Кіеве пры двары Яраслава ў адносінах да Брачыслава і наадварот. Апроч таго, намер Эймунда ісці ад Яраслава да Брачыслава хутчэй за ўсё з'явіўся вынікам добрага знаёмства з апошнім, што магло зноў-такі адбыцца толькі ў Кіеве.

Аднак доўгі час такое «двоеўладдзе» не магло прадаўжацца, і пасля «трох зім» у 1021 г. Брачыслаў быў, відаць, выгнаны з Кіева ў Полацк, што і прывяло да новага канфлікту паміж Полацкам і Кіевам.

Брачыслава некаторыя даследчыкі лічылі пачынальнікам векавой барацьбы паміж полацкімі і кіеўскімі князямі[262]. Аднак яго барацьба была працягам ранейшай барацьбы,

якая, прынамсі, пачалася яшчэ пры Аскольдзе і Дзіры і якая часова прыпынілася ў першыя два дзесяцігоддзі княжывання Брачыслава. Розныя даследчыкі бачылі розныя прычыны гэтай барацьбы, і нам здаецца, што памылкай іх усіх было тое, што кожны з іх бачыў толькі адну прычыну, у той час як іх было некалькі. Сапраўды, Полацк мог ставіць сваёй задачай аб'яднанне ўсіх крывіцкіх земляў, як думаў П. Галубоўскі[263], і мог імкнуцца захапіць болей палону і засяліць ім маланаселеную сваю тэрыторыю, як меркаваў Каяловіч[264]. У той жа час нельга і адмаўляць імкненне Кіева падначаліць сабе Полацк, як думаў Доўнар-Запольскі і іншыя аўтары. Да гэтых аб'ектыўных прычын дадаваўся і суб'ектыўны фактар, а менавіта пачуццё крыўды ў першых Ізяславічаў з прычыны іх выключэння з кіеўскай дынастыі, як думаў С. Салаўёў. Хоць Полацкая дзяржава са сваімі эканамічнымі і палітычнымі інтарэсамі ўжо існавала працяглы час, аднак родавыя забабоны яшчэ маглі моцна трымацца ў свядомасці першых Ізяславічаў, якія не трацілі надзеі атрымаць кіеўскі пасад, што і магло побач з іншымі больш важнымі прычынамі падаграваць напал іх барацьбы з кіеўскімі князямі. Брачыслаў і быў першым Ізяславічам, якому на пэўны час удалося ў некаторай ступені дасягнуць гэтай запаветнай мэты. Цяжка сказаць, кім непасрэдна кіраваўся Полацк у адсутнасць там Брачыслава: яго намеснікам ці супольным намеснікам яго і Яраслава. Але, як бы там ні было, Полацкая дзяржава не спынілася ў сваім развіцці, у дасягненні сваіх мэтаў, і гэта адразу дало сябе знаць пасля вяртання Брачыслава ў Полацк. То быў час бурнага ажыўлення шляху «з варагаў у грэкі». Полацку было ўжо пры Рагвалодзе цесна ў вузкім адрэзку гэтай воднай магістралі па сярэдняй і ніжняй Дзвіне. Спроба гэтага князя прабіцца да вярхоўяў Дзвіны і Дняпра, дзе знаходзіліся ключавыя месцы вялікага гандлёвага шляху, мела выключна трагічныя вынікі як для самога Рагвалода, так і для Полацка. Але гэта не толькі не адвярнула Полацк ад пастаўленай мэты, але яшчэ больш падкрэсліла яе важнасць для яго. Можна думаць, што на працягу амаль паўстагоддзя Полацк набіраўся сілы для яе ажыццяўлення, што і выпала на долю Брачыслава. Хутчэй за ўсё пры ім, як і пры Рагвалодзе, вярхоўі Дзвіны і Дняпра знаходзіліся пад кантролем Ноўгарада. Калі нават пагадзіцца з некаторымі аўтарамі, што ўказаныя месцы былі ва ўладанні Смаленска, то гэта не мяняе сутнасці справы, бо тыя ж даследчыкі прызнаюць шчыльныя сувязі ў той час Смаленска і Ноўгарада[265].

Не ўсе крыніцы ў аднолькавым аб'ёме адбіваюць падзеі 1021 г. Самая кароткая і няпоўная інфармацыя заключана ў

Наўгародскім I летапісе (Сінадальны спіс), якая абмяжоўваецца толькі адным эпізодам з барацьбы Брачыслава і Яраслава: «Победи Ярослав Брячислава». Непараўнаўча болей пра гэта сказана ў Лаўрэнцьеўскім летапісе. Ён паведамляе, што Брачыслаў, сын Ізяслава, унук Уладзіміра, прыйшоў на Ноўгарад, узяў яго і, захапіўшы наўгародцаў і іх маёмасць, пайшоў у Полацк. Яраслаў, даведаўшыся пра гэта, на сёмы дзень зваротнага руху Брачыслава з Ноўгарада нагнаў яго на р. Судоме, перамог і вярнуў захопленых ім наўгародцаў, а Брачыслаў уцёк у Полацк. Хоць звесткі В. Тацішчава ў цэлым паўтараюць сказанае, у іх ёсць дадатковыя падрабязнасці. Так, там сказана, што Брачыслаў з Ноўгарада даведаўся, што Яраслаў з войскамі ў Кіеве. Гэта можа ўказваць на тое, што ў Ноўгарадзе былі прыхільнікі Брачыслава (а можа, і цэлая полацкая партыя), якія трымалі Брачыслава ў курсе справы. Гэта зноў-такі сведчыць пра старанную падрыхтоўку паходу. Далей з тацішчаўскіх звестак мы даведваемся, што з Яраславам з Кіева прыйшлі толькі наўгародцы, г. зн. выхадцы з Ноўгарада. I менавіта яны не жадалі мець сваім князем Брачыслава. Цікава і тое, што Брачыслаў, выходзячы з Ноўгарада, пабраў у палон «много знатных» і «пограбив имения их»[266]. Сафійскі і Васкрасенскі летапісы, некалькі дэталізуючы сказанае, паведамляюць пра нечаканы зыход гэтай падзеі. Выяўляецца, што Яраслаў пасля сваёй яўнай перамогі і ўцёкаў Брачыслава выклікае апошняга да сябе, дае яму два гарады — Усвяты і Віцебск, сказаўшы: «Буди же со мною заедин». I, паводле гэтых летапісаў, «воеваша Брячислав с Ярославом все дни живота своего».

Вельмі важныя дадатковыя звесткі пра гэту падзею мы знаходзім у Я. Длугаша. Паколькі гэта крыніца ў нас маловядомая, мы прывядзём поўнасцю: «Пасля таго як адзін праціўнік Святаполк уцёк і загінуў, супроць Яраслава выступіў яго другі праціўнік і замест брата пляменнік Брацілавус, сын Ізяслава, князь полацкі, сабраўшы войска сваіх палачанаў і варагаў, выступіў супроць Ноўгарада і завалодаў ім. Падначаліўшы сваёй уладзе ўсё Наўгародскае княства і назначыўшы там сваіх намеснікаў, вяртаўся к бацькоўскаму пасаду ў Полацк. Яраслаў, князь кіеўскі, цяжка пераносячы пазбаўленне спадчыннага ўдзелу, г. зн. Наўгародскага княства, пайшоў яму насупроць і пасля цяжкай сутычкі перамог, а Брачыслаў, страціўшы мноства забітых, уцёк у Полацк. Яраслаў вярнуў сабе Наўгародскае княства і ваенную здабычу»[267].

Прыведзеныя сведчанні дапаўняюць адны другія, не супярэчаць адны другім і таму даюць нам магчымасць мець

пра гэту гістарычную падзею больш-менш выразнае ўяўленне. Пра мэты Полацка мы лічым больш аб'ектыўнымі звесткі Я. Длугаша, магчыма, узятыя з найбольш старажытных спіскаў рускіх летапісаў, што не падвергліся тэндэнцыйнай апрацоўцы пазнейшых рэдактараў. Не выключана таксама, што Я. Длугаш у дадзеным выпадку мог выкарыстаць Полацкі летапіс, які тады яшчэ існаваў. Сапраўды, калі ў наўгародска-кіеўскіх летапісах дзеянні Брачыслава характарызуюцца як грабежніцкі напад на Ноўгарад (што зразумела, бо Ноўгарад і Кіеў заўсёды варожа адносіліся да Полацка), то ў Я. Длугаша яны выступаюць як буйныя дзяржаўныя акцыі з мэтай заваявання Наўгародскага княства і далучэння яго да полацкіх уладанняў. На падставе таго, што Брачыслаў з палонам пайшоў у Полацк, А. Насонаў лічыў, што гэты князь не ставіў сваёй задачай заваяванне Ноўгарада. Аднак ён сапраўды не меў намеру «сесці ў Ноўгарадзе» [268], бо для кіравання апошнім пакінуў сваіх намеснікаў. Сведчанне Я. Длугаша пацвярджаюць і звесткі В. Тацішчава, паводле якіх Брачыслаў «хотя Новград обладать»[269]. У гэтай жа крыніцы гаворыцца, што полацкі князь выбраў зручны момант для ажыццяўлення свайго нападу, калі Яраслаў з сваім войскам быў у Кіеве[270]. Выказвалася думка, што дзеянні Брачыслава былі выкліканы тым, што ён нічога не атрымаў ад Яраслава, які, перамогшы Святаполка, стаў уладаром усёй Старажытнай Русі[271]. Можна думаць, што тут хутчэй за ўсё супалі, з аднаго боку, асабістыя намеры Брачыслава адпомсціць Яраславу за выгнанне з Кіева і гэтым самым кампенсаваць свае тэрытарыяльныя страты захопам у свайго дзядзькі ягонага, паводле «Эймундавай сагі» і Я. Длугаша, спадчыннага ўдзела — Наўгародскага княства — і, з другога боку, намеры полацкай феадальна-купецкай верхавіны пашырыць свае ўладанні за кошт Ноўгарада. Інакш Брачыслаў не атрымаў бы сродкаў ад сваіх «мужоў», ад якіх ён залежаў і без рады з якімі ён не мог нічога прадпрыняць, як пасведчыла «Эймундава сага»[272]. Гэта адзінства князя і яго «мужоў», пад якімі, магчыма, трэба разумець веча, і было важным грунтам для пасяховых дзеянняў супроць Ноўгарада, захопу яго і далучэннем яго, як і ўсёй зямлі, да Полацка, выяўленнем чаго былі намеснікі Брачыслава, пакінутыя ім у Ноўгарадзе.

Звесткі Я. Длугаша заслугоўваюць большага даверу і тым, што яны супадаюць са сведчаннем «Эймундавай сагі» пра наяўнасць у полацкім войску варагаў. А менавіта гэта найперш і абумовіла абрабаванне Ноўгарада пасля яго заваявання: наёмнікам трэба было плаціць, а платай у той час

часцей за ўсё і было грабежніцтва заваяванай зямлі. Вядома, мы ніколькі не хочам пры гэтым абяляць палачанаў, бо ўзяцце палонаў было больш у іх інтарэсах, а не варагаў. Зразумела, чаму Брачыслаў, паводле В. Тацішчава, браў у палон знатных наўгародцаў. Узяўшы іх маёмасць, ён браў і іх з сабой, бо ведаў, што менавіта яны, пакінутыя ў Ноўгарадзе, былі б найбольш зацікаўлены ў помсце Брачыславу. Абапіраючыся на звесткі В. Тацішчава, мы можам меркаваць, што наўгародцы ў цэлым з сімпатыяй аднесліся да полацкага князя і толькі наўгародцы, што служылі ў Кіеве, варожа ставіліся да яго і адыгралі вырашальную ролю ў перамозе над ім. Ёсць думка, што Брачыслаў на Ноўгарад ішоў па Ловаці, як больш простым шляхам, а вяртаўся па Шалоні, бо на адным з прытокаў яе — р. Судоме — быў нагнаны Яраславам. І хоць Брачыслаў ні з чым вярнуўся ў Полацк, вынікі яго паходу, як мы ведаем ужо, не былі сумныя.

Усе даследчыкі ў адзін голас гавораць пра тое, што Брачыслаў выбраў спрыяльны для яго момант нападу на Ноўгарад: у гэты час пачынала выяўляцца варожасць да Яраслава яго брата Мсціслава, які княжыў у Тмутаракані, і што, маўляў, гэта і прымусіла кіеўскага князя пасля перамогі над Брачыславам уступіць апошняму Усвяты і Віцебск. Вядома, варожасць Мсціслава нельга выкідаць з-пад увагі пры ацэнцы такіх нечаканых вынікаў перамогі Яраслава. Заслугоўвае ўвагі і тое, што, разбіўшы Брачыслава, Яраслаў не пайшоў на Полацк з мэтай яго заваявання. А прычына гэтага ў тым, што Яраслаў, як і ў свой час бацька яго Уладзімір, добра зразумеў, што Полацк — гэта ўжо асобная дзяржава, якую можна перамагчы, але якую цяжка заваяваць і падначаліць сабе і з якой таму трэба лічыцца. Вось чаму Яраслаў і пайшоў на часовае прымірэнне з Брачыславам і на ўступкі яму. Выклікаўшы да сябе (застаецца невядомым куды: у Кіеў ці ў Ноўгарад) Брачыслава, ён паміры́ўся з ім, аддаўшы Усвяты і Віцебск. Яраслаў хоць і з'яўляўся пераможцам, але бачыў наперадзе цяжкую перспектыву барацьбы з Мсціславам. Сапраўды, пры такіх акалічнасцях яму патрэбен быў моцны саюзнік, і ім мог быць толькі Брачыслаў. Уступка Віцебска і Усвятаў Брачыславу была вялікай перамогай Полацка, бо вяртала пад яго ўладу значную частку крывіцкай зямлі і давала яму магчымасць кантраляваць не толькі ўвесь водны шлях на Заходняй Дзвіне, па якой ішоў міжнародны гандаль паміж Усходам і Захадам, але, улічваючы геаграфічнае становішча Віцебска на волаках паміж Зах. Дзвіной і Дняпром, мець і адну з ключавых пазіцый на шляху з «варагаў

у грэкі». Можна думаць, што менавіта на гэту тэрыторыю прэтэндаваў і Рагвалод. Зусім слушнае меркаванне, што сутычка тэрытарыяльных інтарэсаў Полацка і Ноўгарада пачалася раней, да пашырэння ўлады Ноўгарада на Пскоўскую зямлю, і таму не ў гэтых краях, а дзесьці ў іншым месцы. Вярхоўі Ловаці, Зах. Дзвіны і іх міжрэччы з волакамі былі здаўна заселены. Гэтыя месцы і з'явіліся асабліва прыцягальнымі з пункту погляду абкладання данінай, бо ляжалі на скрыжаваннях шляху «з варагаў у грэкі» (Дняпро — Дзвіна — Ловаць — Волхаў) і шляху па Зах. Дзвіне на ўсход[273].

Некаторыя даследчыкі лічаць, што ўступка Усвятаў і Віцебска была найперш ударам па Смаленску, і бачаць у ёй адну з прычын барацьбы Смаленска з Полацкам, якая ўзнікла пазней [274], і ў гэтым часткова яны маюць рацыю.

Паколькі ў Сафійскім і Васкрасенскім летапісах сказана, што Брачыслаў згадзіўся «заадзін» ваяваць разам з Яраславам да канца свайго жыцця, то можна зрабіць вывад, што ён прымаў удзел калі не ва ўсіх, то ў многіх заваёўніцкіх паходах Яраслава. Аднак крыніцы пра гэта маўчаць, і таму нічога пэўнага сцвярджаць у гэтых адносінах мы не можам. І. Бяляеў выказаў меркаванне, што Брачыслаў мог прыняць удзел у паходзе Яраслава ў 1038 г. на яцвягаў[275]. Што гэты паход быў накіраваны на панямонскіх яцвягаў, не можа быць сумнення, бо ўслед за ім адбыўся і паход на літву, што асела ў Верхнім Панямонні. Цікава, што пра апошняе здагадваўся і І. Бяляеў, але ён думаў, што тут знаходзілася толькі частка, а не ўся Літва[276]. Аднак звесткі пра вынікі паходу 1038 г. у крыніцах вельмі супярэчлівыя. У летапісным зводзе 1479 г. гаворыцца, што Яраслаў не мог узяць яцвягаў[277], а ў Хлебнікаўскім і Пагодзінскім спісах Іпацьеўскага летапісу сцвярджаецца аб перамозе над яцвягамі. Вельмі важныя звесткі пра гэты паход мы знаходзім у Тацішчава. Хоць тут таксама сцвярджаецца пра перамогу Яраслава, аднак зазначаецца, што ён «градов их (яцвягаў) взять не мог, ибо не хотел со стенами биться и людей терять» і таму «скота и имения по сёлам множество побрав, возвратился»[278]. Як бачым, яцвягі мелі добрыя ўмацаванні-крэпасці, якія Яраслаў не змог узяць і абмежаваўся абрабаваннем.

Намі вышэй было адзначана, што племя літва, пасяліўшыся ў Верхнім Панямонні, заняло частку яцвяжскай тэрыторыі. Таму зразумела сувязь паміж паходамі на яцвягаў і на літву. Не перамогшы першых, нельга было ісці на другіх, што і адбылося ў 1040 г. Пераважная большасць крыніц маўчыць пра вынікі гэтага паходу і ўспамінаюць

толькі паасобныя з іх. Хлебнікаўскі і Пагодзінскі спіскі ўслед за словамі «Ярослав иде на литву» дадаюць «и победи их»[279]. Зноў больш падрабязныя звесткі аб гэтым мы атрымліваем у матэрыялах В. Тацішчава, дзе сказана, што Яраслаў пакарыў літву і ўсклаў на яе даніну[280].

Паходы Яраслава на яцвягаў і літву азначалі пачатак падначалення беларускага Панямоння ўладзе Кіева. Наўрад ці Брачыслаў, уладанні якога ляжалі блізка да гэтай тэрыторыі, быў зацікаўлены ў яе адыходзе да Кіева. Нельга забывацца, што ў канцы X ст. быў заснаваны Ізяслаўль, які знаходзіўся ў непасрэднай блізкасці да Старажытнай Літвы, а магчыма, ужо і на яе тэрыторыі, і, такім чынам, мог з'явіцца першым полацкім каланізацыйным асяродкам у ёй. Я. Длугаш таксама гаворыць аб перамозе Яраслава над літвой у 1040 г., у выніку чаго той пакарыў значную частку нёманскага ўзбярэжжа. Прычым гэты гісторык удакладняе і месца перамогі: на палях слонімскіх[281]. Усё гэта змушае нас лічыць больш правільным сведчанне аб перамозе Яраслава над яцвягамі і літвой (паведамленне Я. Длугаша дае права рабіць вельмі важную выснову, што Слонім знаходзіўся на тэрыторыі Старажытнай Літвы, і гэта пацвярджае тапонім Літва на тэрыторыі Слонімскага раёна).

Усё сказанае робіць праблематычным удзел Брачыслава ў адзначаных паходах. Можна нават меркаваць, што паход Яраслава на літву ў 1040 г. мог выклікаць пэўныя пярэчанні Брачыслава, на што ўкажуць падзеі 1044 г, пра якія мы будзем гаварыць ніжэй.

Трэба думаць, што пасля 1021 г., калі было вырашана жыццёва важнае пытанне пашырэння ўладанняў на ўсходзе, увага Брачыслава скіроўвалася на прасоўванне на захад. На гэта можа ўказаць г. Браслаў, заснаванне якога прыпісваецца Брачыславу і які першапачаткова называўся Брачыслаўлем[282]. Праўда, у апошні час В. Жучкевіч абвяргаў гэта, лічачы паходжанне гэтай назвы балцкім[283]. Аднак цяжка ўявіць, як ад «брасто», г. зн. «брод», магла ўтварыцца назва «Браслаў», якая ў ранейшых крыніцах мае форму «Браславль»[284]. Тое, што на месцы Браслава існавала паселішча да XI ст., таксама не адвяргае гэта. Яно магло быць разбураным, а замест яго магло быць узведзена новае, з новай назвай. Ніводзін горад не ўзнікаў на голым месцы. Што назва «Браслаў» не балцкага паходжання, можа сведчыць наяўнасць і іншых назваў, якія паходзяць ад імя Брачыслаў. Яны размешчаны на межах Полацкай зямлі, і іх няма па-за межамі яе. Гэта: в. Браслаў ля возера Сівера ў 20 км на паўночны ўсход ад горада Краслаўкі (Усходняя Латвія), дзе маецца разбуранае гарадзішча, Браслава



*Аршанскае гарадзішча*

(у Абрэнскім р-не Латвійскай ССР) і асабліва Браслаўль у 15—20 км на поўнач ад Оршы[285]. Умацаваныя гарадзішчы, якія ўзніклі ў XI ст. на астравах азёраў Дрысвяты і Мядзел, таксама сведчаць аб прасоўванні Полацка ў гэты час ў глыб балцкай тэрыторыі ў заходнім кірунку. Вось гэтыя назвы побач з Віцебскам і Усвятамі могуць быць у некаторым сэнсе пэўным арыенцірам у вызначэнні межаў тэрытарыяльнага росту Полаччыны ў час князявання Брачыслава. Існуе думка, што ў гэты час да Полацка адышла і частка Падняпроўя з Оршай і Копысем[286]. Яе аднолькава цяжка і прыняць і абвергнуць. Адно толькі пэўна, што гэтыя гарады ўваходзілі ў склад Полаччыны, але невядома, з якога часу. Крыху далей мы выкажам аб гэтым свае меркаванні. Цяжка сказаць, куды прасунуліся паўднёвыя межы Полаччыны ў час Брачыслава. Нам дакладна вядома, што ўжо ў канцы X ст. ёй належаў Ізяслаўль, г. зн. вярхоўе Свіслачы. Можна толькі меркаваць, што і Менск у гэты час быў уладаннем Полацка, як гэта пацвердзяць падзеі 1067 г.

Хоць дайшоўшыя да нас матэрыялы далёка не выяўляюць шырокіх абсягаў дзейнасці Брачыслава, усё ж яны паказваюць, што ён вызначаўся энергіяй, рашучасцю, палітычнай праніклівасцю, дыпламатычным уменнем, і таму наўрад ці адпавядае сапраўднасці самахарактарыстыка Брачыслава, што ўнесена ў «Эймундаву сагу»: «Я не такі знаходлівы, як Яраслаў-князь»[287]. Падзеі 1021 г. паказалі, што Брачыслаў у досціпе нічым не ўступаў Яраславу. Сага добра выявіла моц полацкага веча і залежнасць ад яго князя, калі мы чуем словы апошняга, сказаныя Эймундавым нарманам: «Дайце мне час параіцца з маімі мужамі, бо яны даюць грошы, хоць выплачваю іх я»[288]. Такім чынам, веча мела

першаступеннае значэнне ўжо на пачатку полацкай гісторыі.

Летапіс паведаміў аб смерці Брачыслава ў 1044 г. Можна думаць, што ён жыў каля 45 гадоў. Бясспрэчна, лепшыя якасці Брачыслава пераняў і памножыў яго славуты сын Усяслаў, які ўнаследаваў ад яго і полацкі пасад. Але паколькі паведамленні пра дзейнасць Усяслава пададзены ў летапісе толькі з 1060 г., то мы звернемся спачатку да больш ранніх падзей, якія адбываліся ў Панямонні, Тураўскай і Смаленскай землях.

## ПАНЯМОНСКІЯ, ТУРАЎСКІЯ І СМАЛЕНСКІЯ ПАДЗЕІ Ў СЯРЭДЗІНЕ XI СТАГОДДЗЯ

Найперш пра паход Яраслава Мудрага на літву ў 1044 г. Асвятленне гэтага факта ў крыніцах прымушае паставіць пытанне: «А ці меў ён месца ў гісторыі?» Сапраўды, такія аўтарытэтныя летапісы, як «Аповесць мінулых гадоў», Іпацьеўскі, Троіцкі, Густынскі, Зводы 1497 і 1518 гг. і некаторыя іншыя, не адлюстравалі гэтай падзеі, у іх толькі гаворыцца пра аналагічны паход у 1040 г. Але адначасова такія летапісы, як Сафійскі І, Наўгародскі IV, «Софийский временник», Ніканаўскі, Цвярскі, а таксама «История Российская» В. Тацішчава, паказваюць гэту падзею, прычым упамінаючы і пра паход 1040 г. Для нас асабліва важныя сведчанні першых трох крыніц, бо ў іх пачатку былі змешчаны ўрыўкі з летапіснага помніка, болей старажытнага, чым «Аповесць мінулых гадоў», з г. зв. Пачатковага зводу[289]. Усё гэта і дае нам падставу лічыць гэты паход сапраўдным гістарычным фактам.

Важнае прынцыповае значэнне мае і пытанне: «Калі менавіта адбыўся гэты паход: да ці пасля смерці Брачыслава?» Усе ўказаныя летапісы паказваюць першае. І толькі ў В. Тацішчава — другое[290]. І, на нашу думку, апошняя крыніца болей верагодная і вось чаму. Мы вышэй ужо выказвалі меркаванне, што паходы Яраслава на яцвягаў у 1038 г. і асабліва на літву ў 1040 г. маглі выклікаць незадаволенасць Брачыслава, і, магчыма, паміж ім і Яраславам была заключана пэўная ўмова, згодна з якой Яраслаў абавязваўся не пранікаць далей у Літву. Не выключана таксама, што тэрыторыя Літвы, гаворачы сучаснай мовай, была падзелена на сферы ўплыву паміж Кіевам і Полацкам. Але са смерцю Брачыслава гэта ўмова траціла сваю сілу, і Яраслаў рашыў далей умацоўваць свае пазіцыі ў Літве.

Вось для гэтага і спатрэбіўся паход на яе ў 1044 г., і таму натуральна, што паведамленне пра яго ў В. Тацішчава, які карыстаўся больш праўдзівымі крыніцамі, што не дайшлі да нас, і ідзе за паведамленнем пра смерць Брачыслава. Паход гэты быў пераможны, бо завяршыўся пабудовай «Новагорода», пад якім, як гэта першы заўважыў В. Тацішчаў, трэба разумець сучасны Наваградак. Паасобныя каментатары лічаць, што пад упомненым тут «Новогородом» трэба разумець закладку каменных гарадскіх сцен у Ноўгарадзе Вялікім, што, маўляў, пацвярджае Наўгародскі III летапіс, дзе растлумачана: «...на Софийской стороне каменный город»[291]. У некаторых летапісах сказана, што паход на літву зрабіў Яраслаў, а «Володимир (сын Яраслава, тады наўгародскі князь) заложи Новгород»[292]. Аднак гэта яўная недарэчнасць, якая ідзе ад таго, што пазнейшым рэдактарам летапісаў не было зразумела, які «Новгород» заклаў Яраслаў, і яны, натуральна, прыпісвалі гэта наўгародскаму князю Уладзіміру, які ў 1045 г. «заложил церковь Святой Софии в Новгороде»[293]. Аднак тое, што ва ўсіх крыніцах узвядзенне «Новагорода» звязана з паходам Яраслава на літву ў 1044 г., дае добрую падставу, каб пад гэтым горадам разумець сучасны Наваградак. Дарэчы зазначым, што дата заснавання Наваградка яўна замоўчваецца ў гістарыяграфіі. У. Пашута спецыяльна папярэдзіў чытачоў, што ўпомнены пад гэтым годам у летапісах «Новгород» — не Навагародак[294]. Цалкам абыходзіць яе і Ф. Гурэвіч у сваіх працах па археалагічнай гісторыі Беларускага Панямоння і, у прыватнасці, у апошняй кнізе «Древний Новогрудок»[295]. Ігнараванне гэтай даты зусім не выпадковае, бо яна ясна пацвярджае месца знаходжання Старажытнай Літвы ў Верхнім Панямонні, у той час як названыя даследчыкі атаясамляюць яе з сучаснай. Такім чынам, Наваградак быў узведзены Яраславам на мяжы Старажытнай Літвы і Яцвязі (што адзначыў А. Ельскі) як апорны пункт панавання над імі Кіева. Цалкам магчыма, што на месцы Наваградка існавала раней нейкае паселішча, відаць, абарончага характару, але ў час паходу 1044 г. было разбурана і на яго месцы збудаваны новы горад. І хоць у далейшым ён стаў цэнтрам славянскай каланізацыі, асіміляцыі і хрысціянізацыі і набыў важнае эканамічна-гандлёвае, а разам з ім і палітычнае значэнне, аднак у першапачатковай сваёй ролі, як аплот кіеўскага панавання ў Верхнім Панямонні, ён зрабіўся яшчэ адным вузлом кіеўска-полацкіх супярэчнасцяў, што трохі пазней і знайшло сваё знешняе выяўленне.

Зараз спынімся на асвятленні тураўскай гісторыі. Пасля кароткага княжання Святаполка ў Тураве апошні стаў



*Славянскія вырабы X—XI стст., знойдзеныя ў Беларускім Панямонні*

непасрэдна кіраваецца з Кіева. Такое становішча прадаўжалася амаль да смерці Яраслава (1054). Але ці азначала гэта, як лічаць некаторыя даследчыкі, страту Тураўскай зямлёй усіх прызнакаў палітычнай адасобленасці і самастойнасці?[296] Нам здаецца, што нельга ў залежнасці ад таго, хто правіў Туравам — сам вялікі князь з Кіева ці яго які-небудзь нашчадак у Тураве,— лічыць гэта княства несамастойнай ці самастойнай палітычнай адзінкай. Незалежным палітычна яно не было як у першым, так і ў другім выпадках. Кіеў моцна трымаў Тураўскую зямлю і як тэрыторыю, па якой ішла важная прыпяцкая водная магістраль, што звязвала Кіеў з Захадам, і як плацдарм барацьбы з Польшчай, Яцвяззю, Літвой і Полацкам. Каб у гэтым упэўніцца, варта толькі прыгадаць паходы Яраслава на Мазовію, яцвягаў, у Літву, якія маглі ажыццяўляцца толькі праз Тураўскую зямлю. Аднак сказанае яшчэ не азначае, што Тураўшчына побач з сваёй палітычнай самастойнасцю траціла і сваю адасобленасць і самабытнасць. Ніколькі. Не гаворачы ўжо аб яе тэрытарыяльнай адметнасці як краю балот і лясоў, Тураўшчына ўсё болей набывала і свой этнаграфічны твар, што было звязана з заканчэннем працэсу зрашчэння славянскага і балцкага насельніцтва. Як пакажуць пазнейшыя падзеі ў Тураўшчыне, яна ніколькі не мірылася са сваім паднявольным становішчам і адчувала ўвесь цяжар кіеўскага ўладання.

Крыніцы не даюць дакладнай даты раздзелу Яраславам валасцей паміж сваімі сынамі. Але наўрад, што такое адбылося перад самай смерцю. Гэта можна вывесці з таго, што другі сын Яраслава Уладзімір ужо ў 1036 г., г. зн. у 16-гадовым узросце, быў пасаджаны бацькам на княжанне ў Ноўгарадзе. Трэба думаць, што і іншыя сыны Яраслава, па меры таго як станавіліся паўналетнімі, атрымлівалі таксама княскія пасады. Вось чаму цалкам дапушчальна, што трэці сын Яраслава — Ізяслаў, які нарадзіўся ў 1024 г., яшчэ да 1052 г. (з 1042 г.) мог княжыць у Тураве, бо ў гэты год, атрымаўшы пасад Уладзіміра ў Ноўгарадзе, ён, як сведчаць Васкрасенскі, Сафійскі і Густынскі летапісы, застаецца і князем тураўскім. Быў ім Ізяслаў і тады, калі пасля смерці бацькі (1054 г.) становіцца кіеўскім князем. Гэтым фактам яшчэ раз пацвярджаецца, наколькі важным было для кіеўскай улады трымаць у сваіх руках непасрэдна Тураў, асабліва ўлічваючы ўзмацненне ў гэты час кіеўска-польскіх узаемаадносін. Пра гэта гавораць такія факты, як паходы Яраслава ў Польшчу, шлюб Казіміра з сястрой Яраслава Марыяй-Дабранегай, шлюб Ізяслава з сястрой Казіміра і асабліва тая падтрымка, якую аказаў Ізяславу Баляслаў у падзеях 1068 г. і інш., што мела непасрэднае дачыненне да Тураўскай зямлі. Усё гэта пасля падзей, звязаных са Святаполкам, ясна паказвае, што менавіта Тураўшчына была першай з беларускіх земляў, дзе завязаўся вузел руска-польскіх адносін і супярэчнасцяў. Ёсць меркаванне, паводле якога Ізяслаў, будучы кіеўскім князем, паслаў у Тураў свайго сына Яраполка, што знаходзіць пацверджанне ў пазнейшых падзеях: брат Ізяслава Усевалад, стаўшы кіеўскім князем, даў Яраполку ў прыдачу да Уладзіміра Валынскага і Тураў.

Прыблізна ў тым жа становішчы, што і Тураўская, знаходзілася і Смаленская зямля. У ёй таксама, трэба думаць, незадоўга да смерці Яраслава быў пасаджаны чацвёрты сын апошняга — Вячаслаў (нар. у 1034 г.). Гэта падзея і лічыцца некаторымі даследчыкамі як указанне на першае адасабленне Смаленскай зямлі і як з'яўленне ў асобе яе палітычнай адзінкі, бо этнаграфічна яна склалася раней[297]. І з гэтым у цэлым можна пагадзіцца, паколькі звесткі пра Станіслава Уладзіміравіча як першага смаленскага князя вельмі цьмяныя. Аднак Вячаслаў княжыў нядоўга, памёршы ў 1057 г. (Яго жонка Ода з сваім малалетнім сынам Барысам выехала на радзіму, у Саксонію. Пазней, каля 1077 г., Барыс вярнуўся на радзіму і прыняў удзел у міжкняскіх спрэчках.) Князем у Смаленску быў пастаўлены малодшы сын Яраслава — Ігар, пераведзены сюды з Уладзіміра Ва-

лынскага. Апошняе гаворыць, што валоданне Смаленскам у той час лічылася больш выгадным, чым валоданне Валынню. Аднак і Ігар княжыў нядоўга, ён памёр у 1060 г. (Яго жонка Кунігунда, як і жонка Вячаслава, таксама была родам з Германіі, куды яна і выехала пасля смерці мужа.) І вось тут выяўляецца ў адносінах Смаленска тая ж самая палітыка паўднёварускіх князёў, што і ў адносінах да Турава: ні ў якім разе не выпускаць яго з сваіх рук. Яны ўлічылі выключнае стратэгічнае становішча Смаленшчыны, з якой можна было ўплываць на Наўгародскую, Растова-Суздальскую, Полацкую і Чарнігаўскую землі, тым болей што яна лічылася дастаткова багатай, каб стварыць неабходную вайсковую сілу для забеспячэння гэтага ўплыву. Вось чаму пасля смерці Ігара ў 1060 г. паўднёварускі трыумвірат (Ізяслаў Кіеўскі, Святаслаў Чарнігаўскі і Усевалад Пераяслаўскі) рашыў не ставіць у Смаленску асобнага князя, у прыватнасці старэйшага ўнука Яраслава — Расціслава Уладзіміравіча, каб гэтым самым не стварыць прэцэдэнту для замацавання тут якой-небудзь адной княскай лініі, і падзяліў гэтую зямлю паміж сабой. Трэба зазначыць, што гэта падзея ў летапісах занесена пад дзвюма датамі: у Васкрасенскім, Сафійскім I і «Софийском временнике» пад 1054 г. (у год смерці Яраслава), у «Русском летописце» і Цвярскім летапісе — пад 1060 г. Нам думаецца, што апошнія крыніцы больш дакладна датуюць гэту падзею, паколькі бясспрэчным з'яўляецца факт князявання Ігара ў Смаленску і яго смерць у 1060 г. У даследчыкаў няма адзінай думкі ў адносінах сутнасці гэтага падзелу. Адны разумеюць яго ў сэнсе падзелу даходаў з зямлі[298], іншыя лічаць, што гэта быў тэрытарыяльны падзел. І гэта, відаць, так, бо ў летапісах ясна сказана, што Смаленск падзялілі на тры часткі. І хоць у крыніцах канкрэтна не ўказана, як гэты падзел быў праведзены, некаторыя гісторыкі ўяўляюць яго такім чынам: Смаленск з заходняй часткай зямлі пераходзіў непасрэдна ў валоданне кіеўскага князя Ізяслава, вярхоўі Волгі і паўночна-ўсходняя частка — пераяслаўскаму князю Усеваладу і паўднёвая і паўднёва-ўсходняя часткі — чарнігаўскаму князю Святаславу[299]. Падобны падзел мог быць і невыпадковым, бо ён мог з'явіцца знешнім выяўленнем этнаграфічных адметнасцяў састаўных частак Смаленскай зямлі. Заходняя частка, дзе крывічы аселі на балцкім субстраце, была месцам беларускага этнагенезу, усходняя і паўночна-ўсходняя часткі, дзе крывічы і часткова славене аселі на угра-фінскім субстраце, стала месцам велікарускага этнагенезу. Невыпадковым быў і адыход паўднёвай і паўднёва-ўсходняй часткі да Чарнігаўскага

княства. У ёй у асноўным пражывалі радзімічы і вяцічы, якія, на што мы ўказвалі раней, былі па паходжанні найбольш блізкія северанам, што склалі ядро Чарнігаўскага княства. Тут асіміляцыя балтаў і угра-фінаў ішла марудней з прычыны іх большай гушчыні, што запавольвала ўтварэнне і размежаванне новых этнасаў, і таму тут яшчэ давала сябе знаць ранейшая славянская роднасць блізкіх па паходжанні і рассяленні плямёнаў. Са сказанага яскрава бачна, што Смаленская зямля сфармавалася на неаднародным этнічным грунце, адсюль і яе ўнутраныя разнароднасць і няўстойлівасць, характэрныя для ўсёй яе гісторыі.

Яшчэ да ўмацавання сваёй улады ў Смаленскай зямлі паўднёва-рускі трыумвірат зрабіў гэта і ў адносінах Ноўгарада, дзе быў пасаджаны старэйшы сын Ізяслава Кіеўскага — Мсціслаў, і ў Пскове, адкуль быў вывезены пасаджаны яшчэ Яраславам у цямніцу Судзіслаў (нават прысутнасць там князя-вязня палохала трыумвірат!). Са сказанага зразумела, што ўсё гэта стварала і пагрозу падначалення Полацка паўднёва-рускай кааліцыі, што і вызначыла ў цэлым сутнасць далейшай полацкай гісторыі і найперш характар дзейнасці Усяслава.

## АСОБА КНЯЗЯ УСЯСЛАВА ЧАРАДЗЕЯ І ЯГО ПАЧАТКОВАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ

Беспрэцэдэнтнае па сваёй працягласці княжанне Усяслава (1044—1101 гг.) складае цэлую і асабліва багатую эпоху ў полацкай гісторыі. Разгляд яе для нас шмат у чым аблягчаецца выдатнай працай Д. С. Леанардава «Полоцкий князь Всеслав и его время» (1912—1916 гг.), якая не страціла навуковае значэнне і сёння.

Хоць пра Усяслава дайшло да нас непараўнальна больш звестак, чым пра іншых дзеячаў нашай першапачатковай гісторыі, усё ж і іх недастаткова, каб скласці ўсебаковае і яскравае ўяўленне пра абсягі тытанічнай дзейнасці гэтага волата нашай мінуўшчыны. Невядомай для нас засталася дата нараджэння Усяслава, і мы можам толькі прыкладна меркаваць, што ён мог нарадзіцца не раней 1018—1020 гг. Імя сваё ён, відаць, атрымаў у памяць рана памёршага свайго дзядзькі.

Розныя крыніцы — летапісныя, літаратурныя і вуснапаэтычныя — даносяць да нас вобраз Усяслава ў спалучэнні рэальных і фантастычных рысаў. І гэта зразумела. Яго натура была багатая і магутная, а яго жыццё было поўнае рашучых учынкаў, бліскучых узлётаў і трагічных падзенняў.



*Полацкая Сафія. XI ст.*
*(рэканструкцыя А. Сакалова, В. Булкіна, Г. Штыхава)*

У гэтым і прычына фантастычнасці вобраза Усяслава ў паказе розных крыніц, што найперш выявілася ўжо ў летапісным паведамленні пра нараджэнне Усяслава. Тая непрыязнасць да полацкага князя, што так яскрава праступае тут, на думку А. Шахматава і іншых даследчыкаў, тлумачыцца тым, што яна зыходзіла ад наўгародскага летапісца, бо менавіта Ноўгарад найбольш цярпеў ад нападаў Усяслава[300]. Полацкі князь паказаны як спараджэнне д'ябальскай сілы («его же роди мати от волхования»). Пры з'яўленні на свет у яго на галаве быццам бы бачна было «язвено», якое прысутныя тут валхвы сказалі навязаць на народжанага, што і было зроблена. Вось гэтым нібыта тлумачыцца неміласэрнасць Усяслава да кровапраліцця. Даследчыкі па-рознаму тлумачаць гэтыя летапісныя паведамленні. І. Бяляеў, напрыклад, лічыў, што факт прысутнасці пры нараджэнні Усяслава валхвоў гаворыць пра тое, што маці яго была літвінка[301]. Аднак валхвы былі больш характэрны для угра-фінаў, і таму больш верагодна, што з іх і паходзіла маці Усяслава. У вялікай ступені гэтым можа тлумачыцца падтрымка фінскім племем водзі полацкага князя ў барацьбе з Ноўгарадам, пра што мы будзем гаварыць пазней. Спрэчкі выклікала і пытанне, што разумець пад «язвеном» Усяслава. Думка М. Каяловіча, што гэты князь хварэў на каўтун, была вельмі пераканаўча адкінута Д. Леанардавым. Сапраўды, пры такой хваробе, якая надзвычай знясільвае чалавека, Усяслаў не быў бы



*Фрагмент старажытнай кладкі Сафіі Полацкай*

такім энергічным, якім ён паказаны ў розных крыніцах. Найбольш слушным з'яўляецца меркаванне В. Тацішчава, што пад «язвеном» трэба разумець «яйно», г. зн. пухір, у якім ляжыць плод і ў якім часамі нараджаюцца дзеці. Яго пасля высушвалі і надзявалі на народжанага як талісман. Менавіта Усяслаў і насіў яго на шыі, а не як павязку на галаве, паводле сцверджанняў некаторых даследчыкаў. Дарэчы, на малюнку Радзівілаўскага летапісу Усяслаў паказаны без павязкі на галаве[302]. У рэзкім кантрасце з летапіснай характарыстыкай Усяслава знаходзіцца шматгранна выпісаны вобраз яго як дзяржаўнага дзеяча, палкаводца і чалавека ў «Слове аб палку Ігаравым». Але паколькі тут ахоплена ўся дзейнасць полацкага князя, то мы будзем звяртацца да гэтай крыніцы ўвесь час.

На працягу шаснаццаці гадоў летапісы маўчаць пра Усяслава. Факт неверагодны ў дачыненні да князя, авеянага легендарнай славай. Гэта можа быць вытлумачана тым, што дзейнасць Усяслава ў гэты час не выходзіла за межы Полаччыны, бо кіеўскія і наўгародскія летапісы звычайна гаварылі пра Полацк толькі тады, калі яго інтарэсы закраналі інтарэсы Кіева і Ноўгарада. Так было ў адносінах Брачыслава, калі

імя яго з'явілася на старонках летапісаў толькі праз васемнаццаць гадоў з пачатку яго княжывання: у 1021 г. у сувязі з яго нападам на Ноўгарад. У такім выпадку прыходзіцца здагадвацца, што ва ўсе гэтыя гады Усяслаў быў заняты ўнутранай дзейнасцю. Але адначасова не выключана, што Усяслаў, як і ў свой час яго бацька, да з'яўлення яго імя на старонках летапісу толькі-толькі дасягнуў паўналецця.

Першыя шаснаццаць гадоў княжывання Усяслава прыпадаюць на апошнія дзесяць гадоў жыцця Яраслава Мудрага і першыя шэсць гадоў уладарання трыумвірату яго сыноў, калі наступіў такі рэдкі ў гісторыі Кіеўскай дзяржавы перыяд зацішша міжусобнай барацьбы, і таму ўлада кіеўскага князя дасягнула найбольшай устойлівасці і сілы. Зразумела, што ў такі час для Полацка, над якім навісла пагроза ўключэння пад уладу Кіева і які добра бачыў гэта, было б рызыкоўна «ўздымаць меч» спачатку на Яраслава, а пасля і на яго сыноў. Ранейшы гістарычны вопыт полацкіх князёў, і ў прыватнасці Брачыслава ў 1021 г., паказаў, што поспеху ў барацьбе з Кіевам і Ноўгарадам можна было дасягнуць толькі ў час міжусобіц у іх. Таму для Полацка не заставалася пакуль нічога, як чакаць зручнага моманту. З свайго боку і Кіеў з Ноўгарадам, бачачы ўнутраную ўстойлівасць Полацка, не рашаліся перайсці да дзеянняў супроць яго. Больш за тое, як раней Яраслаў, так і пазней яго сыны, разумеючы дзяржаўную моц Полацка, імкнуліся выкарыстаць яго як саюзніка.

Гэта і адбылося ў 1060 г., калі Усяслаў прыняў удзел у паходзе на торкаў, адзін з цюркскіх народаў, які, выціснуўшы з паўднёварускіх стэпаў печанегаў, стаў вялікай пагрозай для Кіева. Каб атрымаць вырашальную перамогу над торкамі, патрэбны былі вялікія сілы, і таму ўдзел Усяслава ў гэтым паходзе быў дарэчы. Д. Леанардаў лічыў, што сумесная вайсковая акцыя Усяслава з паўднёварускімі князямі была вынікам умовы Яраслава з Брачыславам у 1021 г.[303]. Аднак нам здаецца, што яна мела значэнне толькі да «канца жывата» Брачыслава і таму для Усяслава не мела ніякай сілы, як і для Яраслава, які адразу пасля смерці свайго саюзніка прадоўжыў заваяванне Літвы, збудаваў Навагрудак і гэтым самым стварыў пагрозу Полацку з паўднёвага захаду. Усё гэта прымушае думаць, што Усяслаў прыняў удзел у паходзе на торкаў на новых умовах. Тут дарэчы будзе ўспомніць, што ў гэтым годзе памёр смаленскі князь Ігар, пасля чаго адбыўся падзел Смаленскай зямлі. Менавіта за гэтымі падзеямі ў Лаўрэнцьеўскім, Іпацьеўскім, Сафійскім I, Ніканаўскім, Цвярскім летапісах і ў летапісных зводах 1497 і 1518 гг. і гаворыцца пра паход на торкаў. Таму само сабой

напрошваецца пытанне: «А ці не ўдзельнічаў у гэтым раздзеле Усяслаў і ці не адышлі менавіта ў гэтым годзе да Полацка Орша і Копысь?» Вядома, гэта толькі здагадка, бо не пацвярджаецца крыніцамі. Але ж гэта найбольш верагодны момант для ўваходжання гэтых гарадоў у склад Полаччыны. Факт гэтай прыналежнасці бясспрэчны, бо ў 1116 г. Орша і Копысь былі адабраны ад Полацка, дакладней — ад Менска. Мы ведаем, што і Брачыслаў толькі за ўступку яму Віцебска і Усвятаў згадзіўся на вайсковы саюз з Яраслававам. Таму няма нічога неверагоднага і ў тым, што Усяслаў мог згадзіцца на ўдзел у паходзе на торкаў толькі за ўступку яму пэўнай тэрыторыі, у даным выпадку Оршы і Копыся, што азначала далейшае ўмацаванне Полацка на вялікім гандлёвым шляху. Праўда, і вынікі паходу былі выгадныя для Усяслава, як і для яго саюзнікаў, бо перамога, па ўсім відаць, была лёгкая, з малымі ахвярамі і стратамі. Торкі, спалохаўшыся аб'яднаных сіл паўднёварускіх і полацкага князёў, «бещисленые» войскі якіх ішлі на конях і ў лодках, сталі разбягацца. З крыніц В. Тацішчава мы даведваемся, што частка іх была пабіта, а частка ўзята ў палон, прыведзена «в Русь» і пасаджана па гарадах. Бясспрэчна, што нямала іх было паселена і ў Полаччыне, якой з вялікімі ненаселенымі прасторамі не хапала людзей. Такім чынам, 1060 год быў спрыяльны для Полаччыны: ён пабольшыў яе насельніцтва, а магчыма, і тэрыторыю.

Аднак гэты супольны паход, такі плённы па сваіх выніках для абодвух бакоў, не адыграў важнай ролі ў спыненні іх узаемнай непрыязнасці, хоць знешне мірныя адносіны паміж імі прадаўжаліся яшчэ пяць гадоў. Для Полацка гэты час характэрны ўсё большым падкрэсліваннем сваёй дзяржаўнай асобнасці, што найперш выявілася ў будаўніцтве Сафійскага сабора, што павінна было сімвалізаваць роўнасць Полацка з Кіевам і Ноўгарадам, дзе ўжо былі ўзведзены такія храмы. Ёсць усе падставы лічыць Усяслава ініцыятарам будаўніцтва Полацкай Сафіі. Цяжка дакладна сказаць, у якім годзе пачалося будаўніцтва яе: адразу пасля заняцця полацкага пасада Усяславам ці трохі пазней, пасля заканчэння будаўніцтва такіх самых храмаў у Кіеве ў 40-х гадах і ў Ноўгарадзе ў 1050 г. Адно бясспрэчна: будаўніцтва Полацкай Сафіі было закончана ў цэлым да 1066 г. Найперш гэта пацвярджае «Слова аб палку Ігаравым», калі ў ім гаворыцца: «Тому (г. зн. Усяславу) в Полотске позвониша заутреню ране у Святыя Софеи колоколы, а он в Кыеве звон слыша». Як добра вядома, Усяслаў знаходзіўся ў Кіеве ў 1067—1069 гг., і, значыць, к гэтаму часу сабор быў збудаваны. Ніжэй мы ўбачым, што гэты факт пацвердзілі і лета-

пісы, і гэта адкідае пазнейшыя домыслы, якія маюцца ў «Хроніцы Быхаўца» і «Хроніцы» М. Стрыйкоўскага, пра тое, што будаўніком Полацкай Сафіі быў міфічны князь літоўскага паходжання Барыс Гінгвілавіч.

## «ПОЧА ВСЕСЛАВ РАТЬ ДЕРЖАТИ»

Збудаванне Полацкай Сафіі побач з іншым сімвалізавала сабою і шырокія палітычныя задумы Усяслава, якія і пачалі выяўляцца з сярэдзіны 60-х гадоў XI ст. Для гэтага наспелі спрыяльныя палітычныя абставіны. Працэс распаду Кіеўскай дзяржавы з прычыны развіцця феадалізму і звязанага з гэтым эканамічнага росту паасобных абласцей вельмі добра абазначыліся ў другой палове XI ст. Пасля параўнальна доўгага зацішша ў міжусобнай барацьбе ў асяроддзі кіеўскіх князёў і адзінства іх дзяржавы, якое цягнулася з 1036 г. (з часу смерці Мсціслава), князь Расціслаў Уладзіміравіч у 1064 г. распачаў барацьбу за Тмутаракань (некаторыя аўтары сцвярджаюць, што ён у 1060 г. пасля смерці Ігара прэтэндаваў на Смаленск і што менавіта з-за апошняга і пачалася гэта першая пасля смерці Яраслава міжусобіца)[304]. Тут дарэчы будзе заўважыць, што распад Кіеўскай дзяржавы, абумоўлены найперш аб'ектыўнымі прычынамі сацыяльна-эканамічнага развіцця, у пэўнай ступені паскараўся і суб'ектыўнымі прычынамі, звязанымі з разрастаннем роду Рурыкавічаў. Пануючыя тады родавыя паняцці і ўяўленні вымагалі выдзялення кожнаму члену роду яго ўдзела, што, у сваю чаргу, распальвала міжусобную барацьбу, паколькі не ўсе былі задаволены сваім удзелам (а некаторыя заставаліся без іх, як гэта здарылася з Расціславам Уладзіміравічам) і на падставе гэтага лічылі сябе пакрыўджанымі.

Цяжка сказаць, ці ўзнікла б міжусобная барацьба ў Полацкай зямлі ў першай палове XI ст. паміж Усяславам і Брачыславам, калі б першы з іх не памёр у 1003 г., у выніку чаго другі стаў адзіным прадстаўніком новага княскага роду. (Наўрад ці былі ў Ізяслава Уладзіміравіча, які памёр у раннім узросце, яшчэ сыны апроч Усяслава і Брачыслава.) Невядома таксама, ці былі ў Брачыслава сыны апроч Усяслава, бо крыніцы пра гэта маўчаць. Хутчэй за ўсё што не было, бо ў адваротным выпадку летапісы так ці інакш пра гэта б паведамілі, як яны не абышлі маўчаннем смерць малалетняга Усяслава ў 1003 г. Тое, што Брачыслаў і Усяслаў былі адзінымі прадстаўнікамі роду Ізяславічаў у час свайго

князявання, у пэўнай ступені засцерагло Полацкую зямлю ад унутранага разладу ў найбольш цяжкі момант яе напружанай барацьбы за сваю самастойнасць. Трэба думаць, што і Полаччына ў другой палове XI ст. не была свабоднай ад аб'ектыўных законаў грамадскага развіцця, што і ў ёй выспявалі паасобныя тэрытарыяльныя адзінкі з сваімі эканамічнымі інтарэсамі, бо, вядома ж, не маглі з'явіцца яны раптоўна ў пачатку XII ст. Усяслаў, відаць, яшчэ пры жыцці саджаў сваіх сыноў у гэтыя ўдзелы, але моцная яго рука трымала згоду паміж імі.

Паколькі сілы Кіева былі адцягнуты барацьбой з Расціславам на поўдзень, то для Усяслава надарылася магчымасць для нанясення ўдару на поўначы. Ён і не замарудзіў выкарыстаць гэта. Аднак адлюстраванне ў крыніцах гэтага важнага моманту ў полацкай гісторыі ставіць перад даследчыкамі некаторыя праблемы. Праўда, ва ўсіх важнейшых летапісах гэта падзея атрымала амаль аднолькавыя формулы: «Поча Всеславь рать держати» (Наўгародскі І і інш.) або «Заратися Всеслав» (Лаўрэнцьеўскі, Цвярскі, Сафійскі І і інш.), прычым яны змешчаны ўслед за паведамленнем пра барацьбу паўднёварускіх князёў з Расціславам, гэтым самым паказваючы непасрэдную сувязь з апошняй дзеяннях Усяслава. Заўважым, што ў Лаўрэнцьеўскім і Троіцкім летапісах пачатак вайсковай дзейнасці Усяслава пазначаны 1064 г., хоць у большасці крыніц мы бачым 1065 г., што, па ўсім відаць, больш праўдзіва. Асабліва здзіўляе тое, што ў пераважнай большасці летапісаў за паведамленнем пра пачатак барацьбы Усяслава не ўказаны канкрэтны адрас яго нападу. І толькі з Пскоўскага II (цікава, што ў Пскоўскіх I і III пра гэта ні слова), Наўгародскага IV і Цвярскога летапісаў мы даведваемся, што Усяслаў у 1065 г. напаў на Пскоў, і гэты выбар не быў выпадковы. Будучы падначалены непасрэдна Ноўгараду, Пскоў, такім чынам, рабіўся непасрэдным плацдармам наўгародскага нападу на Полацк. Па-другое, падначаленне Пскова дало магчымасць Ноўгараду асвойваць у сэнсе збору даніны даволі вялікую тэрыторыю на паўночным захадзе ад вярхоўя Ловаці да поўдня ад рэк Полісці і Судомы, дзе канкурэнтам Ноўгарада мог быць толькі Полацк[305]. Зразумела, што напад Усяслава на Пскоў меў прэвентыўны характар і ставіў сваёй мэтай спыніць умацаванне Ноўгарада ля самых межаў Полаччыны.

У Пскоўскім II летапісе мы знаходзім найбольш поўнае апісанне аблогі Пскова Усяславам. З яго мы і даведваемся, што полацкі князь сабраў «силы своя многыя», карыстаўся лепшымі тагачаснымі вайсковымі прыёмамі («многыя замысления»), у прыватнасці граміў крэпасць сценабітнымі пры-



*Аднакамерная хата на гарадзішчы Берасце*

ладамі («пороками шибав»). І ўсё ж, нягледзячы на гэта, ён не змог узяць Пскоў і адступіў («отьиде ничтоже успев»). Трэба зазначыць, што пскоўская крэпасць, дзякуючы прыродным умовам свайго знаходжання і ўзведзеным умацаванням, была адной з самых непрыступных у свой час. Але ці толькі гэта было прычынай, што Усяслаў не змог узяць Пскова? Тут мы падыходзім да разгляду аднаго вельмі заблытанага эпізоду нашай гісторыі. Тое, што паўднёвыя князі не маглі выступіць супроць Усяслава, зразумела: яны былі занятыя барацьбой з Расціславам. Але чаму не прыйшоў Ноўгарад на дапамогу залежнаму ад яго Пскову і ці сапраўды не прыйшоў? На гэтае пытанне наводзіць нас адно месца Камісійнага спісу Наўгародскага І летапісу пад 989 г., дзе даецца пералік наўгародскіх князёў: «И по преставлению (пасля смерці) Володимирове в Новегороде Изяслав (?) посади сына своего Мстислава: и победиша на Черехе; бежи ю к Киеву». Тут ёсць толькі адна няўвязка: пасля смерці Уладзіміра (1052 г.) Ізяслаў не мог ставіць свайго сына князем у Ноўгарадзе, бо ў гэты час жыў яшчэ сам Яраслаў Мудры, які і паставіў Ізяслава ў Ноўгарадзе. І ўжо толькі пасля смерці Яраслава Ізяслаў, стаўшы кіеўскім князем, мог паставіць свайго сына Мсціслава замест сябе княжыць у Ноўгарадзе, як, відаць, і было. А калі і кім мог быць разбіты Мсціслаў на Чарэсе? Яшчэ М. Карамзін, грунтуючыся на вышэйпрыведзеным летапісным урыўку, выказаў здагадку, што Мсціслаў пайшоў з Ноўгарада ў Кіеў менавіта пасля паражэння,

нанесенага яму Усяславам. Гэту думку падтрымаў і Д. Леанардаў, які лічыў зусім праўдападобным, што гэтае паражэнне папярэднічала нападу Усяслава на Ноўгарад. Сапраўды, у далейшым Мсціслаў Ізяславіч фігуруе ўжо на поўдні[306]. Цяпер трэба высветліць: калі мог быць разбіты Мсціслаў на р. Чарэсе. Апошняя ўпадае ў Пскоўскае возера з паўднёвага ўсходу. Зыходзячы з гэтага, А. Насонаў зусім слушна лічыў, што Усяслаў рухаўся на Пскоў менавіта ў гэтым кірунку, г. зн. яго шлях ішоў праз Пустаржэўскую воласць[307], якую сталі каланізаваць наўгародцы. Усё сказанае і дае падставу думаць, што Ноўгарад пайшоў на дапамогу Пскову і гэта прымусіла Усяслава, зняўшы аблогу крэпасці, сустрэць войска Мсціслава на Чарэсе, бо толькі праз яе мог ісці шлях ад Ноўгарада да Пскова. Разбіўшы Мсціслава на гэтай рацэ, Усяслаў мог бесперашкодна ісці на Ноўгарад. (Цяжка меркаваць, што Усяслаў, робячы асобны паход на гэты горад з Полацка, мог ісці праз Чарэсу. Такі шлях быў вельмі кружны і нявыгадны.) Такім чынам, зусім не выключана, што паходы полацкага князя на Пскоў і Ноўгарад узаемазвязаны. Відаць, першы з іх пачаўся ў канцы 1065 г., а другі адбыўся ў пачатку 1066 г. Аднак храналогія апошняга ў крыніцах таксама заблытаная: адны летапісы (Сінадальны спіс Наўгародскага I, Пскоўскія I, II і III, Цвярскі, Лаўрэнцьеўскі і інш.) паказваюць яго пад 1066 г., іншыя (Наўгародскі I і Камісійны, Іпацьеўскі, Троіцкі, Густынскі, Васкрасенскі, Сафійскі I, Ніканаўскі летапісы і «Аповесць мінулых гадоў») пад 1067 г. На жаль, гэта рознагалосіца крыніц не прыцягнула пільнай увагі даследчыкаў, якія, указваючы на яе, не высвятлялі прычыны яе. А гэтая блытаніна была вынікам блытаніны пазнейшымі перапісчыкамі дзвюх розных падзей, а менавіта нападу Усяслава на Ноўгарад у пачатку 1066 г. і паходу яго ў канцы гэтага ж года ці ў пачатку наступнага на Новагародак (Наваградак). Атрымалася прыблізна тое ж самае, што і пра паведамленне аб паходзе Яраслава Мудрага на літву і збудаванні ў выніку гэтага Наваградка, які ў летапісах называўся «Новоградом». Пазнейшыя перапісчыкі і рэдактары, не ведаючы дакладна, пра які «Новоград» ідзе гаворка, сталі адносіць гэтую падзею да Ноўгарада Вялікага.

Аналагічнае выйшла і пры паведамленні аб паходах Усяслава на Ноўгарад і Новагародак («Новоград»). Пазнейшыя рэдактары, не разумеючы, што тут гаворка ідзе пра два паходы на блізкія па назве гарады, пачалі аб'ядноўваць іх у адзін і адносіць або да 1066, або да 1067 гадоў. Звяртае на сябе ўвагу яшчэ вось што. У адных летапісах (Сінадальны спіс Наўгародскага I, Сафійскі I, Васкрасенскі, Ніканаўскі)

гаворыцца пра напад на Ноўгарад і абрабаванне яго Сафійскага сабора, у іншых (Камісійны спіс Наўгародскага I, «Аповесць мінулых гадоў», Троіцкі, Пскоўскія I, II і III, Густынскі, Цвярскі, Іпацьеўскі) без упамінання пра гэта. Зноў-такі вынік блытаніны двух паходаў. Калі напад на Ноўгарад мог суправаджацца абрабаваннем Сафіі, то пры нападзе на Новагародак, само сабой зразумела, гэтага не магло быць. На нашу думку, з усіх крыніц найбольш праўдзівай у гэтых адносінах трэба лічыць Сінадальны спіс Наўгародскага I летапісу. I зразумела. Гэта крыніца наўгародская і таму можа больш праўдзіва перадаваць падзею, звязаную з Ноўгарадам. Менавіта гэты летапіс, які адносіцца да XIII ст. і, значыць, самы даўні, паказвае паход Усяслава на Ноўгарад пад 1066 г. З гэтай крыніцы, а таксама з іншых мы даведваемся, што, захапіўшы Ноўгарад, Усяслаў спаліў яго да Нераўскага канца, захапіў палон з жанчынамі і дзецьмі і ў дадатак да гэтага абрабаваў Сафійскі сабор, забраўшы з яго званы і іншыя царкоўныя рэчы. Гэта дае падставу лічыць, што будаўніцтва Полацкай Сафіі было закончана да 1066 г. Хоць верагоднасць абрабавання Усяславам Наўгародскай Сафіі цалкам магчымая, аднак яно можа быць і пастаўлена пад сумненне. Сапраўды, такі ўчынак у час сярэднявечнага рэлігійнага фанатызму мог выклікаць нянавісць да Усяслава і праклён яго. Аднак, як мы ўбачым далей, Усяслаў у пазнейшых летапісных запісах паказаны як выключна рэлігійны чалавек. I наўрад ці захацеў бы з чалавекам, які абрабаваў сабор, уваходзіць у сяброўскія адносіны святы Антоній Пячэрскі. Паказальна і тое, што пра паход наўгародцаў у 1178 г. на Полацк як помсту за абрабаванне Усяславам Сафійскага сабора гаворыцца толькі ў Іпацьеўскім летапісе і не ўпамінаецца ў наўгародскіх. Усё гэта змушае засумнявацца ў тым, ці мог зрабіць такі ўчынак Усяслаў, і наводзіць на думку, а ці не ёсць гэта яшчэ адзін са злосных паклёпаў на Усяслава накшталт таго, што «его мати от волхования родила».

Як бачна, дзеянні Усяслава ў час нападу на Ноўгарад у многім паўтараюць дзеянні яго бацькі ў 1021 г., з той толькі розніцай, што ён не быў пакараны. Ды гэтага і не магло здарыцца, бо паўднёварускія князі былі ўсё яшчэ занятыя барацьбой з непакорным Расціславам Уладзіміравічам. Вось чаму Усяслаў, прадаўжаючы аслабляць варожае кола вакол Полацка, арэну сваёй барацьбы з поўначы перанёс на паўднёвы захад, дзе яшчэ ў 1044 г. Яраславам быў збудаваны Новагародак як апорны пункт уладарання Кіева над Літвой, што непасрэдна пагражала полацкім уладанням. Вось чаму Усяслаў і накіраваў свой чарговы ўдар на Новагародак.

Пэўным чынам, што гэты паход Усяслава быў зроблены не на Ноўгарад Вялікі, а на Новагародак, можа сведчыць і «Слова аб палку Ігаравым», хоць аўтар яго таксама, відаць, блытаў гэтыя гарады. У творы сказана пра Усяслава: «Отвори врата Нову-городу, расшибе славу Ярославу». Дык вось у літаратуры няма задавальняючага адказу, чаму, напаўшы на Ноўгарад (маецца на ўвазе Вялікі), Усяслаў «разбіў славу Яраславу». У апошні час Б. Рыбакоў тлумачыць гэта тым, што ў Ноўгарадзе «некалі з дапамогай наёмных варагаў распараджаўся Яраслаў»[308]. Але якая з гэтага слава Яраславу? Зусім іншае — Новагародак. Ён быў пабудаваны Яраславам у выніку перамогі яго над Літвой і таму меў пэўнае права быць на рахунку слаўных спраў гэтага кіеўскага князя. Менавіта захапіўшы і, верагодна, разбурыўшы Новагародак, Усяслаў і мог разбіць славу Яраслава. Праўда, далейшая фраза «Слова...» як бы супярэчыць сказанаму намі, але пра гэта мы будзем гаварыць ніжэй. Паход на Новагародак пачаўся недзе ў канцы сакавіцкага 1066 г. (паводле сучаснага календара ў пачатку 1067 г.). Цяпер дзеянні Усяслава сур'ёзна ўстрывожылі Яраславічаў, і яны пастараліся канчаткова пазбавіцца ад Расціслава, што і ўдалося ім 3 лютага 1066 г.: ён быў атручаны падасланым забойцам. Указаная дата сведчыць, што незадоўга перад ёю Усяслаў і пайшоў на Новагародак. Між іншым, у літаратуры выказвалася думка, што гэтыя дзеянні Усяслава былі выкліканы тым, што Яраславічы, расправіўшыся з Расціславам і павялічыўшы гэтым самым свае ўладанні, нічога не далі Усяславу[309]. Але гэта думка не мае падставы, паколькі мы ведаем, што Усяслаў значна раней пачаў барацьбу з Ноўгарадам і Кіевам.

Яраславічы сабралі ўсе свае аб'яднаныя сілы на Полаччыну. Чаму ж яны ўзялі кірунак на Менск? І гэта зусім незразумела, калі лічыць, як сцвярджаецца ў працах па гісторыі, што Усяслаў у дадзеным выпадку нападаў на Ноўгарад Вялікі[310]. Калі Брачыслаў у 1021 г. вяртаўся з Ноўгарада ў Полацк, то Яраслаў Мудры пераняў яго на р. Судоме, разбіў яго тут і адабраў палон. Які ж быў сэнс Яраславічам, ведаючы, што Усяслаў з вялікім палонам адышоў з Ноўгарада ў Полацк, ісці на Менск і гэтым самым даць яму магчымасць бесперашкодна вярнуцца дадому? Яшчэ раз прыгадаем, што Сінадальны спіс Наўгародскага І летапісу, гаворачы пад 1066 г. аб нападзе Усяслава на Ноўгарад і аб абрабаванні яго Сафіі, пад 1067 г. нічога не гаворыць аб нападзе на гэты горад і толькі коратка паведамляе пра Нямігскую бітву і ўзяцце ў палон Усяслава без ніякай сувязі з нападам на Ноўгарад. З гэтага ясна, што бітва на Нямізе не была вынікам нападу Усяслава на Ноўгарад Вялікі. Пазнейшы ж Камі-

сійны спіс гаворыць пра напад Усяслава на Ноўгарад пад 1067 г., увязваючы яго з бітвай на Нямізе. Гэты запіс поўнасцю ўзяты з «Аповесці мінулых гадоў». Ясна, што тут занатаваны напад на Новагародак, тым болей што тут не ўпамінаецца такая важная дэталь, як абрабаванне Сафіі. Не лішнім будзе звярнуць увагу на тое, што ў некаторых варыянтах Камісійнага спісу напісана не «Новгород», а «Новъгородъ»[311], як і ў «Аповесці мінулых гадоў»[312], што можа ўказваць на іншы горад, чым Ноўгарад Вялікі. Характэрна і тое, што «Аповесць мінулых гадоў» не адлюстравала нападу на Ноўгарад у 1066 г., паколькі ён непасрэдна не турбаваў Кіеў. А вось напад Усяслава на Новагародак у 1067 г. быў непасрэднай пагрозай інтарэсам Кіева і таму знайшоў досыць падрабязнае адлюстраванне ў гэтай крыніцы. Вось чаму В. Тацішчаў упершыню і зусім слушна выказаў думку, што Усяслаў Полацкі рабіў паход у 1067 г. не на Ноўгарад Вялікі, а на Новагародак Літоўскі (Наваградак)[313]. Толькі ў такім выпадку становіцца зразумелым, чаму Яраславічы пайшлі на Менск, бо праз яго з паходу на Новагародак і мог вяртацца ў Полацк Усяслаў. Трэба ўлічваць, што Менск у той час, на думку некаторых даследчыкаў, знаходзіўся на месцы сучаснай в. Гарадзішча[314]. Сапраўды, археалагічныя матэрыялы сведчаць, што тут ужо ў балцкую эпоху (V—VIII стст.) існавала буйное паселішча, якое, пазней асвоенае славянамі, усё больш узрастала (IX—XI стст.) і ператварылася ў буйны ўмацаваны горад. Гэтаму спрыяла выгаднае геаграфічнае становішча. Размешчаны на р. Менцы (адсюль і назва — Менск), прытоку Пцічы, ён ляжаў на стыку Дняпроўскага і Нёманскага басейнаў і таму мог мець важнае гандлёва-эканамічнае значэнне. Цяжка сказаць, калі гэты дрыгавіцкі горад увайшоў у склад Полацкага княства. Але калі ўжо ў канцы X ст. Заслаўе ўзнікла як полацкі горад, то можна думаць, што і Менск або адначасова з Заслаўем, або трохі пазней мог належаць Полацкаму княству, з'яўляючыся абарончым умацаваннем на яго паўднёвай мяжы. Апошняе і пацвердзілі падзеі 1067 г.

Менавіта на Менск найперш і накіравалі свой удар Яраславічы. Выйшлі яны на Полаччыну, як адзначалася ўжо, не раней 3 лютага 1066 г. (сакавіцкага). Для збораў і ўзгадненняў дзеянняў паміж Яраславічамі спатрэбіўся пэўны час. Але яны бачылі, што марудзіць нельга: Усяслаў, ідучы з Новагародка, мог свабодна пайсці ў Полацк і яго трэба было пераняць. Для Яраславічаў відавочным было, што зваротны шлях Усяслава мог ісці з Новагародка праз Менск, то толькі ў гэтай крэпасці ён мог умацавацца, і тут цяжка было перамагчы. Вось чаму яны і рушылі на Менск, каб хутчэй за Усяслава

прыйсці туды. Жыхары Менска, убачыўшы смяротную небяспеку і, відавочна, чакаючы скорага прыходу Усяслава з войскам, рашылі абараняцца. Яны, як сведчыць летапіс, «затворишася в граде». Аднак мяняне не маглі выстаяць супроць злучаных сіл усёй Паўднёвай Русі. Войска яе праравалася за сцены. Праўда, у тацішчаўскіх матэрыялах сказана, што рускія князі ўзялі Менск без супраціўлення[315]. Аднак незалежна ад таго, ці жыхары Менска супраціўляліся, ці не, расправа з імі была выключна жорсткая. У выніку яе (паводле В. Тацішчава, на гэтым настаяў чарнігаўскі Святаслаў, які асабліва лютаваў на Усяслава) усе мужчыны былі перабіты, а жанчыны і дзеці ўзяты «на шчыт», г. зн. у палон.

## НЯМІГСКАЯ БІТВА І ПАСЛЯ ЯЕ

Усяслаў, можна думаць, даведаўшыся, што Менск у руках ворага, рашыў абмінуць яго і знайсці ўкрыццё ў другім умацаваным месцы — у Нямізе. Нам скажуць, што, паводле «Слова аб палку Ігаравым», Усяслаў «скочыў да Нямігі з Дудутак», г. зн. з Ноўгарада Вялікага, бо, як указваюць некаторыя даследчыкі, ля яго было ўрочышча Дудуткі, дзе знаходзіўся адзін з манастыроў[316]. У адказ на гэта мы падкрэсліваем, што «Слова...» — гэта найперш мастацкі твор, а не гістарычны дакумент, і таму далёка не ўсюды яно можа быць пацвярджэннем той ці іншай думкі. Калі дакладна прытрымлівацца «Слова...», то выйдзе, што Усяслаў спачатку з'яўляўся вялікім князем у Кіеве (ды не адвезены туды як палонны, а пасля вызвалены паўсталымі кіяўлянамі і аб'яўлены там князем, а сам заваяваў гэты пасад, бо сказана, што «скочи к граду Киеву і дотчеся стружнем злата стола киевского»), а пасля ўжо «разбіў славу Яраславу і скочыў з Дудутак да Нямігі». Як мы ўбачым, усё адбывалася наадварот. Апроч таго, трэба браць пад увагу, што «Слова...» з'явілася аж праз 120 гадоў пасля Нямігскай бітвы і за гэты час многае магло забыцца ці пераблытацца. Калі пазнейшыя летапісцы ці перапісчыкі-рэдактары маглі пераблытаць паходы Усяслава на Ноўгарад і Навагародак, то гэта ж самае магло здарыцца і з аўтарам «Слова...». Вось чаму нельга словы «скочи волком до Немиги с Дудуток» прымаць як бясспрэчны гістарычны факт.

Але пяройдзем да пытання аб Нямізе як горадзе. Існаванне яго засведчана пісьмовымі крыніцамі[317], дзе ён упамінаецца ў спісе літоўскіх гарадоў. Маюць рацыю тыя даследчыкі, якія лічаць, што першапачаткова на месцы сучаснага Менска знаходзіўся горад Няміга, назва якога існавала да нядаўняга

часу ў назве цэлага раёна, заключанага паміж вул. Койданаўскай (суч. Рэвалюцыйная) і Старамясніцкай (цяпер не існуе) і ад ракі Свіслачы да вуліцы Раманаўскай (цяпер Рэспубліканская)[318]. Тут у сярэдзіне XI ст. і мог знаходзіцца г. Няміга, які атрымаў сваю назву ад невялічкай рэчкі Нямігі, на якой ён размясціўся пры ўпадзенні яе ў р. Свіслач.

Толькі ўлічваючы наяўнасць горада Нямігі, можна вытлумачыць, чаму Яраславічы пасля расправы з Менскам пайшлі да Нямігі, бо там засеў з сваім войскам Усяслаў, каб перагарадзіць дарогу сваім праціўнікам у глыб Полаччыны. Яраславічы, у сваю чаргу, бачылі галоўную задачу ў тым, каб нанесці паражэнне войскам Усяслава. Вось чаму праціўнікі сышліся і ўступілі ў бой на Нямізе 3 сакавіка 1067 г. Паводле ж тацішчаўскіх звестак, у гэты дзень яны толькі сышліся, а бітва адбылася 10 сакавіка[319]. Думаецца, што гэтаму ўдакладненню можна верыць, бо з аднаго і з другога боку разумелі ўсю сур'ёзнасць моманту, і таму, магчыма, на працягу тыдня вяліся якія-небудзь перагаворы аб мірным зыходзе канфлікту, а хутчэй за ўсё пад прыкрыццём іх з аднаго і з другога боку вялася больш старанная падрыхтоўка да бітвы.

Летапісы не пакінулі нам падрабязнага апісання яе, паказаўшы толькі паасобныя яе дэталі. Упомнена, што ў той год зіма была суровая і снег вялікі, што, вядома, у значнай ступені абцяжарыла ход бітвы. Тацішчаўскія крыніцы паказваюць, што Усяслаў выйшаў супроць сваіх праціўнікаў[320], г. зн. першы пачаў бой. У Густынскім летапісе, апроч гэтага, сказана, што ён «бишася крепко»[321]. Далей у летапісах адзначана, што «бысть сеча зла и мнози падеша», а ў В. Тацішчава дадзена «с обе стороны»[322]. І гэтая апошняя дэталь вельмі важная, бо яна растлумачвае далейшыя падзеі. Хоць паўднёварусы перамаглі, аднак іх перамога, па сутнасці, была піравай. Нездарма ж у «Слове...» адзначаецца, што «крывавыя берагі Нямігі» былі засеяны «касцямі рускіх сыноў». Таму Яраславічы і не пагналіся за Усяславам, які пасля Нямігі пайшоў у Полацк[323], бо для гэтага ў іх не было больш сіл. Такім чынам, Нямігская бітва, як і падзеі 1021 г., пацвердзіла тое, што Кіеў мог перамагчы Полацк, але не пакарыць яго і што Полацк, не могучы перамагчы Кіеў, мог істотна аслабіць яго і гэтым самым спыніць яго заваёўніцкія імкненні ў адносінах да сябе.

Адна з самых крывавых у нашай старажытнасці Нямігская бітва глыбока ўразіла не толькі сваіх суайчыннікаў. Рэха яе праз 120 гадоў адбілася ў «Слове аб палку Ігаравым» вобразам жудаснай крывавай малацьбы. Яна належыць да ліку таго, чым мы ганарымся ў нашай далёкай мінуўшчыне, поўнай няспыннай барацьбы з нашым першым па часе супер-

нікам — Кіеўскай імперыяй. Бітва на Нямізе была адной з трагічных вех крывавай барацьбы Полаччыны за сваё права на гістарычнае жыццё.

Аднак што адбывалася ў наступныя чатыры месяцы, з 10 сакавіка да 10 ліпеня 1067 г.? Усе крыніцы пра гэта маўчаць, і толькі тацішчаўскія матэрыялы сведчаць, што паўднёварусы пасля Нямігі «область Полоцкую разоряли»[324]. І гэта было ў звычаі таго часу: уварванне ў чужую зямлю заўсёды суправаджалася яе абрабаваннем і разбурэннем. Ужо было слушна заўважана, што вясна ў значнай ступені перашкодзіла далейшаму працягу ваенных дзеянняў паўднёварусаў з Усяславам[325]. У В. Тацішчава сказана, што Усяслаў, «бачачы сваё знемажэнне», паслаў да Ізяслава прасіць міру[326]. Цяжка сказаць, чым было выклікана гэта знемажэнне: рабункамі паўднёварусаў ці новай бойкай з імі. Хутчэй за ўсё што першым. Усяслаў, будучы далёка не разгромленым, мог набраць новае войска[327]. П. Галубоўскі нават выказаў меркаванне, што так у сапраўднасці і было і што Усяслаў рушыў з сабраным войскам пад Оршу з мэтаю заняць яе і Смаленск, але Яраславічы нібыта, даведаўшыся пра гэта, ізноў рушылі на поўнач, і іх сустрэча з войскам Усяслава адбылася ля Оршы. У сваю чаргу М. Доўнар-Запольскі лічыў, што саюзныя войскі пасля Нямігі, не пагнаўшыся за Усяславам, накіраваліся ва ўсходнія часткі полацкіх уладанняў да Дняпра і спыніліся ля Оршы[328]. Цяжка аддаць перавагу якому-небудзь з гэтых меркаванняў, бо ўсе яны трымаюцца не на фактах, а на здагадках. Больш верагодна, што Яраславічы не рызыкавалі ісці на новую сутычку. Добра бачачы выключнасць асобы Усяслава, яго высокі аўтарытэт у свайго насельніцтва, якое да таго ж верыла ў чарадзейную сілу свайго князя, паўднёварускія князі вырашылі шляхам ашуканства ўзяць яго ў палон. Гэтым самым абезгаловіўшы Полацкую зямлю, яны спадзяваліся яе дэмаралізаваць і заняволіць. Ізяслаў паабяцаў памірыцца з Усяславам і вярнуць яму ўсё захопленае ў яго[329], калі ён сам да іх прыедзе без апаскі. Гэтае сведчанне тацішчаўскіх матэрыялаў разам з упамінаннем аб рабаванні Полацкай зямлі Яраславічамі пасля Нямігі супярэчыць меркаванням Л. Аляксеева[330] і І. Бяляева[331], што князі-параможцы, баючыся ўступіць у бойку з Усяславам, самі пакінулі заваяваную тэрыторыю. Паўднёварускія князі, відаць, найперш прэтэндавалі на дрыгавіцкую тэрыторыю, якая ўвайшла ў склад Полацкага княства і якую яны зараз і захапілі. Ізяславам было дадзена хрэснае цалаванне, што полацкаму князю нічога дрэннага зроблена не будзе. Відаць, Усяслаў, прыгадаўшы гісторыю з сваім бацькам, калі яго, пераможанага, выклікаў да сябе Яраслаў і

не толькі нічога дрэннага з ім не зрабіў, але і аддаў яму яшчэ Віцебск і Усвяты, вырашыў, што тое ж самае чакае і яго. Таму ён без асаблівага страху пераплыў у лодцы Дняпро з двума сваімі сынамі («сынкамі», паводле Іпацьеўскага летапісу, што ўказвае на іх малалецтва) і з'явіўся ў стан Яраславічаў, якія знаходзіліся, паводле летапісу, «на Рши у Смоленьска». Зыходзячы з гэтага, можна меркаваць, што Яраславічы захапілі полацкую тэрыторыю да Оршы. Аршанскае гарадзішча знаходзіцца на правым беразе Дняпра[332], адкуль пераплыў гэту раку Усяслаў, што можа сведчыць аб прыналежнасці Оршы ў гэты час да Полацкага княства[333]. Летапіснае ўдакладненне «на Рши у Смоленьска», відаць, трэба разумець так, што паўднёвыя князі атабарыліся каля Оршы з смаленскага боку. На думку некаторых даследчыкаў[334], Смаленская зямля ў 1067 г. была зноў аб'яднана і знаходзілася непасрэдна ў руках кіеўскага князя Ізяслава, што падкрэслівае яшчэ раз яе важнасць у палітычных разліках кіеўскіх князёў.

Вышэй адзначалася, што ініцыятарам жорсткай расправы над жыхарамі Менска ў 1067 г. быў чарнігаўскі князь Святаслаў. Такая ж яго роля і ў наступнай падзеі. Як толькі Усяслаў з'явіўся ў Ізяслава, ён, паводле сведчанняў тацішчаўскіх крыніц[335], па настойлівай радзе таго ж Святаслава быў схоплены, закаваны, адвезены ў Кіеў і разам з абодвума сынамі пасаджаны «ў поруб». Тут дарэчы будзе адзначыць, што надзвычайная варожасць Святаслава да палачанаў і іх князя тлумачылася не столькі жорсткасцю яго характару, колькі яго бояззю далейшага ўмацавання і пашырэння Полацкага княства, якое гэтым самым магло быць сур'ёзнай пагрозай сумежнаму Чарнігаўскаму княству. Аднак са сказанага не вынікае, што толькі адзін Святаслаў быў вінаваты ў падступным захопе Усяслава. Далейшыя падзеі пакажуць, што не меншая віна за гэта клалася і на Ізяслава.

Клятваадступніцтва вераломных Яраславічаў было адным з выяўленняў пераходу Кіева зноў да палітыкі падначалення сабе Полацкай зямлі. Заслугай Усяслава і было тое, што ён разгадаў гэты намер і нанёс свае ўдары па Пскову, Ноўгараду і Новагародку — апорных пунктах Кіева, з якіх ён імкнуўся ажыццявіць поўнае акружэнне полацкіх уладанняў. Вось чаму так важна было для паўднёвага трыумвірату адабраць Усяслава, які быў ініцыятарам і арганізатарам гэтай актыўнай барацьбы, у Полацка.

Крыніцы нічога не гавораць пра становішча Полацка за час знаходжання яго князя ў палоне, аднак можна думаць, што ў яго зямлі гаспадарылі кіеўскія стаўленікі. Паводле меркавання С. Салаўёва, Полацк дастаўся Ізяславу, які

пасадзіў тут свайго сына Мсціслава, выгнанага раней Усяславам з Ноўгарада. Але за гэта сваё новае набыццё Ізяслаў павінен быў уступіць Святаславу Ноўгарад[336]. Заняволенне Усяслава «ў порубе» гаворыць за тое, што ён і яго сыны былі пажыццёва пасаджаны. Як вядома, Судзіслаў у пскоўскім порубе прасядзеў 24 гады. Таму слушна ўказвалася, што пажыццёвае зняволенне Усяслава з яго абодвума сынамі (відаць, прыбыццё з імі ў стаўку Яраславічаў было абавязковай умовай, на якой настойвалі апошнія) абазначала не што іншае, як знішчэнне полацкай княскай дынастыі накшталт таго, якое ўчыніў Уладзімір каля 980 г., забіўшы Рагвалода і яго двух сыноў[337]. А страта дынастыі па паняццях таго часу азначала страту палітычнай самастойнасці. Такім чынам, 10 ліпеня 1067 года з'явілася адной з самых сумных дат гісторыі Полацка.

## З ВЯЗНЯЎ У ВЯЛІКІЯ КНЯЗІ

Крыніцы таксама нічога не гавораць пра жыццё палоннага вязня Усяслава, якое цягнулася да 15 верасня 1068 г. Аднак падзеі гэтага гістарычнага дня паказваюць, што Усяслаў, прабыўшы больш года «ў порубе», выйшаў адтуль не з цярновым вянком мучаніка, а ў яркім арэоле славутага князя, таленавітага палкаводца і народнага героя.

Кіеўскае паўстанне 1068 г. было выклікана паражэннем Яраславічаў на р. Альце ад полаўцаў, якія ўпершыню напалі на Русь і, скарыстаўшы сваю перамогу, пачалі рабаваць зямлю. Ізяслаў, вярнуўшыся пасля паражэння ў Кіеў, адмовіўся даць кіяўлянам зброю, якую яны патрабавалі для барацьбы з полаўцамі. Гэта і выклікала незадаволенасць, якая перарасла ў паўстанне. Л. Аляксеевым выказана думка, што ў гэтым народным руху прынялі вялікі ўдзел полацкія купцы, дзякуючы якім, мяркуе, кіяўляне арганізаваліся, і барацьба за вызваленне Усяслава набыла ў паўстанні цэнтральнае месца [338]. Аднак гэтае меркаванне трымаецца на вельмі хісткім грунце, а менавіта на тлумачэнні ўпомненага ў летапісе «двара Брачыслаўля» як прыстанішча полацкіх купцоў. Мы ўжо вышэй пры разглядзе княжання Брачыслава паказалі яго негрунтоўнасць. Нам здаецца больш слушнай думка Б. Рыбакова, які мяркуе, што пад «нашай дружынай», якую найперш вызвалілі паўстанцы, трэба разумець не дружыну Усяслава, што, паводле Л. Аляксеева, была захоплена разам з князем і пасаджана «ў поруб», а прыхільнікаў Усяслава з боку кіяўлянаў, якія былі абураны вераломным захопам полацкага князя (нездарма ж летапісец тлумачыў напад



*Кіяўляне вызваляюць Усяслава з «поруба».*
*Мініяцюра з Радзівілаўскага летапісу*

полаўцаў карай боскай за клятваадступніцтва Ізяслава) і выказалі сваю незадаволенасць гэтым, і, магчыма, у карысць яго вызвалення, за што і былі часова зняволены[339]. Калі ўжо такі чалавек, як Антоній Пячэрскі, сімпатызаваў Усяславу, за што пазней павінен быў уцякаць ад гневу Ізяслава ў Чарнігаў, то, вядома, сумнявацца ў наяўнасці многіх прыхільнікаў палоннага полацкага князя не прыходзіцца. Пэўным пацверджаннем гэтага могуць быць і звесткі М. Стрыйкоўскага, паводле якіх, баярства кіеўскае і полацкае шмат разоў прасіла Ізяслава вызваліць Усяслава, але ён ім адмаўляў у гэтым, у выніку чаго баяры і ўзбунтаваліся[340]. Як мы ўжо ведаем, прычынай паўстання было не гэта, але ўсё ж і яно магло адыграць некаторую ролю ў выбуху яго. Паўсталымі кіяўлянамі Усяслаў быў высаджаны з поруба, а пасля таго як Ізяслаў уцёк з Кіева, быў абвешчаны і вялікім князем. Важна адзначыць, што ў ліку людзей, якія патрабавалі вызвалення Усяслава, было больш «подлых»[341] (так у той час называлі людзей, што стаялі на самай нізкай ступені сацыяльнай лесвіцы), г. зн. бедных. Гэта можа сведчыць пра тое, што Усяслаў, апроч іншага, карыстаўся славай заступніка за ўсіх прыгнечаных і абнядоленых.

Факт знаходжання полацкага князя на кіеўскім пасадзе,

калі ўлічыць узаемную варожасць гэтых дзвюх княскіх дынастый, цяжка зразумець. Аднак трэба ўлічваць той канкрэтны момант, калі гэта адбылося. Гнеў народа галоўным чынам быў накіраваны супроць ваяводы Каснячка за яго бязладнае кіраванне рускім войскам у бойцы з полаўцамі, што і прывяло да паражэння. І тут жа адразу кіяўляне сталі патрабаваць вызвалення Усяслава, «яко искусного в войне», і супроць непрыяцеля адправіць[342]. Такім чынам, тут яскравае пацверджанне таленту палкаводца, уласцівага полацкаму князю. Цікава, што сведчанні аб падтрымцы Усяслава «подлымі» людзьмі і аб патрабаванні вызваліць яго як адмысловага палкаводца не захаваліся ў «Аповесці мінулых гадоў» і данесены да нас толькі тацішчаўскімі матэрыяламі. Відаць, кіеўскія летапісцы і рэдактары пастараліся паболей замаўчаць станоўчага пра Усяслава. Трэба думаць, што законнасць права Усяслава на кіеўскі пасад кіяўляне бачылі і ў тым, што яго бацька Брачыслаў быў у свой час кіеўскім князем.

Летапісы нічога не сказалі пра сямімесячную дзейнасць Усяслава на кіеўскім пасадзе, што таксама, відаць, з'яўляецца вынікам таго, што па іх прайшлася рука пазнейшых рэдактараў, якія пастараліся выкрасліць вельмі непрыемную для кіеўскіх князёў старонку гісторыі. Праўда, Б. Рыбакоў зрабіў спробу на падставе таго месца «Слова аб палку Ігаравым», дзе гаворыцца пра Усяслава, аднавіць гэтую страчаную старонку гісторыі. На яго думку, словы «Всеслав князь людям судяше, князем грады радяше» адносяцца да кіеўскага перыяду дзейнасці полацкага Чарадзея і характарызуюць яго як справядлівага і мудрага князя, якому нялёгка было рабіць указаную справу, улічваючы бясконцыя сваркі рускіх князёў за свае ўладанні. Далей гэты даследчык выказвае меркаванне (зноў-такі на падставе «Слова...»), што Усяслаў зрабіў імклівы паход у далёкую Тмутаракань з мэтай знайсці сабе саюзніка і прыдбаць коней, якіх так не хапала для паспяховай барацьбы з полаўцамі. Далей Б. Рыбакоў гаворыць аб магчымасці таго, што Усяслаў, а не толькі Святаслаў узначальваў разгром полаўцаў у канцы 1068 г.[343]. Усе гэтыя сцверджанні не выходзяць за межы магчымага, хоць іх можна і аспрэчваць.

Гаворачы пра абсягі ўладанняў Усяслава на кіеўскім пасадзе, Б. Рыбакоў з пафасам адзначыў: «Каму яшчэ з рускіх князёў удавалася кіраваць з Кіева ў адзін бок Тмутараканню, а ў другі — Полацкам?»[344] Сапраўды, у гісторыі «Імперыі Рурыкавічаў» наступіў быў унікальны момант, калі ў яе склад уваходзіў і непакорны Полацк. Але гэта адбылося зноў-такі толькі дзякуючы унікальнаму выпадку, калі на кі-

еўскі пасад трапіў полацкі князь. Аднак Б. Рыбакоў памыляецца, калі мяркуе, што Усяслаў у час свайго вялікага князявання распараджаўся і Ноўгарадам[345]. Менавіта характар узаемаадносін з апошнім і вызначыў у многім далейшы лёс Усяслава як кіеўскага князя. Трэба толькі пашкадаваць, што Б. Рыбакоў, як і яго папярэднікі, не заўважыў вельмі важнага сведчання тацішчаўскіх крыніц, праўдзівасць якіх паказаў сам жа даследчык[346]. Паколькі яно з'яўляецца малавядомым, прывядзём яго поўнасцю ў арыгінале: «Всеслав, седя в Киеве, посла к новгородцам по дань. Новгородцы же реша: «Княже, мы есмя племени Ярославля и ко Полоцку дани отцы и деды не давали и тебе не хотим, а бери со своея волости»[347]. Сведчанне гэта вельмі паказальнае. Мы бачым, што па-ранейшаму не адзін Кіеў меў рашаючае значэнне ў вырашэнні важнейшых дзяржаўных спраў, у прыватнасці ў абранні князя. Кіеў прызнаваў Усяслава сваім князем, а Ноўгарад адмовіўся гэта зрабіць, прадаўжаючы лічыць яго толькі полацкім князем, г. зн. прадстаўніком іншай княскай дынастыі, які павінен браць даніну толькі з Полацка. Наўгародская апазіцыя да Усяслава, у якой выявілася даўняя варожасць Ноўгарада да Полацка, хутчэй за ўсё дала сябе знаць адразу пасля абрання Усяслава вялікім князем і з самага пачатку паказала яго нетрываласць на кіеўскім пасадзе. У далейшым, відаць, Усяслаў убачыў і ўсё большую варожасць да яго і кіяўлянаў. Б. Рыбакоў, які вельмі скрупулёзна прааналізаваў кожны выраз «Слова аб палку Ігаравым», што адносіўся да Усяслава, не растлумачыў, чаму гэты любімы герой кіяўлянаў, як яго характарызуе даследчык, урэшце «скочи от них лютым зверем». Гэтыя словы, хоць і працытаваныя Б. Рыбаковым[348], засталіся без каментарыя, а яны ж у вялікай ступені зноў-такі прасвятляюць даволі зацемненае для нас велікакняскае становішча Усяслава. Сапраўды, што магло прывесці Усяслава да крайняй варожасці к кіяўлянам, якія з такім энтузіязмам сем месяцаў таму назад абралі яго сваім князем? Па-першае, тут варта прыгадаць, што важную ролю ў вызваленні Усяслава і абранні яго вялікім князем адыгралі т. зв. «подлыя» людзі. Цалкам магчыма, што ён, добра ведаючы гэта, нешта рабіў для паляпшэння іх жыцця, што не магло не выклікаць незадаволенасці ім з боку маёмасных класаў гараджан. І ўсё ж, відаць, вырашальную ролю ў гэтым мелі яго адносіны да Полацка. Найперш тут узнікае пытанне: «Ці мог велікакняскі пасад засланіць Усяславу яго родную Полаччыну?» Мы лічым, што не. І гэта добра пацвердзіла «Слова аб палку Ігаравым», у якім чытаем: «Тому в Полотске позвониша заутреню рано у Святыя Софеи колоколы, а он (Усяслаў) в

Киеве звон слыша». Наўрад ці можна знайсці больш яркую мастацкую дэталь, як гэтая, каб паказаць непарыўную духоўную сувязь Усяслава з сваёй радзімай у час яго знаходжання на кіеўскім пасадзе. Усё гэта змушала дбаць яго пра інтарэсы Полацка, выдзяляць яго з ліку іншых земляў у прадмет асобых клопатаў. Што ж мог для Полацка зрабіць Усяслаў у становішчы вялікага князя? Па-першае, ён мог выдаліць з Полацка стаўленіка Ізяслава, магчыма, сына яго, Мсціслава, і паслаць туды свайго намесніка, магчыма, аднаго з сваіх сыноў, якія былі разам з ім у «порубе». Па-другое, ён мог вывесці з паўднёвай (дрыгавіцкай) часткі Полаччыны паўднёварускія войскі, якія яе рабавалі, і вярнуць яе зноў пад уладу Полацка. Нарэшце, ён мог зрабіць і новыя тэрытарыяльныя прырашчэнні да Полацкага княства за кошт іншых земляў, напрыклад, далучыць да яго Тураўскую зямлю або частку Смаленскай, карыстаючыся тым, што іх ранейшы гаспадар Ізяслаў Яраславіч уцёк у Польшчу. Вядома, усё гэта меркаванні, якія нельга пацвердзіць крыніцамі. Але ж яны лагічна выцякаюць з таго, што Усяслаў «лютым зверам» скочыў з Кіева. Сапраўды, на велікакняскім пасадзе ён быў больш полацкім, чым кіеўскім князем, што не магло не выклікаць варожасці да яго з боку кіеўскага баярства. У такіх умовах Усяслаў не мог не ўпэўніцца, наколькі чужыя для яго былі інтарэсы кіяўлянаў, і таму разрыў з імі быў для Усяслава пытаннем часу. І зручны момант наступіў. Выгнаны кіяўлянамі ранейшы князь Ізяслаў з войскамі польскага караля Баляслава Храбрага ішоў у Кіеў адваёўваць сабе пасад. Усяслаў з войскам прыйшоў да Белгарада, каб перагарадзіць дарогу варожаму войску. Невядома, адкуль Б. Рыбакоў узяў, што ў 1069 г. усе (?) кіяўляне выйшлі да Белгарада абараняць свайго, імі выбранага князя Усяслава і што, маўляў, гэта сведчыла пра дастаткова трывалыя сімпатыі іх да гэтага князя[349]. Калі і сапраўды ўсе кіяўляне прыйшлі к Белгараду (ніводная крыніца пра гэта не гаворыць, і, прынамсі, аўтар на іх не спасылаецца), то не з прычыны сваіх вялікіх сімпатый да Усяслава, а хутчэй за ўсё каб пільна сачыць за ім, паколькі ён ужо страціў іх давер. Гэта добра адчуваў Усяслаў і пастараўся падмануць іх пільнасць, што яму і ўдалося зрабіць. Выбраўшы зручны момант, апоўначы, таемна ад кіяўлянаў ён уцякае ў Полацк. І прычынай гэтаму быў не страх перад Ізяславам і палякамі, а тое, што Усяслаў найперш не верыў кіяўлянам, як сведчаць тацішчаўскія крыніцы[350].

Вяртанне Усяслава ў Полацк з'явілася важным момантам у развіцці палітычнай свядомасці полацкіх князёў. Хоць яны добра разумелі асобнасць сваёй дзяржавы ад Кіева і свайго

роду ад Рурыкавічаў, але ўсё ж яшчэ канчаткова не вызваліліся ад родавых перажыткаў і ў глыбіні душы хавалі надзею на атрыманне кіеўскага пасада. Невыпадкова ж і Брачыслаў і Усяслаў пабывалі на ім. Але калі Брачыслаў, відаць, быў выгнаны, як мы мяркуем, з Кіева, то Усяслаў, асабліва яскрава ўбачыўшы ўсю марнасць дамаганняў на кіеўскі пасад для полацкіх князёў і не стаўшы чакаць, калі яго прагоняць адтуль, сам пакінуў Кіеў. Гэтым сваім прыкладам ён ясна паказаў, што для полацкіх князёў ёсць адно толькі поле дзейнасці — Полацкае княства. Такі быў галоўны гістарычны ўрок, які выцякаў з факта княжання Усяслава ў Кіеве.

## ВЯРТАННЕ Ў ПОЛАЦК І БАРАЦЬБА ЗА ЯГО

Аднак Усяслаў, уцёкшы ў Полацк, доўга там не змог быць. Праўда, гісторыя яго выгнання адтуль у крыніцах вельмі супярэчлівая. Адны з іх гавораць, што гэта зрабіў сам Ізяслаў, які вярнуў сабе кіеўскі пасад[351]. Паводле ж Густынскага летапісу, Я. Длугаша, М. Стрыйкоўскага і Кромера, у паходзе на Полацк удзельнічалі польскія войскі на чале з Баляславам, магчымасць чаго адмаўляць нельга. Летапіс ясна сведчыць, што паход Ізяслава і Баляслава быў найперш накіраваны «на Всеслава»[352]. Як вядома, кіяўляне не дазволілі Ізяславу ўступіць у іх горад з польскім войскам[353], і яно, каб яго паход не быў дарэмны, было выкарыстана супроць Полацка. У Густынскім летапісе добра пасведчана, як шчодра аддзячыў Ізяслаў Баляславу за дапамогу ў барацьбе з Усяславам: «Пребысть же тогда Болеслав в Киеве время не мало, всякое утехи наслаждаяся, Изяслав даяше во всем доволство, дондеже совершенне погнаша Всеслава из Полоцка»[354]. Калі такое сапраўды было, то гэта з'явілася другім пасля 1013 г. у Тураве польскім умяшаннем у беларускія справы. Мы асабліва падкрэсліваем гэта, бо пройдзе час і польскі націск на Беларусь стане сталым фактарам яе гісторыі.

Трохі іначай гісторыя выгнання Усяслава з Полацка выкладзена ў тацішчаўскіх матэрыялах. У іх сказана, што не Ізяслаў хадзіў на Полацк, а што ён па радзе сваіх братоў паслаў туды сына Мсціслава (у Густынскім летапісе ён названы Мечыславам), які, выгнаўшы Усяслава з Полацка, сеў на яго месца[355].

Крыніцы нічога не гавораць, ці аказаў Усяслаў якоенебудзь супраціўленне сваім ворагам. Магчыма, што яму не

хапіла часу гэта зрабіць, бо кіеўскія войскі гналіся за ім следам і ён вымушаны быў пакінуць Полацк. Не меў падставы І. Бяляеў лічыць, што Ізяслаў уступіў у Полацк, карыстаючыся адсутнасцю тут Усяслава, які нібыта ў гэты час рабіў паход на Ноўгарад. Але ж у летапісе сказана, што Ізяслаў «прогна Всеслава ис Полотьска»[356]. Тое, што ў Полацку быў пасаджаны Мсціслаў, а пасля яго раптоўнай смерці (ці не быў ён атручаны палачанамі?) другі сын Ізяслава Святаполк, сведчыць, што Кіеў працягваў сваю палітыку на падначаленне сабе Полацка.

Але дзе знайшоў сабе прыстанішча Усяслаў пасля выгнання з Полацка? Адзін з летапісаў[357], а таксама М. Стрыйкоўскі[358] гавораць, што Усяслаў уцёк да варагаў. Аднак з паведамлення Наўгародскага І летапісу відаць, што Усяслаў апынуўся на зямлі фінскага племя водзі[359] (пазней па гэтай племяннной назве атрымала назву адна з наўгародскіх пяцін). Зазначым, што, магчыма, паміж М. Стрыйкоўскім і Наўгародскім летапісам у гэтым пытанні няма супярэчнасці, бо, на думку некаторых даследчыкаў, пад варагамі ў старажытнасці разумелі фінскія плямёны. Можна толькі рабіць здагадкі, чаму менавіта тут знайшоў сабе прыстанішча Усяслаў. Магчыма, у гэты час водзь мела варожыя адносіны з Ноўгарадам і, каб узначаліць напад на яго, прыняла да сябе славутага полацкага князя. А магчыма і іншае. Успомнім, што пры нараджэнні Усяслава прысутнічалі валхвы. Ф. Буслаеў у свой час супастаўляў паданне аб славенскім Валхве з былінным Волхам Усяславічам, правобразам якога быў Усяслаў Полацкі. На падставе гэтага М. Кастамараў указаў на раннія сувязі крывічоў з фінамі-чуддзю. Усё гэта наводзіць на думку, ці не была маці Усяслава фінскага паходжання, у прыватнасці з водзі. Магчыма, таму ён і накіраваў свой шлях у водзь, бо ведаў, што яго там прымуць як роднага па крыві. Гэта ў сваю чаргу можа тлумачыць тое, што Усяславу ўдалося без цяжкасцей падняць водзь на свайго даўняга праціўніка — Ноўгарад. Як бы там ні было, а 23 кастрычніка 1069 г. у пятніцу ў 6 гадзін дня[360] (рэдкая для летапісаў храналагічная дакладнасць) Усяслаў падышоў да Ноўгарада. Незалежна ад таго, адкуль ішла ініцыятыва гэтага паходу — ад водзі ці ад Усяслава,— ён быў на карысць апошняму. Паводле В. Тацішчава, гэты паход быў спробай Усяслава авалодаць Ноўгарадам[361]. Такой жа думкі прытрымліваецца і Л. Аляксееў[362]. Але наўрад ці мог ставіць такую мэту перад сабой Усяслаў, не абапіраючыся на Полацк, з дапамогай толькі водзі. Мы думаем, што гэты паход быў прадпрыняты Усяславам як помста за дзеянні Кіева супроць Полацка. Такое сталае імкненне полацкіх князёў нанесці

ўдар па Ноўгарадзе цалкам зразумела: б'ючы па Ноўгарадзе, яны білі адначасова і па Кіеве, дакладней — па яго паўночным флангу. Рабіць паход на далёкую паўднёвую сталіцу для палачанаў было, зразумела, нявыгаднай справай. Іншае — паўночная сталіца, якая ляжала амаль пад бокам.

Відаць, для наўгародцаў на чале з князем Глебам Святаславічам з'яўленне Усяслава з воддзю не было нечаканым. Яны паставілі сваё войска ля Звярынца на р. Гзені, якое адразу ўступіла ў бой. Па ўсім відаць, што пазіцыя наўгародцаў была выгаднейшай і войска іх было большае, у выніку чаго «важанам была вялікая сеча і загінула іх шмат без ліку»[363], а князь Усяслаў трапіў у палон, але адразу і быў адпушчаны (Л. Аляксееў чамусьці беспадстаўна лічыць, што Усяслаў выратаваўся ўцёкамі[364]). Такое абыходжанне з Усяславам магло гаварыць аб вялікай павазе наўгародцаў да яго асобы. Ацэньваючы значэнне гэтага паходу, нельга яго лічыць безвыніковым для Усяслава ці нават дарэмным. Якніяк, а Ноўгарад у выніку яго меў пэўныя страты і ахвяры, у той час як Усяслаў выяваў не сваёй полацкай, а чужой сілай. І ўжо гэта няўдача ніколькі не стрымала мэтанакіраванай натуры полацкага Чарадзея, не адарвала яго ад галоўнай справы сваёй у той час — вызвалення Полаччыны з-пад улады Кіева. На два гады знік Усяслаў са старонак летапісаў. І такі правал у інфармацыі пра яго даў зноў-такі волю даследчыкам для выказвання розных меркаванняў. Л. Аляксееў нават лічыць, што Усяслаў апынуўся ў Тмутаракані, дзе знаходзілі сабе прыстанішча ўсе пакрыўджаныя князі. Аднак довады даследчыка, што Тмутаракань не мела цяпер князя, паколькі Глеб Святаславіч, відаць, пакінуў яе ў 1068 г., вельмі хісткія: у 1068 г., ён будучы наўгародскім князем разбіў Усяслава на Гзені. Значыць, у гэты год там быў іншы князь. І толькі не Усяслаў. І ўжо ніяк не мог ён з Тмутаракані ісці на Полацк у 1071 г. На думку І. Бяляева, Усяслаў, абапіраючыся на літоўцаў (а Банэль дадае да іх эстаў,ліваў, семігалаў і інш.), увесь гэты час ваяваў за вяртанне сабе Полацка, чаго і дабіўся, выгнаўшы адтуль Святаполка. І з гэтай думкай увогуле можна пагадзіцца. Тым болей што Усяславу за першыя 20 гадоў свайго княжання, магчыма, удалося падначаліць шэраг балцкіх і фінскіх плямёнаў, што жылі на захад ад Полацка ў Падзвінні, а таксама ў Панямонні. Гэта і магло з'явіцца адной з важнейшых яго апор у пачатай ім барацьбе з Кіеўскай дзяржавай. Таму і цяпер ён мог разлічваць на сілы гэтых іншапляменнікаў. Пазней мы ўбачым, што ў сярэдзіне XII ст. некаторыя з полацкіх князёў у сваіх ваенных дзеяннях выкарыстоўвалі толькі іншапляменную раць, як, напрыклад, унук Усяслава

Валадар Глебавіч. Таму такое не выключана і для Усяслава. Яго паход з воддзю — яскравы гэтаму прыклад. Аднак сказанае не азначае, што Усяслаў не разлічваў у гэты час на свае палачанскія сілы. Умовы для іх збірання складаліся вельмі спрыяльныя. Гаспадаранне кіеўскіх намеснікаў у Полаччыне, якое, бясспрэчна, суправаджалася яе абрабаваннем з мэтай непамернай нажывы, і аблегчыла Усяславу вяртанне на полацкі пасад[365].

Вядома ж, палачане, якія мелі сваю княскую дынастыю, а ў той час гэта было вельмі важным, паколькі падкрэслівала палітычную самастойнасць, не маглі змірыцца з прадстаўнікамі чужой дынастыі. У такіх абставінах каларытная, амаль легендарная постаць Усяслава не магла не прыцягнуць да сябе надзею ўсёй зямлі на вызваленне. Быў улічаны і важны знешні фактар: якраз у гэты час полаўцы ваявалі ля Растаўца і Няяціна — гарадоў на паўднёвым захадзе ад Кіева. Гэта, вядома, адцягнула на некаторы час увагу Кіева ад Полацка, што ў сваю чаргу аблегчыла ўступленне Усяслава ў Полацк. Цяжка зразумець, чаму Д. Леанардаў гэтую падзею адносіў да 1070 г.[366], хоць ва ўсіх крыніцах яна пададзена пад 1071 г. У В. Тацішчава сказана, што Усяслаў неспадзявана («нечаянно») прыйшоў з войскам да Полацка і выгнаў адтуль Святаполка[367]. І гэтаму можна верыць, бо так адбываліся ўсе ранейшыя паходы Усяслава, гэта было тыповай рысай яго ваеннага майстэрства.

Вядома ж, вяртанне Усяслава ў Полацк не магло доўга заставацца незаўважаным для Кіева. Адно толькі незразумела, чаму барацьбу з Усяславам узначаліў не выгнаны ім з Полацка Святаполк (у будучым вялікі кіеўскі князь), а яго брат Яраполк, які ў тым жа 1071 г. разбіў Усяслава ля Галацічаска[368]. Дзе знаходзіўся гэты горад у Полацкай зямлі (а можа, і не ў ёй), навука пакуль не высветліла. (Тут будзе дарэчы заўважыць, што гэтая назва ў розных крыніцах мае розныя варыянты, як «Голятическ», «Волотическ» і інш., на што павінны звярнуць увагу даследчыкі.) Крыніцы нічога не гавораць пра вынікі паражэння ля Галацічаска для лёсу Усяслава як полацкага князя. І толькі ў В. Тацішчава адзначана, што Яраполк, разбіўшы Усяслава, завалодаў Полацкам[369]. І гэта апошняе аспрэчваецца даследчыкамі. Аднак тое, што аб гэтым гаворыцца толькі ў Тацішчава, не з'яўляецца довадам. Нельга забывацца, што В. Тацішчаў, у адрозненне ад іншых гісторыкаў, чытаў Полацкі летапіс, а ў ім, вядома, полацкая гісторыя была адлюстравана больш дэталёва. У карысць таго, што Усяслаў не быў выгнаны з Полацка ў выніку паражэння 1071 г., магло б быць тое, што старажытны Галацічаск знаходзіўся на месцы сучаснага Го-

лацка, у 30 км на паўднёвы ўсход ад Менска. Перамогшы Усяслава на паўднёвым рубяжы Полаччыны, Яраполк, як і ў 1067 г. Яраславічы пасля Нямігскай бітвы, мог не рызыкнуць пайсці на Полацк. Аднак месцазнаходжанне Галацічаска на месцы Голацка з'яўляецца праблематычным, паколькі тут няма слядоў умацаванага цэнтра[370]. Але не мае істотнага значэння, ці захапіў Яраполк полацкі пасад, ці не. Больш істотнае тое, што к 1073 г. яго ўжо там не было, бо гаспадаром Полаччыны зноў стаў Усяслаў. Такім чынам, падзеі 1066—1073 гг., як і падзеі 975—988 гг. і 1021 г., зноў пацвердзілі той неаспрэчны факт, што Полаччына, нягледзячы на часовыя паражэнні, знаходзіла сілы і волю для змагання за сваю самастойнасць, змагалася за яе і гэтым самым паказвала сваю неперможнасць. І ўсё ж, нягледзячы на гэта, палітыка Кіева да Полацка заставалася ў цэлым ранейшай. І толькі часова з прычыны неспрыяльных для яго ўнутраных ці знешніх акалічнасцяў ён ішоў на прымірэнне ці нават на саюз з Полацкам, што адбылося ў 1073 г., калі славуты паўднёварускі трыумвірат, які амаль на працягу 20 гадоў (з часу смерці Яраслава Мудрага ў 1054 г.) здаваўся выключна трывалым ці нават вечным, раптам даў глыбокую трэшчыну і распаўся. Праўда, некаторыя даследчыкі зусім слушна ўказвалі на тое, што гэты распад пачаўся намнога раней. Непасрэднай прычынай развалу трыумвірату з'явілася імкненне Ізяслава далучыць у якасці кампенсацыі за страту Полацка да свайго кіеўскага ўладання і Ноўгарад, у якім сядзеў сын Святаслава Глеб, пасаджаны тут сваім бацькам у 1069 г., калі Ізяслаў быў у выгнанні. І вось для ажыццяўлення сваёй мэты Ізяслаў нібыта і ўвайшоў у зносіны з Усяславам[371]. Аднак трэба зазначыць, што наўрад ці спадабалася б Усяславу ідэя непасрэднага далучэння Ноўгарада пад кантроль кіеўскага князя, бо гэта пабольшвала б сілу Кіева, што не было ў інтарэсах полацкага князя. Летапіс ускладае ўсю віну за ўзнікненне «каторы» паміж Яраславічамі на Святаслава. Менавіта ён, ведаючы аб непапулярнасці Ізяслава сярод кіяўлянаў і прагнучы «вялікай улады», пайшоўнагаворваць Усеваладу, каб прыцягнуць яго на свой бок, што «Изяслав сватится (у Іпацьеўскім летапісе «встаёт».— *М. Е.*) со Всеславом, мысля на наю... имать нас прогнати»[372].

Гісторыкі разыходзяцца ў ацэнцы магчымасці ажыццяўлення саюзу Ізяслава з Усяславам. В. Данілевіч меркаваў, што іх перагаворы ні да чога не прывялі, паколькі Святаслаў і Усевалад, даведаўшыся пра іх, паспяшаліся прагнаць брата з кіеўскага пасада[373]. Сапраўды, у крыніцах нічога не сказана пра тое, ці зрабіў што-небудзь Усяслаў, каб выратаваць Ізяслава ад паражэння. Л. Аляксееў жа лічыць,

што саюз паміж Ізяславам і Усяславам адбыўся, тлумачачы гэта тым фактам, што жонкай менскага князя Глеба (сына Усяслава) з'яўлялася дачка Яраполка (сына Ізяслава Яраславіча) і што гэтыя заручыны (дачка Яраполка толькі што нарадзілася, і жаніцьба Глеба была значна пазней) адбыліся ў 1073 г., як замацаванне палітычнага саюзу Ізяслава з Усяславам.

Для нас усе гэтыя падзеі і асабліва словы Святаслава пра «сватьство» Ізяслава з Усяславам (незалежна ад таго, ці было гэта выдумкай Святаслава, ці сапраўднасцю) асабліва каштоўныя тым, што яны з'яўляюцца бясспрэчным доказам, што Усяслаў канчаткова ўмацаваўся на полацкім пасадзе (інакш не было б сэнсу для Святаслава палохаць гэтым Усевалада) і што Полацк па-ранейшаму меў вялікую рэальную сілу, паколькі саюз з ім мог прывесці да паражэння Святаслава і Усевалада. Цяжэй вытлумачыць, чаму Святаслаў, які сядзеў на кіеўскім пасадзе да самай смерці ў 1076 г. і які ведаў нібыта пра варожую змову Ізяслава і Усяслава супроць яго, не чапаў Усяслава. Гэта тым болей дзіўна, калі прыгадаць, што Святаслаў асабліва быў варожа настроены супроць Полацка і Усяслава. Успомнім, што ён быў ініцыятарам жорсткай расправы з жыхарамі Менска ў 1067 г. і клятваадступніцтва пры захопе Усяслава ў палон каля Оршы. Хутчэй за ўсё ён бачыў, што сваёй барацьбой з Полацкам ён мог аблегчыць зварот у Кіеў выгнанага ім Ізяслава, што, як паказалі далейшыя падзеі, было ўвесь час мэтай апошняга.

На гэтым перапынім разгляд полацкай гісторыі і звернемся да гісторыі Тураўшчыны і Смаленшчыны ў канцы XI ст.

## КІРУНКАМ НА СВОЙ ШЛЯХ

Паколькі Тураўская зямля палітычна была моцна звязана з Кіевам, то і падзеі яе гісторыі ў многім залежалі ад тых змен, што адбываліся на велікакняскім пасадзе. Сапраўды, мы ведаем ужо, што Тураў яшчэ пры жыцці Яраслава быў аддадзены яго сыну Ізяславу, які валодаў ім і тады, калі быў князем наўгародскім, і тады, калі стаў вялікім князем. Усё гэта, як мы адзначалі вышэй, было паказчыкам эканамічнай і палітычнай важнасці Турава для Кіева. Немагчыма штонебудзь пэўнае сказаць пра становішча Турава ў час сямімесячнага знаходжання Усяслава на кіеўскім пасадзе. Не выключана, што, карыстаючыся сваім становішчам, Усяслаў па традыцыі падначаліў Тураў непасрэдна сабе. Магчыма і тое, што ён, як адзначалася, знаходзячыся на велікакняскім пасадзе і больш адчуваючы сябе полацкім, чым кіеўскім,

князем, далучыў Тураў да полацкіх уладанняў. Аднак Ізяслаў скора аднавіў сваю ўладу над Кіевам, жорстка расправіўшыся з прыхільнікамі Усяслава, што аўтаматычна вярнула яму і Тураў. Аднак у 1073 г. Ізяслаў быў выгнаны з Кіева сваім братам Святаславам у саюзе з другім яго братам Усеваладам, за што апошні ў падзяку за дапамогу і атрымаў Тураў. Праўда, на гэта ўказваюць толькі вельмі цьмяныя словы «Павучання» Уладзіміра Манамаха — сына Усевалада: «Та оттуда (адкуль, цяжка зразумець, ці з Чэшскага лесу, ці з Ноўгарада) Турову, а на весну та Переяславлю, таже Турову»[374]. Усё гэта робіць магчымым, што нейкі час тураўскім князем быў і Манамах. М. Доўнар-Запольскі расшыфраваў прыведзеныя словы Манамаха так: гэты князь хадзіў за Тураўскую воласць з ляхамі і, перазімаваўшы ў Тураве, на вясну хадзіў да бацькі ў Пераяслаўль, а адтуль зноў у Тураў[375]. Але са смерцю Святаслава ў 1077 г. і вяртаннем у Кіеў Ізяслава гэтае становішча, відаць, перамянілася. Аднак праз год памёр і Ізяслаў, і ў Кіеве на доўгі час (да 1093 г.) умацаваўся Усевалад. Каб забяспечыць большую трываласць свайго становішча, ён аддае сыну Ізяслава — Яраполку — у прыдачу да Валыні і Тураў. (Мы ўжо раней адзначылі, што гэта акалічнасць дае магчымасць меркаваць, што пры жыцці Ізяслава Яраполк быў яго намеснікам у Тураве.) Праўда, у гэтых адносінах сведчанні супярэчлівыя. Густынскі летапіс паказвае, што Яраполк княжыў толькі ў Ноўгарадзе Валынскім, а ў Тураве быў пасаджаны яго брат Святаполк. Відаць, гэта і дало падставу І. Івакіну сцвярджаць, што Святаполк хадзіў на Полацк у 1078 г. разам з Манамахам і полаўцамі як тураўскі князь, асабліва варожы суседняму Полацку[376]. Паводле В. Тацішчава, Тураў дастаўся Давыду Ігаравічу, у М. Стрыйкоўскага мы чытаем, што тут быў пасаджаны сын Усевалада, брат Манамаха. Пагодзін лічыў, што Тураў — вотчына Яраполка, якому Усевалад прыдаў Валынь. Аднак далейшыя падзеі паказалі большую верагоднасць першага сведчання. Выказвалася думка, што факт прыдачы Турава да Валыні быў сімптомам упадку значэння Тураўскай зямлі[377], паколькі Усевалад не меў сувязяў з Захадам, падобна Ізяславу. І таму Тураў не быў важным для яго [378]. Аднак Яраполку, найперш як валынскаму князю, прыйшлося весці барацьбу з Давыдам Ігаравічам і Расціславічамі, што раней страцілі валынскія ўладанні і зараз рашылі іх вярнуць сабе. Ім нават удалося выгнаць Яраполка ў 1084 г., але з дапамогай Манамаха ён вяртаецца ва Уладзімір Валынскі. Аднак, незадаволены тым, што Усевалад за кошт яго валынскага ўладання надзяліў Давыда Ігаравіча, ён, у дадатак да гэтага, будучы падбухтораны «злымі» дарад-

чыкамі, выступае супроць Усевалада, але церпіць паражэнне ад Уладзіміра Манамаха і бяжыць, як і яго бацька раней, «у ляхі». Валынь і, пэўна ж, Тураў аддаюцца Давыду Ігаравічу. У 1087 г., страціўшы надзею атрымаць дапамогу ад палякаў, Яраполк вяртаецца назад, мірыцца з Усеваладам і атрымлівае назад свае ўладанні, але ў скорым часе ён быў забіты падасланым, відаць, Расціславічамі (яны прэтэндавалі на Валынь) забойцам Нярадцам. Летапісец у цёплых словах напісаў яго некралог, адзначыўшы станоўчыя якасці Яраполка і як князя, што цярпеў несправядлівыя ганенні ад іншых князёў, і як хрысціяніна, што вызначаўся лагоднасцю, пакорлівасцю, любоўю да бедных і г. д. Наўрад ці гэта характарыстыка адпавядала сапраўднасці, бо з іншых летапісных паведамленняў ён выступае як чалавек нерашучы, які, пачаўшы тую ці іншую справу, упадаў у роспач, не верачы ў шчаслівы зыход, адмаўляючыся ад барацьбы. Гэта ў пэўнай ступені абумовіла тое, што яму не ўдалося ўмацаваць за сабой, а тым самым і за сваімі нашчадкамі Валыні і Турава. Напомнім, што гэта ён у 1069 г. разбіў Усяслава Полацкага ля Галацічаска, што можа нейкім чынам сведчыць пра яго вайсковае майстэрства. Як мы ведаем, будучы адначасова валынскім і тураўскім князем, Яраполк не сядзеў ў Тураве і, магчыма, кіраваў ім праз свайго намесніка. І хоць Тураў быў дадзены Яраполку ў прыдачу, усё ж у вачах тагачасных князёў ён уяўляў паасобную адзінку, тым самым яшчэ раз сведчачы, што ён пры вялікай залежнасці ад Кіева не траціў свой палітычны і этнаграфічны твар.

Палітычнае значэнне Турава яшчэ больш узрасло пры Святаполку, які замяніў свайго брата Яраполка ў якасці тураўскага князя (менавіта тураўскага, бо Валынь была аддадзена Давыду Ігаравічу). Да гэтага, як мы ўжо ведаем, Святаполк княжыў у Ноўгарадзе. Зразумела, што такі добраахвотны яго пераход быў абумоўлены палітычным разлікам: Тураў знаходзіўся ў непасрэднай блізкасці да Кіева і таму адсюль лягчэй было завалодаць велікакняскім пасадам пасля смерці Усевалада. Апроч таго, у выпадку з'яўлення супернікаў адсюль лягчэй было заручыцца дапамогай палякаў і венграў. Святаполк хацеў з Турава кіраваць Ноўгарадам, але апошні, відаць, убачыў у гэтым прыніжэнне свайго становішча. Апроч таго, наўгародцы ўзненавідзелі яго як прагавітага князя. Усё гэта і прывяло да таго, што Ноўгарад адмовіўся і ад яго, і ад яго сына і дамогся іншага князя, якім стаў сын Уладзіміра Манамаха — Мсціслаў. У выніку гэтага кола інтарэсаў Святаполка, як і ўсіх Ізяславічаў, звузілася і абмежавалася толькі Туравам. Гэта акалічнасць, бясспрэчна, змушала Святаполка, маючы апору толькі ў Тураве, пра-

кацца яго інтарэсамі, зжывацца з ім, што за пяць гадоў (1088—1093) яго непасрэднага прабывання ў Тураве яму ў значнай ступені і ўдалося. Гэта праяўлялася і ў час знаходжання яго ў Кіеве, куды пасля смерці Усевалада ён без ніякіх перашкод з боку Уладзіміра Манамаха перайшоў у 1093 г., застаўшыся па традыцыі і князем тураўскім. Не карыстаючыся сімпатыяй і папулярнасцю ў кіяўлянаў, як раней і ў наўгародцаў, ён у значнай ступені павінен быў арыентавацца на Тураў, і таму вялікакняскі пасад не засланяў ад яго пасада тураўскага князя. Тураўскія баяры не былі бескарыслівыя. Нездарма ж яны разам з Святаполкам у Кіеў паслалі сваю дружыну, якую кіеўскі летапісец абразліва называе «несмышлёной» і якая напаміналa Святаполку пра тураўскія інтарэсы. Мала таго, ён неаднаразова выязджаў у Тураў і Пінск, гэтым самым нагадваючы тураўскаму земству, што ён па-ранейшаму не забывае пра яго. Калі ў летапісе гаворыцца пра «пінянаў» у войску сына Святаполка Мсціслава, то гэта таксама яўнае ўказанне на адну з важнейшых крыніц вайсковай магутнасці Святаполка. Сказанае сведчыць, што Тураў змог, будучы ў падначаленым становішчы, знаходзіць спосабы і магчымасці дбаць пра свае інтарэсы, высоўваць іх на першы план перад кіеўскімі. А гэта значыць, што Тураўшчына, як і ўсе ўсходнеславянскія землі, толькі сваім шляхам ішла да палітычнага адасаблення. Вось чаму не мае пад сабой грунту сцверджанне, што для феадалаў Тураўскай зямлі нехарактэрнымі былі яшчэ сепаратысцкія тэндэнцыі, характэрныя для іншых земляў Русі[379]. Паколькі большая частка княжавання Святаполка ў Кіеве прыпадае на пачатак XII ст. (да 1113 г.), то мы прадоўжым яго разгляд у наступным раздзеле.

Зараз жа ўкажам на бясспрэчны рост гарадскіх цэнтраў у Тураўскай зямлі. Так, пад 1097 г. у летапісе ўпершыню ўпамінаецца Пінск[380]. Тое, што ён названы побач з Туравам, гаворыць пра яго значнасць ужо ў гэты час, што і пацвердзілася ў будучым, калі Пінск па сваім развіцці абагнаў Тураў. Як было адзначана вышэй, Берасце ўжо намнога раней трапіла на старонкі летапісу. У 1099 г. яно зноў з'явілася там як месца, дзе Святаполк вёў перагаворы з палякамі. Гэты запіс ясна сведчыць, што Берасце ўваходзіла ў склад Тураўскай зямлі. Тое ж пацвердзіла і паведамленне пад 1101 г., дзе гаворыцца, што князь Яраслаў Яраполкавіч хацеў захапіць Берасце як частку Тураўскага княства, якім у свой час валодаў яго бацька Яраполк Ізяславіч. Адсюль добра відаць і ўдзельнае становішча Берасця. Узвышэнне Пінска і Берасця пацвярджае, што і Тураўскую зямлю не абмінуў працэс далейшага эканамічнага развіцця, што і

прыводзіла да паступовага яе драблення. А гэта значыць, што яна, нягледзячы на сваю закінутасць сярод балот і пушчаў, знаходзілася ў рэчышчы прагрэсіўнага грамадскага развіцця.

Смаленскую гісторыю 60—70-х гг. мы ўжо закраналі, разглядаючы полацкія падзеі, з якімі яна шчыльна звязана. Як бачна, Смаленск побач з Туравам па-ранейшаму быў моцна прывязаны да Паўднёвай Русі, што, як мы ведаем, тлумачыцца яго ключавым становішчам на вялікім гандлёвым шляху і яго стратэгічным значэннем, адкуль для Кіева ляжалі дарогі на Ноўгарад, Растоў і Суздаль і асабліва на Полацк. Нездарма ж Манамах, стаўшы князем чарнігаўскім і смаленскім, адразу ж аднавіў вайну з Полацкам. Але такое залежнае становішча ніколькі не азначала палітычнага амярцвення Смаленска. Немалое значэнне мела разуменне Смаленскам свайго эканамічнага патэнцыялу, які з цягам часу ўсё рос і гэтым самым рыхтаваў грунт для палітычнага адасаблення. Пра багацце Смаленска можа даць яскравае ўяўленне тое, што Манамах у красавіку 1078 г., прабыўшы тут толькі дзевяць месяцаў, дае свайму бацьку Усеваладу, відаць, як выкуп і даніну, трыста грыўняў золата, што з'яўлялася выключна вялікай сумай. Зразумела, смаленскія феадалы, купцы і іншы люд не маглі не адчуваць усяго цяжару залежнасці, які навочна выяўляўся ў тым багацці, што плыло з іх рук. І гэта выявілася, як толькі натрапіўся зручны выпадак. У 1095 г. Смаленск сваёй воляй узяў сабе ў князі выгнанага з Ноўгарада Давыда Святаславіча, і апошні, відавочна, выконваючы волю смаленцаў (інакш навошта было яго браць да сябе), становіцца ў варожыя адносіны і да вялікага князя Святаполка, і да Манамаха. Апроч таго, яны далі брату Давыда Алегу, праўда не пусціўшы яго ў Смаленск, апалчэнне, з якім ён наносіць у Мурамскай зямлі паражэнне сыну Манамаха — Ізяславу. Таму натуральна, што ў 1096 г. злучаныя сілы Святаполка і Манамаха рушылі супроць Давыда і змусілі яго адмовіцца ад дапамогі брату Алегу. Праўда, Давыд захаваў за сабою смаленскі пасад, дзе і быў да 1097 г., калі на яго месца, паводле рашэння Любецкага з'езда, зноў сеў Манамах. Такім чынам, прыняццем да сябе Давыда і сваімі дзеяннямі ў палітычных падзеях 1095—1096 гг. Смаленск яскрава заявіў пра імкненне да палітычнага выдзялення[381]. Усё гэта і было ўлічана Манамахам. Атрымаўшы зноў ва ўладанне Смаленск, ён рэзка мяняе адносіны да яго. Калі раней Манамах імкнуўся прывязаць Смаленск да сваёй паўднёвай метраполіі — Пераяслаўля — і дабіўся падначалення смаленскай царквы Пераяслаўскаму епіскапству, што разам з сістэмай пасадніцтва

абурала смаленцаў, то цяпер ён, баючыся зноў страціць Смаленск, вымушаны быў дабіцца для яго асобнага епіскапства, вынікам чаго быў пачатак пабудовы саборнай царквы, якая сваімі памерамі раўнялася амаль Сафійскаму сабору ў Ноўгарадзе[382]. Адначасова Манамах замест пасадніка пакінуў у Смаленску свайго сына Святаслава, што таксама падкрэслівала ўзрослае палітычнае значэнне гэтай зямлі.

## АДНА З САМЫХ КРЫВАВЫХ

Але зноў вернемся да полацкай гісторыі. Мірнае жыццё Полацка працягвалася толькі тры гады. Трэба думаць, што гэты час быў выкарыстаны Усяславам для ўнутранага ўмацавання, паколькі ён не мог не прадбачыць узнаўлення ранейшай палітыкі з боку кіеўскіх князёў да Полацка, што і адбылося пасля смерці Святаслава ў канцы 1076 г. Менавіта з гэтага часу зноў наступае для Полацкай зямлі пара, магчыма, адна з самых крывавых, якая цягнулася звыш дзесяцігоддзя. Паколькі выканаўцам гэтага наступлення на Полацкую зямлю быў Уладзімір Манамах, які ў гэты час не з'яўляўся вялікім кіеўскім князем, то, магчыма, таму гэтыя падзеі не трапілі на старонкі летапісаў і знайшлі сваё адбіццё, часамі вельмі цьмянае, у т. зв. «Павучанні» гэтага князя.

У літаратуры дамінуе думка, што паход Манамаха на Полацк летам 1077 г. быў адказам на набег Усяслава некалькі раней на Ноўгарад[383]. Аднак гэта непасрэдна не выцякае з тэксту «Павучання»: «Святослав умре, и яз пакы ходив Смолиньску, а и — Смолиньска той же зиме та к Новугороду, на весну Глебови в помочь; а на лето со отцем под Полтеск». З прыведзеных слоў нельга зрабіць пераканаўчым сцверджанне пра напад Усяслава на Ноўгарад і помсту яму за гэта з боку Манамаха. Сапраўды, апошні мог прыйсці ў Смаленск, які пасля смерці Святаслава (27.12.1076 г.) і ўсталявання на кіеўскім пасадзе яго бацькі Усевалада дастаўся яму ў прыдачу да Чарнігава недзе ў канцы 1076 г. (тады сакавіцкага, а паводле нашага календара ў пачатку 1077 г.). Але неўзабаве гэтай жа зімой ён ідзе да Ноўгарада, а вясной Глебу Святаславічу (наўгародскаму князю) на помач. Такім чынам, выходзіць, што Манамах двойчы быў заняты наўгародскімі справамі. Грунтуючыся на гэтых вельмі лаканічных паведамленнях і прымаючы гэтыя два паходы Манамаха (адзін быў зімой, другі — увесну) за адзін, Д. Леанардаў прыйшоў да высновы, што паход Манамаха «Глебови в помочь» быў зроблены супроць Усяслава, які напаў на Ноў-

гарад, але выкрутлівы полацкі князь паспеў уцячы ў Полацк, што і выклікала неабходнасць паходу на апошні летам 1077 г. Аднак прыведзены ўрывак з «Павучання» не дае падставы аб'ядноўваць два паходы Манамаха ў адзін, бо першы з іх, як ясна ўказвае тэкст, адбыўся зімою, а другі — вясною. Апроч гэтага, ёсць указанні на тое, што Глеб у гэты час ваяваў з чуддзю (Банэль), гэта тым больш верагодна, бо Глеб сапраўды загінуў ў 1079 г. у барацьбе з гэтым племем. І таму магчыма, што два паходы Манамаха да Ноўгарада і выкліканы былі гэтай акалічнасцю, а не нападам Усяслава на Ноўгарад. Калі ўжо гаварыць аб магчымасці нападу Усяслава на Ноўгарад, то больш верагодна ён мог адбыцца тады, калі Манамах хадзіў у помач Глебу, г. зн. калі апошняга з войскам не было ў Ноўгарадзе, які застаўся безабаронным. Аднак застаецца незразумелым, чаму на гэты напад не ішоў разам з Манамахам наўгародскі князь, які найперш і павінен быў гэта зрабіць. Усё сказанае дазваляе выказаць меркаванне, што паход Манамаха на Полацк летам 1077 г. меў самастойнае значэнне. У такім выпадку што ж паслужыла прычынай да яго?

Успомнім, што Манамах пасля смерці Святаслава ў канцы 1076 г. стаў князем адначасова і ў Чарнігаве, і ў Смаленску, а іх землі былі ў непасрэднай блізкасці да полацкіх уладанняў. Гэтым мы і тлумачылі раней асаблівую нянавісць чарнігаўскага князя да Усяслава ў 1067 г. Гэту нянавісць успрыняў Манамах удвая, завалодаўшы Чарнігавам і Смаленскам, асабліва апошнім. Тое, што ён разам з сваім бацькам адразу пайшоў на Полацк, гаворыць пра яго намер заваяваць усю Полацкую зямлю. Такім чынам, супроць яе і цяпер былі накіраваны, па сутнасці, сілы ўсёй Паўднёвай Русі. Аднак, і на гэта ўказваюць усе даследчыкі, тое, што Манамах замаўчаў вынікі гэтага паходу, сведчыць аб яго правале. Але моц Полацкай зямлі, яскрава выяўленая ёю пры адбіцці націску паўднёвых сіл, ніколькі не астудзіла заваёўніцкіх намераў Манамаха, а, наадварот, яшчэ больш устрывожыла, бо яскрава паказала на яе небяспеку для яго і таму ўмацавала ў ім імкненне давесці справу да канца. Для ажыццяўлення гэтага склалася і спрыяльная палітычная кан'юнктура. Хоць бацька Манамаха — Усевалад — і ўступіў кіеўскі пасад свайму брату Ізяславу, аднак апошні паслаў княжыць у Ноўгарад сына Святаполка — даўняга ворага Усяслава. Вось з ім зімою 1078 г. (а на думку некаторых даследчыкаў, пасля гэтага года[384]) цяпер ужо з сіламі Паўночнай і Паўднёвай Русі, падмацаваных яшчэ і ардою полаўцаў (паводле С. Салаўёва і С. Кастамарава, гэта было першае ў практыцы міжусобнай барацьбы выкарыстанне палавецкай сілы), Ма-

намах зноў з'явіўся ля сцен Полацка. Але, як і ў папярэдні раз, дзякуючы выключнаму вайсковаму майстэрству Усяслава і стойкасці яго войска і палачанаў, Полацк не быў узяты. Помсцячы за гэта, Манамах і Святаполк «ожгоше» Полацк, г. зн. спалілі ўсе яго ваколіцы. Аднак гэтым Манамах не абмежаваўся. І калі Святаполк пайшоў у Ноўгарад, ён сумесна з полаўцамі «воюя», г. зн. рабуючы, беручы ў палон, пайшоў у кірунку Одрска. Пасля Менска, Оршы і Галацічаска Одрск упамінаецца ў другой палове XI ст. на тэрыторыі Полаччыны. Аднак месцазнаходжанне яго даследчыкамі пакуль не вызначана. М. Карамзін атаясамляў яго з Друцкам[385]. Аднак гэта непрымальна, бо Манамах услед за Одрскам упамінае і гэты горад. У свой час З. Даленга-Хадакоўскі выказаў меркаванне, што, як паказвае назва горада, ён мог знаходзіцца на р. Адроў, правым прытоку Дняпра (цяпер на тэрыторыі Аршанскага р-на), і гэта мае пад сабой пэўную падставу. Сапраўды, як паказвае далейшы тэкст яго «Павучання», Манамах, вяртаючыся з гэтага паходу, «и — Смолиньска к отцю придох Чернигову»[386]. Зыходзячы з гэтага, мы можам лічыць, што Одрск знаходзіўся на шляху з Полацка на Смаленск, г. зн. на р. Адроў. Аднак супроць гэтага ёсць два пярэчанні: першае — назва горада ад ракі Адроў будзе не Одрск, а Адроўск[387] і другое — на ўказанай рацэ не выяўлены сляды гэтага горада[388].

Вядома, Усяслаў не мог пакінуць без пакарання Манамаха за яго гвалтаўніцтва ў Полацкай зямлі і, выкарыстаўшы зручны момант, калі смаленскі князь разам са сваім бацькам Усеваладам быў заняты міжусобнай барацьбой з Алегам Святаславічам, восенню 1078 г. зрабіў імклівы напад на Смаленск і «ожьже» яго, г. зн. зрабіў з ім тое, што раней Манамах мах з Полацкам. Манамаха вестка пра гэта застала, па ўсім відаць, у Чарнігаве, бо ён менавіта з чарнігаўцамі «о двою коню» (г. зн. кожны з удзельнікаў гэтага паходу меў запаснога каня) памчаўся да Смаленска. Аднак Усяслава ўжо там не было, і Манамах той самай дарогай, якой адступаў Усяслаў, пагнаўся следам за ім. Але дагнаць яго не ўдалося, ён змог схавацца ў Полацку. А Манамах, памятаючы ўрокі яго двух ранейшых паходаў, не рызыкнуў болей ісці на сталіцу Полаччыны. Як і ў папярэдні раз, ён «пожег землю и повоевав до Лукомля и до Логожска, та на Дрьютск воюя». Каштоўнасць гэтага паведамлення і ў тым, што яно засведчыла існаванне ў той час яшчэ трох полацкіх гарадоў: Лукомля, Лагойска і Друцка.

Тут дарэчы будзе спыніцца на адным спрэчным пытанні. У свой час І. Івакін выказаў думку[389], з якой згадзіліся і каментатары «Аповесці мінулых гадоў»[390], што апісанне гэ-

тага паходу Манамахам у яго «Павучанні» ёсць не што іншае, як больш падрабязнае апісанне папярэдняга яго паходу. Думка гэта грунтуецца на розных меркаваннях, якія нам здаюцца непераканаўчымі. Так, І. Івакін лічыў, што Святаполк пасля паходу Манамаха на Полацк у 1077 г. не мог ісці на Ноўгарад здабываць сабе пасад, на якім сядзеў Глеб Ізяславіч, паколькі ў летапісах не адлюстравана барацьба гэтых князёў. Але яшчэ М. Арцыбашаў указаў на запіс у наўгародскім летапісе, што Глеба «выгнаша... бежа заволок, а Святополк седе на столе»[391]. Не можа пераканаць і довад, што, маўляў, два гэтыя ўрыўкі маюць аднолькавы канчатак «та Чернигову». Што ж, гэта натуральна, бо як з першага, так і з другога паходаў Манамах вяртаўся ў Чарнігаў. Апроч таго, І. Івакін не растлумачыў, навошта было Манамаху пасля апісання барацьбы з Алегам Святаславічам і Барысам Вячаславічам вяртацца да апісанага ўжо раней паходу на Усяслава. Вось чаму мы прытрымліваемся думкі, што ў «Павучанні» ідзе гаворка пра два розныя паходы Манамаха. Адзінае, за што нельга ручацца, то гэта за дакладнасць датаў указаных падзей. Манамах сваё «Павучанне» пісаў дзесьці ў 1117 г. і мог (што і было) пераблытаць парадак сваіх паходаў. Як мы ўжо ўказвалі, яго барацьба з Усяславам не адлюстравана ў летапісах і таму не можа храналагічна быць удакладнена, і мы вымушаны задавальняцца прыблізнай датыроўкай.

Усё гэта адносіцца і да паходу Манамаха на Менск. Розныя даследчыкі адносілі яго да розных дат: М. Доўнар-Запольскі — да 1079[392], Банэль і В. Данілевіч — да 1083[393], І. Івакін і Л. Аляксееў — да 1084[394], М. Арцыбашаў — да 1085 гг.[395]. На нашу думку, больш верагодныя дзве апошнія даты, асабліва першая з іх. Прывядзём поўнасцю сведчанне самога Манамаха пра гэту падзею: «И на ту осень идохом с черниговци и с половци, с читеевичи, к Меньску: изъехахом город, и не оставихом у него ни челядина, ни скотины»[396]. Ці з'яўляецца гэты паход расправай Манамаха за які-небудзь учынак Усяслава? Хутчэй за ўсё што не. Па-першае, пра гэта не гаворыць і сам Манамах, а ён бы не змаўчаў аб гэтым, як тое было, напрыклад, у выпадку нападу Усяслава на Смаленск. Па-другое, выраз «изъехахом (г. зн. захапіў неспадзявана і абрабаваў[397]) город» асабліва пацвярджае гэта. Такім чынам, гэты напад быў нечаканы. Вядома, калі б палачане зрабілі якое-небудзь дзеянне супроць Манамаха, то для іх не быў бы неспадзяваным яго набег на Менск. Усё гэта зноўтакі гаворыць пра тое, што па-ранейшаму з боку Кіева працягвалася палітыка аслаблення Полаччыны з далейшай мэтай яе падначалення. Выбар Менска для нападу не быў



*Абарончы вал XI ст. Гарадзішча на Менцы*

выпадковы, бо гэты горад з'яўляўся, як мы ўжо бачылі раней, фарпостам Полацкага княства на яго паўднёвых рубяжах, адкуль можна было непасрэдна пагражаць кіеўскім уладанням, і таму паход Манамаха, як і паход трох паўднёварускіх князёў у 1067 г., быў найперш накіраваны супроць Менска. Аднак па сваёй жорсткасці ён пераўзышоў ранейшы напад, хоць і той быў бязлітасны. Як і раней пры паходзе на Полацк, так і цяпер Манамах пайшоў разам з полаўцамі-чыцееўцамі. Калі ўлічыць, што орды гэтых заваёўнікаў з'яўляліся тады найбольшымі ворагамі Паўднёвай Русі, то саюз з імі яскрава гаварыў, што ў вачах Манамаха Полаччына была яшчэ больш небяспечным ворагам за полаўцаў. Ужо звярталася ўвага на тое, што такая вялікая колькасць войскаў, патрэбная для перамогі над Менскам, паказвала на значны рост яго ў гэты час. І вось гэты горад быў падвергнуты знішчальнаму паходу. Словы, што ў ім не засталося «ні чалядзіна, ні скаціны», відаць, былі ў той час прымаўкай, якая азначала поўнае абрабаванне і знішчэнне датла. Мы ўжо гаварылі раней аб верагоднасці першапачатковага знаходжання Менска на месцы сучаснага Гарадзішча на р. Менцы, адкуль і яго назва. Дык вось цалкам магчыма, што гэты напад Манамаха і паклаў канец першапачатковаму Менску, паколькі археалагічныя знаходкі тут абмяжоўваюцца XI ст.

Частка ж жыхароў, якім нейкім чынам удалося выратавацца ад знішчэння ці палону, ужо, відаць, не вярнулася на

старое папялішча і пасялілася ў раёне Нямігі, перанёсшы сюды і назву свайго ранейшага паселішча.

Паколькі напад на Менск быў раптоўны, то, натуральна, Усяслаў не мог паспець на дапамогу гораду. Манамах жа, па ўсім відаць, не ставіў сваёй мэтай ісці далей, ведаючы па ранейшым вопыце, што гэта небяспечна, і таму, задаволіўшыся ўзятай здабычай і знішчэннем Менска, вярнуўся разам са сваім войскам і полаўцамі назад. Такое бязлітаснае абыходжанне з Менскам паказвае, што не менш жорсткай расправа Манамаха і яго саюзнікаў полаўцаў была і з гарадамі Одрскам, Лукомлем, Лагожскам і Друцкам. Відаць, першы з іх так і не змог адрадзіцца і таму канчаткова знік са старонак летапісаў і дакументаў. Гэта ж тлумачыць, чаму палачане так мужна баранілі сваю сталіцу ад захопу, бо добра ведалі, што Манамах і яе мог падвергнуць поўнаму знішчэнню.

Наўрад ці быў паход на Менск апошнім актам той крывавай драмы, якую ўчыніў Манамах для Полаччыны пры Усяславе. Праўда, у сваім «Павучанні» ён болей не згадвае пра іншыя свае дзеянні супроць Полацка ў гэты час. Але летапісы сведчаць, што Манамах далёка не ўсе свае «пути» (так ён называў ягоныя паходы) упамінае ў «Павучанні». Вось чаму няма падстаў лічыць, што паходам на Менск спыніліся яго варожыя дзеянні ў адносінах да Полацка, тым больш што яны знайшлі свой працяг у пачатку XII ст., як мы ўбачым далей.

З разгледжаных фактаў яскрава выяўляецца выключна напружаны, узаемаварожы і жорсткі характар барацьбы Манамаха з Усяславам. Хоць Манамах і адмовіўся заваяваць у той час Полацк, аднак ад гэтага барацьба не стала менш вострай і бескампраміснай. Яе галоўнай мэтай стала ўзаемнае знясільванне двух праціўнікаў. І гэта было заканамерным у час, калі на гістарычную арэну выйшаў Уладзімір Манамах. Вядома, што бацька яго Усевалад пасля гібелі брата Ізяслава ў баі на Няжацінай ніве (3.10.1078 г.) заняў кіеўскі пасад і гэтым самым «переемь всю власть русскую». І ў гэтых словах летапісца заключаецца выяўленне сэнсу ўсёй дзейнасці Усевалада і яго сына Уладзіміра Манамаха[398]. Сапраўды, з ранейшага трыумвірату застаўся толькі Усевалад. І таму, сеўшы на кіеўскі пасад, ён мог, не маючы сур'ёзных канкурэнтаў, якімі былі паміж сабою яго браты Ізяслаў і Святаслаў, больш-менш спакойна і моцна трымаць уладу ў сваіх руках над усімі абласцямі. Менавіта ў гэты час ад Ізяслава да Усевалада перайшлі Валынь, Тураў, дзе ён пасадзіў Яраполка Ізяславіча. Асабліва важная для Кіева была яго поўная ўлада над Чарнігавам, куды ён паслаў Манамаха — найбольш хітрага і энергічнага свайго нашчадка. Калі ўлі-

чыць, што яму быў аддадзены і Смаленск, а ў Ноўгарадзе сядзеў Святаполк Ізяславіч — даўні вораг Усяслава, то, як бачым, Полаччына зноў, як і ў 60-х гадах, апынулася ў варожым акружэнні, што пагражала ёй стаць заваяванай. Гэта і ўзяў на сябе Уладзімір Манамах, паколькі ён, як князь чарнігаўскі і смаленскі, быў найперш у гэтым зацікаўлены, бо Полацкае княства, як суседняе з яго ўладаннямі, з'яўлялася найбольш небяспечным для яго. Гэтымі гістарычнымі акалічнасцямі і тлумачыцца, чаму ў канцы 70-х гадоў XI ст. зноў пачаліся варожыя дзеянні супроць Полацка і чаму на чале іх быў Манамах.

## НЕЗВЫЧАЙНЫЯ ПАДЗЕІ Ў ПОЛАЦКУ

Ужо адзначалася, што ў апошнюю чвэрць XI ст. у кіеўскім летапісанні амаль нічога не гаворыцца пра полацкія падзеі. Гэта, вядома, можна тлумачыць і тым, што Кіеў лічыў Полацк чужым і далёкім яму, і іншымі прычынамі. Аднак гэта ніяк нельга тлумачыць тым, што Кіеў наогул страціў усялякую цікавасць да Полацка. Відаць, ён па-ранейшаму ўважліва сачыў за ўсім, што там дзеялася, але асаблівую ўвагу прыцягвала найперш тое, што магло б у нейкай меры паказаць Полаччыну ў непрыглядным святле, як гняздо д'ябальскай нечысці, як край, над якім вісіць пракляцце з усімі яго бедамі. Гэтым і можна вытлумачыць з'яўленне пад 1092 г. на старонках кіеўскага летапісу паведамлення пра незвычайную дзівосную падзею ў Полацку. Гэтая гісторыя была занесена ў шэраг летапісаў з многімі каларытнымі варыянтамі («Аповесць мінулых гадоў», Іпацьеўскі, Густынскі, Цвярскі, Радзівілаўскі летапісы, «Софийский временник»). Калі звесці ў адно ўсе варыянты, то мы атрымаем апавяданне «О предивном чюде у Полотьску» (тыповая беларуская форма) паводле Іпацьеўскага летапісу ці «Об устрашениях и мечтах бесовских в Полотску при князе Всеславе» паводле Цвярскога летапісу (напамінанне тут пра Усяслава невыпадковае: гэтым падкрэслівалася сувязь князя-чарадзея, які нарадзіўся ад валхавання, з д'ябальскімі праявамі ў яго княстве): «У Полацку стала зусім блага. Ноччу на гарадскіх вуліцах пачуліся як бы стогны людскія, тупат і ржанне конскае. Гэта гойсала па гораду д'ябальская сіла. Хоць ніхто з палачанаў уласнымі вачыма не бачыў, што адбывалася, але кожны, хто з цікаўнасцю выходзіў з сваёй харомiны ці толькі проста крыху адчыняў акно, хутка паміраў, нябачна ўколаты ранаю ад д'яблаў. Калі ж палачане перасталі выходзіць ноччу з сваіх харомінаў, дзеянне д'ябальскае сілы стала

адбывацца ўдзень. Сярод стогнаў, плачаў, тупату паміралі людзі Полацка і воласці. Як быццам цэлае войска д'яблаў скакала па зямлі на конях сваіх, нябачныя для вачэй людскіх, пакідаючы пасля сябе толькі «тупаціны» ці сляды конскіх капытоў. Тады вось і сталі гаварыць у народзе: «Як мерцвякі («навье») б'юць палачанаў». А ўся гэтая прыгода пачалася ад Друцка». Верагодней за ўсё, што ў аснове гэтай легенды ляжыць праўдзівы факт нейкай эпідэміі, якая пачалася ў Друцку і дайшла да Полацка. Указвалася на чыста літоўскае паходжанне гэтага сказання (М. Кастамараў). Адмаўляць гэта катэгарычна нельга, але ўнесці папраўку трэба. Зусім неабавязкова, што гэтая легенда прыйшла з суседняй Літвы, бо ў той час было яшчэ нямала балцкага язычніцкага насельніцтва і ў самой Полаччыне, і таму ў ёй маглі хадзіць паданні аб д'яблах і мерцвяках на конях. Але хутчэй за ўсё, што легендарная апрацоўка сапраўднай гістарычнай падзеі была зроблена ў асяроддзі, варожым для Полацка, які паказаны ў палоне д'ябальскай сілы, людзей якога б'юць мерцвякі. Аднак апошняе таксама выклікае спрэчкі, паколькі ў некаторых летапісах замест «навье» знаходзіцца варыянт «наяве», якому і аддаў перавагу Д. Леанардаў[399], паколькі ён нібыта больш адпавядае зместу легенды. На наш погляд, «наяве» разбурае прыказку, якая стала ходкім выслоўем пра тое, «як мерцвякі б'юць палачанаў». У заключэнне адзначым: гэтая сапраўдная падзея, якая абрасла фантастычнымі дэталямі, неабавязкова адбывалася ў 1092 г. Яна, відаць, пад гэтай датай была толькі занесена ў летапісы.

## АБСЯГІ ДЗЕЙНАСЦІ УСЯСЛАВА

Пра тое, што ў Кіеве пільна сачылі за падзеямі ў Полацку, сведчыць і летапіснае паведамленне пра смерць Усяслава: «В лето 6609 (1101) преставися Всеслав, Полоцкий князь, месяца априля, в 14 день, в 9 час дне, в среду». Такая храналагічная дакладнасць, якая амаль не сустракаецца ў дачыненні да іншых князёў, гаворыць аб выключнасці Усяслава як гістарычнай асобы. Вядома ж, у Кіеве вестку аб смерці славутага полацкага князя сустрэлі калі не з радасцю, то з палёгкай, бо не стала іх даўгалетняга грознага праціўніка. У Кіеве добра разумелі велізарнае значэнне легендарнага князя для паспяховай барацьбы Полацка за сваё існаванне. Аднак гэтая барацьба не складалася «са стыхійных успышак, парывістых кровапраліццяў»[400]. Усяслаў не вяртаўся б на полацкі пасад, з якога яго зганялі кіеўскія князі. Усё гэта гаво-

рыць за тое, што палачане падтрымлівалі Усяслава і лічылі яго барацьбу, якая прыносіла вялікія страты і неаднаразовыя паражэнні Полацкай зямлі, апраўданай суровай неабходнасцю засцерагчы краіну ад заваявання.

Неаднаразовыя паражэнні Усяслава не адымаюць у яго славу адмысловага палкаводца, бо, змагаючыся да канца, ён наносіў свайму праціўніку такія страты, што пазбаўлялі апошняга магчымасці рухацца далей, як гэта было ў час Нямігскай бітвы. Вось чаму вайсковая дзейнасць Усяслава была ў цэлым паспяховая. Кіеўскія князі вымушаны былі, прынамсі, на пэўны час, зміріцца з самастойнасцю Полацка. Калі ў 1097 г. у Любечы быў скліканы з'езд князёў, сярод іх не было Усяслава. Гэта адсутнасць вельмі красамоўная, бо сведчыла аб тым, што кіеўскія князі бачылі ў Полаччыне непадуладную ім зямлю. І ў свядомасці тагачаснага грамадства такое становішча Полацка было вынікам кіпучай дзейнасці Усяслава. Нездарма ж аўтар «Слова аб палку Ігаравым» праз стагоддзе пазней разглядаў Полацкую зямлю як «жизнь Всеславлю». У гэтым нельга не бачыць выключна аб'ектыўную і высокую ацэнку заслуг Усяслава перад сваёй краінай. Трэба зазначыць, што менавіта ў «Слове...» і знайшлі найбольш яркае і праўдзівае вызначэнне асоба і дзейнасць Усяслава. І гэта з'яўляецца поўнай процілегласцю ацэнцы Баяна, што склаў пра Усяслава такую прыпеўку: «Ни хытру, ни горазду, ни птицю горазду — суда божия не минути». З гэтага выцякае, што, як адзначыў Б. Рыбакоў, для Баяна Усяслаў — віноўнік няшчасцяў, што ён вyслізгваў шмат разоў ад людскога суда, але будзе кінуты на асуджэнне вышэйшага нябеснага судзілішча[401]. Дарэчы зазначым, што Д. Леанардаў не меў рацыі, калі гаварыў, спасылаючыся на іншых даследчыкаў, што прыведзеная вышэй прыпеўка пра Усяслава не была арыгінальным тварэннем Баяна, а толькі паўтарэннем ходкіх у той час выслоўяў, якія сустракаюцца ў фальклоры і ў творах старажытнай літаратуры: у быліне пра Святагора, у «Маленні» Данііла Заточніка, у летапісе. Але ж аўтар «Слова...» палічыў патрэбным сказаць, што Баян «впервое», г. зн. упершыню, стварыў гэту прыпеўку ў адносінах да Усяслава і што з таго часу яна і стала крылатым выслоўем.

Неаднаразова адзначалася, што ў «Слове...» Усяслаў выступае як самая маляўнічая і рамантычная гістарычная асоба. Не выключана, што аўтар «Слова...» пры мастацкім узнаўленні гэтага героя выкарыстаў летапіснае паведамленне пра нараджэнне Усяслава ад валхавання і эпас пра князя-чарадзея Волха Усяславіча, надзеленага незвычайнай сілай. Вось чаму ён і выступае адначасова і паўміфічным (палёт

на сіняй хмары, фантастычнае пераўвасабленне ў спрытнага ваўка ці рысь, будучы ў Кіеве, ён чуе звон Полацкай Сафіі) і рэальным (разбіў славу Яраслава, Нямігская бітва, справядлівы суд паміж князямі і ўсімі людзьмі і інш.). Хоць справядлівы суд прыпісваецца Усяславу ў даследаваннях як кіеўскаму князю, аднак гэта яшчэ ў большай меры было ўласціва яму як полацкаму князю, асабліва яго справядлівы суд паміж людзьмі.

Пад уплывам таго, што ў літаратуры больш за ўсё гаворыцца пра ратныя справы Усяслава, у нас і стварылася аднабаковае ўяўленне пра яго як толькі пра князя-воіна. Мы не павінны забывацца, што з 57 гадоў яго княжання толькі каля 20 гадоў працягвалася выключна жорсткая барацьба і, такім чынам, непараўнальна большая частка княжання прыпадае на грамадскую дзейнасць. Праўда, яна не засталася асветленай у крыніцах, і толькі ў «Слове...» зроблены намёк на яе. І мы, вядома, можам адно здагадвацца аб яе змесце. Паколькі выпрацаваная Яраславам Мудрым і яго сынамі «Руская праўда» не магла мець свайго дзеяння на Полацкае княства, якое не ўваходзіла тады ў склад Кіеўскай дзяржавы, то цалкам магчыма, што Усяславам магло быць складзена полацкае заканадаўства. Ужо выраз «Слова...», што «Всеслав князь людям судяше», гаворыць аб яго актыўнай прававой дзейнасці і гэтым самым аб яго падрыхтаванасці да выпрацоўкі заканадаўчых нормаў. А гэта было настойлівай неабходнасцю для таго часу. У Полаччыне, як і ў Кіеўшчыне і Наўгародчыне, ішоў імклівы працэс феадальнага развіцця, што ўскладняла грамадскае жыццё, робячы яго ўсё больш дыферэнцыраваным. Вядома, ва ўмовах такога дынамічнага грамадскага росту ішла ломка старых прававых нормаў і нараджалася настойлівая патрэба ў выпрацоўцы новых, што, відаць, і складала важную частку дзейнасці Усяслава. Бясспрэчна, што на першым плане ўвагі Усяслава стаяла ўмацаванне ўлады княскай адміністрацыі, галоўным чынам дружыннікаў, а таксама ахова маёмасці больш заможных слаёў грамадства, у першую чаргу феадалаў і купцоў. Мяркуючы па пазнейшых часах, у Полацку было моцнае веча, і, відаць, узаемаадносіны княскай улады з ім займалі немалое месца ў заканадаўстве Усяслава. Улічваючы вялікую ролю гандлю для Полаччыны, якая ляжала на скрыжаванні вялікіх шляхоў, можна думаць, што Усяслаў шмат увагі надаваў пытанням рэгулявання гандлю і асабліва спагнання пошлін.

Трэба таксама памятаць, што пабудова Полацкай Сафіі, ініцыятарам чаго з'яўляўся, бясспрэчна, Усяслаў, была таксама адной з самых плённых старонак яго дзейнасці.

Укладваючы ў гэту справу сваю дзейную кіпучую натуру, Усяслаў тым самым намнога прасунуў наперад культурнае развіццё Полаччыны. Сапраўды, збудаваць у той час такі храм азначала намнога ўзняць узровень полацкага дойлідства. І хоць полацкая святыня будавалася па візантыйскіх узорах і візантыйскімі майстрамі, яна мела і свае рысы, што з'явілася пачаткам узнікнення арыгінальнай полацкай архітэктуры. Для таго каб упрыгожыць полацкі сабор, яго сцены, столь і падлогу, патрэбна было зрабіць шмат крокаў наперад полацкаму мастацтву. А каб наладзіць функцыяніраванне Сафіі, патрэбна было мець яшчэ больш адукаваных людзей і новых кніг, г. зн. даць новы імпульс для развіцця тагачаснай асветы. Вядома, што ўсё гэта было непасрэдна звязана з імем Усяслава. Калі ўжо дзед Усяслава Ізяслаў Уладзіміравіч быў паказаны ў летапісах як першы князь-кніжнік, то няма сумнення, што не менш адукаваным з'яўляўся яго ўнук. Той факт, што з Усяславам у прыязных адносінах быў Антоній Пячэрскі — адзін з самых асвечаных людзей таго часу,— красамоўна засведчыў высокую культуру славутага полацкага князя.

Як бачым, ужо гэтыя адзінкавыя факты, што дайшлі да нас, яскрава паказваюць нам, наколькі шматгранная была грамадская дзейнасць Усяслава, якая не ў меншай ступені, чым ратная, садзейнічала ўмацаванню і трываласці Полацкай дзяржавы.

У літаратуры стала агульнапрынятым, што пры Усяславе Полацкая зямля дасягала найбольшай велічыні, якой не было ні да яго, ні пасля яго [402]. Аднак гэта не пацвярджаецца фактамі і таму патрабуе канкрэтызацыі. Сапраўды, ніводная крыніца не ўказвае на далучэнне Усяславам да Полацка якіх-небудзь тэрыторый. Вышэй мы гаварылі, што пры гэтым князю ў склад Полаччыны маглі быць уключаны Орша і Копысь, але гэта толькі меркаванне. Наогул, на поўнач, усход і поўдзень магчымасці пашырэння полацкай тэрыторыі былі вельмі абмежаваныя, паколькі тут ішлі рубяжы пскоўскіх, наўгародскіх , смаленскіх, чарнігаўскіх і кіеўскіх уладанняў, якія, як мы бачылі, былі пад пільнай аховай. Таму адзінымі кірункамі, куды маглі пашырацца межы Полаччыны з меншым супраціўленнем, былі паўночна-заходні, заходні і паўднёва-заходні, у глыб балцкай тэрыторыі. І яны, пэўна ж, сюды пашыраліся, але наколькі, мы канкрэтна не ведаем. Магчыма, што пры Усяславе межы Полаччыны на паўднёвы захад прасунуліся да Бярэзіны (Нёманскай), уздоўж якой узніклі такія паселішчы, як Гарадок, Гарадзілава, Гарадзечна, Гародзькі, якія паводле іх назвы былі ўмацаванымі пунктамі Полацка на рубяжы з Літвой, на што ясна ўказвае наяў-

насць побач размешчаных тапонімаў Палачаны і Літва (цяпер Маладзечанскі р-н). Відаць, гэтая ўмацаваная лінія і з'явілася плацдармам, з якога Полацк ажыццяўляў падначаленне сабе Літвы, пераважна яе правабярэжнай часткі, дзе была сканцэнтравана і значная колькасць яцвягаў. Дарэчы, гэтаму садзейнічаў і этнічны фактар, паколькі ў Верхнім Панямонні з даўніх часоў славянскага засялення Беларусі асела нямала крывічоў, якія побач з дрыгавічамі асімілёўвалі літву і яцвягаў і гэтым самым арганічна змацоўвалі гэту тэрыторыю з Полаччынай.

Але найбольшыя поспехі ў пашырэнні сваёй тэрыторыі Полаччына хутчэй за ўсё мела ў Падзвінні. І гэта зразумела. Дзвіна была першай і галоўнейшай гістарычнай дарогай Полацка. І таму заваладанне ўсім яе працягам ад вярхоўяў да вусця стала яго важнейшай жыццёвай задачай. Паколькі з далучэннем Віцебска і Усвятаў валоданне Верхняй Дзвіной было замацавана яшчэ пры Брачыславе, то, зразумела, перад Усяславам і паўстала як адна з галоўнейшых задач — авалоданне Ніжнім Падзвіннем. Гэта была, відаць, асабліва плённая для Полацка дзейнасць Усяслава. Аб ёй мы можам меркаваць толькі па выніках яе, што знайшло сваё адбіццё ў крыніцах. Сапраўды, у «Аповесці мінулых гадоў», якая стваралася ў пачатку XII ст., у ліку іншых плямёнаў, што плацілі даніну Русі, названы «зимигола, корсь, норома (пад ёй трэба разумець латыголу), либь (лівы)»[403], г. зн. плямёны, што жылі ў Ніжнім Падзвінні аж да Балтыйскага мора. Нікому іншаму, вядома, як толькі палачанам, якіх летапісец таксама адносіць да Русі, гэтыя плямёны падначальвацца не маглі. Такім чынам, ужо, прынамсі, да пачатку XII ст. усё Ніжняе Падзвінне было ўладаннем Полацка. Адсюль становіцца відавочным, што гэта было вынікам дзейнасці Усяслава. Але магчыма, як адзначалася вышэй, што падначаленне Ніжняга Падзвіння было ўжо ў цэлым закончана да 1065 г., калі Усяслаў «начал рать копити» супроць Пскова і Ноўгарада. Далучэнне да Полацка Ніжняга Падзвіння стала адной з крыніц яго матэрыяльнай і ваеннай магутнасці. Як мы ўбачым у далейшым, гэтыя полацкія калоніі паступова перарастуць у полацкія ўдзелы.

У цэлым усе даследчыкі як на прыкмету аслаблення Полацкай зямлі ўказваюць на яе раздрабленне пасля смерці Усяслава, пры якім яна захоўвала адзінства. Тут яўнае неразуменне гістарычнага працэсу. З аднаго боку, сцвярджаецца прагрэсіўнасць развіцця феадалізму ў Старажытнай Русі, а з другога боку — адмоўна характарызуецца палітычная дэцэнтралізацыя, якая з'яўляецца заканамерным вынікам папярэдне ўказанага працэсу. Менавіта поступ феадалізму,

што абуджаў мясцовыя эканамічныя інтарэсы, і быў той спружынай, якая прыводзіла ў рух дэцэнтралісцкія імкненні, узмоцненыя ранейшай гісторыяй і фактарамі геаграфічнага становішча. І ўсё гэта, як адзначалася вышэй, найперш выявілася ў Полацкай зямлі. Яна ўжо была той буйной феадальнай дзяржавай, што дабілася права на тэрытарыяльную самастойнасць. Але, апынуўшыся ў авангардзе заканамернага гістарычнага развіцця, сама Полацкая зямля, зноў-такі першая з усіх усходнееўрапейскіх земляў, падпала пад працэс феадальнага драбнення на паасобныя ўдзелы. Ужо ўпамінанне к канцу XI ст. у летапісах сямі полацкіх гарадоў, апроч сталіцы (а іх магло быць і болей), можа сведчыць аб росце гарадскіх цэнтраў, што сцягвалі вакол сябе пэўныя геаграфічныя і эканамічныя рэгіёны. Цяжка сказаць, калі паасобныя ўдзелы афарміліся канчаткова, г. зн. атрымалі свайго асобнага князя: пры Усяславе ці толькі пасля яго смерці. Некаторыя даследчыкі лічаць, што выраз «Слова...» пра Усяслава, які «князем грады рядяше», адносяць да характарыстыкі яго як полацкага князя, што раздаваў паасобныя ўдзелы сваёй зямлі сынам[404]. Магчыма, яно і так, але катэгарычна сцвярджаць гэта нельга, хоць можна з упэўненасцю меркаваць, што ўдзелы гэтыя з'явіліся ўжо пры Усяславе. А гэта значыць, што Полацкая зямля не была ўжо «адзіная» і пры гэтым славутым князю і таму прынцыпова не адрознівалася ў такім сэнсе ад той, якой яна стала пасля смерці Усяслава. Апроч таго, не заўсёды драбненне на ўдзелы азначае страту палітычнага адзінства. Канкрэтныя прыклады гэтага мы пакажам пры далейшым разглядзе гісторыі Полацкай зямлі.

Эпоха Усяслава, бясспрэчна, з'яўляецца адным з самых яркіх і змястоўных перыядаў нашай гісторыі. Калі бліскучыя перамогі, атрыманыя Полаччынай у гэты час, раскрылі яе вялікія сілы і магчымасці, то трагічныя паражэнні яшчэ больш загартоўвалі яе дух для далейшых, не менш цяжкіх гістарычных выпрабаванняў. Жыццё Усяслава, поўнае крывавай барацьбы і рознабаковай кіпучай грамадскай дзейнасці, стала жывой легендай і святым паданнем, што так патрэбна народу як натхняльная сіла ў яго змаганні за сваё жыццё.

## СЫНЫ УСЯСЛАВА, ІХ ПЕРАМОГІ І ПАРАЖЭННІ

Мы ўжо гаварылі пра магчымасць з'яўлення ў Полацкай зямлі ўдзелаў яшчэ ў апошніх дзесяцігоддзях XI ст. Але фіксацыя іх у пісьмовых крыніцах адбываецца ў пачатку XII ст. У сувязі з гэтым набывае важнае значэнне пытанне пра сыноў Усяслава і іх уладанні. Само сабой зразумела, што з'яўленне ўдзелаў не залежыць ад наяўнасці ў таго ці іншага ўладара нашчадкаў. Пры адсутнасці апошніх ва ўдзелах садзіліся б княскія намеснікі. Гэта аб'ектыўная заканамернасць, калі на пэўным адрэзку гістарычнага развіцця наступае тэрытарыяльнае драбненне. Яно вызначаецца геаграфічнымі, этнічнымі і, што асабліва важна, эканамічнымі прычынамі. Як мы ведаем, тэрыторыя Полаччыны, як і ўсёй Беларусі, багатая пушчамі, балотамі і рачнымі сістэмамі, садзейнічала ўтварэнню паасобных рэгіёнаў. Этнічна Полаччына ў той час не была аднародная. Яшчэ захоўваліся астравы балцкага насельніцтва, хоць ужо ў моўных адносінах асіміляванага, але яшчэ язычніцкага. Апроч таго, калі ў паўночнай частцы Полаччыны пераважалі крывічы, то ў паўднёвай — дрыгавічы, што, як убачым, адыграла істотную ролю ва ўтварэнні першых удзелаў. Далейшае развіццё земляробства, звязанае з распрацоўкай і асваеннем новых земляў, а таксама шпаркае развіццё феадальных адносін узмацніла мясцовыя інтарэсы, што асабліва жывіла працэс тэрытарыяльнага драбнення.

Пісьмовыя крыніцы данеслі да нас звесткі пра шасцярых сыноў Усяслава: Барыса, Давыда, Глеба, Рамана, Святаслава і Расціслава. Больш заблытаным з'яўляецца пытанне аб іх старшынстве, а таксама аб іх удзелах, асабліва адразу пасля смерці Усяслава. Галоўная прычына гэтага — страта полацкіх летапісаў. Толькі яны маглі б унесці поўную яснасць у гэтым пытанні, чаго няма ў кіеўска-наўгародскім летапісанні, дзе полацкая гісторыя адбілася паасобнымі ўрыўкамі. Сярод даследчыкаў ішлі спрэчкі пра тое, хто сеў пасля смерці Усяслава на полацкім пасадзе. М. Доўнар-

Запольскі лічыў, што Давыд[405]. Гэтай жа думкі прытрымліваецца і Л. Аляксееў[406]. Аднак В. Данілевіч аспрэчваў гэту думку, лічачы, што полацкі пасад дастаўся Барысу[407], які, паводле тацішчаўскіх матэрыялаў, у 1102 г. фігуруе як полацкі князь. Як вядома, Густынскі летапіс паведаміў нам і княскае імя Барыса — Рагвалод[408]. Бясспрэчна, што яно было дадзена Усяславам свайму першынцу ў памяць пра славутага прапрадзеда Рагвалода. Усё гэта можа гаварыць за тое, што Барыс-Рагвалод быў першым сынам Усяслава, што і дало яму права на полацкі пасад. Што да думкі Л. Аляксеева, нібыта Барыс быў друцкім князем, дык нам яна здаецца негрунтоўнай. Па-першае, мы не можам з упэўненасцю сказаць, што ў пачатку XII ст. ужо існаваў гэты ўдзел. Па-другое, наяўнасць нашчадкаў Барыса ў Друцку таксама не гаворыць за гэта, бо яны маглі быць адціснуты сюды іншымі прэтэндэнтамі на полацкі пасад, што хутчэй за ўсё і адбылося. Звернем увагу і на тое, што ў Барыса-Рагвалода быў сын Рагвалод, а гэта зноў-такі гаворыць, што ён, як старэйшы сын Усяслава, захоўваў традыцыю даваць старэйшаму сыну імя Рагвалод.

Магчыма, што Давыд быў другім сынам Усяслава. Не выключана таксама, што ён і Барыс былі блізнятамі і таму ў аднолькавай меры з'яўляліся законнымі прэтэндэнтамі на полацкі пасад. Адначасова мы можам меркаваць, што ён прэтэндаваў і на Менскі ўдзел, аб чым будзе сказана ніжэй. Але з адзначанага не выцякае, што Давыд пасля смерці Усяслава не атрымаў ніякага ўдзелу, бо падзеі 1103 г. паказалі, што ён валодаў тады рэальнай вайсковай сілай.

Найбольш упэўнена мы можам гаварыць пра Глеба Усяславіча як пра менскага князя, бо ў такой ролі яго паказваюць летапісы ад 1104 г. да 1119 г. Адсюль вынікае, што менскі ўдзел быў першы па часе ў Полаччыне, зарэгістраваны летапісам у 1104 г.

Пра іншых сыноў Усяслава, апроч іх імёнаў, ніякіх звестак больш не захавалася.

А цяпер пяройдзем да разгляду падзей полацкай гісторыі ў пачатку XII ст. Паводле В. Тацішчава, у 1102 г. (г. зн. праз год пасля смерці Усяслава) полацкі князь Барыс хадзіў на яцвягаў і, перамогшы іх, вярнуўся назад і паставіў горад Барысаў у сваё імя[409]. Весткі пра нашу даўнюю гісторыю вельмі рэдкія, і таму кожная з іх уяўляе для нас вялікую каштоўнасць і патрабуе шматбаковага разгляду. Менавіта такім з'яўляецца і гэтае паведамленне, якое не захавалася ў іншых крыніцах і якое пралівае святло на розныя аспекты нашай гісторыі таго часу. Па-першае, яно засведчыла, што непасрэдна за Усяславам полацкім князем стаў Барыс-Рагвалод.



*Залатое скроневае кольца з раскопак гарадзішча ў Стара-Барысаве. XII ст.*

Па-другое, яно, паказваючы першы паход Барыса, гэтым самым раскрыла першачарговую задачу Полацкага княства ў той час. Барыс робіць паход на яцвягаў, вядома ж, не на тых, што, паводле некаторых даследчыкаў, жылі ў Сувалкіі, а на тых, што былі зусім блізка, хутчэй за ўсё ў Верхнім Панямонні, на поўдзень ад Зах. Бярэзіны, дзе, мяркуючы па вялікай колькасці каменных магіл[410], знаходзілася значная група яцвягаў у суседстве і ўперамежку з літвой. Гэты факт яшчэ раз абвяргае досыць пашыраную ў нашай гістарыяграфіі думку аб нібыта мірнай каланізацыі і асіміляцыі балцкага насельніцтва славянамі, у тым ліку і палачанамі. Як бачым, без кровапраліцця, рабаўніцтва і гвалтоўнага вываду насельніцтва тут не абыходзілася. Захопленымі ў палон яцвягамі і быў хутчэй за ўсё заселены наноў збудаваны Барысаў. Аднак гэтая думка В. Данілевіча аспрэчваецца некаторымі гісторыкамі[411]. З свайго боку, мы не бачым тут нічога неверагоднага. Адной з мэтаў паходаў князёў і было выводзіць з чужых земляў насельніцтва і засяляць ім сваю рэдка населеную зямлю. Праўда, заснаванне горада на Бярэзіне Барысам у сваё імя можа здацца праблематычным. Справа ў тым, што на карце Барысава, якая адносіцца да 1595 г., паказана рэчка Барыса [412], што на першы погляд робіць магчымым паходжанне назвы горада ад ракі. Аднак суфікс прыналежнасці — «аў» («ов») гаворыць у карысць заснаван-

ня горада Барысам. Звычайна назвы гарадоў, утвораныя ад гідронімаў, мелі суфікс «ск». Можна меркаваць, што Барысаў быў узведзены найперш як абаронны ўмацаваны пункт, на што ўказвае размяшчэнне яго гарадзішча на востраве. Відаць, недалёка адсюль праходзіў шлях з паўднёвага ўсходу, бо ў 1127 г. па ім на Барысаў рухаліся войскі чарнігаўскіх князёў. Л. Аляксеевым выказана думка, што Барысаў быў пагранічным умацаваннем[413]. У такім выпадку ўзнікае пытанне, з кім ішла мяжа па Бярэзіне. Рубяжы Полаччыны былі далёка адсунуты на ўсход ад гэтай ракі ўжо ў той час, і таму ніякай гаворкі аб парубежным становішчы Барысава не можа быць. І ўсё ж у сувязі з гэтым мы павінны прыгадаць сцверджанне аб заснаванні Барысава, якое мы знаходзім у «Хроніцы Літоўскай і Жамойцкай», якая паўтарае «Хроніку» Стрыйкоўскага. У ёй таксама пабудова Барысава прыпісваецца князю Барысу як «знак вечной граници умоцници межи Литвою и князством Полоцким»[414]. Як вядома, у гэтай крыніцы, складзенай, як і іншыя падобныя ёй «Хронікі», у фальсіфікатарскіх мэтах, шмат блытанага і скажонага, прадыктаванага палітычнымі абставінамі таго часу (XVI ст.). Так, князь Барыс тут выступае не як сын Усяслава, а як сын выдуманага літоўскага князя Гінгвіла, што было зроблена з мэтай даказаць літоўскае, а дакладней — жамойцкае паходжанне полацкіх князёў. Тое ж і ў адносінах літоўскай мяжы па Бярэзіне Дняпроўскай. Гэтая рака ніяк не магла размяжоўваць Полаччыну з Літвой. Відаць, у гэты час (у пачатку XII ст.) мяжа Полацкага княства з Літвой магла ісці па Бярэзіне Нёманскай, пра што сведчыць, як мы гаварылі раней, наяўнасць уздоўж яе тапонімаў Гарадок, Гарадзілава, Гарадзечна, Гародзькі і асабліва такіх, як Палачаны і Літва, якія красамоўна сведчаць аб полацка-літоўскім сумежжы. Менавіта з гэтых рубяжоў князь Барыс і пачаў свой паход супроць яцвягаў, магчыма, узяўшы ў саюзнікі варожую ім літву. Вось гэта Бярэзіна і была зблытана ў «Хроніцы Літоўскай і Жамойцкай» з Бярэзінай Дняпроўскай, якая нібыта была мяжой паміж Полацкам і Літвой. І невыпадкова. У XVI ст. чамусьці існавала думка, што мяжа Вялікага княства Літоўскага на ўсходзе была па Бярэзіне Дняпроўскай. Нездарма ж маскоўскія паслы, прад'яўляючы прэтэнзіі сваёй дзяржавы на беларускія гарады, гаварылі паслам Вялікага княства Літоўскага: «...а рубеже был тем городом с Литовской землёю по Березыню» [415].

Пад 1103 г. у шэрагу летапісаў адзначана, што Давыд Усяславіч хадзіў з паўднёварускімі князямі на полаўцаў[416]. Гэты факт, на першы погляд, можа пацвердзіць, што менавіта Давыд сядзеў у Полацку і яго як магутнага князя запрасілі

сабе ў саюзнікі паўднёварускія князі. У В. Тацішчава ён і названы полацкім князем[417], аднак гэты гісторык усіх Усяславічаў называе полацкімі князямі. На нашу ж думку, больш верагодна, што Давыд сядзеў у Менску і як менскі князь удзельнічаў у паходзе на полаўцаў, які быў вельмі паспяховы, бо яго ўдзельнікі, у тым ліку, відаць, і Давыд, вярнуліся «з палонам вялікім і з славай і перамогаю вялікаю»[418]. Саюз Давыда з паўднёварускімі князямі не мог не ўстрывожыць іншых Усяславічаў, асабліва старэйшага — Барыса-Рагвалода і трэцяга па ўзросту і, як пакажуць далейшыя падзеі, энергічнага Глеба. І іх непакой быў апраўданы. Менск — гэта цвярдыня Полацкай зямлі на яе паўднёвых рубяжах (к таму часу ён ужо, відаць, знаходзіўся на берагах Свіслачы ля ўпадзення ў яе Нямігі), і яго ўдзел, які ахапляў досыць вялікую частку полацкіх уладанняў, мог апынуцца ў сферы ўплыву кіеўскіх князёў, што, верагодна, і было прычынай выгнання Давыда з Менска, дзе стаў княжыць Глеб. Толькі гэта акалічнасць і можа ў найбольшай ступені растлумачыць, чаму ў ліку князёў, якія ў наступным, 1104 годзе пайшлі на Глеба Менскага, быў і Давыд Усяславіч. Прывядзём поўнасцю сведчанне летапісу пра гэту падзею: «Сего же лета исходяша, посла Святополк Путяту на Менеск, а Володимер сына своего Ярополка, а Олег сам иде на Глеба, поемше Давыда Всеславича: и не успеша ничтоже, и възвратишася опять»[419]. Як бачна, ні вялікі князь Святаполк, ні Уладзімір Манамах не прынялі ўдзелу ў гэтым паходзе, даручыўшы ўзначальваць свае войскі: першы — ваяводу Пуцяту, другі — сыну Яраполку, што княжыў у Смаленску. І толькі Алег Святаславіч, які ў гэты час княжыў у Ноўгарадзе Северскім, пайшоў сам, «поемше Давыда Всеславича». Гэтыя апошнія словы асабліва важныя для нас. Найперш яны паказваюць, што ў гэты час Давыд не быў полацкім князем і не быў ініцыятарам паходу, як лічыць Л. Аляксееў[420], бо нельга ўявіць, каб у адносінах паўнапраўнага і магутнага полацкага князя летапісец мог сказаць, што яго с сабой «поемше» Алег. Так можна было абысціся толькі з беглым князем, што застаўся без удзелу. І. Бяляеў лічыў, што ў Алега Святаславіча знайшоў прытулак побач з Давыдам і Раман Усяславіч, які таксама застаўся без удзелу[421]. Пры разглядзе ранейшых падзей мы неаднаразова ўказвалі на факты выключнай варожасці чарнігаўскіх князёў да Полацка, і таму Давыд добра ведаў, дзе яму знайсці прыстанішча, Алег Святаславіч, Ноўгарад-Северскі ўдзел якога быў у непасрэднай блізкасці ад Полаччыны, з ахвотай мог прыняць да сябе беглага князя, бо разумеў, што выкарыстае ўзніклую паміж полацкімі князямі ўсобіцу для аслаблення іх зямлі. Усё гэта

пацвярджае думку І. Бяляева, што Давыд уцёк да Алега Святаславіча. Грунтуючыся на тым, што Алег сам узначаліў сваё войска, можна думаць, што ён і быў ініцыятарам паходу злучаных сіл супроць Глеба, якога, відаць, меркаваў выгнаць з Менска і пасадзіць туды Давыда, які, такім чынам, быў бы верным саюзнікам ноўгарад-северскага князя. Не выключана, што прычынай паходу на Менск магло быць і тое, што Глеб сам зрабіў напад на Кіеўскую зямлю. Аднак гэта катэгарычна сцвярджаць нельга, як гэта рабіў М. Доўнар-Запольскі[422], бо крыніцы пра гэта не гавораць.

Аднак паход не ўдаўся. Галоўную прычыну гэтага трэба бачыць у моцы Менска, які меў добрыя ўмацаванні і патрэбную колькасць вайсковай сілы для абароны. Немалую ролю тут мела і тое, што і Святаполк і Манамах не былі асабліва зацікаўлены ў дапамозе Алегу Святаславічу, свайму даўняму праціўніку, чым і тлумачыцца тое, што яны асабіста не ўзначалілі свае войскі. А ваявода Пуцята і сын Уладзіміра Манамаха Яраполк, убачыўшы, што ўзяць Менск будзе нялёгкай справай, відаць, праявілі пасіўнасць у ваенных дзеяннях, што і вырашыла канчаткова няўдачу кааліцыі. Такі зыход, бясспрэчна, яшчэ больш умацаваў становішча Глеба і ў значнай ступені акрэсліў яго далейшую палітыку. У адносінах Давыда трэба думаць, што ён доўга жыць «на ласцы» Алега не мог і хутчэй за ўсё, памірыўшыся з братамі, вярнуўся на радзіму. Тым больш што для Полаччыны наступіў вельмі адказны момант, які патрабаваў ад яе князёў з'яднання ўсіх яе сіл.

Паход на яцвягаў у 1102 г. не быў выпадковай адзінкавай з'явай. Наадварот, ён сведчыў пра інтэнсіўнае пранікненне Полацка ў глыб балцкіх земляў і іх заваяванне. Гэта пацвердзіў і паход на земгалаў у 1106 г. Пад гэтай датай у Лаўрэнцьеўскім, Радзівілаўскім, Ніканаўскім, Васкрасенскім, Троіцкім летапісах і больш падрабязна ў В. Тацішчава знаходзім такі запіс: «...победиша зимегалы Всеславич, всю братью и дружины убиша 9 тысящ» [423]. У Густынскім летапісе замест земгалаў значыцца жмудзь (жамайты)[424]. Хоць гэта і памылкова, аднак жмудзь-жамайты і земгалы былі, відаць, суседнімі плямёнамі, і, магчыма, назва другой паходзіла ад назвы першай, г. зн. земгалы — тыя, што жывуць у канцы жамайтаў. Земгалы ўжо раней былі пакораны Полацкам, але, як слушна заўважыў яшчэ М. Карамзін[425], у дадзены момант выйшлі з падначалення і перасталі плаціць даніну. Сапраўды, у «Аповесці мінулых гадоў», якая складзена ў пачатку XII ст., адзначана, што земгалы ў ліку іншых падзвінскіх плямёнаў даніну даюць Русі. А браць даніну з іх мог толькі Полацк. Апроч яго ніводная руская зямля не магла пашы-

рацць сваю ўладу на Ніжняе Падзвінне. Земгалы былі самым усходнім з падзвінскіх плямёнаў, і таму іх непакорнасць пагражала Полацку страціць уладу над астатнімі падзвінскімі плямёнамі, якія жылі далей на захад. Гэтая акалічнасць асабліва ўстрывожыла Усяславічаў. З летапіснай інфармацыі мы даведваемся, што ў паходзе ўдзельнічалі ўсе браты Усяславічы. А гэта з'яўляецца пераканаўчым сведчаннем таго, што ўдзелы, якія з'явіліся ў Полацкай зямлі, і іх князі, нягледзячы на часовую варожасць і барацьбу паміж імі, не страцілі разумення агульных інтарэсаў усёй зямлі. Паход на земгалаў быў задуманы як грандыёзная вайсковая кампанія, якая патрабавала ўдзелу ўсіх дружын зямлі. Аднак, у адрозненне ад паходу на яцвягаў у 1102 г., гэты паход быў выключна няўдалым і катастрафічным па сваіх выніках для Полацка. Магчыма, што тут мела месца няўзгодненасць у дзеяннях усіх дружын. У тацішчаўскіх матэрыялах паказана, што гэта няўдача з'ўлялася вынікам тактыкі земгалаў, якія, сабраўшыся ў вялікім мностве, нечакана напалі з лясоў на неасцярожных палачанаў і перамаглі іх[426]. Разглядаючы пазней падзеі 1132 г. і 1162 г., мы ўбачым, што гэта тыповая тактыка балтаў.

Т. Нарбут таксама не абмінуў гэтай падзеі і, адносячы яе да часоў міфічнага літоўскага князя Кернуса, паказаў іх у святле перавагі Літвы над Руссю. Паводле яго, земгалы ўслед за няромай (латыголамі) не захацелі быць залежнымі ад Полацка. І вось Усяслаў (яго ўжо тады не было ў жывых) паслаў сыноў сваіх Гержэга (?) і Давыда супроць земгалаў, але апошнія разам з літвінамі перамаглі.

Цяжка сказаць, наколькі праўдзівая лічба ахвяр палачанаў — 9 тысяч чалавек, бо ў адным з летапісных варыянтаў мы бачым 900 чалавек[427]. Калі верыць першай, то яна сведчыць не толькі аб выключна цяжкім паражэнні, але і аб вялікай магутнасці ў той час Полацкай зямлі, якая магла сабраць пры малалікасці тагачаснага насельніцтва такое шматлікае войска для аднаго паходу. Але і другая лічба, хоць і меншая ў дзесяць разоў, таксама ўнушальная для таго часу. Магчыма, што яна і больш праўдзівая. На жаль, крыніцы не захавалі факта аднаўлення палачанамі сваёй улады над земгаламі (ён, бясспрэчна, быў асветлены ў Полацкім летапісе). А што гэта было так, не можа быць сумнення, бо, прынамсі, да пачатку XIII ст., паводле нямецкіх хронік, Ніжняе Падзвінне належала Полацку. Але на гэтым мы не заканчваем разгляд двух паходаў Барыса. Нам здаецца, што з імі звязана і ўзнікненне г. зв. Барысавых камянёў.

# БАРЫСАВЫ КАМЯНІ

Гэтыя вялізныя гранітныя валуны шырокавядомыя як манументальныя помнікі нашай гісторыі і нашага старажытнага пісьменства. Былі выказаны розныя думкі пра іх з'яўленне і прызначэнне. Але ўсе яны не могуць быць прызнаны пераканаўчымі. Так, напрыклад, лічыць іх межавымі знакамі Полацкай дзяржавы няма падстаў, бо знаходзіліся яны ў месцах, якія не з'яўляліся ўскраінамі зямлі. Што яны былі пастаўлены ў гонар наведвання той ці іншай мясцовасці князем — таксама непараканаўча: вельмі ўжо мала гэтых мясцін. Думка, што яны (правільней — надпісы на іх) былі сведкамі барацьбы полацкага князя з перажыткамі паганства, таксама не зусім слушная, бо хоць выява крыжа і можа пацвярджаць яе, дык змест надпісу супярэчыць гэтаму. Наўрад ці прызначаліся гэтыя камяні для таго, каб зрабіць менш небяспечным суднаходства па Дзвіне, бо большасць з іх знаходзіцца далёка ад гэтай ракі, на сушы.

У апошні час вядомы савецкі археолаг і гісторык Б. Рыбакоў выказаў меркаванне, згодна з якім усе надпісы на камянях былі зроблены па загаду полацкага князя Барыса ў страшэнны час голаду 1127—1128 гг. і павінны былі дараваць грахі палачанам і забяспечыць ім ураджай[428]. Аднак гэта гіпотэза не тлумачыць размяшчэнне Барысавых камянёў. У прыватнасці тое, чаму большасць з іх знаходзіцца па Дзвіне, на захад ад Полацка. Народная назва аднаго з камянёў «Барыс Хлебнік» не азначае яшчэ таго, што з імем Барыса ў гэтым выпадку асацыіравалася старажытнае аграрнае свята першых усходаў ярыны, да якога яшчэ ў пачатку XII ст. прыўрочылі дзень святых Барыса і Глеба (2 мая). Назва «Барыс Хлебнік» хутчэй за ўсё дадзена каменю за падабенства яго формы з боханам хлеба.

Нам здаецца, што даследчыкамі не было дастатковай увагі звернута на змест надпісаў на камянях, якія ўсюды аднолькавыя. У іх паабапал васьміканечнага крыжа было выбіта: «Господи помози рабу своему Борису». Як бачым, у іх выказана просьба да бога памагчы Барысу ў нейкай важнай і цяжкай справе. Беручы гэта пад увагу і ўлічваючы месцазнаходжанне Барысавых камянёў, можна прыйсці да пераканання, што з'яўленне іх звязана з вайсковымі паходамі князя Барыса на яцвягаў у 1102 г. і земгалаў у 1106 г. Як было ўжо адзначана вышэй, частка яцвягаў жыла па суседству з Полацкай зямлёй у Верхнім Панямонні, на поўдзень ад р. Заходняя Бярэзіна. Шлях на іх з Полацка мог ісці толькі праз вярхоўе Вяллі, на беразе якой і ляжаў вялікі валун. Паколькі адсюль было ўжо недалёка да яцвягаў, з якімі



*Адзін з Барысавых камянёў,*
*які знаходзіўся на Дзвіне паблізу горада Дзісны*

прадстаяў бой, то Барысам і магло быць загадана выбіць вядомыя нам ужо словы. На жаль, гэты камень, як відаць, першы Барысаў (ён знаходзіцца і цяпер у в. Камень Вілейскага р-на), сапсаваны, бо па загаду аднаго памешчыка быў знішчаны надпіс на паўднёвым і заходнім баках[429].

Яшчэ больш паказальным з'яўляецца размяшчэнне Барысавых камянёў па Дзвіне. Усе яны знаходзяцца на захад ад Полацка. Першы з іх у 5 км ад яго, другі і трэці — у 5 і 7 км ніжэй ад г. Дзісны, чацвёрты — ля г. Друі. Нельга не заўважыць, што кірунак размяшчэння камянёў супадаў з кірункам паходу полацкіх князёў на чале з Барысам на земгалаў. Полацкія дружыны хутчэй за ўсё і рухаліся па Дзвіне, паколькі водны шлях тады быў найбольш зручны і танны. Барыс разумеў усю цяжкасць задуманага ім грандыёзнага паходу і таму мог загадваць на кожным вялікім валуне высякаць словы аб божай дапамозе яму. Але гэта, як мы ўжо ведаем, не дапамагло.

Што надпісы на Барысавых камянях былі непасрэдна звязаны з вайсковымі паходамі, добра паказвае яшчэ адзін камень, праўда, ужо не Барысаў. Ён стаяў каля сяла Краслаўкі і быў знішчаны ў 1818 г. пры расчыстцы Заходняй Дзвіны. Дык вось на ім было высечана: «Да не убоится душа моя врага моего яко с твёрдою рукою десницы отрасль Святополка Александръ»[430]. Паколькі ўпомнены камень знаходзіўся за крайнім Барысавым каменем на захадзе, то можна лічыць яго больш познім. Відавочна, што ён таксама звязаны з паходам у Ніжнядзвінскія землі. Але Аляксандр Святаполкавіч



*Рагвалодаў камень, які знаходзіцца пад Оршай*

у адрозненне ад Барыса ўжо не звяртаўся з просьбай да бога дапамагчы яму, а высякаў заклінанне, якое павінна было падбадзёрваць яго. Характэрна і тое, што замест крыжа тут быў выбіты шлем воіна з выявай сонца[431]. Такім чынам, тое, што было зацемнена неканкрэтнасцю просьбы на Барысавых камянях, на гэтым камені праступае яскрава: усе гэтыя камяні — найперш памяткі пра паходы полацкіх князёў. Трэба думаць, што Барысаў камень ля вёскі Вялікі Гарадзец Талачынскага р-на быў таксама звязаны з нейкім паходам, пра які, на жаль, пісьмовыя звесткі да нас не дайшлі. Выбіваць надпісы на камянях напярэдадні здзяйснення вайсковых задум было традыцыяй у полацкіх князёў. Да гэтага прыбег і сын Барыса Рагвалод-Васіль, выбіўшы 7 мая 1171 г. на камені (паміж Друцкам і Оршай) надпіс, аналагічны надпісам на Барысавых камянях. Гэта ж пацвярджае і наяўнасць вялікай колькасці камянёў з выбітымі на іх крыжамі па Заходняй Дзвіне аж да Ашэрадэна, г. зн. амаль да вусця гэтай ракі. І ўсе яны маюць падабенства з Барысавымі камянямі[432]. Няма сумнення ў тым, што яны — яшчэ адно красамоўнае сведчанне полацкага пранікнення ў Ніжняе Падзвінне.

Вядомы і яшчэ адзін полацкі камень з надпісам «Сулибор хръсть», які ляжаў побач з трэцім Барысавым каменем ля в. Балоткі. Некаторыя даследчыкі расшыфроўвалі гэты надпіс так: «Моцны, храбры Барыс свят»[433]. Паколькі форма крыжа і характар надпісу на гэтым камені істотна

розняцца ад адпаведных выяў на іншых Барысавых камянях, то А. Сапуноў адносіў яго да пазнейшага часу. У прыватнасці ён лічыў, што гэты крыж і надпіс былі высечаны ў памяць Барыса[434]. Дарэчы, на вілейскім камені ёсць аналагічныя словы: «Воротишин хресть». Магчыма, што Вараціша і Сулібор — імёны тых майстроў, якія высякалі надпісы на полацкіх камянях.

Варта яшчэ дадаць, што ў XVI ст. М. Стрыйкоўскі шырокавядомыя ў народзе Барысавы камяні выкарыстаў у фальсіфікатарскіх мэтах. Каб давесці літоўскае, правільней — жамойцкае, паходжанне полацкіх князёў, ён сцвярджаў, што бачыў камень, які знаходзіўся у мілі ад Дзісны і ў сямі мілях ад Полацка і на якім меўся надпіс: «Вспоможи, господи, раба своего Бориса, сына Гингвилового». Далей ён прыпісаў гэтаму Барысу будаўніцтва Полацкай Сафіі і іншых храмаў. Няма чаго казаць, што гэта — грубая фальшыўка, бо добра вядома, што каменя з такім надпісам каля Дзісны ніколі не было і што Барыс быў не сынам выдуманага жамойцкага князя Гінгвіла, а сынам славутага Усяслава Чарадзея, які, як вядома, і будаваў Сафію. У свой час Я. Тышкевіч слушна зазначыў, што Стрыйкоўскі, пішучы гэта (маючца на ўвазе словы «сына Гингвилового»), забыўся, што «трымаў у руцэ пяро гісторыка»[435]. Трэба толькі пашкадаваць, што большасць полацкіх камянёў — гэтых неацэнных помнікаў нашай старажытнасці — загінула.

## ГЛЕБ МЕНСКІ, ЯГО АСОБА І ДЗЕЙНАСЦЬ

Але вернемся да разгляду нашай гісторыі ў храналагічным парадку. Земгальскае паражэнне полацкіх князёў не магло не выклікаць сярод іх спрэчак, разладу і суперніцтва за полацкі пасад. Уся віна за няўдалы паход была, відаць, ўзвалена на Барыса. Магчыма, што менавіта ў гэты час Барыс быў пазбаўлены вечам полацкага пасада і апошні перайшоў да Давыда, які і княжыў да 1127 г. Менш шчаслівы быў лёс Рамана Усяславіча. Калі прытрымлівацца меркавання І. Бяляева, што гэты князь знайшоў прыстанішча разам з Давыдам у Алега Святаславіча, то, магчыма, у адрозненне ад свайго старэйшага брата, ён не вярнуўся на радзіму і, паводле Ніканаўскага летапісу, апынуўся ў Разані, дзе і памёр[436]. Розныя крыніцы паказваюць розныя даты яго смерці: 1113, 1114 і 1116 гг. Удава Рамана пазней знаходзілася ў Полацку, была ігуменняй манастыра, як засведчыла «Жыціе Ефрасінні Полацкай».



*Сучасны выгляд рэштак дзядзінца і вакольнага горада ў Друцку*

Хоць паражэнне ў паходзе на земгалаў і для Глеба Менскага было адчувальнае, аднак яно не спыніла на доўгі час ажыццяўленне яго шырока задуманых планаў. З гэтага часу і да 1119 г. Глеб выступае на першы план полацкай гісторыі.

Калі Менскі ўдзел не быў першым удзелам, які з'явіўся ў Полацкай зямлі (нельга забывацца, што Ізяслаўль яшчэ ў канцы X ст. стаў уладаннем Рагнеды, што і магло з'явіцца пачаткам яго пэўнай асобнасці), то ён быў першым удзелам, які адыграў найбольш важную ролю ў Полаччыне. Выдзяленне Менскага княства не з'явілася выпадковым, яно было абумоўлена шэрагам прычын. Па сваім геаграфічным становішчы гэтае княства з'яўлялася падняпроўскай часткай Полаччыны, паколькі размяшчалася па Бярэзіне і Свіслачы. Не менш істотнае значэнне мела і тое, што цэнтр княства — Менск — знаходзіўся ў вярхоўях Свіслачы, на мяжы з Нёманскім басейнам. Усё гэта і вызначыла для Глеба кірункі пашырэння тэрыторыі Менскага княства: на ўсходзе — да Дняпра, на захадзе — да Наваградка. З этнічнага боку Менскае княства таксама мела свае асаблівасці. Хоць насельніцтва тут было мяшанае, дрыгавіцка-крывіцкае (пры наяўнасці яшчэ паасобных балцкіх астравоў), яно ўсе ж пераважна было дрыгавіцкае, што дазваляла Глебу глядзець на сябе як законнага ўладара ўсяго гэтага племя, і тым самым дало яму яшчэ адзін кірунак росту княства — на поўдзень, у глыб карэннай прыпяцкай дрыгавіцкай тэрыторыі. Аднак экспансіўная палітыка Глеба найперш была абумоўлена эканамічнымі прычынамі. Сапраўды, толькі выхад да Дняпра, Прыпяці і Нёмана мог вывесці Менск з іза-

ляцыі і забяспечыць яму выхад на важнейшыя гандлевыя шляхі і панаванне над імі.

Урыўкавыя летапісныя паведамленні не даюць магчымасці аднавіць усе звёны ажыццяўлення палітыкі Глеба Менскага ў аднолькавай паўнаце. Відаць, трохі адцягнуў яе праўдзенне ўдзел у паходзе на земгалаў. Паражэнне ў ім, па ўсім відаць, намнога пагоршыла ваенна-палітычнае становішча Глеба Менскага, што змусіла яго пайсці на часовае прымірэнне з кіеўскім князем Святаполкам (дарэчы, Глеб быў жанаты з яго пляменніцай), пра што можа сведчыць пабудова Глебам у 1108 г. трапезнай у Пячэрскім манастыры і багатыя асігнаванні апошняму срэбрам і золатам. Магчыма, што гэтыя прыязныя адносіны са Святаполкам і далі Глебу магчымасць прасоўвацца да Дняпра. Ва ўсякім выпадку, к 1116 г., а хутчэй за ўсё к 1113-му, калі памёр Святаполк, Глеб Менскі або валодаў Друцкам, Копысем і Оршай, або знаходзіўся з імі ў саюзе[437]. Не выключана, што, як лічыў І. Бяляеў[438], менавіта Глеб Менскі ў сваім руху да Дняпра і заваяваў, умацаваўшыся ў Друцку, у гэты час Оршу і Копысь, якія належалі Смаленску. У такім выпадку можна думаць, што Глеб выкарыстаў варожасць паміж Ізяславічамі і Манамахам, які, будучы ўладальнікам Смаленска, не выступіў адразу супроць Глеба пасля захопу ім Оршы і Копыся. Выхад да Дняпра намнога павялічыў сілы Менска, што дало яму магчымасць пераключыць сваю ўвагу ў іншыя бакі, а менавіта ў кірунку Прыпяці. Аднак цяпер змяніліся палітычныя абставіны: у Кіеве пасля смерці Святаполка сеў па запрашэнні кіяўлянаў Уладзімір Манамах, даўні непрыяцель Полацка і Менска. Відаць, з гэтага часу зноў пачынаецца абвастрэнне адносін паміж Менскам і Кіевам. Паводле кіеўскіх крыніц, уся віна за гэта клалася на Глеба. Асабліва непрывабнай асоба гэтага князя выступае са звестак Т. Нарбута. Як ўсё, што напісана ім, так і гэтыя паведамленні не могуць не выклікаць сумнення ў сваёй праўдзівасці. І ўсё ж у іх ёсць паасобныя моманты, якія не супярэчаць іншым крыніцам і таму заслугоўваюць увагі.

Дык вось, паводле Т. Нарбута, Глеб Менскі быў чалавекам нораву жорсткага і неспакойнага, які сваімі пачварнымі ўчынкамі выклікаў на сябе гнеў вялікага князя Святаполка, што апалчыўся разам з іншымі князямі на яго ў 1104 г. Падбадзёраны гэтым няўдалым паходам на яго, Глеб прыгнятаў сваіх падданых рознымі спосабамі і не даваў спакою суседзям. Уладанні яго апусцелі: народ бег у суседнія землі і асабліва ў Літву Завілейскую, у якой тым часам панаваў Жывінбуд. Князь менскі часта нападаў на яго ўладанні аж да р. Дзітвы і паланіў безабаронных земляробаў. Нарэшце

выведзены з цярпення Жывінбуд у сваю чаргу напаў у 1114 г. на Менскае княства, спусташаючы яго, дайшоў да самай сталіцы, якую, узяўшы прыступам, спаліў і гэтым да таго застрашыў Глеба, што ён на доўгі час пакінуў яго ўладанні ў спакоі. Але, перастаўшы турбаваць Літву, Глеб звярнуўся ў другі бок, на землі братнія (?), спустошваў іх воласці і выводзіў у палон земляробаў. Ад Прыпяці да Дняпра, ад вярхоўяў Нёмана да Дзвіны дыміліся лепшыя вёскі і воласці пад яго лютымі набегамі: цягнуў няшчасны народ у няволю, прадаваў яго ў рабства ў далёкія краі і нават за мора ці сяліў у пустэльных ваколіцах Бярэзіны. Глеб да таго прывучыў баяраў сваіх да гэтага пачварнага промыслу, што яны зрабіліся сапраўднымі гандлярамі нявольнікаў. Паўсюдна раздаваліся скаргі і нараканні супроць варварскага промыслу. Уладзімір Манамах сарамаціў Глеба, пагражаў яму, прымусіў нават кіеўскага мітрапаліта падвергнуць анафеме менскага князя і яго паплечнікаў. Нарэшце, калі і гэта не надавуміла іх, то сам вялікі князь, злучыўшыся з Давыдам Чарнігаўскім і Ольгавічамі, узяў у 1116 г. Оршу і Копысь, гарады, як бачым, належныя да Менскага княства,— уціхамірыў Глеба і дараваў яму. Але, зноў ім угневаны, даручыў у 1119 г. сыну свайму Яраполку пакараць Глеба і яго баяраў злачынных. З'явілася мноства ахвотнікаў для гэтага як бы крыжовага паходу, бо Глеб і яго баяры былі праклятыя, нават Жывінбуд прыняў удзел у гэтым паходзе. Разбіўшы нагалаву мянчанаў на берагах Бярэзіны, Яраполк пайшоў на Друцк — удзел Менскага княства, галоўнае месцазнаходжанне гандляроў нявольнікамі, узяў прыступам крэпасць і, зраўняўшы горад з зямлёй, жыхароў перасяліў на новае месца, дзе заснаваў новы горад Наваградак-Жэлні. Глеб быў адведзены палонным у Кіеў, дзе і памёр 13 верасня 1119 г.[439]. На жаль, Нарбут не ўказаў, адкуль пачэрпнуты ім некаторыя з гэтых звестак, якіх мы не знаходзім у вядомых нам крыніцах. Мы прывялі поўнасцю гэту вытрымку, каб пасля ў ходзе разгляду далейшай гісторыі звяртацца да яе, указваючы на яе праўдападобныя і сумніцельныя дэталі.

Найперш гэтыя звесткі цікавыя тым, што яны зноў пацвердзілі факт суседства Літвы з Менскім княствам і тым самым засведчылі сапраўднае месцазнаходжанне гэтай гістарычнай вобласці ў XII ст. Варта ўвагі, што тут выяўлена перасяленне людзей з Менскага княства ў Літву, а гэта гаворыць аб паступовай славянскай каланізацыі Літоўскай зямлі. Цалкам магчымымі з'яўляюцца і выпадкі нападу Глеба Менскага на Літву як суседнюю зямлю. Гэтаму не супярэчаць і тацішчаўскія матэрыялы, з якіх відаць, што Глеб у 1119 г. ваяваў разам з Смаленскай і Новагародскую вобласць[440], што магло



*Лукомль, гарадзішча*

быць зроблена толькі праз Літву. Імя літоўскага князя Жывінбуда не прыдумана Нарбутам. Яно сустракаецца ў Галіцка-Валынскім летапісе пад 1215 г. як імя старэйшага літоўскага князя. Вядома, князь з такім імем мог быць і раней, у пачатку XII ст., тым болей што Нарбут у сваёй гісторыі гаворыць пра Жывінбудаў I і II. Але трэба ўлічваць, што Нарбут па прыкладу Стрыйкоўскага, «Кронік» і «Летапісцаў» XVI ст. мог пераносіць літоўскіх князёў як уяўных, так і сапраўдных з аднаго стагоддзя ў другое. Так што наяўнасць такога літоўскага князя ў той час з'яўляецца пытаннем праблематычным. Цяжка паверыць і ў факт нападу гэтага князя на Менск і ўзяцця яго ў 1114 г. Наўрад ці змог бы Глеб пасля такога спусташальнага набегу на яго ўладанні праз два гады адважыцца напасці на Слуцк. Хутчэй за ўсё Глеб мог пайсці на такі крок, значна ўмацаваўшыся за кошт Літвы, парабаваўшы яе аж да Дзітвы ці, больш верагодна, нават заваяваўшы яе. Менавіта толькі падначаліўшы дняпроўскія і нёманскія землі, Глеб Менскі змог набраць патрэбныя сілы для нападу на прылеглыя да Менскага княства дрыгавіцкія землі, якія ён лічыў сваімі.

Падзеі 1116 г. параўнальна добра асветлены ў крыніцах: аб іх гаворыць сам Манамах у сваім «Павучанні», дэталёвае адбіццё яны атрымалі ў «Аповесці мінулых гадоў» і ў В. Тацішчава, іх, як мы бачылі, не абмінуў і Нарбут. Толькі супаставіўшы і прааналізаваўшы ўсе гэтыя звесткі, мы і зможам скласці больш-менш выразнае і аб'ектыўнае ўяўленне пра гэту драматычную старонку нашай гісторыі. Бясспрэчна, у аснову нашага разгляду трэба пакласці матэрыялы «Аповесці мінулых гадоў» і В. Тацішчава, паколькі яны самыя

дэталёвыя і таму заслугоўваюць найбольшага даверу. Паводле іх, падзеі разгортваліся так. Глеб Менскі пачаў вайну з вялікім князем Уладзімірам Манамахам. Ён напаў на дрыгавічоў і спаліў Слуцк (у В. Тацішчава памылкова «Луческ»). Сам Манамах, вельмі лаканічна тлумачачы прычыну свайго паходу на Глеба, гаварыў, што апошні захапіў яго людзей[441]. Як слушна паказаў П. Галубоўскі, тут кіеўскі князь меў на ўвазе свой паход на Менск у 1116 г.[442]. Такім чынам, адной з мэтаў нападу Глеба на дрыгавіцкія землі быў і вывад адтуль палону. З тацішчаўскіх звестак відаць, што Манамах у адказ на гэта не пайшоў адразу на Глеба, а даручыў сваім паслам строга папярэдзіць менскага князя не рабіць больш такога зла. Аднак Глеб яшчэ больш заганарыўся і пачаў усяляк ганьбіць Уладзіміравых паслоў, ніколькі не каючыся ў сваім учынку і не хочучы скарыцца Уладзіміру. Больш за тое, Глеб сам стаў дакараць кіеўскага князя і пагражаць захапіць яго вобласць. Магчыма, як гэта мы даведваемся ў Нарбута, пасля гэтага Уладзімір, ведаючы пра набожнасць Глеба, рашыў звярнуцца да мітрапаліта з просьбай праклясці непакорнага князя. Але, відаць, і гэта не дапамагло, што цалкам зразумела: інтарэсы сваёй зямлі для Глеба былі больш важныя, чым грахі перад богам. Нельга забывацца, што сыноў Усяслава было болей, чым удзелаў у Полаччыне, і таму князь, які аказваўся не на вышыні свайго становішча, мог лёгка апынуцца без удзела.

Вядома, ужытыя Манамахам перасцярогі ні ў якім разе нельга тлумачыць яго гуманнасцю. Гэты хітры і жорсткі палітык ведаў, што рабіў. А менавіта: найперш ён імкнуўся зрабіць моцны дыпламатычны націск на Глеба, запалохаць яго і тым самым без праліцця крыві прымусіць пакарыцца сабе. Аднак ён памыліўся ў сваіх разліках і толькі пасля гэтага звярнуўся да рашучых вайсковых дзеянняў. Як і раней, яшчэ пры Усяславе, Манамах выступіў у кааліцыі з іншымі князямі, у першую чаргу са сваімі сынамі: Вячаславам — князем смаленскім і Яраполкам — князем пераяслаўскім, стрыечным братам Давідам Святаславічам — князем чарнігаўскім і Ольгавічамі. З гэтага бачна, што на менскага князя рушыла ўся Паўднёвая Русь разам з моцна прывязаным да яе Смаленскам. Больш за тое, Манамах і даручыў сваім саюзнікам нанесці першы ўдар па Менскім княстве з усходу. Гэта быў адначасова і самы адчувальны ўдар, бо яго задачай з'яўлялася адціснуць Глеба ад Дняпра. Паколькі прыналежнасць Падняпроўя Менску больш за ўсё пагражала Смаленску, то на яго князя Вячаслава — малодшага сына Манамаха, пастаўленага тут у 1113 г.,— і была ўскладзена задача забраць гарады Оршу (яна, паводле В. Тацішчава, была ўзята пры-

ступам [443]) і Копысь, што ён і зрабіў, далучыўшы іх да сваіх уладанняў. Няма чаго казаць, якая гэта была страта для Менска. Калі Орша была важнейшым стратэгічным пунктам, валоданне якім адмыкала для Полаччыны дарогу на ўсход, на Смаленск, то Копысь меў вялікае эканамічнае значэнне, паколькі тут знаходзіўся перавоз праз Дняпро, мытня і корчмы, якія давалі выключна вялікія прыбыткі для княскай казны.

Але не толькі Вячаслаў, але і Яраполк і Давыд мелі спажыву з гэтага паходу. Яны, пранікнуўшы далей на тэрыторыю Менскага княства, захапілі 18 студзеня[444] (такім чынам, падзеі фактычна адбываліся ў 1117 г. паводле нашага календара) Друцк, разрабавалі яго і «ўзялі на шчыт», г. зн. вывелі насельніцтва, якое пасля пасадзілі ў Пераяслаўскім княстве ў спецыяльна пабудаваным горадзе Жэлні. Апошняе добра сведчыць, наколькі важна было захапіць палон для засялення ім бязлюдных прастораў. Захоп Друцка меў і стратэгічнае значэнне — гэтым самым Менск адразаўся ад Полацка і пазбаўляўся дапамогі з боку апошняга.

І вось толькі цяпер, калі Глебу быў нанесены моцны флангавы ўдар, Манамах на чале свайго кіеўскага войска пайшоў на Менск (у «Аповесці мінулых гадоў» памылкова сказана «к Смоленьску»). Лаўрэнцьеўскі летапіс нават захаваў дакладную дату гэтага паходу — 28 студзеня, г. зн. праз 10 дзён пасля ўзяцця Друцка. Аднак Глеб не разгубіўся ад нанесеных яму ран і рашыў абараняцца ад Манамаха, не выходзячы за сцены свайго горада, паколькі для вайны на адкрытай прасторы ў яго не хапала войска[445]. Відаць, да такой тактыкі прыбег быў Глеб і ў 1104 г., калі Менск застаўся непрыступны для непрыяцеля, таму і цяпер вырашыў заняць абарону за сценамі горада. Убачыўшы непрыступнасць Менска, Уладзімір, не спадзеючыся на поспех (напэўна ж, улічыў вопыт 1104 г.) і каб не мець шмат страт, вырашыў браць Менск не прыступам, а працяглай аблогай, каб тым самым прымусіць Глеба пад пагрозай голаду добраахвотна здацца. З мэтай даць зразумець гэта менскаму князю ён загадаў будаваць для сябе і для войска зімовыя памяшканні, а таксама паставіць па ўсіх дарогах конныя заставы і з зямлі Глеба сабраць корм для свайго войска і для коней[446]. І Глеб, спалоханы ўбачаным, вымушаны быў паслаць сваіх паслоў да Уладзіміра, просячы літасці. Усё гэта ўзрадавала Манамаха, бо ён разумеў, што доўгае стаянне зімой знясіліла б яго войска[447] і перад ім магла б паўстаць непрыемная перспектыва «не успеше ничтоже», вярнуцца назад, як гэта было ў 1104 г. Але, каб болей нагнаць страху на Глеба, Манамах з вялікім гневам сказаў, што яму не будзе літасці да таго часу,

пакуль Глеба і яго азлобленых дараднікаў скаванымі да яго не прывядуць[448]. З гэтымі словамі і адпусціў ён паслоў Глеба. Але адначасова таемна паслаў людзей да іх, каб яны падвучылі Глеба прасіць заступніцтва за сябе і іншых князёў, што Глеб, бачачы безвыходнасць свайго становішча, і зрабіў. І вось Манамах, як бы паважаючы просьбу князёў, абяцаў злітавацца над Глебам, калі ён сам да яго прыйдзе перапрошваць. І назаўтра Глеб разам з жонкаю, дзецьмі і вяльможамі прыйшоў да Уладзіміра і ў зборы ўсіх князёў прасіў літасці. Уладзімір жа, узяўшы ад Глеба абяцанне надалей быць паслухмяным, дараваў яму, вярнуў яму Менск і іншыя гарады і з войскам вярнуўся ў Кіеў[449].

З разгледжанага бачна, што мір паміж Манамахам і Глебам быў дасягнуты шляхам кампрамісу. Першы, памятаючы аб выніках паходу 1104 г., не рызыкнуў брацць прыступам Менск і, ужыўшы шэраг зманлівых тактычных прыёмаў, змусіў менскага князя да пакоры. Другі ж, прыняўшы ўмовы Манамаха, зберог сваю сталіцу ад разбурэння, а сваю зямлю ад далейшага рабавання і спусташэння. І ўсё ж спроба Менска завалодаць прыпяцкімі дрыгавіцкімі землямі, якія былі вельмі важныя для Кіева ў стратэгічных і эканамічных адносінах, абышлася яму дарагой цаной, стратай важнейшага ўчастка Падняпроўя, а магчыма, як думае Л. Аляксееў, і Верхняга Панямоння[450], разрабаваннем і спусташэннем Друцка. Таму зразумела, што Менску змірыцца з гэтым азначала страту ўсяго таго, што было набыта ім у апошні час і што забяспечвала яму паўнакроўнае палітычнае і эканамічнае жыццё. Вось таму цалкам зразумела, чаму Глеб не мог доўга захоўваць мір з Манамахам. Аднак у яго не было дастатковых сіл, каб пачаць барацьбу з Кіевам. Паколькі ад стратаў Менска пацярпелі і інтарэсы Полацка, які, у прыватнасці, быў таксама адціснуты ад Дняпра, Глеб і звярнуўся па дапамогу да палачанаў, і яны не адмовілі яму ў гэтым, што яшчэ раз пацвярджае адзінства Полацкай зямлі і ў час раздраблення на ўдзелы.

Трэба зазначыць, што падзеі, звязаныя з далейшай барацьбой Глеба, вельмі заблытаныя, і не толькі ў храналагічных адносінах, як лічыў В. Данілевіч[451]. Сапраўды, розныя даты (1117, 1119) мы бачым не толькі ў розных крыніцах, але і ў адной і той жа[452]. Аднак паколькі больш дэталёвыя звесткі пра гэтыя падзеі мы знаходзім у тацішчаўскіх матэрыялах, то і бяром іх за аснову. Паводле іх, у 1119 г. Глеб Менскі разам з палачанамі «паки начал воевать области Владимировых детей, Новогородскую (г. зн. Наваградскую.— *М. Е.*) и Смоленскую»[453]. Як бачым, першаю названа Новагародская зямля, што вельмі паказальна. Гэта пацвярджае меркаванне

Л. Аляксеева, што Глеб Менскі ў 1116 г. страціў свае пазіцыі не толькі ў Падняпроўі, але і ў Верхнім Панямонні. Менавіта іх, лічачы гэта больш лёгкай справай, Глеб і рашыў найперш захапіць, каб, узяўшы тут патрэбныя сілы і сродкі, выкарыстаць іх для адваявання Падняпроўя. Варта звярнуць увагу на наяўнасць у той час Новагародскай вобласці. Прайшло семдзесят гадоў з нечым з часу заснавання Новагародка (1044 г.), як ён ужо стаў цэнтрам гістарычнай вобласці ў Верхнім Панямонні. Мы ўжо ведаем, што Навaградак быў заснаваны найперш як умацаваны пункт Кіева для панавання яго над Літвой, якая была суседняй з Полацка-Менскай зямлёй. І таму натуральна, як ужо адзначалася намі, ён стаў яшчэ адным вузлом супярэчнасцяў паміж Кіевам і Полаччынай. Нездарма ж Усяслаў Чарадзей у 1067 г. накіраваў супроць яго свой удар. Тое ж самае недзе паміж 1116 і 1119 гадамі зрабіў і Глеб. Магчыма, Т. Нарбут меў нейкія крыніцы, якія сведчылі аб паходах Глеба на Літву, у якой нібыта княжыў Жывінбуд. У святле тацішчаўскіх звестак аб тым, што Глеб ваяваў Новагародскую вобласць, гэтыя паведамленні выглядаюць не такімі ўжо фантастычнымі, бо, зразумела, каб адваяваць Літву ці частку яе, трэба было ваяваць з Новагародкам, які належаў некаму з «дзяцей Уладзіміравых». Крыніцы не паведамляюць пра вынікі гэтага паходу. Аднак трэба думаць, што ён быў паспяховы, бо інакш Глеб не змог бы пайсці на Смаленскую вобласць, куды адышлі захопленыя ў Глеба Орша і Копысь. Хутчэй за ўсё што гэты паход Глеба прывёў Уладзіміра Манамаха да дзеянняў у адказ. Ва ўсіх летапісах гаворыцца, што супроць Глеба выступіў сам кіеўскі князь, у В. Тацішчава — што ён паслаў для гэтага сына Мсціслава, а паводле Т. Нарбута — Яраполка. Але гэта апошняе — яўнае блытанне з падзеямі 1116 г., калі Яраполк сапраўды «ўзяў на шчыт» Друцк, што Т. Нарбут адносіць да 1119 г. Зазначым яшчэ пра беспадстаўнасць сцверджання Нарбута аб тым, што Яраполк перасяліў палонных дручанаў на месца Навaградка і гэтым паклаў пачатак заснаванню горада. Дакумент 1589 г., на які спасылаўся Т. Нарбут і ў якім нібыта значыўся Жэлненскі падзамак, не захаваўся[454]. Калі б такі падзамак меўся ў сапраўднасці, то ён, напэўна, быў бы зафіксаваны і ў іншых дакументах.

Нам здаецца, што ў пытанні, хто хадзіў на Глеба ў гэты час, большую перавагу трэба аддаць звесткам Тацішчава, што ў некаторай ступені пацвердзяць падзеі 1127—1129 гг. Мсціслаў, у хуткім часе прыйшоўшы да Менска, прыступам узяў яго і, не прыняўшы просьбы Глеба аб міры, паланіў князя і прывёз у Кіеў, дзе, як паведамляе Іпацьеўскі летапіс, менскі князь памёр 13 верасня 1119 г.[455]. Пахаваны ён быў

у Кіева-Пячэрскай лаўры ў галавах Фядосія. Праўда, дата смерці Глеба можа быць аспрэчана, паколькі ў Іпацьеўскім летапісе пасля паведамлення пра смерць жонкі Глеба ў 1158 г. зазначана, што яна сорак гадоў была ўдавой, з чаго можна меркаваць аб смерці Глеба ў 1118 г., гэтак жа як і аб яго паланенні ў гэтым годзе. Паўтараем, падзея гэтая ў храналагічных адносінах вельмі заблытаная.

Нельга не звярнуць увагі на невялікі час, які прайшоў між узяццем Глеба ў палон і яго смерцю, што не можа не навесці на думку аб яе гвалтоўным характары. Што ж, Глеб Менскі быў моцнай палітычнай постаццю, як і ў свой час яго бацька Усяслаў, прыносіў шмат клопатаў Кіеву, і таму хутчэйшае пазбаўленне ад яго для Манамаха было пажаданым. Кіеўскія князі на прыкладзе падзей 1068 г. добра ведалі, як небяспечна трымаць у Кіеве палоннага полацкага князя і да якіх непажаданых эксцэсаў гэта можа прывесці. Значна пазней, у 1147 г., з намовы групоўкі кіеўскіх баяраў, якія баяліся паўтарэння гісторыі з Усяславам, быў забіты князь Ігар, што знаходзіўся тады «ў порубе». Што казаць ужо тады пра 1119 г., калі яшчэ было ў памяці шырокае народнае паўстанне ў 1113 г., і хто ведае, ці не пасадзілі б у ходзе яго, як гэта было з Усяславам у 1068 г., на кіеўскі пасад зноў полацкага князя, скажам, Глеба, каб ён тады трапіў у палон? Беручы гэта пад увагу, нельга здзіўляцца, чаму так хутка памёр Глеб. Аднак усё гэта толькі меркаванні.

Захоплены войскамі Мсціслава, Менск быў далучаны да кіеўскіх уладанняў. Паводле меркаванняў некаторых даследчыкаў, ён не быў аддадзены непасрэдна каму-небудзь з сыноў Манамаха, а кіраваўся апошнім праз яго мужоў[456].

У Т. Нарбута Глеб Менскі выступае вельмі адыёзнай фігурай — жорсткі, хітры, здольны на пачварныя ўчынкі. Верагоднасць такога абвяргаць нельга, бо ўсё гэта было характэрна для ўсіх тагачасных уладароў, і Глеб не мог быць рэдкім выключэннем. Варта ўвагі паведамленне Т. Нарбута аб вялікіх памерах нявольніцкага гандлю ў Менскім княстве. І хоць не пацверджанае ніякімі крыніцамі, тым не менш яно небеспадстаўнае. У сучаснай гістарычнай навуцы ўсё больш мацнеюць галасы тых, хто сцвярджае аб панаванні ва Усходняй Еўропе ў той час не феадальнага, а рабаўладальніцкага ладу[457]. Менскае княства таксама не магло быць выключэннем з гэтага. Таму цалкам магчыма, што як сам Глеб, так і яго баяры вялі нявольніцкі гандаль. Магчыма, што сапраўды Друцк як горад, які блізка знаходзіўся ад Дняпра, і быў найбольш важным цэнтрам нявольніцкага гандлю. Набегі Глеба на суседнія землі маглі мець адной з мэтаў захоп людзей, якіх пасля пускалі на продаж.

Трагічны фінал дзейнасці ніколькі не змяншае значэння Глеба Менскага ў нашай гісторыі. Д. Леанардаў зусім слушна зазначыў, што сцяг барацьбы Рагвалодавічаў з цэнтралісцкімі памкненнямі Кіева пасля смерці Усяслава апынуўся ў руках Глеба[458]. Пад гэтым сцягам прайшла бурная шпаркацечная дзейнасць гэтага самага выдатнага нашчадка Усяслава. Поўнасцю аддаўшыся справе пашырэння і ўзбагачэння свайго княства, Глеб ніколі не траціў здольнасці бачыць агульныя інтарэсы ўсёй Полацкай зямлі. Больш за тое, кожны ўдзел фактычна браў на сябе паасобныя ўнутраныя і знешнепалітычныя задачы ўсёй Полацкай зямлі, якая к гэтаму часу значна пашырылася і не магла ўжо з аднаго цэнтра функцыяніраваць ва ўсёй складанасці свайго дзяржаўнага жыцця. Вось жа Менскае княства і ўзяло на сябе найперш такую важную задачу Полацка, як аднаўленне адзінства крывіцкай і дрыгавіцка-прыпяцкай земляў, парушанае яшчэ ў часы Аскольда і Дзіра, часова адноўленае Рагвалодам і страчанае зноў пры Уладзіміру Святаславічу. Гэта імкненне да адзінства выяўлялася не толькі з боку Полацка, але і з боку дрыгавічоў, што бачыў не толькі Глеб, але, як пакажуць далейшыя падзеі, і самі кіеўскія князі. А гэта значыць, што дзеянні Глеба Менскага ў адносінах дрыгавіцка-прыпяцкіх земляў не былі валюнтарысцкія. У грандыёзных планах Глеба Менскага па далучэнні да свайго княства нёманскіх, дняпроўскіх і прыпяцкіх земляў добра выяўляюцца контуры будучай Беларусі і цэнтральнае значэнне ў ёй Менска. Ажыццяўленне гэтай ідэі праз восем стагоддзяў выдатна пацвердзіла выключную палітычную праніклівасць Глеба Менскага.

Пасля Глеба засталося трое сыноў: Валадар, Расціслаў і Усевалад, з якіх першы, як убачым, быў найбольш паслядоўным прадаўжальнікам справы бацькі.

## З'ЕЗД У СМАЛЕНСКУ І ПАХОД НА ПОЛАЦК

Паражэнне Менска з'явілася пралогам да яшчэ большай трагедыі, якая напаткала Полаччыну праз некалькі гадоў. Праўда, гэты прамежак часу застаўся амаль неасветленым у крыніцах. І толькі ў матэрыялах В. Тацішчава пад 1121 г. знаходзім такі запіс: «Владимир, князь великий, был с детми своими в Смоленске для рассмотрения несогласей и усмирения полоцких князей и некоторых других разпорядков»[459]. У свой час В. Данілевіч усумніўся ў праўдзівасці гэтага паведамлення [460]. Аднак Л. Аляксееў, грунтуючыся на паасобных

фактах, слушна лічыць гэты запіс вартым веры[461]. У той самы час ён выказаў думку, што ўказанае паведамленне з'яўляецца паказчыкам таго, што Уладзімір Манамах умешваўся ў справы полацкіх князёў як у справы сваіх васалаў і імператыўна дыктаваў умовы. Аднак мы лічым, што гэта катэгарычнае сцверджанне з'яўляецца вынікам няўважлівага чытання тэксту. Найперш звяртае ўвагу на сябе тое, што ў Смаленску быў не адзін Манамах, а і яго сыны, г. зн. тут фактычна адбываўся княскі з'езд накшталт з'езда ў Любечы і інш. На гэта ўказвае і тое, што тут апроч полацкіх спраў разглядаўся і шэраг іншых «разпорядков». Але ў такім выпадку гэты з'езд быў унікальны, бо на ім прысутнічалі і полацкія князі, што не назіралася на папярэдніх з'ездах. Чаго ж былі пакліканы сюды Усяславічы? У тэксце сказана, што Уладзімір прыехаў у Смаленск для разгляду іх «несогласей». Тут з тэксту незразумела, пра якія нязгоды ідзе гаворка. Паміж самімі полацкімі князямі ці паміж імі з аднаго боку і Уладзімірам і яго сынамі з другога боку? Але навошта было Манамаху, вопытнаму палітыку, мірыць полацкіх князёў паміж сабою? Наадварот, для яго асабліва былі выгадныя нязгоды паміж імі, і таму з яго боку было б недарэчным мірыць сваіх даўніх ворагаў. Са сказанага становіцца зразумела, што тут маюцца на ўвазе нязгоды паміж полацкімі князямі і Манамахам. Можна думаць, што найважнейшай прычынай, якая жывіла гэтыя нязгоды, была кіеўская анексія Менска і яго зямлі, з чым не маглі прымірыцца полацкія князі і таму выказвалі свой пратэст, а то і пагрозу вярнуць назад захопленае. (Тут дарэчы будзе заўважыць, што, магчыма, гэты з'езд адбыўся ў Менску, які памылкова, як у «Аповесці мінулых гадоў» і іншых летапісах пад 1116 г., названы Смаленскам.) Вось, як сказана ў тацішчаўскім тэксце, для «усмирения» і былі выкліканы полацкія князі Манамахам. Напэўна ж, з боку Манамаха і яго сыноў была выказана пагроза, што калі Усяславічы не ўціхаміраюцца, то будуць мець справу са злучанымі сіламі ўсёй Русі. Вось для чаго разам з Манамахам прыехалі і яго «дзеці», каб полацкія князі наглядна ўбачылі, наколькі супроць іх салідарныя паміж сабою ўсе рускія князі. Як пакажуць далейшыя падзеі, полацкія князі не спалохаліся і не ўціхаміраліся, што і выклікала надзвычай дружны вайсковы наступ на Полацкую зямлю. Але гэта адбылося ўжо пасля смерці Манамаха, калі кіеўскі пасад заняў яго сын Мсціслаў.

Уладзімір Манамах, паводле думкі многіх гісторыкаў, з'яўляўся апошнім моцным кіеўскім князем, пасля смерці якога ў 1125 г. наступіў поўны развал Кіеўскай дзяржавы. Вядома, у палітычных, дзяржаўных і вайсковых талентах

Манамаху адмаўляць нельга, і ўсё гэта мела пэўнае значэнне для ўтрымання дзяржавы ад канчатковага распаду. Усю безнадзейнасць далейшага існавання «імперыі Рурыкавічаў» не маглі не бачыць і полацкія князі. І таму адразу пасля смерці Уладзіміра намерыліся пакарыстацца гэтым. Аднак Кіеў, хоць і знаходзіўся ў стане палітычнага заняпаду, мог сабраць апошнія сілы і нанесці Полацку жорсткі ўдар. Менавіта палачане сваімі дзеяннямі і выклікалі ў Кіева яго апошнюю магутную палітычную сутаргу, якая вельмі дорага каштавала Полацку.

На жаль, у крыніцах, у тым ліку такіх, як Лаўрэнцьеўскі і Іпацьеўскі летапісы, прычыны паходу рускіх войскаў на Полацк у 1127 г. не ўказаны, і гэта стала прычынай домыслаў шэрагу гісторыкаў аб тым, што выклікала гэту вайсковую акцыю Кіева. Тут меў значэнне і недавер да тацішчаўскіх звестак, якія лічыліся не вартымі ўвагі. Але цяпер, калі канчаткова даказана іх праўдзівасць[462], мы можам смела на іх абаперціся, бо менавіта ў іх і ўказана праўдзівая карціна гэтага паходу кіеўскіх князёў. Так, мы чытаем, што Мсціслаў паслаў войскі, бо бачыў «полоцких князей великое безпокойство, что области, данные братьям и сынам его, непрестанно нападая, разоряли...» [463]. Найперш мы звернем увагу на тое, што гэтае сведчанне яшчэ раз пацвердзіла адзінства ўсіх полацкіх князёў у змаганні за інтарэсы сваёй зямлі. Далей ясна вынікае, што палачане, не змірыўшыся са стратай Менска і іншых гарадоў і земляў, раздадзеных Манамахавічам, бесперастанку імкнуліся адваяваць іх. І таму з усіх меркаванняў наконт кіеўскага наступлення на Полаччыну было самым слушным меркаванне С. Салаўёва, які зазначыў, што, «быць можа, Усяславічы не маглі забыць страты Менска і гэта было галоўным повадам для вайны»[464]. Сапраўды, з анексіяй Менска Полацк, ужо нічым болей не заслонены, быў адкрыты для нанясення яму непасрэднага ўдару, і таму не мог не імкнуцца да адваявання свайго паўднёвага фарпоста. З другога боку, Кіеў таксама разумеў стратэгічнае значэнне Менска для Полацка і таму не жадаў выпускаць яго з сваіх рук, каб выкарыстаць гэты плацдарм для вырашальнага ўдару па Усяславічах.

Толькі ў Іпацьеўскім і Густынскім летапісах агульнарускі паход на Полацк значыцца пад 1128 г., ва ўсіх жа астатніх, у тым ліку і ў найбольш раннім Лаўрэнцьеўскім,— пад 1127 г. Улічваючы гэта, трэба прызнаць большую праўдзівасць датыроўкі ў астатніх крыніцах, хоць Л. Аляксееў палічыў патрэбным прытрымлівацца Іпацьеўскага летапісу[465], не ўлічваючы яго дэфектыўнасці ў шэрагу месцаў і вельмі лаканічнага выкладу гэтых падзей у Густынскім летапісе.

Яшчэ ў свой час М. Доўнар-Запольскі адзначыў выключнае адзінства рускіх князёў у барацьбе з Полацкам і што таму яны з большай ахвотай ішлі на яго, чым на полаўцаў[466]. Сапраўды, паход 1127 г. быў выключны па колькасці яго ўдзельнікаў і велічыні іх войска. Гэта, у сваю чаргу, выклікала неабходнасць каардынацыі дзеянняў удзельнікаў такой грандыёзнай вайсковай кампаніі. Летапісныя матэрыялы паказваюць, што план яе быў распрацаваны ў дэталях. Паводле яго, шматлікія войскі саюзнікаў павінны былі ўвайсці ў Полацкую зямлю адначасова і ісці «четырьмя путьми», накіраванымі супроць яе важнейшых абарончых пунктаў: Ізяслаўля, Лагожска, Барысава і Друцка. Найбольшыя сілы былі накіраваны на заходні фланг полацкай абарончай лініі, а менавіта на г. Ізяслаўль. Гэта вельмі важная акалічнасць, і мы на ёй павінны спыніцца больш падрабязна. Найперш мы бачым, што Ізяслаўль быў ужо цэнтрам асобнага ўдзелу і што, як пасведчаць далейшыя падзеі, меў свайго князя. У адрозненне ад суседняга Менска ён не быў далучаны да кіеўскіх уладанняў. Магчыма, што гэта было вынікам здзелкі Полацка з Кіевам. Успомнім, што, паводле В. Тацішчава, паход на Менск у 1119 г. рабіў па загаду Манамаха яго сын Мсціслаў. Не выключана, што ён хацеў адабраць ад Полацка і Ізяслаўль, але палачане адстаялі яго, згадзіўшыся на шлюб дачкі Мсціслава з ізяслаўскім князем Брачыславам, што як бы гарантавала лаяльнасць гэтага горада да Кіева. Але, як і ўсюды, так і тут, сваяцкі саюз лёгка ўступаў месца палітычным інтарэсам. Паколькі Ізяслаўль пасля страты Менска займаў крайняе паўднёвае становішча ў непасрэднай блізкасці да кіеўскіх уладанняў, то ён стаў як бы дублёрам Менска і быў ператвораны ў найбольш умацаваны бастыён, што і выявілася ў хуткім часе.

Як указвалася раней, паводле Лаўрэнцьеўскага летапісу, Ізяслаўль быў пабудаваны ў канцы X ст. кіеўскім князем Уладзімірам для Рагнеды і іх сына Ізяслава. Аднак гэта легенда. Звычайна князі будавалі гарады ў сваё імя, і таму больш верагодна, як заўважыў М. Доўнар-Запольскі, што Ізяслаўль быў пабудаваны самім Ізяславам як каланізацыйны пункт[467], з якога пачалося полацкае пранікненне ў Літву. Нездарма ж у Густынскім летапісе сказана, што Мсціслаў паслаў усіх князёў «в Литву ко Изяславлю»[468]. Відаць, і гэта пакажуць далейшыя падзеі, Мсціслаў добра ведаў прызначэнне Літвы для Полацка як аднаго з рэзерваў яго вайсковай магутнасці. Таму ўзяцце Ізяслаўля войскамі Мсціслава побач з іншым ставіла сваёй мэтай адрэзаць ад Полацка Літву.

Усе гэтыя абставіны і змусілі Мсціслава паслаць на Ізяслаўль найбольшыя сілы, якія складаліся з войскаў чатырох



*Князь Ізяслаў Мсціславіч бярэ Лагойск у 1127 годзе. Мініяцюра з Радзівілаўскага летапісу*

князёў: Андрэя з Уладзіміра Валынскага, Вячаслава з Турава (абодва браты Мсціслава), Усевалада з Гародна (сучасныя даследчыкі бяздоказна атаясамляюць яго з г. Гродна, некаторыя ж іншыя, як А. Няволін, П. Сямёнаў, М. Доўнар-Запольскі, бачылі ў ім м. Гародна Пінскага павета, што болей слушна) і Вячаслава Яраславіча з Клецка. На Лагожск, які займаў адно з цэнтральных месцаў у абароне Полаччыны, было паслана войска на чале з сынам Мсціслава, што княжыў у Курску. Вельмі важная задача стаяла і перад чарнігаўскім князем Давыдам Ольгавічам і яго братамі, якія ў саюзе з торкамі на чале з ваяводам Іванам Вайцішычам павінны былі ўзяць Барысаў, а адтуль ісці на Стрэжаў (Л.Аляксееў атаясамляе яго з в. Стрыжава ў сучасным Бешанковіцкім раёне[469], што верагодна, бо ў В. Тацішчава значыцца «Стрижев»[470]), а адтуль ужо адкрываўся шлях на Полацк. На смаленскага князя Расціслава, сына Мсціслава, было ўскладзена ўзяцце Друцка (як бачым, гэты горад адрадзіўся пасля яго разбурэння ў 1116 г.).

Каб не даць магчымасці Полацку сканцэнтраваць свае сілы на якім-небудзь адным участку, а таксама ўнесці ў асяроддзе яго насельніцтва страх і разгубленасць, было

дамоўлена паміж удзельнікамі кааліцыі «пуститься на вороп», г. зн. штурмаваць чатыры полацкія гарады адначасова, а менавіта 4 жніўня. Аднак гэты план быў парушаны Ізяславам, які на дзень раней пачаў ваенныя дзеянні. Праўда, летапіс не дае падставы сцвярджаць, што ён непасрэдна стаў браць «на вароп» Лагожск, бо там толькі і сказана, што ён «зая людей от города», г. зн. тых, што абаранялі Лагожск, і якія, «устрашившеся» вялікай сілы, здаліся. Мы не можам з упэўненасцю сказаць, ці ўзяў Ізяслаў Лагожск, бо ў летапісе сказана, што ён «перестрян два дни у Логожска» (значыць, не ў горадзе, каля яго), не пайшоў далей на Полацк, а накіраваўся да Ізяслаўля. Нельга ўпэўнена сказаць, чым гэта было выклікана: ці тым, што ў задачу Ізяслава не ўваходзіла ісці на Полацк, паколькі гэта, як думае Л. Аляксееў, ускладвалася выключна на чарнігаўцаў і торкаў, ці неабходнасцю аказаць сваім дзядзькам, якія штурмавалі Ізяслаўль, дапамогу, як сказана ў В. Тацішчава[471]. І вось, ідучы з Лагожска ў Ізяслаўль, Ізяслаў бярэ ў палон князя Брачыслава. Трэба зазначыць, што гэта не зусім яснае месца ў летапісе. Па-першае, хто такі Брачыслаў. Імя гэта — чыста полацкае. Праўда, у кіеўскага князя Святаполка малодшы сын насіў таксама гэта імя. Аднак што мы тут маем справу не з ім, не можа быць і гаворкі, бо за некалькі месяцаў да паходу на Полацк ён памёр[472]. У літаратуры наконт месца княжавання Брачыслава назіраецца блытаніна. Так, Л. Аляксееў на адной і той жа старонцы сцвярджае, што гэта быў лагожскі князь, а пасля, што гэта быў ізяслаўскі князь[473]. Выказвалася думка, што ён быў лагожска-ізяслаўскім князем[474]. Аднак з далейшага тэксту летапісу, як убачым, можна ўпэўнена меркаваць, што Брачыслаў быў ізяслаўскім князем, што і дае нам цвёрды грунт гаварыць аб наяўнасці побач з Менскім і Ізяслаўскага ўдзела Полацкай зямлі. Пры якіх жа абставінах Брачыслаў трапіў у палон да свайго швагра Ізяслава? У летапісе гаворыцца, што ён ішоў «к отцу своему» і аказаўся ў час паланення «посреде пути». Паколькі Ізяслаў ішоў з войскам ад Лагожска да Ізяслаўля і на паўдарозе сустрэў Брачыслава, то зразумела, што апошні ішоў у адваротным кірунку, г. зн. з Ізяслаўля ў Лагожск, дзе, па ўсім відаць, і быў яго бацька. І гэта закрэслівае сцверджанне, нібыта Брачыслаў быў ізяслаўска-лагожскім князем. А вось менавіта хто быў бацькам Брачыслава, і застаецца невядомым, бо летапіс не называе яго імя. Ва ўсякім выпадку, не мог быць яго бацькам Давыд[475], бо вядома, што ён у гэты час быў князем у Полацку, а не ў Лагожску.

З летапісу не відаць, чаго ішоў Брачыслаў да свайго бацькі. Магчыма, што і на дапамогу яму, як сказана ў В. Та-



*Гарадзішча старажытнага Лагойска*

цішчава[476], не ведаючы, што тое ж самае чакае і яго горад (напад на Лагожск пачаўся на дзень раней). Сапраўды, летапіс далей сведчыць, што ізяслаўцы абараняліся без свайго князя. Летапіс таксама паказвае, што Брачыслаў, відаць, убачыўшы войска Ізяслава, спалохаўся і «не мог поити ни семо, ни овамо» «и иде шюрину своему в руце». І вось Ізяслаў, ведучы зараз Брачыслава і палонных лагожцаў (паводле В. Тацішчава, «знатнейших»), рухаўся да Ізяслаўля.

Ізяслаўцы сустрэлі ворагаў мужна і стойка супраціўляліся, нягледзячы на шматлікасць непрыяцеля і адсутнасць свайго князя. Але калі, убачыўшы яго і лагожцаў, што ішлі да Ізяслаўля і якім нічога дрэннага не было зроблена варожым войскам, ізяслаўцы, акружаныя сіламі пяці князёў, вымушаны былі здацца, паверыўшы слову Вячаслава (князя тураўскага), што яны не будуць «узяты на шчыт». Гэта было ўвечары, а ноччу апантанае прагай рабаваць войска ўварвалася на чале з ваяводамі Вараціславам і Іванкам у Ізяслаўль і пачало свае бясчынствы. Нават з вялікімі цяжкасцямі і з «праліццём крыві» ўдалося выратаваць ад рабунку маёмасць дачкі Мсціслава, жонкі Брачыслава (апошняе з'яўляецца яшчэ адным доказам, што Брачыслаў быў ізяслаўскім князем, паколькі яго жонка жыла ў Ізяслаўлі).

Трэба зазначыць, што летапіснае паведамленне аб падзеях 1127 г. вельмі падрабязнае ў пачатку, у канцы зусім кароткае. Так, у ім нічога не паведамляецца, як разгортва-

ліся ваенныя дзеянні ў Барысаве і Друцку, і таму можна толькі здагадвацца, што вынікі іх былі не менш агідныя, чым у Ізяслаўлі, асабліва калі ўлічыць, што ў складзе тых войскаў былі торкі.

І ўсё ж, нягледзячы на такія жорсткія ўдары, Полацк яшчэ не траціў надзеі і мог весці барацьбу. Але калі з поўначы ў напрамку Неклача пачало рухацца наўгародскае войска на чале з Усеваладам Мсціславічам (сынам вялікага князя), у выніку чаго Полацкая зямля была сціснута з усіх бакоў, стала зразумелая бесперспектыўнасць выратаваць краіну ад заваявання вайсковымі сродкамі, і ўся надзея была ўскладзена на дыпламатычныя перагаворы. Асабліва паказальна тое, што ў гэты крытычны момант для Полаччыны на першы план выступае веча. Тацішчаўскія звесткі яскрава паказваюць гэта. Веча ў выпадку крайняй неабходнасці лёгка маніпулявала сваімі князямі. Менавіта цяпер палачане (вядома ж, не ўсе, а іх веча, якое складалася з «лепшых людзей») усю віну за «няпраўду» ўсклалі на Давыда і іншых князёў, выдалілі Давыда з сынамі з Полацка і ўзялі на месца яго Рагвалода-Барыса. Дарэчы будзе прыгадаць, што І. Бяляеў нават лічыў прычынай паходу 1127 г. тое, што Мсціслаў хацеў выкарыстаць барацьбу князёў Барыса з Давыдам за полацкі пасад, каб падначаліць сабе Полацк[477]. Аднак гэта не пацвярджаецца крыніцамі. У прыватнасці, нельга катэгарычна сцвярджаць, што ізяслаўскі князь Брачыслаў, што прыходзіўся зяцем Мсціславу, быў сынам Барыса, якога таму і падтрымліваў вялікі князь. З разгледжанага мы бачылі, што і Брачыслаў і яго ўдзел пацярпелі не менш, а можа, яшчэ больш ад паходаў кіеўскіх князёў.

Паводле летапісу, Мсціслаў згадзіўся з прапановаю палачанаў, ухваліў Барыса-Рагвалода на полацкім пасадзе, і на гэтым яго вайсковая кампанія на Полацкую зямлю як быццам закончылася.

Аднак тут паўстае пытанне: «Няўжо дастаткова было для Полацка толькі замены аднаго князя другім, каб спыніць такі грандыёзны паход?» Яно заўсёды хвалявала даследчыкаў. Перш за ўсё слушна ўказвалася, што падобная сітуацыя складвалася не ўпершыню, што яна мела месца ў 1021, 1067 гадах, калі кіеўскія войскі, маючы магчымасць узяць Полацк, адмаўляліся ад гэтага намеру[478]. Нельга адмаўляць наяўнасці супярэчнасцяў паміж Манамахавічамі і Ольгавічамі, што магло перашкодзіць ажыццяўленню канчатковай мэты паходу — узяццю Полацка[479]. Але наўрад ці гэта прычына была галоўная. Апроч таго, летапіс не дае падставы гаварыць, што Барыс быў кампраміснай асобай паміж Манамахавічамі і Ольгавічамі[480]. У крыніцы ясна сказана, што

менавіта Мсціслаў адобрыў кандыдатуру Рагвалода[481]. Таксама нельга катэгарычна сцвярджаць, што Барыс у гэты час быў друцкім князем[482].

Перш за ўсё прычыну спынення паходу трэба бачыць у тым, што як і ў 1021, 1067, 1116 гадах, так і цяпер перад кіеўскімі князямі паўставала перспектыва зацяжной вайны з няпэўнымі вынікамі. Трэба ўлічваць, што кіеўскія войскі, маючы ў асноўным справу з паўднёвымі вандроўнымі плямёнамі, вялі вайсковыя дзеянні ва ўмовах стэпу, у адкрытай мясцовасці. І таму прыродныя ўмовы Полаччыны з яе пушчамі, балотамі, мноствам рэк і азёраў былі непрывычныя для паўднёварусаў. У закрытай мясцовасці для іх усюды таілася пагроза (як убачым далей, у гэтым яны асабліва добра пераканаліся ў 1132 г.). Вось чаму Мсціслаў і ўсе ўдзельнікі кааліцыі, задаволіўшыся прызнаннем палачанамі сваёй пакоры, рашылі спыніць далейшае прасоўванне. Да таго ж вярталіся яны не з пустымі рукамі. Калі пра войскі, якія бралі Ізяслаўль, сказана, што яны «возвратишася с многым палоном», то трэба думаць, што і іншыя ўдзельнікі паходу мелі не менш здабычы. Хоць кіеўскія войскі адышлі з Ізяслаўля, Барысава, Друцка, аднак Менск не быў вернуты Полаччыне, што ў вялікай меры і прывяло да ўзнаўлення яго барацьбы з Кіевам.

## ВЫСЫЛКА ПОЛАЦКІХ КНЯЗЁЎ, ПАХОДЫ НА ЛІТВУ І ІНШЫЯ ПАДЗЕІ

Барыс-Рагвалод на гэты раз нядоўга княжыў у Полацку. У наступным, 1128 годзе (паводле Іпацьеўскага і Густынскага летапісаў у 1129 г.) ён памёр. Не выключана, што гэтая смерць была паскорана самімі палачанамі, каб тым самым вызваліць сябе ад абавязацельстваў перад Кіевам. Невядома, хто пасля смерці Барыса-Рагвалода заняў полацкі пасад. Паколькі ў ліку высланых пазней полацкіх князёў першы названы Давыд, можна меркаваць, што ён зноў вярнуўся ў Полацк пасля смерці Барыса. Але справа тут не ў паасобным якім-небудзь полацкім князю, бо наступныя падзеі пакажуць, што ўсе яны былі адзіныя ў адстойванні інтарэсаў сваёй зямлі.

Зусім невыпадкова, што менавіта ў гэты час, калі барацьба паміж Кіевам і Полацкам дасягае найвышэйшага напалу, у Лаўрэнцьеўскім летапісе пад 1128 г. заносіцца ўжо вядомае нам паданне аб помсце Рагнеды Уладзіміру за нанесеныя ёй і яе зямлі крыўды. Яно растлумачвала, чаму «меч взи-



*Полацк. Верхні замак,*
*дзе мясціўся дзядзінец. XI—XIII стст.*

маюць Рогволожи внуци противо Ярославлих внуков» ці, як яшчэ больш выразна сказана ў тацішчаўскай крыніцы, чаму «непрерывно междо внучаты Изяславли и Ярославли происходит вражда, и меч содержат голый, к войне приготовленный»[483].

Відаць, адной з умоў міру 1127 г. было патрабаванне ад палачанаў абавязкова ўдзельнічаць у вайсковых мерапрыемствах Кіева. І вось, як сведчаць тацішчаўскія крыніцы, Мсціслаў, збіраючыся ў 1128 г. у паход на полаўцаў, паслаў да ўсіх князёў, у тым ліку і да полацкіх (у тэксце сказана «к полоцким и кривицким»[484]) загад прыходзіць з войскам да Кіева, каб пасля супольнымі сіламі лягчэй перамагчы ворага. І ў той час, калі ўсе князі адгукнуліся на заклік Мсціслава, полацкія не толькі не паслухаліся, але і сваю адмову яшчэ падмацавалі здзеклівымі словамі: «Ты з Боняком Шелудяком здравствуйте оба и управляйтесь сами, а мы имеем дома что делать»[485]. У гэтым адказе асабліва яскрава выявілася разуменне палачанамі сваіх інтарэсаў. Зусім зразумела, што дзёрзкімі словамі палачанаў Мсціслаў «вельми оскорбяся»[486]. І таму адразу пасля свайго пераможнага паходу на полаўцаў ён прыступіў да расправы з Полацкам. Найперш мы даведваемся, што Полацк, як толькі Мсціслаў пайшоў на полаўцаў, адразу напаў на кіеўскія ўладанні, ці, як казаў Мсціслаў, «на пределы братеи» яго[487]. І гэта зразумела: Полацк заўсёды выкарыстоўваў барацьбу Кіева



*Якаў Палачанін (з узнятым мячом), удзельнік Неўскай бітвы 1240 г. (мініяцюра XVI ст.)*

на паўднёвых рубяжах для нападу на яго ўладанні. Трэба думаць, што палачане зрабілі спробу адваяваць Менск як найбольш важны для іх стратэгічны і эканамічны вузел, а таксама прыдняпроўскія землі з Оршай і Копысем. І гэта ў дадатак да ранейшага не магло яшчэ больш не ўгнявіць Мсціслава. З летапісных і тацішчаўскіх звестак нельга зрабіць высновы аб новым паходзе рускіх князёў на Полаччыну. У В. Тацішчава толькі сказана, што Мсціслаў, вярнуўшыся з паходу на полаўцаў, «послал в Полоцк воевод своих»[488]. Вядома ж, гэтыя словы нельга разумець літаральна. Наіўна было б думаць, што ваяводы рызыкнулі б паказацца ў Полацку без войска. Ды ўжо тое, што былі пасланы менавіта ваяводы, гаворыць, што без вайсковай сілы тут не абышлося. Застаецца невядомым, ці аказалі палачане супраціўленне кіеўскім ваяводам. Вядома толькі, што яны, апынуўшыся ў Полаччыне, з мэтай атрымання больш лёгкай перамогі, узялі стаўку на раскол полацкага грамадства. Тактыка гэта была выпрацавана яшчэ ў Кіеве. Паводле В. Тацішчава, Мсціслаў загадаў сваім ваяводам абʼяўляць усім гарадам і землям Полаччыны, што не яны вінаватыя ў злачынствах перад ім і таму ім не будзе прычынена ніякага разбурэння і праліцця крыві, калі яны не заступяцца за сваіх князёў, адзіных віноўнікаў зла, прычыненага Мсціславу[489]. Вядома, ручацца за праўдзівасць гэтага, як і далейшага, мы не можам, тым болей што тыя адсутнічаюць у іншых крыніцах. Аднак

усё гэта ў духу сталай кіеўскай палітыкі ў адносінах да полацкіх князёў. Забойства Уладзімірам Рагвалода і яго сыноў каля 980 г., захоп у палон кіеўскім трыумвіратам у 1067 г. Усяслава Чарадзея і яго сыноў — усё гэта не што іншае, як імкненне знішчыць полацкую княскую дынастыю, якая, што мы ўжо адзначалі вышэй, была ўвасабленнем палітычнай аўтаноміі Полацкай дзяржавы. Мсціслаў, на вопыце папярэдніх двух гадоў упэўніўшыся, што замена аднаго полацкага князя другім ніякага істотнага выйгрышу не дае, асабліва добра ўбачыў, чым былі для Полаччыны яе князі, і таму галоўны ўдар накіраваў супроць іх. І, як сказана ў В. Тацішчава, палачане вырашылі ахвяраваць сваімі князямі, адмовіўшыся ваяваць за іх з Мсціславам, прымусілі іх ехаць на суд у Кіеў. Зноў-такі мы павінны сказаць, што ў гэтым нічога дзіўнага няма. Полацкае веча (а гэта менавіта яно і фігуруе пад імем палачанаў) мела вялікую сілу ў сваёй зямлі і трымала сваіх князёў у моцнай залежнасці ад сябе. Апошнія да таго ж не прымаліся на княжанне ў іншыя рускія землі і таму вымушаны былі пакорліва зносіць сваю залежнасць ад веча. Гэта стала выразна выяўляцца ў XII ст., калі род Усяслава асабліва разросся. Вось чаму полацкае веча не цырымонілася са сваімі князямі, лёгка замяняючы іх аднаго другім, чаму нямала прыкладаў мы ўбачым далей. Таму і цяпер, у момант найвялікшай небяспекі з прычыны пагрозы спусташэння і абяскроўлівання ўсёй зямлі і немагчымасці бараніць яе перад непамернымі сіламі, яно прымусіла палачанаў ахвяраваць сваімі князямі. Аднак сказанае не дае падставы думаць, што полацкае веча не даражыла сваёй княскай дынастыяй. Як рускія землі не бралі да сябе Ізяславічаў, так і полацкае веча не брала да сябе нікога, апроч Ізяславічаў, чым таксама падкрэслівала адданасць свайму княскаму роду. Як пакажуць далейшыя падзеі, і на гэты раз, як і ў 1127 г., знешне дэманструючы сваю пакорлівасць, палачане аддалі не ўсіх сваіх князёў. Некаторых з іх, відаць, маладзейшых, яны прыхавалі ў надзейным месцы, спадзеючыся на скоры прыход лепшых часоў.

Полацкія князі, схопленыя кіеўскімі ваяводамі, былі адвезены ў Кіеў. Там, відаць, над імі было наладжана нешта накшталт паказальнага суда, бо ў В. Тацішчава сказана: «Мстислав облича их перед князи»[490]. Намер Кіева канчаткова адарваць полацкую дынастыю Ізяславічаў ад іх зямлі пацвярджае і прысуд, паводле якога яны высылаліся ў Візантыю, куды на трох лодках і былі адпраўлены разам з жонкамі і дзецьмі, г. зн. з усім родам. Чамусьці Л. Аляксееў лічыць незразумелым, якія князі былі высланы за непадначаленне Кіеву, і толькі на падставе позняй «Степенной кни-



*Арнамент на адкосе акна ў Барысаглебскай царкве Бельчыцкага манастыра ў Полацку. XII ст.*

гі» называе князёў Расціслава, Святаслава, Васіля і Івана. Аднак ранейшыя крыніцы, як, напрыклад, Іпацьеўскі летапіс, які аб высылцы полацкіх князёў расказваў пад 1140 г., апроч указаных называе першым Давыда, а Васіля і Івана ўказвае як Рагвалодавічаў, якія, відавочна, былі сынамі памёрлага ў 1128 г. Рагвалода-Барыса. Трэба думаць, што гэтая інфармацыя заслугоўвае большага даверу. Наяўнасць пяці высланых полацкіх князёў вельмі добра характарызуе іх адзінства і адкідае ўкаранелае ў гістарычнай навуцы сцвярджэнне аб занепадзе Полацкай зямлі пасля смерці Усяслава ў выніку ўдзельнай варожасці яе князёў.

Як сведчаць усё тыя ж звесткі В. Тацішчава, выгнаныя ў Царград полацкія князі былі пасланы імператарам Іаанам, шваграм Мсціслава, у войска, якое змагалася супроць сарацынаў (арабаў), і што яны служылі з пахвалой[491]. Толькі двое з іх, браты Рагвалодавічы, каля 1140 г. вярнуліся на радзіму. Пра далейшы лёс астатніх ніякіх звестак у крыніцах мы не маем. Магчыма, што яны і закончылі сваё жыццё ў Візантыі, як гэта было з княгіняй Ксеніяй, жонкай Брачыслава (магчыма, ізяслаўскага князя), памершай у Царградзе і пахаванай у манастыры св. Данііла[492]. Праўда, у пазнейшым Васкрасенскім летапісе ёсць паведамленне аб лёсе яшчэ двух полацкіх князёў. Тут гаворыцца, што «вильняне взяше ис Царяграда князя Полотского Ростислава Рогволодо́вича детей Давила князя да брата его Мовколда князя, и тот на Вилне

першы князь Давил, брат Мовколда большой»[493]. Далей у летапісе сцвярджаецца, што гэтыя два браты Расціславічы — Давіл і Маўколд — з'явіліся роданачальнікамі вялікіх літоўскіх князёў.

Бясспрэчна, што расправа з Полаччынай у 1129 г. з'яўляецца адной з самых сумных падзей у нашай гісторыі. Выгнанне полацкіх князёў не магло не ўразіць наш народ, і гэтая падзея навечна адбілася ў яго памяці. Магчыма, што з гэтага часу і пайшла вядомая беларуская прыказка: «Мсціслаў не аднаго сціснуў».

У літаратуры пашырана думка, што пасля высылкі полацкіх князёў Мсціславам быў пасланы ў Полацк яго сын Ізяслаў, які княжыў раней у Курску. Непасрэднае сведчанне гэтага факта мы знаходзім толькі ў Тацішчава[494], іншымі крыніцамі ён пацвярджаецца толькі ўскосна. Больш за тое, у Іпацьеўскім[495] і Васкрасенскім[496] летапісах сказана, што Мсціслаў «мужи свои посажа по городом их», г. зн. палачанаў. Але адно другому можа не супярэчыць. Ізяслаў мог сядзець у сталіцы зямлі, а па яе ўдзелах — кіеўскія ваяводы. Маюць рацыю даследчыкі, калі мяркуюць, што стаўленікі Кіева рабавалі краіну, душылі насельніцтва паборамі[497].

Вядома, што палачане не маглі з гэтым зміры́цца. Пазбаўленыя магчымасці весці адкрытую барацьбу на сваёй зямлі, што магло прывесці да непамерна вялікіх ахвяр, многія палачане беглі ў суседнюю Літву, адгароджаную пушчамі і балотамі, і адтуль рабілі набегі на непрыяцеляў. Трэба яшчэ ўлічваць, што Літва і да гэтага была ў немалой ступені скаланізавана крывіцкім і дрыгавіцкім насельніцтвам, якое лічыла Полацк сваёй метраполіяй і таму не магло не прымаць новых пасяленцаў і не дапамагаць ім у змаганні з кіеўскімі ўладарамі. Менавіта тут, у Літве, хутчэй за ўсё былі прыхаваны тыя полацкія князі, якія не трапілі ў рукі кіеўскіх ваяводаў. Можна меркаваць, што гэта яны і стаялі на чале арганізаванага імі адпору кіеўскай уладзе. Вось чаму, як зусім слушна заўважыў у свой час І. Бяляеў, Мсціслаў атрымаў звесткі ад сына (Ізяслава), што сіла палачанаў хаваецца ў літвянскай зямлі і што, не пакарыўшы яе, нельга спакойна валодаць Полацкам[498]. На сувязь паходу Мсціслава на Літву з папярэднімі полацкімі падзеямі ўказваў М. Доўнар-Запольскі[499], гэту ж думку абгрунтоўвае і Л. Аляксееў[500]. Аднак у крыніцах мы маем разыходжанне як у датах паходу Мсціслава на Літву, так і ў выніках яго. У Лаўрэнцьеўскім летапісе ён значыцца пад 1131 г., у Іпацьеўскім — пад 1132 г., у першым паход паказаны пераможным, у другім — няўдалым. Выхад з гэтых супярэчнасцяў могуць даць тацішчаўскія матэрыялы, якія паказваюць два паходы: першы —

у 1130 г. (і запіс гэты адпавядае запісу Лаўрэнцьеўскага летапісу пад 1131 г.) і другі — у 1131 г. (а гэты запіс адпавядае запісу Іпацьеўскага летапісу пад 1132 г.). З гэтага можна зрабіць вывад, што мы маем справу не з адным, а з двума паходамі Мсціслава на Літву. Толькі кожны з іх паасобку трапіў ці ў Лаўрэнцьеўскі, ці ў Іпацьеўскі летапісы, а абодва знайшлі сваё адбіццё ў адной з крыніц, якую чытаў В. Тацішчаў і якая не дайшла да нас (магчыма, у Полацкім летапісе). Таму мы лічым тую крыніцу больш праўдзівай, да таго ж яна і больш дэталёвая. Мы таксама бяром за аснову і яе храналогію. Асабліва для нас пераканаўчай з'яўляецца тут дата першага паходу — 1130 г. Яна паказвае, што барацьба Полацка з Кіевам амаль не перапынялася пасля расправы з полацкімі князямі. У выніку гэтага паходу, як сведчаць і Лаўрэнцьеўскі летапіс, і матэрыялы В. Тацішчава, былі разбураны многія пасяленні і ўзяты вялікі палон. З гэтага можна зрабіць вывад, што галоўнай задачай Мсціслава было нанесці шкоду эканоміцы і насельніцтву Літвы і тым самым пазбавіць Полацк важнага рэзерву ў барацьбе. Выключна важнае для нас паведамленне пра тое, што Мсціслаў пасля паходу «возвратился в Новград»[501], г. зн. у сучасны Навагрудак, адкуль ён пайшоў у Кіеў. Слова «возвратился» дае падставу думаць, што з Навагрудка Мсціслаў і пачаў непасрэдна захоп Літвы. Гэта яшчэ раз пацвярджае, што Навагрудак для Кіева паранейшаму быў умацаваным пунктам для ажыццяўлення свайго ўладарання над Літвой, адкуль адкрываўся шлях на Полаччыну.

Але, відаць, гэты паход, хоць і прынёс нямала бед палачанам і Літве, не спыніў іх дзеянняў супроць Кіева, і таму праз год спатрэбіўся другі. Звяртае на сябе ўвагу тое, што ў адрозненне ад першага, які быў зроблены сіламі толькі аднаго Мсціслава, гэты паход быў кааліцыйны, бо ў ім апроч войска самога кіеўскага князя ўдзельнічалі яго сыны, чарнігаўскія князі і Усевалад Гарадзенскі (ён лічыцца гродзенскім князем)[502]. Такая вялікая канцэнтрацыя сіл, відаць, патрэбна была для нанясення выключна моцнага, сакрушальнага і спусташальнага ўдару па Літве. Аднак на гэты раз літва і палачане, навучаныя папярэднім вопытам, прынялі іншую тактыку. Яны, вырашыўшы не ўступаць у непасрэдную сутычку з ворагам, самі папалілі сваё жытло і пайшлі ў лясы, узяўшы з сабой скаціну. Мсціслаў жа спустошыў палі. Як бачым, почырк гэтага паходу той жа самы, што і папярэдняга. Мсціслаў пасля гэтага распусціў сваё войска. Ваяводы, не чакаючы якой-небудзь небяспекі ад літвы, ішлі неасцярожна. Аднак літва, убачыўшы разрозненыя войскі, напала на іх, многіх пабіла і некалькі абозаў з нарабаваным забрала[503].



*Брама дзядзінца старажытнага Менска.
XII ст. (макет М. Кабякова)*

Як бачым, тактыка літвы ў гэтым выпадку нагадала тактыку земгалаў у вайне з палачанамі ў 1106 г., якія таксама, відаць, ішлі разрознена. Такім чынам, гэты паход Мсціслава меў няўдалы фінал і, нягледзячы на шматлікасць яго ўдзельнікаў, не дасягнуў сваёй мэты. Паходы Мсціслава на Літву ў 1130 і 1131 гг. яшчэ раз высветлілі шчыльную сувязь гэтай зямлі з Полаччынай, што, як убачым, яшчэ ў большай ступені выявіцца ў далейшым.

З-за беднасці звестак коратка спынімся на гісторыі Тураўскага княства ў першай трэці XII ст. У знешнім выяўленні яна ў цэлым вызначалася, як і раней, прывязанасцю Турава да Кіева. Аднак з гэтага не вынікае, што інтарэсы Турава заўсёды былі ў забыцці і падначальваліся толькі вялікакняскім інтарэсам. Нездарма ж некаторыя даследчыкі лічылі, што ўдзел кіеўскага войска ў паходзе 1104 г. на Менск быў прадыктаваны інтарэсамі Тураўскага княства, якое падпадала нападам Глеба Менскага[504]. Разгледжаны вышэй паход Уладзіміра Манамаха на Менск у 1116 г. быў таксама непасрэдна выкліканы нападам Глеба на Дрыгавіцкую зямлю.

Летапісныя звесткі даюць падставу лічыць, што пры жыцці Святаполка і асабліва яго княжанні ў Кіеве тураўскім князем быў яго сын Яраслаў і што гэтым тлумачыцца наяўнасць у яго войску пінянаў. Аднак становішча змянілася пасля ўступлення Уладзіміра Манамаха на вялікакняскі пасад. У Яраслава была адабрана яго вотчына — Тураў, што гаворыць аб намеры Манамаха падначаліць апошні непасрэдна сабе. І хоць Яраславу была пакінута Валынь, ён застаўся незадаволены, але не выказаў гэтага адкрыта, бо спадзяваўся пасля смерці Уладзіміра Манамаха сесці ў Кіеве, адначасова маючы і Тураў. Аднак убачыўшы, што Уладзімір Манамах меў намер аддаць Кіеў свайму сыну Мсціславу, Яраслаў пачаў узброеную барацьбу супроць вялікага князя, за што быў пазбаўлены Валынскага княства. Не дапамагла яму і падтрымка венграў у 1123 г., ён быў пазбаўлены жыцця падасланым забойцам, і, відаць, да 1125 г. Тураўскае княства знаходзілася ў непасрэдным уладанні Манамаха, а пасля яго смерці дасталося яго малодшаму сыну Вячаславу, які да гэтага княжыў у Смаленску. Мы ўжо з разгледжанага вышэй ведаем, што Тураўшчына была цалкам уцягнута Кіевам у барацьбу з Полаччынай. Аднак гэтыя падзеі для нас цікавыя і тым, што яны выявілі далейшы працэс феадальнага драблення Тураўскай зямлі. Сапраўды, у войску Мсціслава, якое ў 1127 г. ішло на Ізяслаўль, побач з Вячаславам былі і Усеваладак з Гародна (зяць Уладзіміра Манамаха) і Вячаслаў з Клецка (сын Яраслава Святапол-

кавіча). Гэта доказ таго, што ў Тураўскім княстве з'явіліся ўдзелы Гарадзенскі (яго нельга блытаць з Гродзенскім княствам) і Клецкі. Вышэй мы ўжо ўказвалі і на значэнне Берасця як удзельнага горада, што выявілася ў 1101 г. Няма сумнення, што і Пінск ужо набыў такую ролю. Як бачым, палітычная залежнасць Тураўскага княства не магла стрымаць яго сацыяльна-эканамічнага развіцця, і яно ў гэтых адносінах было амаль упоравень з Полацкім княствам.

Як мы маглі ўжо ўпэўніцца, гісторыя Смаленскага княства ў першай трэці XII ст., як і раней, шчыльна пераплятаецца з гісторыяй Полацка, найперш у барацьбе з ім. Смаленцы былі ў складзе войска, пасланага супроць Глеба Менскага ў 1104 г. Асабліва важным для Смаленска быў удзел яго ў паходзе супроць таго ж князя ў 1116 г., у выніку чаго ённазаўсёды завалодаў Оршай і Копысем. У 1121 г. Смаленск стаў месцам уціхамірвання полацкіх князёў. У паходзе на Полаччыну ў 1127 г. і на Літву ў 1131 г. таксама было смаленскае войска. Усе гэтыя факты, у выніку якіх Полацк часова слабеў, а Смаленск мацнеў, і далі магчымасць апошняму прэтэндаваць на дамінуючае месца сярод крывіцкіх земляў.

## НОВЫЯ ЎСКЛАДНЕННІ І ЦЯЖКАСЦІ

Паходы Мсціслава на Полацк і Літву былі фактычна апошнія для Кіева, перад якімі ставілася мэта падначалення яму іншых земляў. 14 красавіка 1132 года Мсціслаў памёр. І гэтая падзея чыста суб'ектыўнага характару адразу выявіла ўсю далейшую нежыццяздольнасць «шматковай імперыі Рурыкавічаў», што распалася на шматлікія ўдзелы, паміж якімі разгарэлася яшчэ з большай сілай міжусобная барацьба.

Перамены, якія пачаў Яраполк, што заняў месца свайго брата на кіеўскім пасадзе, закранулі і Полацк. Менавіта Ізяслаў, які сядзеў тут, быў пераведзены ў Пераяслаўль, пакінуўшы сваё ранейшае месца брату Святаполку. Але палачане, добра разумеючы, што кіеўскія князі, якія завязлі ў барацьбе паміж сабою за ўдзелы, не прыйдуць на дапамогу Святаполку, рашылі пазбавіцца ад яго. Яны выгналі Святаполка, сказаўшы: «Лішаецца нас»[504-а]. Гэта адбылося недзе ў жніўні — верасні 1132 г. Выгнанне Святаполка яшчэ раз пацвердзіла, што палачане не цярпелі ў сябе князёў іншых дынастый. Гэтым разам полацкім князем быў абраны Васілька, сын малодшага Усяславіча — Святаслава-Георгія, высланага разам з іншымі ў Візантыю. Вядома ж, Васілька не мог у такім хуткім часе вярнуцца з Візантыі. Ясна, што



*Каменны абразок Маці Божае з Менска. XII — пач. XIII стст.*

ён разам з сястрой Прадславай (Ефрасінняй Полацкай) унік высылкі і быў дзесьці блізка, верагодней за ўсё ў Літве. Маюць рацыю тыя даследчыкі, якія меркавалі, што Васілька і арганізаваў змову супроць Святаполка[505]. Адначасова, гаворачы аб асобе Васількі Святаславіча, нельга выпускаць з-пад увагі тое, што ён, паводле звестак В. Тацішчава, быў унукам Уладзіміра Манамаха[506]. З гэтага выцякае, што яго бацька Святаслаў Усяславіч быў жанаты з якойсьці дачкой Манамаха. Цяжка сказаць, калі гэта магло адбыцца: да ці пасля смерці Усяслава. Магчыма, што гэты факт з'яўляўся паказчыкам прымірэння паміж Усяславам і Манамахам дзесьці ў канцы 80-х гадоў XI ст., пацверджаннем чаго і быў гэты шлюб. Тое, што Васілька прыходзіўся ўнукам Манамаху, магло пэўным чынам абараніць яго ад высылкі з іншымі полацкімі князямі.

Але аднаўленне аўтаноміі не адразу пашырылася на ўсю Полаччыну. Факты паказваюць, што Менск з яго ўдзелам па-ранейшаму заставаўся пад уладай Кіева. Так, калі ў выніку суперніцтва паўднёварускіх князёў Ізяслаў Мсціславіч вымушаны быў пакінуць Пераяслаўль і кіеўскі князь Яраполк зімой 1132 г. аддае яму Менск, г. зн. тое, паводле летапісу, што засталося ад ранейшай воласці[507], г. зн. Полацка, дадаўшы яму яшчэ Тураў і Пінск. І на гэта апошняе мы звяртаем асаблівую ўвагу, бо яно было невыпадковым і з'яўлялася вельмі паказальным. Па-першае, гэта падкрэслівала ўзрослае становішча Менска, да якога (а не ён) дадаюц-



*Фрагмент драўлянай місы з надпісам. XII ст. Менск*

ца такія буйныя гарады, як Тураў і Пінск, цэнтры паасобных удзелаў. Па-другое, гэтыя гарады, якія знаходзіліся заўсёды ў сферы ўплыву Кіева, былі прыдадзены да Менска не толькі таму, што там сядзеў кіеўскі стаўленік. Галоўнае, відаць, было ў тым, што тады ўжо выразна вызначыліся эканамічныя сувязі Турава-Пінскай зямлі з Менскам. Нездарма ж Глеб Менскі імкнуўся заваяваць яе. Як паказала далейшая гісторыя, яны ўвесь час мацнелі, што і прывяло ў будучым да з'яднання Турава-Пінскай зямлі з усёй Беларуссю.

Але і Менск нядоўга заставаўся ў залежнасці ад Кіева. Праўда, аб яго вызваленні мы не маем непасрэдных сведчанняў, як у адносінах да Полацка. Аднак і ўскосныя паказанні гэта добра пацвярджаюць. Так, вядома, што ў 1135 г. Ізяслаў пайшоў з Турава (з чаго відаць, што тут была яго рэзідэнцыя) у Менск[508], а адтуль ён адразу з войскам выйшаў[509] і накіраваўся ў Ноўгарад да свайго брата Усевалада і ўжо больш не вяртаўся ў Менск, бо ў скорым часе заняў пасад ва Уладзіміры Валынскім[510]. Па ўсім відаць, што Ізяслаў адчуваў сябе няўтульна ў Менску, бачачы ўсеагульную варожасць да сябе, і таму без шкадавання пакінуў яго. Нам невядома, ці была спроба з боку Кіева зноў пасадзіць у Менску свайго князя. Калі і была, то мяняне да гэтага аднесліся непрыязна і, відаць, бесперашкодна абралі свайго князя, але каго, зноўтакі застаецца невядомым. Аднаўленне Полаччыны не было выпадковай гістарычнай з'явай. Гэта гістарычная заканамернасць, якая неаднойчы паўтаралася ў дзяржаўным жыцці Полаччыны. Не раз было, калі здавалася, што яна загінула і больш не ўваскрэсне, апынуўшыся перад палітычнай безданню. Аднак яна зноў паўставала, як з нябыту, кожны раз пацвярджаючы сваю незвычайную жыццяздольнасць. Вядома, такое не магло б адбыцца, калі б палачане не ўсвядомілі сваю этнічную і палітычную асобнасць і свае эканамічныя інтарэсы і ўсё гэта гераічна не адстойвалі. Але, добра

*Надпіс на сцяне Сафійскага сабора ў Кіеве. XII ст.*

ведаючы пра вайсковую перавагу Кіева і Ноўгарада і часта церпячы паражэнне ад іх, палачане павінны былі спадзявацца не толькі на збройную сілу, але і на празорлівую палітыку, на здольнасць бачыць, куды скіроўваецца плынь гісторыі, і ў згодзе з гэтым умець цярпліва перачакаць нягоды. Менавіта гэтыя апошнія фактары і абумовілі палітыку палачанаў у час 1127—1135 гг.

Далейшая гісторыя Полаччыны характарызуецца ўскладненнем як яе ўнутранага жыцця, так і яе вонкавых узаемаадносін. Прычына гэтага амаль адна. Калі ў аснове першага ляжыць далейшы рост удзельнай сістэмы ў самой зямлі, то ў аснове другога — той жа працэс, але ўжо ў маштабах усёй Русі.

Пісьмовыя звесткі па гісторыі Полацкай зямлі ў 30—40-я гады XII ст. вельмі скупыя. Яны амаль нічога не гавораць аб унутраным жыцці зямлі (гэта больш выразна высвятляюць запісы 50—60-х гадоў). Па гэтых урыўкавых сведчаннях мы можам скласці толькі самае агульнае ўяўленне пра вонкавую палітыку Полацка.

Шырокае наступленне войск Мсціслава і іх гаспадаранне, вядома, не маглі не падарваць эканоміку, зменшыць насельніцтва і тым самым аслабіць вайскова-палітычную магутнасць Полацкай зямлі. Водгаласак гэтага і знайшоў сваё адбіццё ў пскоўскіх летапісах (у Ціханаўскім спісе Пскоўскага I летапісу памылкова паказаны 1032 г.[511]). Тут фактычна захавалася адзінае больш-менш дэталёвае сведчанне пра Васільку Святаславіча, які сустракаў князя Усевалада Мсціславіча, што быў выгнаны раней з Ноўгарада, а цяпер з Вышгарада ехаў у Пскоў, куды яго запрасілі княжыць. Шлях яго ляжаў праз Полацкую зямлю, што і было выкарыстана Васількам, каб выказаць Усеваладу сваю пашану. У летапісе сказана, што Васілька выехаў яму насустрач «и проводи его с честию, забыв заповеди ради божия злобу отца его (Мсціслава), что бяшет сотворил всему роду его: вшедшю ему в руце его к нему, и ничто же о нём лукавно помысли, яко же подобаше по человечеству, но и крест межю собою целоваста, яко не поминати, что ся удеяно первое, и ни всеи правде»[512]. Наўрад ці можна зводзіць гэту сустрэчу наўгародскага ізгоя



*Нажная ступа. XIII ст.*

толькі да дэманстрацыі антынаўгародскай палітыкі з боку Васількі[513]. Нам здаецца, што для Васількі было больш важным падкрэсліць сваю павагу да Усевалада як князя Пскова — найбліжэйшага суседа Полацка — і заручыцца з ім мірнымі адносінамі. Васільку гэта нялёгка было зрабіць, маючы справу з сынам Мсціслава, які нанёс такую вялікую шкоду і Полацку і ўсяму роду яго князёў. Аднак усё гэта трэба было забыць на патрэбу моманту. Бо Пскоў, беручы сабе князем наўгародскага ізгоя і абапіраючыся ў гэтым на згоду кіеўскага князя, паказваў сваю незалежнасць ад Ноўгарада. Вядома, згода з ім была вельмі важная для аслаблення Полацка, асабліва ў выпадку варожасці да яго Ноўгарада. Таму сапраўды гэтая сустрэча магла мець значэнне дэманстрацыі антынаўгародскай палітыкі з боку Полацка. Не менш важна было гэта і для Пскова, які не мог забыцца пра тое, што ў мінулым ён быў аб'ектам вайсковых дзеянняў Полацка.

У святле сказанага зусім неперaканаўчым з'яўляецца вывад В. Данілевіча, што заключэннем саюзу паміж Васількам і Усеваладам «магчымасць паўтарэння ранейшых адносін да кіеўскіх князёў (?) у будучым была прыбрана цяпер фармальным чынам»[514]. Па-першае, аб кіеўскіх князях тут не можа быць і гаворкі, бо Усевалад выступае тут у якасці пскоўскага князя і ад імя Кіева выступаць не мог. Па-другое, не магло ісці гаворкі і аб паўтарэнні ранейшых адносін да кіеўскага князя (відаць, з боку полацкіх князёў), бо ў летапісным тэксце гаворыцца аб крыўдах Полацка, нанесеных яму Мсціславам. Менавіта Васілька, напамінаючы пра гэта сыну Мсціслава, і жадаў, каб такое больш не паўтарылася з боку Пскова як бліжэйшага суседа Полацка. Праўда, Усевалад нядоўга быў пскоўскім князем, ён памёр увосень таго ж года, і таму заключаны саюз з ім быў недаўгавечны.

Як ужо адзначалася, Русь пасля смерці Мсціслава была ахоплена бесперапыннай барацьбой паміж сабою розных княскіх ліній, якая з'яўлялася выяўленнем палітычнага выспявання паасобных земляў. Зразумела, што гэта не магло не ўплываць і на вонкавую палітыку Полацка. Ніводная дзяржава не можа быць свабоднай ад палітычных абставін вонкавага свету. Яна павінна пэўным чынам прыстасоўвацца да іх і выкарыстоўваць іх у сваіх палітычных мэтах, што і рабіў Полацк. Бачачы ва ўсобіцы Манамахавічаў і Мсціславічаў, з аднаго боку, і Ольгавічаў, з другога боку, перавагу першых, палачане становяцца на іх бок і ўдзельнічаюць у паходзе на Ноўгарад у 1138 г. і на Чарнігаў у 1139 г. Але наўрад ці правамерна будзе сцвярджаць, што дзякуючы гэтаму кіеўскі князь Яраполк дазволіў двум высланым у Візантыю полацкім князям — Васілю і Івану Рагвалодавічам — вярнуцца на радзіму[515]. Мы лічым, што гэта не было ва ўладзе кіеўскага князя, да таго ж такога слабога, як Яраполк. Апроч таго, трэба ўлічваць, што Яраполк памёр зімою 1138 г.[516], паводле Іпацьеўскага летапісу — у 1139 г.[517], а ўпомненыя князі вярнуліся ў 1140 г. І яшчэ варта паставіць пытанне: ці зацікаўлены быў Васілька ў вяртанні князёў з Візантыі, якія маглі быць яму канкурэнтамі ў барацьбе за полацкі пасад? Хутчэй за ўсё ініцыятыву за вяртанне выгнаннікаў магло праявіць полацкае веча, бо яму найперш было выгадна распальваць міжкняскую барацьбу за полацкі пасад і гэтым самым больш надзейна трымаць князёў у сваіх руках.

Вяртанне Васіля і Івана (далейшы лёс апошняга ў крыніцах не адбіўся) ускладніла не толькі ўнутранае жыццё, але і вонкавыя абставіны. Пасля смерці Яраполка на кіеўскім пасадзе апынуўся Усевалад Ольгавіч, прадстаўнік роду, варожага Манамахавічам і Мсціславічам. Вядома, што гэта магло выклікаць палітычную пераарыентацыю Полацка, пра што сведчыць факт уцёкаў выгнанага наўгародцамі Святаслава Ольгавіча (брата тагачаснага кіеўскага князя Усевалада) у Смаленск праз Полацк. Не выключана, што і прызначэнне ў 1140 г. Кузьмы полацкім епіскапам не абышлося без дапамогі Ольгавічаў[518]. У гэтым жа шэрагу стаіць і факт выдання дачкі полацкага князя Васількі Марыі зімою 1143 г. за сына кіеўскага князя Усевалада — Святаслава. Аднак другое вяселле паміж дачкой Ізяслава Мсціславіча і полацкім князем Рагвалодам Барысавічам, якое паводле Лаўрэнцьеўскага летапісу адбывалася ў 1144 г.[519], а паводле Іпацьеўскага — у 1143 г.[520], можа гаворыць і аб прыязных адносінах полацкіх князёў з Мсціславічамі. Дарэчы, на апошнім вяселлі прысутнічаў і кіеўскі князь Усевалад Ольгавіч з усёй сваёй сям'ёй і баярамі. Але, як ужо намі адзначалася,

сваяцкія адносіны, у прыватнасці шлюбныя, ніколі не мелі доўгатэрміновага дзеяння і не маглі аказваць істотнага ўплыву на складванне далейшых палітычных узаемаадносін. Трэба зазначыць, што ўказаныя ўрыўкавыя летапісныя звесткі пра полацкую гісторыю канца 30-х — пачатку 40-х гадоў даследчыкамі трактуюцца як сведчанні залежнасці Полацка ў гэты час ад розных паўднёварускіх палітычных партый[521] ці аб паступовым знікненні адчужэння Полацкай зямлі ад рускіх земляў[522] і г. д. Аднак правільней будзе ўсё гэта тлумачыць ускладненнем і ўзбагачэннем палітыкі Полацка, якому прыходзілася цяпер мець справу не з адным Кіевам, а з мноствам самастойных земляў. Ідучы скрозь гэты заблытаны палітычны лабірынт, полацкая дыпламатыя набывала большую гнуткасць і абачлівасць. Гэта і дало магчымасць Полацку, нягледзячы на часовыя крызісы і няўдачы, аднавіць тэрытарыяльную цэласнасць і набыць палітычную стабільнасць.

Даследчыкі ўжо ўказвалі на верагоднасць таго, што Васілька Святаславіч княжыў да 1143 г.[523] ці да 1144 г.[524], паколькі пад гэтымі гадамі полацкім князем ужо называецца Рагвалод Барысавіч[525]. Крыніцы не ўказваюць прычыны гэтай змены, і таму аб ёй мы можам толькі меркаваць. Не выключаючы магчымасці смерці Васількі, мы ўсё ж аддаём перавагу таму, што гэты князь быў заменены на Рагвалода вечам. Трэба памятаць, што ў асобе Рагвалода мы маем таго Васіля (гэта хрысціянскае імя Рагвалода), які вярнуўся ў 1140 г. з Візантыі. А гэта дае падставу думаць, што ўжо, магчыма, у тым годзе Васілька быў заменены вечам на Васіля-Рагвалода. Бо тое, што пад 1143 г. Марыя Васількаўна фігуруе як полацкая князёўна, не азначае яшчэ, што яе бацька быў абавязкова тады полацкім князем. Замена вечам Васілька Рагвалодам тым болей праўдападобна, бо такі ж лёс напаткаў у 1151 г. і самога Рагвалода. Але пра гэта будзеісці гаворка пасля, а зараз звернемся да тураўскіх і смаленскіх падзей.

## ТУРАЎ І СМАЛЕНСК ПАКАЗВАЮЦЬ СВАЮ МОЦ

Для Тураўскай зямлі гэты час, як і пазнейшы, да 1158 г., вызначаецца выключнай складанасцю і заблытанасцю[526]. Менавіта на лёсе Тураўскай зямлі, якую моцна трымаў Кіеў у сваіх руках, з асаблівым цяжарам адбілася міжусобная разаніна. Для Тураўшчыны наступіў трагічны час разрывання на кавалкі і ўкарачэння тэрыторыі. Аднак і ў гэту

пару нечуванага прыніжэння Тураўская зямля не загінула як палітычная і этнічная асобнасць. Больш за тое, менавіта цяпер яна, як і іншыя землі, найбольш яскрава выявіла сваё імкненне да аўтаноміі.

Хоць на тураўскім пасадзе нямала перабывала князёў, але найбольш выдатнай постаццю тураўскай гісторыі 30—40-х гадоў XII ст. з'яўляецца князь Вячаслаў Уладзіміравіч, сын Манамаха (1083—1155 гг.). Яшчэ з юначага ўзросту ён быў уцягнуты ў ваенна-палітычнае жыццё. Ён быў актыўным удзельнікам барацьбы Кіева з Полацкам. Гэта ён у 1116 г. як смаленскі князь адваяваў у Глеба Менскага Оршу і Копысь, а ў 1127 г. як тураўскі князь удзельнічаў ва ўзяцці Ізяслаўля. Пасля смерці Мсціслава ў 1132 г. Вячаслаў быў пасланы ў Пераяслаўль, адкуль быў выгнаны яго пляменнік Ізяслаў Мсціславіч, якому, як мы ведаем, у прыдачу да Менска былі дадзены Тураў і Пінск. Але, адчуваючы сябе тут няўтульна пад сталай пагрозай нападу палаўцаў і чарнігаўскіх Ольгавічаў, Вячаслаў праз год зноў вяртаецца ў Тураў, выгнаўшы адтуль Ізяслава Мсціславіча. У барацьбе, якая завязалася ўслед за гэтым паміж вялікім князем Яраполкам і Ольгавічамі, Вячаслаў бярэ бок першага і пасылае ў 1135 г. яму на дапамогу тураўскае войска. Пасля смерці Яраполка ў 1139 г. Вячаслаў зрабіў спробу захапіць кіеўскі пасад, але, не падтрыманы кіеўскім земствам, пацярпеў няўдачу ад Усевалада Ольгавіча, якому аказалі вырашальную падтрымку чарнігаўскія князі. Вячаслаў вымушаны быў зноў вярнуцца ў Тураў. У 1142 г. Усевалад зрабіў спробу захапіць Тураўскую зямлю, сказаўшы Вячаславу: «...седеши во Киевской волости, а мне достоить, и ты поиди в Переяславль отцыну свою»[527]. Як бачым, Усевалад атаясамліваў Тураў з Кіеўскай воласцю. Аднак валоданне кіеўскім пасадам не цягнула за сабою абавязковае валоданне Тураўскай зямлёй. Так, напрыклад, тры кіеўскія князі — Святаслаў Яраславіч, Мсціслаў і Яраполк Уладзіміравічы — непасрэдна не валодалі ёю. Тураўскае княства заўсёды захоўвала тэрытарыяльную цэласнасць. Адносіны Кіева і Турава не былі адносінамі непасрэднай залежнасці і падначаленасці, і таму з боку Усевалада Мсціславіча адносіць Тураў да Кіеўскай воласці было зусім беспадстаўным[528]. Аднак пад пагрозай узброенай сілы Вячаслаў быў змушаны пакінуць Тураў і перайсці ў Пераяслаўль. У Тураве Усевалад пасадзіў свайго сына Святаслава, што выклікала незадавальненне братоў і пляменнікаў Усевалада. Зноў завязалася барацьба, у ходзе якой Ольгавічы напалі на Пераяслаўль, што прымусіла Вячаслава пакінуць гэты горад і вярнуцца ў Тураў. Зазначым, што ў ходзе гэтых падзей значна пацярпела радзіміцкая зямля, якая належала чарнігаўскаму



*Абразкі-ўстаўкі з Турава. XIII ст. (волава)*

князю Ігару Ольгавічу, што ў саюзе з іншымі сваімі родзічамі напаў на Пераяслаўль. Смаленскі князь Расціслаў Мсціславіч, даведаўшыся аб нападзе на яго дзядзьку Вячаслава, напаў на радзіміцкую зямлю і папаліў яе разам з горадам Гоміем (гэта першае пісьмовае ўпамінанне Гомеля, якое адносіцца да 1142 г.). Справа кончылася тым, што Усевалад, не хочучы дзяліць Северскую зямлю, рашыў задаволіць прэтэнзіі сваіх родзічаў за кошт Тураўскай зямлі. Ім былі аддадзены Берасце, Дарагічын, Клечаск, Рагачоў і Чартарыйск[529]. Гэты падзел вельмі добра ўдакладняе тэрыторыю Тураўскай зямлі, пасля яго, напрыклад, ніхто не будзе пярэчыць, што Берасце не было ў складзе Тураўскага княства. Вядома, што 1142 г. быў сумнай вехай у гісторыі Турава, з якой пачынаецца раздача яго тэрыторыі і кароткія па часе ўладанні ёю князёў розных дынастычных ліній[530]. Аднак нельга пагадзіцца з тым, што з гэтага часу толькі і пачынаецца перыяд драбнення Тураўскай зямлі. Як мы бачылі, гэты працэс пачаўся значна раней. Каштоўнасць летапіснага паведамлення пад 1142 г. для нас і ў тым, што яно высветліла і тыя гарады, якія набылі ўдзельнае значэнне, а менавіта: Дарагічын, Рагачоў і Чартарыйск. Апроч таго, нельга ставіць на адну дошку такія розныя гістарычныя з'явы, як раздаванне частак Тураўскай зямлі розным князям і яе драбненне на ўдзелы. Калі першая сапраўды садзейнічала аслабленню княства, то другая гаварыла аб яго далейшым эканамічным развіцці, а значыць, і ўмацаванні яго эканамічнай і разам з тым палітычнай моцы. Як мы ўжо бачылі на прыкладзе Полацкай зямлі, драбненне на ўдзелы не абавязкова цяг-

не за сабой страту палітычнай еднасці. Тое ж мы ўбачым далей у адносінах Тураўскай зямлі.

Мірныя адносіны Турава з Кіевам прадаўжаліся да смерці Усевалада Ольгавіча ў 1146 г., калі кіеўскі пасад захапіў падтрыманы кіяўлянамі Ізяслаў Мсціславіч, пляменнік Вячаслава. Ёсць меркаванне, што паміж імі была раней зроблена ўмова, паводле якой Ізяслаў, стаўшы кіеўскім князем, возьме да сябе ў суправіцелі Вячаслава[531]. Магчымасць такога не выключана. Але справа тут не ў тым, што ён не дачакаўся ад Ізяслава запрашэння ў Кіеў. Прычыну далейшых дзеянняў Вячаслава трэба шукаць найперш не ў асабістых амбіцыях гэтага князя, а ў інтарэсах тураўскіх баяраў, якіх, паводле сведчання летапісу, ён паслухаў[532]. У гісторыі Тураўшчыны нарэшце выдаўся вельмі рэдкі момант, які адразу закрэсліў традыцыйнае ўяўленне пра поўную палітычную забітасць гэтага балотнага краю, даўшы яго ў праўдзівым святле.

Што ж адбылося? Вячаслаў — вельмі нерашучы чалавек, але, падбухтораны сваімі баярамі, не толькі не выказаў пашаны Ізяславу, але і самохаць далучыў да сваіх уладанняў раней адабраныя гарады і ў дадатак да гэтага нават захапіў Уладзімір Валынскі для свайго пляменніка Уладзіміра Андрэевіча. Можна ўявіць сабе, як усё гэта было неспадзявана для Кіева, які прывык бачыць у Тураве заўсёды свайго пакорнага падручнага. І таму Ізяслаў, раз'юшаны такой нябачанай дзёрзкасцю, пасылае ў Тураў двух князёў — Святаслава Усеваладавіча і Расціслава Мсціславіча — чыніць расправу. Характэрна, што лягчэйшую кару атрымаў Вячаслаў: ён быў пераведзены княжыць у Перасопніцу. Больш цяжкі лёс напаткаў тураўскага епіскапа Акіма і пасадніка Жыраслава Яванкавіча: іх, закаваных у кандалы, прывезлі ў Кіеў. Кіеўскія карнікі добра разгледзелі сапраўдных віноўнікаў тураўскага сваволля. Бясспрэчна, што Акім і Жыраслаў былі найбліжэйшымі дарадчыкамі Вячаслава. Цікава, што нават епіскап, асоба духоўная, не толькі пранікся мясцовымі інтарэсамі, але і быў найбольш паслядоўным іх выразнікам. Акім больш не вярнуўся ў Тураў, ён быў заменены епіскапам Іаанам[533]. Дый пасаднік Жыраслаў не быў тураўскага паходжання. Але гэта не мела істотнага значэння, галоўнае было ў задавальненні інтарэсаў тых, каму ён служыў, у дадзеным выпадку — тураўскіх баяраў. Усё гэта і вытлумачвае выключна суровае пакаранне для Акіма і Жыраслава. На жаль, у гістарычнай літаратуры гэтай важнай падзеі не надаецца належнай увагі. Яна там як радавы факт наогул не ўпамінаецца (напр., у «Гісторыі Беларускай ССР», т. 1). А між тым гэтая падзея красамоўна паказала, што Тураўская зямля,

нягледзячы на сваю векавую падуладнасць, не страціла імкнення да самастойнага палітычнага жыцця.

Гэтым бліскучым эпізодам і закончылася дзейнасць Вячаслава Уладзіміравіча як тураўскага князя, якая з перапынкамі працягвалася 20 гадоў (1125—1132, 1132—1139, 1139—1142, 1142—1146 гг.). Вядома, гэтага часу дастаткова было, каб Вячаслаў прывык да Турава і зжыўся з ім. Летапісы не паведамляюць, чаму Вячаслаў настойліва вяртаўся ў Тураў. Але гэта быў тыповы факт для часу эканамічнага і палітычнага выспявання паасобных абласцей, што прыводзіла да росту мясцовых інтарэсаў і пранікнення імі князёў, што правілі там, і іх трывалага асядання ў гэтых землях. Мясцовыя баяры настойліва патрабавалі ад князя выканання іх волі, што ён і рабіў незалежна ад таго, ці быў ён валявы, як Юрый Даўгарукі, ці бесхарактарны, як Вячаслаў Тураўскі. У далейшым мы бачым Вячаслава і на кіеўскім пасадзе ў якасці суправіцеля Ізяслава Мсціславіча, у распараджэнне якога ён аддаў сваю дружыну. Памёр ён даволі старым чалавекам у 1155 г.

Але Тураў па-ранейшаму ў сувязі з барацьбой рускіх князёў за Кіеў перажываў княскую чахарду. Адправіўшы Вячаслава ў Перасопніцу, Ізяслаў пасадзіў у Тураве свайго сына Яраслава. Аднак у 1150 г. растова-суздальскі князь Юрый Даўгарукі, заваяваўшы Кіеў, аддае Тураў разам з Пінскам і Перасопніцай свайму сыну Андрэю (Багалюбскаму), а Святаславу Ольгавічу — Слуцк, Клецк і ўсю астатнюю зямлю[534]. Праўда, у хуткім часе ў той жа год Ізяслаў Мсціславіч адабраў ад Андрэя Пінск і Перасопніцу. У 1154 г. Расціслаў Мсціславіч, заняўшы кіеўскі пасад, аддае Тураў Святаславу Усеваладавічу. Але ў наступным годзе Юрый Даўгарукі, зноў стаўшы кіеўскім князем, садзіць у Тураве сына Барыса.

І ўсё ж такое княскае мільгаценне на тураўскім пасадзе, якое суправаджалася чаргаваннем ненажэрных дружынаў і дарадцаў і поўным забыццём мясцовых інтарэсаў, не аслабіла зямлю, не дэзарганізавала і не спаралізавала яе, што і паказалі наступныя падзеі яе гісторыі. Дзесьці ў прамежку 1157—1158 гг. тураўскім князем стаў Юрый Яраславіч. Ён даводзіўся ўнукам вядомаму ўжо нам Святаполку Ізяславічу, князю тураўскаму і кіеўскаму. Крыніцы не адбілі канкрэтных абставін укнязявання Юрыя ў Тураве, і таму робяцца меркаванні, што ён выкарыстаў для гэтага зручны момант, калі ў Тураве адсутнічаў яго князь Барыс, што паехаў на пахаванне свайго бацькі Юрыя Даўгарукага, а Ізяслаў Давыдавіч яшчэ не паспеў умацавацца ў Кіеве. Невядомым застаецца, якім удзелам валодаў раней Юрый.

Паасобныя летапісныя звесткі ў перыяд з 1149 па 1154 гг. указваюць на тое, што ён, будучы бліжэйшым дарадцам Юрыя Даўгарукага, набыў багаты палітычны і вайсковы вопыт, што, вядома, садзейнічала яго ўмацаванню ў Тураве. Немалое значэнне тады мела і тое, што Юрый быў патомкам старшай лініі племя Яраслава — Ізяславічаў, прадстаўнікі якой знаходзіліся на тураўскім пасадзе каля 60 гадоў. Усё гэта рабіла Юрыя Яраславіча ў вачах тураўцаў сваім князем. I вось у 1158 г. Ізяслаў Давыдавіч, адчуўшы сябе ўпэўнена на велікакняскім пасадзе, убачыў, што сярод яго ўладанняў няма Турава, які быў заўсёды для Рурыкавічаў як бы кіеўскім прыдаткам. Відаць, Ізяслаў спачатку звярнуўся да Юрыя з патрабаваннем добраахвотна пакінуць Тураў або, прынамсі, прызнаць кіеўскую ўладу над сабой, на што не маглі згадзіцца ні Юрый, ні тураўцы. Што так магло быць, сведчаць далейшыя рашучыя дзеянні Кіева. Ізяслаў Давыдавіч, па сутнасці, згуртаваў шматлікую кааліцыю, у якой апроч яго былі Яраполк з Луцка, і Яраполк Андрэевіч, і галіцкая помач, і Рурык Расціславіч са смаленцамі, і Уладзімір Мсціславіч (яму і павінен быў застацца Тураў за аказаную дапамогу Ізяславу Давыдавічу). Сустракаем мы тут і палачанаў (чаму яны прыйшлі сюды, мы скажам пасля), якія папалілі сёлы каля Турава. Моц зямлі была не толькі ў Тураве, але і ў Пінску, які паступова станавіўся як бы другой сталіцай. І яго павінна было ўзяць войска Берандзеічаў[535].

Як бачым, сілы былі сабраны ўнушальныя. І ніяк не вяжацца ў свядомасці, што ўсе яны былі накіраваны супроць... Турава, які на працягу ўсёй сваёй гісторыі як быццам вызначаўся сваёй палітычнай безаблічнасцю і слабасцю і толькі ў самы апошні час пачаў свавольнічаць. Але гэта толькі на першы погляд. На жаль, нашы пісьмовыя крыніцы, шмат увагі ўдзяляючы міжкняскім адносінам, іх усобіцам, паходам, замірэнням, г. зн. знешнім гістарычным абставінам, амаль поўнасцю абмінулі глыбінныя грамадскія працэсы, якія хоць і працякалі непрыкметна, пакрыёма, але ў далейшым далі вялікія гістарычныя вынікі. Вось таму такімі нечаканымі і з'явіліся тураўскія падзеі 1146 і 1158 гадоў. Яны паказваюць, што ў Тураўскай зямлі, знешне пакорлівай і ціхмянай, пад неаслабнай уладай Кіева ніколі не замірала імкненне да свабоднага палітычнага жыцця. І хоць прыходзілася нямала сіл траціць на розныя велікакняскія авантуры, усё ж ёй удавалася захоўваць у дастатковай колькасці іх і для сябе, што і засведчыў 1158 год. Сапраўды, паход Ізяслава на Тураў у гэтым годзе па ліку яго ўдзельнікаў нагадваў паход Мсціслава на Полацк у 1127 г. Здавалася, што такі моцны націск магутных сіл адразу скрышыць Тураў.



*Гарадзішча старажытнага Гомія. X—XII стст.*

Аднак гэтага не адбылося. Праціўніку прыйшлося перайсці да аблогі, якая працягвалася аж 10 тыдняў і закончылася беспаспяхова. Немалое значэнне ў гэтым мела абарончая сістэма горада, якая ўдала спалучала прыродныя перашкоды са штучнымі ўмацаваннямі, узведзенымі стасоўна да рэльефу мясцовасці і адпаведна тагачаснай тактыцы абароны[536]. Аднак крэпасці самі па сабе не бароняць. Самую непрыступную з іх можна лёгка ўзяць без стойкасці абаронцаў. Менавіта гэта і вырашыла няўдачу войск, што аблажылі Тураў. Тураўцы не абмяжоўваліся толькі пасіўнай абаронай за сценамі крэпасці, але і пераходзілі ў наступленне, у выніку чаго былі вялікія страты. «И бьяхуться крепко выходячи из города и многа бывше язвеных»,— засведчыў летапіс. Нельга таксама забывацца і пра вайсковае майстэрства Юрыя Яраславіча, якому, бясспрэчна, належала кіраўніцтва абаронай. Аднак не жадаючы непатрэбнага знясілення і вялікіх ахвяр з двух бакоў, ён звярнуўся да дыпламатычных сродкаў, увайшоўшы ў перагаворы з праціўнікам: «И многу молбу створиваше Гюрги Ярославич, высылая из города к Изяславу, река: «Брате! Прими мя в любовь к собе». Аднак гэтыя мірныя прапановы заставаліся без адказу. Ізяслаў «того не вьсхоте, но всяко хотяще под ним взяти Туров и Пинск». Гаворачы сучаснай мовай, тут каментарыі лішнія, бо яскрава

выяўляецца намер Ізяслава. Але гэта неабачлівая ўпартасць не дала вынікаў. Праўда, могуць запярэчыць, што прычынай зняцця аблогі быў паморак коней і што, каб не гэта, Тураў, магчыма, быў бы ўзяты. Аднак паморак пачаўся, як сведчыць летапіс, пасля 10 тыдняў беспаспяховага стаяння пад Туравам. А выпадак такой працяглай аблогі беспрэцэдэнтны ў тагачаснай вайсковай гісторыі. І яе сумныя вынікі вельмі лаканічна і выразна падвёў летапісец: «...и тако не успевше ему ничтоже возвратишеся восвояси, не створиша с ним (г. зн. з Юрыем Яраславічам.— *М. Е.*) мира и мнози пеши придоша с тое войны». На жаль, летапісец па-за ўвагай пакінуў ваенныя дзеянні ля Пінска. І ўсё ж з летапіснага тэксту можна зразумець, што і Пінск не быў узяты Берандзеічамі, хоць ім і ўдалося зайсці за Прыпяць, г. зн. на яе паўночны бок. Фактычна перамога 1158 г. азначала заваяванне Туравам незалежнасці ад Кіева, што з укнязяваннем Юрыя Яраславіча падмацоўвалася і ўтварэннем сваёй княскай дынастыі.

Аднак нельга сцвярджаць, што разам з гэтым закончыўся перыяд драбнення і раздач Тураўскага княства[537]. Драбненне было аб'ектыўным гістарычным працэсам, і яго ніякая ўлада не магла спыніць, і ў Тураўскай зямлі з'яўляліся ўсё новыя ўдзелы. На жаль, і спробы раздачы не спыніліся. Няўдалы прэтэндэнт на Тураў у 1158 г. Уладзімір Мсціславіч у 1162 г. заняў Слуцк[538], праўда, ненадоўга. Трэба таксама ўлічваць, што Ізяслаў адступіў ад Турава ў 1158 г. «не створиша мира», а г. зн., што можна было ўвесь час чакаць новага нападу. Але гэта не магло ажыццявіцца, паколькі Ізяслаў быў вымушаны адбівацца ад Яраслава Галіцкага.

Мы ўжо ведаем, што ў 1146 г. Вячаслаў захапіў Уладзімір Валынскі. Гэты факт варты асаблівай увагі, бо ён паклаў пачатак тураўска-валынскаму антаганізму, які адразу ўзгарэўся пасля выхаду Турава з-пад улады Кіева. Некаторыя звесткі Іпацьеўскага летапісу (праўда, некалькі заблытаныя)[539] даюць падставу лічыць, што канфлікт пачаўся з нападу ў 1162 г. тураўцаў на ўладанні валынскіх князёў. У адказ на гэта валынскія князі Мсціслаў, Яраслаў і Яраполк Ізяславічы і Уладзімір і Яраполк Андрэевічы рушылі на Тураў супроць усё таго ж самага Юрыя Яраславіча. Але і гэты паход застаўся без вынікаў. Прастаяўшы два з паловай тыдні, «не вспевше ему (г. зн. Юрыю.— *М. Е.*) ничтоже, возвратишеся восвояси»[540]. У 1162 г. Юрый Яраславіч нарэшце заключыў мір з кіеўскім князем Расціславам Мсціславічам[541] і так дабіўся ад Кіева фактычнага прызнання сваёй незалежнасці. Усё гэта яшчэ раз пацвердзіла эканамічную і вайсковую магутнасць Турава, яго здольнасць адстойваць сябе.

У 1162 г. абрываюцца звесткі пра Юрыя Яраславіча, які па праву лічыцца заснавальнікам тураўскай княскай дынастыі. Хоць паведамленні аб ім вельмі ўрыўкавыя, усё ж яны даюць нам уяўленне пра яго як палітычнага дзеяча буйнога маштабу, які мог у складаных і вельмі цяжкіх умовах ужыць розныя сродкі барацьбы (актыўную абарону і наступленне, дыпламатычныя перагаворы і ўменне выбраць зручны момант), што і забяспечвала яму атрыманне перамогі. З асобай Юрыя Яраславіча звязаны самыя слаўныя старонкі тураўскай гісторыі.

У адрозненне ад Турава выдзяленне Смаленска ў асобную адзінку адбылося без канфлікту і як бы непрыкметна. Палітычнае выспяванне паасобных абласцей Старажытнай Русі суправаджалася, як правіла, сфармаваннем мясцовых княскіх дынастый. Мы гэта ўжо бачылі на прыкладзе Турава. Тое ж самае назіралася і ў адносінах Смаленска. Роданачальнікам яго князёў стаў Расціслаў Мсціславіч, з імем якога звязаны выдатныя старонкі смаленскай гісторыі. Хоць Расціслаў упершыню ўпамінаецца ў пісьмовых крыніцах як смаленскі князь у 1127 г., аднак ён стаў князяваць тут хутчэй за ўсё ў 1125 г., пасля таго як яго бацька Мсціслаў замяніў на вялікакняскім пасадзе памерлага Уладзіміра Манамаха. Да гэтага ў Смаленску быў князем Вячаслаў Уладзіміравіч, які пасля перайшоў у Тураў.

Вядома, нельга прыпісваць выдатнае становішча Смаленскай зямлі, якое яна заняла сярод іншых усходнеславянскіх земляў, выключна вынікам дзейнасці Расціслава, хоць, вядома, яго заслуг у гэтым нельга адмаўляць. Хутчэй трэба бачыць факт працяглага (у 32 гады) князявання Расціслава ў Смаленску вынікам тых спрыяльных гістарычных умоў, што выпалі на долю Смаленскай зямлі ў гэты час, якія выразна ўбачыў і ўдала скарыстаў Расціслаў. Найперш трэба адзначыць, што Смаленская зямля ў гэты час дасягнула найбольшых сваіх памераў. Паводле Устаўной граматы Расціслава 1136 г., усходнія межы Смаленшчыны даходзілі да сярэдняга цячэння р. Масквы, а на захадзе яны ўключалі Оршу і Копысь, захопленыя ў Глеба Менскага ў 1116 г. Апошняе асабліва важна было для Смаленска. Заходнія, больш заселеныя, а таму і больш багатыя, раёны Смаленшчыны былі больш каштоўныя, чым усходнія, аддаленыя ад гандлёвых шляхоў і таму маланаселеныя і бедныя.

Аднак здабыццё палітычнай незалежнасці не азначала для Смаленска, як і для іншых земляў, ізаляцыі яго ад палітычнага жыцця, у першую чаргу Кіева, Ноўгарада, Суздаля, Полацка. Смаленску асабліва важна было захоўваць прыязныя адносіны з Кіевам, паколькі ў адваротным выпадку яго

прыдняпроўскія землі, праз якія праходзіў вялікі гандлёвы шлях, маглі стаць аб'ектам варожага нападу. У выніку дальнабачнай палітыкі Расціслава велізарная тэрыторыя Смаленскай зямлі ў час зацятых удзельных усобіц, звязаных з варожым нашэсцем, спусташэннем і разбурэннем рускіх земляў, з'явілася шчаслівым выключэннем. Яна амаль пазбегла ўсяго гэтага. Толькі ў 1147 г. былі спустошаны вярхоўі Протвы, дзе жыло невялікае балцкае племя голядзь, і вярхоўі Угры, дзе пагаспадарылі полаўцы. Аднак, як мы ўжо гаварылі, гэтыя крайнія ўсходнія мясціны не мелі важнага значэння для Смаленска. У той жа час яго войскі не раз прайшлі па іншых землях, асабліва па Чарнігаўскай (як намі ўжо адзначалася, у 1142 г. яны спустошылі радзіміцкую зямлю з Гомелем). Такая засцярога ад знешніх нападаў і шырокая магчымасць пранікаць у іншыя землі і спрыяла ўстанаўленню ў Смаленскай зямлі палітычнай раўнавагі, асабліва ва ўзаемаадносінах князя і веча, чаго не было ў многіх землях, і ў прыватнасці ў Полацкай.

Не атрымліваючы за сваю дапамогу Кіеву новых уладанняў, адрэзаных ад яго зямлі, Смаленск затое атрымліваў усе магчымасці ўмешвацца ва ўнутраныя справы суседніх земляў (найперш Наўгародскай і Полацкай), тым самым аслабляць іх і паступова падначальваць свайму ўплыву. І тут справа выглядае так, што Смаленск пераняў ролю Полацка ў гэтых адносінах. Калі раней Полацк імкнуўся падначаліць свайму ўплыву Ноўгарад і Смаленск, то зараз апошні імкнуўся да гэтага ў адносінах Ноўгарада і самога Полацка. Што да Ноўгарада, то гэта тэндэнцыя ўжо праступала ў 1138 г., калі смаленцы разам з кіяўлянамі, суздальцамі і палачанамі ўдзельнічалі ў кааліцыі супроць наўгародцаў, што не хацелі прыняць да сябе князя Святаполка Мсціславіча, брата Расціслава Смаленскага. У сваіх дамаганнях на ўплыў у Ноўгарадзе Смаленск выкарыстоўвае абвостраную барацьбу партый у гэтым горадзе.

Яшчэ большыя поспехі меў Смаленск у сваёй полацкай палітыцы, пра што мы будзем гаварыць, разглядаючы гісторыю Полацка. Укажам яшчэ на так званыя Устаўныя граматы князя Расціслава, гістарычнае значэнне якіх выходзіць далёка за рамкі Смаленскага княства і мае вялікае значэнне для нашага ўяўлення пра многія бакі сацыяльна-эканамічнага жыцця ўсіх рускіх земляў таго часу. Яны найперш даюць уяўленне пра тэрыторыю княства. У прыватнасці, упамінанне ў першай з іх «палюддзя Копыся» яскрава пасведчыла на пераход гэтага горада з Полацкага княства ў Смаленскае. Грамата дае і дакладную дату заснавання смаленскага епіскапства — 1136 г. Пералічэнне ў грамаце тых

данінаў, з якіх дзесятая частка аддавалася ў карысць епіскапа, мае для нас асабліва важнае, неацэннае значэнне. Яно паказвае, як ішоў працэс замацавання дзяржаўнай улады ў княстве, на чым грунтавалася эканамічная моц яго, як размяжоўваліся асабістыя і дзяржаўныя прыбыткі князя. З грамат мы выносім уяўленне аб кампетэнцыі княскага, пасадніцкага і епіскапскага судоў і шмат іншага. Бясспрэчна, што ўсё гэта мела месца і ў іншых землях.

## ВЫДАЛЯЮЦЬ РАГВАЛОДА, БЯРУЦЬ РАСЦІСЛАВА

Новае дзесяцігоддзе полацкай гісторыі пачалося вельмі бурліва. Падзеі 1151 г. яшчэ раз пацвердзілі дамінуючае значэнне веча ў дзяржаўным жыцці Полаччыны. Мы пераконваемся ў гэтым, прачытаўшы адпаведную летапісную вытрымку: «В лето 6659 (1151)... Том же лете яша Полочане Рогволода Борисовича, князя своего и послаша Меньску, и ту и держаща у велице нужи, а Глебовича собе уведоша; и слашася Полотьчане к Святославу Олговичю с любовью, яко имети отцем собе и ходить в послушании его, и на том целовали хрест»[542].

Кароткая, але даволі багатая інфармацыя для разумення тагачаснага палітычнага стану Полацкай зямлі. Найперш яна адмятае сцвярджэнні аб барацьбе, якая нібыта разгарэлася паміж дынастычнымі лініямі Рагвалодавічаў і Глебавічаў[543] і князёў з земствам[544]. Цытаваны запіс яскрава засведчыў, што сваркі і нелады паміж княскімі лініямі Полацкай зямлі ўзнікалі не столькі самі па сабе, колькі па волі полацкага веча. Менавіта палачане (пад якімі разумеецца веча) «яша» Рагвалода, выслалі яго ў Менск, а адтуль узялі сабе Глебавіча. Вось такім бесцырымонным абыходжаннем са сваімі князямі полацкае веча і трымала іх у сваіх руках, робячы іх паслухмянымі сваёй волі.

З летапіснага ўрыўка мы бачым, што пасля выгнання Рагвалода палачане звярнуліся да Святаслава Ольгавіча, тады наўгарод-северскага князя, з просьбай апекі над імі. Не ўказаная ў летапісе прычына выгнання Рагвалода з Полацка рознымі даследчыкамі тлумачыцца па-свойму. У В. Тацішчава, дзе непасрэдна гаворыцца аб падзеях 1151 г., сказана, што палачане ўсклалі на Рагвалода «многие вины»[545], а пад 1158 г. мы чытаем, што яны, будучы пад уладай ціхмянага («кроткого») Рагвалода Барысавіча, без усялякай прычыны, безразважна даўшы сабе волю, ад адсутнасці пастраху ўсхваляваліся супроць яго[546]. Вядома, такое тлумачэнне

вельмі суб'ектыўнае, яно магло ісці ад летапісца, які спачуваў Рагвалоду, і таму не можа быць аб'ектыўным, што і дало падставу даследчыкам шукаць іншых прычын. В. Данілевіч тлумачыў выгнанне Рагвалода імкненнем апошняга падначаліць сабе іншых полацкіх князёў, што ён стаў ахвярай шырокай змовы, у якой палачане былі толькі зброяй у руках князёў[547]. Аднак летапіс ясна паказвае, што ініцыятарамі выгнання князя былі палачане, а не іншыя князі. Зыходзячы з таго, што Рагвалод быў жанаты з дачкой Ізяслава Мсціславіча, шэраг гісторыкаў (С. Салаўёў, Д. Ілавайскі, І. Бяляеў, М. Доўнар-Запольскі) бачылі прычыну выдалення Рагвалода ў тым, што ён вёў палітыку падначалення Полацка Мсціславічам. Але, як зазначалася намі вышэй, шлюбныя адносіны — вельмі нетрывалы фактар у палітыцы, хоць, вядома, нельга адмятаць поўнасцю пэўнай арыентацыі Рагвалода на Мсціславічаў. Сцвярджэнне Л. Аляксеева аб разыходжанні Рагвалода з мясцовым епіскапствам вельмі хісткае. Тым часам думка даследчыка аб незадаволенасці гэтым князем з боку баярства, якое ўзначальвала веча, у цэлым слушная. Сапраўды, настроеная супроць Рагвалода была нейкая полацкая партыя, магчыма, і баярская, якой удалося ўзяць верх на вечы і дамагчыся выгнання гэтага князя. Менавіта ў барацьбе партый полацкага насельніцтва, а гэтым самым і полацкага веча, і трэба бачыць найперш прычыны выгнання і ўзвядзення на полацкі пасад таго ці іншага князя, што добра выявяць падзеі 1158 г. І гэта не было з'явай толькі полацкай, бо тое ж самае было характэрна і для іншых земляў, асабліва для Наўгародскай, дзе веча было такім жа ўсемагутным, як і ў Полацку. Але вядома, што ў сваёй барацьбе партыі вельмі часта абапіраліся і на дапамогу іншых земляў. Так, напрыклад, баярская партыя Ноўгарада ў 50-я гады XII ст. арыентавалася на сілы смаленскага князя Расціслава. Гэта ж назіралася і ў Полацку. Калі партыя, якая падтрымлівала Рагвалода, магчыма, арыентавалася на дапамогу Мсціславічаў, то партыя, якая выгнала Рагвалода і паставіла Расціслава Глебавіча, павінна была шукаць апоры ў Святаслава Ольгавіча. Менавіта яе прадстаўнікі і пайшлі да апошняга з «любоўю», хочучы мець яго «бацькам сваім» і жадаючы хадзіць паслухмяна ў яго, на чым і цалавалі крыж. Вось чаму не мае падставы сцвярджэнне, што Расціслаў Глебавіч таму звярнуўся да Святаслава Ольгавіча, бо апошні, маўляў, з 1149 г. валодаючы Слуцкам, Клецкам і ўсімі дрыгавічамі, быў бліжэйшым суседам Глебавічаў і што, звяртаючыся да яго, Глебавічы атрымлівалі дапамогу магутнай паўднёварускай кааліцыі, якая групавалася вакол Юрыя Даўгарукага[548]. Аднак Глебавічы не былі зачыншчыкамі

падзей 1151 г., бо крыніцы паказваюць адваротнае, а менавіта дамінуючую ролю ў гэтых падзеях веча.

Падзеі 1151 г. таксама пасведчылі, што ў Менску канчаткова замацаваліся Глебавічы. Як вядома, у ліку сасланых у Візантыю полацкіх князёў летапіс не называе Глебавічаў. І гэта зразумела. Глеб першы з Усяславічаў яшчэ ў 1119 г. быў выведзены ў палон, і яго дзеці вымушаны былі шукаць сабе ратунку. Дзе ж яны перахоўваліся? І. Бяляеў гаварыў, што сыны Глеба падзялілі паміж сабою пакінутыя за імі Манамахам гарады Менскага княства[549]. Аднак гэта не пацвярджаецца крыніцамі. Хутчэй за усё, што пасля 1119 г. Глебавічы разам са сваёй маці (яна памерла ў 1158 г.) знайшлі прытулак у суседняй Літве і ў 1135 г. зноў вярнуліся ў Менск. Лічыцца, што ў Глеба было трое сыноў: Расціслаў, Глеб і Усевалад. Але не выключана, што яшчэ быў і чацвёрты — Ізяслаў. У Іпацьеўскім летапісе сказана, што 14 мая 1134 г. памёр нехта Ізяслаў Глебавіч[550], а ў В. Тацішчава ўдакладнена — «князь полацкі»[551]. Калі гэта так, то ён быў несумненна сынам Глеба. В. Тацішчаў зачастую ўсіх князёў Полацкай зямлі незалежна ад таго, дзе яны княжылі — у Полацку ці ў іншым месцы,— называе полацкімі. Дык вось (гэта высветляць пазнейшыя падзеі) у 1151 г. у Менску княжыў Расціслаў, магчыма, самы старэйшы з Глебавічаў, якога палачане «уведоша» да сябе ў якасці свайго князя. Было б наіўным думаць, што Расціслаў Глебавіч ужо раней не ведаў аб намерах палачанаў узяць яго за князя. Зразумела, што ўсё было раней дамоўлена. Полацкі пасад для ўсіх полацкіх князёў меў значэнне вялікакняскага і таму не мог не быць прэстыжнай мэтай кожнага з іх, што добра было вядома вечу.

У сувязі са сказаным паўстае пытанне аб тым, хто стаў князем у Менску пасля Расціслава. Рагвалод быў сасланы ў Менск, а не пераведзены туды князем. Зноў-такі летапісная нататка пад 1151 г. не дае адказу на гэта пытанне. І толькі з падзей 1158 г. можна зразумець, што менскім князем пасля Расціслава стаў яго брат Валадар. Што Глебавічы па-ранейшаму заставаліся гаспадарамі Меншчыны, сведчаць тацішчаўскія матэрыялы, дзе сказана, што менавіта ў рукі Расціслава і яго братоў быў аддадзены Рагвалод[552]. Занатаванае толькі ў матэрыялах В. Тацішчава паведамленне сведчыць, што Юрый Даўгарукі, незадоўга да сваёй смерці (1157 г.) даведаўшыся пра цяжкі лёс Рагвалода ў руках Глебавічаў, патрабаваў пагрозай вайны вызваліць вязня, што і было зроблена, хоць, атрымаўшы вестку аб смерці Юрыя Даўгарукага, Глебавічы не вярнулі Рагвалоду яго ўладанняў і пажыткаў[553]. Заступніцтва Юрыя Даўгарукага Л. Аляксееў тлума-

чыць тым, што вялікі князь страціў давер да свайго былога саюзніка Святаслава Ольгавіча і вызваленнем Рагвалода і ўзвядзеннем яго на полацкі пасад хацеў адкалоць ад чарнігаўскага князя іх саюзнікаў — Глебавічаў[554]. Але і гэта непераканаўча, бо тут не ўказваецца, чым менавіта Святаслаў Ольгавіч быў незадаволены Глебавічамі і таму заступіўся за Рагвалода. Мы яшчэ будзем разглядаць гэтыя падзеі, але зараз адзначым адну тэндэнцыйнасць некаторых даследчыкаў, якая выяўляецца ў імкненні падкрэсліць страту Полацкам палітычнай ініцыятывы і поўную залежнасць яго ад перыпетый міжусобнай барацьбы розных рускіх земляў. Але ўсё гэта далёка не так. Менавіта суперніцтва паміж рознымі рускімі княствамі давала магчымасць Полацку заўсёды знаходзіць сабе саюзнікаў. Зразумела, што ў сваю чаргу і рускія князі не маглі не выкарыстоўваць барацьбу розных полацкіх партый і звязаных з імі князёў у сваіх інтарэсах. Так, магчыма, к 1157 г. на полацкім вечы стала браць верх іншая, рагвалодаўская партыя, якая магла звярнуцца па дапамогу да Юрыя Даўгарукага, і ён мог ахвотна адгукнуцца на гэту просьбу, але з-за смерці не здолеў дапамагчы Рагвалоду заняць полацкі пасад.

Перш чым прыступіць да разгляду падзей 1158 г., мы павінны закрануць пытанне іх храналогіі, а таксама спыніцца на ўдзеле палачанаў у паходзе на Тураў у 1158 г. Паводле Тацішчава, падзеі, звязаныя з вяртаннем Рагвалода Барысавіча, адбываліся ў 1158 г. У свой час гэту дату прыняў і М. Карамзін, за імі пайшоў і Л. Аляксееў[555], спасылаючыся на ўпамінанне летапісам наўгародскага епіскапа Аркадзія. Прыняўшы гэту дату, Л. Аляксееў чамусьці палічыў, што паход палачанаў у кааліцыі з іншымі князямі на Тураў адбываўся ўжо пасля другога з'яўлення Рагвалода на полацкім пасадзе[556]. Аднак гэта зноў супярэчыць крыніцам. І ў Іпацьеўскім летапісе[557], і ў В. Тацішчава[558] пра гэты паход гаворыцца перад падзеямі, звязанымі з выгнаннем з Полацка Расціслава і ўкняжваннем там Рагвалода. Усё гэта яшчэ раз сведчыць аб немагчымасці прыняць трактоўку Л. Аляксеевым указаных падзей, хоць і не выключана, што яны адбываліся ў 1158 г., у першую чаргу паход на Тураў. Мы ўжо пра гэта гаварылі, разглядаючы тураўскую гісторыю, і таму зараз нам трэба высветліць прычыны ўдзелу ў іх палачанаў. Тое, што яны былі ў складзе вялікай кааліцыі, яшчэ не гаворыць, што іх вымушалі да гэтага абавязацельствы падтрымліваць іншых князёў у іх грабежніцкіх паходах[559]. Хутчэй за ўсё палачане, бачачы вялікія сілы, якія збіраліся ісці на Тураў, рашылі, што з ім будзе лёгка пакончана, і яны змогуць шмат выкарыстаць з гэтага, а менавіта адхапіць для сябе пэўную

частку дрыгавіцкай зямлі, што было, як мы ведаем, сталай мэтай Полацка. Трэба звярнуць увагу на тое, што пра палачанаў у летапісе сказана асобна, ужо пасля пераліку іншых удзельнікаў паходу: «...и полчане пришедшие к Турову, пожгоше сёла около его»[560]. А гэта можа гаварыць за тое, што полацкае войска прыйшло пазней за іншых, па сваёй уласнай ініцыятыве, і таму яму ўжо не засталося месца ў аблозе Турава, і яно вырашыла весці свае дзеянні ў ваколіцах горада, папаліўшы сёлы каля Турава. Такі ўчынак можна вытлумачыць тым, што насельніцтва тураўскіх сёлаў, бачачы грозную небяспеку, загадзя пахавалася ў пушчах і балотах разам са сваім скарбам і скацінай, што і выклікала помсту палачанаў, якім не было чым пажывіцца. З летапісу не відаць, ці знаходзілася полацкае войска ўсе 10 тыдняў аблогі каля Турава, ці не. Больш верагодна апошняе, бо палачанам не было чаго рабіць там. Аднак можна думаць, што яны вярнуліся назад з сумнымі вынікамі, што магло распаліць яшчэ большую нянавісць полацкага веча да Расціслава Глебавіча, які хутчэй за ўсё мог узначальваць паход палачанаў.

## ВЫДАЛЯЮЦЬ РАСЦІСЛАВА, БЯРУЦЬ РАГВАЛОДА

Менавіта пасля гэтага, як паказвае Іпацьеўскі летапіс, Рагвалод Барысавіч і пайшоў ад Святаслава Ольгавіча, які цяпер быў чарнігаўскім князем, здабываць свой удзел у Полацкай зямлі. Нас не павінна здзіўляць, што ранейшыя ворагі — Рагвалод і Святаслаў — цяпер сталі саюзнікамі. Нельга забывацца, што Расціслаў быў з Глебавічаў, княскай галіны, што заўсёды адчувала сваю сувязь з Менскам, на які яна магла абаперціся ў неспрыяльных умовах. Вось чаму Расціслаў, знаходзячыся на полацкім пасадзе, мог больш клапаціцца аб інтарэсах Менска, чым Полацка. З прычыны гэтага ён мог быць менш падатным для ўплыву свавольнага полацкага веча, чым «ціхмяны» Рагвалод, што і выклікала ў палачанаў, у тым ліку і партыі, варожай да Рагвалода, імкненне зноў вярнуць апошняга ў Полацк. Вось чаму з'яўленне Рагвалода ў Святаслава Ольгавіча можа быць растлумачана па-рознаму: або тым, што ў Полацку зноў пачала браць верх рагвалодаўская партыя і чарнігаўскі князь, бачачы гэта і жадаючы мець уплыў у Полацку, прыняў да сябе Рагвалода, або ён гэта зрабіў па патрабаванню партыі Расціслава, якая расчаравалася ў апошнім і рашыла зноў вярнуць Рагвалода. (І гэта апошняе, як убачым, знойдзе пэўнае пацверджанне ў будучых падзеях.) Паўтараем, падобныя перамены ў сімпатыях былі ў духу таго часу, дый усіх часоў.

З летапісу вядома, што Святаслаў Ольгавіч сам не прыняў непасрэднага ўдзелу ў адваяванні Рагвалодам сваіх правоў у Полацкай зямлі. Ён абмежаваўся тым, што даў Рагвалоду пэўную колькасць войска, «полк», як сказана ў летапісе[561]. Далей мы чытаем у гэтай жа крыніцы, што Рагвалод пайшоў у Слуцк, адкуль ён пачаў зносіцца з дручанамі[562]. Тут мы павінны прыпыніцца, каб звярнуць увагу на некаторыя важныя дэталі. Можна толькі здзіўляцца таму, што ніводзін даследчык не засумняваўся ў сведчанні Іпацьеўскага летапісу, што Рагвалод са Слуцка мог весці перагаворы з дручанамі. Больш за тое, М. Доўнар-Запольскі абгрунтоўваў часовае знаходжанне Рагвалода ў Слуцку як зыходны пункт, з якога ён пачаў сваю барацьбу за аднаўленне ягоных уладанняў у Полацкай зямлі, тым, што Слуцк у той час належаў Святаславу Ольгавічу[563]. Магчыма, што і так, бо крыніцы гэтаму не супярэчаць, але, глянуўшы на карту, цяжка паверыць, каб Рагвалод мог «слатися к дрючанам», а апошнія «приездача к нему». Нават ва ўмовах XX ст. пры наяўнасці авіяцыі і радыё на такой вялікай адлегласці цяжка было б усё гэта рабіць, асабліва ўлічваючы, што шлях ішоў праз Бярэзіну, Свіслач, Пціч, Арэсу і па тэрыторыі варожых Рагвалоду Глебавічаў. Відаць, летапісцам была дапушчана памылка, у выніку якой нейкае іншае паселішча, дзе спыніўся Рагвалод, было заменена на Слуцк.

Характэрна, што ў тацішчаўскіх матэрыялах, дзе перадаецца гэты эпізод, нічога не гаворыцца аб Слуцку. Там сказана, што Рагвалод прыйшоў у воласць Полацкую[564]. Трэба думаць, што ў рукі гэтага гісторыка трапіў больш спраўны летапісны тэкст.

Другое пытанне, якое непасрэдна выцякае з указаных падзей, гэта: «Чаму менавіта Рагвалод найперш пайшоў на Друцк?» На думку Л. Аляксеева, прычынай гэтага з'яўлялася тое, што Друцк быў вотчынай Рагвалода[565]. Гэта абгрунтоўваецца тым, што ў 1158 г. Рагвалода дручане прымаюць як свайго[566]. Аднак тут не ўлічана, што Рагвалод перш за ўсё княжыў (да 1151 г.) у Полацку, дзе ў 1102 г. княжыў яго бацька Барыс Усяславіч. Апроч таго, да 1158 г. мы не можам з упэўненасцю гаварыць аб існаванні Друцкага ўдзела, бо менавіта толькі пад гэтым годам у летапісе ўпершыню названы друцкі князь Глеб Расціславіч. Праўда, у Васкрасенскім летапісе гаворыцца, што ён стаў княжыць у Друцку з 1146 г. Аднак гэта яўная памылка, бо дадзены летапіс зблізіжаў Глеба Расціславіча з аднайменным разанскім князем, на што ў свой час указваў М. Доўнар-Запольскі[567]. Такім чынам, сцвярджэнне пра Друцк як вотчыннае ўладанне Барысавічаў — вельмі праблематычнае. Трэба думаць, што Рагвалод

найперш прыйшоў да Друцка таму, што апошні знаходзіўся найбліжэй па дарозе з Чарнігава.

Наўрад ці меў рацыю В. Данілевіч, калі гаварыў, што дручане сустрэлі Рагвалода спачуваннем, таму што той быў ворагам палачанаў, і гэтым самым выявілі факт свайго суперніцтва з Полацкам[568]. Суперніцтва было, як і імкненне выйсці з-пад улады Полацка, але тут усё гэта меней за ўсё выявілася. Далейшыя падзеі пакажуць, што за Рагвалода цягнулі многія палачане, якія ўрэшце і паставілі яго полацкім князем. Таму правільней будзе сказаць, што вяртанне Рагвалода было абумоўлена той спрыяльнай для яго палітычнай атмасферай, якая ў гэты час характарызавала як Друцк, так і Полацк.

Але разгледзім падзеі, звязаныя з вяртаннем Рагвалода, па парадку. Як кажа летапіс, пакрыўджаны братамі і шукаючы сабе воласці, Рагвалод з палком Святаслава прыехаў да Слуцка (мы ўжо ведаем, што гэта яўная памылка) і адразу стаў зносіцца з дручанамі, якія ўзрадаваліся яму. І таму, прыехаўшы да яго, запрасілі князяваць да сябе, раячы яму не марудзіць з гэтым, і абяцалі, што ўсе стануць за яго. Відаць, падбадзёраны гэтай падтрымкай, Рагвалод рашыў ісці ў Друцк. І вось насустрач яму выплыла трыста лодак дручанаў і палачанаў (яўнае сведчанне, што ў Рагвалодзе былі зацікаўлены як адны, так і другія). Зазначым яшчэ, што ўказаныя ў Іпацьеўскім летапісе звыш 300 лодак з дручанамі і палачанамі — яўнае перабольшванне, і таму больш правільна ў Ніканаўскім і Васкрасенскім летапісах і ў В. Тацішчава, дзе гаворыцца проста аб звыш 300 дручанаў і палачанаў. Аднак упамінанне лодак у Іпацьеўскім летапісе невыпадковае: яно гаворыць, што дручане і палачане плылі насустрач Рагвалоду па вадзе, г. зн., што ён рухаўся да Друцка такім жа спосабам з Дняпра ўверх па Друці. А гэта ў сваю чаргу зноў-такі абвяргае, што Рагвалод у Друцк ішоў са Слуцка.

Прыехаўшы ў Друцк у такім шматлікім суправаджэнні, Рагвалод быў урачыста і з вялікай пашанай узведзены на друцкі пасад. З ранейшым жа князем Глебам Расціславічам, які тут хутчэй за ўсё князяваў з 1151 г., калі яго бацька Расціслаў Глебавіч стаў полацкім князем, дручане абышліся так, як гэта было ў звычаях таго часу: ён быў выгнаны, а двор яго і маёмасць дружыны разрабаваны гараджанамі. Глебу не заставалася нічога іншага, як ісці ў Полацк да бацькі (у В. Тацішчава сказана, што Глеб пайшоў у Менск[569]).

Як сведчыць летапіс, у Полацку адбыўся вялікі мяцеж, паколькі многія палачане хацелі Рагвалода. Расціславу ледзь удалося ўціхамірыць іх, даўшы ім «многія дары» (у В. Тацішчава ўдакладнена: «...вяльможам і народу»[570]).

Пасля гэтага ён вадзіў іх «к хресту», г. зн. браў з іх прысягу быць вернымі яму. Гэта і дало яму магчымасць разам з братамі Усеваладам і Валадаром і «ўсёй брацціяю» пайсці на Рагвалода.

Усе гэтыя падзеі патрабуюць пэўнага тлумачэння. Перш за ўсё, з-за чаго ўзняўся мяцеж. Каб адказаць на гэтае пытанне, трэба ўспомніць, што ён пачаўся адразу пасля вяртання Глеба з Друцка да бацькі ў Полацк. Гэта, вядома, прымусіла Расціслава думаць аб помсце Рагвалоду, г. зн. ісці з войскам на яго, але гэтага самохаць полацкі князь рабіць не мог. Тут яму патрэбна была згода веча. Прыгадаем, што, паводле «Эймундавай сагі», Брачыслаў гаварыў Эймунду, што яму трэба мірыцца са сваімі мужамі, бо яны даюць яму грошы, якія ён выплачвае войску. Зразумела, прасіць сродкі ў веча для паходу на Рагвалода Расціслаў пры вялікай варожасці да яго з боку прыхільнікаў Рагвалода, якія і ўзнялі мяцеж, было цяжкай справай. І Расціславу прыйшлося ахвяроўваць свае ўласныя багацці, адорваючы найбольш уплывовых удзельнікаў веча. І, як засведчылі тацішчаўскія матэрыялы, толькі прывёўшы сваіх праціўнікаў «да роты», Расціслаў атрымаў ад веча дазвол і сродкі на свой паход, у выніку чаго неўзабаве сабраў войска і, злучыўшыся са сваімі братамі, пайшоў на Рагвалода[571]. Гэтыя падзеі адначасова засведчылі і дружныя намаганні ўсіх Глебавічаў супроць Рагвалода, што і зразумела. Выгнанне Глеба з Друцка паказвала ім усім сумную перспектыву таго, што чакае і іх, калі полацкім князем стане Рагвалод. Фактычна пры знаходжанні Расціслава на полацкім пасадзе ўся Полацкая зямля апынулся ў руках Глебавічаў. Цікава звярнуць увагу на тое, што Расціслаў аддаў Друцк сыну Глебу, а не якому-небудзь са сваіх братоў, што паказвае, наколькі высока цаніў ён гэты багаты ўдзел. Калі, як мы ўжо адзначалі, Валадар княжыў у Менску, то Усевалад, відаць, быў у Ізяслаўлі. І, такім чынам, можна меркаваць, што на Друцк пайшлі аб'яднаныя сілы палачанаў, мянянаў і ізяслаўцаў, г. зн. практычна ўсіх тагачасных полацкіх удзелаў.

Для Рагвалода гэта не было нечаканасцю, і таму ён умацаваўся за сценамі горада, што фактычна ператварыўся ў непрыступную крэпасць, якую так і не ўдалося ўзяць аб'яднаным сілам Глебавічаў. Як сведчыць летапіс, баі цягнуліся некалькі дзён, вялікія страты былі з абодвух бакоў.

Тут зноў трэба трохі спыніцца, каб асэнсаваць гэтыя факты. Па-першае, хочацца нагадаць 1116 г., калі Друцк быў узяты аб'яднанымі сіламі паўднёварускіх князёў і пераяслаўскі князь Яраполк Уладзіміравіч вывеў многіх дручанаў у сваё княства, пабудаваўшы для іх горад Жэлні.

Можна было думаць, што Друцку быў нанесены непапраўны ўдар, ад якога горад больш не акрыяе і канчаткова запусцее накшталт Одрска. Аднак прайшло 43 гады, і, як бачым, Друцк не толькі не знік, але і вырас у цэнтр удзела і добра ўмацаваную крэпасць. З гэтага можна зрабіць вывад, што далёка не ўсе жыхары Друцка былі выведзены Яраполкам, што многія з іх разбегліся па наваколлі (а магчыма, і далей, пра што сведчаць тапонімыÄsthetics Дручаны, Навадруцк і ім падобныя), а пасля, як мінулася варожае нашэсце, зноў вярнуліся ў родны горад і пачалі яго адбудоўваць, чаму, бясспрэчна, садзейнічала яго выгоднае становішча на адным з важнейшых адгалінаванняў вялікага воднага шляху.

Але вернемся да падзей 1158 г. Чым можна растлумачыць выключную стойкасць дручанаў у барацьбе з кааліцыяй Глебавічаў? Вядома, не толькі тым, што ў выніку перамогі апошніх іх чакала жорсткая расправа за пакрыўджанага імі Глеба Расціславіча. І прычына не ў тым, што Рагвалод Барысавіч быў сваім патомным князем у Друцку. Праз некаторы час ён стане полацкім князем, і дручане з ахвотай без перашкод адпусцяць яго туды. І ў гэтым апошнім трэба шукаць адказ на пастаўленае пытанне. Хоць Полацкая зямля была падзелена на ўдзелы, менавіта яна не страціла адзінства. Праўда, паміж гэтымі ўдзеламі часамі ішла барацьба, аднак яна не была сепаратысцкай, нацэленай на поўную адасобленасць. Гэта была барацьба за дамінуючае становішча ў Полацкай зямлі, што знаходзіла знешняе выяўленне ў дамаганні вялікакняскага полацкага пасада. Як мы ўжо бачылі, Расціслаў Глебавіч, сеўшы ў Полацку, аддаў ва ўладанне ўсе полацкія ўдзелы братам і дзецям. Карыстаючыся іх вялікай падтрымкай, Расціслаў адчуў сваю моц і, па ўсім відаць, выяўляючы найперш інтарэсы Менскага княства, стаў супрацьпастаўляць сябе полацкаму вечу, выходзіць з-пад яго кантролю, што і выклікала нянавісць да яго з боку полацкай верхавіны. Добра ведаючы гэта, дручане і вырашылі выкарыстаць зручны момант, каб узвесці на полацкі пасад свайго стаўленіка, і таму зрабілі ўсё, каб адбіць аблогу Глебавічаў. І іх намаганні не былі дарэмныя. Менавіта Глебавічы, а не Рагвалод,вымушаны былі заключыць мір. «И створише мир Ростислав с Рогволодом»[572],— гаворыць летапіс. Сведчаннем гэтаму з'яўляецца і тое, што Расціслаў пайшоў на ўступку, прыдаўшы Рагвалоду «волости». Не змогшы перамагчы Рагвалода, Расціслаў вырашыў адкупіцца ад яго. Апошняе, паводле меркавання гэтага Глебавіча, павінна было задаволіць Рагвалода і гэтым самым пагасіць яго дамаганні на полацкі пасад.

І хоць мір быў змацаваны «хрэсным цалаваннем», аднак

ён аказаўся надзвычай нетрывалы. Не паспеў Расціслаў вярнуцца ў Полацк, як супроць яго палачане пачалі заводзіць новую змову («свещаша на князя своего»). Яны забыліся на ранейшае «хрэснае цалаванне», паводле якога павінны былі прызнаваць яго сваім князем, з якім ім жыць, не наводзіць на яго ніякіх паклёпаў. Можна думаць, што вяртанне Расціслава ні з чым ды яшчэ ўступка ім пэўнай полацкай тэрыторыі Друцку было галоўнай прычынай новага выбуху нянавісці палачанаў да Расціслава. Таемна ад яго палачане адправілі да Рагвалода Барысавіча сваіх паслоў, якія павінны былі дамовіцца з ім аб умовах яго вяртання на полацкі пасад. Умова фактычна была адна: Рагвалод павінен быў забыцца на тое зло, якое яму прычынілі палачане ў 1151 г. і ў якім яны цяпер раскайваліся, а менавіта, што без усялякай віны паўсталі на яго, разрабавалі ўсю маёмасць яго і яго дружыны і самога яго выдалі Глебавічам на муку. Вось гэтыя словы полацкіх паслоў даюць падставу меркаваць, што ў вяртанні Рагвалода былі зацікаўлены не толькі ранейшыя яго прыхільнікі, але і тыя, хто раней выступаў супроць яго і за Расціслава, але пасля, расчараваўшыся ў апошнім, перайшлі на бок Рагвалода і гэтым самым намнога ўзмацнілі яго партыю. Полацкія паслы нават усю віну за зробленае раней супроць Рагвалода ўсклалі на Глебавічаў[573] і абяцалі выдаць Расціслава ў яго рукі. Рагвалод быў узрадаваны ўсяму сказанаму і абяцаў на ўсё забыцца і зла не памятаць, у чым не толькі «цалаваў хрэст», але і даў пісьмовае запэўненне ў гэтым[574].

Вядома ж, для палачанаў справа была не столькі ў асобе Рагвалода, колькі ў прыцягненні на свой бок Друцка. Добра ўсведамляючы, што з выгнаннем Расціслава Менск і Ізяслаўль стануць варожымі Полацку, яны маглі мець толькі ў асобе Друцка вернага саюзніка, стаўленік якога ўсталюецца на полацкім пасадзе. Апроч таго, палачане прымалі ў разлік і сувязь Друцка са Смаленскам, таму і разлічвалі на дапамогу апошняга, у чым і не памыліліся.

Заручыўшыся згодай Рагвалода і падтрымкай driučanaў, палачане перайшлі да непасрэдных дзеянняў супроць Расціслава. Для гэтага быў выкарыстаны дзень Пятра і Паўла, у які збіраліся ля царквы Святой Багародзіцы на братчыну (так называўся агульны баль у складчыну цэлым горадам ці прыходам на храмавае свята. Гэты звычай захоўваўся да апошняга часу ў многіх месцах). З мэтай схапіць яго на гэтым гарадскім баляванні сюды быў запрошаны і Расціслаў (відаць, звычай патрабаваў і прысутнасці тут князя). Але папярэджаны сваімі прыяцелямі, як сведчыць летапіс[575], ці па сваёй асцярожнасці, паводле тацішчаўскага тэксту[576], ён смела прыехаў, апрануты ў браню пад адзеннем. Вось чаму

завадатары змовы пабаяліся зрабіць на яго замах, і Расціслаў весяліўся разам з усімі, а пасля паехаў у Бельчыцы. Так упершыню летапіс засведчыў існаванне асобнай рэзідэнцыі полацкіх князёў, якая знаходзілася ў Бельчыцах на левым беразе Зах. Дзвіны пры сутоку з ракой Бяльчанкай за два кіламетры ад Верхняга замка, які з'яўляўся крамлём старажытнага Полацка[577]. Такім чынам, полацкі князь жыў не ў горадзе, а пад горадам і ў гэтых адносінах меў поўнае падабенства з наўгародскім князем, які таксама жыў не ў Ноўгарадзе, а каля яго, у Гарадзішчы. Такое супадзенне невыпадковае: як першы, так і другі былі ў поўнай залежнасці ад веча і толькі з яго згоды маглі займаць княскі пасад, што і падкрэслівалася месцазнаходжаннем рэзідэнцыі.

Няўдача першай спробы расправы з Расціславам не спыніла палачанаў, і, ноччу згаварыўшыся, назаўтра раніцай у Бельчыцы былі выпраўлены паслы, якія пачалі «вабити к собе» (гэты выраз — яшчэ адно сведчанне ў карысць таго, што тут мы маем фрагмент Полацкага летапісу) Расціслава, гаворачы яму: «Князю, паедзь да нас, нам з табою трэба пагаварыць, паедзь да нас у горад» (яшчэ адно пацверджанне таго факта, што полацкі князь жыў за горадам). Ён жа ім адказаў: «Я ўчора ў вас быў, чаму вы ні аб чым не гаварылі?» Пасля гэтага Расціслаў без усялякай перасцярогі паехаў да іх «у горад» (зноў сведка полацкага паходжання тэксту). І ўжо калі Расціслаў быў недалёка ад гарадской брамы, выбег яму насустрач дзецкі (у В. Тацішчава — раб), які папярэдзіў Расціслава, каб ён у горад не ехаў, бо сабралася веча і ўжо дружыну (у В. Тацішчава — людзей) яго б'юць і яго самога хочуць забіць. Як бачым, хоць у Расціслава і былі прыхільнікі, але іх было толькі дастаткова, каб папярэдзіць яго аб небяспецы, а не каб абараніць яго. Зразумеўшы, што яго лёс як полацкага князя ўжо вырашаны вечам, ён вяртаецца ў Бельчыцы, сабраўшы сваю дружыну, ідзе ў Менск да брата Валадара (вось гэта і дае падставу лічыць Валадара менскім князем пасля 1151 г., калі Расціслаў стаў полацкім князем).

Як можна меркаваць паводле Іпацьеўскага летапісу, Расціслаў па дарозе ў Менск спустошыў Полацкую воласць, рабаваў скаціну і чэлядзь (у В. Тацішчава сказана, што ён усё гэта рабіў пасля вяртання ў Менск, у саюзе з Валадаром[578]). Такія бясчынствы характарызуюць Расціслава як жорсткага і рашучага чалавека, неразборлівага ў сродках барацьбы са сваімі праціўнікамі. Усё гэта давала сябе знаць і ў час яго знаходжання ў Полацку, што таксама ў дадатак да іншага выклікала непрыязь да яго.

Палачане, для якіх дзеянні Расціслава не былі нечака-

насцю, паслалі па Рагвалода ў Друцк, і 8 ліпеня 1158 г. (паводле Тацішчава) сеў ён на пасад «дзеда свайго і бацькі свайго»[579]. (Гэтыя летапісныя словы яшчэ раз абвяргаюць сцвярджэнне Л. Аляксеева аб Друцку як патомным уладанні Барысавічаў і паказваюць, што Барыс Усяславіч адразу пасля смерці бацькі сеў у Полацку.)

## ПОЛАЦК ІДЗЕ НА МЕНСК І ЦЕРПІЦЬ ПАРАЖЭННЕ

Перад Рагвалодам найперш паўстала задача арганізацыі барацьбы з Глебавічамі. Як і можна было чакаць, ён звярнуўся па дапамогу да вядомага ўжо нам смаленскага князя Расціслава Мсціславіча (ён, дарэчы, быў дзядзькам жонкі Рагвалода), які ахвотна даў войска на чале двух сваіх сыноў — Рамана і Рурыка — і ваяводы Унезда. Хацеў ісці і сам Расціслаў, але яго з невядомай прычыны адгаварыў епіскап Аркадзій, які ў гэты час ішоў з Кіева ў Ноўгарад. Звяртаючыся да Расціслава, Рагвалод разлічваў не толькі на смаленскую дапамогу. Полацкі князь ведаў аб вялікім аўтарытэце Расціслава сярод іншых князёў і яго шырокіх палітычных сувязях, асабліва з Ноўгарадам, і гэта дало свае вынікі: у войску Рагвалода з'явіліся наўгародцы і пскоўцы.

Расціслаў Мсціславіч прыняў блізка да сэрца полацкія справы, вядома, маючы далёкі палітычны прыцэл. Мы ўжо ведаем, што час Расціслава быў часам эканамічнага і палітычнага росквіту Смаленска, што і стварыла яму спрыяльныя ўмовы для экспансіянісцкай палітыкі ў адносінах да суседніх земляў, якія вызначаліся сваёй унутранай палітычнай няўстойлівасцю. Але Смаленск найперш усведамляў сябе этнічна крывіцкім княствам. І вось цяпер, адчуваючы сваю сілу, Смаленск і пачаў выяўляць свае прэтэнзіі на вядучае месца сярод крывіцкіх земляў, што і рабіла яго канкурэнтам Полацка. Цалкам магчыма, што ў гэты час у летапісе і быў занатаваны смаленскі погляд на свой горад як сталіцу крывічоў. Аднак, улічыўшы вопыт свайго бацькі, які імкнуўся адным ударам падначаліць Полаччыну і якому гэта не ўдалося, Расціслаў Мсціславіч вырашыў паступова падначальваць яе сабе. Барацьба Полацка з Менскам і з'явілася зручным выпадкам для Смаленска, каб пашырыць і ўмацаваць свой уплыў у Полацкай зямлі і гэтым самым зрабіць яе залежнай ад сябе. Па ўсім відаць, што к гэтаму часу ў такой залежнасці ад Смаленска ўжо быў Друцк. Нам вядома з падзей 1116 і 1127 гадоў, што ў агульным наступе паўднёвых князёў на Полаччыну смаленскім князям даручаўся ўдар па Друцку. Відаць, к гэтаму часу ён стаў плацдармам для



*Раскопкі на Верхнім замку ў Віцебску*

ўцягвання ў палітычную арбіту Смаленска ўсёй Полаччыны. Вядома, для Полацка гэтыя намеры не былі сакрэтам, і ён адчуваў усю небяспеку смаленскай дапамогі. Але і для гэтага былі свае палітычныя разлікі: з дапамогай Смаленска і іншых земляў уціхамірыць і падначаліць сабе Менск і, умацаваўшыся гэтым самым, выйсці з-пад смаленскай апекі і нават зноў аднавіць свае дамаганні на Смаленск. Як бачым, завязалася тыповая палітычная гульня: хто каго зловіць у пастаўленую пастку. Далейшае пакажа, хто ў гэтай гульні выйграў, а хто прайграў. Але пакуль што з перавагай вёў гульню Смаленск. І. Бяляеў нават выказаў думку, што Расціслаў паслаў свае войскі ў дапамогу Рагвалоду, атрымаўшы ад яго Віцебск і іншыя прыгранічныя гарады[580]. Аднак гэтае меркаванне супярэчыць летапіснаму паведамленню, паводле якога толькі ў 1165 г. у Віцебску стаў княжыць сын Расціслава—Давыд[581]. Праўда, гэта не выключае таго, што да ўказанай даты ў Віцебску мог сядзець іншы князь смаленскага паходжання.

Адзначым яшчэ, што дапамога Расціслава Рагвалоду не была бескарыслівай і ў другім плане: яна абавязала Полацк удзельнічаць у паходзе на Ушчыж. На чале полацкага войска стаяў Усяслаў, якога Густынскі летапіс называе Рагвалодавічам[582], з чаго можна меркаваць, што ён быў сынам Рагвалода.



*Берасцяная грамата, знойдзеная падчас раскопак у Віцебску (з фондаў абласнога краязнаўчага музея)*

Як бачым, супроць Менска ўтварылася цэлая кааліцыя ў складзе палачанаў, смаленцаў, наўгародцаў і пскоўцаў. Аднак гэтае вялізнае войска рушыла не адразу на Менск, а на Ізяслаўль. На жаль, у гістарычнай літаратуры не ставілася пытанне аб тым, навошта было, перш чым ісці на Менск, ісці на Ізяслаўль, тым больш што ён быў не па дарозе, бо знаходзіўся на паўночны захад ад Менска. А між тым адказ на гэтае пытанне вельмі важны для разумення шэрагу фактаў як ранейшай, так і пазнейшай полацкай гісторыі. Справа ў тым, што Ізяслаўскі ўдзел знаходзіўся на сумежжы са Старажытнай Літвой, якая і была саюзнікам Менска, адной з важнейшых крыніц яго вайсковай моцы. Вось менавіта з мэтай адрэзаць Менск ад Літвы і пайшлі войскі на чале з Рагвалодам спярша на Ізяслаўль. У ім князяваў брат Расціслава — Усевалад. Убачыўшы пагрозу, ён з войскам умацаваўся ў горадзе для абароны. Аднак пад націскам вялікай сілы вымушаны быў здацца. Спадзеючыся на вялікую ранейшую дружбу з Рагвалодам, Усевалад паехаў да яго на паклон, але хоць Рагвалод і даў яму мір, аднак у Ізяслаўлі яго не пакінуў і перавёў у Стрэжаў, г. зн. Усевалад фактычна быў узяты ў палон і пасланы пад непасрэдны нагляд Полацка. Як бачым, палітычныя інтарэсы ўзялі верх над сяброўскімі пачуццямі. І гэта зразумела. Пакінуць Ізяслаўль у руках Глебавічаў — гэта азначала па-ранейшаму пакінуць для Менска важны канал умацавання яго вайсковай сілы. І таму Ізяслаўль быў аддадзены Брачыславу, паколькі, магчыма, гэта была яго вотчына. Незразумела, на якой падставе М. Доўнар-Запольскі і В. Данілевіч называлі яго Васількавічам[583], у летапісе яго імя па бацьку не ўказана[584]. Вось чаму яго нельга ўпэўнена атаясамліваць з віцебскім князем Брачыславам Васількавічам, які ўпамінаецца пад 1180 г. Магчыма, гэта той ізяслаўскі князь Брачыслаў, які ў 1127 г. быў узяты кіеўскім войскам паміж Ізяслаўлем і Лагожскам у

палон, што і дае падставу лічыць Ізяслаўль яго ўдзелам.

Толькі паставіўшы ў Ізяслаўлі свайго надзейнага князя і гэтым самым будучы ўпэўненым, што Менск адрэзаны ад Літвы, Рагвалод вырашыў непасрэдна ісці на Расціслава. Але, відаць, беспаспяхова прастаяўшы 10 дзён пад Менскам, Рагвалод заключыў мір з Расціславам, на чым і цалавалі крыж. У летапісе не ўказана, на якіх умовах быў ён дасягнуты. Можна думаць, што Расціслаў абавязаўся не нападаць больш на Полацк і не дамагацца яго, а таксама не выганяць Брачыслава з Ізяслаўля. Такое меркаванне змушаюць зрабіць далейшыя, вельмі важныя для нас летапісныя паведамленні. Найперш гэта аб тым, што Валадар Глебавіч не згадзіўся цалаваць крыж і «ходяше под Литвою в лесех»[585]. Мы звяртаем асаблівую ўвагу на гэты выраз, бо ён яскрава паказвае месцазнаходжанне Старажытнай Літвы па суседству з Менскім княствам, што ў свой час заўважыў і А. Насонаў[586]. Адмовіўшыся мірыцца, Валадар пачаў збіраць сілы для барацьбы з Рагвалодам, шукаючы іх у традыцыйным для Менска месцы — у суседняй Літве. Гэты факт пралівае святло і на характар дзеянняў Глеба Менскага, шырокія палітычныя планы якога грунтаваліся і на чэрпанні сіл з Літвы, аб чым можа сведчыць яго набег на Новагародскую (Наваградскую) зямлю.

Аднак дзеянням Глебавічаў па прыцягненні ў сваё войска літвы не магло не перашкаджаць знаходжанне стаўленікаў Рагвалода ў Ізяслаўлі, якія, вядома, аб усіх падрыхтаваннях Глебавічаў паведамлялі ў Полацк. Вось чаму, паводле В. Тацішчава[587] і Васкрасенскага летапісу[588], Глебавічы ў 1159 г. пайшлі на Ізяслаўль, раптоўна яго ўзялі і, князёў Валодшу і Брачыслава схапіўшы, усадзілі Валодшу ў поруб, а Брачыслава закаванага трымалі. Як бачым, апроч Брачыслава ў Ізяслаўлі быў пасаджаны і Валодша, пра паходжанне якога мы таксама нічога не ведаем, як і пра Брачыслава. У 1180 г. у летапісе будзе ўпамінацца Андрэй Валодшыч, магчыма, сын гэтага Валодшы. Выключна жорсткае абыходжанне з Валодшам і Брачыславам было ў звычаях Глебавічаў, якія ў свой час не менш сурова абыходзіліся і з Рагвалодам. Адначасова гэта падкрэслівае тое вялікае значэнне, якое прыдавалі Глебавічы Ізяслаўлю, валоданне якім адчыняла ім дарогу ў Літву. Факт адначасовага знаходжання ў Ізяслаўлі і Брачыслава і Валодшы можа сведчыць, што ў Полацкай зямлі былі нярэдкія выпадкі князявання ў адным і тым жа ўдзеле двух князёў.

Дзеянні Глебавічаў яўна дэманстравалі сілу Менска, што па-ранейшаму не магло не трывожыць Полацк, і таму пацягнулі за сабой у 1160 г. новы паход на іх Рагвалода. Смаленскі

князь Расціслаў к гэтаму часу ўжо стаў кіеўскім князем, але аб інтарэсах сваёй зямлі не забываўся і таму ў дапамогу войску Рагвалода даў 600 торкаў на чале з Жыраславам Няжыравічам (у В. Тацішчава апошні паказаны на чале смаленскага войска, асобнага ад торкаў[589]). Праўда, торкам не пашчасціла: коні іх падохлі ад голаду (гэта можа ўказаць, што паход адбываўся зімою), і яны вымушаны былі, не дачакаўшыся міру, ісці дадому пехатою. Такая акалічнасць, відаць, і была прычынай, што аблога Менска зацягнулася і працягвалася шэсць тыдняў, на працягу якіх горада, як і ў папярэдні раз, не ўдалося ўзяць. Тым не менш Рагвалод стварыў мір па сваёй волі. Мы не ведаем усіх вынікаў яго, апроч аднаго, што Рагвалод выстаяў Валодшу з поруба, а Брачыслава з жалезаў. Такія клопаты за лёс гэтых людзей могуць указваць на тое, што яны маглі быць сынамі Рагвалода і ўжо ні ў якім разе сынамі Валадара Глебавіча, як лічыў В. Тацішчаў[590]. З чаго б тады Глебавічам так патрэбна было з імі абыходзіцца жорстка? Застаецца няясным, ці зноў былі пасаджаны Валодша і Брачыслаў у Ізяслаўлі, ці былі забраны Рагвалодам і пасаджаны ў іншых месцах.

Мы не ведаем, што паслужыла зачэпкай для яшчэ аднаго паходу Рагвалода на Менск у 1161 г., хоць прычына ясная: Полацк не мог быць спакойны, ведаючы пра сілу свайго суперніка, і таму зрабіў яшчэ адну спробу зламаць яго. Аднак інфармацыя аб гэтым паходзе ў летапісе вельмі скупая: яна зарэгістравала толькі факт паходу, а таксама заключэнне міру і вяртанне Рагвалода «восвояси». Але аб выніках нам нічога не вядома. Бясспрэчна, што паход не меў поспеху, бо праз год зроблены быў яшчэ адзін.

Аднак ён ужо быў накіраваны не супроць Расціслава, а супроць Валадара. Паводле Іпацьеўскага летапісу, Рагвалод з палачанамі пайшоў на Валадара «к Городцю»[591], што і дало магчымасць шэрагу гісторыкаў гаварыць аб наяўнасці ў Полацкай зямлі горада з такой назвай, яго ўдзеле і Валадару як гарадзецкім князю. Аднак даследчыкі па-рознаму лакалізавалі гэты горад: на месцы сучаснага Гарадка на р. Зах. Бярэзіна (цяпер Маладзечанскі р-н), другія атаясамлівалі яго з Гарадком (цяпер райцэнтр Віцебскай вобл.), трэція — з Гарадком паміж Лепелем і Чашнікамі, іншыя — з Сёмкавым і Астрашыцкім Гарадкамі каля Менска, з Гарадзеяй (Нясвіжскі р-н), Гарадзішчам (Баранавіцкі р-н), Гарадком (Шаркоўшчынскі р-н). Аднак археалагічныя даследаванні не пацвердзілі гэтыя меркаванні[592], і таму існаванне Гарадца і яго ўдзелу выклікае сумненні. Найперш трэба ўказаць на тое, што ў Хлебнікаўскім спісе Іпацьеўскага летапісу замест «к Городцю» чытаецца «к городу»[593]. І гэта

разыходжанне насцярожвае. Яшчэ больш прасвятляецца справа, калі мы параўноўваем гэта месца летапісу з адпаведным у В. Тацішчава, у якога замест Гарадца фігуруе Менск: «Рохволд князь полотский ходил с войском к Минску на Володаря Глебовича и, пришед, стал близ Минска»[594]. Наўрад ці можна гаварыць, што В. Тацішчаў памылкова замяніў Гарадзец на Менск[595]. Мы ўжо ведаем, што паходы Рагвалода ў 1159, 1160 і ў 1161 гадах былі накіраваны, як паказваюць летапісы, на Расціслава, але паход 1162 г. накіраваны на Валадара, і Расціслаў болей не з'яўляецца на старонках летапісу, што можа ўказваць на яго смерць ці гібель, і таму заканамерна, што яго пасад перайшоў Валадару, супроць якога і пайшоў Рагвалод. Усё гэта паказвае, што запіс у «Гісторыі Расійскай» Тацішчава[596] заслугоўвае большай веры, і таму мы можам больш упэўнена гаварыць, што ні Гарадца, ні яго ўдзела ў Полацкай зямлі не было, і таму Валадар не быў гарадзецкім князем[597]. У святле гэтага бачна памылковасць сцвярджэння В. Данілевіча, які гаварыў, што Рагвалод, нібыта ўбачыўшы беспаспяховасць барацьбы з усімі Глебавічамі, рашыў змагацца з імі па адным, і таму перш за ўсё ён пайшоў на Валадара, што княжыў у Гарадцы[598]. Па ўсім відаць, Валадар пасля смерці Расціслава і высылкі Усевалада ў Стрэжаў застаўся адзіным прадстаўніком Глебавічаў, з якімі прыйшлося мецць справу Рагвалоду.

Як паказвае далей летапіс, Валадар не прыняў бою (ці, як сказана ў летапісе, «не дал полку»), які навязваў яму Рагвалод днём, а выступіў супроць яго ноччу, што вырашыла вынікі бою ў карысць менскага князя. Многія палачане былі пабітыя, але яшчэ болей іх было ўзята голымі рукамі ў палон. Аднак самае важнае, што заслугоўвае тут асаблівай увагі, дык гэта тое, што войска Валадара цалкам складалася з літвы («выступи... из города с литьвою»)[599]. Гэта, па-першае, зноў непасрэдна паказвае, што Старажытная Літва знаходзілася па суседству з Менскам і, па-другое, што яна была адной з асноў магутнасці Менска. Адсюль становіцца асабліва зразумелым, для чаго ў 1158 г. Валадар хадзіў у лясах пад Літвою. Відаць, сувязі Менска з ёю былі трывалыя, яны мелі ўжо сваю даўнюю традыцыю, што знітавала інтарэсы Менска і Літвы ў адзінае цэлае, аб чым найперш і сведчаць падзеі 1162 г.

Разгром полацкага войска вырашыў лёс Рагвалода: убачыўшы сумныя вынікі свайго паходу, ён ужо не пасмеў ісці ў Полацк, дзе народ быў раз'юшаны з выпадку вялікіх страт ля Менска, і пабег у Слуцк, дзе, правёўшы тры дні, пайшоў княжыць у Друцк. Як бачым, тут ізноў упамінаецца Слуцк. Хоць ад Менска да гэтага горада не так і далёка, але наўрад




*Знаходкі археолага Л. Калядзінскага пры раскопках старажытнага Слуцка. XII ст. Шахматныя фігуры (косць): а — кароль, б — ладдзя, в — слон,*

ці бег бы сюды Рагвалод пасля паражэння і ці змог бы зноў там на працягу трох дзён знесціся з driучанамі, каб атрымаць іх згоду на княжанне. Відаць, у той час быў яшчэ адзін Слуцк. Дарэчы, у Гомельскім р-не ёсць рэчка Случ-Мільча[600]. Зараз цяжка сказаць, чаму Друцк прыняў пераможанага князя. Відаць, нягледзячы на сумныя яго абставіны, ён усё ж быў даволі значнай палітычнай постаццю, і для Друцка з'яўлялася ў пэўнай ступені гонарам мець яго за свайго князя. Далейшы лёс Рагвалода нам невядомы. Толькі камень (ён знаходзіўся недалёка ад Коханава і па-варварску быў знішчаны ў 1934 г.), на якім 3 мая 1171 г. (г. зн. праз 9 гадоў пасля паражэння пад Менскам) быў зроблены надпіс, аналагічны надпісам на Барысавых камянях, які засведчыў, што ў гэты дзень Рагвалод павінен быў уступіць у нейкі рашаючы момант свайго жыцця. Але які ён быў для лёсу гэтага князя, застаецца невядомым. Сляды Рагвалода пасля 1171 г. у гісторыі губляюцца. Паколькі гэты камень засведчыў хрысціянскае імя Рагвалода — Васілій, то мы можам смела атаясамліваць яго з тым княжычам Васіліем, які разам з Іванам вярнуўся ў 1140 г. на радзіму з Візантыі.

## МЕНСК ІДЗЕ НА ПОЛАЦК І ЦЕРПІЦЬ ПАРАЖЭННЕ

Паколькі Рагвалод не вярнуўся назад, то ў Полацку стаў князем Усяслаў Васількавіч. Традыцыйна лічыцца, што ён быў сынам Васілька Святаславіча, які ў 1132 г. стаў полацкім




*г — жалезны кісцень, д — бронзавая булава,*
*е — бурштынавы амулет, ж — керамічная міска*

князем, а пасля вяртання з Візантыі двух полацкіх князёў, магчыма, быў пазбаўлены палачанамі полацкага пасада. Аднак такой генеалогіі Усяслава Васількавіча безагаворачна мы прымаць не можам. Справа ў тым, што ён мог з'яўляцца і сынам Рагвалода, хрышчонае імя якога было Васіль, тым больш, як мы ведаем, Густынскі летапіс пад 1159 г. называе Усяслава Рагвалодавіча. Відаць, гэта мелі на ўвазе Карамзін і Пагодзін, калі яны лічылі Усяслава сынам Васілька Рагвалодавіча, паколькі бацька апошняга Барыс Усяславіч меў княскае імя Рагвалод, як засведчыў Густынскі летапіс. Праўда, цяжка меркаваць, каб палачане пасля разгрому Рагвалода маглі ўзвесці на свой пасад яго сына. І ўсё ж гэту акалічнасць трэба мець на ўвазе. Існуе думка, што да Полацка Усяслаў Васількавіч быў князем у Віцебску. В. Данілевіч абгрунтоўвае гэта тым, што пасля з'яўлення Усяслава на полацкім пасадзе Віцебск пераходзіць да яго саюзніка Давыда Расціславіча[601]. Аднак Усяслаў стаў полацкім князем у 1162 г., а Давыд віцебскім — у 1165 г. Хто ж гэтыя тры гады князяваў у Віцебску?

Калі сапраўды Усяслаў быў сынам Васілька Святаславіча, то з'яўленне яго на полацкім пасадзе азначала, што полацкае веча па-ранейшаму прадаўжала маніпуляваць княскімі родамі і выбірала сярод іх тых, якія сваімі сувязямі

маглі прынесці больш выгады Полацку. Выбранне Усяслава сведчыла аб далейшым паглыбленні смаленскага ўплыву на полацкія справы. І гэта заканамерна. Паражэнне Рагвалода пад Менскам у 1162 г. ясна паказала, што Менск не зломлены, што яго князь, рашучы Валадар, які з усіх Глебавічаў найбольш унаследаваў энергію свайго бацькі, не адмовіцца ад спробы заняць полацкі пасад, а гэтым самым забяспечыць Менску дамінуючае месца ў Полаччыне. І таму патрэбна было шукаць вернага саюзніка ў барацьбе, якая немінуча набліжалася. Такім саюзнікам мог быць толькі Смаленск. Але саюз з ім патрабаваў ахвяр. І такой ахвярай стаў Віцебск. Хоць, як слушна адзначыў М. Доўнар-Запольскі, летапісны запіс пад 1165 г. «Давид Ростиславич седе витебьски»[602] яшчэ не ўказвае зусім на заняцце Давыдам віцебскага пасада, а толькі ўсяго на валоданне ім[603], тым не менш з'яўленне тут смаленскага князя было паказальным у сэнсе павелічэння смаленскага ўплыву ў Полаччыне. Асабліва гэта становіцца відавочным, калі ўспомніць, што ў 1116 г. да Смаленска адышлі Орша і Копысь, а пазней яўна выявілася збліжэнне са Смаленскам Друцка. Такім чынам, смаленская палітыка паступовага ўцягвання Полацка ў сваю палітычную сферу выступала ў даволі дзейнай стадыі. Аднак мы яшчэ раз падкрэслім: Полацк свядома ішоў на дапушчэнне ў Віцебск Давыда як на часовы кампраміс, неабходны пры тагачасных неспрыяльных унутрыпалітычных абставінах у Полаччыне. Вось чаму нельга пагадзіцца з Л. Аляксеевым, які лічыць 1165 г. датаю пачатку паступовага палітычнага распаду Полацкай зямлі[604]. Па-першае, калі гаварыць аб палітычным распадзе Полацкай зямлі, то, маючы на ўвазе з'яўленне ў ёй удзелаў, ён пачаўся значна раней, у пачатку XII ст. Па-другое, калі маецца на ўвазе сітуацыя з Віцебскам (а гэта менавіта так), то, як адзначалася вышэй, тут толькі было з'яўленне смаленскага князя, а не перадача Смаленску Віцебска. У гэтым і заключалася ўся тонкасць полацкай дыпламатыі: дапускаючы першае, не дапускаць другога.

Але мы ўжо трохі забеглі наперад. Пад 1162 г. з летапісу мы даведваемся аб паходзе шэрагу князёў на Слуцк. Пра няясныя для нас абставіны гэтай падзеі мы будзем гаварыць яшчэ. Тут жа нас найбольш цікавіць удзел у гэтай кааліцыі «крыўскіх князёў»[605]. Пайменна яны не ўказаны, і вось В. Данілевіч, а за ім і Л. Аляксееў лічаць, што пад крыўскімі князямі летапісец разумеў Глебавічаў — менскіх князёў. Наогул кажучы, назва крыўскіх адносіцца да ўсіх полацкіх князёў, на што ўказвае Іпацьеўскі летапіс пад 1140 г.: «Мстислав... посла по Кривитьстей князе: по Давида, по

Расціслава, по Святослава и Рогволодичи два...»[606] Аднак у дадзеным выпадку пад крыўскімі князямі сапраўды трэба разумець менскіх князёў, бо цяжка ўявіць, каб Полацк пасля такога паражэння, якое ён пацярпеў пад Менскам, мог паслаць свае войскі пад Слуцк. Іншая справа — Менск, які атрымаў трыумфальную перамогу і цяпер мог з той жа літвой пайсці без перадыху ў новы паход. Паколькі Слуцкі ўдзел знаходзіўся па суседству з Менскім, то можна думаць, што Глебавічы далучыліся да паходу не толькі па прычыне нейкай саюзніцкай умовы, але і маючы на мэце свае ўласныя інтарэсы. Нельга забывацца, што заваяванне Слуцка з'яўлялася адной з галоўных мэт яшчэ Глеба Менскага, і яна, па ўсім відаць, не была забытай для Валадара. На жаль, крыніцы не данеслі да нас ніякіх звестак аб выніках гэтага паходу для Менска.

Але для Валадара як менскага князя па-ранейшаму галоўнай задачай з'яўлялася вяртанне Менску таго дамінуючага значэння, якое ён займаў у Полацкай зямлі ў 1151—1158 гг. Аднак Валадару спатрэбілася цэлых пяць гадоў, каб сабраць патрэбныя сілы для вырашальнага наступу на Полацк. Вядома, не выключана, што і некаторыя справы і падзеі, што не адбіліся на старонках летапісу, затрымлівалі паход Валадара на Полацк. Але, як бы там ні было, у 1167 г. ён рушыў на Полацк. Хоць у летапісе пра гэта непасрэдна не сказана, але можна па некаторых дэталях меркаваць, што і цяпер, як і ў 1162 г., у галоўнай сваёй масе яго войска складалася з «літвы». У сувязі з гэтым будзе цікава адзначыць, што ў В. Тацішчава Валадар пад 1167 г. названы князем ізяслаўскім[607], г. зн. князем удзела, які непасрэдна межаваўся з Літвой дый займаў пэўную частку яе. Усяслаў Васількавіч, даведаўшыся аб дзеяннях Валадара, выступіў супроць яго. Валадар жа ў сваю чаргу вырашыў не даць магчымасці Усяславу сабраць усе свае сілы, раптоўна напаў на яго, у выніку чаго многія з полацкага войска былі забіты або ўзяты ў палон. Усяславу не заставалася нічога іншага, як бегчы ў Віцебск да свайго саюзніка Давыда Расціславіча. Такім чынам, для Валадара шлях на Полацк быў беспераашкодна адчынены, і ён дасягае сваёй мэты: узыходзіць на полацкі пасад, дзе па заведзеным звычаі заключыў з палачанамі (г. зн. з вечам) умову, змацаваўшы яе хрэсным цалаваннем. Як бачым, полацкае веча цаніла сілу і схілялася перад ёй, праўда, не забываючыся пра свае інтарэсы. Факт заняцця Валадаром полацкага пасада яшчэ раз засведчыў тое, што ў 50—60-я гг. XII ст. у Полаччыне ішла не сепаратысцкая барацьба за выдзяленне паасобных удзелаў, у прыватнасці Менскага, з-пад улады Полацкага, а барацьба за дамінуючае становішча ў зямлі паасобных удзелаў.

Калі б гэта было не так, то Валадар, разбіўшы Усяслава, не садзіўся б у Полацку і не ішоў бы на Віцебск, а вярнуўся б у свой Менск (ці Ізяслаўль), будучы спакойным, бо разбіты Усяслаў не здолеў бы ісці на яго ўдзел. Але Валадар, сеўшы ў Полацку, не мог быць упэўнены ў трываласці свайго становішча, ведаючы, што ў Віцебску Усяслаў мог абаперціся на сілы свайго швагра Давыда, і таму адразу рушыў туды і, умацаваўшыся на Дзвіне, вырашыў даць бой. Але Давыд, хоць і чакаў нападу Валадара, ухіліўся ад бою, бо чакаў дапамогі брата Рамана са смаленцамі. І вось тут вайсковае шчасце здрадзіла Валадару. Ноччу падышла навальніца, ударыў пярун, узняўся вецер і стварыўся нейкі шум. І вось войска Валадара, якое, відаць, складалася з літвінаў-язычнікаў, убачыла ў гэтым благі знак, у страху прыняло незразумелы для іх шум за набліжэнне войска Рамана (значыць, было вядома, што Раман павінен прыйсці на дапамогу Давыду) і, баючыся трапіць у акружэнне Давыда і Рамана, пачало ўпрошваць Валадара адысці, што ён і зрабіў. Назаўтра Давыд быў здзіўлены, убачыўшы, што Валадар нечакана адступіў, і пусціўся наўздагон за ім. І хоць дагнаць Валадара не ўдалося, затое шмат было злоўлена яго воінаў, якія заблудзіліся ў лесе[608]. Паводле В. Тацішчава, Валадар, адступаючы, не пайшоў у Полацк, а абмінуў яго, пасля чаго Усяслаў паехаў у Полацк[609]. У Іпацьеўскім летапісе сказана, што яго паслаў туды Давыд[610]. У В. Тацішчава адзначана, што апавяданне пра гэту гісторыю не заканчвалася, яно мела працяг у т. зв. галіцынскім манускрыпце, але заканчэнне яго пасля слоў «поехал Всеслав в Полоцк. Он же...» было страчана[611].

Што ж паказалі полацкія падзеі 1167 года? Паражэнне Менска ў барацьбе за гегемонію ў Полацкай зямлі не было выпадковае. Калі ў 1162 г. з дапамогай Літвы можна было на месцы ў абароне атрымаць перамогу, то яе недастаткова было пры наступленні ўдалечыні. Нават каб не было прыкрага здарэння з начной навальніцай, войска Валадара ўсё роўна не змагло б адолець злучаныя сілы Давыда і Рамана. Паход Валадара на Полацк і Віцебск з'явіўся бліскучым, але апошнім успляскам сілы і славы Менска, бо пасля гэтага ён надоўга знікае са старонак нашай гісторыі. Віцебскае паражэнне, па сутнасці, паклала канец і гістарычнай дзейнасці Валадара Глебавіча, які сваё жыццё прысвяціў прадаўжэнню справы бацькі і старэйшага брата Расціслава — далейшаму ўмацаванню і росквіту сваго вотчыннага Менска.

# ПРАЗ МІЖУДЗЕЛЬНЫ ЛАБІРЫНТ ДА АДЗІНСТВА

Разлік Полацка на дапамогу Смаленска ў барацьбе з Менскам поўнасцю апраўдаўся: найбольш моцны і небяспечны праціўнік унутры зямлі быў зломлены. Гэтым самым была вырашана першая важная гістарычная задача, пастаўленая перад Полацкам у той час. Дасягнуўшы гэтага, Полацк мог прыступіць да вырашэння другой такой жа важнай задачы — вызвалення з-пад смаленскага ўплыву. Але шлях да гэтага быў яшчэ больш цяжкі і яшчэ больш пакручасты. Ён паранейшаму ішоў праз удзел Полацка ў розных міжкняскіх кааліцыях. Самым важным фактам у рускай гісторыі сярэдзіны XII ст. было ўзвышэнне Растова-Суздальскай зямлі — ядра будучай Велікаросіі. Менавіта Андрэй Багалюбскі, як гэта прызнае гістарычная навука, і быў, па сутнасці, першым сапраўдным велікарускім князем, які першы ўбачыў вялікую ролю Растова-Суздальскай зямлі ў будучым і з якой ён непасрэдна звязаў свой лёс. Андрэй Багалюбскі добра разумеў, што галоўнай умовай узвышэння і ўмацавання роднай зямлі было падначаленне яго ўладзе Кіева і Ноўгарада — старажытных палітычных цэнтраў Русі. Барацьбе з імі Андрэй Багалюбскі і надае галоўную ўвагу. У гэту справу яму ўдаецца ўцягнуць іншыя землі, у тым ліку Смаленскую і Полацкую.

І. Бяляеў [612], В. Данілевіч[613], Л. Аляксееў [614] удзел Полацка ў рускіх міжусобіцах паказваюць толькі як вынік залежнасці Полацка, які быў нібыта падручным Смаленска. Вядома, адмаўляць уплыў Смаленска на дзеянні Полацка нельга, але нельга ігнараваць і самастойныя мэты Полацка ў яго ўдзеле ў міжкняскіх усобіцах. Гэта асабліва добра бачна, калі мы паглядзім, у кааліцыі супроць каго выступаў Полацк. Так, усё ў тым жа 1167 г. палачане разам са смаленцамі і суздальцамі на чале з Андрэем Багалюбскім вядуць вайсковыя дзеянні супроць Ноўгарада, які, як нам добра вядома, быў даўнім праціўнікам Полацка. Таму зразумела, што аслабленне яго ў той ці іншай меры было ў інтарэсах палачанаў. Праўда, вярнуць у Ноўгарад прагнанага адтуль Святаслава Расціславіча, брата смаленскага князя Рамана (што з'явілася зачэпкай для наступлення на Ноўгарад), не ўдалося. З летапісу не відаць, каб Полацк панёс вялікія страты ў гэтай кампаніі. Але для нас тут асабліва цікавы адзін эпізод. У летапісе сказана, што палачане і смаленцы «пути заяша і послы изьмаша Новгородчкыя вседе и вести не дадуше Кыеву»[615]. Сапраўды, толькі смаленцы і палачане маглі з прычыны свайго геаграфічнага становішча адрэзаць



*Полацк. Спаская царква Ефрасіннеўскага манастыра. XII ст. (рэканструкцыя П. Рапапорта і Г. Штэндара)*

Ноўгарад ад Кіева. Гэтым і тлумачыцца, чаму раней Кіеў моцна трымаў у сваіх руках Смаленск і імкнуўся падначаліць Полацк. Але далей у летапісе гаворыцца, што Ноўгарад наладзіў сувязь з Кіевам дзякуючы Вячку і Валадару («И нам даще собе и на Вячко и на Володаря»). І В. Данілевіч[616], і Л. Аляксееў[617] лічаць іх Глебавічамі. Каментатары Наўгародскага І летапісу называюць Валадара чамусьці Уладзімірам (хоць гэта розныя імёны) Глебавічам, сынам Глеба Усяславіча[618]. Не будзем пакуль што гаварыць пра Валадара, ён нам добра вядомы. Што да Вячкі, то ў «Житии Евфросиньи Полоцкой» сапраўды ўпамінаецца брат гэтай святой Вячаслаў[619], які быў сынам Святаслава Усяславіча. Дзе княжаваў Валадар, мы ведаем: у Менску ці Ізяслаўлі. Але месца княжання Вячаслава нам невядома. Аднак па сэнсу летапіснага тэксту і Валадар і Вячаслаў павінны былі знаходзіцца дзесьці па суседству або нават у адным месцы, бо інакш яны не маглі ўзгоднена знайсці і паказаць шлях наўгародскаму атраду ў Кіеў. Патаемныя шляхі, вядомыя толькі вузкаму колу мясцовых жыхароў, былі, і прайсці па іх незаўважанымі можна было. Вось па адным з такіх шляхоў і былі праведзены наўгародцы. Што да Валадара, калі гэта сапраўды быў Глебавіч, то ён, вядома, быў зацікаўлены, каб нашкодзіць Полацку, якім яму не ўдалося завалодаць. Відаць, нечым пакрыўджаны на палачанаў быў і Вячка, калі ён стаў іх ворагам. Пры гэтым трэба звярнуць увагу на тое,



*Спаса-Ефрасіннеўская царква.*
*Сходы, што вялі ў келлю Ефрасінні*

што ў летапісе першым названы ён, што дае падставу лічыць яго ініцыятарам гэтай справы, якому ўдалося, відаць, без вялікай цяжкасці зрабіць сваім саюзнікам Валадара. Аднак гэтыя летапісныя звесткі вельмі скупыя, і мы не можам з упэўненасцю сцвярджаць, што тут мы маем справу з Валадаром Глебавічам і Вячаславам Святаславічам.

Што Полацк адыграў далёка не падручную ролю ў барацьбе з Ноўгарадам у 1167 г., сведчыць паход наўгародцаў у саюзе з пскоўцамі на яго, у выніку чаго была «пожгоша волость». Аднак наўгародцы да самога Полацка не дайшлі, павярнуўшы ад яго за 30 вёрст[620] ад Неклача, як лічыць Л. Аляксееў[621]. Кідаецца ў вочы тое, што Смаленск у дадзеным выпадку не прыйшоў на дапамогу Полацку, як і апошні не прыйшоў на дапамогу Смаленску, калі неўзабаве наўгародцы напалі на Тарапец, спалілі яго, а таксама «голов множество положили».

Праблематычным з'яўляецца пытанне пра ўдзел палачанаў у паходзе на Кіеў, які паводле Наўгародскага I летапісу адбыўся ў 1168 г., а паводле Іпацьеўскага — у 1170—1171 гг. Справа ў тым, што калі ў першай з гэтых крыніц мы знаходзім палачанаў побач з суздальцамі, смаленцамі, мурамцамі і разанцамі, то ў другой, хоць пералік значна большы і падрабязны, палачанаў мы не знаходзім. Не знаходзім мы



*Полацк. Спаская царква. Фрэскі XII ст.*

іх і ў тым месцы гэтай крыніцы, дзе гаворыцца аб страшэнным варварстве і гвалце, якія былі ўчынены ў Кіеве пасля яго ўзяцця смаленцамі, суздальцамі і чарнігаўцамі[622]. Усё гэта можа гаварыць за тое, што калі палачане і ўдзельнічалі ў гэтай кааліцыі, то ў нязначнай колькасці, якую нават не заўважыў кіеўскі летапісец, хоць аб складзе гэтага шматлікага войска меў добрае ўяўленне. Хочам яшчэ звярнуць увагу вось на што. У Ніканаўскім летапісе ў адрозненне ад Наўгародскага I замест палачанаў мы знаходзім літву[623]. Як вядома, першая крыніца больш позняя, яна складалася ў XVI ст., калі паняцце аб палачанах забылася і складальнік зводу замяніў іх больш зразумелым для таго часу паняццем «літва», паколькі тэрыторыя Полацкага княства цалкам увайшла ў склад Вялікага княства Літоўскага. Гэта адзін з прыкладаў таго, як трэба асцярожна адносіцца да звестак, пачэрпнутых з пазнейшых летапісаў, аб так званых літоўскіх набегах, пад якімі зачастую хаваліся набегі палачанаў. Але пра гэта ў далейшым у нас будзе больш падрабязная гаворка.

Зімою 1169 г. палачане яшчэ раз удзельнічалі ў паходзе, які зноў быў арганізаваны Багалюбскім і ў якім мы знаходзім суздальцаў, смаленцаў, тарапчанаў, мурамцаў, разанцаў. Палачане тут названы апошнімі («и полочкыя князь с полочаны»[624]). Гэта акалічнасць можа ўказваць на невялікую колькасць іх.

Наўгародцы добра разумелі смаленскую пагрозу, якая навісла над іх воляю: узяўшы Кіеў, Андрэй Багалюбскі вырашыў узяць і Ноўгарад. Таму наўгародцы ўпарта змагаліся



*Віслая пячатка Ефрасінні Полацкай (волава)*

і здабылі перамогу 25 лютага 1169 г. Летапісец адзначыў вялікую колькасць забітых суздальцаў[625]. Пра страты іншых удзельнікаў, у тым ліку і палачанаў, у летапісе не ўказана.

Бачым мы палачанаў і ў паходзе Андрэя Багалюбскага на Кіеў у 1174 г., выкліканага імкненнем выгнаць непакорных Расціславічаў з Паўднёвай Русі. Летапіснае сведчанне, што Андрэй Багалюбскі «полотьским князем пойти повеле всем»[626], ясна паказвае, што палачане вымушаны былі лічыцца з сілаю суздальскага дыктатара. Але для нас асабліва важна падкрэсліць загад Багалюбскага ўсім полацкім князям, што не можа не ўказваць на іх поўнае адзінства. І гэта, як убачым, асабліва яскрава выявіцца ў 1180 г. Заўважым таксама, што ў гэтым (дарэчы, няўдалым) паходзе ўдзельнічалі тураўскія і пінскія князі. Такім чынам, тут прысутнічалі сілы амаль усёй Беларусі. Калі б мы былі цвёрда ўпэўнены, што пад гарадзенскімі князямі, якія таксама тут былі, трэба разумець гродзенскіх, то сюды трэба было б дадаць і іх.

Летапіс пад 1175 г. занатаваў факт выдання замуж дачкі Усяслава Васількавіча (імя яе засталося невядомым) за аднаго з суздальскіх князёў Яраполка Расціславіча, унука Юрыя Даўгарукага. Цікава, што тут Усяслаў названы віцебскім князем[627]. На падставе гэтага В. Данілевіч выказаў меркаванне, што палачане, незадаволеныя прасмаленскай палітыкай Усяслава Васількавіча, пазбавілі яго полацкага пасада, і ён вымушаны быў ісці ў Віцебск[628]. Але наўрад ці так было, бо пад 1178 і 1180 гг. мы бачым Усяслава полацкім князем. Хутчэй за ўсё, што летапісец дапусціў тут недакладнасць, назваўшы яго віцебскім князем. Найбольшая каштоў-



*Абразок «Канстанцін і Алена» з Полацка. XII ст.*

насць гэтага летапіснага сведчання для нас у тым, што яно гаворыць пра імкненне Полацка паглыбіць сувязі з Суздальскай зямлёй як важнейшым фактарам тагачаснай рускай гісторыі і на падставе іх палепшыць сваё палітычнае становішча, што, як убачым, і дасць свае станоўчыя вынікі.

А пакуль што Полацк атрымліваў карысць са свайго саюзу са Смаленскам, што і пацвердзілі падзеі 1178 г., калі наўгародцы намовілі свайго князя Мсціслава ісці на каго-небудзь, каб на чале з ім, такім адменным у вайсковай справе, сваю храбрасць паказаць, як занатавана ў В. Тацішчава[629]. Паколькі іншых непрыяцеляў не знайшлося, то ўспомнілі ранейшыя крыўды полацкія, а менавіта тое, што некалі (у 1066 г., г. зн. 110 гадоў назад) дзед сучаснага Усяслава — славуты Усяслаў Чарадзей — напаў на Ноўгарад і цэлы пагост завёў у сваю зямлю і ў дадатак абрабаваў Сафійскі сабор. І вось цяпер наўгародцы рашылі адпомсціць за гэта палачанам і вярнуць назад забранае[630]. Але гэта была толькі зачэпка, пад якой хавалася больш глыбокая прычына, а менавіта: адбіць Полацк ад саюзу са Смаленскам, што, вядома, не было ў інтарэсах апошняга. Вось чаму, калі Раман Сма-



*Малюнак, выяўлены на сцяне Дабравешчанскай царквы (XII ст.) у Віцебску пры раскопках у 1972 г.*

ленскі даведаўся, што наўгародскае войска прыйшло ўжо ў Вялікія Лукі, паслаў у Полацк на дапамогу свайго сына Мсціслава, а да наўгародскага князя — сваіх баяраў сказаць яму, што калі ён пойдзе на Усяслава, то будзе мець справу са Смаленскам (звернем увагу, што Мсціслаў Наўгародскі і Раман Смаленскі былі роднымі братамі, аднак інтарэсы розных земляў зрабілі іх ворагамі, як гэта часта здаралася ў той час). Наўгародцы, разумеючы, што ім не справіцца са злучанымі сіламі палачанаў і смаленцаў, павінны былі перапыніць свой паход на Полацк, што, бясспрэчна, і выратавала апошні ад вялікіх стратаў і разбурэнняў, а гэта ў сваю чаргу спрыяла захаванню і далейшаму росту полацкай сілы, якая так спатрэбілася ў недалёкім будучым.

Нікольі не прыніжаючы значэння разгледжаных намі летапісных звестак у асвятленні полацкай гісторыі 60—70-х гадоў XII ст., асабліва ўлічваючы наш бедны інфармацыйны запас, мы ўсё ж павінны адзначыць іх урыўкавасць, разрозненасць і ў значнай ступені павярхоўнасць. Сапраўды, яны ў лепшым выпадку толькі намёкамі ўказваюць на важнейшы

працэс, які адбываўся у гэты час у полацкіх землях, а менавіта: іх паступовае палітычнае аб'яднанне. Як мы ўжо ведаем, феадальная раздробленасць найперш дала сябе знаць у Полацкай зямлі[631], што сведчыла аб яе больш высокім сацыяльна-эканамічным развіцці ў параўнанні з іншымі ўсходнеславянскімі землямі. Гэта і было прычынай, што яна першай з іх усіх аформілася ў самастойную палітычную адзінку і ў сваю чаргу сама стала дзяліцца на паасобныя ўдзелы, між якімі ўзнікла барацьба, але яна, як мы бачылі, насіла не столькі сепаратысцкі характар, колькі характар барацьбы таго ці іншага ўдзела за першынство ў Полацкай зямлі, што знаходзіла сваё знешняе выяўленне ў імкненні прадстаўнікоў розных галін Усяславічаў захапіць полацкі пасад.

Але гісторыя не можа стаяць на адным месцы, і феадальная раздробленасць, як і звязаная з ёй палітычная дэцэнтралізацыя, не магла цягнуцца без канца. Справа ў тым, што ў недрах самой феадальнай раздробленасці няўхільна выспявала яе адмаўленне. Ствараючы лепшыя ўмовы для асваення новых земляў і прыродных рэсурсаў, росту гарадоў, для развіцця земляробства і рамёстваў, феадальная раздробленасць гэтым самым садзейнічала таварнай вытворчасці, г. зн. вытворчасці непасрэдна для абмену, для гандлю, што ў сваю чаргу вяло да эканамічнага, а разам з тым і палітычнага збліжэння розных земляў. Менавіта ў Полацкай зямлі, дзе раней пачаўся працэс феадальнай раздробленасці, ён раней і пачаў знікаць. (Вось гэтага, на жаль, не заўважаюць даследчыкі і бачаць у Полацкай зямлі бясконцую раздробленасць і міжусобіцу.) У выніку гэтага і міжусобная барацьба полацкіх князёў паступова сціхае, і сціхае намнога раней, чым у іншых усходнеславянскіх землях. Ва ўсякім выпадку, яна заціхла раней 1180 г. Менавіта пад гэтым годам з'явілася летапіснае паведамленне, значэнне якога для правільнага разумення полацкай гісторыі гэтага часу нельга пераацаніць, бо ў ім як найлепш адбіўся працэс аднаўлення палітычнага адзінства Полацкай зямлі. Паколькі гэта вельмі важны па багаццю інфармацыі летапісны ўрывак, то мы спынімся на яго разглядзе больш падрабязна.

Падзеі, апісаныя тут, разгарэліся вакол Друцка. Гэты ўдзел, як мы ведаем, раней за іншыя полацкія ўдзелы трапіў у залежнасць да Смаленска, што найперш выцякала з яго геаграфічнага становішча як суседняга са Смаленскім княствам. Адсюль фактычна і пачаў пашырацца смаленскі ўплыў на ўсю Полаччыну. Аднак дзесьці ў сярэдзіне 70-х гадоў XII ст. Полацк спакваля пачаў вызваляцца з-пад гэтай апекі. Найперш гэта выявілася ў выдаленні Давыда Расціславіча з Віцебска. Л. Аляксееў не мае рацыі, калі

сцвярджае, што гэты князь толькі ў 1180 г. перайшоў з Віцебска ў Смаленск[632], бо ўжо ў 1174 г. мы бачым яго ў Вышгарадзе[633]. Такім чынам, прынамсі, з гэтага года ў Віцебску ўсталёўваецца брат Усяслава Васількавіча — Брачыслаў. Нельга пагадзіцца са сцвярджэннем і В. Данілевіча, што быццам бы Усяслаў, як і ўсе Васількавічы, быў адзіным праваднікам смаленскага ўплыву ў Полацку, а ўсё полацкае земства было супроць яго[634]. У тагачаснай палітычнай сітуацыі для Полацка быў неабходны саюз са Смаленскам як тая рэальная сіла, якая магла выратаваць яго ад канчатковага разгрому, напрыклад, з боку Ноўгарада, што было яшчэ горш за часовую залежнасць. Полацкае веча таму і ўзяло сваім князем Усяслава Васількавіча, паколькі ён мог лепш за каго-небудзь іншага прыцягваць смаленскую сілу для агульнай полацкай карысці (тут, вядома, пэўную ролю мелі і яго сваяцкія адносіны са смаленскім князем). Аднак калі палітычныя абставіны змяніліся, у выніку чаго Полацку саюз са Смаленскам ужо не быў неабходнасцю, то той жа Усяслаў і парваў яго, вядома, па патрабаванню веча. У новай палітычнай сітуацыі, якая склалася пасля смерці ў 1174 г. Андрэя Багалюбскага, Полацк выкарыстаў абвастрэнне адносін паміж Чарнігавам і Смаленскам, абапёршыся на сілу першага, каб выйсці з палітычнага прыцягнення другога. Чарнігаў, у сваю чаргу імкнучыся нанесці найбольш адчувальны ўдар па Смаленску, вырашыў ісці на Друцк, што быў сувязным звяном паміж Полацкам і Смаленскам, якое давала магчымасць аб'ядноўваць сілы гэтых дзвюх земляў. Само сабой зразумела, што ізаляцыя Друцка ад Смаленска была ў інтарэсах Полацка. Вось чаму, калі чарнігаўскія войскі на чале з Яраславам Усеваладавічам і Ігарам Святаславічам (які пасля стане галоўным героем «Слова аб палку Ігаравым») пайшлі на Друцк, а ім насустрач з Ноўгарада рушыў вялікі князь Святаслаў Усеваладавіч, то і полацкія князі ўзялі туды кірунак.

Хто ж гэтыя князі? Месца княжавання трох з іх у летапісе ўказана. Гэта: Брачыслаў Васількавіч з Віцебска (цікава, што ён, а не полацкі князь названы першым), Усяслаў Васількавіч з Полацка і Усяслаў Мікуліч з Лагожска (яго бацька лічыцца сынам Валодшы Васількавіча[635]). Адносна чацвёртага — Васількі Брачыславіча — Л. Аляксееў мяркуе, што ён быў князем ізяслаўскім, паколькі яго бацька Брачыслаў да Віцебска княжаваў у Ізяслаўлі[636]. Між іншым, у В. Тацішчава ён разам з Ізяславам фігуруе як пляменнік Андрэя Валодшыча і называецца Брачыславічам[637]. Магчыма, і так. Але калі ў паходзе былі ізяслаўскі і лагожскі князі, то цяжка ўявіць, каб у ім не ўдзельнічаў менскі князь[638], як думае

Л. Аляксееў, адносячы Андрэя Валодшыча і яго сынаўца (пляменніка) да дробных князёў. Калі не было менскага князя, то якія былі? Хутчэй за ўсё менскім князем з'яўляўся Андрэй Валодшыч, бацька якога ў свой час быў закаваны ў Менску. Гэта тым больш верагодна, бо такія даследчыкі, як Карамзін, Строеў, Пагодзін і іншыя, лічылі Валодшу Васількавічам. Паколькі Васількавічы займалі пануючае месца ў Полацкай зямлі, то яны і маглі аддаць Менск свайму родзічу. Цяжка сказаць, дзе мог княжыць сынавец Андрэя — Ізяслаў, якога некаторыя даследчыкі лічылі сынам Мікулы[639]. Магчыма і тое, што ён, а не Василька Брачыславіч князяваў у Ізяслаўлі, недалёка ад свайго дзядзькі, а Васілька мог быць у Стрэжаве, бліжэй да свайго бацькі. Такім чынам, з факта ўдзелу ў паходзе 1180 г. шасцярых полацкіх князёў вельмі яскрава выяўляецца адноўленае палітычнае адзінства Полацкай зямлі. Трэба зазначыць, што даследчыкі полацкай гісторыі замоўчвалі гэта, абмяжоўваючыся толькі пералікам князёў, не робячы з гэтага галоўнага вываду аб адзінстве Полаччыны. Больш за тое, у «Гісторыі Беларускай ССР» (т. 1), якая лічыцца фундаментальным выданнем, аб падзеях 1180 г. наогул нічога не гаворыцца. І гэта зразумела. Укладваючы полацкую гісторыю XII — першай паловы XIII стст. у штучна створаную схему, якая сцвярджала сталае аслабленне і заняпад Полацкай зямлі, гэтыя даследчыкі не заўважалі або, правільней, не хацелі заўважаць фактаў, якія не ўкладваліся ў яе. Аднак 1180 год ясна паказаў вынікі дальнабачнай палітыкі Полацка, які не хаатычна, не па чужой толькі волі кідаўся паміж рознымі княскімі кааліцыямі, а выкарыстоўваў удзел у іх найперш у сваіх інтарэсах. На жаль, крыніцы не даюць нам магчымасці ў дэталях устанавіць працэс паступовага ўз'яднання Полацкай зямлі, але бліскучыя вынікі яго вельмі добра адбіліся ў летапісным паведамленні пад 1180 г.

Чаму паход пад Друцк выклікаў такое адзінства полацкіх князёў? Таму, што тут справа ішла аб абароне эканамічна-гандлёвых інтарэсаў Полаччыны, у прыватнасці аб валоданні надзвычай важным для Полацкай зямлі друцка-ўшацкім волакам[640]. А без агульнасці эканамічных інтарэсаў паасобных полацкіх земляў не магло б быць і такога вайсковага адзінства, якое выявілася ў 1180 г.

Але гэта яшчэ не ўсё. Не менш пільную ўвагу заслугоўвае і тое, што Усяслаў Васількавіч пад Друцк ішоў не толькі з палачанамі, а што «с ними бяхуть и Либь, и Литва». Наяўнасць у войску менавіта полацкага князя ліваў і літвы вельмі паказальная. Як вядома, фінскае племя ліваў жыло на самым узбярэжжы Балтыйскага мора. А гэта, бясспрэчна, азначае,



*Мініяцюра Аршанскага евангелля.*

што Полацк пашырыў свой палітычны ўплыў на ўсё Ніжняе Падзвінне, адкуль і чэрпаў дадатковую вайсковую сілу.

Не менш важны па сваім значэнні і факт удзелу ў паходзе літвы. Як паказалі падзеі 1161 і 1167 гг., гэта племя выкарыстоўвалася Менскам у барацьбе з Полацкам. Аднак у выніку паражэння Валадара Глебавіча пад Віцебскам у 1167 г. Менск, а разам з ім і Літва паступова зноў падначальваюцца ўладзе Полацка, а гэта значыць, што апошні аднавіў свае пазіцыі і ў Верхнім Панямонні. Аднак у навуковай літаратуры на сённяшні дзень сцвярджаецца адваротнае, а менавіта тое, што ў канцы XII ст. полацкія князі страцілі свае былыя пазіцыі ў Літве і нават у Падзвінні, у пацвярджэнне чаго прыводзіцца наступнае месца з «Слова аб палку Ігаравым»: «И Двина болотом течет оным грозным полочаном под клико поганых. Един же Изяслав, сын Васильков, позвони своими острыми мечи о шеломы литовскыя, притрепа славу деду своему Всеславу, а сам под чрълёными щиты на кроваве траве притрепан литовськыми мечи»[641]. Як вядома, «Слова...» — не летапіс, а мастацкі твор. Таму задача даследчыка і заключаецца ў тым, каб высветліць, якія гістарычныя падзеі знайшлі сваё адбіццё ў гэтым месцы «Слова...». Хутчэй за ўсё аўтар яго, гаворачы аб

з'яўленні «паганых» на Дзвіне, меў на ўвазе падзеі 1167 г., калі вядомы ўжо нам менскі князь Валадар Глебавіч пайшоў са сваім войскам, якое складалася з літвы, на Полацк, а пасля і на Віцебск. Лівы і літва, як толькі што мы бачылі, былі ў складзе полацкага войска і ў 1180 г., незадоўга да напісання «Слова...». Вось гэтыя і падобныя факты і далі падставы аўтару «Слова...» гаварыць аб з'яўленні «паганых» на Дзвіне. Але яны сведчаць аб тым, што не самі «паганыя» прыйшлі на Полаччыну, як сцвярджаюць даследчыкі, а былі прыведзены полацкімі князямі для барацьбы са сваімі праціўнікамі. І гэта было не толькі ў звычаях полацкіх князёў. Кіеўскія князі ў міжусобнай барацьбе выкарыстоўвалі полаўцаў. За гэта аўтар «Слова...» асуджае і полацкіх і кіеўскіх князёў: «Ярославли (г. зн. кіеўскія князі.— *М. Е.*) и вси внуце Всеславли (г. зн. полацкія князі.— *М. Е.*)!.. вы бо своими крамолами начясте наводити поганыя полки на землю Русскую, на жизнь Всеславлю». Вось гэтых слоў і не прыводзяць гісторыкі, а ў іх і паказана праўдзівая прычына з'яўлення «паганых» на Дзвіне.

Што да князя Ізяслава Васількавіча, які загінуў у барацьбе з літвою, то справа заключаецца ў наступным. Па-першае, гэта адзіны герой «Слова...», якога не ведаюць летапісцы, і таму мы не можам быць упэўненымі ў яго гістарычнай праўдзівасці. Але калі і сапраўды, як паказвае «Слова...», полацка-віцебскія князі Брачыслаў і Усевалад не падтрымалі свайго брата Ізяслава ў барацьбе з літвою, то тым самым гэты твор пацвердзіў, што полацкія князі не былі ў варожых адносінах з Літвой нават і тады, калі з ёй ваяваў іх брат.

Такім чынам, к 1180 г. Полаччына паўстае не толькі ў адзінстве сваёй метраполіі, але і ў шчыльнай сувязі са сваімі калоніямі ў Ніжнім Падзвінні і Верхнім Панямонні. Яна зноў набрала сваю ранейшую моц і, вядома, не магла мірыцца з тым, што такая важная частка яе, як Друцкі ўдзел, яшчэ была адрэзана ад яе, і таму паслала туды свае з'яднаныя сілы.

Але што адбывалася ў Друцку? У гэты час князем тут быў Глеб, сын вядомага ўжо нам Рагвалода Барысавіча. Вядома, ратункам для Глеба магла быць толькі смаленская сіла, і яна прыйшла неадкладна, што цалкам зразумела. Давыд Расціславіч, які пасля смерці брата Рамана стаў смаленскім князем, аб'яднаўшы свае сілы з сіламі Глеба, вырашыў ісці насустрач войскам Яраслава і Ігара, каб разбіць іх, гэтым самым не даўшы ім магчымасці злучыцца з войскамі Святаслава, які ішоў з Ноўгарада пад Друцк. Аднак чарнігаўцы, разгадаўшы намер Давыда, вырашылі ўнікнуць бою і ўмацавацца на беразе Друці. На працягу цэлага тыдня сма-

ленскі князь імкнуўся навязаць бой Яраславу і Ігару, аднак яны пазбягалі яго і, дачакаўшыся прыходу Святаслава з наўгародцамі, злучыліся з імі і перайшлі на другі бок Друці. Убачыўшы супроць сябе такую сілу, Давыд не наважыўся ўступаць з ёй у бой і ноччу ўцёк у Смаленск. Чарнігаўцы не сталі гнацца за ім, баючыся, што ён можа напасці на іх уладанні, і пайшлі ў Кіеў. Святаслаў з наўгародцамі напаў на Друцк, але ўзяць яго не змог, спаліўшы толькі астрог (перадавыя ўмацаванні), пасля чаго, адпусціўшы наўгародцаў, накіраваўся спачатку ў Рагачоў і адтуль Дняпром у Кіеў[642].

Як бачым, перамога каля Друцка дасталася лёгка, асабліва для палачанаў. Сапраўды, з летапісу не відаць, каб яны прымалі непасрэдны ўдзел у вайсковых дзеяннях. Плод зваліўся ў рукі палачанаў, хоць патрэслі яго іншыя. Магчыма, нічога не страціўшы, яны вярнулі сабе важную частку сваёй зямлі. Падзеі 1180 г. з'явіліся для Полацка бліскучай дэманстрацыяй яго ўзноўленага адзінства і баявой моцы. Гэта было і святам дальнабачнай полацкай дыпламатыі, якая змагла выратаваць зямлю ад небяспекі трапіць у палітычныя тупікі, якія сустракаліся на кожным кроку яе дзяржаўнага жыцця.

## СПРОБА РАСКОЛУ І ПРАДВЕСЦЕ НОВАЙ ПАГРОЗЫ

Зразумела, Смаленск не змог зміріцца са стратай свайго палітычнага ўплыву на Полацк і таму прадпрымаў усялякія захады, каб аднавіць тут свае ранейшыя пазіцыі. Давыд Расціславіч добра разумеў, што з'яднанне Полацкай зямлі з'яўляецца галоўнай прычынай яе палітычнага трыумфу, і імкнуўся найперш унесці разлад у яе жыццё, падарваць яе знутры. А для дасягнення гэтага, бадай, адзіным сродкам было распальванне міжусобнай барацьбы, выкарыстоўваючы для гэтага князёў, што раней пацярпелі паражэнне і цяпер былі незадаволеныя сваім падначаленым становішчам. Да такіх у той час найперш адносіліся менскія Глебавічы, якія пасля паражэння Валадара ў 1167 г. апынуліся на другім плане палітычнага жыцця або, можа, і зусім страцілі свае ўдзелы і знайшлі прытулак у іншых землях, у тым ліку і ў Смаленскай. І гэта зразумела. Калі Васількавічы перасталі быць праваднікамі смаленскай палітыкі ў Полацку, то ім былі, відаць, супрацьпастаўлены найбольш моцныя іх ранейшыя праціўнікі — Глебавічы. Магчыма, пры падтрымцы Давыда аднаму з іх — сыну Валадара Глебавіча Васільку —

удалося захапіць лагожскі пасад, дзе ў 1180 г. мы бачылі Усяслава Мікуліча. Але, відаць, яшчэ раней Смаленск распачаў міжусобную інтрыгу ў суседнім Друцку. Летапіс не паведаміў нам аб далейшым лёсе саюзніка Смаленска ў 1180 г.— Глеба Рагвалодавіча. Пэўна ж, ён не ўтрымаўся тут: ці сам уцёк адсюль, ці быў выдалены палачанамі і заменены іншым князем. Аднак у 1186 г. мы бачым тут якогасьці Усяслава — смаленскага саюзніка. В. Данілевіч называў яго Рагвалодавічам, хоць крыніцы гэтага не пацвярджаюць. Відаць, ён грунтаваўся на тым факце, што пад 1159 годам упамінаецца якісьці Усяслаў Рагвалодавіч. Цікавую думку ў сувязі з гэтым выказаў Л. Аляксееў. Ён лічыць, што Усяслаў Васількавіч у 1186 г., уступіўшы свой пасад у Полацку загадкаваму «каралю Вальдэмару», як яго называе «Хроніка Лівоніі», перайшоў княжыць у Друцк і што, такім чынам, у Полацку зноў узялі верх Глебавічы[643]. Мы яшчэ да гэтага пытання вернемся, але зараз адзначым, што ў такім выпадку цяжка зразумець, чаму лагожскі Васілька Валадаравіч, які, бясспрэчна, належаў да Глебавічаў, апынуўся ў 1186 г. у лагеры ворагаў іх. Як бачым, пытанне, кім па паходжанні быў друцкі князь Усяслаў і які княскі род умацаваўся ў Полацку ў 1186 г., застаецца пакуль што з прычыны скупой інфармацыі праблематычным.

Аднак вернемся да разгляду падзей 1186 г. А яны з усёй відавочнасцю паказваюць, што ініцыятарам быў Смаленск. Менавіта яго князь Давыд арганізаваў і ўзначаліў паход на Полацк. Гэтым разам на баку Смаленска былі наўгародцы на чале з сынам Давыда Мсціславам, а таксама ўжо вядомыя нам Васілька Валадаравіч з Лагожска і Усяслаў з Друцка. Зразумела, супроць такіх аб'яднаных сіл, асабліва Ноўгарада і Смаленска, Полацк выступаць не змог бы, і таму полацкае веча, якое добра бачыла вялікую пагрозу, што навісла над зямлёй, вырашыла дабівацца мірнага ўрэгулявання канфлікту: «Не можем стати противу новгородцев и смолнян, и аще пустим их в землю свою, аще и мир сотворим с ними, много нам зла сотворять, пусту бо сотворять землю нашу идуще на нас, но поидем к ним на сумежи и сотворим там с ними мир». Такім чынам, палачане добра зразумелі сваю галоўную задачу ў тым, каб ні ў якім разе не дапусціць на сваю зямлю варожыя войскі, якія ўшчэнт спустошаць яе, і ўжо тады хоць і будзе створаны мір, вялікіх страт вярнуць нельга будзе. І гэта ім як найлепш удалося. Прыйшоўшы на сумежжа (невядома адкуль узяў В. Данілевіч, што да г. Емянца)[644], яны сустрэлі сваіх праціўнікаў з паклонам і пашанай і далі ім многія дары. Паводле В. Тацішчава, Давыд аб'явіў нанесеныя палачанамі крыўды, але, узяў-

шы ўзнагароду дастатковую, згадзіўся даць мір[645]. Бясспрэчна, што з боку Полацка толькі шчодрымі дарамі не абышлося, яму, пэўна ж, прыйшлося пайсці на некаторыя ўступкі, якія не знайшлі свайго адлюстравання ў крыніцах. В. Данілевіч лічыў, што Давыд нават прымусіў палачанаў прызнаць яго ўладу і што Віцебск перайшоў зноў у яго рукі[646]. Аднак калі першае не пацвярджаецца крыніцамі і абвяргаецца, як убачым, далейшай гісторыяй, то другое цалкам магчыма, на што ўкажуць падзеі 1195 г. Цяпер жа, як бачна, у падзеях 1186 г. Полацк прадэманстраваў выключную гнуткасць сваёй палітыкі, якая грунтавалася не толькі на вайсковай сіле, але і на мірных дыпламатычных дзеяннях, і таму гэтая перамога не менш важная, чым перамога 1180 г.: яна зберагла Полацк зноў-такі без асаблівых страт, і яго эканоміку, і яго вайсковую моц, што так неабходна было яму мець у бліжэйшым будучым.

Але гэтым для Полацка 1186 год не закончыўся. Больш за тое, ён стаў у вялікай ступені пераломным у полацкай гісторыі. Менавіта ў гэты год Полацк атрымаў першае прадвесце вялікай пагрозы, якая насоўвалася на яго, але ўжо з захаду. На жаль, палачане аднесліся да гэтага вельмі легкадумна, не ацаніўшы ўсёй сур'ёзнасці на першы погляд нязначнага факта.

І сапраўды, усё выглядала даволі прыстойна, як пра гэта апавядае Генрых Латвійскі. Падаём гэты ўрывак (фактычна пачатак) яго «Хронікі Лівоніі» поўнасцю: «У манастыры Зегебергскім быў святар ордэна блажэннага Аўгустына Мейнард, чалавек высокашаноўнага жыцця, убелены паважнай сівізной. Проста дзеля справы Хрыстовай і толькі для пропаведзі прыбыў ён у Лівонію разам з купцамі: тэўтонскія купцы, зблізіўшыся з лівамі, часта хадзілі ў Лівонію на судне па рацэ Дзвіне. Дык вось, атрымаўшы дазвол, а разам і дары ад караля полацкага Уладзіміра (Woldemaro de Ploceke), якому лівы, яшчэ язычнікі, *плацілі даніну* (курсіў наш.— *М. Е.*), названы святар смела прыступіў да божай справы, пачаў прапаведаваць лівам і будаваць царкву ў вёсцы Ікескюлі»[647]. Гэта вельмі каштоўнае сведчанне, якое ўдакладняе паасобныя моманты полацкай гісторыі, пакінутыя без увагі рускімі летапісцамі, і пра якія можна было толькі здагадвацца. Найперш мы звяртаем увагу на падкрэсленыя намі словы, бо яны, бясспрэчна, сведчаць аб пашырэнні полацкай улады на ўсё Ніжняе Падзвінне, паколькі лівы жылі на ўзбярэжжы Балтыйскага мора. Адначасова гэтае месца «Хронікі Лівоніі» абвяргае нядаўна выказанае сцверджанне, што паказаныя плямёны плацілі не даніну, а выкуп, кантрыбуцыю, і таму не маглі ўваходзіць у склад Полацкага княст-

16 Зак. 3065

ва[648]. Але ў такім выпадку навошта было Мейнарду браць дазвол на прапаведаванне сярод ліваў у «Полацкага караля»? Нельга таксама вызначаць паўночна-заходнюю мяжу Полацкага княства толькі ў зоне кантактаў крывічоў з усходнебалтыйскімі плямёнамі і гэтым самым рабіць памылку, атаясамліваючы этнічную мяжу рассялення крывічоў і палітычную мяжу Полацкага княства. Гісторыя сведчыць, што тое ці іншае моцнае племя ці народ могуць уладарыць далей за межамі свайго суцэльнага рассялення, абапіраючыся там на калоніі сваіх высяленцаў і свае вайсковыя гарнізоны. Ва ўсякім выпадку, «Хроніка Лівоніі» (а гэта пісьмовая крыніца, што надае ёй асаблівую каштоўнасць, і таму на яе найперш трэба абапірацца) яскрава паказала, што лівы плацілі даніну Полацку і, значыць, знаходзіліся ў палітычнай залежнасці ад яго. Але калі гэта адносіцца да племя, якое знаходзілася на крайнім захадзе Падзвіння, то яшчэ ў большай меры мы гэта можам сказаць у адносінах плямёнаў, якія займалі больш усходняе становішча. Дарэчы, гэтае сведчанне аб межах полацкай улады на паўночным захадзе не адзінае як у самой «Хроніцы Лівоніі», так і ў іншых нямецкіх крыніцах. «Рыфмаваная хроніка» таксама пацвердзіла, што падзвінскія язычніцкія плямёны да прыходу крыжакоў залежалі ад Полацка, што землі селаў, ліваў, летаў знаходзіліся да прыходу братоў (крыжакоў) у руках русаў, у якіх была адабрана гэтая ўлада. Што пад русамі тут разумеліся палачане, ясна засведчыла, як мы бачылі, «Хроніка Лівоніі».

Цяпер адносна асобы князя «Вальдэмара», якога ўсе даследчыкі называюць Уладзімірам. Адносна яго былі выказаны розныя меркаванні. В. Данілевіч лічыў яго сынам Усяслава Брачыславіча, які к гэтаму часу ўжо памёр[649]. Другія атаясамліваюць яго з Уладзімірам Рурыкавічам, трэція называюць яго Уладзімірам Васількавічам. У свой час намі было выказана сумненне ў тым, што імя гэтага князя было Уладзімір[650], паколькі ніводзін з ранейшых полацкіх князёў не меў такога імя, што, магчыма, было абумоўлена нядобрай памяццю пра князя Уладзіміра, які знішчыў Рагвалода і яго сыноў. Але полацкія князі мелі падобныя імёны, як «Валадар» і асабліва «Валодша». Зразумела, што гэтыя імёны, падобныя па гучанні на імя «Уладзімір», Генрых па-лацінску мог перадаць толькі праз імя Вальдэмар.

Валадар і Валодша нам добра вядомыя: першы з іх быў сынам менскага князя Глеба Усяславіча, другога мы ведаем па тым, што ён у 1160 г. быў пасаджаны ў «поруб» у Менску. К 1186 г. Валадар наўрад ці жыў ужо. Ён мог нарадзіцца не пазней 1119—1120 гг., а калі і жыў, то наўрад ці мог пражыць

яшчэ да 1216 г., калі паводле «Хронік Лівоніі» памёр полацкі князь «Вальдэмар». Што да Валодшы, якога В. Даніlевіч лічыў сынам Васількі Святаславіча[651] і які такім чынам з'яўляўся малодшым братам Усяслава Васількавіча, то ён мог быць яшчэ не старым чалавекам. Паколькі ў 1159 г. яго пасадзілі ў Ізяслаўлі разам з Брачыславам, то можна думаць, што ён быў тады яшчэ непаўналетнім, магчыма, яму не было больш за 16 гадоў. Значыць, у 1186 г. яму было гадоў 35—36, і ён мог пражыць да 1216 г. Як мы ведаем, у паходзе на Друцк у 1180 г. удзельнічаў Андрэй Валодшыч, верагодна, сын гэтага Валодшы. Праўда, у гэтага Андрэя быў сынавец Ізяслаў, што можа ўказваць на яго больш сталы ўзрост, як і яго бацькі Валодшы. Але нельга забывацца, што ў жыцці мы знаходзім нямала выпадкаў, калі пляменнікі могуць быць старэйшыя за сваіх дзядзькоў. Цалкам магчыма таму, што менавіта Валодша і выступае ў «Хроніцы» Генрыха пад імем полацкага князя Вальдэмара, да каго манах Мейнард і звярнуўся з просьбай на дазвол хрысціць ліваў... і полацкі князь, не разгледзеўшы адразу таго, што ўслед за крыжам місіянера ішоў меч заваёўніка, не толькі дазволіў Мейнарду прапаведаваць хрысціянства, але і паслаў яшчэ яму дары. Зрэшты, такая наіўнасць у адносінах да крыжакоў была дапушчана і ў іншых землях Усходняй Еўропы. Толькі пазней, калі нямецкія крыжакі паказалі сваё заваёўніцкае аблічча і калі Полацку аднаму з першых прыйшлося прыняць іх удар, полацкі князь зразумеў сваю трагічную памылку. Але пра нямецкую агрэсію і яе сумныя вынікі для Полацка ў нас будзе гаворка пазней.

## ВІЦЕБСКАЯ ПЕРАМОГА І МІР З НОЎГАРАДАМ

Далейшыя летапісныя звесткі пра Полацк становяцца ўсё больш рэдкімі і ў шэрагу выпадкаў цьмянымі. Адной з іх і з'яўляецца паведамленне Наўгародскага I летапісу пад 1191 г. У ім гаворыцца, што летам гэтага года князь Яраслаў Уладзіміравіч з'явіўся з наўгародцамі ў Лукі, бо быў «позван Полотскою княжьёю и полочаны»[652]. Як бачым, гэта сустрэча з наўгародцамі адбылася па ініцыятыве палачанаў. В. Данілевіч лічыў, што Полацк, які нібыта па-ранейшаму быў у залежнасці ад Смаленска, што з'ўлялася яму ў цяжар, рашыў зблізіцца з Ноўгарадам, на свабоду якога таксама рабілі замах смаленскія Расціславічы, і што, такім чынам, гэта сустрэча была накіравана супроць Смаленска[653]. Аднак такому меркаванню могуць супярэчыць вынікі гэтай сустрэчы, паводле якіх было вырашана «на зиму всем (г. зн. наўга-

родцам і палачанам.— *М. Е.*) снятися им на литву, или на чудь»[654]. З гэтага бачым, што мэта сустрэчы як быццам была іншая, чым супольная барацьба са Смаленскам. Але гэта не выключае таго, што Ноўгарад за згоду змагацца супроць Смаленска паставіў перад палачанамі ўмову найперш прыняць удзел у супольным паходзе супроць літвы і чудзі. У свой час У. Пашута, які быў прыхільнікам канцэпцыі, паводле якой Літва мацнела, а Полацк слабеў, сцвярджаў, што палачане хацелі ў асобе наўгародцаў знайсці сабе саюзнікаў супроць літвы і нават эстаў (чудзі)[655]. На першы погляд гэта як быццам так, бо палачане сапраўды былі ініцыятарамі сустрэчы. Аднак з далейшага тэксту мы даведваемся пра паход Яраслава на чудзь з наўгародцамі і пскоўцамі, але пра паход на літву нічога не гаворыцца. І гэта закрэслівае тэндэнцыйнае сцвярджэнне У. Пашуты. Праўда, у В. Тацішчава сказана пад 1192 г., што «князь полотеский с братьею пошёл на Литву, а Ярослав с новгородцы и псковичи — на зимеголов, мимо Юрьева»[656]. В. Данілевіч сцвярджэнне пра паход палачанаў на літву адкінуў, назваўшы яго домыслам, як і многае ў В. Тацішчава. Аднак галаслоўнага адмаўлення недастаткова. Паспрабуем разабрацца. У летапісе ясна сказана, што наўгародцы і палачане дамовіліся зімою ісці «обое» на літву або на чудзь. І таму, калі мы далей чытаем, што адбыўся паход на чудзь, то гэта выключае паход на літву, што і абвяргае В. Тацішчава, у якога, апроч таго, чудзь заменена земіголамі, што залежалі ад палачанаў і на якіх таму не было сэнсу ісці наўгародцам. Але чаму палачане не прынялі ўдзел у паходзе наўгародцаў супроць чудзі, як было дамоўлена, і тым прыйшлося браць у саюзнікі пскоўцаў і ўсю «оболость»? Можа, тады сапраўды палачане замест супольнага паходу на чудзь выравшылі ісці самастойна на літву, як гэта паказана ў В. Тацішчава? Але тут зноў напрошваецца пытанне: «Навошта было клікаць наўгародцаў на сустрэчу і на дапамогу, калі палачане пасля адны пайшлі на літву?» Разгадка гэтага заблытанага факта магла, на нашу думку, заключацца ў наступным. Мэтай палачанаў у сустрэчы каля Вялікіх Лук было пачаць зноў збліжэнне з Ноўгарадам. Апошні добра разумеў зацікаўленасць Полацка ў саюзе з ім, асабліва ўлічваючы непазбежнасць працягу барацьбы палачанаў са Смаленскам, і таму запатрабаваў ад іх пэўных ахвяр, а менавіта: прыняць удзел у паходзе або на літву, або на чудзь, што і ў першым і ў другім выпадках было нявыгадна для Полацка. Сапраўды, ісці палачанам на літву, якая, як пацвердзілі падзеі 1180 г., з'яўлялася адной з крыніц вайсковай сілы Полацка, раўназначна было для апошняга таму, што сячы сук, на якім ся-

дзіш. Відаць, мэтай наўгародскай дыпламатыі і было пасварыць Полацк з літвой і гэтым аслабіць яго і не даць яму магчымасці выкарыстоўваць у далейшым літву і для нападу на наўгародскія землі. Менавіта паход на літву супольнымі сіламі палачанаў і наўгародцаў і мог быць паказчыкам зацікаўленасці Полацка ў яго імкненні аднавіць саюз з Ноўгарадам. Вядома, на такую ахвяру Полацк пайсці не мог. Нявыгадным для палачанаў быў і ўдзел у паходзе на чудзь, што было звязана з пэўнымі стратамі ў вайсковай сіле, якая была патрэбна яму на выпадак вайны са Смаленскам. Вось чаму палачане, згадзіўшыся пайсці або на літву, або на чудзь, у далейшым не пайшлі ні на першую, ні на другую і фактычна сарвалі заключаную ўмову, і Ноўгараду прыйшлося шукаць новых саюзнікаў у паходзе на чудзь. У сваю чаргу і Полацк з прычыны таго, што не адбыўся яго саюз з Ноўгарадам, павінен быў шукаць саюзніка для барацьбы са Смаленскам, і ён, як убачым далей, быў знойдзены. Але мы яшчэ не закончылі разгляд гэтага летапіснага паведамлення.

У ім ёсць і іншая цікавая для нас інфармацыя. Так, звяртае на сябе ўвагу выраз «позван полотьскою княжьёю и полочаны». У. Пашута ў гэтай формуле знайшоў, з аднаго боку, адлюстраванне пагардлівасці наўгародскага баярства да адносна слабых полацкіх князёў і, з другога боку, падкрэсліванне сілы полацкага вечавага ладу[657]. Што да другога, то гэта цалкам слушна. Падзеі 1151, 1158 і іншых гадоў яскрава паказалі, што веча ў Полацку мела вярхоўную ўладу, між іншым,як і ў Ноўгарадзе. У адносінах першага трэба сказаць, што У. Пашута таксама меў рацыю, калі адзначаў пагардлівасць да полацкіх князёў наўгародскага баярства, на што дае падставу слова «княжьёю». Але ж яно азначае таксама і зборнасць, шматлікасць, і гэта, бадай, ці не самае галоўнае для нас, і чаго, на жаль, не хацеў заўважыць Пашута, які жадаў бачыць толькі раз'яднанасць полацкіх князёў. А менавіта Наўгародскі I летапіс і адлюстраваў узгодненасць іх дзеянняў, бо Полацкая зямля недзе з пачатку 80-х гадоў XII ст. стала выходзіць са стану міжусобнай барацьбы, і гэты працэс стаў неабарачальны, што пацвердзілі падзеі 1195 г.

Мы ўжо бачылі, што спробы Полацка ў 1191 г. на саюз з Ноўгарадам не ўдаліся, і таму ён вымушаны быў шукаць іншага саюзніка. На гэты раз, як і ў 1180 г., ён знайшоў яго ў асобе чарнігаўскіх князёў. Але правільней будзе сказаць, што Полацк, як і ў 1180 г., выкарыстаў у сваіх інтарэсах канкрэтныя палітычныя абставіны, якія склаліся ў 1195 г.

Калі ў 1180 г. «яблыкам разладу» паміж Смаленскам і Чарнігавам быў Друцк, то цяпер ім стаў Віцебск. З летапіс-

нага паведамлення нельга зразумець, чаму так атрымалася. Паводле Іпацьеўскага летапісу, чарнігаўскі князь, парушыўшы ўмову не ваяваць са Смаленскам, пакуль не будзе наладжана сустрэча з яго князямі, паслаў пляменніка свайго Алега на Віцебск. Але чаму на Віцебск, з летапісу не зразумела, і таму гісторыкі даюць розныя тлумачэнні. І. Бяляеў лічыў, што калі ў 1186 г. палачане ўступілі Давыду Смаленскаму Віцебск, то чарнігаўскі князь Яраслаў Усеваладавіч, не жадаючы пакінуць без дапамогі сваіх полацкіх саюзнікаў, некалькі разоў пасылаў да Рурыка Расціславіча, старэйшага брата Давыда, каб той вярнуў Віцебск ранейшаму віцебскаму князю, аднак Давыд адмовіўся гэта зрабіць. А таму ў 1195 г. Яраслаў выправіў свайго пляменніка Алега на Віцебск, куды прыйшлі і полацкія князі[658]. Аднак з летапісу не відаць, што чарнігаўскія князі патрабавалі вярнуць Віцебск Полацку. Чамусьці В. Данілевіч лічыў, што ў Віцебску сядзеў зяць Давыда Смаленскага[659]. Але гэта непаразуменне, бо ў Іпацьеўскім летапісе сказана, што Яраслаў Усеваладавіч Чарнігаўскі паслаў войскі «на зятя, на Давыда»[660], г. зн. на свайго зяця Давыда. У Ніканаўскім летапісе так і сказана: «...на зятя своего, на Давыда»[661]. Выказвалася таксама думка, што сітуацыя 1195 г. тлумачылася і тым, што чарнігаўскія князі Ольгавічы патрабавалі ўступкі ад Смаленска для сябе Віцебска, каб гэтым самым трымаць у акружэнні з двух бакоў Смаленск, а разам з тым аказваць свой уплыў на ўсю Полацкую зямлю і паставіць у залежнасць ад сябе Ноўгарад[662]. Калі гэта так, то становіцца зразумелым, чаму Полацк стаў на бок чарнігаўскіх Ольгавічаў і паслаў у дапамогу ім свой полк. Полацкі ўрад разумеў, што калі б Ольгавічам і ўдалося завалодаць Віцебскам, то гэта ўладанне было б фікцыяй. Сапраўды, валодаць воласцю, аддаленай ад метраполіі і заціснутай паміж трох такіх моцных земляў, як Смаленская, Полацкая і Наўгародская, было б для Чарнігава немагчымай справай. Праўда, цераспалоснае ўладанне ў той час было не рэдкасцю, але гэта мела месца ў больш слабых землях, як, напрыклад, у Тураўскай, якую, як мы бачылі, шмат разоў дзялілі і перадзельвалі па меры з'яўлення ў Кіеве новых князёў. Намінальная прыналежнасць Віцебска далёкаму Чарнігаву была б больш выгаднай для Полацка, чым сапраўдная прыналежнасць суседняй Смаленшчыне, бо давала яму магчымасць лягчэй вярнуць сабе сваё ўладанне.

Аднак, гаворачы пра гэта, нельга забывацца, што, у адрозненне ад Іпацьеўскага і іншых летапісаў, дзе падзеі, звязаныя з барацьбой за Віцебск, выкладзены падрабязна, у Лаўрэнцьеўскім летапісе мы маем іх кароткі выклад, у якім

ёсць дэталі, што даюць падставу некалькі па-іншаму тлумачыць усё гэта. Так, калі ў першай крыніцы фігуруюць «полацкія князі» і толькі адзін з іх Барыс Друцкі называецца па імені, то ў другой, але пад 1197 г., называецца Васілька, якому і прыпісваецца перамога над смаленскім князем: «И победи его Василка с черниговцы»[663]. У гэтым Васільку даследчыкі бачаць, і не беспадстаўна, ранейшага віцебскага князя Васільку Брачыславіча[664]. У такой ролі мы бачылі яго ў 1180 г., і магчымая перадача Віцебска Смаленску ў 1186 г. найперш магла быць ударам па інтарэсах гэтага князя, з чаго можа вынікаць, што не чарнігаўцы, а сам Васілька, якога падтрымалі полацкія князі, быў арганізатарам паходу на Віцебск. Цяжка аддаць перавагу якой-небудзь з гэтых крыніц у іх большай дакладнасці. Ды справа не ў гэтым. Важна тое, што і адна і другая, па сутнасці, не разыходзяцца ў паказе выніку гэтых падзей. А яны, паводле Іпацьеўскага летапісу, разгортваліся вельмі драматычна.

Чарнігаўскае войска, не дайшоўшы да Віцебска, пачало ваяваць Смаленскую воласць. У адказ на гэта Давыд паслаў супроць Ольгавічаў свайго пляменніка Мсціслава Раманавіча, а таксама Расціслава Уладзіміравіча і разанскага князя Глеба. Між іншым, у гэты час адбыўся землятрус, што, вядома, не магло не адбіцца адмоўна на настроі смаленскага войска, якое магло ўспрыняць гэта як дрэнны знак. Чарнігаўцы, сышоўшыся са смаленцамі (у якім менавіта месцы — застаецца невядомым), дзейнічалі, як заўсёды, вельмі асцярожна, не ўступілі адразу ў бой, а акапаліся ў снезе, які тады быў глыбокі, і сталі чакаць нападу праціўніка. У адрозненне ад чарнігаўцаў смаленцы дзейнічалі інакш. Мсціслаў Раманавіч, які камандаваў імі, убачыўшы каля лесу праціўнікаў, адразу кінуўся ў бой, нават, як гаворыць летапісец, «не изрядивши полков своих», і змяў, і патаптаў сцягі Ольгавы, забіўшы яго сына Давыда. Але нас больш цікавіць удзел у гэтай бойцы палачанаў. Трэба зазначыць, што дадзенае летапіснае месца — амаль адзіная пісьмовая крыніца, у якой вельмі дэталёва паказана ў дзеянні полацкае войска. Дык вось супроць яго быў накіраваны смаленскі полк на чале з тысяцкім Міхалкам. Але, не даехаўшы да палачанаў, смаленцы чамусьці памчаліся назад. Тлумачэння гэтаму загадкаваму факту летапісы не даюць. І толькі ў тацішчаўскіх матэрыялах мы знаходзім тры версіі яго. Паводле першай, смаленцы не ўступілі ў бой, «убояшя» палачанаў[665]. Другая версія фактычна ўдакладняе першую: паколькі палачане размясціліся перад лесам, то смаленцы апошні прынялі за працяг полацкага войска і, спалохаўшыся яго шматлікасці, уцяклі. Што ж, у страху вочы вялікія, але што было падставай для яго? Для

адказу на гэтае пытанне трэба прыгадаць характарыстыку аўтарам «Слова аб палку Ігаравым» палачанаў як «грозных». Менавіта такая слава пра іх і магла загадзя парадзіць страх перад імі ў смаленцаў і змусіць прыняць лес за працяг полацкага войска. Але ёсць яшчэ адно меркаванне, паводле якога смаленцы загадзя мелі таемную змову з палачанамі і, не біўшыся, адышлі[666]. Гэта таксама можа быць паказальным фактам, у прыватнасці, можа сведчыць аб наяўнасці ў Смаленску досыць моцнай полацкай партыі, якая, магчыма, усведамляючы сваю крывіцкую прыналежнасць, тым самым сваю крэўнасць з палачанамі, лічыла патрэбным жыць у міры ці нават еднасці з імі. Але як бы там ні было, а тое, што смаленцы не ўступілі ў бой з палачанамі, адыграла важную ролю ў зыходзе разгляданай падзеі. Сапраўды, толькі шчасліва пазбегшы бойкі са смаленцамі, палачане змаглі прыйсці на дапамогу сваім саюзнікам — чарнігаўцам, паціснутым войскам Мсціслава Раманавіча. Зрабілі гэта яны не лабавой атакай на смаленцаў, а заходам у іх тыл, што дало магчымасць нанесці вялікі ўрон праціўніку і ўнесці замяшанне ў яго шэрагі. Менавіта дзякуючы гэтаму манеўру палачанаў, Мсціслаў Раманавіч, які быў у гэты час са сваім пярэднім войскам заняты пагоняй за чарнігаўцамі і, думаючы, што яны ўжо канчаткова разбіты, вырашыў вярнуцца назад. Нічога не падазраючы, ён прыняў войска палачанаў (бо была ўжо ноч, як удакладняе В. Тацішчаў[667]) за сваё і, уехаўшы ў яго, быў захоплены ў палон. Іншыя смаленскія князі і іх саюзнікі, якія таксама вярнуліся з пагоні за чарнігаўцамі і ўбачылі, што вялікая частка смаленскага войска разбіта, у страху пабеглі ў Смаленск. Такім чынам, полацкі полк адыграў вырашальную ролю ў разгроме смаленскага войска. Можна думаць, што заход у тыл праціўніка быў адным з улюбёных і добра распрацаваных і засвоеных манеўраў палачанаў, дзякуючы чаму ім удавалася на працягу стагоддзяў супрацьстаяць шмат большаму войску іх непрыяцеляў.

Але Святаславічы, убачыўшы, што палачане патапталі сцягі Мсціслававы і што яны ўзялі ў палон самога Мсціслава, вельмі ўзрадаваліся. Далей летапісец сведчыць, што Алег выпрасіў у Барыса Друцкага палоннага Мсціслава, пасля чаго напісаў свайму бацьку Яраславу ў Чарнігаў поўнае пахвальбы данясенне, у якім цалкам прыпісаў сабе перамогу над Смаленскам і параіў яму адразу ісці з войскам на Давыда, паколькі палонныя паказалі нелюбоў да яго смаленскага насельніцтва. Толькі заступніцтва вялікага князя Рурыка выратавала Давыда ад яшчэ аднаго разгрому[668]. Як ужо адзначалася, Іпацьеўскі летапіс нічога не паведаміў пра лёс Віцебска пасля гэтай падзеі. І толькі Лаўрэнцьеўскі летапіс

дае падставу думаць, што Віцебск зноў стаў полацкім уладаннем, паколькі ў ім сеў Васілька, якому ў гэтай крыніцы і прыпісваецца перамога над Смаленскам. Дый Іпацьеўскі летапіс вельмі дэталёва, праўда, чамусьці не ўпамінаючы Васільку, пацвярджае вырашальную ролю полацкага войска ў разгроме смаленскіх палкоў. Вядома, што гэта давала права Полацку на вяртанне яму Віцебска. Цалкам магчыма, што перадача палоннага Мсціслава чарнігаўцам таксама была ў ліку іншага платай палачанаў за Віцебск. Такім чынам, калі чарнігаўскія князі цешылі сябе ўяўнай, прыпісанай імі самімі сабе перамогай, то палачане як сапраўдныя пераможцы пажыналі багаты плён яе, бо, вярнуўшы сабе Віцебск, яны пасля шэрагу дзесяцігоддзяў разарванасці сваёй зямлі зноў дасягнулі яе адзінства.

У сувязі з гэтым асабліва паказальным з'яўляецца ўдзел у апошніх падзеях Барыса Друцкага. Грунтуючыся на яго імені, даследчыкі адносілі яго да Рагвалодавічаў, толькі адны лічылі яго Барысам Рагвалодавічам[669], іншыя — сынам Усяслава Рагвалодавіча[670]. Паколькі Алег Чарнігаўскі менавіта ў Барыса Друцкага для сябе выпрасіў палоннага смаленскага князя Мсціслава, то можна беспамылкова меркаваць, што друцкі князь быў у складзе полацкага войска і што ён адыграў вельмі важную ролю ў разгроме Смаленска і ўзяцці ў палон аднаго з яго князёў. У святле гэтага здзіўляе сцвярджэнне Л. Аляксеева, што і ў 1195 г. «Друцк па-ранейшаму знаходзіўся пад эгідай смалянаў»[671]. Гэта з'яўляецца вынікам недастаткова ўважлівага разгляду падзей 1195 г., якім гэты даследчык прысвяціў усяго тры радкі[672]. Для нас жа прысутнасць у паходзе 1195 г. Барыса Друцкага з'яўляецца бясспрэчным сведчаннем таго, што барацьба Полацка ў 1180 г. не прайшла дарэмна: Друцк быў вернуты Полацкай зямлі і складаў з ёй адзінае цэлае. Аб адзінстве ўсіх полацкіх князёў у гэты час гаворыць летапісны выраз «полацкія князі», г. зн. што ў паходзе ўдзельнічалі многія ці нават усе полацкія князі. Вядома, нельга думаць, што гэтая перамога канчаткова вызваліла Полацк ад смаленскай пагрозы. Але яна ўжо не была для яго, уз'яднанага і ўздужэлага, такой небяспечнай, як раней.

Выкарыстаўшы паражэнне Смаленска, Полацк аднавіў у хуткім часе сваю наступальную палітыку ў адносінах Ноўгарада. Як мы ўжо ведаем, у 1191 г. была спроба збліжэння Полацка з Ноўгарадам, але яна скончылася няўдачай, і, магчыма, найперш з-за таго, што Ноўгарад навязваў Полацку паход на Літву, яго найбольш важнага саюзніка. Што гэта так, пацвердзілі падзеі восені 1198 г., калі палачане разам з літвою напалі на Вялікія Лукі, якія, бясспрэчна,

былі пярэднім фарпостам Ноўгарада ў барацьбе са сваім даўнім супернікам. І таму зразумела, чаму палачане іх спалілі. Трэба думаць, што гэты напад для наўгародцаў не быў нечаканасцю, бо яшчэ ў 1196 г., як сведчаць тацішчаўскія матэрыялы, наўгародскаму князю Яраславу было загадана ісці ў Вялікія Лукі і берагчы ад Полацка Смаленск[673]. Аднак гэта яўная памылка, бо Смаленск у Вялікіх Луках бараніць нельга было, тут толькі магла ісці гаворка пра абарону наўгародскіх інтарэсаў.

Наўгародцы не маглі не адпомсціць за напад на іх уладанні. Наколькі моцную пагрозу ад Полацка бачыў Ноўгарад, сведчаць тыя вялікія сілы, якія ён сабраў зімою 1198—1199 гг. для паходу. Апроч саміх наўгародцаў, у войску былі пскоўцы, наваторжцы, ладажане, карацей, уся вобласць, як сведчыць летапіс[674], накіравалася на Полацк. І вось гэтая апошняя акалічнасць абвяргае сцвярджэнне многіх даследчыкаў, паводле якіх не Полацк, а Літва была ініцыятарам паходаў на старажытныя рускія землі і цягнула за сабою аслабелых і таму пакорных ёй палачанаў. Але калі б не Полацк быў віноўнікам нападу, а Літва, то наўгародцы павінны былі б ісці на апошнюю і правучыць яе. Аднак Ноўгарад гэтага не зрабіў, бо добра ведаў, адкуль ідзе яму пагроза і хто з'яўляецца завадатарам набегаў на яго, і таму пайшоў на Полацк. Для палачанаў стварылася сітуацыя, падобная на тую, што была ў 1186 г., калі аб'яднаныя сілы Смаленска і Ноўгарада рушылі на Полацкую зямлю і палачанам, якія бачылі для сябе вялікую пагрозу і яе магчымыя катастрафічныя вынікі, прыйшлося ісці на мірныя перагаворы. Да гэтага прыбеглі яны і цяпер. Летапіс вельмі коратка падае гэту падзею. У ім сказана, што палачане прыйшлі да возера Касплі і з паклонам сустрэлі наўгародцаў і ўзялі мір з імі. Пэўна ж, як і ў 1186 г., палачане павінны былі «даць дары» і пайсці на пэўныя ўступкі, што і магло задаволіць наўгародцаў і змусіць іх спыніць паход. Хоць яны і сабралі сілы ўсёй вобласці, але, не будучы ў саюзе са Смаленскам, як гэта мела месца ў 1186 г., не маглі адчуваць сябе ўпэўнена ў сутычцы з палачанамі і таму ахвотна згадзіліся на мір.

Гэтая падзея — апошняя з зарэгістраваных крыніцамі ў гісторыі Полаччыны XII ст. Як ужо неаднойчы намі адзначалася, звесткі аб Полацку ў кіеўска-наўгародскіх летапісах — вельмі скупыя і рэдкія і таму не адлюстроўваюць усяго багацця полацкай гісторыі. Але якімі б ні былі беднымі звесткі аб Полаччыне ў канцы XII ст., усё ж яны даюць магчымасць зрабіць вывад аб галоўнай тэндэнцыі ў яе гістарычным развіцці, а менавіта: аб яе ўмацаванні і яе адзінстве. Падзеі полацкай гісторыі 80—90-х гг. XII ст. для нас важныя

яшчэ і тым, што яны абвяргаюць домыслы аб знікненні полацкай княскай дынастыі і яе ўлады ў Полацку пасля 1191 г., у выніку чаго палачане нібыта кіраваліся толькі вечам і мужамі накшталт Ноўгарада і Пскова. Менавіта ў гэты час, паводле «Хронікі Быхаўца» і М. Стрыйкоўскага, літоўскі князь Мінгайла і захапіў Полацк, разбіўшы войска апошняга пад Гарадцом, пасля чаго ў Полацкай зямлі нібыта запанавала літоўская дынастыя. Так фальсіфікавалася наша гісторыя. Але ніякай гаворкі аб знікненні полацкай дынастыі і княскай улады не можа ісці, як добра пацвярджаюць полацкія падзеі гэтага і пазнейшага часу.

## УЗВЫШЭННЕ ПІНСКА НАД ТУРАВАМ, ПАЧАТАК ЗАНЯПАДУ СМАЛЕНСКА

Пісьмовыя звесткі пра тураўскую гісторыю гэтага часу яшчэ больш бедныя, чым пра полацкую, яны даюць толькі самае агульнае ўяўленне пра яе. Найперш мы можам упэўнена гаварыць, што ў Тураве назаўсёды замацаваліся нашчадкі Юрыя Яраславіча, звесткі аб якім губляюцца з 1162 г., калі ён хутчэй за ўсё памёр, бо пад гэтай датай упамінаецца яго сын Святаполк Юр'евіч як тураўскі князь (ён жа ў такім становішчы адзначаны і пад 1190 г.). У 1195 г. памёр тураўскі князь Глеб, які, магчыма, быў сынам Юрыя. Больш упэўнена мы можам гэта сказаць пра Івана, які ўпамінаецца ў 1170 г. як «Гюргевич... ис Турава».

Хоць Тураўскае княства і стала самастойным, аднак адразу яно не магло парваць усе свае ранейшыя палітычныя сувязі. Апроч таго, добра ведаючы свае магчымасці і суадносячы з непамерна большымі сіламі сваіх суседзяў, Тураў вымушаны быў весці вельмі асцярожную палітыку. Мы ведаем, што ў 1158 і 1160 гг. ён вытрымаў варожыя аблогі. Аднак яны патрабавалі максімальнага напружання ўсіх сіл, чаго, вядома, не магло хапіць на доўгі час. Усведамляючы непазбежнасць свайго ўдзелу ў міжусобнай барацьбе і цвяроза ацэньваючы свае магчымасці, Тураў, каб дасягнуць сваіх мэт і большых выгод з найменшай тратай сіл, павінен быў амаль беспамылкова ацэньваць сілы ўдзельнікаў міжусобнай барацьбы і ісці ў саюзе з мацнейшымі, чыя дапамога ці нейтралітэт былі б яму карысныя[675]. Гэта яскрава выявілася ў 1162 г., калі тураўскі князь Святаполк Юр'евіч хадзіў разам з іншымі князямі і, у першую чаргу, з Рурыкам Расціславічам на Слуцк, гэтым самым заручыўшыся добрымі адносінамі з кіеўскім князем Расціславам Мсціславічам.



*Кірыла Тураўскі*

З гэтай жа мэтай Глеб і Іван Юр'евічы разам з апошнім ішлі супроць полаўцаў, якія нападалі на купецкія караваны і тым самым шкодзілі і тураўскім інтарэсам. Крыніцы засведчылі ўдзел Святаполка і Івана Юр'евічаў у паходзе Мсціслава Ізяславіча таксама на полаўцаў у 1170 г., а ў 1171—1172 гг.— дапамогу тураўцаў гэтаму ж князю ў барацьбе за кіеўскі пасад, з якога ён быў выгнаны. Упамінаецца таксама ўдзел Глеба Юр'евіча ў паходзе Святаслава Усеваладавіча на полаўцаў у 1183 г. і яго паездка ў Суздаль па нявесту сына Рурыка Расціславіча.

Але для нас найбольшую цікавасць маюць падзеі 1190 і 1193 гг., звязаныя з Літвой. Справа ў тым, што Іпацьеўскі летапіс пад першай датай гаворыць аб спробе князя Рурыка Расціславіча пайсці на Літву. Ён у гэты час «бысть в Пинески у тёщи своея и у шурьи своея, тогда бо бяше свадьба Ярополча» (апошні, відаць, быў пінскім князем). Пакуль Рурык гуляў на вяселлі, надышла вясна, «и бысть тепло, и стече снег, и не лзе бо им (Рурыку і яго пінскім саюзнікам. — *М. Е.*) доити

*Пачатковая старонка слова Кірылы Тураўскага «На ўзнясенне Гасподняе»*

землі их (г. зн. Літвы.— *М. Е.*) и возвратишася в свояси»[676]. З гэтага сведчання можна зразумець, што Рурык збіраўсяісці на Літву па просьбе сваіх пінскіх сваякоў, якіх яна, відаць, трывожыла сваімі набегамі. Але самае важнае, што выцякае з гэтага сведчання, гэта тое, што Літва знаходзілася па суседству з Пінскай зямлёй, за балотамі, якія, растаўшы вясной, і не далі магчымасці ісці на яе. Гэта яшчэ адзін неабвержны доказ, дзе ў сапраўднасці знаходзілася Старажытная Літва. Нельга ж думаць, што Рурык з Пінска памкнуўся б ісці на тэрыторыю сучаснай Літвы. Аднак няўдача Рурыка ў 1190 г. не адхінула яго ад намеру расправіцца з Літвою. У 1193 г. ён зноў пайшоў на яе, і, відаць, гэты паход быў бы паспяховым, бо прыпадаў на зіму, калі толькі і можна было прайсці балоты. Аднак па патрабаванню кіеўскага князя Святаслава Усеваладавіча Рурык павінен быў вярнуцца назад і прыняць удзел у паходзе на полаўцаў. Кіеву мала было справы да Пінска, калі над ім вісела палавецкая пагроза.

З тых самых урыўкавых летапісных крыніц можна зрабіць выснову аб далейшым працэсе дзялення Тураўшчыны на ўдзелы. Мы ўжо адзначалі, што гэты працэс быў заканамерны. Па тым, як тытулаваліся князі, мы можам меркаваць, што ў Тураўшчыне меліся ўдзелы: уласна Тураўскі (Святаполк,

Іван, Глеб), Пінскі (Яраслаў і Яраполк) і Дубровіцкі (Глеб).

Асабліва важна будзе падкрэсліць далейшае ўзвышэнне Пінска, князі якога ўпершыню разам з тураўскім паказаны пад 1174 г.[677]. Бо Пінск не проста быў радавым удзелам, а паступова станавіўся супернікам Турава, што стала пераломным момантам у гісторыі Тураўшчыны. Мы ведаем, што ўзвышэнне Турава і яго ператварэнне ў палітычны цэнтр асобнага княства было абумоўлена яго выгодным становішчам на адным з важнейшых адгалінаванняў вялікага шляху «з варагаў у грэкі», што звязвала Кіеў з Захадам. Аднак ужо ў сярэдзіне XII ст. значэнне гэтага шляху вельмі панізілася (што, між іншым, паскорыла распад Кіеўскай дзяржавы), а з гэтым стала падаць і значэнне Турава, што і прывяло яго да паступовага заняпаду. У той самы час Пінск, які быў размешчаны ў месцы, дзе ўпадалі ў Прыпяць яе левыя і правыя прытокі, меней цярпеў ад заняпаду дняпроўскага шляху. Праз Ясельду і Шчару ён меў сувязь з Панямоннем і Балтыкай, па Піне і Мухаўцы адчынялася дарога да Заходняга Буга і Польшчы. Верхняя Прыпяць звязвала Пінск з Валынню. Апроч таго, паміж Пінай і Ясельдай знаходзіліся вельмі ўрадлівыя глебы. Усё гэта разам спрыяла ўтварэнню вакол Пінска асобнага эканамічнага раёна, шпаркаму яго развіццю і павелічэнню яго палітычнай вагі, што і прывяло да ўтварэння асобнага Пінскага княства і паступовага заняцця ім дамінуючага месца ў Тураўскай зямлі. Драбленне на ўдзелы не прывяло да міжусобнай барацьбы яе князёў. Ва ўсякім разе, крыніцы не зарэгістравалі ніводнага такога выпадку. Гэта і з'яўляецца яшчэ адным пацвярджэннем таго, што з'яўленне ўдзелаў неабавязкова цягне за сабой міжусобную калатнечу. Па ўсім відаць, што тураўскія князі, бачачы сваю вайсковую слабасць, усведамлялі неабходнасць узаемнага мірнага жыцця і таму вялі асцярожную палітыку, каб не дапусціць варожага ўварвання ў свае землі. Так, тураўскі князь Святаполк Юр'евіч адмовіў у прытулку Уладзіміру Яраславічу, які вымушаны быў уцякаць з Галіча пасля сутычкі з бацькам. І гэта мела свае вынікі: мы не знаходзім у крыніцах фактаў нападаў на Тураўшчыну, хоць, вядома, гэта не выключае іх наяўнасці.

У адрозненне ад Полаччыны Тураўшчына не прайшла праз пакуты міжусобіцы. Аднак яна не набыла і той палітычнай кансалідацыі, якую здабыла Полаччына. Пераадолеўшы ўнутраны разлад, Полацк зноў вярнуў сабе пануючае становішча сярод сваіх удзелаў, а Тураў усё болей і болей марнеў. І толькі мірнае сужыццё тураўскіх удзелаў у пэўнай ступені замяняла гэтай зямлі палітычнае адзінства.



*Медаль-змеявік XII ст. з Менскага Палесся*

Часткова мы ўжо закраналі смаленскую гісторыю гэтага часу, разглядаючы полацкую гісторыю там, дзе яны перапляталіся. Як мы ўжо ведаем, у гэты час Смаленск, усведамляючы сябе цэнтрам крывіцкіх земляў, выступіў як канкурэнт Полацка ў іх аб'яднанні. І хоць у барацьбе са сваім супернікам Смаленск працяглы час меў перавагу, аднак у цэлым яго намаганні пацярпелі няўдачу. Чаму ж так выйшла? Адказ на гэтае пытанне і дасць кароткі агляд смаленскай гісторыі за адзначаны час.

Смаленск, як і Тураў, будучы доўгі час моцна звязаны з кіеўскімі інтарэсамі, таксама не мог адразу вырвацца з-пад іх прыцягнення. Больш за тое, калі Тураў толькі пасіўна, пад прымусам павінен быў удзельнічаць у кіеўскіх справах, то Смаленск у шэрагу выпадкаў браў на сябе актыўную ролю ў іх. Трэба зазначыць, што ўжо ў палітыцы Расціслава Мсціславіча выявіліся дзве тэндэнцыі, якія супярэчылі адна другой. З аднаго боку, ён імкнуўся забяспечыць цэласнасць і незалежнасць сваёй зямлі, а з другога боку, падтрымліваў імкненне роду Манамахавічаў, да якога сам належаў, да ўтрымання за сабой Кіева як сваёй вотчыны. Аднак барацьба за Кіеў з прадстаўнікамі іншых родаў, у першую чаргу з чарнігаўскімі Ольгавічамі, вяла да распылення сіл Смаленшчыны і да немінучасці яе аслаблення. Праўда, пры Расціславе, калі ён быў князем смаленскім, а пасля і вялікім кіеўскім, згубнасць гэтай барацьбы яшчэ яўна не адчувалася.

Смаленск яшчэ быў на вышыні эканамічнай і палітычнай магутнасці.

Адзначым, дарэчы, яшчэ адно падабенства Смаленска з Туравам. Хоць яго зямля і дзялілася на паасобныя ўдзелы, аднак міжусобнай барацьбы паміж імі, прынамсі, аж да сярэдзіны XIII ст., не заўважаецца. Выказвалася нават думка, што гэтыя ўдзелы не з'ўляліся палітычнымі адзінкамі[678]. Цалкам магчыма, што яны былі толькі адміністратыўнымі цэнтрамі для збору даніны ў карысць смаленскага князя. І ўсё ж, нягледзячы на тое, што Смаленск пазбег міжусобіц — гэтай балячкі, якая знясільвала іншыя землі, і ён тым не менш не пазбег гэтага лёсу. І прычына ўсё тая ж самая, а менавіта: ранейшае імкненне яго князёў працягваць барацьбу свайго роду за валоданне Кіевам. У сувязі з гэтым дарэчы будзе адзначыць асаблівасць, якая адрознівае Смаленск ад Полацка і ад Турава. Калі полацкія князі з канца X ст. займалі пасады толькі ў Полацкай зямлі (княжыванне Усяслава ў Кіеве было выключэннем з гэтага правіла), а тураўскія з сярэдзіны XII ст.— толькі ў Тураўскай зямлі, то смаленскія князі мелі пасады і ўдзелы і ў Ноўгарадзе і ў Паўднёвай Русі. Праўда, у неспрыяльныя для іх часы яны ўцякалі адтуль і знаходзілі прытулак на радзіме. Аднак тым не менш усё гэта прыводзіла да раздваення іх інтарэсаў, не давала магчымасці шчыльней прывязацца да роднай зямлі і побач з іх актыўнай барацьбой за Кіеў, які фактычна тады ўжо страціў сваё ранейшае значэнне, змушала да дарэмнай траты сіл і прыводзіла да ўзмацнення палітычнага ўплыву на Смаленск іншых земляў, у першую чаргу Суздальскай.

Калі Раману Расціслвічу (памёр у 1180 г.) удалося яшчэ хоць на кароткі момант заняць кіеўскі пасад і захаваць свой уплыў у Ноўгарадзе і Полацку, то пры яго браце Давыдзе, які яшчэ больш заўзята змагаўся за права на Кіеў, гэта ўсё страчваецца. Разглядаючы падзеі 1180, 1186 і 1195 гг., мы ўжо бачылі, як Полацк, які мэтанакіравана, не разгаліноўваючы сваёй палітыкі і не распыляючы сваіх сіл за чужыя інтарэсы, вельмі ўмела выкарыстаў барацьбу Расціславічаў з Ольгавічамі і, абапіраючыся на апошніх, змог вызваліцца з-пад смаленскай апекі і вярнуць сабе свае ранейшыя ўдзелы — Друцк і Віцебск. Менавіта адсутнасць усяго гэтага ў Смаленска была прычынай яго палітычнага заняпаду ў XIII ст.

# ДЗВЕ ЗАГАДКІ. КУЛЬТУРНЫЯ ЗДАБЫТКІ

Як у ранейшай, так і ў самай навейшай навуковай літаратуры, усё, што ў пісьмовых крыніцах носіць назву Гарадзенскага (войска ці князь), адносіцца да Гродна. Але ўжо гаворачы пра падзеі 1127 г., мы адзначалі, што, магчыма, упомнены пад гэтай датай Усеваладка з Гародна быў князем не ў Гродне, а ў Гародным, якое, верагодна, было асобным удзелам Тураўскай зямлі. Гэты самы Усеваладка ўпамінаецца і ў паходзе Мсціслава на Літву ў 1132 г., што зноў-такі звязваецца з Гроднам. Прычым выказваецца меркаванне, што гэта выклікалася спробай адсунуць межы Русі на поўнач ад Гродна, з чаго быццам бы вынікае, што гэты паход быў накіраваны ў бок Вяллі[679]. Тут яўнае мяшанне Старажытнай Літвы, з якой Гродна не суседнічала, з сучаснай. Гродзенскімі князямі лічацца і сыны Усеваладкі — Барыс і Глеб, якія пасля смерці свайго бацькі ў 1141 г. удзельнічалі ў паходзе кіеўскага князя Усевалада Ольгавіча на Галіч у 1144 г.[680]. Зноў-такі гэтыя звесткі даюць падставу змяшчаць Гарадзенскае княства бліжэй да Турава ці Чарнігава, чым да Гродна. Наўрад ці мог Барыс як гродзенскі князь прыняць такі актыўны ўдзел у барацьбе Ізяслава Мсціславіча за велікакняскі пасад супроць Юрыя Даўгарукага ў 1150—1151 гг.[681]. Хутчэй за ўсё ўскраіннае княства, якім магло быць Гродзенскае, у перыяд такой жорсткай удзельшчыны трымалася б усімі сіламі далей ад звадак, якія яму, апроч дарэмнай траты сіл, нічога не прыносілі б. Тое самае можна сказаць і аб удзеле Глеба Гарадзенскага ў 1167 г.[682] і Мсціслава Усеваладкавіча[683] ў 1170 г. у паходзе на полаўцаў. Гродзенскім князем лічыцца «Усеваладкавіч», які памагаў Мсціславу Ізяславічу ў барацьбе за велікакняскі пасад[684]. Болей канкрэтныя для геаграфічнай лакалізацыі Гарадзенскага княства звесткі пад 1174 г. аб паходзе Андрэя Багалюбскага на Кіеў. Тут гарадзенскія князі названы побач з тураўскімі і пінскімі[685], што можа ўказваць на суседства Гарадзенскага княства з Туравам і Пінскам. У 1184 г. пры апісанні паходу кіеўскага князя Святаслава на полаўцаў гарадзенскі князь Мсціслаў зноў названы побач з пінскім князем Яраславам[686], што не гаворыць у карысць атаясамлення неаднойчы ўпомненага ў летапісах Гарадзенскага княства з Гродзенскім. Хутчэй за ўсё пад ім трэба разумець іншае княства побач з Туравам і Пінскам, магчыма, бліжэй да апошняга. У сувязі з гэтым нагадаем і такі факт. У «Слове аб палку Ігаравым» упамінаецца Ізяслаў Васількавіч, які на падставе таго, што ў творы ўжыты выраз «трубы трубят



*Барысаглебская, або Каложская, царква — унікальны помнік горадзенскай школы. XII ст.*

городенскии», даследчыкамі лічыцца гродзенскім князем[687]. У летапісным жа Гарадзенскім княстве князямі былі Усеваладкавічы, апошні з іх, Мсціслаў, як мы бачылі, упамінаецца ў 1184 г., і наўрад ці можна дапусціць, каб тут умацаваўся прадстаўнік полацкай дынастыі, якім быў Ізяслаў Васількавіч. Вось чаму, калі лічыць гродзенскімі князямі Усевалодкавічаў, то да ліку гродзенскіх нельга адносіць Ізяслава Васількавіча і наадварот. На наш погляд, нельга толькі на падставе наймення «гарадзенскі» адносіць упэўнена каго-небудзь да гродзенскіх князёў. Гарадзенаў, як і Гародных, у той час было нямала, і таму да іх геаграфічнай лакалізацыі трэба падыходзіць вельмі асцярожна, улічваючы ўсе іншыя даныя. Такім чынам, пытанне аб месцазнаходжанні Гарадзенскага княства мы лічым праблематычным, яно патрабуе далейшага даследавання. Мы нават не ўпэўненыя, што яно абавязкова было на тэрыторыі Беларусі. Але дзе б ні знаходзілася гэтае княства, яно, калі меркаваць па актыўным удзеле яго ў падзеях 20—80-х гадоў XII ст., было, відаць, магутнае. Заслугоўвае ўвагі выраз «гарадзенскія князі», што можа ўказваць на наяўнасць удзелаў у гэтым княстве. Гэтак жа з'яўляецца паказальным і тое, што ў ім, бясспрэчна, умацавалася дынастыя Усевалодкавічаў, што можа ўказваць на вялікую ступень яго палітычнай самастойнасці.

У В. Тацішчава пад 1182 г. мы знаходзім паведамленне, якога няма ні ў адным з летапісаў. Тут ідзе гаворка аб узаемнай барацьбе князёў — драгічынскага Васількі Яраполкавіча і менскага Уладзіміркі Валадаравіча. У выніку варожасці з боку апошняга Васілька, узяўшы на дапамогу палякаў і мазаўшанаў, пайшоў да Берасця. Каля ракі Буг Уладзімірка сустрэў яго, і адбылася жорсткая бойка. Уладзімірка, страціўшы шмат людзей, пайшоў у Менск, а Васілька ўзяў Берасце. Аднак, баючыся сам тут быць, пакінуў у горадзе палякаў на чале са сваім швагрáм мазавецкім князем, вярнуўся ў Драгічын (Падляскі). А Уладзімірка, сабраўшы войска і ўзяўшы дапамогу ад палачанаў, зноў пайшоў да Берасця і праз дзевяць дзён узяў яго, пабіўшы шмат палякаў, а пасля рушыў на Падляшша на Васільку, які з немалым войскам з палякаў стаяў на Нуры за Драгічынам. Уладзімірка, наступаючы на яго, біўся ад раніцы да вечара. Палякі, убачыўшы шмат стратаў ад жорсткага бою, сталі адступаць да лесу. А Уладзімірка, прыйшоўшы ў ярасць, амаль усіх перабіў, і Васілька вымушаны быў з малой колькасцю воінаў ісці да свайго цесця Лешкі. Апошні, адразу сабраўшы войска, пайшоў на Уладзімірку і прымусіў яго пакінуць Падляшша, вобласць Васількаву[688].



*Арнаменты на крыжы Ефрасінні Полацкай*

В. Тацішчаў заўважыў, што гэты ўрывак быў унесены летапісцам у Полацкай зямлі[689]. Не ўсе даследчыкі сыходзіліся ў ацэнцы праўдзівасці гэтага паведамлення. Адны (В. Данілевіч, М. Доўнар-Запольскі) поўнасцю абвяргалі яго, іншыя (А. Андрыяшаў) лічылі яго праўдзівым. Праўда, спрэчка тут ідзе найперш пра асобу менскага князя Уладзіміркі Валадаравіча. М. Доўнар-Запольскі лічыў, што В. Тацішчаў няўважліва прачытаў летапіс і замест «пінскі» прачытаў «мінскі»[690]. І гэта гучыць нібыта пераканаўча. Але тут жа паўстае пытанне: «А ці быў і нават ці мог быць такі пінскі князь у гэты час?» На жаль, гэтага пытання даследчыкі не ставілі. А адказ на яго хутчэй за ўсё будзе адмоўны, бо пад 1183 г. Іпацьеўскі летапіс называе пінскім князем Яраслава[691], які разам з іншымі князямі хадзіў на полаўцаў. Наўрад ці за год да гэтага мог у Пінску княжыць Уладзімірка Валадаравіч, асабліва калі ўлічыць, што ў тураўскіх удзелах князямі былі нашчадкі Юрыя Яраславіча. Усё гэта змушае сумнявацца ў тым, што Уладзімірка Валадаравіч быў пінскім князем. Праўда, усе абставіны выкладзенай В. Тацішчавым гісторыі хутчэй за ўсё маглі адносіцца да Пінскага княства. Менавіта непасрэдна яно магло весці барацьбу за Берасце. Аднак цяжка сабе ўявіць, чаму гэтыя падзеі не знайшлі свайго адбіцця ў галіцка-валынскім летапісанні, дзе б ім найперш і належала быць зафіксаванымі. Але адзначанае не дае падставы лічыць Уладзімірку менскім князем. Хоць у карысць гэтага можа гаварыць яго імя па бацьку — Валадаравіч (г. зн. ён мог быць сынам вядомага нам менскага князя Валадара Глебавіча), а таксама і тое, што ён прасіў дапамогу



*Крыж Ефрасінні Полацкай*
*работы Лазара Богшы*

ў палачан. Выказваецца нават думка, што гэты Уладзімірка быў пазней полацкім князем і што менавіта ён фігуруе ў «Хроніцы Лівоніі» пад імем караля Вальдэмара. Аднак А. Андрыяшаў, які лічыў Уладзімірку менскім князем, вымушаны быў адзначыць недарэчнасць некаторых момантаў гэтай гісторыі, і найперш ён указаў на выраз: «...принудил (Уладзімірка.— *М. Е.*) его (Васільку.— *М. Е.*), оставя Подляшие, область Васильковy, вытти к Бресту, за реку Буг», з чаго можна заключыць, што Берасце лічылася ўладаннем Уладзіміркі Менскага, што не пацвярджаецца ніякімі іншымі фактамі[692]. Як бачым, указанае тацішчаўскае апавяданне немагчыма аднесці ні да менскай, ні да пінскай гісторыі 80-х гадоў XII ст. Застаецца меркаваць, што тут было заблытана датаванне і, магчыма, гэтыя падзеі адбываліся на сто гадоў пазней, калі сапраўды ішла доўгая барацьба за Берасце.

Заканчваючы разгляд беларускай гісторыі XII ст., хацелася яшчэ звярнуць увагу на высокае развіццё культуры ў нашых старажытных землях у гэты час. Мы не будзем прыводзіць у пацвярджэнне гэтага багаты археалагічны матэрыял, які ярка сведчыць аб высокім узроўні разнастайных рамёстваў. Для нас асабліва важна падкрэсліць, што менавіта ў гэты час з'явіліся першыя імёны нашых выдатных культурных дзеячаў. Гэта найперш — Ефрасіння Полацкая, з якой звязана і пашырэнне кнігі ў нашым краі, і заснаванне сі-

стэматычнай асветы, і, магчыма, нашага летапісання. З Ефрасінняй Полацкай шчыльна звязана і імя дойліда Іаана, якому належыць стварэнне Спаса-Ефрасіннеўскай і Барысаглебскай цэркваў, Бельчыцкага манастыра і, магчыма, іншых пабудоў, што сталі фундаметнам арыгінальнай полацкай архітэктуры. Для Ефрасінні па яе заказу зрабіў крыж выдатны полацкі майстар Лазар Богша. На жаль, гэтая наша вялікая святыня знікла ў апошнюю вайну, што, бясспрэчна, з'яўляецца неацэннай стратай. Тураў таксама даў аднаго з выдатнейшых дзеячаў нашага старажытнага пісьменства — епіскапа Кірылу, ад якога, на шчасце, засталося параўнаўча з іншымі тагачаснымі пісьменнікамі нямала твораў. У гэтых адносінах зусім не пашанцавала Кліменту Смалячічу. Ад яго да нас дайшоў толькі адзін твор — «Пасланне прэсвітэру Фаме»,— які тым не менш выяўляе ў яго аўтару выключна адукаванага чалавека. Нездарма ж у летапісе было сказана, што ён «быў кніжнікам і філосафам, якіх на Русі не было яшчэ». Да ліку выдатных культурных дзеячаў XII ст. трэба аднесці і смаленскага князя Рамана Расціславіча, які сам любіў кнігі і заснаваў шмат вучылішчаў у Смаленску, на што траціў шмат сродкаў, і таму на пахаванне яго прыйшлося рабіць зборы з жыхароў Смаленска. Заслугоўвае ўвагі яшчэ і тое, што адзначаныя культурныя дзеячы сваю высокую адукацыю і майстэрства змаглі атрымаць у сябе дома, не выязджаючы ў чужыя краі, напрыклад у Візантыю. Усё гэта яшчэ раз пацвярджае, наколькі былі багатыя нашы духоўныя скарбы ў гэты час, якія сталі ў далейшым грунтам для няспыннага развіцця культуры Беларусі.

## ЗА КРЫЖАМ ПРАПАВЕДНІКА — МЕЧ ЗАВАЁЎНІКА

Мы ўжо бачылі, наколькі беднымі і ўрыўкавымі былі звесткі рускіх летапісаў пра Полаччыну ў канцы XII ст. Яшчэ ў большай меры гэта адносіцца і да пачатку XIII ст. І вось гэты прагал у значнай ступені запаўняюць Лівонскія хронікі, і ў першую чаргу «Хроніка Лівоніі» Генрыха Латвійскага. Менавіта некаторыя яе звесткі і праліваюць святло на зацемненыя старонкі гісторыі Полаччыны, асабліва што датычыць яе пранікнення ў Ніжняе Падзвінне.

Заходняя Дзвіна была першай і галоўнай гістарычнай дарогай Полаччыны, і таму натуральна, што палачане імкнуліся ўсё далей і далей пранікнуць на захад да самага Балтыйскага мора. Але калі быў пакладзены гэтаму пачатак? У свой час Э. Банэль выказваў думку, што яшчэ каля 980 г. палачане маглі ўжо валодаць умацаванымі пунктамі ў Ніжнім Падзвінні, якімі маглі быць Герцыке, Кукенойс і Ашэрадэн[693]. Указваючы на гэтае меркаванне, В. Данілевіч зазначыў, што яно хоць і не пацверджана ніякімі фактамі, але можа быць прызнана даволі верагодным[694]. І з гэтым можна пагадзіцца. Тут дарэчы будзе нагадаць тое, што пры сваім рассяленні крывічы пакінулі досыць значныя свае калоніі ў раёне Дзвінска, пра што яскрава сведчыць тапаніміка[695]. Зразумела, што гэтыя і іншыя крывіцкія паселішчы, якія ўзніклі раней за Полацк на захад ад яго, маглі ў далейшым з'явіцца для палачанаў плацдармамі іх уладарання ў Ніжнім Падзвінні. Разглядаючы дзейнасць Усяслава Чарадзея, мы ўказвалі на магчымасць таго, што гэты князь ужо ўладарыў над Ніжнім Падзвіннем, што і з'яўлялася адной з асноў вайсковай сілы Полацкага княства.

Вядома, толькі мірным шляхам нельга было падначаліць Ніжняе Падзвінне. Яго плямёны аказвалі супраціўленне полацкаму ўладаранню і нават выходзілі з-пад яго, як гэта было з земгаламі ў 1106 г., супраць якіх пайшло вялізнае аб'яднанае полацкае войска. І ўсё ж, нягледзячы на паасобныя няўдачы, Полацк змог трымаць у сваім падначаленні

ніжнядзвінскія плямёны, аб чым мы можам меркаваць хоць бы па ўдзелу ліваў у паходзе полацкіх князёў на Друцк. І тым не менш усе гэтыя звесткі рускіх летапісаў трэба лічыць толькі ўскоснымі сведчаннямі аб прыналежнасці Полацку Ніжняга Падзвіння. Толькі Лівонскія хронікі і іншыя пісьмовыя дакументы заходняга паходжання далі непасрэднае пацвярджэнне гэтаму факту, аб чым мы ўжо гаварылі, разглядаючы падзеі 1186 г. У гэтых крыніцах мы знаходзім і канкрэтныя ўказанні на полацкія ўдзелы ў Ніжнім Падзвінні, якімі былі Герцыке і Кукенойс. У іх цэнтрах наяўнасць славянскага насельніцтва побач з селамі і летгаламі засведчылі і археалагічныя даследаванні[696]. Што ж сабой уяўлялі гэтыя гарады і іх удзелы?

Герцыке, відаць, з'яўляўся адным з першых фарпостаў Полацка ў Ніжнім Падзвінні. Калі ў ім магутныя ўмацаванні ўжо былі ў Х ст., як сведчыць археалогія[697], то трэба лічыць абгрунтаваным меркаванне аб пранікненні палачанаў ужо ў той час у гэты рэгіён Дзвіны. Упершыню ў «Хронікі Лівоніі» Герцыке ўпамінаецца пад 1203 г. На пачатку XIII ст. ён уяўляў сабой досыць багаты горад, у якім было некалькі праваслаўных цэркваў з дарагім убраннем, а таксама шмат срэбра, дарагога адзення, жывёлы, грошай і іншага дабра. Горад з'яўляўся рэзідэнцыяй князя, якога Генрых Латвійскі нават называе «каралём»[698]. Кукенойс (Кокнесе) знаходзіўся далей ад Герцыке на захад (ад Полацка за 338 км). Ён, відаць, узнік пазней, магчыма, у XI ст. Упершыню са сваім князем Вячкам, які таксама называецца каралём, упомнены ў «Хроніцы Лівоніі» пад 1205 г.[699], а пад 1206 г. ён названы рускім горадам[700], што ясна ўказвае на яго прыналежнасць Полацку. Дадзеныя археалогіі характарызуюць яго як сапраўдны горад, г. зн. гандлёва-рамесніцкі цэнтр. Як лічаць даследчыкі, ён, накшталт Герцыке, быў месцам, куды сцякалася даніна з мясцовых плямёнаў[701].

Як пакажа далейшы разгляд полацкіх падзей, ніжнядзвінскія ўдзелы, князі якіх паходзілі з роду Ізяславічаў, залежалі ад Полацка, але ўсё ж карысталіся вялікай доляй свабоды як ва ўнутраных справах, так і ў знешніх зносінах. Можна пагадзіцца з думкай, што іх улада абмяжоўвалася невялікай тэрыторыяй, якая прымыкала да цэнтраў удзелаў, а ўся астатняя тэрыторыя Ніжняга Падзвіння ўпраўлялася тубыльцамі — старэйшынамі, якія падначальваліся непасрэдна полацкаму князю[702].

Трэба адзначыць, што залежнасць Ніжняга Падзвіння ад Полацка засведчана, апроч «Хронікі Лівоніі», і іншымі тагачаснымі дакументамі. Так папа Клімент III зацвердзіў біскупства Ікескюль «у Рутэніі», Урбан III у 1264 г. лічыў



*Герцыке. Рэчы XI—XIII стст.*

усходнюю Латгалію ляжачай «у Русіі»[703]. Што разумелася пад Русіяй тут, добра засведчыў Арнольд Любецкі, які пісаў: «Кароль Русіі з Полацка меў звычай час ад часу збіраць даніну з гэтых ліваў»[704]. Указаныя факты яскрава сведчаць, што полацкая ўлада ў Ніжнім Падзвінні з'яўлялася тут старэйшай дзяржаўнай уладай, што князі Полацка былі не толькі фактычнымі ўладарамі ліваў і іншых плямёнаў, якія жылі тут, але і юрыдычна прызнаваліся ў гэтай якасці нават сваімі праціўнікамі і супернікамі, у прыватнасці крыжакамі. Трэба звярнуць увагу і на тое, што сляды працяглага полацкага ўплыву добра захаваліся ў грамадска-палітычнай і культурнай лексіцы мясцовых моваў, а таксама ў тапаніміцы.

Праўда, усе звесткі лівонскіх крыніц аб полацкай уладзе над Ніжнім Падзвіннем звязаны з яе заканчэннем тут. Да разгляду падзей, якія прывялі да гэтага, мы і пяройдзем.

Вышэй ужо адзначалася, што ў 1186 г. полацкі князь «Вальдэмар» даў дазвол нямецкаму місіянеру Мейнарду на яго дзейнасць сярод ліваў, не ўбачыўшы яе сумных вынікаў у будучым для Полацка. Дзейнасць Мейнарда, хоць і працякала цэлае дзесяцігоддзе да самай яго смерці ў 1196 г., не была паспяховай, гэтак жа як і яго наступніка Бертольда, забітага язычнікамі ў 1198 г. І толькі з пачатку дзейнасці біскупа Альберта асабліва яўна выявілася нямецкая пагроза

для Полацка. Менавіта ім у 1201 г. і была ўзведзена ў вусці Заходняй Дзвіны крэпасць Рыга. Вельмі паказальна, што з гэтай сумнай падзеі і пачынаецца полацкая гісторыя XIII ст., што як бы сімвалізавала далейшы цяжкі лёс Полаччыны. Сапраўды, заснаванне Рыгі ў вусці Заходняй Дзвіны з'явілася найбольшым ударам па інтарэсах Полацка, бо крыжакі замыкалі яго галоўную жыццёвую артэрыю, якой была Заходняя Дзвіна. Што вусце гэтай ракі належала Полацку — бясспрэчны факт, які доўга трымаўся ў памяці палачан. Яшчэ ў пачатку XVI ст. радныя паны Вялікага княства Літоўскага пісалі лівонскаму магістру Плятэнбергу, што калі «ён (вялікі маскоўскі князь Васілій III.— *М. Е.*) паспее завалодаць нашымі крэпасцямі — Смаленскам, Полацкам, Віцебскам, Мсціслаўлем і Оршаю, то вы не зможаце быць у бяспецы, тым больш што, на думку палачан, межы іх краіны распасціраліся па Дзвіне аж да самага мора, што ваш горад Рыга пабудаваны на іх зямлі»[705].

Зразумела, што ўмацаванне крыжакоў у вусці Заходняй Дзвіны не магло не прывесці да барацьбы Полацка з крыжакамі, якія сваімі дзеяннямі нішчылі полацкую ўладу над Ніжнім Падзвіннем.

Наступным крокам біскупа Альберта была арганізацыя ў 1202 г. са згоды рымскага папы адмысловага крыжацкага Ордэна мечаносцаў, ці, як яго інакш называлі, Лівонскага ордэна, для паспяховага заваявання ніжнядзвінскіх земляў і хрысціянізацыі іх насельніцтва. Такім чынам, Полацку прыйшлося мець справу з добра арганізаванай і таму моцнай агрэсіўнай сілай.

І вось у наступны, 1203 год адбылася першая сутычка Полацка з Ордэнам. У «Хроніцы Лівоніі» мы чытаем пра гэта: «Полацкі кароль Вальдэмар раптоўна з'явіўся з войскам у Лівонію, аблажыўшы замак Ікесколу (недалёка на ўсход ад Рыгі.— *М. Е.*). Няўзброеныя лівы не адважыліся супраціўляцца і паабяцалі даць яму грошы. Пасля гэтага, атрымаўшы даніну, кароль спыніў аблогу. Між тым тэўтоны, пасланыя біскупам з самастрэламі і іншай зброяй, занялі замак Гольм, і, калі прыйшоў кароль, каб аблажыць і гэты апошні, яны паранілі ў яго шмат коней і змусілі да ўцёкаў русаў, якія не рашыліся пад абстрэлам перайсці Дзвіну»[706]. Як бачым, першая ж баявая сустрэча з крыжакамі закончылася паражэннем для палачан з прычыны больш дасканалай нямецкай зброі. Звяртае на сябе ўвагу вялікае значэнне конніцы ў полацкім войску, якое, магчыма, толькі з яе і складалася.

У свой час у навуковай літаратуры ставілася пытанне, што было повадам для наступальных дзеянняў полацкага



*Рэшткі гарадзішча і замка ў Кукенойсе. Гравюра XIX ст.*

князя супроць крыжакоў у 1203 г. Ф. Кейслер лічыў вялікай памылкай з боку «Вальдэмара», што ён не ўвайшоў у згоду з лівамі і не толькі не схіліў іх на свой бок, але яшчэ і абклаў іх кантрыбуцыяй. Э. Банэль меркаваў, што полацкі князь помсціў за забойства полацкага купца і за абмежаванне плавання па Дзвіне, што, вядома, слушна. У той жа час мае рацыю і С. Салаўёў, які сцвярджаў, што «полацкія князі прывыклі хадзіць вайной на чудзь (відаць, пад ёй разумеліся лівы, што належалі да фінаў-чудзі.— *М. Е.*) і браць з яе даніну сілаю, калі яна не хацела плаціць яе добраахвотна. Гэтаксама яны хацелі цяпер дзейнічаць супроць немцаў». Пацвярджэнне гэтай думкі мы знаходзім у Арнольда Любецкага, выказванне якога мы часткова ўжо прыводзілі, а зараз даём яго поўнасцю: «Кароль русаў з Полацку меў за звычай час ад часу збіраць даніну з гэтых ліваў, а біскуп у ёй адмаўляў яму. Ад гэтага ён часта рабіў жорсткія напады на тую зямлю і ўпомнены горад» (маецца на ўвазе Рыга). Карацей кажучы, біскуп забараніў лівам плаціць даніну Полацку, што і выклікала раптоўны паход яго князя.

Гэты факт яшчэ засведчыў і тое, што даніну з ліваў, як відаць, і з іншых прыбалтыйскіх плямёнаў непасрэдна збіраў полацкі князь, які, такім чынам, быў іх уладаром.

Адразу пасля паведамлення аб адступленні полацкага князя ў «Хронікі Лівоніі» гаворыцца, што кароль Герцыке (ён не названы тут па імені, але з далейшага мы ведаем, што гэта быў Усевалад), падышоўшы да Рыгі з летонамі, забраў жывёлу гараджан, якая была на пашы, захапіў двух свята-

роў, што пілавалі з пілігрымамі лес, а аднаго, які разам з гараджанамі пагнаўся за князем, забіў[707]. Нельга не заўважыць сувязь гэтага факта з папярэднім. Ясна, што дзеянні полацкага і герцыкскага князёў былі ўзгодненымі. Болей за тое, улічваючы вялікую адлегласць Герцыке ад Рыгі, куды наўрад ці пайшоў бы самастойна Усевалад, можна думаць, што полацкі князь па дарозе на ліваў захапіў з сабою і герцыкскага князя, атрад якога, такім чынам, быў дапаможнай сілай і помсціў крыжакам за няўдачу палачан.

Трэба зазначыць, што ў гэтым паведамленні трохі здзіўляе адзін факт, а менавіта тое, што Усевалад ішоў на Рыгу з літоўцамі. Так мы чытаем у перакладзе, а ў арыгінале апошнія называюцца «Lethones»[708]. У сувязі з гэтым узнікае пытанне: а ці правільным тут з'яўляецца пераклад, бо на латыні літоўцы — lithuani, а па-нямецку — Litauer[709]. Калі ў апошніх мы бачым адэкватнасць, якая выяўляецца і ў сугучнасці, то гэтага няма паміж летонамі і літоўцамі. Магчыма, што ў «Хроніцы Лівоніі» пад летонамі не ўсюды разумеецца тое самае племя. Ва ўсякім разе, у дадзеным выпадку цяжка зразумець, чаму Усевалад ішоў разам з літоўцамі, калі Герцыке знаходзіўся на тэрыторыі, населенай земігаламі, латгаламі і куронамі. У далейшым мы таксама яшчэ ўкажам на факты, якія супярэчаць атаясамленню летонаў з літоўцамі.

Падзеі 1203 г. азначалі сабою пачатак адкрытай вайны паміж Полацкам і крыжакамі. Важнае значэнне для зыходу яе мелі адносіны да ваюючых бакоў мясцовага насельніцтва. Найперш трэба адзначыць, што досыць вялікая тэрыторыя Ніжняга Падзвіння не была ўсюды ў аднолькавай меры асвоена полацкай уладай. Відаць, болей за ўсё апошняя адчувалася ў прыбярэжнай з Дзвіной паласе, у той час як у аддаленай тэрыторыі яе прысутнасць не была такой відавочнай. Полацкая ўлада, як гэта відаць з крыніц, выяўлялася найперш у збіранні даніны і аказанні Полацку вайсковай дапамогі. Ва ўсім астатнім плямёны кіраваліся сваімі старэйшынамі і самастойна вялі войны і заключалі саюзы з суседзямі. Зразумела, любая іншаземная ўлада — ці яна моцная, ці яна слабая — непрымальная для пакоранага народа. Таму і полацкае ўладаранне не магло карыстацца асаблівай сімпатыяй тубыльцаў. Аднак справа змянілася з наступленнем крыжакоў. Іх добра арганізаваная ўлада з яе паслядоўнасцю і разнастайнымі метадамі прыгнечання, з яе сталым сістэматычным уціскам у параўнанні з менш арганізаванай полацкай уладай успрымалася прыбалтыйскімі плямёнамі выключна жорсткай і таму з'яўлялася для іх большым злом, чым ранейшая. Асабліва важнае значэнне мела і тое, што

палачане не прымушалі залежныя ад іх язычніцкія плямёны Прыбалтыкі пераходзіць у хрысціянства. Гэтым асабліва дакаралі крыжакі полацкіх князёў, якія, маўляў, «стараюцца пакарыць краіны не для адраджэння праз веру Хрыстову, а дзеля падаткаў і здабычы»[710]. Адсюль зразумела, што пад уплывам такіх акалічнасцей і маглі змяніцца адносіны да полацкай улады насельніцтва Прыбалтыкі, у першую чаргу ліваў, якія адразу з'явіліся аб'ектам нямецкай агрэсіі і таму пачалі глядзець на полацкага князя як на моцную апору ў іх барацьбе з крыжакамі. Гэтым і было выклікана з'яўленне таемнага ад немцаў ліўскага пасольства ў Полацку ў 1206 г., якое хацела схіліць караля да выгнання тэўтонаў. Лівы скардзіліся, што біскуп з яго прыхільнікамі ім у вялікі цяжар, а прыгнёт веры для іх нясцерпны. Даведаўшыся пра гэта, кароль загадаў усім, хто знаходзіўся ў яго каралеўстве, як мага хутчэй рыхтавацца да паходу, каб, узяўшы неабходнае ў дарогу, на караблі ці на плытах з бярвення па цячэнні ракі хутка і зручна падысці да Рыгі. (Звернем увагу на перамяшчэнне полацкага войска па вадзе — не толькі на караблях, але і на плытах.) Аднак у далейшым падзеі набываюць амаль дэтэктыўны характар. Справа ў тым, што біскуп Альберт, бачачы супраціўленне ліваў і разумеючы цяжкасць барацьбы з імі, вырашыў задобрыць полацкага князя і гэтым самым нейтралізаваць яго і з такой мэтай накіраваў да яго пасольства на чале з абатам Тэадорыхам, які павінен быў падарыць каралю баявога каня з узбраеннем (па дарозе гэтыя дары адабралі летоны). Калі тэўтонскае пасольства з'явілася да полацкага караля, то ён наладзіў яму вочную стаўку з лівамі. І на запэўненне тэўтонаў, што прыйшлі дзеля міру і дружбы, лівы заявілі, што тэўтоны не захоўваюць міру. Баючыся выявіць свае тайныя намеры, кароль загадаў немцам выйсці і чакаць на двары. І вось у гэты час абату ўдалося дарамі і грашыма падкупіць аднаго з каралеўскіх дарадцаў, які і выдаў план (маецца на ўвазе план паходу на Рыгу), што трымаўся ў тайне. Даведаўшыся, што ў Полацку ёсць жабрак з Гольма, абат наймае яго і загадвае яму даставіць ліст біскупу і гэтым самым паведаміць аб усім, што ён выведаў у Полацку. Пасля атрымання гэтых вестак многія пілігрымы, што меліся адплыць за мора, вярнуліся назад разам з біскупам. У сваю чаргу і полацкі кароль даведаўся пра ўчынак абата, пазваў яго да сябе і спытаўся, ці пасылаў ён ганца ў Рыгу. Абат прызнаўся ў гэтым. Пасля паслы, што суправаджалі Тэадорыха, сталі ўгаворваць яго адмовіцца ад свайго прызнання, аднак ён, ведаючы, што «слова — не верабей, выпусціш — не зловіш», не хацеў гэтага рабіць. Полацкі кароль, зразумеўшы, што

так ён нічога не даб'ецца, паколькі намер яго выкрыты, задумаў хітрасць. Тут храніст зазначыў: «Той, хто з выглядам галубкі гаворыць ласкавыя словы, часамі раніць гэтак жа, як і змяя ў траве».

Абата адпусцілі дадому, але разам з ім адправілі і полацкіх паслоў з мірнымі прапановамі, але з каварнай думкай, як зазначыў храніст. Выслухаўшы абодва бакі — ліваў і біскупа,— яны павінны былі вырашыць, чыя праўда.

Адпушчаныя князем паслы вельмі хутка дабраліся да замка русаў Кукенойса (яшчэ адно сведчанне яго прыналежнасці да Полацка) і адтуль адправілі ў Рыгу разам з абатам аднаго дзякана Стэфана, запрашаючы біскупа сустрэцца з пасламі 30 мая каля ракі Вогі (цяпер Огер). Паслы, рассыпаўшыся на ўсе бакі па вобласці, пачалі клікаць ліваў і лэтаў (уласна званых латгаламі) з'явіцца пры зброі. Лівы прыйшлі не столькі з намерам выканаць волю караля, г. зн. полацкага князя, колькі пасадзейнічаць пагібелі хрысціян. Аднак лэты, хоць і заставаліся яшчэ язычнікамі, усё ж былі добрай думкі аб жыцці хрысціян і, жадаючы ім дабра, не з'явіліся на гэтыя каварныя, як характарызуе іх Генрых, перагаворы, і нават падарункі, паднесеныя ім палачанамі, не змаглі схіліць іх супроць тэўтонаў. Пан біскуп, запрошаны на гэтыя перагаворы з полацкімі пасламі праз Стэфана, па радзе сваіх даў адказ: «Ва ўсіх краінах, як вядома, існуе агульны звычай, каб паслы, адпраўленыя сваімі ўладарамі, самі шукалі таго, да каго пасланы, і з'яўляліся да яго, але ніколі гаспадар, які б сціплы і ласкавы ён ні быў, не выходзіць са сваіх умацаванняў насустрач паслам. Таму і паслам і іх ганцам належыць шукаць нас у нашым горадзе, дзе мы са сваімі маглі б прыняць і ўтрымліваць іх з большай пашанай. І так, хай завітаюць, нічога не баючыся, чакаючы ганаровага прыёму».

З набліжэннем прызначанага дня ўзброеныя лівы сабраліся на перагаворы каля ракі Вогі. Старэйшыны ж з замка Гольм, завадатары ўсёй справы, прыйшлі да іх на караблі і, прыстаўшы да замка Ікескюль, сталі клікаць з сабою ікескюльцаў. Тэўтоны, ведаючы каварства ліваў, адмовіліся сесці да іх на карабель. І тыя прадаўжалі свой шлях, разважаючы аб выгнанні хрысціян. Лівы згаварыліся на тым, каб, сабраўшыся з усіх канцоў краіны, спачатку заняць бліжэйшы да Рыгі замак Гольм, а адтуль ужо напасці на рыжан, вельмі малалікіх у той час. І лівам удалося захапіць Гольм, у якім быў забіты святар Іаан. Аднак рыцары вярнулі сабе Гольм і нанеслі вялікія страты лівам. У ліку забітых быў старэйшына Ако, які разам з іншымі прасіў караля полацкага выступіць на вайну з рыжанамі. Рыцары былі асабліва ўзрадаваны

смерцю Ако і, адсекшы яму галаву, паслалі яе як трафей свайму біскупу.

У такіх акалічнасцях для ліваў адзіным ратункам была дапамога полацкага князя, да якога яны і звярнуліся зноў. Яны паведамілі яму праз ганцоў аб панесеных імі стратах і прасілі прыйсці на дапамогу ім супроць тэўтонаў, асабліва карыстаючыся часам, пакуль у Рызе заставалася мала людзей, а іншыя паехалі з біскупам. Адгукаючыся на іх кліч і парады, кароль сабраў войска з усяго свайго каралеўства, а таксама ад суседніх каралёў, сваіх сяброў, і з вялікай храбрасцю спусціўся на караблі ўніз па Дзвіне.

Пры высадцы каля Ікескюля многія з полацкага войска былі раненыя балістарыямі рыцара Конрада. Заўважыўшы, што тэўтоны знаходзяцца ў замку, палачане пайшлі далей і, раптоўна падышоўшы да замка Гольм, акружылі яго з усіх бакоў. Лівы ж, якія не ведалі аб прыходзе полацкага войска, адны пабеглі і схаваліся ў лясах, астатнія далучыліся да тэўтонаў і заперліся ў замку. Балістарыі ўзышлі на валы і пераранілі мноства палачан. Апошнія, са свайго боку, не ведаючы прымянення балісты, але вопытныя ў стральбе з лука, біліся шмат дзён і ранілі многіх на валах. Яны сабралі вялікі касцёр з бярвенняў і стараліся падпаліць умацаванні, але стараннi гэтыя былі дарэмныя, а пры зборы лесу многія з іх былі паранены балістарыямі. Таму кароль полацкі паслаў ганцоў да жыхароў Тарэйды, да лэтаў і ўсіх вакольных язычнікаў, каб усе яны выступілі ў паход супроць рыжан. Людзі з Тарэйды адразу ж з радасцю сабраліся да караля, і было даручана ім збіраць дровы, каб падпаліць замак. А паколькі зброі для абароны яны не мелі, то пры збіранні дроў вялікае мноства людзей было перабіта нечаканымі стрэламі. Лэты ж і самі не прыйшлі і ганцоў не прыслалі. Прыладзілі палачане і невялікую кідальную машыну, на ўзор тэўтонскіх, але, не ведаючы майстэрства кідаць каменне, ранілі многіх у сябе, пападаючы ў тыл. Тэўтоны па сваёй малалікасці (іх было ўсяго 20 чалавек), баючыся здрадніцтва з боку ліваў, якіх многа было з імі ў замку, днём і ноччу заставаліся на валах у поўным узбраенні, ахоўваючы замак і ад сяброў унутры і ад ворагаў звонку. Лівы ж штодзённа ўсё шукалі спосабу, як бы захапіць іх хітрасцю, аддаць у рукі палачанаў. І калі б працягнуліся дні вайны, то наўрад ці рыжане і жыхары Гольма пры сваёй малалікасці маглі б абараніцца. У Рызе баяліся і за становішча ў горадзе, бо збудаванні яго яшчэ не былі моцныя, баяліся і за справы па-за горадам, за сваіх, абложаных у Гольме.

Між тым да караля вярнуліся некаторыя лівы-разведчыкі і сказалі, што ўсе палі і дарогі вакол Рыгі поўныя дробных

жалезных трохзубых цвікоў. Яны паказалі каралю некалькі такіх цвікоў і сказалі, што такімі шыпамі цяжка паколаты ногі іх коней і ўласныя іх бакі і спіны. Спалохаўшыся гэтага, кароль не пайшоў на Рыгу, што і выратавала яе. Тарэйдцы ж, убачыўшы караблі ў моры, паведамілі пра гэта каралю, і той, не толькі не дабіўшыся поспеху ў адзінаццацідзённай аблозе замка, але страціўшы многа сваіх, баючыся ў той жа час прыбыцця тэўтонаў, падняўся з усім сваім войскам, забраўшы раненых і забітых, і вярнуўся на караблі ў сваю зямлю. Пасля яго адыходу лівы вымушаны былі прасіць міру ў тэўтонаў і згаджацца на хрышчэнне. Так перадае «Хроніка Лівоніі» падзеі 1206 г., звязаныя з паходам полацкага князя на крыжакоў[711].

З разгляду гэтай інфармацыі, бясспрэчна, у многім тэндэнцыйнай, мы ўсё ж можам зрабіць некаторыя больш-менш пэўныя высновы. Па-першае, тут яшчэ раз пасведчана аб даўняй залежнасці Ніжняга Падзвіння ад Полацка. І таму зразумела, чаму Полацкая зямля першая з усіх усходнеславянскіх земляў уступіла ў барацьбу з крыжацкай агрэсіяй, бо яна перш за ўсё была пагрозай для полацкіх інтарэсаў. Па-другое, мы яскрава бачым, як крыжацкая пагроза садзейнічала далейшаму працэсу з'яднання беларускіх земляў, якія бачылі агульную для ўсіх іх небяспеку. Гэта красамоўна пасведчыў той факт, што полацкі кароль для паходу супроць тэўтонаў «сабраў войска з усяго свайго каралеўства, а таксама ад суседніх каралёў, сваіх сяброў». Гэта гаворыць аб адзінстве полацкіх князёў і рашуча адкідае сцвярджэнне старой і новай гістарыяграфіі аб тым, што Полацкая зямля нібыта ўгразла ў міжусобіцах і канчаткова аслабела. Па-трэцяе, абараняючы свае інтарэсы ў Прыбалтыцы, Полацк бараніў і інтарэсы прыбалтыйскіх плямёнаў, якія таксама супраціўляліся крыжакам і бачылі ў Полацку сваю надзейную апору. Па-чацвёртае, апісаныя падзеі адначасова паказалі, што, выяўляючы сваё адзінства і рашучасць у барацьбе з крыжакамі, Полацк адначасова паказаў і свой слабы бок, што і дало сумныя вынікі ў справе змагання з агрэсіяй. Тут яўна кідаецца ў вочы адсталасць баявой тэхнікі палачанаў у параўнанні з крыжакамі, у распараджэнні якіх было навейшае для таго часу еўрапейскае ўзбраенне. Мела значэнне і неаднолькавае жаданне розных прыбалтыйскіх плямёнаў весці барацьбу з тэўтонамі. Калі лівы паказалі сябе найбольш стойкімі і паслядоўнымі ў сваім адпоры агрэсіі, то гэтага нельга сказаць пра лэтаў, якія, як мы бачылі, неаднаразова ўхіляліся ад барацьбы. Тут, відаць, давала сябе знаць варожасць паміж фінскімі плямёнамі, да якіх належалі лівы, і балцкімі, да якіх адносіліся лэты, земгалы, селы. Гэту

непрыязь выкарыстоўвалі ў сваіх інтарэсах крыжакі. Яны, напрыклад, у 1206 г. паклікалі земгалаў, якія заўсёды варожа адносіліся да жыхароў Тарэйды ліваў, і з радасцю пайшлі супроць апошніх[712].

## ВЯЧКА І УСЕВАЛАД У БАРАЦЬБЕ З КРЫЖАКАМІ

Далейшы ход падзей у Прыбалтыцы становіцца ўсё больш неспрыяльны для Полацка. Крыжакі ўсё больш наступалі, і к 1207 г. «уся Лівонія была ахрышчана»[713]. А хрышчэнне азначала і палітычнае падначаленне ўладзе Ордэна. Вяртанне ў гэтым годзе біскупа Альберта ў Рыгу з новым папаўненнем пілігрымаў, вядома, яшчэ больш умацоўвала сілы крыжакоў. І гэта не магло не выклікаць вялікай трывогі полацкіх князёў, у першую чаргу Вячкі, які добра разумеў, што небяспека непасрэдна набліжалася да яго ўдзела, самага блізкага да Рыгі, і таму вымушаны быў весці вельмі асцярожную палітыку ў дачыненні да Ордэна. Яшчэ ў 1205 г. Вячка, даведаўшыся, што вялікі атрад лацінскіх пілігрымаў пасяліўся па суседству, усяго за тры мілі ад Кукенойса, здабыў праз ганца пропуск да біскупа і адправіўся да яго на караблі ўніз па Дзвіне. Пасля поціску рук і ўзаемных прывітанняў ён тут жа заключыў з тэўтонамі мір, які, між іншым, працягваўся нядоўга[714]. З гэтага кароткага лівонскага запісу можна зразумець, што як Кукенойс, так і Ордэн, не рашаючыся на адкрытую ўзаемную барацьбу, ішлі на часовы кампраміс і заключалі мір, які, зразумела, не мог быць трывалы. Аналагічная сітуацыя ў адносінах да Кукенойса і Ордэна паўтарылася ў 1207 г. Зноў, дачуўшыся аб прыбыцці біскупа з новымі сіламі крыжакоў, Вячка разам са сваімі людзьмі выйшаў яму насустрач, а пасля быў прыняты ў Рызе з пашанай і правёў у самай дружалюбнай абстаноўцы многа дзён у доме біскупа. З дыпламатычнага боку ўсё гэта можа быць зразумела: патрэбна было паказаць біскупу сваю прыязнасць да яго і гэтым самым калі не зусім пазбавіцца крыжацкага нападу, то хоць бы аддаліць на нейкі час. Аднак далей высвятляецца, што для Вячкі Ордэн быў не ворагам, а саюзнікам, бо ён папрасіў біскупа дапамагчы яму супроць нападу летонаў (пад імі, як мы ўжо адзначалі, ва ўсіх даследаваннях разумеюцца літоўцы, што вельмі спрэчна). Пры гэтым сам Вячка прапанаваў біскупу палавіну сваёй зямлі і свайго замка, што і было прынята, пасля чаго біскуп шанаваў «караля» многімі дарамі, абяцаючы яшчэ дапамогу людзьмі і зброяй, і Вячка з радасцю вярнуўся дадому[715]. Мы б, вя-

дома, зрабілі вялікую памылку, калі б верылі кожнаму слову «Хронікі Лівоніі». Яе тэндэнцыйнасць бясспрэчная, асабліва ў імкненні паказаць у больш прывабным святле нямецкую агрэсію, зменшыць яе небяспеку для іншых народаў і нават паказаць іх сімпатыю да яе. Відаць, такое прызначэнне меў і прыведзены намі вышэй запіс. Бачыце, ворагамі Вячкі былі не тэўтоны, а летоны, і настолькі небяспечныя, што Вячка гатовы добраахвотна аддаць палавіну сваіх уладанняў, каб толькі абараніцца ад іх. Аднак гэтаму цяжка паверыць. Хутчэй за ўсё ўчынак Вячкі быў выкліканы націскам з боку Ордэна, які, магчыма, страшыў Вячку пагрозай нападу летонаў, пры гэтым абяцаючы абараніць яго за ўступку паловы ўдзела. Як бачым, у параўнанні з 1205 г. біскуп дзейнічаў больш жорстка і з нямецкай метадычнасцю змусіў Вячку паступіцца часткай свайго ўладання. Што да летонаў, то далей «Хроніка» нідзе не гаворыць аб нападзе іх на Кукенойс. Сказана толькі пра напад іх на Тарэйду[718]. Усё гэта дае падставу ўсумніцца ў праўдзівасці «Хронікі» адносна летонскай пагрозы Кукенойсу. Галоўнай пагрозай для яго, як і для прыбалтыйскіх плямёнаў, былі крыжакі.

Аднак знешне мірныя адносіны паміж Ордэнам і Кукенойсам працягваліся зусім нядоўга. Па ўсім відаць, што Вячка, добра разумеючы захопніцкія намеры рыцараў, вырашыў не даваць ім спакою. Паводле «Хронікі Лівоніі», ён асабліва прычыняў шмат непрыемнасцей людзям якогасьці рыцара Данііла. І вось апошні вырашыў адпомсціць Вячку. Аднойчы ноччу ён разам са сваімі людзьмі хутка рушыў да замка Вячкі. Прыйшоўшы на досвітку, рыцары ўбачылі, што людзі ў замку спалі, а вартавыя на вале не былі пільныя. Узышоўшы нечакана на вал, яны захапілі галоўнае ўмацаванне. Тых, што адступілі ў замак, рыцары не пажадалі забіваць як хрысціянаў, але, пагразіўшы ім мячамі, адных звярнулі да ўцёкаў, а другіх узялі ў палон і звязалі. У тым ліку захапілі і звязалі самога Вячку, а ўсю маёмасць, што была ў замку, знеслі ў адно месца і пільна ахоўвалі. Данііл, які тут жа прысутнічаў, вырашыў звярнуцца да біскупа і расказаў яму аб усім, што адбылося. Той, аднак, не адобрыў усяго гэтага, загадаў вярнуць Вячку ў яго замак і аддаць яму яго маёмасць, а затым запрасіў яго да сябе, з пашанай прыняў, падарыў яму коней і шмат пар дарагога адзення і ў час вялікадня ласкава частаваў яго і яго людзей і, суцішыўшы ўсялякую варожасць паміж ім і Даніілам, з радасцю адпусціў яго дамоў. Але адначасова, памятаючы пра тое, што абяцаў Вячку, прымаючы ад яго палавіну замка, біскуп паслаў з ім дваццаць чалавек са зброяй і коньмі, людзей дзейных — рыцараў і балістарыяў, а таксама муляраў, каб умацаваць

замак і абараняць яго ад летонаў. Усе іх выдаткі і патрэбы біскуп прадугледзеў наперад[717].

Гэтае месца «Хронікі» таксама патрабуе некаторых тлумачэнняў. Найперш укажам на наяўнасць суперніцтва паміж рыжскім біскупам і Ордэнам, што выявілася і ў адносінах да Вячкі. Біскуп, як бачым, асудзіў дзеянні рыцара Данііла і ўсяляк аблашчыў Вячку. Аднак гэтыя супярэчнасці датычыліся толькі тактыкі, а не ўсёй заваёўніцкай крыжацкай стратэгіі. Калі рыцары дзейнічалі груба, то біскуп ужываў больш гнуткую тактыку, добра разумеючы, што яна можа прынесці больш пажаданыя вынікі ў заваяванні Ніжняга Падзвіння. Менавіта гэта добра разумеў і Вячка, які нікольki не паддаўся на біскупскую ласку. Вось чаму, як характарызуе гэта па-свойму «Хроніка Лівоніі», Вячка, вярнуўшыся дадому, быў з выгляду вясёлы, але з каварнымі задумамі ў душы. І апошняе цалкам зразумела: ён добра ведаў, што атрад рыцараў, які ішоў разам з ім у Кукенойс нібыта бараніць яго ад летонаў, у сапраўднасці быў пасланы для таго, каб у зручны момант нанесці яму ўдар у спіну. Вось чаму, вярнуўшыся ў Кукенойс, ён, лічачы, што біскуп з пілігрымамі (якія адслужылі ўжо свой гадавы тэрмін і намерваліся вярнуцца ў Тэўтонію) ужо адплыў і што ў Рызе засталося мала народу, вырашыў расправіцца з рыцарамі і іх людзьмі, якія былі ў яго замку. Дачакаўшыся зручнага дня, калі амаль усе тэўтоны пайшлі на сваю работу (яны seклі камень для пабудовы замка, склаўшы наверсе па краі рова мячы і іншае ўзбраенне і не баючыся Вячкі як свайго айца і гаспадара), раптам прыбеглі слугі Вячкі і ўсе яго людзі, схапілі мячы і зброю тэўтонаў і многіх з іх без зброі і даспехаў перабілі. Сёй-той з іх уцёк і, не спыняючыся ні днём, ні ноччу, каб расказаць, што здарылася, дабраўся нарэшце да Рыгі. Забіта было семнаццаць чалавек, а трое выратаваліся ўцёкамі. Трупы забітых, кінуўшы ў Дзвіну, людзі Вячкі паслалі рыжанам, і тыя, дастаўшы з вады гэтыя целы, пахавалі іх.

Пасля ўсяго гэтага Вячка паслаў вялікаму каралю Вальдэмару (полацкаму князю) лепшых тэўтонскіх коней, балісты, панцыры і іншае, а разам з тым прасіў і раіў сабраць войска як мага хутчэй і ісці браць Рыгу, дзе, паведамляў ён, засталося мала народу, пры гэтым лепшыя забіты ім, а іншыя паехалі з біскупам. Пачуўшы пра гэта, Вальдэмар з празмернай даверлівасцю склікае ўсіх сваіх сяброў і людзей свайго каралеўства[718]. Гэта сведчанне «Хронікі» вельмі паказальнае ў тым, што яно як найлепш засведчыла залежнасць Кукенойса ад Полацка, князю якога Вячка пасылае свае лепшыя трафеі і дапамогі якога ён просіць. Аднак крыжацкія дзеянні апярэдзілі гэтую дапамогу.

Біскуп, затрыманы ў Дынамюндэ адваротным ветрам, даведаўшыся аб тым, што людзі яго ў Кукенойсе перабіты, сабраў усіх пілігрымаў, расказаў ім аб усім, што здарылася, і заклікаў іх мужна стаць на абарону царквы і дапамогу ёй, паабяцаўшы ім адпушчэнне ўсіх грахоў і вечнае жыццё. У адказ на гэта трыста пілігрымаў зноў уздзелі на сябе крыж і парашылі вярнуцца ў Рыгу і стаць сцяной за божы дом. Звыш таго, біскуп пераслаў у Рыгу і многіх нанятых за плату людзей. Усе тэўтоны, рассеяныя ў розных месцах па Лівоніі, разам з іншымі старэйшынамі ліваў сабраліся ў Рыгу на абарону царквы. Калі ў Кукенойсе даведаліся, што тэўтоны і лівы сабраліся ў Рызе, то, баючыся за сябе і свой замак і не адважыўшыся чакаць прыходу рыжанаў, усе яны, абаронцы і жыхары, падзяліўшы між сабой коней і зброю тэўтонаў, падпалілі замак і пабеглі кожны сваёй дарогай. Летгалы і селы, якія жылі там, схаваліся ў цёмныя лясныя гушчары, а кароль Вячка пайшоў у Русію, каб ніколі больш не вяртацца ў сваё каралеўства[719].

Даведаўшыся, што замак Кукенойс спалены і русы ўцяклі, рыжане паслалі Мейнарда з іншымі рыцарамі ў пагоню за імі. Некаторых удалося дагнаць, нямала іх знайшлі па лясах і балотах, асабліва летгалаў і селаў, даннікаў караля (Вячкі), аднадумцаў і саўдзельнікаў яго ў здрадзе і забойстве тэўтонаў. Захапілі і некаторых русаў, узялі здабычу і маёмасць іх, а таксама адабралі назад і сёе-тое з тэўтонскай зброі. Усіх, каго знаходзілі з ліку вінаватых у аднадумстве і здрадзе, аддавалі жорсткай смерці і знішчылі здраднікаў у той вобласці[720].

Так трагічна закончылася гісторыя Кукенойса — самай заходняй падзвінскай крэпасці Полацка, для якога гэта было выключна цяжкай стратай. З гэтага сведчання «Хронікі» мы бачым, як усё цяжэй прыходзілася полацкім удзелам адстойваць свае пазіцыі ў Ніжнім Падзвінні. Ордэну ўдалося перацягнуць на свой бок нават значную частку старшынаў ліваў, якія напачатку былі найбольш непрымірымымі ворагамі крыжакоў. Праўда, па-ранейшаму вернымі саюзнікамі палачанаў былі летгалы і селы, якія бачылі ў Кукенойсе сваю непасрэдную апору ў барацьбе супроць крыжацкага нашэсця, за што і жорстка паплаціліся.

Як сведчыць далей «Хроніка», у 1209 г. біскуп, вярнуўшыся з чарговай паездкі ў Тэўтонію з вялікай колькасцю пілігрымаў, напомніў ім аб учынках караля Вячкі, у прыватнасці забойства ім рыцараў, якія былі накіраваны яму ў дапамогу супроць летонаў. Пасля гэтага біскуп Альберт з усімі пілігрымамі і сваім войскам адправіўся ў Кукенойс і, знайшоўшы гару пакінутай, загадаў ачысціць яе ад чарвей

і змеяў і ўмацаваць трывалым валам. Ён пабудаваў там вельмі моцны замак, пакінуў у ім для аховы рыцараў-балістарыяў са сваёй дружынай і, затраціўшы вялікія сродкі, загадаў самым дбайным чынам берагчыся, каб не быць зноў падманутымі якой-небудзь хітрасцю летонаў ці лжывым каварствам русаў. Рыцару Рудольфу ён аддаў палавіну замка, а іншым братам рыцарам — трэцюю частку, пасля чаго біскуп пакінуў іх тут, даўшы ім розныя настаўленні, а сам вярнуўся ў Рыгу[721]. Так Кукенойс, які быў апорай барацьбы Полацка з Ордэнам, стаў апорай крыжацкай агрэсіі супроць Полацка.

Авалодаўшы Кукенойсам, Ордэн адразу накіраваў свой удар на Герцыке. Перад восенню гэтага ж, 1209 г. біскуп Альберт сабраў на раду разумнейшых са сваіх і ўважліва абмеркаваў з імі, якім чынам пазбавіць маладую царкву ад падкопаў летонаў і русаў. Успомніўшы ўсё зло, прычыненае каралём Герцыке разам з летонамі гораду Рызе, лівам і лэтам, рашылі ісці вайной супроць ворагаў роду Хрыстова, бо кароль Усевалад (Wissewalde) з Герцыке заўсёды быў ворагам хрысціянскага роду, а болей за ўсё латынянаў. Ён быў жанаты на дачцэ аднаго з найбольш магутных летонаў і, будучы як зяць яго для іх амаль сваім, звязаны з імі звыш таго і дружбай, часта ўзначальваў іх войскі, аблягчаў ім пераправу праз Дзвіну і забяспечваў іх харчовымі прыпасамі, ці ішлі яны на Русію (што пад ёю разумець?), Лівонію ці Эстонію... І вось, сабраўшы войска з усіх абласцей Лівоніі і Лэціі, Альберт разам з рыжанамі, пілігрымамі і з усім сваім народам пайшоў уверх па Дзвіне да Кукенойса. Паколькі кароль Герцыке быў заўсёды ворагам для рыжанаў, ваюючы з імі і не жадаючы заключыць мір, біскуп накіраваў сваё войска да яго горада. Русы, здалёку бачачы падыходзячае войска, кінуліся да брамы горада насустрач, але, калі тэўтоны напалі на іх са зброяй у руках і некаторых забілі, тыя не маглі супраціўляцца і пабеглі. Гонячыся за імі, тэўтоны ўварваліся за браму, але з павагі да хрысціянства забівалі толькі нямногіх, болей бралі ў палон ці дазвалялі вырятавацца ўцёкамі. Над жанчынамі і дзецьмі, узяўшы горад, злітаваліся і многіх узялі ў палон. Кароль, пераправіўшыся ў лодцы праз Дзвіну, бег з многімі іншымі, але каралева была захоплена і прадстаўлена біскупу з яе дзяўчатамі, жанчынамі і ўсёй маёмасцю. У той дзень усё войска заставалася ў горадзе, збірала па ўсіх яго кутках вялікую здабычу, захапіла адзенне, срэбра і пурпур, шмат скаціны, а з цэркваў — званы, абразы, іншае ўбранне, грошы і шмат дабра. І ўсё гэта павезлі з сабою, хвалячы бога за тое, што так раптоўна даў перамогу над ворагамі і дазволіў без страт

пранікнуць у горад. У наступны дзень, расцягнуўшы ўсё, падрыхтаваліся да вяртання, а горад падпалілі. Убачыўшы пажар з другога боку Дзвіны, Усевалад быў у вялікай тузе і ўсклікнуў са стогнамі і рыданнем: «О Герцыке, мілы горад! О спадчына бацькоў маіх! О нечаканая пагібель майго народа! Гора мне! Навошта я нарадзіўся, каб бачыць пажар майго горада і знішчэнне майго народа!»

Пасля гэтага біскуп і ўсё войска, падзяліўшы паміж сабою здабычу, з каралевай (княгіняй) і ўсімі палоннымі вярнуліся ў сваю вобласць, а каралю было прапанавана прыйсці ў Рыгу, калі ён толькі хоча яшчэ заключыць мір і атрымаць палонных назад. З'явіўшыся, той прасіў даравацць яму, называючы біскупа айцом, а ўсіх латынянаў — братамі па хрысціянству, і прасіў забыць мінулае зло, заключыць з ім мір, вярнуць яму жонку і палонных. Усевалад гаварыў, што агнём і мячом тэўтоны вельмі жорстка пакаралі яго. Біскуп, як і ўсе яго людзі, злітаваўшыся над каралём, прапанаваў яму ўмовы міру ў такіх словах: «Калі згодзішся надалей пазбягаць зносінаў з язычнікамі, не будзеш спрабаваць з імі разбураць нашу царкву, не станеш разам з летонамі спусташаць зямлю тваіх рускіх хрысціянаў (?), калі ты згодзішся прынесці сваё каралеўства ў вечны дар царкве прасвятой Марыі, так каб зноў атрымаць яго ўжо з нашых рук і разам з намі цешыцца сталым мірам і згодай, тады толькі мы аддадзім табе каралеву з усімі палоннымі і заўсёды верна будзем аказваць табе дапамогу (?)».

Прыняўшы гэтыя ўмовы міру, кароль абяцаў надалей заўсёды быць верным царкве св. Марыі, пазбягаць зносін з язычнікамі і быць саюзнікам хрысціянаў. Перадаўшы сваё каралеўства той жа царкве, ён атрымаў яго зноў з рук біскупа праз урачыстае ўручэнне трох сцягоў, прызнаў біскупа айцом і сцвердзіў, што надалей будзе адкрываць яму ўсе злыя задумы русаў і летонаў (?). Каралева з усімі палоннымі была яму вернута, ён разам з ёю адбыў у сваю зямлю, склікаў людзей, якія разбегліся, і стаў зноў адбудоўваць свой замак. Тым не менш Усевалад у далейшым працягваў удзельнічаць у падкопах летонаў, забыўшыся пра абяцаную вернасць, і не раз падбухторваў язычнікаў супроць тэўтонаў, што былі ў Кукенойсе[722].

Прыведзенае месца «Хронікі» зноў з выключнай выразнасцю пацвердзіла, што Полацкая зямля ў пачатку XIII ст. была галоўнай сілай у барацьбе з крыжакамі, што яе князі з'яўляліся непрымірымымі ворагамі лацінства і таму арганізоўвалі на барацьбу і іншыя народы Прыбалтыкі супроць яго, аб чым з такім азлабленнем гаворыць «Хроніка». Адсюль і зразумела, чаму Ордэн найперш і накіраваў свой

удар на знішчэнне полацкіх фарпостаў у Ніжнім Падзвінні, што яму і ўдалося зрабіць. Мы бачым таксама, якім гвалтам і рабаўніцтвам з боку «божых дваранаў» усё гэта суправаджалася. Адначасова выяўляецца і хітрая ордэнская палітыка ісці на часовыя ўступкі, паказваць сябе абаронцамі ўсіх хрысціянаў, у тым ліку і праваслаўных палачанаў, і гэтым самым перацягваць на свой бок апошніх і тым аблегчыць сабе правядзенне агрэсіўнай палітыкі. Усё гэта добра бачна на прыкладзе абыходжання з князем Герцыке Усеваладам. Не менш выразна выступае тут і традыцыйная тактыка ў паводзінах полацкіх князёў. Як гэта, напрыклад, было ў час падзей 1116 і 1127—1129 гг. Бачачы немагчымасць змагацца з пераважаючымі сіламі ворага, полацкія князі знешне пакарыліся, але пасля зноў вялі сваю ранейшую палітыку. Гэтак жа пастулаў і Вячка, а ўслед за ім і Усевалад. Ён як бы прыняў усе ўмовы, якія яму былі прадыктаваны біскупам (тут мелі немалое значэнне асабістыя справы, у прыватнасці вызваленне княгіні з палону), а пасля па-ранейшаму арганізоўваў мясцовае насельніцтва на барацьбу з тэўтонамі. У сувязі з апошнім важна падкрэсліць, што Усевалад не прымірыўся і са стратай Кукенойса і таму імкнуўся выгнаць адтуль крыжакоў. Усё гэта сведчыць аб разуменні Усеваладам агульных полацкіх інтарэсаў і здольнасці яго змагацца за іх. Можна думаць, што напад летонаў на Кукенойс[723] (вось калі яны напалі на яго — калі ён стаў завяваны тэўтонамі) быў зроблены не без ведама Усевалада.

## ПОЛАЦК АДСТУПАЕ, АЛЕ БАРАЦЬБУ ПРАЦЯГВАЕ

Як ні распісваў Генрых Латвійскі перамогі крыжакоў у Лівоніі, ён быў вымушаны прызнаць, што лівонская царква ў той час (запіс занатаваны пад 1210 г.), знаходзячыся пасярод мноства язычніцкіх плямёнаў, у суседстве з русамі, цярпела нямала бедаў, бо тыя ўсе мелі адно імкненне — знішчыць яе[724]. Добра разумеючы вырашальнае значэнне Полацка ў гэтай справе, рыжане і вырашылі адправіць паслоў да полацкага караля, каб спрабаваць дабіцца хоць якой-небудзь мірнай згоды з ім[725]. У Полацк было накіравана пасольства на чале з Радольфам з Іерыха, аднак яно, відаць, не дайшло туды, бо ў раёне Вендэна трапіла ў поле ваенных дзеянняў, і таму далей «Хроніка Лівоніі» паведамляе, што ў Полацк прыйшло пасольства на чале з братам рыцарам Арнольдам. Апошняму было даручана даведацца ў караля полацкага, ці згодзіцца ён на мір і ці не адчыніць ён рыж-

скім купцам доступ у свае ўладанні. Полацкі кароль прыняў рыжскае пасольства з выяўленнем зычлівасці і выказаў (праўда, з хітрасцю) радасць з прычыны міру і супакою, паслаў з імі Лудольфа, разумнага і багатага чалавека са Смаленска, каб па прыбыцці ў Рыгу абмеркаваць справы міру і справядлівасці.

Калі яны прыбылі ў Рыгу і выклалі жаданне караля, рыжане згадзіліся, і тады ў першы раз быў заключаны вечны мір між імі і каралём, з тым, аднак, каб каралю штогод плацілася належная даніна лівамі ці біскупам за іх. І рады былі ўсе, што цяпер больш бяспечна будуць ваяваць з эстамі і іншымі язычніцкімі плямёнамі[726].

Гэтае месца «Хронікі Лівоніі» зноў пацвердзіла факт полацкага ўладання над лівамі. Менавіта пытанне атрымання даніны з іх стала цэнтральным у справе заключэння міру паміж Рыгай і Полацкам. Вядома, біскуп, калі ўжо лівы фактычна былі пад ордэнскай уладай, мог наогул адмовіць Полацку ў даніне з іх. Але, улічваючы сваё крытычнае становішча ў Лівоніі і ў сувязі з усеагульнай нянавісцю да сябе, ён вымушаны быў пайсці на кампраміс, згадзіўшыся на штогадовую выплату даніны Полацку або самімі лівамі, або біскупам за іх. Бясспрэчна, другое было больш выгадна для Ордэна, бо не дапускала непасрэднага кантакту Полацка з лівамі, а таксама давала магчымасць біскупу спаганяць з ліваў большую даніну і нацкоўваць іх гэтым самым на Полацк, адначасова прысвойваючы частку яе (а то і большую) сабе. Часткова і часова гэтая ўмова задавальняла полацкага князя, бо давала яму магчымасць і надалей атрымліваць даніну з ліваў, што, відаць, было важна для папаўнення полацкай казны.

Але гэтае сведчанне «Хронікі» цікавае і тым, што яно паказвае, як побач з вайсковай агрэсіяй Ордэна на Полацк ішла і яго гандлёва-эканамічная экспансія. Мы бачым, што менавіта Ордэн прапанаваў Полацку адчыніць рыжскім купцам доступ у свае ўладанні. Праўда, нельга думаць, што гандлёвая ўмова з Рыгай была зусім нявыгадная для Полацка. Не, выгады пэўныя яму былі, нездарма ж пазней гандлёвыя ўмовы з Рыгай узнаўляліся і па яго ініцыятыве. Нельга забывацца, што дзвінскі шлях для Полацка быў яго традыцыйным спрадвечным жыццёвым шляхам і ад яго ён не мог раптоўна адмовіцца, бо гэта азначала б вялікую ступень эканамічнай ізаляцыі Полацка. Вось чаму ён павінен быў пайсці на згоду з прапановай Ордэна. Заслугоўвае ўвагі і тое, што для вядзення перагавораў з Рыгай быў пасланы, як сведчыць яго імя, немец Лудольф, які прытым жыў не ў Полацку, а ў Смаленску. З гэтага можна зрабіць

некаторыя вывады. Па-першае, паасобныя немцы, відаць, задоўга да гэтага перасяляліся ўжо ва ўсходнеславянскія землі, у першую чаргу ў іх заходнюю частку, і тут, знайшоўшы сваю другую радзіму, заводзілі сваю справу. Такім мог быць і Лудольф, які перасяліўся (а магчыма, яшчэ і яго бацька) у Смаленск і славіўся тут як багаты і разумны чалавек. Па-другое, Лудольф, відаць, поўнасцю зжыўся з мясцовымі інтарэсамі, быў зацікаўлены ў іх абароне і таму заслугоўваў давер палачанаў. Па-трэцяе, нельга абыходзіць і той факт, што полацкім паслом быў смаленец. Гэта можа гаварыць і аб мірных адносінах у гэты час (падзея гэтая адбывалася ў 1210 г.) паміж Полацкам і Смаленскам, і аб агульнасці іх гандлёва-эканамічных інтарэсаў, у прыватнасці гандлю па Дзвіне.

Гандлёвая ўмова 1210 г. паміж Рыгай і Полацкам і была ўзаемным кампрамісам. Полацку, які толькі знешне прыміраўся з Ордэнам, што, як мы бачылі, адзначана і ў «Хроніцы», гэта давала магчымасць больш умацавацца, каб пасля з новымі сіламі супрацьстаяць нямецкай агрэсіі. Рызе гэта давала магчымасць заручыцца часовым мірам з Полацкам і перанесці сваю агрэсію з Падзвіння ў Эстонію, на якую і пачалося з гэтага часу ўзмоцненае крыжацкае наступленне. Да гонару Полацка трэба сказаць, што ён не быў саўдзельнікам Ордэна ў гэтай справе ў адрозненне ад Пскова. Пасля пакарэння эстаў, у прыватнасці найбольш іх стойкай вобласці Сакалы, у 1212 г., як можна было чакаць, наступіў круты паварот ва ўзаемаадносінах Рыгі з Полацкам. Полацкі князь, занепакоены гэтым, першы праявіў ініцыятыву ў наладжванні сустрэчы з біскупам у Герцыке. Галоўнымі тэмамі яе паводле «Хронікі» былі: першае — пытанне аб лівах, былых падданых караля (князя полацкага), другое — пытанне аб бяспецы плавання купцоў па Дзвіне і трэцяе — узнаўленне міру з мэтай лягчэй супрацьстаяць летонам.

Біскуп, узяўшы з сабой сваіх людзей і караля Уладзіміра (пскоўскага князя, выгнанага пскоўцамі, які ўцёк у Рыгу да свайго зяця) з братамі рыцарамі і старэйшынамі ліваў і лэтаў, адправіўся на сустрэчу караля. З імі ішлі і купцы на сваіх караблях, пры гэтым усе надзелі даспехі, асцерагаючыся засад летонаў па абодвух берагах Дзвіны. Прыйшоўшы да караля, сталі з ім абмяркоўваць, што патрэбна было па справядлівасці. Кароль жа, імкнучыся то ласкай, то суровасцю з пагрозай пераканаць біскупа, прасіў яго ад хрышчэння ліваў адмовіцца і сцвярджаў, што толькі ў яго ўладзе або ахрысціць рабоў яго ліваў, або пакінуць нехрышчонымі, бо каралі русаў, пакараючы зброяй

які-небудзь народ, звычайна клапоцяцца не аб яго хрышчэнні, а аб пакарэнні ў сэнсе выплаты падаткаў і грошай. Але біскуп вырашыў, што больш належыць падпарадкоўвацца богу, чым людзям, больш цару нябеснаму, чым зямному. Таму ён, біскуп, цвёрда заявіў, што і ад пачатага не адступіць, і справу пропаведзі, даручаную яму вярхоўным святаром (г. зн. папам), не можа занядбаць, але выплаты даніны каралю ён не аспрэчвае, кіруючыся сказаным у евангеллі: «Аддайце кесару кесарава, а богава богу», бо і сам біскуп часамі плаціў за ліваў гэтую даніну, тады як лівы, не жадаючы служыць двум панам, г. зн. Полацку і тэўтонам, заўсёды ўгаворвалі біскупа назусім вызваліць іх ад ярма русаў. Кароль, незадаволены гэтымі довадамі («справядлівымі» паводле «Хронікі»), нарэшце раззлаваўся і, пагражаючы аддаць агню ўсе замкі Лівоніі, а разам і самую Рыгу, загадаў свайму войску выходзіць з замка, а затым, нібы пачынаючы вайну з тэўтонамі, выстраіў на полі ўвесь свой народ са стралкамі і рушыў на рыцараў. Тады ўсе людзі, што былі з каралём Уладзімірам (былым пскоўскім князем), разам з братамі рыцарамі і купцамі ў сваіх даспехах смела выступілі супроць полацкага караля. Калі сышліся адны з другімі, Іаан, настаяцель царквы св. Марыі, і кароль Уладзімір з некаторымі іншымі, прайшоўшы паміж двух войскаў, сталі пераконваць караля полацкага не трывожыць вайной маладую царкву, каб і яго не трывожылі тэўтоны: усе людзі моцныя ў сваім узбраенні і поўныя жадання ўступіць у бой з русамі. Збянтэжаны іх храбрасцю, кароль полацкі загадаў свайму войску адысці, а сам прайшоў да біскупа і гаварыў з ім з павагай, называючы айцом духоўным. Са свайго боку, біскуп прызнаваў яго сваім сынам. Яны заставаліся некаторы час разам, старанна разбіраючы ў перагаворах усё, што датычылася міру. Нарэшце кароль, можа быць, па божаму ўнушэнню прадаставіў біскупу ўсю Лівонію безданінна, каб умацаваўся паміж імі вечны мір як супроць летонаў, так і супроць іншых язычнікаў, а купцам каб быў адчынены заўсёды свабодны шлях па Дзвіне. Пакончыўшы з гэтым, кароль з купцамі і ўсім сваім народам паплыў уверх па Дзвіне, з радасцю(?) вярнуўся ў свой родны Полацк. І біскуп разам са сваімі, радуючыся яшчэ болей, паплыў уніз і вярнуўся ў Лівонію.

Найперш звернем увагу на тое, як, прыкрываючыся вучэннем Хрыста, Ордэн белае ператвараў у чорнае і наадварот. Тое, што полацкі князь не наварочваў гвалтоўна сваіх падданых у хрысціянства, ставілася яму ў віну, у той час як адваротныя дзеянні Ордэна аб'яўляліся справай выключна богаўгоднай. Але пяройдзем да

разгляду гэтага ўрыўка «Хронікі». Бясспрэчна, што ён адбіў у сябе далейшае... адступленне Полацка з Прыбалтыкі. Яго князь ужыў тут розныя сродкі націску на біскупа — ад славеснай пагрозы да пагрозы вайсковай сілай,— каб утрымацца ў Лівоніі, аднак вымушаны быў адступіцца ад ліўскай даніны. Немалаважнае значэнне ў гэтым, відаць, мела і хітрая палітыка Ордэна ў падбухторванні ім ліваў супроць Полацка. Менавіта біскуп і згаджаўся на атрыманне яго князем даніны з ліваў, каб гэтым самым настроіць іх супроць свайго ранейшага ўладара. Нездарма ж незадоўга перад гэтым біскуп зменшыў памер дзесяціны з ліваў для Полацка[728], чым, вядома, у пэўнай ступені задобрыў іх.

Адной з прычын уступак Полацку, паводле «Хронікі», з'яўлялася летонская пагроза яму. Але, як і раней, Ордэн толькі страшыў ёю Полацк, бо, як мы ведаем з папярэдняга, літва, калі толькі яе разумець пад летонамі, была заўсёды саюзніцай Полацка, што выдатна выявілася праз тры гады, калі ў войску полацкага князя, які збіраўся на Рыгу, былі і летоны.

Праз некаторы час Ордэн канчаткова расправіўся і з Герцыке.

Рыцары з Кукенойса вінавацілі князя Герцыке Усевалада ў тым, што ён ужо шмат гадоў не з'яўляўся да айца свайго біскупа пасля таго, як атрымаў ад яго сваё каралеўства, а ў той жа час заўсёды дапамагае летонам і парадай і справай. Яны (г. зн. рыцары) не раз звярталіся да яго, патрабуючы задавальнення, але той, не звяртаючы на гэта ўвагі, і сам не з'яўляўся, і з адказам не прысылаў. Тады рыцары, спытаўшыся спачатку парады ў біскупа, сабраліся са слугамі сваімі і лэтамі і пайшлі ўверх па Дзвіне. Паблізу замка Герцыке яны злавілі аднаго з русаў, звязалі і ноччу пацягнулі з сабой да замка. Ён першы, як было загадана, перабраўся праз роў і загаварыў з вартавым, а іншыя па адным ішлі за ім. Вартавы думаў, што гэта ідуць свае гараджане, якія выйшлі з замка, а яны між тым адзін за адным узбіраліся наверх, пакуль нарэшце ўсе не апынуліся ў верхняй частцы ўмацавання. Тады, сабраўшыся разам, яны акружылі замак па ўсяму валу і нікому з русаў не давалі выйсці адтуль, пакуль не развіднела. На досвітку яны сышлі ў замак і захапілі ўсё, што было там. Многіх узялі ў палон, а іншым не перашкаджалі бегчы. З вялікай здабычай рыцары пакінулі замак, а вярнуўшыся дадому, усё захопленае падзялілі паміж сабою[729].

Як бачым, «Хроніка» мімаволі паказала беспадстаўнасць сваіх сцверджанняў аб узаемаварожых адносінах летонаў і палачанаў. Усеваладу найперш быў пастаўлены ў віну яго

саюз з летонамі. І які ўжо раз выявілася спрадвечная полацкая тактыка: пад знешняй пакорлівасцю хаваць цвёрдую непакорнасць. Усё гэта, разам узятае, і з'явілася прычынай жорсткай расправы рыцараў з Герцыке. Чамусьці тут нічога не гаворыцца пра князя Усевалада, і таму ствараецца ўражанне, што яго ў гэты час не было ў замку. Аднак ён па-ранейшаму заставаўся князем у Герцыке, бо ў тым жа 1214 г. супроць яго зноў выступілі рыцары. Дачуўшыся пра гэта, Усевалад паслаў ганцоў да летонаў. Яны з'явіліся і сталі чакаць за Дзвіной. Між тым тыя, што былі з Мейнардам (ён узначальваў паход), не ведаючы пра гэта, прыйшлі і ўзялі Герцыке, захапіўшы вялікую здабычу, коней і іншую жывёлу. Тут, на другім беразе, з'явіліся летоны і прасілі даць ім судны для пераезду, каб перагаварыць пра ўзнаўленне міру. Цалкам даверыўшыся іх словам, далі ім судны, і летоны адразу сталі перапраўляцца, адны другіх перавозілі, і з'яўлялася іх усё болей і болей. Нарэшце ўсё войска кінулася ў Дзвіну і паплыло да рыцараў. Калі тыя ўбачылі такую масу ворагаў, яны не рашыліся дачакацца сутычкі: адны спусціліся на караблях уніз па Дзвіне і непашкоджаныя вярнуліся ў Кукенойс, іншыя ж, вяртаючыся з лэтамі сухой дарогай, падпалі нападу летонаў з тылу, прычым лэты, бачачы малалікасць сваіх, тут жа пусціліся наўцёкі[730]. Пасля гэтага эпізоду Усевалад надоўга знікае са старонак «Хронікі» (да 1225 г.). Мяркуючы па тым, што актам 1224 г. ён аддае рыцару Конраду фон Меендорфу ў лен палову сваёй часткі княства Герцыке, а затым з'яўляецца да папскага легата ў 1225 г. і тытулуецца ў «Хроніцы» як «кароль Герцыке», можна думаць, што поўнасцю сваіх правоў на Герцыке ён не страціў. Уладанні яго не былі, відаць, захоплены як ваенная здабыча і не канфіскаваны ў карысць біскупа за мяцеж. Некаторыя даследчыкі (М. Таўбе) лічылі, што пасля 1215 г. Усевалад адышоў на Русь, але яго ўладальніцкія правы прызнаваліся асцярожным дыпламатам біскупам рыжскім. А пасля ў ліку іншых спрэчных пытанняў былі ўладжаны і адносіны з Усеваладам, які вярнуўся ў Герцыке ў 1225 г. Ён зноў уступіў ва ўладанне сваёй часткай княства, якая пасля яго смерці перайшла да яго законных (па шлюбу дачкі) нашчадкаў — да роду Ікескюль. Такая «гуманнасць» да Усевалада зразумелая: захопнікам больш выгадна «ўнаследаваць» легальна, чым у будучым сілай абараняць захопленае[731]. Але зразумела, што ўжо ў 1214 г. Герцыке як фарпост Полацка ў Ніжнім Падзвінні страчвае сваё значэнне. Для Полацка гэта было яшчэ адным цяжкім крокам адступлення з Прыбалтыкі.

І ўсё ж, нягледзячы на гэта, Полацк па-ранейшаму за-

ставаўся ў вачах народаў Прыбалтыкі іх надзейным абаронцам. Вось чаму эсты, якія вялі ў гэты час упартую барацьбу з тэўтонамі, звярнуліся пасля вялікадня 1216 г. да полацкага князя Вальдэмара з просьбай, каб ён са шматлікім войскам прыйшоў абкладваць Рыгу. Самі яны абяцалі ў гэты час цясніць вайной ліваў і лэтаў, а таксама заперці гавань у Дынамюндэ. Такая задума эстаў, якая прадугледжвала наступленне на тэўтонаў з двух бакоў і практычна іх акружэнне, спадабалася полацкаму каралю, тым больш што ён, паводле «Хронікі», заўсёды імкнуўся разбураць лівонскую царкву. І таму паслаў ён у «Русію» і «Летонію» (Літву?) і склікаў вялікае войска з русаў (палачанаў) і «летонаў». Калі ўжо ўсё было ў поўнай гатоўнасці і кароль збіраўся ўзысці на карабель, каб ехаць з войскам, ён раптам паваліўся беспрытомна і памёр адразу, а войска яго рассеялася і вярнулася ў сваю зямлю[732].

Вядома ж, для крыжакоў раптоўная смерць полацкага князя не была нечаканая. З найбольшай доляй верагоднасці можна меркаваць, што ён быў атручаны, у выніку чаго і сарваўся яго паход. Праўда, цяжка сказаць, ці быў бы ён удалы, калі б і адбыўся. Крыжакі, калі ім стаў вядомы план наступлення на Рыгу, загадзя зрабілі ўсё, каб прывесці яго да няўдачы. У прыватнасці, яны прынялі захады супроць блакады рыжскай гавані. Даведаўшыся пра гэта, а таксама пра смерць полацкага князя, эзельскія эсты адмовіліся ісці на Рыгу і напалі на лэтаў, якія дапамагалі крыжакам[733]. Але, незалежна ад таго, які фінал меў бы паход полацкага князя, ён бы прынёс нямала клопатаў крыжакам, і яны пастараліся, каб ён быў спынены ў самым пачатку. Тэўтоны добра бачылі, што полацкі князь займаў ключавое месца ў адпоры нямецкай агрэсіі, і таму імі былі прыняты ўсе захады, каб ад яго пазбавіцца.

Са смерцю князя «Вальдэмара» як бы закончыўся першы акт трагедыі полацкага адступлення з Ніжняга Падзвіння. Прычыны яе ўжо ўказваліся. Цяпер коратка прааналізуем іх. Тут найперш сказалася недаацэнка Полацкам, як і іншымі суседнімі краінамі, выключнай небяспекі крыжацкай агрэсіі, што дало магчымасць апошнім з самага пачатку заняць моцныя плацдармы для далейшага прасоўвання на ўсход. Заснаванне Рыгі было першым і самым моцным ударам па інтарэсах Полацка, яно фактычна і заклала аснову для паспяховага наступлення крыжакоў у глыб полацкіх уладанняў у Ніжнім Падзвінні. Ордэн выкарыстаў племянную варожасць народаў Прыбалтыкі і, распальваючы яе яшчэ больш, перацягваў на свой бок усё большыя мясцовыя сілы. Усё гэта не дало магчымасці Полацку арганіза-

ваць адзіны фронт барацьбы з крыжакамі і вымушала яго да адступлення. Да таго ж не было і адзінага саюзу ў барацьбе з Ордэнам і суседніх усходнеславянскіх земляў, і фактычна Полацк з'яўляўся адзіным, хто доўгі час супрацьстаяў агрэсіі. Толькі пасля ўжо, па меры прасоўвання ў эстонскія землі, уцягваюцца ў барацьбу Пскоў і Ноўгарад, паколькі тут непасрэдна закраналіся іх інтарэсы. Нездарма ж «Хроніка Лівоніі» адзначыла, што пасля смерці вялікага караля Вальдэмара Полацкага з'явіўся новы праціўнік лівонскай царквы — Вальдэмар Пскоўскі[734].

Вядома, Полацк, гісторыя якога ўвесь час праходзіла ў барацьбе за права на сваё існаванне, не ўпершыню ў асобе крыжакоў меў выключна небяспечных праціўнікаў. Але гэта былі ворагі іншага, заходняга ўзору, з вытанчанай хітрасцю, гнуткай палітыкай, з метадычнай паслядоўнасцю ў яе правядзенні. Палітыка ж Полацка хоць і была бескампрамісная ў адносінах агрэсараў, але выглядала не зусім прадуманай. Асабліва кідаецца ў вочы імпульсіўнасць у дзеяннях полацкага князя, які, як гэта асабліва выявілася на сустрэчы з біскупам у 1212 г. у Герцыке, пераходзіў з адной крайнасці ў другую, ад выключнай запальчывасці да празмернай падатлівасці. Зразумела, што ўсё гэта выкарыстоўвалася Ордэнам у сваю карысць. І, урэшце, полацкаму войску з яго састарэлаю зброяй таксама цяжка было супрацьстаяць рыцарам, якія мелі найноўшае еўрапейскае ўзбраенне. Усё гэта разам узятае і абумовіла няўдачу Полацка ў абароне сваіх уладанняў у Ніжнім Падзвінні. Гэта з'явілася вельмі балючым ударам для Полаччыны, у выніку якога яна была адрэзана ад мора, што ў далейшым выключна абцяжарыла гістарычнае жыццё ўсёй Беларусі. І ўсё ж барацьба з крыжакамі не была дарэмная для Полацка. Яго гераічнае супраціўленне не дапусціла ворага ў карэнныя землі палачанаў. Апроч таго, Полацк яшчэ ў гэты час не поўнасцю страціў Ніжняе Падзвінне. Як пакажуць падзеі і дакументы 50—60-х гг. XIII ст., пэўная частка яго, у прыватнасці Латыгольская зямля, яшчэ некалькі дзесяцігоддзяў знаходзілася ў руках Полацка. Не спынілася і барацьба з Ордэнам, яна яшчэ цэлыя стагоддзі ў многім вызначала гісторыю Полацка. Ён спалучыў свае сілы з сіламі Пскова, Ноўгарада, Прыбалтыкі, Польшчы, што і дало ў далейшым магчымасць зламаць і спыніць крыжацкую агрэсію.

Матэрыялы «Хронікі Лівоніі», як мы бачылі, пасведчылі аб унутранай моцы Полацкай зямлі. Ужо факт 30-гадовага княжання «Вальдэмара» гаворыць і аб яе выключнай палітычнай устойлівасці. Барацьба з крыжакамі яшчэ больш згуртоўвала полацкія землі. Без гэтага іх князю не ўдалося б

сабраць вялікага войска для паходу на Рыгу ў 1216 г. І яшчэ адну важную акалічнасць выявіла «Хроніка Лівоніі», а менавіта: па меры таго як Полацк траціў свае пазіцыі ў Ніжнім Падзвінні, ён усё больш умацоўваў свае сувязі з Літвой, сілы якой складалі значную частку полацкага войска ў 1216 г.

## НОВЫЯ ЗАГАДКІ. УЗАЕМААДНОСІНЫ ПОЛАЦКА СА СМАЛЕНСКАМ, НОЎГАРАДАМ І ЛІТВОЙ

Далейшыя звесткі аб полацкай гіторыі, пачэрпнутыя ўжо са старажытных рускіх летапісаў, становяцца ўсё больш рэдкія, урыўкавыя і супярэчлівыя. Адно з такіх паведамленняў мы знаходзім у В. Тацішчава, змешчанае ім пад 1217 г.[735]. Паводле яго, полацкі князь Барыс Давыдавіч, які меў двух сыноў — Васільку і Вячку — ад першай жонкі, у другі раз ажаніўся з каталічкай, памяранскай князёўнай Святохнай, і меў ад яе сына Уладзіміра. Жадаючы адхіліць пасынкаў ад пасада і вызваліць яго тым самым для яе сына, Святохна намовіла князя Барыса паслаць іх ва ўдзелы. З дапамогаю фальшывага пісьма спрабавала іх загубіць, але была выкрыта і пакарана разам з іншымі памяранцамі. Вось такая кароткая фабула гэтай падрабязнай і даволі заблытанай гісторыі. У навуцы ўжо даўно вядуцца спрэчкі аб яе праўдзівасці. Калі адны з даследчыкаў, як А. Сапуноў, абаранялі і даказвалі яе праўдзівасць, то іншыя, як Н. Лыжын, В. Данілевіч, поўнасцю адмаўлялі яе. Трэба зазначыць, што як адзін, так і другі бок, прыводзячы слушныя довады, дапускалі і яўныя нацяжкі. Так, Н. Лыжын, які даводзіў, што гэтая гісторыя не што іншае, як памфлет на парадкі пры двары рускай імператрыцы Ганны Іаанаўны, калі моцным было нямецкае засілле, справядліва гаварыў, што ў 1216 г. у Полацку княжыў не Барыс Давыдавіч, а Уладзімір («Вальдэмар» у «Хроніцы Лівоніі»). Але яго ён атаясамліваў з Уладзімірам Рурыкавічам[736], што зусім беспадстаўна. У сваю чаргу А. Сапуноў, абараняючы праўдзівасць гэтай гісторыі, паказаў, што полацкім князем не мог быць Уладзімір Рурыкавіч, які нарадзіўся толькі ў 1187 г., у той час як князь Уладзімір («Вальдэмар») у «Хроніцы Лівоніі» ў якасці полацкага князя ўпамінаецца ўжо ў 1186 г. Ён таксама ўказаў, што архітэктар Яропкін, якому Лыжын прыпісаў аўтарства гэтай гісторыі, не мог карыстацца «Хронікай Лівоніі», бо яна выйшла з друку незадоўга да яго пакарання смерцю. А. Сапуноў таксама звярнуў увагу на тое, што ў Дзвінскай вобласці (пад ёй разумелася Ніжняе Па-



***Сучасны выгляд Спаса-Ефрасіннеўскай царквы, перабудаванай у 30-х гг. XIX ст. расійскімі архітэктарамі у стылі класіцызму***

дзвінне) сапраўды былі полацкія князі Вячка і Усевалад. Праўда, другі ў В. Тацішчава называўся Васількам, але гэта імя магло перадавацца таксама як «Wissewalde». Заслугоўвала, на думку А. Сапунова, увагі і тое месца, дзе гаварылася, што з прычыны старасці Барыса Давыдавіча, які не мог кіраваць сваімі войскамі, палачане дзеля гэтага запрашалі князёў менскіх, друцкіх і віцебскіх, г. зн. з галоўных удзелаў тагачаснай Полаччыны. Але адначасова А. Сапуноў дапусціў яўныя нацяжкі ў спрэчцы з Лыжыным. Так, гаворачы аб паходжанні Барыса Давыдавіча, ён мяркуе, што гэты князь быў сынам брата Ефрасінні Полацкай Давыда і што гэта ён без упамінання імя па бацьку называецца ў падзеях 1195 г. як друцкі князь. Аднак ці мог ён у такім выпадку дажыць да 1216 г.? Але самым негрунтоўным меркаваннем А. Сапунова было тое, што полацкі князь Уладзімір («Вальдэмар») не хто іншы, як малодшы сын Барыса ад Святохны. Даследчыка чамусьці ніколькі не бянтэжыла, што ўся гісторыя, расказаная ў В. Тацішчава пад 1217 г., круцілася вакол жадання Святохны пасадзіць свайго сына Уладзіміра (яна яго звала Войцехам) на полацкі пасад[737]. А гэта ясна ўказвае, што ён не быў полацкім князем і тым болей не княжаваў аж 30 гадоў. Не меней дзіўным з'яўляецца сцверджанне А. Сапунова, што Уладзімір быў пад моцным уплывам сваёй жонкі-каталічкі і таму нібыта так холадна аднёсся да лёсу Вячкі і Васількі, якія, маўляў, былі моцнымі пабornікамі праваслаўя. Але гэта абвяргаецца «Хронікай Лівоніі», у якой князь Вальдэмар неаднаразова называецца ворагам лівонскай царквы.

Уся гэта гісторыя змешчана пад 1217 г., але адбыцца, вядома, у адзін год яна не магла. А ў ранейшыя храналагічныя рамкі яе нельга ўставіць, бо гэтаму перашкаджае найперш несупадзенне імя Барыса Давыдавіча з імем «Вальдэмара» ў «Хроніцы Лівоніі». Падсумоўваючы спрэчкі вакол гісторыі 1217 г., можна большую перавагу аддаць тым, хто адмаўляў яе праўдзівасць, нягледзячы на наяўнасць у ёй паасобных верагодных дэталяў. Як і тацішчаўскі запіс пад 1182 г., так і гэты трэба лічыць загадкавым, які патрабуе асобнага даследавання.

У Лаўрэнцьеўскім летапісе[738] і ў В. Тацішчава [739] пад 1218 г. паведамляецца, што полацкі епіскап Уладзімір прыйшоў з Царграда да вялікага князя Канстанціна ўладзімірскага і, ведаючы пра яго любоў да ўсяго царкоўнага, прынёс яму немалую частку дрэва з крыжа Хрыстовага, мошчы святога мучаніка Логвіна, абедзве яго рукі, мошчы Марыі Магдалены і многа старых грэчаскіх кніг, бо ведаў, што князь любіць іх больш за ўсе багацці. Князь з радасцю прыняў дары,



*Наканечнікі дзідаў з Полацка. XIII ст.*

а дрэва ўправіў у залаты крыж вялікі. Пад вялікім князем тут, па ўсім відаць, разумеецца ўладзімірскі князь Канстанцін Усеваладавіч, які памёр у тым жа 1218 г. Застаецца незразумелым, навошта было полацкаму епіскапу несці неацэнныя дары з Царграда ва Уладзімір. Магчыма, слова «полацкі» тут напісана было памылкова.

Аднак вернемся да разгляду полацкіх падзей пасля 1216 г. Хто ж стаў князем у Полацку пасля смерці «Вальдэмара»? На гэтае пытанне нельга атрымаць яснага адказу, бо звесткі аб Полацку гэтага часу ў рускіх летапісах засталіся крайне рэдкія, няясныя. Зноў-такі толькі ў В. Тацішчава мы чытаем пад 1218 г., што ў паходзе Мсціслава на Галіч прымаў удзел разам з Уладзімірам Рурыкавічам і полацкі князь Васілька[740]. У Іпацьеўскім летапісе гаворыцца аб тым самым пад 1217 г., але тут адзначана, што Мсціслаў прыйшоў з полаўцамі, а Уладзімір і Васілька не ўпамінаюцца[741]. У М. Стрыйкоўскага сказана, што ў Мсціслава было войска рускае, літва і полаўцы[742]. Цяжка з такімі супярэчлівымі дадзенымі дайсці да ісціны. Упамінанне М. Стрыйкоўскім літвы ў войску Мсціслава можа нейкім чынам указваць на прысутнасць палачанаў, у якіх літва была частым саюзнікам. Але хто ж быў Васілька, калі ён сапраўды з'яўляўся полацкім князем у 1218 г.? У В. Данілевіча былі падставы атаясамліваць яго з віцебскім князем Васількам[743], якога многія летапісы (Цвярскі,Ніканаўскі, Васкрасенскі), а таксама В. Тацішчаў

упамінаюць у такой якасці пад 1209 г. з нагоды шлюбу яго дачкі (у В. Тацішчава яна называецца Любоўю) з князем Усеваладам Юр'евічам. Для нас гэтае паведамленне цікавае і тым, што яно зноў-такі пацвярджае факт вяртання Віцебска Полацкай зямлі ў выніку падзей 1195 г. Хоць Васілька да 1216 г. і быў даволі старым чалавекам, але гэта не перашкаджала яму заняць полацкі пасад. Вядома, у такім выпадку яго княжаванне не магло быць працяглае, і сапраўды, у хуткім часе мы тут бачым іншых асоб, а менавіта: Барыса і Глеба. В. Данілевіч лічыў іх сынамі Уладзіміра («Вальдэмара»), якія нібыта к гэтаму часу (1222 г.) падраслі і змаглі заняць пасад. Аднак цяжка меркаваць, каб у князя, які княжаваў 30 гадоў, былі непаўналетнія дзеці. У такім выпадку правільней будзе думаць аб яго бяздзетнасці. Найбольш важнай тут з'яўляецца падзея, у сувязі з якой упамінаюцца гэтыя князі.

А яна наколькі важная, настолькі і сумная ў гісторыі Полацка. Вось як яна перададзена ў Камісійным спісе Наўгародскага І летапісу пад 1222 г.: «А Ярославици, смолняне взяли Полотеск, генваря в 17 день при князе Борисе и Глебе»[744]. Гэта інфармацыя, як бачым, вельмі кароткая і таму цьмяная. Па-першае, незразумела, хто такія «Ярославици», якія ішлі разам са смаленцамі ў Полацк. Князем у Смаленску тады быў Мсціслаў Давыдавіч. Узнікае ў сувязі з гэтым шэраг пытанняў: «Ці ён сам узначальваў паход смаленцаў на Полацк, ці даручыў гэта нейкім невядомым для нас Яраславічам?» А магчыма, гэтыя Яраславічы, якія княжылі невядома дзе, і былі ініцыятарамі паходу, а смаленцы з'яўляліся толькі саюзнікамі, бо ў летапісе не сказана «Ярославици со смолняны», а кожны з удзельнікаў названы паасобку.

На шчасце, гэтая падзея, але пад 1220 г., знайшла сваё адбіццё ў В. Тацішчава: «Князь Смоленский, согласясь с Ярославом Переяславским, ходил на Полоцкую область при князях Борисе и Глебе и взял их два города, а много область их повоевал»[745]. Як бачым, разыходжанне з ранейшай крыніцай істотнае не толькі ў датыроўцы, але і ў асвятленні дэталяў падзей. Тут мы знаходзім адказ на пастаўленыя вышэй пытанні. Найперш расшыфроўваюцца загадкавыя «Ярославици». У свой час П. Галубоўскі беспадстаўна сцвярджаў, што гэтае паведамленне Наўгародскага летапісу ўзята з Полацкага летапісу, бо толькі, маўляў, палачане ўсіх патомкаў Яраслава (Мудрага) называлі Яраславічамі, а каб падкрэсліць, аб якіх Яраславічах ідзе гаворка, было ўдакладнена: «смолняны»[746]. У святле ж тацішчаўскага паведамлення бачым, што пад апошнімі трэба разумець войска Яраслава, князя Пераяслаўскага (відаць, Залескага, бо тут сапраўды



*Фрагмент наверша.*
*Пач. XIII ст.*

да 1238 г. быў князем Яраслаў Усеваладавіч[747]). Але самае важнае тое, што тацішчаўская крыніца не сведчыць пра занядце Полацка, а толькі гаворыць пра здачу двух полацкіх гарадоў (на жаль, невядома якіх) і завяяванне часткі Полацкай зямлі. Адсутнічае тут і дакладная дата, якую мы знаходзім у Наўгародскім летапісе. І каб не ўпамінанне і ў адной і ў другой крыніцах князёў Барыса і Глеба, то можна было б прыняць гэтыя падзеі за розныя. Але якой крыніцы аддаць перавагу? Думаецца, што другой. Яна, як бачым, утрымлівае багацейшую інфармацыю і таму заслугоўвае большага даверу. Сапраўды, узяцце Полацка магло б стаць першаступеннай падзеяй у той час, бо аб ёй бы не змаўчалі і іншыя летапісы. Вядома ж, страта двух гарадоў і спусташэнне часткі зямлі не магло не абвастрыць узаемаадносіны Полацка са Смаленскам.

Зараз пяройдзем да наступнай падзеі, якая, на думку даследчыкаў, зноў-такі пацвярджае поўнае падначаленне Полацка смаленскаму князю. Маецца на ўвазе гандлёвая ўмова Смаленска з Рыгай, заключаная ў 1229 г. Сапраўды, у ёй ёсць такія словы: «Тая правда латинскому взяти у руской земли, у волости князя смолненского, и у полотьского князя волости, и у витебского князя волости»[748]. І вось па падставе гэтых слоў даводзіцца, што калі першыя ўмовы з Рыгай

(1210, 1212) былі складзены яшчэ ў Полацку ад імя яго князя і ўлічвалі галоўным чынам яго інтарэсы, а смаленскія прадстаўнікі (маецца на ўвазе ўжо вядомы нам смаленскі купец Лудольф у 1210 г.) толькі ўдзельнічалі як прадстаўнікі яшчэ аднаго зацікаўленага боку, то ў наступным дзесяцігоддзі першая роля ў зносінах і гандлі з Рыгай і Готландам пераходзіць да Смаленска. Значыць, Полацк становіцца падначаленым Смаленску[749]. Пад наступным дзесяцігоддзем тут разумеюцца 20-я гады XIII ст. Але ці ўсё так было, як тут сказана? Вось што мы чытаем у «Хроніцы Лівоніі» пад 1222 г.: «Тады кароль смаленскі, кароль полацкі і некаторыя іншыя рускія каралі адправілі паслоў у Рыгу прасіць аб міры. І ўзноўлены быў мір, ва ўсім такі ж, які заключаны быў раней»[750]. Магчыма, што датыроўка тут не зусім дакладная. Паколькі аб прыездзе пасольстваў у Рыгу тут гаворыцца непасрэдна пасля паведамлення аб паражэнні рускіх войскаў у бітве з татарамі на р. Калцы, то, відаць, гэта адбылося на год пазней, прынамсі, не пазней 1223 г. З паведамлення «Хронікі» бачна, што хоць смаленскі князь названы і першы, аднак і полацкі князь у шэрагу з іншымі выступае як самастойны князь. Цяжка сказаць, хто былі іншыя князі, але ў адным можна быць упэўненым: сярод іх быў віцебскі князь. Менавіта агульныя інтарэсы гандлю, які мог ажыццяўляцца толькі па Зах. Дзвіне, і змушалі гэтыя тры княствы супольна дамаўляцца з Рыгай і Готландам і пасылаць туды адначасова свае пасольствы. Калі яшчэ Полацк мог абысціся ў сваім заходнім гандлі без узгаднення з Віцебскам і Смаленскам, то апошнія без Полацка абысціся не маглі, асабліва Смаленск, які павінен быў каардынаваць свае гандлёвыя справы па Дзвіне і з Полацкам, і з Віцебскам. Паколькі гандаль Смаленска з Рыгай і Готландам ішоў праз Полацкую і Віцебскую воласці, то вышэйпрыведзеныя словы з гандлёвай умовы 1229 г. і абавязвалі Смаленск захоўваць яе не толькі на сваёй тэрыторыі, але і на тэрыторыі Полацкай і Віцебскай валасцей і, такім чынам, ні аб якім падначаленні Полацка і Віцебска смаленскаму князю не гаварылі. Гэта пацвярджаецца і тым, што ўказаныя словы паўтараліся пры ўзнаўленні гэтай гандлёвай умовы пазней (1270—1277, 1297—1300, першая палова і сярэдзіна XIV ст.)[751], калі ніякай гаворкі аб падначаленні Полацка і Віцебска Смаленску не магло быць. Але справа яшчэ не ў гэтым. Даследчыкі, аднагалосна гаворачы аб канчатковым падначаленні Полацка смаленскаму князю, аб чым, на іх думку, сведчаць падзеі 1222 і 1229 гадоў, на гэтым ставяць кропку і робяць выгляд, што самастойная гісторыя Полацка закончылася, і забываюць сказаць аб далейшых красамоўных

падзеях, якія цалкам разбураюць іх штучную схему. Але, перш чым пераходзіць да разгляду далейшай полацкай гісторыі, коратка спынімся на асноўных момантах смаленскай гісторыі ў першыя дзесяцігоддзі XIII ст.

Як мы ўжо бачылі, XII стагоддзе для Смаленска закончылася без суцяшальных вынікаў. Хоць, беручы ўдзел у агульнарускіх справах, у прыватнасці ў барацьбе за кіеўскі пасад, Расціславічы і мелі як быццам добрыя поспехі, бо шэраг іх прадстаўнікоў (сам Расціслаў Мсціславіч, яго сыны Раман і Рурык) доўгі час у другой палове XII ст. і ў самым пачатку XIII ст., да 1202 г., былі князямі ў Кіеве, аднак гэта прыводзіла іх да страты сваіх ранейшых пазіцый у Полацку і Ноўгарадзе. І ўсё ж, нягледзячы на гэта, Смаленск і ў пачатку XIII ст. працягвае сваю ранейшую палітыку. У гэтых адносінах паказальны такі факт. Давыд Расціславіч, які княזяваў у Смаленску з 1180 па 1197 год, завяшчае свой пасад пляменніку Мсціславу Раманавічу, у той час як сына свайго Канстанціна адправіў на поўдзень да брата Рурыка. Барацьба за Кіеў цяпер уцягнула Смаленск у канфлікт з Галіцка-Валынскім княствам, прымусіўшы яго на некаторы час памірыцца і ўступіць у саюз з чарнігаўскімі Ольгавічамі. У 1214 г. Мсціслаў Раманавіч пакідае Смаленск і ў выніку паспяховай барацьбы наўгародцаў і смаленцаў з Ольгавічамі становіцца кіеўскім князем, а смаленскі пасад займае Уладзімір Рурыкавіч. Выкарыстаўшы смерць магутнага суздальскага князя Усевалада Юр'евіча і ўзнікшую ў асяроддзі яго сыноў барацьбу, Смаленск актыўна ўмешваецца ў справы гэтай зямлі з мэтай яе аслаблення, што і ўдалося зрабіць, нанёсшы ў саюзе з Ноўгарадам і Псковам сакрушальны ўдар Суздалю ў 1216 г. на р. Ліпецы. Гэтае паражэнне на працяглы час пазбаўляе Суздальскую зямлю той актыўнай ролі, якую яна адыгрывала як на поўначы, так і на поўдні Русі. У той самы час мацнее палітычная сувязь Смаленска з Ноўгарадам, якая дыктавалася ўзрастаннем гандлёвых зносін з захадам, а таксама супольнай барацьбой з крыжацкай агрэсіяй. І ўсё-такі, нягледзячы на ўсе поспехі Смаленска ў канцы XII ст., яго князь Уладзімір Рурыкавіч у 1219 г. выпраўляецца на поўдзень, дзе і застаецца назаўсёды. Тым не менш пераварот у палітычнай свядомасці смаленскіх князёў адбыўся. Менавіта наступны смаленскі князь Мсціслаў Давыдавіч быў першы з роду Расціславічаў, які нарэшце зразумеў усю марнасць траты сіл на амбіцыйныя імкненні роду і ўбачыў, што найбольш плённым полем яго дзейнасці і ёсць Смаленская зямля. І Мсціслаў Давыдавіч пачаў сабой далейшы шэраг смаленскіх князёў, якія поўнасцю звязалі свой лёс з лёсам роднай зямлі. Характэрна,

што хоць у бітве на Калцы з татарамі і прымалі ўдзел смаленцы, відаць, па патрабаванню Мсціслава Раманавіча, аднак сам Мсціслаў Давыдавіч з імі не пайшоў, а аддаў іх пад камандаванне Уладзіміра Рурыкавіча. Дарэчы, яму толькі і ўдалося з атрадам смаленцаў прабіцца скрозь варожыя сілы і адысці ў Кіеў, дзе ён і стаў князем.

Як мы ўжо ведаем, у 1222 г., паводле «Хронікі Лівоніі», смаленскі князь разам з полацкім і іншымі заключыў мірную і гандлёвую ўмовы з Рыгай. Гэта зноў-такі сведчыла аб усё большым значэнні для Смаленска гандлёва-эканамічных адносін з захадам. Відаць, умова 1229 г., тэкст якой поўнасцю дайшоў да нас, і была ўзнаўленнем умовы 1222 г.

Здавалася б, перад Смаленскам, які к гэтаму часу меў важныя ваенна-палітычныя перамогі, яшчэ не цярпеў ад міжусобіц — біча таго часу — і эканоміка якога перажывала росквіт, адкрывалася перспектыва заняць вядучае месца сярод усходнеславянскіх земляў. Аднак тагачасныя няўстойлівыя абставіны далі сябе знаць і ў далейшым лёсе Смаленска. Як у 1216 г. Смаленск выкарыстаў барацьбу князёў Суздальскай зямлі для ўмяшання ў яе ўнутранай справы і аслаблення яе, так і Полацк зрабіў у адносінах да Смаленска ў 1232 годзе — пераломным у лёсе Смаленскай зямлі.

Тут меў значэнне і збег неспрыяльных з'яў: землятрус (вельмі рэдкі тут), неўраджай, які выклікаў голад, а за ім, у сваю чаргу, пачаўся масавы паморак людзей — толькі ў Смаленску памерла каля 24 тысяч. Усё гэта само па сабе ўнесла няўстойлівасць у грамадскае жыццё зямлі. Апроч таго, са смерцю Мсціслава Давыдавіча ў 1230 г. узніклі спрэчкі ў шматлікім родзе Расціславічаў аб заняцці смаленскага пасада. Утварыліся дзве партыі, кожная з якіх адстойвала свайго прэтэндэнта: адна — сына Мсціслава Давыдавіча Расціслава, другая — Святаслава Мсціславіча. І вось у Наўгародскім І летапісе пад 1232 г. з'явіўся такі запіс: «...взя Святослав Мстиславлич, внук Романов, Смолнеск на щит с полочаны на память святых мучеников Бориса и Глеба, иссече смолнян много, а сам седя на столе»[752].

Перш чым перайсці да разгляду гэтага паведамлення, хочам звярнуць увагу на адно даволі дзіўнае супадзенне. Як мы ўжо ведаем, Наўгародскі І летапіс адзначыў, што Яраславічы і смаленцы ўзялі Полацк у 1222 г. «при князе Борисе и Глебе», а ўзяцце Смаленска князем Святаславам Мсціславічам з палачанамі адбылося ў дзень святых пакутнікаў Барыса і Глеба. Гэтае супадзенне можа навесці на думку аб падробцы, правільней, пераробцы аднаго з гэтых паведамленняў, хутчэй за ўсё першага. Вось чаму цалкам заканамерна паставіць пытанне, а ці не былі ўпомненыя

пад 1222 г. полацкія князі Барыс і Глеб выдуманыя, з'яўленне якіх у летапісе тлумачыцца атаясамліваннем іх са святымі Барысам і Глебам, у дзень якіх адбыліся падзеі ў Смаленску? Вядома, гэта толькі меркаванне і выяўленне сумнення, у якой ступені праўдзівая падзея 1222 г. Як мы ўжо ўказвалі, дакладнасць яе даты можа толькі сведчыць, што яна магла мець месца ў гісторыі.

А цяпер вернемся да разгляду запісу. Найперш кідаецца ў вочы яго значна большая інфармацыйнасць у параўнанні з запісам 1222 г., поўным таямнічасці. Сапраўды, тут з усёй відавочнасцю бачым, што Святаслаў Мсціслaвіч цалкам абапіраўся на палачанаў, з дапамогай якіх ён і захапіў смаленскі пасад. Ясна таксама, што яму было аказана супрацілленне, інакш ён не знішчыў бы многіх смаленцаў. Мы ведаем таксама, што Святаслаў Мсціславіч быў з роду смаленскіх князёў, бо з'яўляўся ўнукам Рамана Расціславіча. Толькі адно засталося невядомым: як яму ўдалося паразумецца з палачанамі? І вось наконт гэтага ў свой час П. Галубоўскім было выказана меркаванне, што Святаслаў Мсціславіч быў пасаджаны Смаленскам у Полацку ў 1222 г. і княжыў там да 1232 г.[753]. Аднак у такім выпадку застаецца незразумелым, як мог смаленскі стаўленік у Полацку ператварыцца ў стаўленіка Полацка ў Смаленску. Гэта па-першае. Па-другое, з гісторыі Полацка невядома ніводнага факта, каб палачане аж дзесяць гадоў цярпелі на сваім пасадзе князя другой дынастыі. Калі тут так доўга не маглі трымацца кіеўскія стаўленікі, то наўрад ці маглі столькі часу трымацца смаленскія. На нашу думку, больш верагодна, што справа адбывалася так. Палачане, добра ведаючы пра цяжкія абставіны, у якія трапіў Смаленск, рашылі выкарыстаць гэта і нанесці ўдар па сваім даўнім палітычным канкурэнце. Будучы ў курсе барацьбы за смаленскі пасад, яны зрабілі стаўку на Святаслава Мсцілавіча, увайшлі з ім у сувязь, паабяцалі яму сваю дапамогу. Не выключана таксама, што Святаслаў мог уцячы ў Полацк і, дамовіўшыся з ім, з яго сілай увайсці ў Смаленск і сесці на яго пасад. У В. Тацішчава сказана, што Святаслаў Мсціславіч хацеў па смерці Мсціслава Давыдавіча княжыць у Смаленску, але смаленцы яго прыняць не хацелі. Ён жа 24 ліпеня сілаю ўзяў[754]. З гэтага ясна бачна, што Святаслаў, пацярпеўшы няўдачу мірна сесці на смаленскі пасад, павінен быў абаперціся на знешнюю сілу. Яму яе і далі палачане. Але, як бы там ні было, ясна адно, што полацкая гісторыя не спынілася на сваім упадку ў 20-я гады XIII ст., як сцвярджаюць некаторыя даследчыкі, а паспяхова развівалася. Падзеі 1232 г. зноў пацвердзілі ўменне полацкай дыпламатыі прыстасоў-

вацца да канкрэтна-гістарычных абставін, пільна і ўдумліва сачыць за падзеямі і выкарыстоўваць у сваіх інтарэсах спрыяльныя ўмовы. Пасадзіўшы ў Смаленску свайго стаўленіка і падтрымліваючы яго, без чаго ён, вядома, не мог бы ўседзець, Полацк атрымаў магчымасць уплываць на палітыку гэтага княства і ў значнай меры падначальваць яе сваім інтарэсам. Аднак аб поўным падначаленні Смаленска Полацку наўрад ці можа ісці гаворка. Бо сцвярджаць так было б раўназначным паўтараць тую самую памылку, якую дапускалі і дапускаюць многія даследчыкі ў адносінах падначалення Полацка то Кіеву, то Чарнігаву, то Смаленску, то Літве. Вельмі доўга жыў Полацк самастойным дзяржаўным жыццём, каб мог адразу страціць сваю палітычную самабытнасць і поўнасцю ў адзін раз падначаліцца камунебудзь. Тое самае і ў адносінах Смаленска. Праўда, яго самастойная палітычная гісторыя была непараўнальна карацейшая за полацкую, але ўжо дастаткова працяглая, каб быць трывалай і здольнай абараняць сябе. Таму Полацк у 1232 г. не мог адразу разбурыць смаленскую незалежнасць. Самае большае, што ён мог зрабіць у дадзеным выпадку, дык гэта ўплываць на справы Смаленска праз свайго стаўленіка з роду Расціславічаў, што смаленцы не пацярпелі б, калі б у іх быў пастаўлены хто-небудзь з полацкай дынастыі.

Толькі праз сем гадоў у летапісе была адзначана яшчэ адна падзея, якая хоць і ўскосна, але трохі прасвятляе поўную невядомасці полацкую гісторыю гэтага часу. У Наўгародскім I летапісе пад 1239 г. сказана: «Оженися князь Александр, сын Ярославль в Новегороде, поя в Полотьске у Брачислава дчерь, и венчася в Торопце; ту кашю чини, а в Новегороде другую»[755]. Як бачым, полацкім князем у гэты час быў Брачыслаў, але чыім сынам ён з'яўляўся, засталося невядома. Тое, што дачка Брачыслава (па звестках В. Тацішчава яе імя — Параскевія, па іншых — Аляксандра) выходзіла замуж за вядомага наўгародскага князя Аляксандра Неўскага, можа нейкім чынам сведчыць аб палітычным збліжэнні Полацка і Ноўгарада, хутчэй за ўсё на грунце агульнай барацьбы з нямецкай і шведскай агрэсіяй. У сувязі з гэтым можа быць невыпадковым знаходжанне ў войску Аляксандра Неўскага Якава Палачаніна, аднаго з шасці найбольш выдатных герояў, якія вызначылі пераможны зыход для наўгародцаў Неўскай бітвы 1240 г. Пра яго сказана, што ён, наехаўшы на полк (варожы) з мячом і «мужествовав много»[756]. Не зусім зразумела, чаму шлюб адбываўся ў Тарапцы. В. Данілевіч гэта тлумачыў далейшай залежнасцю Полацка ад Смаленска, і таму, маўляў, «дачка Брачыслава па жаданню смаленскіх князёў жыла ў Тарапцы, і гэта змушала

міжволі Брачыслава падначальвацца Смаленску»[757]. Але тады становіцца незразумелым, чаму яна павінна была жыць у Тарапцы, а не ў самім Смаленску. Цяжка меркаваць, каб княская дачка і жонка была ў поўным сэнсе гэтага слова заложніцай. Наогул, аб нейкай залежнасці Полацка ад Смаленска пасля 1232 г. і гаварыць не прыходзіцца. Смаленск пасля гэтага надоўга застаўся ў палітычным заняпадзе.

І хоць падзеі 1232 г.— факт вельмі красамоўны для пацверджання палітычнай моцы Полацка ў гэты час, тым не менш прыводзіцца яшчэ адзін аргумент у пацверджанне полацкага бяссілля. Гэта — шматлікія набегі «літвы», якія яна ажыццяўляла на рускія землі праз нібыта аслабелую і падначаленую ёй Полацкую зямлю. Але і гэта з'яўляецца вынікам даволі тэндэнцыйнага асвятлення падзей.

Мы ўжо ведаем, што яшчэ ў канцы XII ст. Літва была саюзніцай Полацка і адным з тых рэзерваў, адкуль ён чэрпаў вайсковыя сілы, як гэта было ў 1180 г. у барацьбе са Смаленскам і ў 1198 г. у паходзе на Вялікія Лукі супраць Ноўгарада. Такім чынам, ужо ў XII ст. выявілася значэнне Літвы для Полацка як адной з ударных сіл яго супроць суседніх земляў. У 1216 г., як пасведчыла «Хроніка Лівоніі», Літва была саюзніцай Полацка і ў барацьбе супроць крыжацкай агрэсіі. Праўда, у ёй гаварылася і аб пагрозе летонаў (калі пад імі разумець «літву») полацкім удзелам у Ніжнім Падзвінні і самому Полацку, аднак ніводнага факта нападу іх на полацкія ўладанні яна не зарэгістравала.

Часта спасылаюцца на паведамленне Я. Длугаша, што ў 1216 г. літоўскія дружыны ўварваліся ў ваколіцы Полацка і што яны былі разгромлены і выгнаны смаленскім князем Мсціславам Давыдавічам[758]. Аднак апошні ў той час у Смаленску не быў князем. Малаверагодныя і звесткі Лаўрэнцьеўскага летапісу пра напад «літвы» ў 1235 г. побач з Наўгародскай і Смаленскай землямі і на Полацкую[759], бо ў Акадэмічным спісе гэтай крыніцы[760] і ў Наўгародскім І летапісе пра напад на апошнюю не гаворыцца[761].

Даследчыкі, як правіла, асабліва завастраючы ўвагу на шматлікія набегі «літвы» на рускія землі, поўнасцю замоўчваюць той факт, што амаль усе яны заканчваліся паражэннем, як гэта было ў 1200, 1225, 1229, 1234, 1245, 1248 і 1253 гг. Відавочна, што пры такім сумным зыходзе яны яўна не маглі спрыяць узбагачэнню літоўскіх феадалаў, як звычайна сцвярджаецца. Набегі «літвы» маглі быць толькі ў інтарэсах Полацка, які іх інспіраваў супроць суседніх земляў і якія ажыццяўляліся праз Полацкую зямлю.

У сувязі з так званымі літоўскімі набегамі нельга абмінуць яшчэ адзін факт, зафіксаваны ў Суздальскім летапісе

пад 1239 г.: «Того же лета Ярослав иде Смолиньску на Литву, и Литву победи и князя их ялъ, а Смольняны урядив, князя Всеволода посади на столе, а сам со множеством полона с великою честью отиде в свояси»[762] П. Галубоўскі, грунтуючыся на гэтым запісе, лічыў, што Літва сапраўды захапіла Смаленск, карыстаючыся міжусобнай барацьбой смаленцаў, незадаволеных Святаславам Мсціславічам, і што ім на дапамогу з'явіўся ўладзімірскі князь Яраслаў Усеваладавіч які і задаволіў іх, прагнаўшы Святаслава[763]. Аднак гэты аўтар пакінуў без увагі той факт, што Яраслаў «князя іх (г. зн. «літвы».— *М. Е.*) ялъ». Дык хто быў прагнаны: Святаслаў ці невядомы па імені літоўскі князь? На думку І. Бяляева, пад «князем Літвы» трэба разумець Святаслава Мсціславіча. І з гэтым можна пагадзіцца. Намі ўжо ўказваліся факты, калі ў пазнейшых летапісах палачане падмяняліся літвою, як гэта было з паказам у Ніканаўскім летапісе падзей, звязаных з паходам Андрэя Багалюбскага на Кіеў у 1167 г. І гэта зразумела. Паняцце «палачане» ў пазнейшы час забылася і падмянілася зразумелым тады паняццем «літва». Вось тое ж самае магло адбыцца і са Святаславам Мсціславічам, які ў 1232 г. стаў князем у Смаленску з дапамогай палачанаў і, па ўсім відаць, з іх жа дапамогай і правіў. Цалкам магчыма, што ён і разумеецца ў Суздальскім летапісе як літоўскі князь, а палачане, якія былі з ім, як «літва», тым больш што яна магла быць у іх войску. Аднак нельга катэгарычна сцвярджаць, што тут да гэтага часу сядзеў Святаслаў, бо гэта не пацвярджаецца крыніцамі. Больш за тое, ёсць меркаванне, што ў Смаленску з 1235 г. быў князем Уладзімір Рурыкавіч, які нібыта памёр у 1239 г., пасля чаго пачаліся тут розныя звадкі, што і выкарыстала літва для захопу Рослаўля, Рудні і самога Смаленска. А гэта, у сваю чаргу, прымусіла ўмяшацца Яраслава Усеваладавіча. Але ўсю гэту гісторыю трэба паставіць пад сумненне, бо цяжка ўявіць, каб мог уладзімірскі князь у 1239 г., у разгар татарскага нашэсця, якое асабліва спустошыла яго зямлю, ісці на дапамогу Смаленску.

З разгледжанага намі бачна, што няма ніводнага факта, зарэгістраванага ў крыніцах, які сведчыў бы аб палітычным разладзе ў Полацкай зямлі і яе залежнасці. Наадварот, як рускія летапісы, так і заходнія хронікі гавораць аб іншым. Полацкія ўдзелы працягвалі існаваць, жылі ў згодзе, адчуваючы агульныя інтарэсы, Полацк не толькі змог пераадолець палітычнае прыцягненне свайго галоўнага суперніка — Смаленска, але і падначаліць яго свайму ўплыву. І гэта нягледзячы на страту ім у той час Ніжняга Падзвіння. Аднак апошняе мела ўсё ж вельмі істотныя вынікі. Яно прымушала

Полацк усё большую ўвагу пераносіць з Падзвіння ў Панямонне, у Літву, якая пасля страты Ніжняга Падзвіння стала важнейшай яго апорай. Але тут Полацк сустрэўся з сваім новым і магутным супернікам — Новагародкам. Так, цэнтр палітычнага жыцця Беларусі ў сярэдзіне XIII ст. паступова пераходзіць з Падзвіння ў Панямонне, якое станавілася ядром збірання асобных беларускіх земляў у адзінае цэлае.

## ЦЯЖАР БАРАЦЬБЫ ПРЫПАДАЕ НА ПІНСК

З пачатку XIII ст. стала яўна выяўляцца вядучае месца Пінска ў далейшым жыцці Тураўскай зямлі. Ужо раней адзначалася, што яе залежнасць ад Кіева адразу стала замяняцца залежнасцю ад галіцка-валынскіх князёў, з якой таксама не жадала мірыцца Тураўшчына. Асабліва гэта заўважаецца ў Пінску. Аб гэтым і пасведчыла першае ж летапіснае паведамленне ў XIII ст.— пад 1204 г. Праўда, яно вельмі кароткае і таму не зусім яснае. У ім ідзе гаворка аб тым, што валынскі князь Аляксандр у гэтым годзе «яша Володимера Пиньского»[764]. Прычыну гэтага можна ўгледзець у тым, што, выкарыстаўшы напад ляхаў на Уладзімір Валынскі, пінскі князь Уладзімір, па ўсім відаць, захапіў нейкую тэрыторыю суседняга княства, за што і быў пакараны. Гэты факт яскрава паказвае, што галоўны цяжар барацьбы з Валынню падае на Пінск. І гэта зразумела, бо яго тэрыторыя непасрэдна межавалася з Валыншчынай, што яшчэ больш узвышала значэнне Пінска, бо барацьба з Валынню станавілася сталым фактарам палітычнага жыцця зямлі.

У той жа час Тураў і Пінск па-ранейшаму вымушаны былі ўдзельнічаць у бясконцых спрэчках у барацьбе за кіеўскі пасад. У 1207 г. іх войскі знаходзіліся пад г. Трыпалем у стане чарнігаўскіх Ольгавічаў, якія выступілі супроць Рурыка Расціславіча. А гэта азначала ў параўнанні з папярэднім палітычную пераарыентацыю турава-пінскіх князёў: іх пераход з саюзнікаў у праціўнікі смаленскіх Расціславічаў. Відаць, на іх погляд, Расціславічы трацілі сваю моц і таму не было патрэбным прадаўжаць саюз з імі.

На жаль, пасля 1207 г. наступіў 20-гадовы прагал у летапісах пра Турава-Пінскую зямлю. Усё гэта гаворыць за тое, што кіеўскія і галіцка-валынскія летапісцы мала ўдзялялі ёй увагі і толькі тады яна трапляла ў поле іх зроку, калі закранала інтарэсы іх княстваў. Менавіта гэта і здарылася ў 1227 г., калі зноў вельмі выразна высветлілася імкненне



*Камянецкая, або Белая, вежа. XIII ст.*

Пінска павялічыць сваю тэрыторыю за кошт Валыні, дзеля чаго выкарыстоўвалася ўсялякае ў ёй замяшанне. Так здарылася і тады. Паміраючы, луцкі князь Мсціслаў (Нямы) завяшчаў свой удзел Данілу Раманавічу разам з апекай над малалетнім сынам. Аднак пляменнік Мсціслава Яраслаў Інгваравіч, лічачы, што толькі яму павінна належыць спадчына дзядзькі, захапіў Луцк, а за аказаную яму дапамогу аддаў пінскаму князю Расціславу Чартарыйск. Вядома, Даніла Галіцкі гэтага не мог сцярпець, асабліва перадачы Чартарыйска Пінску, што выявілася ў яго словах: «Не подобает Пиняном держати Черторийска, яко не могу им терпети[766]. З гэтага відаць, што Чартарыйск быў горадам,

на ўладанне якім прэтэндаваў Пінск, лічачы яго сваім па праву, чаму быў і перададзены Расціславу. Апошні, відаць, не згадзіўся з прысудам трацейскага суддзі, якім быў Мсціслаў Удалы, вярнуць Чартарыйск, і Даніла Галіцкі на вялікдзень 1228 г. заняў гэты горад, узяўшы адначасова ў палон і дзяцей Расціслава. Аднак гэта не паклала канец барацьбе, а, наадварот, яшчэ больш распаліла яе. Як паказвае летапіс, Расціслаў «не престояще клевеща — беша бо дети его изымаша»[767]. Захады мітрапаліта Кірылы прымірыць праціўнікаў былі безвыніковыя. Не збаяўшыся магутнасці Данілы Галіцкага, які ўваходзіў тады ў славу, Расціслаў пачаў падбіваць супроць яго іншых князёў. Трэба сказаць, што тут выявілася яго дыпламатычнае ўмельства паказаць усім і кожнаму паасобку неабходнасць барацьбы з Данілам. Найперш ён разгадаў далёка ідучыя планы галіцкага князя на дамінуючае становішча сярод іншых князёў і аб'яднанне іх пад сваёй уладай, пра што сведчыла заняцце Луцка і Паніззя. Папярэджанне аб гэтым, зробленае Расціславам, не магло, вядома, не ўздзейнічаць на многіх князёў. Яму нават удалося прывабіць да сябе і полаўцаў, якім было ўказана на шырокую магчымасць парабаваць Галіцка-Валынскую зямлю. Энергічныя захады Расціслава далі бліскучыя вынікі. Яму ўдалося схіліць на свой бок кіеўскага князя Уладзіміра Рурыкавіча, чарнігаўскага Міхаіла, палавецкага князя Кацяна, куранаў, тураўцаў і новагародцаў (наваградцаў). Удзел апошніх асабліва паказальны. Ён сведчыў аб умацаванні ваенных сувязей, якім, бясспрэчна, папярэднічалі эканамічныя і палітычныя, з Новагародскай зямлёй, а разам з гэтым у перспектыве і з усімі беларускімі землямі. Гэта быў паваротны момант у гісторыі Турава-Пінскай зямлі. Калі на працягу ўсёй ранейшай гісторыі перамагалі сілы (найперш Кіева), якія супрацьдзейнічалі збліжэнню гэтай вобласці з іншымі землямі Беларусі і таму былі няўдалыя спробы з боку Полацка і Менска прыцягнуць іх да сябе, то цяпер у новых гістарычных умовах яна сама знайшла рэальныя шляхі збліжэння. Яна як бы адчула прыцягненне новага дзяржаўнага ядра, што пачало фармавацца паблізу, убачыла яго рэальную сілу і таму папрасіла ў яго дапамогі. Звяртае на сябе ўвагу і ўдзел тураўцаў у гэтай кааліцыі, што красамоўна пасведчыла аб з'яднанні Тураўскай зямлі, нягледзячы на наяўнасць у ёй удзелаў.

Але вернемся да падзей 1228 г. (а магчыма, і 1229 г. ці нават 1230 г. бо храналогія іх заблытаная). Усе ўдзельнікі кааліцыі накіраваліся да Крамянца і аблажылі яго, што з'явілася вялікай небяспекай для Данілы. Аднак ён, у сваю

чаргу, прыняў захады, каб раз'яднаць сілы праціўнікаў. Найперш яму ўдалося адвадзіць полаўцаў, якія, вяртаючыся назад, усё ж парабавалі паасобныя месцы Галіцкага княства, што змусіла варожую Данілу Галіцкаму партыю адмовіцца ад дапамогі яго праціўнікам. Аблога Крамянца зацягнулася. Апроч таго, Даніла з дапамогай палякаў рушыў на Кіеў, у выніку чаго кіеўскі і чарнігаўскі князі ўвайшлі ў перагаворы з ім. Хоць выступленне аб'яднаных сіл супроць Данілы Галіцкага закончылася няўдачай, усё ж гэты факт пацвердзіў непрымірымасць Пінска, а разам з ім і Турава да галіцка-валынскіх князёў і іх улады над імі. А што яна і далей працягвалася, гаворыць наступнае летапіснае паведамленне, з якога мы даведваемся, што галіцка-валынскія князі Даніла і Васілька пакінулі ў 1229 г. пінскага князя Уладзіміра сцерагчы разам з уграмі і берасцянамі Берасце ад яцвягаў[768]. Як бачым, варожасць да галіцка-валынскіх князёў не прайшла дарэмна для Расціслава, ён быў, па ўсім відаць, заменены на пінскім пасадзе Уладзімірам, магчыма, тым, якога ў 1204 г. «яша» валынскія князі за напад на іх зямлю. З гэтага можна зрабіць вывад, што Галіч і Валынь выкарыстоўвалі суперніцтва пінскіх князёў за свой пасад і дапамагалі ўмацавацца на ім таму, хто абяцаў большую пакорлівасць. Паколькі Расціслаў болей не ўпамінаецца ў крыніцах, можна думаць аб магчымасці яго знішчэння.

Але вернемся да летапіснага паведамлення 1229 г. Яно каштоўнае для нас і тым, што паказвае варожасць яцвягаў да галіцка-валынскага ўладання. Берасце было аплотам яго. І таму зразумела, чаму менавіта на яго нападалі яцвягі. Трэба зазначыць, што гэты летапісны запіс не зусім ясны. У ім адначасова гаворыцца і пра тое, што літва ваявала ляхаў, і таму далей становіцца незразумелым, хто прыйшоў да Берасця — літва ці ляхі — і каго з іх «избиша» Уладзімір Пінскі.

Аднак з'яўленне на пінскім пасадзе больш пакорнага князя ніколькі не азначала канчатковага прымірэння Пінска з галіцка-валынскай уладай. Наадварот, яе ўзмацненне выклікала яшчэ большае супрацьдзеянне. Мы ўжо адзначалі, што падзеі 1228 г. паказалі на сувязь Пінска з Навагародкам. Тут жа ў Верхнім Панямонні Пінск знаходзіць і яшчэ аднаго саюзніка — Літву, якая была яго паўночным суседам. Упершыню ў навуцы звярнуў увагу на гэта А. Грушэўскі[769]. Убачыўшы гэта, ён быў вельмі блізкі да правільнага разумення месцазнаходжання тагачаснай Літвы. Але, як і іншыя даследчыкі, ён лічыў Верхняе Панямонне заваяваннем Літвы, якую атаясамліваў з сучаснай Літвой.



*Ваўкавыск. Касцяны ігольнік. XII ст.*

Паколькі пісьмовыя крыніцы занатавалі літоўскія набегі на Валынь толькі ў 40-я гады XIII ст. (гэта, вядома, не выключае, што яны былі раней, але ў летапісы не трапілі), можна думаць, што ідэю выкарыстання літвы ў барацьбе з Валынню Пінск запазычыў у Полацка, які ўжо ў XII ст. выкарыстоўваў яе ў барацьбе са сваімі суседзямі — Смаленскам і Ноўгарадам. Гэтак жа як і Полацк, Пінск даваў магчымасць «літве» свабоднага праходу праз сваю тэрыторыю. У 1246 г. (дата гэта не зусім дакладная) набег на валынскую Перасопніцу зрабіў Айшвно Рушкавіч. Як і ўсе набегі «літвы», і гэты ў пачатку быў паспяховы: з нарабаваным дабром і захопленым палонам атрад Рушкавіча вяртаўся назад праз Пінскую зямлю, дзе яго перанялі і разбілі Даніла і Васілька, а Рушкавіч «умале утекшю»[770]. У Пінску з вялікай радасцю была адсвяткавана Данілам і Васількам гэтая перамога. Тут не ўпамінаецца імя пінскага князя, які, вядома, павінен быў крывадушна падзяляць іх радасць У гэтым і выяўлялася падвойная гульня пінскіх князёў: з аднаго боку — нацкоўваць Літву на Валынь і даваць магчымасць нападаць на апошнюю, а з другога боку — прыкідвацца пакрыўджанымі ёю і «радавацца» перамозе над ёю галіцка-валынскіх князёў, што асабліва добра выявілася ў наступным, 1247 г. Гэтым разам атрад «літвы», узначалены Ланкгвенем, напаў на Мельніцу і Лякоўню. Захапіўшы вялікі палон, ён, як і трэба было чакаць, вяртаўся праз Пінск.



*Ваўкавыск. Медальён. XII ст.*

І тут ужо летапісец непасрэдна гаворыць пра дапамогу князя Міхаіла, якую ён аказаў «літве», папярэдзіўшы яе аб пагоні Данілы і Васількі. Адначасова «літва» ведаючы аб крывадушшы пінскіх князёў у адносінах да яе, не паверыла Міхаілу. Вось чаму, спачатку «осекшися» ў лесе, г. зн. умацаваўшыся, яна пасля выйшла са сваіх станаў і стала лёгкай здабычай Данілы і Васількі. Многія былі перабіты, палон адабраны, і толькі Ланкгвеню, як і раней Айшвно Рушкавічу, удалося ўцячы. Як і ў папярэдні раз, усё закончылася вялікай урачыстасцю пераможцаў у Пінску[77].

Набегі атрадаў «літвы» на Валынь праз Пінскую зямлю, як і намеры Рурыка Расціславіча ў 1190 і 1193 гадах ісці з Пінска на Літву, красамоўна пацвярджаюць месцазнаходжанне апошняй на поўнач ад Пінскай зямлі ў Верхнім Панямонні.

З разгледжанага таксама бачна, што гэтыя набегі не з'яўляліся вынікам самастойнага рашэння Літвы, а былі інспіраваны, як і ў выпадку з Полацкам, пінскімі князямі ў мэтах аслаблення Валыні і вызвалення ад яе залежнасці. Зноў-такі гэтыя набегі, як і набегі праз Полацкую зямлю на наўгародскія і смаленскія ўладанні, заканчваліся жорсткімі паражэннямі, і, такім чынам, Пінск, як і Полацк, заграбаў жар чужымі рукамі. Само сабой зразумела, што гэта вяло да знясільвання Літвы, яе разлажэння і ў канчатковым выніку да яе заваявання.

## НОВАГАРОДСКАЯ ЗЯМЛЯ І ЛІТВА

У сярэдзіне XIII ст. па сваім эканамічным і культурным развіцці сярод іншых беларускіх земляў на першае месца выходзіць Новагародская зямля, якая пазней часамі называлася Чорнай Руссю. На вялікі жаль, гістарычная навука вельмі мала ўдзяляла ўвагі гэтай вобласці і разглядала і працягвае разглядаць яе толькі як аб'ект заваёўніцкіх намаганняў для яе суседзяў. Так, У. Пашута характарызаваў яе толькі як вельмі істотны фактар гісторыі Літвы[772]. Таму не дзіўна, што пытанне ролі Новагародскай зямлі ў гісторыі Беларусі, у аб'яднанні беларускіх земляў навукай не распрацавана.

У адрозненне ад Полацкай і Тураўскай земляў Новагародская зямля была параўнаўча новым палітычным утварэннем Беларусі, якое ўзнікла на левым беразе Верхняга Нёмана. Дадзеныя археалогіі сведчаць, што ўжо ў канцы I і пачатку II тысячагоддзяў н. э. славянскае насельніцтва тут было дамінуючым, дрыгавіцка-крывіцкім. Фармаванне Новагародскай зямлі пачалося з часу заснавання Новагародка, што адбылося, як ужо адзначалася, у 1044 г., калі Яраслаў Мудры пасля паходу на Літву залажыў гэты горад як аплот валодання Кіева над ёю. Паколькі Полацк таксама меў свае інтарэсы ў Літве, то збудаванне Новагародка завязала яшчэ адзін вузел полацка-кіеўскіх супярэчнасцей, што і прывяло да нападу ў канцы 1066 г. Усяслава на Новагародак. Аднак апошні па-ранейшаму заставаўся пад уладай Кіева. Нездарма ж спроба Глеба Менскага ў 1119 г. заваяваць гэту «вобласць Уладзіміравых дзяцей» выклікала рашучыя дзеянні Уладзіміра Манамаха. Відаць, пасля заваявання самастойнасці Турава-Пінскім княствам і Новагародак выйшаў з-пад улады Кіева, але трапіў пад уплыў галіцка-валынскіх князёў, які для яго быў непрымальны. Гэтым і тлумачыцца выступленне новагародцаў у 1128 г. на баку Расціслава Пінскага. І ўсё ж палітычны ўплыў галіцка-валынскіх князёў на Новагародак працягваўся, аб чым сведчыць тое, што каля 1237 г. Даніла Галіцкі накіраваў супроць Кандрата Мазавецкага разам з «Літвой Міндоўга» і Ізяслава Новагародскага. Аднак у сярэдзіне 40-х гадоў XIII ст. Новагародак на пэўны час вырваўся з-пад палітычнага прыцягнення Валыні, што і дало яму магчымасць прыступіць да ажыццяўлення сваіх дзяржаўных мэтаў.

К гэтаму часу Новагародская зямля дасягнула высокага сацыяльна-эканамічнага развіцця, чаму садзейнічаў шэраг прычын. Тут было добра развітае земляробства, якому спрыяла ўрадлівая глеба, чаго не мелася ў Падзвінні. Нова-



*Ваўкавыск. Старажытнае гарадзішча. XI—XIII ст.*

гародская зямля з'яўлялася краем развітых рамёстваў. Тут выплаўлялася жалеза і была наладжана вытворчасць разнастайных вырабаў з яго, апрацоўваліся каляровыя і каштоўныя металы, існавалі ганчарныя, кастарэзныя і іншыя рамёствы. Гэтая вобласць вяла ажыўлены замежны гандаль, аб чым сведчыць вялікая колькасць знойдзеных археолагамі імпартных рэчаў[773]. У выніку гэтага і дзякуючы наяўнасці густога сельскага насельніцтва на параўнаўча невялікай тэрыторыі Новагародскай зямлі было многа гарадоў: Навагародак, Слонім, Ваўкавыск, Горадзен, Здзітаў, Зэльва, Свіслач і інш. Хоць летапіс упершыню іх упамінае толькі ў сярэдзіне XIII ст., але яны, як сведчыць археалогія, узніклі значна раней. Паводле Іпацьеўскага летапісу, у Навагародку, Горадне, Ваўкавыску, Свіслачы былі свае князі. Можна думаць, што мелі іх і іншыя гарады, якія, такім чынам, з'яўляліся цэнтрамі паасобных удзелаў. Аднак усе яны шчыльна прымыкалі да Навагародка, князь якога, магчыма, для ўсіх іх меў значэнне вялікага князя. Цэнтральнае значэнне Навагародка і вызначыла назву гэтай зямлі як Новагародскай. Летапісы не зарэгістравалі ніводнага выпадку міжусобнай барацьбы яе князёў.

Новагародская зямля была краінай развітага феадальнага грамадства. Ужо ў XI ст. тут панаваў феадалізм і выдзелілася сацыяльная верхавіна грамадства, быт якой вызначаўся выключнай раскошай. Наяўнасць багатых магіл побач

з мноствам безынвентарных сведчыць аб рэзкай класавай дыферэнцыяцыі.

Сваім высокім развіццём Новагародская зямля была абавязана і Полацку. Наяўнасць мяшанага дрыгавіцка-крывіцкага насельніцтва, інвентар могільнікаў, тып жыллёвых збудаванняў пераканаўча сведчаць пра шчыльныя эканамічныя і культурныя сувязі Новагародскай зямлі з Полаччынай. Нездарма ж некаторыя даследчыкі (М. Ціхаміраў) лічылі, што гэтая тэрыторыя належала Полацку. І хоць гэтае пытанне з'яўляецца спрэчным, аднак працэс узаемнага эканамічнага і культурнага збліжэння паміж беларускімі землямі ў XII—XIII стст. не толькі не абмінуў Новагародскую зямлю, але і выразней за ўсё тут праявіўся.

Выгаднае геаграфічнае становішча Новагародскай зямлі асабліва дало знаць сябе ў сярэдзіне XIII ст. У перыяд двух вялікіх бедстваў, якія абрушыліся на Русь, Польшчу і Прыбалтыку — крыжацкая агрэсія і мангольскае заваяванне,— Беларускае Панямонне было адносна бяспечнай тэрыторыяй. І таму яно ў сярэдзіне XIII ст. служыць прыстанкам для прадстаўнікоў насельніцтва многіх абласцей Усходняй Еўропы, якія ратаваліся ад жорсткіх заваёўнікаў з усходу і захаду. Прыліў новага насельніцтва выклікаў яшчэ большае развіццё прадукцыйных сіл гэтай зямлі.

Выключна важнае значэнне не толькі для Новагародскай зямлі, але і для ўсёй Беларусі мела тое, што яна не ведала мангола-татарскага пагрому і панавання. Як вядома, апошнія перарвалі і замарудзілі працэс палітычнага аб'яднання рускіх і ўкраінскіх земляў, падарвалі іх прадукцыйныя сілы. Усяго гэтага пазбегла Беларусь. Яе аб'яднанне не было перапынена, а яе прадукцыйныя сілы не толькі не былі падарваны, але ў выніку прытоку новага насельніцтва яшчэ больш узраслі. Усё гэта і было прычынай таго, што фармаванне тэрыторыі Беларусі і ўтварэнне беларускай народнасці пайшлі хутчэй, чым аналагічныя працэсы ў іншых усходнеславянскіх землях.

Паколькі культурныя цэнтры Беларусі не былі разбураны, беларуская культура развівалася бесперашкодна, што было прычынай яе высокага ўзроўню. Таму яна і заняла пануючае месца ў Вялікім княстве Літоўскім, а беларуская мова стала ў ім дзяржаўнай.

Высокае эканамічнае і культурнае развіццё, прыліў новага насельніцтва, далейшы рост прадукцыйных сіл, канцэнтрацыя вялікіх багаццяў у руках новагародскіх феадалаў і далейшае ўмацаванне іх улады — усё гэта павялічвала палітычную вагу Новагародскай зямлі сярод іншых гіста-

рычных абласцей Беларусі і дало ёй магчымасць стаць новым цэнтрам кансалідацыі беларускіх земляў і балцкіх плямёнаў, што знаходзіліся сярод іх.

Мы ўжо неаднаразова ўказвалі на тыя факты, якія паказваюць сапраўднае месцазнаходжанне Старажытнай Літвы. Зараз коратка паўторым іх. Гэта і тое, што Яраслаў Мудры ў 1040—1044 гг. разбіў Літву на палях слонімскіх і ў выніку гэтага збудаваў Новагародак, і тое, што менскі князь Валадар Глебавіч у 1159 г. «хадзіў у лясах пад Літвою», а ў 1161 г. сілаю яе разбіў свайго праціўніка, і тое, што ў 1190 і 1193 гг. Рурык Расціславіч з Пінска сабіраўся ісці на Літву, і тое, што атрады «літвы» ў 1246 і 1247 гг. нападалі на Валынь праз Пінскую зямлю і вярталіся праз яе,— усё гэта з'яўляецца яскравым сведчаннем таго, што Старажытная Літва ў XII—XIII стст. знаходзілася ў Верхнім Панямонні. На гэта ўказвае і наяўнасць тут тапонімаў «Літва» (У Слонімскім, Ляхавіцкім, Уздзенскім, Стаўбцоўскім і Маладзечанскім раёнах).

На падставе сказанага мы можам арыенціровачна вызначыць межы знаходжання Старажытнай Літвы ў прасторы паміж Менскам і Наваградкам з усходу на захад і паміж Маладзечнам і Слонімам з поўначы на поўдзень[776]. Яна ўрэзвалася клінам паміж Полацкай, Турава-Пінскай і Новагародскай землямі — галоўнымі састаўнымі часткамі будучай Беларусі. Зразумела, што пры аб'яднанні гэтых абласцей Літва не магла не ўвайсці ў склад тэрыторыі Беларусі як адна з складнікаў. Такое геапалітычнае становішча Старажытнай Літвы і растлумачвае, чаму яна ў сярэдзіне XIII ст. апынулася ў фокусе палітычнага суперніцтва суседніх земляў, якія імкнуліся заваяваць яе, што было першым звяном у пашырэнні іх улады на іншыя землі. У гэтым суперніцтве і атрымаў перамогу Новагародак, які і стаў цэнтрам утварэння новай дзяржавы — Вялікага княства Літоўскага. З узвышэннем Новагародка і закончыўся полацкі перыяд нашай гісторыі.

## ГІСТОРЫЯ ПЫТАННЯ

Хоць новагародскі перыяд нядоўгі па сваёй працягласці (ён прыпадае на другую палову XIII ст. і на пачатак XIV ст.), аднак яго значэнне ў гісторыі Беларусі выключна важнае, і найперш тым, што з ім звязана ўтварэнне і ўмацаванне новай дзяржавы — Вялікага княства Літоўскага. Пачатковым асяродкам гэтага гістарычнага працэсу стаў Новагародак (так тады называўся Наваградак), які да сярэдзіны XIII ст., як ужо намі адзначалася[777], вырас ў буйны эканамічны і культурны цэнтр, што і стала вызначаць яго дамінуючае месца ў нашай гісторыі таго часу.

Аднак гэта выдатная роля Новагародка гістарычнай навукай зацемнена да непазнавальнасці. Нават ужо ў 50—70-я гг. нашага стагоддзя, калі дзякуючы археалагічным пошукам быў выяўлены выключна высокі ўзровень эканомікі і культуры старажытнага Новагародка і яго вобласці, т. зв. Чорнай Русі, даследчыкі па-ранейшаму адмаўлялі яму ў самастойным значэнні і паказвалі яго толькі як аб'ект заваявання Літвы, якая ў сваю чаргу атаясамлівалася з сучаснай Літвой, што зусім скажала гісторыю ўтварэння Вялікага княства Літоўскага[778].

Карані такога погляду на Новагародак і іншыя беларускія гарады трэба шукаць у сярэдзіне XVI ст., для яго з'яўлення тады склаліся адпаведныя гістарычныя абставіны. Менавіта ў той час Маскоўская дзяржава стала прад'яўляць свае правы на беларускія і ўкраінскія землі, якія знаходзіліся ў складзе Вялікага княства Літоўскага. А калі ў ходзе Лівонскай вайны ў 1563 г. войскі Івана Грознага занялі значную частку Беларусі, у тым ліку і яе старажытны цэнтр — Полацк,— вось у гэты крытычны момант і наспела неабходнасць абгрунтаваць гістарычныя правы Вялікага княства Літоўскага на беларускія землі. Паколькі з'явілася пагроза іх страты, то і ўзнікла сцверджанне аб іх выратаванні літоўскімі князямі і падначаленні ўладзе Літвы. Вось тады і сталі з'яўляцца летапісы, у якіх усё гэта даводзілася. Прычым



*Вежа Шчытоўка ў Наваградскім замку. XIII ст.*

у іх на першы план выводзіцца ўласна не Літва, а Жамойць (заходняя частка сучаснай Літвы). І гэта невыпадкова. У той час жамойцкія феадалы, адчуўшы сваю моц (Жамойць у выніку Грунвальдскай перамогі больш не цярпела ад нападаў крыжакоў, што ў пэўнай ступені спрыяла яе дабрабыту) і прэтэндуючы на першынство ў дзяржаве, вырашылі перапісаць гісторыю Вялікага княства Літоўскага з тым, каб прыпісаць сабе заслугу ў яго стварэнні. І таму ў летапісах, такіх, як «Хроніка Быхаўца», апавядалася, як жамойцкі князь Монтвіл, дачуўшыся, што Русь паваявана Батыем, даў войска свайму сыну Эрдзівілу (у некаторых летапісах — Скірманту, залежна ад таго, у інтарэсах якога магнацкага роду пісаўся летапіс: Радзівілаў ці Скірмантаў), які, перайшоўшы Вяллю і Нёман, убачыў гару высокую і прыгожую і на ёй разбураны татарамі Новагародак. Узнавіўшы яго і зрабіўшы ў ім сваю сталіцу, ён пайшоў далей і гэтак жа аднавіў і ўзяў пад сваю апеку і іншыя беларускія гарады: Берасце, Горадзен, Драгічын, Мельнік[779].

Паказаўшы жамойцкае паходжанне новагародскіх князёў, аўтары летапісаў вырашылі зрабіць тое самае і ў дачыненні да полацкіх князёў. У выніку гэтага мы даведваемся, што сын Эрдзівіла заваяваў Полацк і стаў называцца князем



*Медная пласціна з Горадна з выявай св. Фядота. XII ст.*

полацкім і новагародскім. Унукам яго нібыта быў полацкі князь Барыс, якому прыпісвалася пабудова Сафійскага сабора і іншых выдатных будынкаў у Полацку. Асабліва важна было прыпісаць жамойцкае паходжанне гэтаму князю, паколькі, дзякуючы Барысавым камяням, аб ім з усіх полацкіх князёў найбольш захавалася памяць у народзе.

Няма чаго казаць, наколькі выдуманымі з'яўляюцца гэтыя гісторыі. Такой гістарычнай асобы, як Монтвіл, мы не знаходзім у ранейшых крыніцах, якія добра ведаюць тагачасных жамойцкіх князёў. Добра таксама вядома, што Беларусь не ведала батыеўскага пагрому, і таму яе гарады не маглі быць разбураны. І князь Барыс быў сынам не міфічнага Гінгвіла, а вядомага полацкага князя Усяслава Чарадзея. І тым не менш усе гэтыя байкі атрымалі ў гістарычнай навуцы самае шырокае распаўсюджанне і трывала замацаваліся ў ёй. Такое адбылося найперш дзякуючы таму, што польскі гісторык М. Стрыйкоўскі на аснове летапісаў XVI ст. напісаў сваю «Кроніку» і выдаў яе ў 1582 г. у Каралеўцы (Кёнігсбергу). Вялікую дапамогу яму ў гэтым аказаў жамойцкі біскуп Гедройц, што і зразумела. Усё гэта было ў інтарэсах жамойцкіх феадалаў, ідэолагам якіх і з'яўляўся Гедройц. «Кроніка» М. Стрыйкоўскага стала шырокавядомай, яе матэрыялы, у тым ліку і аб заваяванні літоўскімі князямі беларускіх земляў, увайшлі ў шматлікія еўрапейскія кнігі. Новы імпульс для свайго ажыўлення гэтыя міфы атрымалі ў 30—

40-я гады XIX ст., калі ў Вільні выйшлі дзевяць тамоў працы Т. Нарбута «Дзеі старажытныя народу літоўскага», якая грунтавалася на канцэпцыях М. Стрыйкоўскага, «Кроніка» якога таксама была перавыдадзена ў той час. З гэтых кніг у далейшым і чэрпалі ў цэлым матэрыялы для сваіх даследаванняў пра Вялікае княства Літоўскае, асабліва пра яго ўтварэнне, гісторыкі. І хоць такія відныя вучоныя, як Б. Антановіч, М. Дашкевіч, К. Любаўскі, у сваіх працах па гісторыі Вялікага княства Літоўскага адзначалі вельмі важныя асаблівасці, якія праўдзіва характарызавалі гэтую дзяржаву, а адзін з іх, М. Дашкевіч, нават усумніўся ў праўдзівасці заваявання Літвой Новагародка, аднак і яны не толькі не здолелі пераадолець і адкінуць тэзіс аб літоўскім заваяванні беларускіх земляў, але і, бяздоказна паўтараючы яго, гэтым самым яшчэ больш замацоўвалі яго ў гістарычнай навуцы.

На вялікі жаль, пытанне аб утварэнні Вялікага княства Літоўскага і ў савецкай гістарыяграфіі не было перагледжана. Больш за тое, пад уздзеяннем сцверджання аб бездзяржаўнасці Беларусі ў мінулым асабліва шмат у нашай гістарычнай літаратуры гаворыцца пра «ўладарніцтва літоўскіх феадалаў» над Беларуссю. Найбольш поўнае выяўленне гэтага мы знаходзім у працах Л. Абэцэдарскага «У святле неабвержных фактаў» (1969) і У. Пашуты «Образование Литовского государства» (1959), у якіх Беларусь выступае не інакш як «падуладная Літве», «заваяваная Літвой» і да т. п. Але нават У. Пашута, кніга якога асабліва прычынілася да ўмацавання ў савецкай гістарыяграфіі тэзіса аб літоўскім заваяванні Беларусі, не быў упэўнены ў праўдзівасці шэрагу сваіх палажэнняў, звязаных з утварэннем і далейшай гісторыяй Вялікага княства Літоўскага, калі вымушаны быў адзначыць: «Далейшыя поспехі нашай навукі, верагодна, прывядуць да перагляду прапанаваных тут аргументаў і вывадаў. Чым хутчэй гэта адбудзецца, тым лепш»[780]. Сапраўды, гісторыя ўтварэння Вялікага княства Літоўскага патрабуе ўважлівага асвятлення, якое б знаходзілася ў поўнай адпаведнасці з гістарычнымі сведчаннямі.

## МІНДОЎГ

З часу М. Стрыйкоўскага і па сённяшні дзень ва ўсіх даследаваннях і падручніках па гісторыі князь Міндоўг выступае ў ролі заснавальніка Вялікага княства Літоўскага. Гэта ён, маўляў, спачатку аб'яднаў літоўскія землі (разумеецца, што ў межах сучаснай Літвы), а пасля захапіў Чорную Русь

і некаторыя іншыя беларускія землі[781]. Але ўсё гэта толькі сцвярджаецца, а не даказваецца.

Бясспрэчна, што Міндоўг у адрозненне ад Монтвіла, Мінгайлы і іншых міфічных жамойцкіх князёў — сапраўдная гістарычная асоба. Ён быў князем з Літвы, што сядзеў у Новагародку. Вось гэта апошняе і дало падставу для сцверджання аб заваяванні ім Новагародка і ўсёй яго вобласці, хоць нават у «Хроніцы Быхаўца» гаварылася, што Міндоўг атрымаў Новагародак у спадчыну ад свайго бацькі Рынгальта[782]. Аднак ці азначае з'яўленне таго ці іншага князя з Літвы ў якім-небудзь старажытнарускім горадзе вынікам заваявання яго? Вось гэтага пытання даследчыкі і не ставілі перад сабой, у той час як адказ на яго прасвятляў сапраўдны стан палітычнага жыцця Старажытнай Літвы, якую нельга атаясамліваць з сучаснай Літвой, бо менавіта гэта побач з іншымі беспадстаўнымі сцвярджэннямі зацямняла карціну ўтварэння Вялікага княства Літоўскага да непазнавальнасці. Летапісная Літва знаходзілася ў Верхнім Панямонні, дзе пакінула свае «аўтографы» ў выглядзе назваў вёсак «Літва», якія мы знаходзім і цяпер у Слонімскім, Ляхавіцкім, Уздзенскім, Стаўбцоўскім і Маладзечанскім раёнах. Яна ўрэзвалася клінам паміж Полацкай, Турава-Пінскай і Новагародскай землямі і побач з імі з'яўлялася гістарычнай вобласцю Беларусі[783]. Такое яе геапалітычнае становішча з'яўлялася перашкодай для аб'яднання беларускіх земляў, эканамічнае, культурнае і этнічнае збліжэнне якіх яскрава выявілася ўжо ў той час. І таму яе заваяванне той ці іншай суседняй вобласцю было непазбежным.

Ужо і раней сілы Літвы выкарыстоўваліся Полацкам, Пінскам, Валынню для нападу на сваіх праціўнікаў, што значна яе аслабляла. Яе князі і феадалы, пацярпеўшы паражэнне ў міжусобнай барацьбе, уцякалі ў суседнія землі, дзе выкарыстоўваліся для набегаў на Літву. Асабліва паказальным у гэтых адносінах з'яўляецца прыклад Даўмонта. Выгнаны ў 1265 г. Войшалкам, ён уцёк у Пскоў, дзе пасля хрышчэння (а магчыма, перахрышчэння, што больш верагодна) быў абраны князем і пасля гэтага адразу стаў рабіць напады на Літву[784]. Такім чынам, з'яўленне князёў з Літвы было выяўленнем не сілы Літвы, а яе палітычнага разлажэння. Гэтыя князі там з'яўляліся не стаўленікамі, а ворагамі Літвы.

Вось жа адным з іх таксама быў Міндоўг. З'яўленне яго менавіта ў Новагародку не было выпадковым, паколькі яго ўладанне («Літва Міндоўга») знаходзілася ў левабярэжжы верхняга Нёмана ў суседстве з Новагародскай зямлёю. На гэта межаванне можа ўказваць і летапіснае ўпамінанне аб

супольным паходзе на Кандрата Мазавецкага Літвы Міндоўга і Ізяслава Новагародскага[785]. Зусім слушную думку выказаў беларускі гісторык XIX ст. А. Ельскі, які лічыў, што ўпомнены ў летапісе горад Міндоўга Варута знаходзіўся на месцы сучаснага мястэчка Гарадзішча[786] (Баранавіцкі р-н).

Заслугоўвае ўвагі тое, што Міндоўг ва ўсіх звестках пра яго да з'яўлення ў Новагародку выступае ў ролі наёмніка. Такім мы яго бачым упершыню ў літоўска-валынскім дагаворы 1219 г., дзе ён у ліку іншых балцкіх князёў абавязваецца галіцка-валынскім князям ваяваць з палякамі[787]. У такой самай ролі мы яго бачым пад 1237 г., калі ён разам з Ізяславам Новагародскім з волі Данілы Галіцкага ідзе супроць Кандрата Мазавецкага [788]. У 1245 г. ён зноў дапамагае Данілу Галіцкаму ў яго міжусобнай барацьбе[789]. Пасля гэтага, дзесьці ў канцы 1245 ці ў пачатку 1246 гг. ён быў запрошаны куршамі для барацьбы з Ордэнам, але пры аблозе крэпасці Амботэн пацярпеў паражэнне і вымушаны быў адступаць. Услед за ім пагналіся крыжакі, уварваліся ў яго ўладанні і хоць самога горада, у якім абараняўся Міндоўг, не ўзялі, аднак нанеслі яго зямлі вялікае спусташэнне[790]. Вось гэта паражэнне, якое значна аслабіла пазіцыі Міндоўга ў Літве, выкарысталі яго праціўнікі, распачаўшы супроць яго барацьбу, у выніку чаго Міндоўг, выгнаны з Літвы, мусіў уцякаць «з многімі сваімі баярамі» ў суседні Новагародак. Што гэта было так, пацвярджае летапіс, дзе гаворыцца, што пазней Міндоўг выгнаў сваіх праціўнікаў з Літвы «враждбою... за ворожьство с ними»[791].

Новагародак к гэтаму часу дасягнуў значнай эканамічнай магутнасці і выйшаў з-пад палітычнага ўплыву галіцка-валынскіх князёў. Усё гэта стварыла спрыяльныя ўмовы для пашырэння яго ўлады на іншыя беларускія землі. Аднак першай перашкодай на гэтым шляху была Літва, якая адгароджвала яго ад іх. Таму заваяванне яе стала першачарговай справай для Новагародка. І для яго беглы Міндоўг аказаўся добрай знаходкай. Менавіта ў новагародскай знаці, якая найперш была зацікаўлена ў гэтым, і зарадзіўся арыгінальны намер зрабіць Міндоўга сваім князем і гэтым самым выкарыстаць яго для заваявання Літвы (у далейшым, як убачым, гэта стала прыкладам для Полацка і Пскова). Новагародцы, вядома, улічвалі багаты вопыт Міндоўга як наёмніка, які мог аддана змагацца за інтарэсы сваіх гаспадароў. Яны таксама ўсведамлялі, што заваяванне Літвы Міндоўг будзе ажыццяўляць з асабістай зацікаўленасцю, помсцячы за нанесеныя яму там крыўды.

Неабходнай умовай для абрання Міндоўга новагародскім

князем быў яго пераход з язычніцтва ў хрысціянства. Паводле Густынскага летапісу, у 1246 г. Міндоўг з многімі сваімі баярамі «прия веру Христову от Востока»[792] (г. зн. прыняў праваслаўе). Аб праўдзівасці гэтага запісу, які, на жаль,, абмінаецца даследчыкамі, сведчыць тое, што і іншыя падзеі, паказаныя ў ім, такія, як гібель аўстрыйскага герцага Фрыдрыха, смерць князя Яраслава Усеваладавіча (бацькі Аляксандра Неўскага), пасольства ад рымскага папы да татараў — адбываліся таксама ў 1246 г. Тое, што Міндоўг прыбыў у Новагародак з многімі баярамі, з якімі ён разам ахрысціўся, характарызуе яго не як заваёўніка, а як перабежчыка, бо ўсё гэта было характэрна, у прыватнасці, для Даўмонта, які ўцёк у Пскоў таксама з вялікім почтам і пасля хрышчэння стаў там князем. З адзначанага бачна, што не Міндоўг зрабіў Новагародак сваёй сталіцай, заваяваўшы яго, як гэта сцвярджаецца ў гістарычнай літаратуры, а Новагародак паставіў яго сваім князем для больш паспяховага ажыццяўлення сваёй важнейшай дзяржаўнай мэты — заваявання Літвы. Да выканання яе і прыступіў Міндоўг недзе ў канцы 1248 ці ў пачатку 1249 гг. Выгнаўшы з Літвы яе князёў Таўцівіла, Эрдзівіла і Вікінта, ён «зане Литву»[793]. Як бачым, Міндоўг заваяваў не Чорную Русь, а Літву. Вельмі каштоўнае для нас далейшае летапіснае ўдакладненне, якое сведчыць, што Міндоўгам была «поимана вся земля Литовьская»[794]. Гэта значыць, што ён не валодаў ніякай часткай Літвы, нават сваёй, і мог захапіць яе ўсю не інакш як з Новагародка[795]. Толькі поўнасцю ігнаруючы гэтыя ясныя летапісныя сведчанні, можна было гаварыць, што Міндоўг, аб'яднаўшы літоўскія землі, стварыў Літоўскую дзяржаву, а пасля захапіў Чорную Русь і іншыя беларускія землі[796]. Усё гэта супярэчыць гістарычным фактам. Ніякай адзінай Літоўскай дзяржавы не было. Валынска-літоўскі дагавор 1219 г., на які спасылаюцца даследчыкі як на доказ існавання раннефеадальнай літоўскай манархіі, паказаў выключную раздробленасць балцка-літоўскіх земляў, у якіх толькі старэйшых князёў было звыш дваццаці[797]. Мы ўжо не гаворым пра тое, што атаясамленне летапіснай Літвы з сучаснай у гістарычнай літаратуры да непазнавальнасці сказіла працэс утварэння Вялікага княства Літоўскага. А ён пачаўся з заваявання Новагародкам летапіснай Літвы, што і магло стаць ядром новай дзяржавы. Аднак цяжкія перашкоды не далі гэтаму збыцца.

Выгнаныя Міндоўгам князі, як і ўсе літоўскія перабежчыкі, сталі шукаць дапамогу па-за межамі Літвы, у дадзеным выпадку ў Галіцка-Валынскай зямлі, куды яны і ўцяклі. Гэтак жа, як для Новагародка Міндоўг, так і для галіцка-ва-

лынскіх князёў Таўцівіл, Эрдзівіл і Вікінт аказаліся добрай знаходкай. Даніла і Васілька з трывогай успрынялі вестку пра захоп Літвы Новагародкам. Яны добра разумелі, што гэта адкрые яму дарогу для захопу іншых земляў, на што прэтэндавалі самі галіцка-валынскія князі. Убачыўшы ў Новагародку свайго небяспечнага канкурэнта, яны адразу ж прымаюць меры для стварэння кааліцыі супроць Новагародка, у чым важная роля ўскладвалася на беглых літоўскіх князёў. У выніку гэтага скора сабраныя Данілам Галіцкім войскі трыма кірункамі на Ваўкавыск, Здзітаў і Слонім «поидоста к Новогородку и поимаша грады многы и возвратишася в домы свои»[798]. Хоць і гэта было моцным ударам па Новагародку, аднак толькі ім не абышлося. З ініцыятывы Таўцівіла галіцка-валынскія князі зрабілі і другі паход. У адрозненне ад першага ён ажыццяўляўся праз Пінск і быў адначасова накіраваны і на Літву, і на Новагародак[799].

Трапіўшы ў цяжкае становішча, Міндоўг, каб аблегчыць яго, вырашыў перацягнуць на свой бок Ордэн. Дзеля гэтага ён перайшоў у каталіцтва і прыняў каралеўскую карону ад рымскага папы. Аднак гэта не дапамагло, і ён запрасіў у Данілы міру. Відаць, прапанаваныя ім умовы міру былі непрымальныя для галіцкага князя, які таму зрабіў яшчэ адзін паход «на Литву, на Новогородок»[800], што і прымусіла Новагародак заключыць каля 1254 г. мір на ўмовах, прадыктаваных Данілам Галіцкім.

Як бачым, вайна 1248—1254 гг. была выклікана захопам Літвы Новагародкам, што прывяло да пашырэння тэрыторыі і ўмацавання Новагародскай дзяржавы. Таму галіцка-валынскія князі, якія вялі барацьбу з Новагародкам, мелі галоўнай мэтай прымусіць яго адмовіцца ад Літвы, чаго яны і дамагліся. Вось таму роля Міндоўга, які фігуруе ў гістарычнай літаратуры як заснавальнік Вялікага княства Літоўскага, яўна перабольшаная. Ён аказаўся дрэнным палітыкам, яго дзеянні выклікалі вялікія варожыя сілы супроць Новагародка, што нанесла яго зямлі вялікія спусташэнні і разбурэнні. Асабліва няўдалым быў яго саюз з Ордэнам, які фактычна нічым не дапамог яму, а ў той самы час развязаў рукі крыжакам для наступлення на Жамойць. Пасля крыжакі, карыстаючыся гэтым, пісалі ад імя Міндоўга розныя дарчыя граматы, паводле якіх ён дараваў Ордэну розныя літоўскія землі. Менавіта на падставе гэтых падробак і з'явілася ўяўленне пра аб'яднанне Міндоўгам літоўскіх земляў. І нягледзячы на тое, што пазней даследчыкі ўстанавілі несапраўднасць гэтых грамат, думка аб Міндоўгу як аб'яднальніку Літвы засталася неперагледжанай. Мяркуючы з таго, што сын Міндоўга Войшалк, будучы пасля новагародскім князем,

вызначаўся праваслаўным фанатызмам, можна думаць, што новагародцы былі незадаволеныя пераходам Міндоўга ў каталіцтва, а гэта побач з іншым і прывяло да адхілення яго ад княскага пасада ў Новагародку, і ён мусіў у далейшым задаволіцца толькі роляю князя Літвы.

## ВОЙШАЛК

Пацярпеўшы першую няўдачу, Новагародак, аднак, не адмовіўся ад заваявання Літвы, і яму па-ранейшаму патрэбен быў князь-літвін, які б мог з'явіцца туды як законны гаспадар. Вось чаму новагародцы (вядома ж, не ўсе яны, а іх магутная сацыяльная верхавіна) і ўзялі на княскі пасад сына Міндоўга — Войшалка. Стаўшы новагародскім князем у 1254 г., калі яму быў 31 год, ён на працягу амаль дзесяці гадоў выяўляў, у адрозненне ад свайго бацькі, палітычную дальнабачнасць і дыпламатычную абачлівасць і ў той жа час, як і Міндоўг, быў неперабарлівы ў сродках для дасягнення пастаўленай мэты. Да канца адданы інтарэсам Новагародка, ён дзейнічаў дзе трэба асцярожна, а дзе трэба жорстка і рашуча дамагаўся свайго.

Першай буйной яго дзяржаўнай справай было заключэнне міру з Галічам і Валынню[801]. Ведаючы, што яны з'яўляліся галоўнымі знешнімі праціўнікамі Новагародка, Войшалк, каб забяспечыць апошняму на некаторы час мірнае жыццё і даць яму акрыяць, ідзе на смелы дыпламатычны крок: аддае сыну Данілы Галіцкага Раману Новагародак і іншыя гарады[802]. І цяпер і пазней ён добра бачыў немінучы ўпадак Галіцка-Валынскай зямлі, заняволенай татарамі і ўцягнутай у розныя міжкняскія канфлікты, і таму смела ішоў на часовае падначаленне ёй, ведаючы, што не ў яе сілах будзе ўтрымаць Новагародак. Але яе князі не выпускалі з-пад сваёй увагі і Літву, разумеючы яе важнае стратэгічнае становішча, адкуль адкрываліся шляхі для пашырэння ўлады на іншыя землі. Нездарма ж сам Даніла Галіцкі быў жанаты з сястрой вядомага ўжо нам літоўскага князя Таўцівіла. Можна думаць таму, што Даніла настойваў, каб Войшалк аддаў сваю сястру замуж за Рамана, хочучы гэтым самым зрабіць яго прэтэндэнтам і на валоданне Літвой. Аднак, відаць, Войшалк разгадаў гэты манеўр і, пайшоўшы на кампраміс, аддаў сваю сястру за другога сына Данілы — Шварна[803], гэтым самым пасеяўшы зерне варожасці паміж сынамі галіцкага князя ў іх дамаганнях на Новагародак і Літву.

Заключыўшы мір, Войшалк пайшоў у Галіцкую зямлю да Данілы[804]. Была выказана думка, што ён выправіўся туды

як заложнік[805], што цалкам верагодна, бо гэтым гарантавалася бяспека Рамана ў Новагародку. Адчуваючы падазронасць да сябе з боку Данілы, Войшалк усё робіць для таго, каб замаскаваць свае палітычныя намеры, а менавіта вярнуць сабе Новагародскую зямлю і заваяваць Літву. І ён вырашыў, што найлепш будзе для гэтага надзець на сябе маску богабаязнага манаха. З гэтай мэтай ён ідзе ў Палонінскі манастыр, прымае мніскі чын і знаходзіцца там тры гады[806]. Але ўсё гэта было патрэбна яму для іншага. Адну з прычын, якая перашкаджала паспяховаму далучэнню Літвы да Новагародка, ён бачыў у яе язычніцтве і таму лічыў неабходным у далейшым яе хрышчэнне. Аднак патрэбных рэлігійных сіл у Новагародскай зямлі для гэтага ў той час не было, і таму вырашыў ён заснаваць там манастыр. Знаходзячыся ў Палоніне, ён, відаць, і збіраў манахаў для здзяйснення гэтай мэты. Магчыма, каб завербаваць іх яшчэ больш, ён пайшоў у Грэцыю, але, з прычыны вайсковых дзеянняў, дайшоўшы да Балгарыі, вярнуўся назад. Паверыўшы ў жаданне Войшалка аддацца выключна служэнню богу, пра што добра сведчылі манахі, якія былі з ім, Даніла адпускае яго на радзіму. А гэта Войшалку толькі і патрэбна было.

Але па вяртанні ён не адразу раскрывае свае палітычныя намеры. Войшалк сапраўды заснаваў манастыр «на реце на Немне, межи Литвою и Новымгородком»[807]. Дарэчы, гэта летапіснае паведамленне таксама высвятляе месцазнаходжанне летапіснай Літвы. Як вядома, заснаваны Войшалкам манастыр знаходзіўся на месцы сучаснай вёскі Лаўрышава, на паўночны ўсход ад Навагрудка. Такім чынам, далей у гэтым кірунку, г. зн. у кірунку на Менск, і знаходзілася Літва, паміж Новагародскім і Менскім княствамі.

Заснаваўшы манастыр і пражыўшы ў ім некаторы час, Войшалк прыступіў да ажыццяўлення сваёй галоўнай мэты — вызвалення Новагародка і яго зямлі з-пад галіцкай улады. Вядома, аднаму яму гэта было не пад сілу, і ён уступае ў саюз з Таўцівілам, які к гэтаму часу стаў князем у Полацку. З'яўленне яго тут не было выпадковым. Полацк, страціўшы Ніжняе Падзвінне, павінен быў яшчэ больш умацоўваць свае пазіцыі ў Літве, якая была даўнім яго саюзнікам. Бачачы, што яна дажывае апошнія дні свайго большменш самастойнага існавання, палачане па прыкладу Новагародка і ўзялі сабе Таўцівіла, які б у выпадку захопу ім Літвы мог таксама з'явіцца там законным гаспадаром. Прымалася пад увагу і тое, што, як пасведчыў летапіс, Таўцівіл меў немалы ўплыў у Літве: «Литовьская земля в руку бе их»[808]. Узяўшы Таўцівіла князем да сябе, Полацк адразу атрымаў вайсковую падтрымку ад яго, аб чым свед-

чыць паход палачанаў супольна з літвой на Смаленск[809].

Вядома ж, беручы Таўцівіла ў саюзнікі, Войшалк найперш мог указаць яму на ўмацаванне галіцка-валынскіх князёў за кошт валодання Новагародскай зямлёй і як на пагрозу для Полацка. Апроч таго, Войшалк выкарыстаў і асабістую крыўду Таўцівіла на Данілу Галіцкага, які пасля заключэння міру з Новагародкам страціў усялякую цікавасць да свайго найбольш актыўнага саюзніка ў барацьбе з Міндоўгам. Ды летапіс ясна гаворыць пра гнеў Данілы на Таўцівіла[810]. Усё гэта разам узятае і дало магчымасць Войшалку перацягнуць Таўцівіла на свой бок і з яго дапамогай у 1258 г. заняць Новагародак, схапіць Рамана, які, магчыма, быў забіты[811], гэтым самым стаць паўнапраўным гаспадаром сваёй зямлі.

Даніла Галіцкі не пакінуў без пакарання гэтыя дзеянні Войшалка. Ён зрабіў паход на Новагародскую зямлю, захапіў Ваўкавыск, шукаючы тут Войшалка і Таўцівіла, паслаў атрады на Зэльву і Горадзен[812]. Але падначаліць сабе зноў Новагародскую зямлю ён не меў сілы, бо сам усё больш занявольваўся татарамі.

Менавіта ў гэты час адбылося першае ўварванне татараў на чале з Бурундаем, які прымусіў ісці з сабой і галіцка-валынскіх князёў, на тэрыторыю Беларусі, а дакладней, на землі Літоўскую (Верхняе Панямонне) і Нальшчанскую (паўночны захад Беларусі)[813]. Нельга пагадзіцца з думкай, што тут пад Літоўскай зямлёй трэба разумець Новагародскае княства[814], бо ў той час Новагародак не атаясамліваўся з Літвой, пра што сведчыць летапіснае паведамленне аб заснаванні Войшалкам манастыра паміж Літвой і Новагародкам.

Перад Войшалкам пасля вяртання сабе Новагародскай зямлі паўстае другая важная задача: заваяванне Літвы. І гэта не праходзіць міма ўвагі яго бацькі Міндоўга. І таму заканамерна, што паміж імі ўзнікае варожасць. Праўда, у летапісе гаворыцца, што яна ўзнікла на рэлігійнай глебе, паколькі Міндоўг дакараў Войшалка за яго манаскае жыццё[815]. Аднак пад гэтай рэлігійнай абалонкай хавалася абвастрэнне адносін паміж Новагародкам і Літвой. Міндоўг не мог не бачыць, што заснаваны Войшалкам манастыр якраз на мяжы з Літвой быў прызначаны і для яе хрышчэння, што магло адбыцца толькі пасля заваявання яе.

Войшалк добра бачыў нетрываласць становішча Міндоўга як князя Літвы, хоць знешне здавалася, што ён моцна трымае ўладу ў сваіх руках, асабліва пасля таго, як яго ўладу над сабой прызналі Жамойць і яе князь Транята, каб гэтым самым аб'яднаць сілы ў барацьбе з Ордэнам. Праўда, ён быў змушаны перайсці з хрысціянства зноў у язычніцтва. Фактычна Міндоўг тут таксама быў выкарыстаны як наёмнік,



*Аклад Лаўрышаўскага евангелля з выявай Лаўрыша-Войшалка*

і таму пасля паспяховых дзеянняў супроць Ордэна пачынаецца ўзаемная варожасць паміж ім і Транятам, што і прывяло да змовы супроць Міндоўга і забойства яго ў 1263 г.[816]. Гібель яго азначала крах намераў аб'яднання балцка-літоўскіх земляў вакол Літвы.

Транята, які стаў княжыць пасля смерці Міндоўга «во всей земле Литовьской и Жемоти»[817], не мог адчуваць сябе спакойна, ведаючы, што ў Полацку і Новагародку сядзяць яшчэ два прэтэндэнты на Літву — Таўцівіл і Войшалк. Таму ён і вырашыў расправіцца з імі. Таўцівіл, якога ён выклікаў да сябе пад выглядам «делить землю и набыток Миндовгов»[818], прыехаў з такім самым намерам у адносінах Траняты: забіць яго, а пасля завалодаць Літвой. Дзеля гэтага ж яго і ўзялі князем у Полацк. Нездарма ж яго тут суправаджаў цэлы почт полацкіх баяраў, якія вельмі добра адчувалі ўсю адказнасць для Полацка надыходзячага моманту: вырашалася пытанне лёсу Літвы — гэтай найважнейшай для яго апоры пасля страты Ніжняга Падзвіння. Яшчэ год назад Таўцівіл разам з палачанамі і літвой хадзіў пад Юр'еў для дапамогі Ноўгараду і Пскову ў іх барацьбе з крыжакамі[819]. Аднак Таўцівіл з-за здрады свайго баярына Пракопа быў апярэджаны Транятам і забіты ім[820]. Яго баяры былі захоплены, і, каб выратаваць іх, Полацк павінен быў прыняць да сябе стаўленіка Траняты. Усё гэта азначала, што Полацк

прайграў у барацьбе за Літву, што з'явілася для яго пасля страты Ніжняга Падзвіння другім моцным ударам, які пазбавіў яго той вядучай ролі, што ён меў дагэтуль у гісторыі Беларусі.

Нешчаслівы лёс чакаў і Войшалка. Аднак ён добра прадбачыў намер Траняты і ўцёк у Пінск. Але не адзін страх, як гаварыў летапісец[821], накіроўвае яго туды, што ўбачым далей. З Пінска ён уважліва сачыў за падзеямі ў Літве. Ведаючы, што яна не зміріцца з жамойцкім панаваннем, ён, можна думаць, раздзімаў гэтую варожасць. І чакаць доўга гэтага моманту не прыйшлося. Праз некалькі месяцаў пасля забойства Міндоўга быў забіты і Транята[822], што азначала крах справы аб'яднання балцка-літоўскіх земляў і вакол Жамойці. Вось гэтыя падзеі яшчэ раз пераканаўча абвяргаюць сцверджанні пра аб'яднанне балцка-літоўскіх земляў у адзінай Літоўскай дзяржаве, чаму, маўляў, садзейнічала моцная манархічная ўлада Міндоўга[823]. Як бачым, нічога гэтага не было, ні ўлада Міндоўга, ні ўлада Траняты не маглі ўтрымаць ад развалу аб'яднанне балцка-літоўскіх земляў, якое толькі пачалося, але не змагло ажыццявіцца з прычыны непрымірымага антаганізму паміж феадаламі Літвы і Жамойці. Патрэбна была сіла, якая б змагла пераадолець гэтую варожасць. І такая сіла прыйшла з Навагародка.

Войшалк, апынуўшыся ў Пінску, прадбачыў зыход барацьбы ў Літве, старанна рыхтаваўся да гэтага моманту. Ведаючы, што яму спатрэбіцца немалая вайсковая сіла, ён прыцягнуў на свой бок пінянаў. Ужо раней выяўляліся вайскова-палітычныя сувязі Навагародка і Пінска. Нездарма ж у 1227 г. навагародцы выступілі на баку Расціслава Пінскага. А цяпер прыйшла чарга Пінска стаць на бок Навагародка. І вось мы бачым, што Войшалк, даведаўшыся пра безначалле ў Літве, што сталася пасля забойства Траняты, беспамылкова вырашыў, што наступіў той найбольш спрыяльны момант, калі трэба рашуча дзейнічаць, каб ажыццявіць галоўную мэту, дзеля чаго ён быў пастаўлены князем у Навагародку — заваяванне Літвы. І ён, ўзяўшы пінянаў, а пасля і навагародцаў, прыйшоў у Літву княжыць, і Літва прыхільна сустрэла свайго «господичича»[824]. На гэта ж і разлічваў Навагародак, калі браў да сябе князя-літвіна. Аднак такое было, відаць, толькі ў «Літве Міндоўга», г. зн. у левабярэжнай Літве. Але калі Войшалк стаў княжыць «ва ўсёй зямлі Літоўскай», то карціна поўнасцю змянілася. Феадалы Літвы ўбачылі, што Войшалк прыйшоў да іх для таго, каб служыць інтарэсам Навагародка, а не ім, і яны пачалі супраціўляцца яму. І таму зразумела, што Войшалк «поча вороги свое избивати, изби их бесчисле-

ное множество, а друзии розбегошося камо кто видя»[825]. На жаль, паасобныя даследчыкі апускаюць гэтае месца летапісу, як і тое, што Войшалк прыйшоў у Літву з новагародцамі і пінянамі[826], і гэтым самым скажаюць сутнасць падзей, звязаных з утварэннем Вялікага княства Літоўскага. Менавіта гэтыя летапісныя сведчанні яскрава паказваюць, што як пры Міндоўгу, так і пры Войшалку ўтварэнне гэтай дзяржавы пачыналася не з заваявання Літвой Чорнай Русі, а, наадварот, з заваявання Літвы Новагародкам. Толькі ўжо ў адрозненне ад Міндоўга Войшалк у асобе галіцка-валынскіх князёў меў не ворагаў, а сваіх памочнікаў у далейшым заваяванні балцка-літоўскіх земляў. З дапамогай Шварна і Васілька Войшалк заваёўвае Нальшчаны (паўночны захад сучаснай Беларусі) і Дзяволтву (частка ўсходу сучаснай Літвы), дзе таксама «вороги свои избив»[827]. Зноў-такі мы не бачым, каб дзе-небудзь Міндоўгу ці Войшалку было аказана супраціўленне ў Чорнай Русі, ім супраціўляюцца толькі ў балцка-літоўскіх землях (Літве, Нальшчанах, Дзяволтве), дзе і мела месца бязлітаснае вынішчэнне ворагаў Новагародскай дзяржавы. А гэта ў сваю чаргу яшчэ раз абвяргае сцверджанне, што ўтварэнне Вялікага княства Літоўскага дыктавалася інтарэсамі літоўскіх феадалаў. Як паказваюць прыведзеныя факты, яны былі галоўнымі ўнутранымі ворагамі ўтварэння гэтай дзяржавы.

Нельга пагадзіцца і з тым, што «Войшалк не рабіў замаху на язычніцтва ў Літве»[828]. Галоўнай мэтай пасля заваявання Літвы Войшалк лічыў яе хрышчэнне. Для таго і быў заснаваны ім Лаўрышаўскі манастыр. Але, відаць, магчымасцяў гэтага апошняга дзеля хрышчэння Літвы было недастаткова. Таму Войшалк у 1265 г. увайшоў у зносіны з пскоўскім князем, які абяцаў яму прыслаць святароў з Пскова, бо яны больш за іншых знаёмыя з мовай і звычаямі Літвы[829]. Войшалк, вядома, не атрымаў іх, бо ў 1266 г. пскоўскім князем стаў Даўмонт, былы нальшчанскі князь, які ўцёк у Пскоў, ратуючыся ад Войшалка. Вось чаму хрышчэнне Літвы ці, магчыма, нейкай часткі яе ў праваслаўе зацягнулася да 1405 г., калі толькі верыць Т. Нарбуту[830], звесткі якога не заўсёды вызначаюцца праўдзівасцю.

## НОВАГАРОДАК І ПОЛАЦК

Заваяванне Літвы для Новагародка было не толькі трамплінам для падначалення сабе іншых балцка-літоўскіх земляў, але і для пашырэння сваёй улады на беларускія землі, у першую чаргу на Полацк.

*Грамата князя Ізяслава Полацкага і Віцебскага 1265 г.*

Полацкая гісторыя пасля забойства Таўцівіла вельмі заблытаная. Адной з прычын гэтага з'яўляецца і тое, што ў крыніцах не ўказана імя князя, які быў пастаўлены ў Полацку Транятам. Як і заўсёды ў такіх выпадках, даследчыкамі выказваюцца розныя меркаванні. Адны з іх (М. Любаўскі, Энгельман і Банэль) лічылі, што гэтым князем быў Гердзень, іншыя (В. Данілевіч), што Канстанцін. І другая думка больш пераканаўчая. Сапраўды, з граматы Гердзеня, дадзенай ім 22 снежня 1264 г., відаць, што яго папярэднікам быў Канстанцін, які адступіўся ад часткі полацкіх уладанняў у Ніжнім Падзвінні на карысць Ордэна, і што зноў пацвердзіў сам Гердзень, аддаўшы ў дадатак яшчэ і Латыгольскую зямлю[831]. У грамаце не ўказаны час, калі князь Канстанцін заключыў сваю ўмову, але пацвярджальная грамата папы Урбана IV ад 20 жніўня 1264 г. на гэты дарчы запіс яскрава сведчыць, што Канстанцін быў непасрэдным папярэднікам Гердзеня і хутчэй за ўсё і з'яўляўся тым, каго на патрабаванне Траняты палачане паставілі сваім князем. Гэта паказвае, што і цяпер у вельмі крытычны момант для Полацка ён згадзіўся ўзяць князя толькі свайго роду, пра што сведчыць імя «Канстанцін». Пазней у Полацку таксама княжыў князь Канстанцін (магчыма, той самы), а віцебскім князем быў Міхаіл Канстанцінавіч, верагодней за ўсё сын гэтага полацкага князя.

Па ўсім відаць, Ордэн выкарыстаў цяжкія абставіны палітычнага жыцця Полацкай зямлі і стаў прымушаць яе да канчатковага адступлення з Ніжняга Падзвіння. На пэўныя ўступкі ў гэтым і пайшоў Канстанцін. Аднак ён быў князем не больш чым некалькі месяцаў. З забойствам Траняты, стаўленікам якога ён з'яўляўся, ён быў пазбаўлены полацкага пасада.

В. Данілевіч меркаваў, што Канстанціна змяніў Ізяслаў[832]. Аднак цяжка растлумачыць, чаму ён, зноў-такі пракняжыўшы некалькі месяцаў, павінен быў уступіць месца Гердзеню. Таму больш упэўнена можна меркаваць, што менавіта апошні стаў полацкім князем пасля Канстанціна. Гэта тым больш пераканаўча, што грамата Ізяслава ў Рыжскім архіве ляжала пасля граматы Гердзеня[833]. К. Нап'ерскі, знайшоўшы апошнюю, пры публікацыі яе нямецкага варыянта перад словамі «Fürsten Gerden» (князь Гердзень) ад сябе паставіў у дужках «lithauischen»[834], г. зн. літоўскі, што дало ў далейшым падставу ўсім даследчыкам лічыць Гердзеня літоўскім князем у Полацку. Аднак гэта несумненна домысел. Яшчэ В. Юргевіч паказаў, што гэтае імя славянскае[835]. Васкрасенскі летапіс паказвае прыналежнасць Гердзеня да роду полацкіх князёў[836]. У гэтых адносінах звяртае на сябе ўвагу і тое, што жонка яго звалася Еўпраксіяй, а адзін з сыноў — Андрэем[837]. Цікава адзначыць, што жонка Гердзеня была цёткай Даўмонта [838], а гэта значыць, што ён па крыві не з'яўляўся чыстым балтам, а можа, і наогул быў славянінам.

Магчыма, як меркаваў В. Данілевіч, Гердзень быў раней князем у якім-небудзь з полацкіх удзелаў, а пасля перайшоў у Полацк. Аднак гэты даследчык яўна памыляўся, калі лічыў, што Гердзень, як і Даўмонт, быў ворагам Войшалка і ў барацьбе з ім заваяваў сабе Полацк[839]. Якраз наадварот, можна больш упэўнена гаварыць, што менавіта з дапамогай Войшалка Гердзень узышоў на полацкі пасад. Тут дарэчы будзе нагадаць, што ў адной падробленай Ордэнам дарчай грамаце Міндоўга ўпамінаецца Гердзень як нальшчанскі князь[840]. Але такім ён мог стаць толькі пасля выгнання з Нальшчанаў Даўмонта, які вымушаны быў уцякаць у Пскоў, дзе яго паставілі князем. Менавіта асаблівая яго варожасць, калі ён стаў пскоўскім князем, да Гердзеня можа найперш тлумачыцца тым, што Войшалк аддаў апошняму Нальшчанскую зямлю, якая раней належала Даўмонту.

Але каб былі больш зразумелымі пазнейшыя падзеі, разгледзім грамату Гердзеня, датаваную 22 снежня 1264 г. Адрасаваная рыжскаму біскупу і Лівонскаму ордэну, яна найперш засведчыла далейшае адступленне Полацка з Ніжняга Падзвіння. Паколькі ў грамаце гаворыцца пра «пакость»,

якая тварылася ў час размір'я, можна думаць, што палачане, незадаволеныя ўступкай князя Канстанціна Ордэну нейкай часткі ніжнядзвінскай зямлі, сталі адваёўваць яе. Вось чаму Гердзень і абавязваўся «не поискивати» тую зямлю, якую аддаў Канстанцін. Апроч таго, Полацк павінен быў адступіцца і ад Латыгольскай зямлі. А гэта азначала, што ордэнскія ўладанні падышлі непасрэдна да карэннай Полацкай зямлі. Са свайго боку лівонцы абавязваліся адступіцца ад яе, г. зн. не прэтэндаваць больш на якую-небудзь яе частку. Побач з мірнай грамата ўтрымлівала ў сабе гандлёвую ўмову, паводле якой вызначаліся правы нямецкіх купцоў у Полацкай зямлі і полацкіх купцоў у Рызе.

Нельга не заўважыць, што гэтая прымірэнчая палітыка Гердзеня да Рыгі і Ордэна была ў згодзе з аналагічнай палітыкай Война, які нават спадзяваўся на выкарыстанне крыжацкай сілы ў барацьбе з унутранымі ворагамі[841]. Усё гэта не можа не наводзіць на думку аб пэўным уздзеянні Новагародка на Полацк для прымірэння яго з Ордэнам аж да тэрытарыяльных уступак яму. Але хоць Полацк быў значна аслаблены стратай Ніжняга Падзвіння, заваяванага Ордэнам, і Літвы, заваяванай Новагародкам, тым не менш ён не ішоў проста пад уладу апошняга. Полацкая зямля і без калоній была ўнушальнай сілай, з якой нельга было не лічыцца, тым больш, як гэта бачна з граматы Гердзеня, Полацк выступаў у адзінстве з Віцебскам. Усё гэта, з аднаго боку, добра разумелі Ордэн і Рыга, якія таму абавязваліся адступіцца ад Полацкай зямлі. З другога боку, гэта добра разумеў і Войшалк і таму за падначаленне Полацка павінен быў ісці на пэўныя ўступкі яму. Асабліва гэта стала відавочным для яго тады, калі выгнаны ім Даўмонт апынуўся на княскім пасадзе ў Пскове. Аб'яднаныя сілы Пскова і Полацка маглі быць грознай небяспекай для маладой Новагародскай дзяржавы, і таму для Войшалка стала асабліва важным не толькі не дапусціць саюзу гэтых дзвюх сіл, але і пасеяць паміж імі варожасць. Вось чаму цалкам дапушчальна, што Войшалк, заваяваўшы Нальшчаны, аддаў іх Полацку, тым болей што зямля апошняга межавалася з гэтай вобласцю ў правабярэжжы Зах. Бярэзіны. Гэтай перадачай і можна растлумачыць, чаму ў падробленай грамаце Міндоўга Гердзень выступае як нальшчанскі князь.

Тэрытарыяльная ахвяра Войшалка мела добрыя вынікі для Новагародка. Яна нацкавала Даўмонта, былога ўладара Нальшчанаў, на Гердзеня, і Полацк мусіў прыняць на сябе ўдары Пскова. І сапраўды, як толькі Даўмонт стаў пскоўскім князем у 1266 г., ён адразу ж і выступіў супроць Гердзеня. Праўда, у Наўгародскім і Пскоўскім летапісах гаворыцца аб

паходзе Даўмонта на Літву. Справа ў тым, што ў гэтых крыніцах усе балцка-літоўскія землі выступаюць пад імем Літвы. Так, Даўмонт называецца князем Літвы, хоць ён быў нальшчанскім князем. Не выключана таму, што Даўмонт з псекоўцамі рабіў напады на Нальшчаны, якія ўжо належалі Гердзеню, і таму яны выступаюць у гэтых летапісах пад імем Літвы. Трэба таксама ўлічваць, што наўгародскія і пскоўскія летапісы дайшлі да нас у спісах XV стагоддзя і пазнейшага часу, калі паняцце пра Полацк было забыта і ўбіралася ў паняцце Літвы. Вось чаму часамі цяжка адрозніць, дзе ў гэтых крыніцах гаворыцца пра Полацк, а дзе пра Літву. Сапраўды, калі і ішоў Даўмонт на Літву, то найперш ён павінен быў прайсці праз Полацкую зямлю. Менавіта на апошнюю і быў накіраваны першы паход Даўмонта. Ён выбраў для гэтага зручны момант, калі Гердзеня не было дома (ён, магчыма, знаходзіўся ў Нальшчанах). Выкарыстаўшы гэта, Даўмонт без асаблівых перашкод прыйшоў у Полацкую зямлю, парабаваў яе і нават захапіў у палон жонку Гердзеня і яго двух сыноў. Вярнуўшыся дадому і ўбачыўшы жахлівыя сляды нападу, Гердзень разам з іншымі князямі з 700 ратнікаў пусціўся ў пагоню за Даўмонтам, «хотяще и руками яти и лютой смерти предати»[842]. Гердзень пераправіўся праз Дзвіну, а Даўмонт недалёка адышоў ад яе (усяго на пяць вёрст). А гэта значыць, што пагоня за ім адбывалася па гарачых слядах. Хоць войска Даўмонта было значна меншае (дзве трэці яго з выведзеным палонам Даўмонт адправіў у Пскоў, пакінуўшы сабе 90 воінаў), Гердзень, уступіўшы ў бой з ім, быў поўнасцю разгромлены. Праўда, самому яму з малой дружынай удалося выратавацца, але загінуў князь Гоўтарт (ён у летапісе нават названы вялікім князем літоўскім, хоць такога тытула ў той час не было), пабіта было і шмат іншых князёў, многія патапіліся ў Дзвіне, і частка іх была выкінута ракой на астравы[843]. Вядома, такі поспех Даўмонта быў у значнай меры вынікам раптоўнага нападу, якога не чакалі палачане, што і прымусіла іх быць больш пільнымі. Гэтым і можна вытлумачыць, што другі ў тым жа 1266 г. напад Даўмонта на Полацк не быў такім удалым. Хутчэй за ўсё ён і зусім не ўдаўся, бо пра вынікі яго ў летапісе нічога не сказана[844], як гэта было ў адносінах да першага паходу. Таму ў наступным годзе Пскоў звярнуўся па дапамогу да Ноўгарада, які ахвотна адгукнуўся на просьбу, бо таксама добра памятаў пра ўсе крыўды, нанесеныя яму Полацкам. Зразумела, што аслаблены Полацк не змог супрацьстаяць аб'яднаным сілам Пскова на чале з Даўмонтам і Ноўгарада на чале з Елферыем, і ён зноў пацярпеў паражэнне. Яго зямля была «много повоевана», прычым у бойцы загінуў і сам Гердзень[845].

У літаратуры нават выказвалася думка, што ў выніку гэтага паходу Даўмонтам быў нават заваяваны Полацк[846]. Але з гэтым пагадзіцца нельга, гэта ідзе ад летапісаў XVI ст. тыпу «Хронікі Быхаўца», дзе многія падзеі пададзены ў вельмі скажоным выглядзе. Так, у іх сказана, што Даўмонт заваяваў Полацк у выніку барацьбы не з Гердзенем, а з Трайдзенем, чаго ў сапраўднасці не было, як і не было ў апошняга сына Рыманта, які нібыта помсціў за смерць свайго бацькі, забіў Даўмонта і вызваліў Полацк[847]. Калі б сапраўды Полацк быў заваяваны Даўмонтам, то не было б сэнсу ў тым самым годзе наўгародцам збірацца ў паход на Полацк. Толькі спрэчкі аб тым, куды ісці, што ўзніклі па дарозе, выратавалі Полацк ад новага спусташэння яго зямлі.

Але і ранейшых нападаў было дастаткова, каб знясіліць Полацк. Апроч таго, гібель Гердзеня не магла не ўнесці разладу ва ўнутранае жыццё Полаччыны, якая перажывала цяпер адзін з самых цяжкіх часоў у сваёй гісторыі. Такі зручны момант і выкарыстаў Войшалк для падначалення Полацка Новагародку. На жаль, у крыніцах гэтая падзея не адбілася ў дэталях. У іх выявіўся толькі яе канчатковы вынік. Гэта мы і бачым у грамаце полацкага князя Ізяслава, што, як і Гердзень, выступаў тут адначасова і ад імя віцебскага князя Ізяслава. Ён адразу нагадаў: «А воли есми божией и Мойшелгови»[848] (гэта яўная апіска, бо ў нямецкім тэксце імя Войшалка напісана правільна). Вядома ж, гэта «воля» пакуль што не была ўсеабдымнай. Ва ўсякім выпадку, у знешніх сувязях з Рыгай і Ордэнам (а гэта і складае змест граматы) Ізяслаў выступае тут як самастойны князь. Папаўшы ў цяжкае становішча, пазбаўлены ўсіх сваіх ранейшых уладанняў, Полацк павінен быў шукаць частковы выхад у развіцці знешняга гандлю, што, вядома, магло ў некаторай ступені палепшыць яго эканоміку і не дапусціць яго ізаляцыі ад знешняга свету. Пэўна ж, упамінанне «воли Войшелгове» не было выпадковым. Гэтым Ізяслаў намякаў, што за ім стаіць Новагародская дзяржава, што намнога ўзмацняла аўтарытэтнасць слова Полацка.

Гэтак жа, як і грамата Гердзеня, так і грамата Ізяслава, ды яшчэ больш яскрава, пацвярджала еднасць Полацка і Віцебска: «Полтеск Витьбеск одно есть» ці «А Изяслав (віцебскі князь.— *М. Е.*) со мною одно». Усё гэта зноў-такі пераканаўча абвяргае сцверджанне аб выключнай раздробленасці Полацкай зямлі напярэдадні яе ўваходжання ў склад Вялікага княства Літоўскага. Полацкая зямля не таму ўвайшла ў гэтую дзяржаву, што яе заваявала Літва, як гэта гаварылася раней і гаворыцца дагэтуль, а таму, што ўслед за Ніжнім Падзвіннем яна страціла і Літву, заваяваную Новагародкам,



*Здымкі пячатак з дагавору Рыгі з Полацкам 1330 г.*

і таму вымушана была прыняць яго «волю». У адрозненне ад Літвы, Нальшчанаў і Дзяволтвы, дзе Войшалк вынішчаў шматлікіх ворагаў Новагародскай дзяржавы, Полацкая зямля была не заваявана, а мірна аб'ядналася з Новагародкам. І гэта зразумела. Утварэнне Вялікага княства Літоўскага найперш было падрыхтавана эканамічным і культурна-этнічным збліжэннем беларускіх гістарычных абласцей. Аднак іх канчатковае аб'яднанне не магло адбыцца без заваявання размешчаных паміж імі балцка-літоўскіх земляў, феадалы якіх супраціўляліся аб'яднаўчаму працэсу і таму бязлітасна вынішчаліся ці выганяліся.

Злучэнне дзвюх беларускіх земляў адразу дало не толькі вайскова-палітычную, але і этнічную перавагу славянскаму элементу над балцкім. Таму становіцца зразумелым, чаму, як слушна заўважыў М. Багдановіч, у далейшым усё дзяржаўнае жыццё Вялікага княства Літоўскага «адбывалася ў беларускіх нацыянальных формах»[849]. Пры гэтым трэба ўлічваць, што вялікую ролю ва ўтварэнні гэтай дзяржавы мела і яшчэ адна гістарычная вобласць Беларусі — Пінская зямля, якая непасрэдна ўдзельнічала ў заваяванні Літвы.

Далучэнне Полацка з яго шматвяковым самастойным палітычным жыццём і высокаразвітай культурай у далейшым плённа жывіла дзяржаўны вопыт Вялікага княства Літоўскага і мела вырашальнае значэнне для шматбаковага развіцця яго культуры. Як бачым, аб'яднанне Новагародскай

і Полацка-Віцебскай земляў было першаступенным момантам ва ўтварэнні Вялікага княства Літоўскага. Нездарма ж у летапісах XVI ст., дзе да непазнавальнасці скажаўся працэс утварэння гэтай дзяржавы, вялікае значэнне ўваходжання Полацка ў склад Вялікага княства Літоўскага падкрэслівалася тым, што навагародскі князь пасля гэтага прымаў перш за ўсё тытул вялікага князя полацкага, а пасля ўжо пісаўся і князем навагародскім[850]. Аб'яднанне Войшалкам Навагародскай, Літоўскай, Нальшчанскай, Дзевалтоўскай і Полацка-Віцебскай земляў у адзіную дзяржаву было фактычна трывалым пачаткам утварэння Вялікага княства Літоўскага. У гэтым і заключаецца найважнейшая гістарычная заслуга гэтага князя.

Летапісныя крыніцы нічога не гавораць пра тое, ці заваяваў Войшалк Жамойць. Магчыма, каб ажыццявіць гэтую мэту, дзеля чаго патрэбна была новая дапамога галіцка-валынскіх князёў, ён аддаў сваё княства Шварну, а сам зноў пайшоў у Галіцкую зямлю. Цікава падкрэсліць, што ў 1254 г. Войшалк не пажадаў аддаць княства яму, бо асцерагаўся, што, жанаты з яго сястрой, той будзе мець законныя правы на яго ўладанне. Зараз жа ён не баяўся гэтага, бо Шварн не меў дзяцей, значыць, у выпадку яго смерці і княства не пераходзіла ў спадчыну яго нашчадкам. Але перадача гэтая не спадабалася брату Шварна — галіцкаму князю Льву Данілавічу, які хацеў сам валодаць Навагародскай і Літоўскай землямі, злучанымі цяпер у адзінае цэлае. Вось чаму гэты князь і забіў Войшалка, «завистью оже бяшеть дал землю Литовьскую брату его Шварнови»[851]. Аднак, паводле іншых крыніц, што, магчыма, больш праўдзіва, Шварн памёр раней за Войшалка і апошні зноў вярнуўся ў сваё княства. Пасля ён прыехаў на перагаворы з Львом Данілавічам, які лічыў Літоўскае княства сваёй спадчынай пасля смерці брата Шварна. Войшалк не згадзіўся на прэтэнзіі Льва і быў забіты за гэта[852]. Але запозненая помста Льва не дала ніякіх вынікаў для яго. Створаная Войшалкам дзяржава працягвала сваё самастойнае жыццё.

## ЧАС ТРАЙДЗЕНЯ

Недастатковая інфармацыя крыніц аж да канца XIII ст. дала глебу для з'яўлення вельмі супярэчлівых сцверджанняў аб сутнасці і характары паасобных падзей у гэтай новай дзяржаве. Найперш нам нічога не вядома пра час у прамежку 1268—1270 гг. паміж амаль адначасовай смерцю Войшалка і Шварна і ўкняжаннем Трайдзеня. Б. Антановіч лічыў, што

гэты час быў запоўнены барацьбой літоўска-язычніцкага элемента з руска-хрысціянскім і перамогай першага над другім, улада якога працягвалася звыш 20 гадоў[853]. Аднак гэтая думка грунтуецца на непаразуменні. Справа ў тым, што мы фактычна не ведаем, адкуль узяўся Трайдзень, ці паходзіў ён з роду Міндоўга, ці належаў да іншага роду. Праўда, у «Хроніцы Быхаўца», як і ў іншых беларускіх летапісах XVI ст., ён і лічыцца сынам вялікага князя Рамана, ці Ромунта, які ў сваю чаргу нібыта быў сынам вялікага князя Гілігіна[854]. Аднак у гэтых крыніцах гісторыя Трайдзеня вельмі заблытаная і ўяўляе сабой «сумесь з падзей, якія адбываліся ў розны час і ўласных домыслаў складальнікаў летапісаў»[855]. І ўсё ж некаторыя з іх заслугоўваюць таго, каб іх адзначыць. Гэта найперш тое, што Трайдзень да таго, як стаў вялікім князем у Навагародку, быў пастаўлены сваім старэйшым братам Нарымонтам князем у яцвягаў, якія страцілі к гэтаму часу сваіх князёў і лёгка паддаліся яго ўладзе. Трайдзень, стаўшы вялікім князем яцвяжскім і дайноўскім, збудаваў над р. Бобр горад, які назваў Райгорадам[856]. Найперш гэта можа быць сведчаннем таго, што ўжо ў 60-я гг. XIII ст. да Навагародка была далучана частка яцвягаў, якія жылі па р. Бобр, а гэта значыць, што новая дзяржава пашыралася і на захад, а гэта ў далейшым і прывяло да сутычак з польскімі князямі. Па-другое, тое, што Трайдзеню прыпісваецца заснаванне горада з яскрава славянскай назвай, побач з іншым, аб чым мы будзем гаварыць ніжэй, абвяргае сцверджанне, што Трайдзень быў літоўцам і язычнікам і што, наогул, укняжванне яго азначала перавагу літоўска-язычніцкага пачатку ў новай дзяржаве, што было рэакцыяй на ранейшую перавагу руска-хрысціянскага пачатку. Трэба зазначыць, што імя «Трайдэн», з якім гэты князь фігуруе ў навуковай літаратуры і якое ў немалой ступені дае нам уяўленне аб ім як літоўцу, не адпавядае крыніцам, дзе гэтае імя мае розныя формы (Тройдзень, Троидень, Troidzien, Траждень), але сярод іх няма формы «Трайдэн»[857]. А ўсё гэта таксама сведчыла аб славянскім паходжанні Трайдзеня. Дарэчы тут нагадаць, што гэты князь у некаторых беларускіх летапісах лічыцца сынам вялікага князя Рамана. Сапраўды, прыкладна з 1254 па 1258 гг. навагародскім князем быў Раман, але ён з'яўляўся сынам галіцкага князя Данілы, а не міфічнага Гілігіна, аб чым ужо гаварылася вышэй.

У язычніцтва Трайдзеня таксама цяжка паверыць, калі ўлічыць, што ўсе яго браты Борза, Сірпуцій, Лесій і Свелкеній (усе імёны славянскія) былі хрысціянамі[858]. У. Пашута не меў рацыі, калі лічыў, што адмоўная характарыстыка Трайдзеня як язычніка, які па сваёй жорсткасці параўноў-

ваўся з такімі біблейскімі асобамі, як Антыох, Ірад і Нерон, узята з «Літоўскага летапісу», аўтар якога нібыта быў незадаволены ўсталяваннем у Новагародскай дзяржаве ўлады язычніка Трайдзеня[859]. Усё, як убачым далей, было наадварот. Асабліва незадаволенымі Трайдзенем былі галіцка-валынскія князі, якія шмат ваявалі з ім, і таму іх летапісец і даў яму такую знішчальную характарыстыку. Менавіта так і растлумачыў гэта пазнейшы летапісец, адзначаючы, што Трайдзень атрымаў такое непаважнае параўнанне з лютымі людзьмі, што быў «окрутный и валечный» (ваяўнічы)[860]. Зазначым, што ў тыя часы было звычаем сваіх ворагаў называць беззаконнымі, паганымі, нехрышчонымі, язычнікамі, незалежна ад таго, былі ці не былі яны такімі. Напрыклад, Пскоўскі летапіс паганымі называў нямецкіх крыжакоў і ўсіх лаціўнянаў[861].

Усё сказанае дае падставу меркаваць, што з Трайдзенем у Новагародскай дзяржаве запанавала новая княская дынастыя, якая ў адрозненне ад папярэдняй Міндоўгавай была славянскага паходжання. І гэта заканамерна. Цяпер, калі Літва была заваявана і супраціўленне яе феадалаў было канчаткова зломлена Войшалкам, Новагародку не было больш патрэбы ў князях літоўскага паходжання. Цяпер можна было мець свайго князя, і ім стаў Трайдзень.

У крыніцах зусім мала звестак аб унутранай палітыцы Трайдзеня. Але і тое, што ёсць, паказвае, што ён, як і Войшалк, клапаціўся аб далейшым унутраным умацаванні Новагародскай дзяржавы. Калі Літва змірылася са сваім падначаленым становішчам, то гэтага, відаць, не было ў іншых балцкіх землях, заваяваных Войшалкам, у прыватнасці ў Нальшчанах, дзе ўслед за Войшалкам Трайдзень працягваў руйнаваць апорныя пункты праціўнікаў адзінства дзяржавы. Калі ад Войшалка ўцёк князь Даўмонт у Пскоў, то ад Трайдзеня — буйны феадал Суксе ў Рыгу. Канчатковае падначаленне Нальшчанаў асабліва было важна для дзяржавы, бо іх тэрыторыя адгароджвала астатнія балцка-літоўскія землі ад Новагародка і Полацка. Такім чынам, па-ранейшаму супраціўленне дзяржаўнай уладзе адбываецца з боку феадалаў балцкіх земляў, тым часам як гэтага не заўважаецца з боку феадалаў беларускіх земляў. Усё гэта яшчэ раз пацвярджае, што і Трайдзень дзейнічаў у інтарэсах апошніх.

Зусім беспадстаўнай з'яўляецца думка У. Пашуты, што «палітыка ўрада Трайдзеня ў паўднёва-заходняй Русі была накіравана на захоп і ўтрыманне Чорнай Русі» і што «яго ўлада пашырылася на Гродна і амаль на ўсю Чорную Русь»[862]. Як бачым, тут Чорная Русь выступае не цэнтральнай дамінуючай часткай дзяржавы, а залежнай

ад Аўкштайціі (усходняй часткі сучаснай Літвы), выразнікам інтарэсаў феадалаў якой і паказаны Трайдзень[863]. Як мы ўжо ведаем, усё было наадварот. Невядома, адкуль даследчыкам узята, што Чорная Русь была заваявана, як можна зразумець, галіцка-валынскімі князямі. Перадача Войшалкам княжання Шварну — сыну Данілы Галіцкага — ніколькі не азначала гэтага, бо, у такім выпадку, яна не выклікала б такой бурнай адмоўнай рэакцыі ў галіцкага князя Льва Данілавіча, які і забіў за гэты ўчынак Войшалка. Чорная Русь па-ранейшаму заставалася свабоднай ад заваявання краінай, тэрыторыя якой з'яўлялася дамінуючай у дзяржаве. Доказам асаблівых клопатаў Трайдзеня аб ёй можа быць факт пасялення ім тут беглых прусаў і борцяў, якія ўцякалі з Памор'я ад нямецкага наступлення. Гэтым самым ён павялічваў насельніцтва гэтай зямлі, а разам з гэтым і рост яе прадукцыйных сіл і асабліва, як убачым далей, абараназдольнасці.

Незразумела таксама, чаму У. Пашута лічыў, што сталіцай Трайдзеня ў 70-х гг. XIII ст. быў Кернаў[864]. Тое, што, паводле Лівонскай Рыфмаванай хронікі Кернаў у 1273—1279 гг., упамінаецца як горад, што ляжаў у зямлі Трайдзеня[865], яшчэ не характарызуе яго як сталіцу. Сам жа У. Пашута, гаворачы аб падзеях 70-х гг. XIII ст., зазначаў, што ў іх «Новагародак выяўляецца для данай пары як асноўны цэнтр літоўскай улады»[866]. З разгледжанага вышэй відаць, што і раней, і тым больш пры Трайдзені ніякай літоўскай улады ў Новагародку не было і не магло быць.

Значна больш засталося ў крыніцах сведчанняў пра знешнія абставіны дзяржаўнага жыцця Новагародка ў гэты час. Паколькі Новагародская зямля была ядром, а гэта значыць і дамінуючай часткай дзяржавы, то натуральна, што і знешняя палітыка мела перш за ўсё на мэце абарону тэрытарыяльных інтарэсаў Новагародка. Гэта тым больш зразумела, што як і пры ўтварэнні Вялікага княства Літоўскага, так і цяпер галоўнымі праціўнікамі яго засталіся галіцка-валынскія князі. Таму і барацьба з імі складала галоўны змест вайсковай дзейнасці Трайдзеня.

Паколькі першае паведамленне аб пачатку яго княжання ў Галіцка-Валынскім летапісе з'явілася пад 1270 г. і тут жа дадзена вядомая ўжо нам зласлівая характарыстыка Трайдзеня[867], то можна думаць, што ўжо раней, не будучы вялікім князем, ён вёў барацьбу з галіцка-валынскімі князямі. І сапраўды, з паведамлення гэтай самай крыніцы пад 1274 г. мы даведваемся, што ў войнах з валынскім князем Васількам (ён памёр у 1271 г.) загінулі тры браты Трайдзеня[868]. Менавіта гэтым летапісец і тлумачыў, чаму Трайдзень не

хацеў мірыцца з валынскім князем Уладзімірам, бацька якога забіў яго трох братоў. Зразумела, што ўказаная летапісцам прычына гэтай барацьбы — не галоўная. Большае значэнне мела тое, што Валынская зямля знаходзілася бліжэй да Навагародскай, і таму аслабленне яе шляхам частых нападаў на яе невялікімі атрадамі было найбольш важным для Трайдзеня. А каб вынікі гэтай барацьбы былі больш паспяховымі, ён жыў у вялікай згодзе з галіцкім князем Львом, перасылаючыся з ім дарамі і гэтым самым раз'ядноўваючы адзінства Галіцка-Валынскай зямлі. Аднак гэта цягнулася нядоўга. Трайдзень, «забыўшы любоў Львову», парушыў мір з апошнім, напаўшы ў 1274 г. на вялікдзень сіламі гараднянаў на Драгічын, знішчыўшы шмат яго жыхароў «от велика до мала»[869]. Летапісец тут упамінае нейкага Трада, які добра ведаў Драгічын і як лепш яго захапіць. Магчыма, што гэта быў які-небудзь галіцкі перабежчык, чым-небудзь пакрыўджаны на радзіме, за што і адпомсціў ёй. Вядома, тут ідзе гаворка пра Драгічын на Падлессі. Вось з-за гэтай вобласці і разгарэлася цяпер барацьба паміж Трайдзенем і Львом Галіцкім. Відаць, апошні і ператварыў Драгічын у апорны пункт для ўмацавання ў Падлессі. Становіцца зразумелым, чаму Трайдзень менавіта гараднянаў паслаў на Драгічын. Бо гэта было найперш у інтарэсах Горадзенскага (Гродзенскага) княства, якое непасрэдна межавалася з Падлессем і ў валоданні якім яно было найперш зацікаўлена. І вось тут напрошваецца адно меркаванне: а ці не быў Трайдзень да таго, як стаць вялікім князем, князем у Горадне. На гэтую думку наводзіць тое, што, як адзначалася вышэй, у беларускіх летапісах XVI ст. ён паказваўся яцвяжскім князем. А ім лягчэй за ўсё было стаць з Горадна. Таму не выключана, што, калі Трайдзень стаў вялікім князем, яго месца ў Горадне заняў брат Сірпуцій. Што Горадзен быў прадметам асаблівых клопатаў Трайдзеня, гаворыць і тое, што ён сяліў у гэтым горадзе беглых прусаў. І ўсё гэта невыпадкова. Велікакняскае становішча не здымала з Трайдзеня клопатаў аб сваёй вотчыне.

Але напад гараднянаў на Драгічын выклікаў выключна жорсткую помсту Льва Данілавіча. Ён звярнуўся па дапамогу да татарскага хана Менгуцімера, які не адмовіў яму ў гэтым, што і зразумела, бо татарам адкрывалася тым самым магчымасць яшчэ раз пасля нападу Бурундая ў 1258 г. парабаваць, а то і заняволіць адну з беларускіх земляў, што адзіныя ва ўсёй Усходняй Еўропе былі свабодныя ад іх ярма. Даўшы Льву раць на чале з ваяводам Ягурчынам, Менгуцімер адначасова прымусіў ісці залежных ад яго рускіх князёў, з якіх у летапісе адзначаны Раман Дабрыньскі, Алег

і Глеб Смаленскія. Апроч таго, разам з галіцка-валынскімі князямі ішлі пінскія і тураўскія князі. Як бачым, нягледзячы на ўмацаванне сувязяў Пінска і Турава з Навагародкам, яны па-ранейшаму адчувалі моцны ціск галіцка-валынскіх князёў, з'яўляючыся для іх плацдармам для непасрэднага нападу на Навагародскую дзяржаву, паколькі шлях іх ішоў «мимо Турова к Случку»[870]. Тут яны, злучыўшыся з татарамі, пайшлі на Навагародак. Вельмі паказальна, што за напад на Драгічын цярпелі не гарадняне, якія непасрэдна ажыццяўлялі яго, а Навагародак. Гэта яскравае сведчанне таго, што Горадзен знаходзіўся пад уладай Навагародка, адкуль і ішла ініцыятыва нападу на Драгічын, што добра разумелі галіцка-валынскія князі і таму накіравалі свой удар супроць Навагародка.

Трэба зазначыць, што гэтая падзея досыць падрабязна асветлена летапісцам. Так, мы даведваемся, што, злучыўшыся каля Слуцка, рускія і татарскія войскі спешна пайшлі да Навагародка. Не дайшоўшы да р. Сэрвеч, спыніліся на ноч. А назаўтра, рана ўстаўшы, перайшлі раку і рашылі чакаць світання. Калі стала ўзыходзіць сонца, пачалі строіцца палкі і ісці да Навагародка. Татары знаходзіліся на правым флангу, побач з імі ішоў Леў са сваім войскам, а на левым флангу рухаўся Уладзімір са сваім валынскім войскам. Аднак татары ў скорым часе прыслалі да Льва і Уладзіміра сваіх ганцоў, якія паведамілі, што за бліжэйшаю гарой ужо стаіць войска праціўніка і пара ідзе з яго коней. Аднак калі паслалі людзей разведаць, то тыя ўбачылі, што ніякага войска там не было і што пара ішла з крыніц, якія цяклі з гары і выдзялялі пару на вялікім марозе (як бачым, паход адбываўся зімой). Пасля гэтага замяшання войскі падышлі да горада і сталі каля яго. Далей летапісец зазначыў, што не ўсе войскі ў гэты час тут былі. Так, Мсціслаў ад Копыля павярнуў на Палессе, якое ваяваў. Гэты факт дае падставу меркаваць, што частка Палесся ўжо была пад уладай Навагародка. Не было тут і задняпроўскіх князёў. І толькі адзін Алег (сын Рамана Дабраньскага) прыйшоў да татараў, а яны вельмі яго чакалі. І вось у гэты час Леў, утаіўшыся ад сваіх стрыечных братоў — валынскіх князёў Уладзіміра і Мсціслава,— першым з татарамі напаў на Навагародак і захапіў яго акольны горад, а назаўтра і дзяцінец. Няма чаго казаць, што абрабаванне было галоўнай мэтай нападнікаў, і таму зразумела, што Леў і татары, першымі ўварваўшыся ў Навагародак, як мы ўжо ведаем, вельмі багаты горад, мелі найбольшую здабычу і мала або нават і нічога не пакінулі іншым саюзнікам, чым і выклікалі іх вялікі гнеў. А гэта і расстроіла далейшыя планы ўдзельнікаў паходаў. Раней было да-

моўлена, што, узяўшы Новагародак, яны пойдуць на Літву[871]. На гэта апошняе трэба звярнуць асаблівую ўвагу. У самым пачатку летапісец гаварыў, што паход быў накіраваны «на Літву», а далей удакладніў, што войскі пайшлі на Новагародак. З гэтага можна зрабіць вывад, што для галіцка-валынскага летапісца ўсё Верхняе Панямонне з'яўлялася Літвой. І сапраўды, як мы ведаем, Новагародак быў заснаваны Яраславам Мудрым у 1044 г. пасля яго паходу на Літву і перамогі над ёю. Але ў той жа час летапісец адрознівае тэрыторыю Новагародскай зямлі ад тэрыторыі суседняй Літвы, паказваючы, як, паваяваўшы Новагародак, руска-татарскія войскі сабраліся ісці ў Літоўскую зямлю. На гэта апошняе і трэба звярнуць асаблівую ўвагу, бо яно і прывяло даследчыкаў у зман. Атаясамліваючы Старажытную Літву з сучаснай і ў той жа час бачачы ўпамінанне яе ў Беларускім Панямонні, яны яшчэ больш упэўніваліся ў перакананні, што літоўскія князі сапраўды заваявалі Чорную Русь, чым нібыта і тлумачылася пашырэнне назвы «Літва» на Новагародак і яго зямлю.

Руска-татарскі паход 1274 г. быў цяжкім ударам для Новагародскай дзяржавы і найперш для яе сталіцы. Але ён не дасягнуў сваёй канчатковай мэты: поўнага абрабавання ўсяго Верхняга Панямоння, прычынай чаго была варожасць паміж галіцка-валынскімі князямі. Як мы ведаем, гэты паход быў карай за захоп Драгічына. На жаль, летапіс не паведаміў нам аб тым, ці быў вернуты гэты горад галіцкаму князю. Беручы пад увагу, што ў далейшым усё Падлессе ўвайшло ў склад Вялікага княства Літоўскага, можна думаць, што Драгічын не быў вернуты Льву Данілавічу.

Частковая няўдача паходу 1274 г. не стрымала і галіцкіх і валынскіх князёў ад варожых дзеянняў супроць Новагародка. У 1276 г. Уладзімір Валынскі ў саюзе з Львом Галіцкім пасылае сваё войска да Слоніма, бярэ яго, каб, як сказана ў летапісе, новагародскія князі «их земле не подседале»[872]. З гэтага можна зразумець, што Слонім у той час быў важным умацаваным фарпостам, адкуль непасрэдна наносіліся ўдары Валынскай зямлі. На жаль, з летапісу нельга зразумець, як доўга знаходзіўся гэты горад у валынскіх руках.

Трайдзень у адказ на захопніцкія дзеянні паслаў свайго брата Сірпуція (ён хутчэй за ўсё сядзеў у Горадне, а не ў Новагародку, як лічыў У. Пашута[873], бо апошні быў рэзідэнцыяй самога Трайдзеня) на Валынь, ваяваць каля Каменя[874]. У сваю чаргу Уладзімір Валынскі захапіў Турыйск на Нёмане. Цяжка сказаць, дзе знаходзіўся гэты горад, магчыма, і на месцы сучаснай в. Турэц (Карэліцкі р-н). Але ўжо тое, што валынскія войскі дайшлі да Нёмана, гаворыць аб іх глы-

бокім пранікненні ў Новагародскую зямлю і фактычна ператварэнні яе ў становішча франтавой паласы.

Што гэта так, паказалі падзеі 1277 г., калі пасля кароткага замірэння з валынскім князем на Новагародак зноў насунулася грозная небяспека. Разумеючы, што сваімі сіламі ім не ўдасца скрышыць Новагародак, яны працягвалі нацкоўваць на яго татараў. І гэтыя захады зноў не прайшлі марна, тым больш што і татары не змірыліся з фактам існавання дзяржавы, свабоднай ад іх панавання. І вось татарскі хан Нагай паведаміў праз сваіх паслоў галіцка-валынскім князям Льву, Мсціславу і Уладзіміру, што ён пасылае ім сваё войска на чале з ваяводам Мамшэем у дапамогу ім ісці «на вороги свое». Аб'яднанае войска пайшло на Новагародак. Але, калі ў 1274 г. яно ішло з паўднёвага ўсходу, праз Тураў і Слуцк, то цяпер яно рухалася з паўднёвага захаду, праз Берасце. Цяжка сказаць, якой дарогай ішло татарскае войска, бо яго разам з галіцка-валынскімі князямі не было. Менавіта ў Берасці апошнія даведаліся, што татары іх «попередили», увайшлі ў Новагародак і «извоевали всё», г. зн. абрабавалі яго і нанеслі яму шмат разбурэнняў. Галіцка-валынскія князі, убачыўшы, што ў Новагародку ім пасля татараў ніякай спажывы не будзе, вырашылі змяніць свой кірунак і пайшлі ў Горадзен. Мінуўшы Ваўкавыск, яны спыніліся ў адным месцы на ноч. І вось тут зноў, як і ў 1274 г., яскрава выявіліся супярэчнасці паміж галіцкімі і валынскімі князямі. Як раней Леў, так цяпер яго брат Мсціслаў і сын Юрый таемна ад валынскага князя Уладзіміра паслалі лепшых баяраў і слуг ваяваць у Гародню (так называецца тут Горадзен). Але іх напаткала няўдача. Аднойчы ноччу яны ляглі спаць, не наведаўшы сваё войска. А там варта, страціўшы пільнасць і зняўшы з сябе зброю, не заўважыла, як з войска ўцёк адзін перабежчык, які паведаміў ґараднянам, што войска, якое ідзе на яго, знаходзіцца ў бязладдзі. Пачуўшы гэта, гарадняне паслалі прусаў і борцяў (яны год назад уцяклі ад немцаў, былі паселены тут Трайдзенем і, як бачым, з'яўляліся тут вайсковай сілай), якія ноччу напалі на варожае войска, адных пабілі, іншых узялі ў палон, у тым ліку і нейкага Цюіма, што ўзначальваў гэта галіцкае войска і быў паранены.

Даведаўшыся пра ўсё гэта ад сына Мсціслава Расціслаўкі, якому ўдалося выратавацца і які прыбег да іх голы і босы, Мсціслаў і Юрый вельмі засмуціліся «за своё безумье». У сваю чаргу Уладзімір Валынскі, даведаўшыся пра таемныя ад яго ўчынкі Мсціслава і Юрыя, «начаша собе промышляти о взятьи города», г. зн. Горадна. Для іх больш за ўсё небяспечнай была перад брамай горада высокая камен-

ная абарончая вежа («столб»), у якой заселі прусы (зноў сведчанне выкарыстання іх як вайсковай сілы). Яна зачыняла ўваход у горад варожаму войску, і таму яно прыступіла да ўзяцця гэтай крэпасці, што яму і ўдалося зрабіць. Пасля гэтага гараднянаў ахапіў страх, і яны як бы змярцвелі ад яго. Аднак далей для іх усё склалася больш-менш спрыяльна. Справа ў тым, што галіцка-валынскія князі пачалі прымаць захады, каб вызваліць узятых у палон сваіх баяраў, аднак іх старанні не далі патрэбных вынікаў, і яны былі вымушаны пайсці на перагаворы з гараднянамі. Да згоды прывяла ўмова, што галіцка-валынскія князі не будуць браць горада і адыдуць са сваім войскам, а гараднянe аддадуць ім іх баяраў, што і было зроблена[875].

Падзеі 1277 года зноў яскрава высветлілі цэнтральнае становішча Навагародка і яго вобласці ў Вялікім княстве.

Гэтым найперш і тлумачыцца, чаму супроць Навагародскай зямлі былі накіраваны паходы галіцка-валынскіх і татарскіх войск. Па ўсім відаць, што мэтай іх тады з'яўлялася не заваяванне, а абрабаванне і гэтым самым знясіленне гэтай зямлі, што магло прывесці яе ў далейшым да ўпадку, у выніку чаго яна стала б лёгкай здабычай для іх. І хоць гэта апошняе, як убачым далей, не ажыццявілася, вайсковыя ўдары галіцка-валынскіх князёў, асабліва балючыя ў саюзе з татарамі, далі сябе знаць у страце Навагародскай зямлёй свайго цэнтральнага значэння ў дзяржаве. Падзеі 1277 года зноў пацвердзілі, што Горадзеншчына ўваходзіла ў склад Навагародскай зямлі і што Горадзен пасля Навагародка быў важнейшым горадам у дзяржаве і таму таксама з'яўляўся адным з аб'ектаў галіцка-валынскіх нападаў.

Аднак узаемаадносіны з Галіцка-Валынскай зямлёй былі хоць і галоўнай, але не адзінай знешнепалітычнай праблемай Навагародскай дзяржавы. На захадзе яе інтарэсы сутыкаліся з інтарэсамі Польшчы. І таму зразумела, чаму ў 1278 г., калі не прадбачылася галіцка-валынскае ўварванне ў яго зямлю, Трайдзень робіць паход на ляхаў. Упамінанне (дарэчы, вельмі няяснае) яцвягаў у сувязі з гэтай падзеяй можа пэўным чынам сведчыць, што ў паходзе ўдзельнічалі і яны. Нездарма ж у пазнейшых беларускіх летапісах XVI ст. Трайдзень называўся яцвяжскім князем. Паход Трайдзеня і яго брата Сірпуція, накіраваны пад Люблін, прынёс вялікую ўдачу. Гэта перш за ўсё выявілася ва ўзяцці шматлікага палону[876], што і з'яўлялася тады галоўнай мэтай паходу. Трэба ж было кампенсаваць страты, у тым ліку і людскія, нанесеныя ў 1274 і 1277 гг.

Але хоць Навагародская зямля і была дамінуючай у дзяр-

жаве і забеспячэнне яе ўнутраных і знешніх інтарэсаў з'яўлялася галоўнай задачай Трайдзеня, аднак пад уладай яе знаходзіліся іншыя землі і іх інтарэсы таксама нельга было ігнараваць, тым больш што ўлада над імі не была яшчэ трывалай, як, напрыклад, у Нальшчанах, дзе прыйшлося расправуляцца з непакорнымі феадаламі. Адзін з іх — Суксе — уцёк у Ордэн, дзе прыняў каталіцтва і скора быў выкарыстаны рыцарамі для барацьбы са сваімі былымі суайчыннікамі. Дзесьці ў прамежку 1272—1274 гг. ён прыняў удзел у паходзе на землі Аўкштайціі і Нальшчанаў, дзе і загінуў[877]. Менавіта крыжацкая агрэсія заставалася галоўнай пагрозай для паўночна-заходніх земляў дзяржавы. Рыцары імкнуліся ўсё глыбей па Дзвіне пранікнуць на ўсход. Асабліва гэта выявілася са збудаваннем імі крэпасці Дынабург (Дзвінск, лат. Даўгаўпілс), у якім засеў моцны гарнізон. Усё гэта не магло не выклікаць рашучых дзеянняў з боку навагародскага ўрада. І вось недзе каля 1277 г., паводле Рыфмаванай хронікі, Трайдзень са сваім войскам аблажыў нямецкую крэпасць. Асабліва тут вызначыліся беларускія стралкі (russen Schutzen), якія перабілі многіх рыцараў, што абаранялі крэпасць. Аднак яна была так добра ўмацавана, што аблога, якая цягнулася чатыры тыдні, не была паспяховай, і Трайдзень вымушаны быў адступіць[878]. Забягаючы наперад, зазначым, што пазней, у 1281 г., Трайдзень змог захапіць Герцыке (колішнюю полацкую крэпасць у Ніжнім Падзвінні) і гэтым самым адрэзаў Дынабург ад Лівоніі, што і прымусіла Ордэн абмяняць захопленую ў яго крэпасць на Дынабург. Праўда, у 1313 г. рыцары зноў вярнулі яго сабе. І ўсё ж нягледзячы на няўдачу дзеянні Трайдзеня прынеслі немалую шкоду крыжакам, і яны вырашылі адпомсціць яму ўварваннем зімою 1278 г. у сучасныя літоўскія землі. Ім удалося пранікнуць аж да Кернава (на беразе Вяллі). Горад крыжакамі не быў узяты, але тэрыторыя вакол яго была страшэнна спустошана. Супраціўлення ніякага не было, і ордэнскія атрады ішлі ад вёскі да вёскі і знішчалі ўсё, што траплялася на іх шляху. З вялікай здабычай у лютым 1279 г. пайшлі крыжакі назад. Але яны не былі пакінуты без пакарання. Мясцовыя насельнікі, сабраўшыся ў вялікае войска і пайшоўшы ўслед за рыцарамі, 5 сакавіка 1279 г. пад Ашэрадэнам нанеслі ім паражэнне. На жаль, гэты поспех не быў замацаваны далейшымі ўдарамі па крыжаках, што і выратавала іх гэтым разам ад катастрафічнага разгрому.

Крыніцы ў асноўным данеслі да нас звесткі аб вайсковай дзейнасці Трайдзеня. Але ў іх мы знаходзім і паведамленні, праўда, адзінкавыя і вельмі цьмяныя, пра яго дыплама-

тычныя захады. Так, можна меркаваць па ўскосных сведчаннях, што ім у прамежку 1273—1278 гг. быў заключаны гандлёвы дагавор з Ордэнам[879]. Вядомы таксама і яго дагавор 1279 г. з плоцкім князем Баляславам, што ўстанавіла мір паміж ім і Мазовіяй і дало магчымасць яму ўзмацніць барацьбу з Ордэнам.

Як бачым, перыяд княззявання Трайдзеня (1270—1282 гг.) быў часам умацавання Навагародскай дзяржавы, якое праходзіла і ў барацьбе з унутранай рэакцыяй і асабліва ў перадольванні знешняй пагрозы, якая ішла з поўдня ад галіцкавалынскіх князёў і з захаду — ад Ордэна. Усё гэта і не дало магчымасці Новагародку значна пашырыць тэрыторыю сваёй дзяржавы ў параўнанні з тым, што было зроблена пры Войшалку. Толькі з позняга Васкрасенскага летапісу мы даведваемся, што Трайдзень далучыў да сваіх уладанняў яцвягаў[880]. І гэтаму можна верыць. Далучэнне часткі яцвяжскай тэрыторыі непасрэдна павялічвала тэрыторыю Навагародскай зямлі, забеспячэнне інтарэсаў якой было, як мы бачылі, галоўным клопатам Трайдзеня.

## ЗАНЯПАД НОВАГАРОДКА І НОВАЕ ЎЗВЫШЭННЕ ПОЛАЦКА

У далейшай гісторыі Вялікага княства Літоўскага, асабліва ў дзесяцігоддзе пасля смерці Трайдзеня, маецца таксама нямала цёмных месц. Мы нават не можам упэўнена сказаць, хто змяніў Трайдзеня на велікакняскім пасадзе. У П. Дусбурга пад 1291 г. упамінаецца пра Лютувера, князя літоўскага, як бацьку Віценя[881]. З гэтага можа вынікаць, што ён пасля смерці Трайдзеня стаў вялікім князем. Аднак у Іпацьеўскім летапісе пад 1289 г. паведамляецца: «Тогда же Литовский князь Будикид и брат его Будивид даша князю Мстиславу город свои Волковыеск, абы с ним мир держал»[882]. Дык вось другі з гэтых князёў Будзівід выступае ў некаторых нямецкіх крыніцах пад імем Путувера[883]. У сваю чаргу Лютувера некаторыя нямецкія крыніцы называюць Путуверам[884]. Усё гэта дае пэўную падставу атаясаміць з Будзівідам Лютувера і лічыць яго побач з Будзікідам вялікім князем, што змяніў Трайдзеня. Нічога нельга сказаць, ці належалі гэтыя князі да яго роду. Бясспрэчна толькі, што як яго, так і іх імёны сведчаць пра іх славянскае паходжанне. Застаецца незразумелым, чаму Ваўкавыск быў уступлены ад імя двух братоў, чым тлумачыцца такі дуумвірат. З-за адсутнасці інфармацыі на гэтыя пытанні немагчыма знайсці адказ.

Больш пэўнае меркаванне можна выказаць пра факт перадачы Ваўкавыска валынскаму князю Мсціславу. Прызначэнне гэтай ахвяры ясна ўказана: для ўстанаўлення мірных адносін з Валынню, якая побач з Галічам была да гэтага часу заўсёдным праціўнікам Новагародка. І што самае важнае, уступка была зроблена за кошт яго зямлі. А гэта ўжо сімптаматычна, бо магло азначаць паступовую страту ёю свайго дамінуючага значэння, што ў далейшым яскрава і выявілася.

Калі Будзікід і Будзівід з'яўляюцца найменш вядомымі нам князямі, то іх наступнік Віцень належыць да ліку самых вядомых і славутых імёнаў у нашай гісторыі. Мы ўжо ведаем, што гаварыў пра яго паходжанне П. Дусбург. Аднак у іншых крыніцах пра гэта гаворыцца інакш. Так, у летапісах XVI ст., прасякнутых ідэяй услаўлення жамойцкіх князёў, Віцень таксама адносіцца да іх роду. Тут даводзіцца, што нібыта яго, яшчэ малога, убачыў Трайдзень, праязджаючы праз належачую яму Эйраголу, разгледзеў яго розум і кемлівасць і ўзяў да сябе, дзе ён вызначыўся сваёй рупнасцю, дабрачыннасцю і ўмельствам, за што і быў пастаўлены маршалкам, а пасля смерці свайго патрона заняў яго месца[885]. Заслугоўвае здзіўлення тое, што ў гэтых летапісах пасля такога дэталёвага апавядання аб перадгісторыі Віценя нічога не гаворыцца пра яго справы як вялікага князя. Тлумачылася гэта тым, што Новагародскі летапіс заканчваўся часам Трайдзеня, і таму складальнікі пазнейшых летапісаў не мелі патрэбных звестак пра Віценя[886]. Але з гэтым нельга пагадзіцца, бо пра Трайдзеня звесткі браліся не з Новагародскага, а з Галіцка-Валынскага летапісу, як і ўсё пра ранейшых вялікіх літоўскіх князёў. Менавіта таму, што апошні летапіс абрываўся 1292 г., г. зн. часам, калі Віцень не быў яшчэ вялікім князем, і тлумачыцца, чаму ў складальнікаў пазнейшых летапісаў не было нічога пра Віценя, і яны змаглі выдумаць толькі яго перадгісторыю. Праўда, у Густынскім летапісе, у якім адбіўся і пазнейшы час, мы знаходзім паасобныя звесткі пра Віценя, але яны запазычаны з замежных крыніц. Для складальнікаў летапісаў XVI ст. важней за ўсё было паказаць у інтарэсах тых магнатаў, якія адносілі сябе да роду Калюмнаў, што з гэтага роду паходзіць Віцень і ўсе далейшыя за ім вялікія князі. Выдуманая гісторыя пра паходжанне Віценя і з'явілася падставай для многіх даследчыкаў лічыць яго пачынальнікам новай дынастыі вялікіх літоўскіх князёў. Але ж фактычна новая дынастыя пачалася з Трайдзеня, і таму невыпадкова складальнікі летапісаў XVI ст. імкнуліся нейкім чынам звязаць з ім і Віценя, толькі прыпісаўшы яму жамойцкае паходжанне.

Зазначым таксама, што ў «Сказании о князьях Владимирских», складзеным у першай палове XVI ст. у Маскоўскай дзяржаве, Віцень (яго імя тут «Віцянец») паказаны як адзін са смаленскіх князёў, якому ўдалося выратавацца ад татарскага пагрому і ўцячы ў Жамойць (так тут называецца Літва)[887]. Беларускія гісторыкі XIX ст. М. Без-Карніловіч[888] і А. Кіркор[889] выказвалі думку, што Віцень, як і Гедымін, быў сынам полацкага князя Гердзеня. Пры такой разнастайнасці звестак і думак аб паходжанні Віценя зноў-такі вырашальнае значэнне мае яго славянскае імя[890].

У адносінах Віценя, як і Трайдзеня, вельмі мала захавалася сведчанняў пра яго ўнутраную палітыку. Дарэвалюцыйныя гісторыкі (Б. Антановіч, М. Дашкевіч, М. Любаўскі) супрацьпастаўлялі нібыта літоўска-язычніцкай палітыцы Трайдзеня руска-хрысціянскую палітыку Віценя і Гедыміна. Але і тыя адзінкавыя факты без ніякага выключэння гавораць, што Віцень, як і ранейшыя князі, змагаўся за ўнутранае ўмацаванне дзяржавы, праціўнікамі чаго былі феадалы балцка-літоўскіх земляў, у прыватнасці Жамойці. Нямецкія крыніцы захавалі і прозвішча аднаго з заклятых ворагаў Віценя — Пялюзы. Ён як быццам з'яўляўся нават сынам Трайдзеня, скінутым з княскага пасада Лютуверам (па іншых звестках ён быў сынам Даўмонта, што больш верагодна). Пасля гэтага ён у 1286 г. уцёк да крыжакоў і на працягу многіх гадоў рабіў свае разбойніцкія напады на пагранічныя землі былой радзімы. У адзін з такіх набегаў у Нальшчанах ён захапіў і забіў 70 старэйшын, якія сабраліся на вяселле. Важна падкрэсліць, што справа тут не ў асабістых амбіцыях Пялюзы, але, і гэта галоўнае, у падтрымцы яго з боку жамойцкіх вярхоў. Яму нават удалося схіліць да здрады трох вайсковых начальнікаў (Драйка, Спуда і Світрыла), якія здалі свае крэпасці крыжаносцам. Толькі ў 1314 г. Пялюза быў захоплены Гедымінам і пакараны смерцю[891]. Або вось яшчэ больш яскравы факт. У 1294 г. у час нападу крыжакоў на Жамойць яе старэйшыны схілялі народ да саюзу з немцамі і паднялі паўстанне супроць Віценя. Хоць яно і было задушана, аднак Віценю так і не ўдалося схіліць жамойтаў да згоды і супольнай барацьбы з крыжакамі[892].

Як бачым, па меры далейшага прасоўвання Навагародскай дзяржавы ў глыб балцка-літоўскіх земляў працягвалася і іх супраціўленне. У той жа час як пры Міндоўгу, Войшалку, Трайдзені, так і пры Віцені мы не знаходзім у крыніцах ніводнага факта супраціўлення ўладзе вялікіх князёў у беларускіх землях.

Паколькі дзейнасць (і выключна вайсковая) Віценя адбілася толькі ў заходніх крыніцах, то мы ведаем у цэлым

толькі пра яго барацьбу з крыжакамі і часткова з палякамі. Менавіта першае ўпамінанне пра Віценя ў 1291 г., калі ён не быў вялікім князем, і гаворыць пра яго паход на Польшчу. Там сказана, што Лютавер паслаў яго супроць палякаў у зямлю Брэсцкую[893]. Цяжка сказаць, чаму тут ідзе гаворка пра паход на Польшчу, калі Берасце ў гэты час знаходзілася ва ўладзе валынскага князя Мсціслава[894]. Трэба зазначыць, што ён перад гэтым вёў упартую спрэчку са сваім пляменнікам Юрыем Львовічам за Берасце. Жыхары гэтага горада выказалі былі сваю сімпатыю да яго суперніка, і яны былі за гэта пакараны. Мсціслаў, не хочучы праліваць іх крыві, вырашыў абкласці іх цяжкой данінай, аб чым і загадаў пісцу запісаць у летапіс: «...уставляю ловчее на Берестьяны и в векы за их коромолу: со ста по две лукне меду, а по две овце, а по пятинадесять десятков льну, а по сту хлебов, а по пяти цебров овса, а по пяти цебров ржи, а по 20 куров, а по горожаны 4 гривны кун, а кто моё слово порушить, а станет со мною перед богом. А вопсал есмь в летописецъ коромолу их»[895]. Вядома, усё гэта не магло выклікаць прыхільнасці берасцянаў да валынскіх князёў і ў далейшым побач з іншым мела ўплыў на ўваходжанне Берасцейскай зямлі ў склад Вялікага княства Літоўскага. Іпацьеўскі летапіс пад 1291 г. апавядае аб дапамозе Льва Галіцкага польскім князям Баляславу, Кандрату, Лакотку пад Кракавам, але там Віцень не ўпамінаецца. Аднак магчымасць барацьбы Віценя за Берасце нельга выключыць. Берасцейская зямля, у склад якой уваходзілі апроч Берасця Камянец, Кобрын, Драгічын, Мельнік, клінам урэзвалася паміж Мазовіяй і навагародскімі ўладаннямі, і таму барацьба за яе была жыццёва неабходнай для дзяржавы. Да таго ж гэтая зямля была адгароджана ад Валыні балотамі і пушчамі. Усё гэта аблягчала яе ўключэнне ў склад Вялікага княства Літоўскага, што і адбылося ў 1315 г. Цікава, што ў познім Васкрасенскім летапісе ў заслугу Віценю, які там называецца сынам Трайдзеня (Прайдзеня), і ставіцца якраз тое, што ён «прибавил земли Литовские много и до Бугу»[896]. Магчыма, што далучэнне Берасцейскай зямлі было найбольшым тэрытарыяльным прырашчэннем у час Віценя. На жаль, крыніцы не даюць магчымасці ўстанавіць, ці пашыралася ўлада Віценя на Тураўскую і Пінскую землі.

Пра паход Віценя супроць Польшчы гаворыцца і пад 1293 г., калі ён стаў вялікім князем. Уварваўшыся з вялікім войскам у Сандамірскую зямлю, ён спачатку меў вялікі поспех, захапіўшы багатую здабычу і тысяч шэсць палону, але пасля адыходу пацярпеў паражэнне[897].

Ужо адзначалася, што ў Вялікае княства Літоўскае беглі,

ратуючыся ад крыжакоў, прусы, дзе іх прымалі і сялілі найперш у раёне Горадна. Так, напрыклад, адзін з апошніх прускіх старэйшын Скурда з усімі сваімі людзьмі пакінуў радзіму. Для рассялення іх каля Ліды была адведзена зямля (в. Кержышкі). Вось гэтым і тлумачылася, чаму Прускі ордэн і пачаў свае набегі на Гарадзенскую зямлю. У 1284 г. рыцары і напалі на яе. Яны аблажылі Горадзен, пасля жорсткага бою авалодалі яго акольным горадам (самога цэнтра не змаглі ўзяць), пабілі безліч людзей і пасля са здабычай, якую нарабавалі па навакольных вёсках, вярнуліся назад[898]. І гэта быў толькі пачатак. Шматпакутная Гарадзеншчына цярпела ад нападаў рыцараў у 1295 , 1296, 1305, 1306 (двойчы), 1311 (тройчы), 1314, 1324 і 1328 гг.[899].

Аднак не ўсе гэтыя паходы прыносілі ўдачу агрэсару. У 1314 г. крыжакі нечакана рушылі на Новагародак, узялі яго і спалілі, а пасля сталі штурмаваць замак. І вось тут упершыню вызначыўся выдатны беларускі дзяржаўны дзеяч і палкаводзец Давыд Гарадзенскі. Гэта быў чалавек, надзелены незвычайнай энергіяй, прадпрымальнасцю і вайсковымі ведамі, таму карыстаўся высокай пашанай і займаў пасля вялікага князя першае месца ў дзяржаве. Нездарма ж пасля Гедымін аддаў за яго замуж адну са сваіх дачок. Будучы гарадзенскім старастам, ён займаў адно з ключавых месц у абароне дзяржавы з боку Мазовіі і Тэўтонскага ордэна.

Палкаводчы талент Давыда Гарадзенскага ўпершыню яскрава выявіўся пры абароне Новагародка ў 1314 г., калі ён са сваім войскам з'явіўся на выручку крэпасці, якую аблажылі крыжакі. Ён авалодаў іх лагерам, перабіў у ім варту, захапіў коней і харчовыя прыпасы. Крыжакі вымушаны былі адступаць, але на зваротным шляху яны не знайшлі ў пэўных месцах сваіх складаў з правіянтам, бо яны былі загадзя разбураны Давыдам. Крыжацкае войска, церпячы ад голаду, рассыпалася і амаль усё загінула ў непраходных лясах[900].

Цяжка сказаць, ці быў яшчэ ў гэты час Новагародак сталіцай дзяржавы. Пісьмовыя крыніцы пра гэта маўчаць. Праўда, у летапісах XVI ст. гаворыцца, што Гедымін стаў княжыць «на прастоле бацькі свайго Віценя ў Кернаве»[901]. Аднак гэтаму цяжка паверыць, бо пасля мы даведваемся, што Гедымін княжыў у Вільні, і таму значэнне Кернава як сталіцы дзяржавы пасля Новагародка не мае пад сабой падставы. Але незалежна ад таго, ці знаходзіўся Віцень у Новагародку, дамінуючая роля яго і яго зямлі ў дзяржаве стала відавочна падаць. Найперш прычынай гэтага былі вельмі неспрыяльныя знешнія ўмовы. Калі ў 50—70-х гг. XIII ст. Новагародскай зямлі прыносілі разбурэнні і спусташэнні га-

ліцка-валынскія войскі, то пачынаючы з 80-х гг. яна становіцца аб'ектам узмоцненых нападаў прускіх крыжакоў, што не магло не падарваць эканоміку, а разам з тым і палітычнае значэнне зямлі. Трохразовы захоп, абрабаванне і разбурэнне Навагародка ў 1274, 1277 і 1314 гг. таксама не маглі не падзейнічаць адмоўна на лёс яго як сталіцы дзяржавы.

У той час як роля Новагародскай зямлі ў дзяржаве панііжалася, усё больш узрастала зноў значэнне Полацкай зямлі. На жаль, інфармацыя аб ёй пасля яе аб'яднання з Навагародкам таксама вельмі бедная. З гэтага часу да пачатку XIV ст. захаваліся толькі лічаныя і разрозненыя звесткі аб полацкай гісторыі.

Адным з гэтых сведчанняў з'яўляецца невялікі літаратурны твор пад назвай: «Семена епископа тферского наказание». Змест яго вельмі важны і выразны, і мы таму яго прывядзём поўнасцю і ў арыгінале: «Константин князь Полоцкий, нарицаемый Безрукий у собе в пиру, хотя укорити тивуне своего о чем, рече попу пред всеми: владыко, где быти тивуну на оном свете? Семен поп отвечае: где и князю. Князь же не улюбив того, молвит попу: тиун неправду судит, мзду емлет, люди продает, мучит, лихое всё деет, а аз что даю? И рече поп: аще будет князь добр, Богобоин, жалует людей, правду любит, избирает тиуна или коего волостеля мужи добре и богобойне, страха божия помне, разумна, праведна, по закону божию всё творяща и суд ведуща — и князь в рай и тиун в рай. Будет ли князь без Божия страха христиан не жалует, сирот не милует и вдовицам не печалуется, поставляет тивуна или коего волостеля — человека зла, бога не боящася и закона Божия не ведуще, и суда не разумеюще, только того деля, абы князю товара добывал, а людие не щадил, аки бешена человека пустил на люди, дав ему меч, тако и князь, дав волость лиху человеку избити люди,— князь во ад и тиун с ним во ад»[902].

Гэты твор з'яўляецца адзіным сведчаннем пра полацкага князя Канстанціна. Паколькі тут выведзены Сімяон, які з'яўляўся цвярскім епіскапам з 1271 г. па 1289 г., то гэта можа арыенціровачна ўказваць на час, калі княжыў Канстанцін. Відаць, Бязрукім яго празвалі таму, што ён быў у сапраўднасці такім, хутчэй за ўсё ў выніку ўдзелу ў вайне. Не выключана, што ў яго асобе мы маем таго ж самага Канстанціна, які княжыў у Полацку ўжо раней, перад Гердзенем, як стаўленік Траняты, і прыйшоў зноў да ўлады пасля Ізяслава.

Хоць твор, напісаны ў форме размовы князя з епіскапам, мае багаслоўскі характар, тым не менш ён — адзін з вельмі рэдкіх дакументаў, у якіх знайшлі сваё адбіццё сацыяльныя

парадкі таго часу, у прыватнасці сваволле цівуноў, якія, атрымаўшы ўладу ў воласці, «не па праўдзе судзяць, бяруць хабары, людзей прадаюць, мучаць, ліхое ўсё дзеюць», і ўсё гэта толькі дзеля таго, каб «князю прыбытак здабыць, а людзей не літаваць». Што ж, даволі дакладная замалёўка грамадскага зла, тыповага не толькі для Полацкай зямлі, як лічыў В. Данілевіч[903], але і для ўсіх земляў, дзе панавалі феадальныя парадкі. І ўжо калі такія цівуны-ліхадзеі былі ў такога унікальнага на той час князя, якім з'яўляўся Канстанцін Бязрукі, то можна ўявіць, якімі былі яны ў іншых князёў, дзеля карысці якіх найперш і тварыліся бясчынствы. Можна думаць, што калі Канстанцін не абмяжоўваўся толькі нараканнем на несправядлівасць такіх парадкаў, а і імкнуўся іх выкараніць, то наўрад ці мог ён доўга сядзець на княскім пасадзе. Роля белай вароны яўна не пасавала князю, і ўсе тыя цівуны-валадары, якіх ён так асуджаў, не маглі не паставіць яго перад выбарам: або зміріцца з тым, што яны тварылі, або развітацца з княскім пасадам. Магчыма, што апошняе і адбылося з Канстанцінам, і ён апынуўся ў Віцебску, дзе пазней быў князем, як можна меркаваць, яго сын Міхаіл Канстанцінавіч.

Была выказана думка, што дзесьці ў другой палове XIII ст. полацкім князем мог быць Яраслаў Ізяславіч[904], грамата якога Барысаглебскаму манастыру захавалася[905]. Сапраўды, такі князь мог быць, даводзячыся сынам Ізяславу, які княжыў у Полацку пасля Гердзеня. І ўсё ж гэтае меркаванне адпадае, бо ў грамаце ясна сказана, што яна дадзена ў 1396 г.

Але самай цёмнай і заблытанай з'яўляецца гісторыя, што захавалася ў нямецка-лацінскіх крыніцах і ў М. Стрыйкоўскага аб князю, імя якога засталося невядомым і які нібыта быў у Полацку недзе ў канцы XIII ст., і аб падзеях, што адбыліся пасля яго смерці. Тут паведамляецца, што гэты князь з'яўляўся язычнікам, г. зн. літоўцам, але, захапіўшы Полацк, прыняў каталіцтва і, паколькі быў бяздзетным, то завяшчаў Полацкую воласць крыжакам, і яны пасля смерці яго ў хуткім часе нібыта захапілі Полацк, навадзнілі яго рознымі каталіцкімі служкамі, якія прымушалі пераходзіць у іх веру праваслаўных палачанаў, што ў дадатак да гэтага цярпелі ўціск і ад лівонскіх рыцараў. Усё гэта вывела палачанаў з цярпення, і яны нібыта звярнуліся каля 1307 г. да літоўскага князя (імя яго не называецца) з просьбай дапамагчы ім вызваліцца ад улады немцаў, на што ён ахвотна згадзіўся і лёгка расправіўся з крыжакамі, карыстаючыся тым, што яны былі ўцягнуты ва ўзаемную барацьбу.

Аднак праўдзівасць гэтай гісторыі выклікае вялікія

сумненні. Асабліва насцярожвае тое, што князь, спачатку язычнік, а пасля заўзяты католік, застаўся безыменным, хоць такога не магло быць, калі ён сапраўды пісаў дарчую грамату. А гэта значыць, што яе не было, а калі і была падробленая, то ўсё роўна імя князя павінна было там стаяць, як гэта мела месца ў аналагічных граматах Міндоўга. Апроч таго, супастаўляючы дзве граматы, у якіх апавядаецца пра полацкую гісторыю, мы знаходзім у іх супярэчнасці. У адной гаворыцца, што немцы прадалі Полацк Літве, у другой — што яны былі выгнаны літоўцамі па просьбе палачанаў. Між тым з матэрыялаў Рымскай курыі, якая расследавала гэтую справу, відаць, што абвінавачванні Ордэну ва ўціску палачанаў прад'яўлялі толькі яго ворагі[906].

М. Стрыйкоўскі, выкладаючы ўсю гэту гісторыю, заўважыў: «Я знайшоў весткі ў старых рускіх летапісах, невялікімі экземплярамі якіх карыстаўся, што Літва ў 1307 г. (толькі ў яго і ўказана гэтая дата.— *М. Е.*) авалодала Полацкам, але няма вестак аб тым, якім чынам гэта здарылася і хто тады валодаў Полацкам»[907]. Прызнанне красамоўнае! Нават для М. Стрыйкоўскага, які не грэбаваў фальсіфікацыяй, гэтыя звесткі былі няпэўнымі, ён не бачыў у іх дэталяў, якія б рабілі іх праўдзівымі. Трэба таксама зазначыць, што некаторыя з рускіх летапісаў, якімі карыстаўся гэты храніст, дайшлі да нас, але ні ў водным з іх няма апісання полацкіх падзей 1307 г. Усё гэта ставіць пад сумненне, што такія летапісы былі. Вось чаму яшчэ ў канцы XIX ст. было даказана, што «Полацкае княства ніколі не было пад уладай Ордэна, ніколі і ніхто не дарыў яго Рыжскай царкве, і ніхто не вызваляў яго ад нямецкага ўціску ў 1307 г.»[908].

І вось апошні сведка полацкай гісторыі таго часу. Гэта грамата полацкага епіскапа Якава. На жаль, яна засталася недатаванай, і таму час яе напісання выклікаў супярэчлівыя меркаванні. В. Васільеўскі прывёў даволі важкія аргументы ў карысць таго, што грамата напісана ў 1309 г.[909], з чым згодны быў і У. Пашута. Аднак апошні на падставе таго, што ў грамаце Якава робіцца спасылка на дагавор Віценя з Рыгай каля 1293 г.[910], адносіць яе да гэтага часу. Але хіба мог Якаў так гаварыць пра дагавор, заключаны дзесяць гадоў назад, звяртаючыся да рыжанаў: «...а ныне есмь уведале любовь праве вашае с сыном моим Витенем»[911].

Гэтыя словы вельмі добра сведчаць аб тым, што Полацк каардынаваў сваю знешнюю палітыку з усёй дзяржавай, з якой ён наўрад ці перарываў еднасць з часоў Войшалка. Апроч таго, нельга не ўбачыць, што наладжванне мірных і асабліва гандлёвых сувязяў з Рыгай было найперш у карысць Полацка, звязанага з ёю сваёй галоўнай жыццёвай



*«Пагоня» — дзяржаўны герб Вялікага княства Літоўскага. Малюнак 1575 г.*

дарогай па Дзвіне. А гэта не магло не ўказваць на ўсё большы ўплыў Полацка на палітыку ўсёй дзяржавы. Вышэй ужо ўказвалася, што перадача Будзікідам і Будзівідам Ваўкавыска ўказвала на паступовае змяншэнне ролі Навагародскай зямлі ў дзяржаве. Праўда, У. Пашута лічыў, што гэтага патрабавала найперш барацьба з Ордэнам, які разгарнуў наступленне на Жамойць[912]. Аднак супраціўленне Ордэну было пастаяннай жыццёвай неабходнасцю новай дзяржавы, чым побач з іншым дыктавалася яе ўтварэнне. Дарэчы, у гэты час, як мы бачылі, і Навагародская зямля нямала цярпела ад крыжацкіх нападаў. Таму перадачу Ваўкавыска Валыні побач з прыязнымі адносінамі епіскапа Якава да Віценя больш дакладным будзе лічыць выяўленнем узрастаючага значэння Полацка ў дзяржаве. Выяўленнем гэтага можа быць тое, што ў 1285 г. «литва Ловоть воеваша»[913]. А гэта значыць, што сілы дзяржавы паступова пераключаюцца на ўзнаўленне ранейшай палітыкі Полацка ў адносінах да суседніх усходніх земляў, вынікам чаго ў далейшым і з'явіцца пашырэнне тэрыторыі дзяржавы на ўсход. Праўда, сам Полацк не стаў сталіцай усёй дзяржавы, але ёй стане другі даўні цэнтр крывіцкай каланізацыі ў балцка-крывіцкіх землях — Крывічгорад — Вільня. Так закончыўся навагародскі перыяд нашай гісторыі.

Тое, што Навагародак у другой палове XIII ст. заняў дамінуючае значэнне ў нашай гісторыі, не было, як мы ба-

чылі, выпадковасцю. Гэтаксама і тое, што ён стаў першай сталіцай новай дзяржавы, добра тлумачыць яе назву як Літоўскай. Звычайна ў гістарычнай літаратуры гэта тлумачыцца як вынік заваявання Літвой (у дадзеным выпадку пад ёю разумеецца тэрыторыя сучаснай Літвы) беларускіх земляў, і ў першую чаргу Новагародка і яго зямлі. Але, як мы бачылі, ніводнага факта ў карысць гэтага не было прыведзена, што і зразумела, бо ўсё адбывалася наадварот. Не Літва заваёўвала Новагародак, а ён яе заваяваў, як гэта было намі паказана на аснове гістарычных матэрыялаў. І калі беларускія землі далучаліся да Новагародка мірна, на глебе іх эканамічнага, палітычнага і культурна-этнічнага збліжэння, то балцка-літоўскія землі падначальваліся гвалтоўна, аказваючы моцнае супраціўленне новагародскай аб'яднаўчай палітыцы. Яшчэ рускі гісторык Н. Надзеждзін адзначыў у 1843 г., што перамагла не Літва, а яе назва[914]. І гэта так. Старажытная Літва, як сведчаць гістарычныя крыніцы і тапаніміка, знаходзілася ў Верхнім Панямонні, на тэрыторыі Беларусі. І хоць яна была заваявана суседнім Новагародкам, яна, аднак, захавала сваю назву і ў далейшым нават пашырыла яе. Магчыма, гэта тлумачыцца тым, што яна займала цэнтральнае месца сярод беларускіх гістарычных абласцей: Полацкай, Тураўскай і Новагародскай. З назвай Літвы атрымалася прыблізна тое самае, што і з назвай другой балцкай зямлі — Прусіі. Размешчаная на ўзбярэжжы Балтыйскага мора, паміж вусцяў Нёмана і Віслы, яна ў канцы XIII ст. была заваявана нямецкім ордэнам, але таксама не страціла сваёй назвы і стала пашыраць яе на захад аж да Берліна.

І вось як пад балцкай назвай «Прусія» існавала буйная нямецкая дзяржава, так і пад балцкай назвай «Літва» хавалася буйная ўсходнеславянская дзяржава. Як усходнія немцы называліся прусакамі, якіх нельга блытаць з прусамі, так панямонскія беларусы называліся літвінамі, якіх нельга блытаць з літоўцамі. Вялікае княства Літоўскае было поліэтнічнай дзяржавай, аднак па гісторыі свайго ўтварэння на тэрыторыі Беларусі, дзе знаходзілася яе ядро, па панаванні ў ёй беларускай культуры і мовы яна была найперш беларускай дзяржавай. Нездарма ж яшчэ ў летапісах XVI ст. гаворыцца аб «Новогородской державе, над Немном лежачее», якой належалі Горадзен, Драгічын, Берасце і ў якую ўваходзілі «вси краины русские от Вилны аж до жродел (вытокаў) Неменовых, где ся за Копылем начинается»[915]. І нездарма ж у летапісах XVI ст. у Новагародак заднім чыслом саджаліся жамойцкія князі, якія з гонарам насілі тытул Вялікага князя Новагародскага[916].

Вялікае значэнне Новагародка ў нашай гісторыі падкрэсліваецца і тым, што яго герб «Пагоня» — коннік з мячом над галавой[917] — стаў дзяржаўным гербам Вялікага княства Літоўскага. І, зрабіўшыся пасля сталіцай, Вільня пераймае гэты сімвал, а за ёй і многія беларускія гарады. З гэтага часу «Пагоня» становіцца выяўленнем дзяржаўнай самабытнасці Беларусі, выйсковай доблесці яе мужных барацьбітоў за волю радзімы. Усё адзначанае пераканаўча паказвае, што Вялікае княства Літоўскае ў другой палове XIII ст. і пачатку XIV ст. існавала як Новагародская дзяржава.

# КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА

[1] Кочубинский А. А. Территория доисторической Литвы // Жури. Мин-ва народи. просв. (ЖМНП). 1897. № 1. С. 66.
[2] Маркс К., Энгельс Ф. Соч., изд. 2-е. Т. 22. С. 19.
[3] Архив К. Маркса и Ф. Энгельса. Т. 5. С. 348.
[4] Ленинский сборник. Вып. XXX. С. 30.
[5] Ленин В. И. Полн. собр. соч. Т 30. С. 90.
[6] Тамсама. Т. 34. С. 299.
[7] Вестник Наркомпроса (Минск). 1921. № 1. С. 4—5.
[8] Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 1. Мн., 1972. С. 10.
[9] Тамсама.
[10] Загорульский Э. М. Древняя история Белоруссии. Мн., 1977. С. 25.
[11] Тамсама. С. 29—31.
[12] Тамсама. С. 55
[13] Шахматов А. К вопросу о финско-кельтских и финско-славянских отношениях // Изв. Ими. АН. 1911. VI серия. Т. 5. С. 711.
[14] Загорульский Э. М. Цит. соч. С. 31—32.
[15] Тамсама. С. 47.
[16] Седов В. Славяне Верхнего Поднепровья и Подвинья. М., 1970. С. 54.
[17] Барсов Н. Очерки русской исторической географии. М., 1885. С. 43.
[18] Алексеев Л. В. Полоцкая земля. М., 1966. С. 23; Седов В. Цит. соч. С. 24.
[19] Ермолович Н. И. Где была летописная Литва? // Тез. докл. к конф. по археологии Белоруссии. Мн., 1969. С. 233—238.
[20] Советская археология. 1964. № 4. С. 36—50.
[21] Фасмер М. Этимологический словарь русского языка. Т. 2. М., 1967. С. 466.
[22] Полное собрание русских летописей (ПСРЛ). Т. 2. М., 1962. С. 736. Вариант 41.
[23] Головацкий Я. Географический словарь западнославянских и югославянских земель. Вильно, 1884. С. 177.
[24] Временник Московского об-ва истории и древностей российских. Кн. 10. М., 1851. С. 113.
[25] Słownik geograficzny ziem polskich. T. 5. Warszawa, 1884. S. 330.
[26] Ярмолович В. С. Список населенных мест Минской губернии. Мн., 1909. С. 102—105.
[27] Загорульский Э. М. Цит. соч. С. 70.
[28] Митрофанов А. Железный век средней Белоруссии. Мн., 1978. С. 151—153.
[29] Булкин В. А. и др. Археологические памятники Древней Руси. Л., 1978. С. 7—8.
[30] Карский Е. Белорусы. Кн. I. Вильно, 1904. С. 63.
[31] Третьяков П. Н. Финно-угры, балты и славяне на Днепре и Волге. М., 1857. С. 284.
[32] Ляпушкин И. И. Славяне Восточной Европы. Л., 1968. С. 21—22.
[33] Шафарик П. Славянские древности. М., 1848. Т. 2. Кн. 3. С. 185.
[34] Завитневич. В. Область дреговичей // Тр. Киев. духовн. академии. 1886. Т. 11. № 5—8. С. 572.
[35] Морошкин М. Славянский именослов. СПб., 1867. С. 76.
[36] Карский Е. Цит. соч. С. 69.
[37] Седов В. Цит. соч. С. 80.
[38] ПСРЛ. Т. 2. СПб., 1843. С. 236.

[39] Седов В. Цит. соч. С. 81.
[40] Завитневич В. Цит. соч. С. 590.
[41] Цыт. паводле кн.: Гринблат М. Белорусы. Мн., 1968. С. 118.
[42] БелСЭ. Т. 4. С. 293.
[43] Сапунов А. Список населенных мест Витебской губ. Витебск, 1906. С. 108—136.
[44] Рапановіч Я. Слоўнік назваў населеных пунктаў Віцебскай вобласці. Мн., 1978. С. 130.
[45] Гринблат М. Цит. соч. С. 54.
[46] Тамсама.
[47] Андрияшев В. Очерки истории Волынской земли. Киев, 1889. С. 43.
[48] Шахматов А. Древние судьбы русского племени. Петроград, 1919. С. 94.
[49] БелСЭ. Т. 2. С. 518, 530; Т. 4. С. 310, 311.
[50] Тамсама. Т. 11. С. 217.
[51] Шахматов А. Древние судьбы... С. 25.
[52] Каганец К. Творы. Мн., 1979. С. 126—129.
[53] Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 2. Мн., 1972. С. 6.
[54] Алексеева Т. И. Этногенез восточных славян. М., 1973. С. 272.
[55] Забелин И. История русской жизни. Ч. 2. М., 1879. С. 53—56, 59, 74—75.
[56] Шафарик П. Цит. соч. Т. 2. Кн. 1. С. 159.
[57] Всесоюзная конференция по топонимике СССР. Л., 1965. С. 81.
[58] Седов В. Цит. соч. С. 105—108.
[59] Седов В. Кривичи и словене. М., 1954. С. 10.
[60] Забелин И. Цит. соч. С. 75.
[61] Седов В. Славяне... С. 107.
[62] Тамсама. С. 91.
[63] Авдусин Д. Археология СССР. М., 1977. С. 212.
[64] ПСРЛ. Т. 2. С. 10.
[65] Голубовский П. История Смоленской земли. Киев, 1896. С. 44.
[66] Седов В. Славяне... С. 105.
[67] Авдусин Д. Цит. соч. С. 212.
[68] Гринблат М. Цит. соч. С. 99—100.
[69] Шафарик П. Цит. соч. Т. 2. Кн. 3. С. 184—185.
[70] Słownik geograficzny. Т. 4. S. 806, 811, 813, 815.
[71] Ibidem. S. 661, 807, 814 i inne.
[72] Ibidem. S. 666, 803, 806, 808.
[73] Головацкий Я. Цит. соч. С. 161—163.
[74] Барсов Н. Цит. соч. С. 313.
[75] Седов В. Славяне... С. 97.
[76] Неделя. 1976. № 18. С. 10.
[77] Słownik geograficzny. Т. 10. S. 735.
[78] Гринблат М. Цит. соч. С. 102.
[79] Гошкевич И. Полный список населенных мест Виленской губ. Вильно, 1905.
[80] Słownik geograficzny. Т. 4. S. 661, 666.
[81] Ibidem. S. 808.
[82] Голубович В., Голубович Е. Кривой город — Вильно // Кр. сообщ. Инст. истории матер. культуры. 1945. № 11. С. 123.
[83] Słownik geograficzny. Т. 4. S. 666, 814.
[84] Барсов Н. Цит. соч. С. 175.
[85] Семенова М. Ф. Из топонимики Латгалии // Уч. записки Латв. гос. ун-та. Т. 11. Рига, 1956. С. 222—223.
[86] Барсов Н. Цит. соч. С. 175, 177.
[87] Касторский М. Начертания славянской мифологии. СПб., 1841. С. 64—67.
[88] Киркор А. Этнографический взгляд на Виленскую губернию // Вест. Имп. Геогр. об-ва. Ч. 21. 1858. С. 295.
[89] Фасмер М. Цит. соч. Т. 2. М., 1967. С. 375.
[90] Тупиков Н. Словарь древнерусских личных собственных имен. СПб., 1809. С. 207.
[91] Petrus von Düsburg. Chronica terrae Prussiae. Leipzig, 1861. IV. S. 301—304.
[92] Шафарик П. Цит. соч. Т. 2. Кн. 1. С. 175.
[93] Энциклопедический словарь Брокгауза и Эфрона. Т. 6. Кн. 11. С. 822.
[94] Семенов П. Живописная Россия. СПб., 1882. Ч. 3. С. 54.
[95] Столпянский Н. Девять губерний Западно-Русского края. СПб., 1886. С. 33.
[96] Пачынальнікі. Мн., 1977. С. 86.
[97] Барсов Н. Цит. соч. С. 179.
[98] Забелин И. Цит. соч. Ч. 2. С. 57.
[99] Булкин В. и др. Цит. соч. С. 81—85.
[100] ПСРЛ. Т. 2. 1962. С. 8.
[101] Тамсама. С. 14.
[102] ПСРЛ. Т. 15. М., 1965. С. 21—22.
[103] Сапунов А. Цит. соч. С. 361, 252, 60, 394, 305, 209; Słownik geograficzny. Т. 10. S. 603.

[104] Список населенных мест Российской империи. Т. 40. Смоленская губ. СПб., 1868. С. 169, 374, 383.
[105] Артамонов М. И. Некоторые вопросы отношений восточных славян с болгарами и балтами // Советская археология. 1974. № 1. С. 253; Третьяков П. Н. Цит. соч. С. 284.
[106] Седов В. Славяне... С. 141—143.
[107] Мачинский Д. А. К вопросу о территории обитания славян в I—VI вв. // Археологич. сб. Эрмитажа. № 17. Л., 1976. С. 99.
[108] Забелин И. Цит. соч. Ч. 1. С. 607.
[109] Седов В. Славяне... С. 36—37.
[110] Кобычев В. В поисках прародины славян. М., 1973. С. 29—32.
[111] Ясінскі А. Два словы аб волатах // Запісы аддз. гуманітар. навук. Кн. 8. Сш. 3. Мн., 1929. С. 214.
[112] Христианские чтения. 1848. Т. VI. С. 32.
[113] Мавродин В. В. О племенных княжениях восточных славян // Исследования по социально-политической истории России. Л., 1971. С. 48.
[114] Седов В. Славяне... С. 192.
[115] Артамонов М. Цит. соч. С. 254.
[116] Булкин В. и др. Цит. соч. С. 21.
[117] Седов В. Славяне... С. 191.
[118] Митрофанов А. Цит. соч. С. 153.
[119] Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 2. С. 27.
[120] Седов В. Славяне... С. 192.
[121] Шахматов А. К вопросу об образовании русских наречий и русских народностей // ЖМНП. 1899. № 4; Спицын А. Расселение древнерусских племен // ЖМНП. 1899. № 7. С. 339—340.
[122] Спицын А. Цит. соч. С. 170.
[123] Голубовский П. Цит. соч. С. 41—42.
[124] Седов В. Славяне... С. 117—119.
[125] Алексеев В. П. Происхождение народов Восточной Европы. М., 1969. С. 207—208.
[126] Карский Е. Белорусы. Кн. 1. Вильно, 1904. С. 137—148; Юргелевіч П. Я. Курс сучаснай беларускай мовы. Мн., 1974. С. 137.
[127] Алексеев Л. Цит. соч. С. 70—71.
[128] Гринблат М. Цит. соч. С. 150—151.
[129] Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 2. С. 7.
[130] Штыхов Г. Древний Полоцк. Мн., 1975. С. 25.
[131] Кобычев В. П. Цит. соч. С. 43.
[132] Булкин В. и др. Цит. соч. С. 43.
[133] Алексеев Л. Цит. соч. С. 71.
[134] Древнерусские княжества. М., 1976. С. 215.
[135] Алексеев Л. Цит. соч. С. 51.
[136] Тамсама. С. 55.
[137] Цыт. паводле кн.: Гринблат М. Белорусы. С. 118.
[138] Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 2. С. 35.
[139] Цыт. паводле ўказ. кн. Грынблата М. С. 117.
[140] Цыт. паводле ўказ. кн. Грынблата М. С. 118.
[141] Сахараў С. П. Народная творчасць латгальскіх і ілукстэнскіх беларусаў. Рыга, 1940. Вып. I.
[142] Гринблат М. Цит. соч. С. 122.
[143] Тамсама. С. 123.
[144] Татищев В. История российская. Т. 2. М.; Л., 1962. С. 29.
[145] Беляев И. История Полоцка. М., 1872. С. 46.
[146] Завитневич В. Цит. соч. С. 587.
[147] Булкин В. и др. Цит. соч. С. 56.
[148] Седов В. Славяне... С. 135.
[149] Тамсама. С. 81—82.
[150] Ключевский В. Курс русской истории. Ч. 1. М., 1937. С. 100.
[151] Янин В., Алешковский М. Происхождение Новгорода // История СССР. 1971. № 2. С. 53—54.
[152] Мавродин В. Цит. соч. С. 48.
[153] Авдусин Д. Цит. соч. С. 214.
[154] K. Marx, F. Engels. Collected Works. M., 1986. Vol. 15. P. 77.
[155] Советская историческая энциклопедия (СИЭ). Т. 2. С. 715.
[156] Повесть временных лет (ПВЛ). Ч. 1. М., 1950. С. 18.
[157] Вопросы истории. 1974. № 11. С. 83.
[158] ПВЛ. Ч.1. С. 18.
[159] ПСРЛ. Т. 2. М., 1961. С. 9.
[160] Карамзин Н. История государства Российского. Т. 1. СПб., 1892. С. 72. Прим. 289.
[161] Ключевский В. Цит. соч. С. 217.
[162] Татищев В. Цит. соч. Т. 2. С. 33.
[163] Присёлков М. Троицкая летопись. М.; Л., 1950. С. 58; ПСРЛ. Т. 30. М., 1965. С. 14.
[164] Штыхов Г. Города Полоцкой земли. Мн., 1978. С. 29.
[165] Соловьев С. История России. Кн. 1. М., 1962. С. 307.

[166] Очерки истории Турово-Пинского княжества. Киев, 1901. С. 22.
[167] Завитневич В. Цит. соч. С. 586.
[168] Алексеев Л. Цит. соч. С. 237.
[169] Греков Б. Избранные труды. Т. 2. М., 1959. С. 327.
[170] История СССР с древнейших времен. Т. 1., М., 1966. С. 482.
[171] Пьянков А. П. Происхождение общественного и государственного строя Древней Руси. Мн., 1980. С. 185—187.
[172] Новгородская I летопись (НПЛ). М., 1950. С. 106.
[173] История СССР с древн. вр. Т. 1. С. 491—492.
[174] ПВЛ. Ч.1. С. 20.
[175] Соловьев С. Цит. соч. Кн. I. С. 307.
[176] Гринблат М. Цит. соч. С. 124—129.
[177] Тамсама.
[178] ПВЛ. Ч. 2. С. 250—251.
[179] Тамсама. Ч. 1. С. 20.
[180] Греков Б. Киевская Русь. М., 1949. С. 298.
[181] ПВЛ. Ч. 1. С. 24.
[182] Тамсама. Ч. 2. С. 266—268.
[183] Тамсама. Ч. 2. С. 269.
[184] Древнерусские княжества. С. 218.
[185] История СССР с древн. вр. Т. 1. С. 485.
[186] Тамсама. С. 598.
[187] ПВЛ. Ч. 1. С. 53—54.
[188] Морошкин М. Цит. соч. С. 158.
[189] Гедеонов С. Варяги и Русь., СПб., 1877. С. 244—246.
[190] Голубовский И. Несколько соображений в вопросе о князе Туре. Киев, 1891. С. 10—11.
[191] Татищев В. Цит. соч. Т. 2. С. 12.
[192] ПВЛ. Ч. 1. С. 34.
[193] ПСРЛ. Т. 25. М., 1949. С. 31.
[194] Алексеев Л. Цит. соч. С. 290.
[195] Гаусман М. Исторический очерк м. Турова. Мн., 1877. С. 2—3.
[196] Татищев В. Цит. соч. Т. 1. С. 111.
[197] Древнерусские княжества. С. 218.
[198] Булкин В. и др. Цит. соч. С. 52.
[199] Штыхов Г. Древний Полоцк. С. 25.
[200] ПСРЛ. Т. 2. С. 724; Морошкин М. Цит. соч. С. 195.
[201] Голубовский И. Цит. соч. С. 112.
[202] Лысенко П. Города Туровской земли. Мн., 1974. С. 45.
[203] Наш край. 1928. № 8—9. С. 46.
[204] Лысенко П. Цит. соч. С. 34—35.
[205] Львов В. Легенды и топонимика // Известия. 1979. 19 февр.
[206] Завитневич В. Цит. соч. С. 584.
[207] Татищев В. Цит. соч. Т. 2. С. 112.
[208] Тамсама.
[209] ПВЛ. Ч. 1. С. 59.
[210] Тамсама. Ч. 2. С. 328.
[211] Тамсама.
[212] Рыбакоў Б. Радзімічы // Працы сэкцыі архэолёгіі. Мн., 1932. С. 141.
[213] Тамсама. С. 105.
[214] Насонов А. Русская земля и образование территории древнерусского государства. М., 1951. С. 171.
[215] Уч. зап. Саратовского ун-та. Т. 1. 1923. С. 102.
[216] Рыдзевская Е. А. Древняя Русь и Скандинавия. М., 1978. С. 209—210.
[217] Тамсама.
[218] Тамсама. С. 212.
[219] Татищев В. Цит. соч. Т. 2. С. 141.
[220] Тамсама.
[221] Полоцко-Витебская старина. Вып. 3. Витебск, 1916. С. 34.
[222] Голубинский И. История русской церкви. М., 1881. Т. 1. С. 176.
[223] Тамсама. С. 177.
[224] Тамсама. С. 208.
[225] Седов В. Славяне... С. 138—141.
[226] ПВЛ. Ч. 1. С. 83.
[227] Соловьев С. Цит. соч. С. 204.
[228] Голубинский Е. Цит. соч. С. 334—335.
[229] Голубовский И. Цит. соч. С. 13.
[230] Наш край. 1928. № 8—9. С. 44.
[231] Лысенко П. Цит. соч. С. 192.
[232] Наш край. 1928. № 8—9. С. 46.
[233] Беляев И. Цит. соч. С. 315.
[234] Греков Б. Киевская Русь. С. 132.
[235] Алексеев Л. Цит. соч. С. 239—240.
[236] ПСРЛ. Т. 9. С. 68.
[237] ПВЛ. Ч. 1. С. 83.
[238] Татищев В. Цит. соч. Т. 2.
[239] Тамсама.
[240] ПВЛ. Ч. 1. С. 10, 15.
[241] Пашуто В. Образование Литовского государства. М., 1959. С. 87.
[242] ЖМНП. 1847. № 12. С. 301.
[241] Пашуто В. Образование Литовского государства. М., 1959. С. 87.
[242] ЖМНП. 1847. № 12. С. 301.
[243] Шафарик П. Т. 1. Кн. 1. С. 433—434; Кн. 2. С. 309—310.
[244] Тамсама. Т. 1. Кн. 1. С. 434.

[245] Вопросы истории. 1974. № 11. С. 80.
[246] Временник Моск. об-ва истории и древностей российских. Кн. 10. М., 1851. С. 113.
[247] ЖМНП. 1847. № 12. С. 293.
[248] ПСРЛ. Т. 2. С. 6; Т. 15. С. 23.
[249] Тамсама. Т. 15. С. 6.
[250] Грушевский А. Очерк истории Турово-Пинского княжества. Киев, 1901. С. 26.
[251] Греков Б. Киевская Русь. С. 467.
[252] Лысенко П. Ф. Цит. соч. С. 23; Грушевский А. Цит. соч. С. 27.
[253] Грушевский А. Цит. соч. С. 29.
[254] ПСРЛ. Т. 2. С. 132.
[255] Лысенко П. Цит. соч. С. 153.
[256] Тамсама. С. 160.
[257] Тамсама. С. 153.
[258] ПСРЛ. Т. 2. С. 134.
[259] Соловьев С. Цит. соч. Т. 1. С. 217.
[260] Рыдзевская Е. А. Цит. соч. С. 100—104.
[261] Алексеев Л. Цит. соч. С. 245—246.
[262] Данилевич. В. Очерки истории Полоцкой земли. Киев, 1896. С. 61.
[263] Голубовский П. История Смоленской земли. С. 266.
[264] Коялович М. Лекции по истории Западной России. М., 1864. С. 63.
[265] Маковский Д. Смоленское княжество. Смоленск, 1948. С. 52—53.
[266] Татищев В. Цит. соч. Т. 2. С. 75.
[267] Лященко А. И. «Эймундова сага» и русские летописи // Изв. АН СССР. 1926. № 12. С. 1084.
[268] Насонов А. Цит. соч. С. 86.
[269] Татищев В. Цит. соч. Т. 2. С. 75.
[270] Тамсама. С. 339.
[271] Данилевич В. Цит. соч. С. 62.
[272] Рыдзевская Е. Цит. соч. С. 101.
[273] Насонов А. Цит. соч. С. 85.
[274] Маковский Д. Цит. соч. С. 52—53.
[275] Беляев И. Очерк истории Северо-Западного края России. Вильно, 1867. С. 19.
[276] Тамсама.
[277] ПСРЛ. Т. 25. С. 376.
[278] Татищев В. Цит. соч. Т. 2. С. 78.
[279] ПСРЛ. Т. 2. С. 141.
[280] Татищев В. Цит. соч. Т. 2. С. 78.
[281] Живописная Россия. Т. 3. С. 195.
[282] БелСЭ. Т. 2. С. 394; ПСРЛ. Т. 32. С. 129, 155.
[283] Жучкевич В. Краткий топонимический словарь Белоруссии. Мн., 1970.
[284] Хроника Быховца. М., 1966. С. 37.
[285] Алексеев Л. Цит. соч. С. 82.
[286] Довнар-Запольский М. Очерки истории кривичской и дреговичской земель. Киев, 1891. С. 76.
[287] Рыдзевская Е. Цит. соч. С. 102.
[288] Тамсама. С. 101.
[289] СИЭ. Т. 13. С. 357.
[290] Татищев В. Цит. соч. Т. 2. С. 79.
[291] ПВЛ. Ч. 2. С. 381.
[292] НПЛ. С. 181.
[293] Тамсама. С. 104.
[294] Пашуто В. Цит. соч. С. 11.
[295] Ермолович М. Новые факты, старая схема // Нёман. 1983. № 1. С. 146—149.
[296] Лысенко П. Цит. соч. С. 24.
[297] Голубовский П. Цит. соч. С. 261.
[298] Довнар-Запольский М. Цит. соч. С. 87.
[299] Маковский Д. Цит. соч. С. 62.
[300] Шахматов А. Разыскания в древнерусском летописании. СПб., 1908. С. 180; Алексеев Л. Цит. соч. С. 242—243.
[301] Беляев И. Цит. соч. С. 20.
[302] Алексеев Л. Цит. соч. С. 246.
[303] Полоцко-Витебская старина. Вып. 2. Витебск, 1913. С. 205.
[304] Маковский Д. Цит. соч. С. 63.
[305] Насонов А. Цит. соч. С. 86—87.
[306] Полоцко-Витебская старина. Вып. 2. С. 118.
[307] Насонов А. Цит. соч. С. 87.
[308] Рыбаков Б. Русские летописцы и автор «Слова о полку Игореве». М., 1972. С. 452.
[309] Довнар-Запольский М. Цит. соч. С. 77—78.
[310] Алексеев Л. Цит. соч. С. 243.
[311] НПЛ. С. 186.
[312] ПВЛ. Ч. 1. С. 111.
[313] Татищев В. Цит. соч. Т. 2. С. 313.
[314] Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 2. С. 82.
[315] Татищев В. Цит. соч. Т. 2. С. 84.
[316] Кудряшов К. Половецкая степь. М., 1948. С. 79—80.
[317] НПЛ. С. 476.
[318] Жучкевич В. Цит. соч. С. 233.
[319] Татищев В. Цит. соч. Т. 2. С. 84.
[320] Тамсама.
[321] ПСРЛ. Т. 2. М., 1843. С. 270.
[322] Татищев В. Цит. соч. Т. 2. С. 84.
[323] Тамсама.
[324] Тамсама.

[325] Довнар-Запольский М. Цит. соч. С. 78.
[326] Татищев В. Цит. соч. Т. 2. С. 84.
[327] Алексеев Л. Цит. соч. С. 244.
[328] Довнар-Запольский М. Цит. соч. С. 78.
[329] Татищев В. Цит. соч. Т. 2. С. 84.
[330] Алексеев Л. Цит. соч. С. 244.
[331] Беляев И. Цит. соч. С. 22.
[332] Насонов А. Цит. соч. С. 155.
[333] Алексеев Л. Цит. соч. С. 179.
[334] Маковский Д. Цит. соч. С. 86.
[335] Татищев В. Цит. соч. Т. 2. С. 84.
[336] Соловьев С. Цит. соч. Т. 2. Прим. 55.
[337] Полоцко-Витебская старина. Вып. 3. С. 102—103.
[338] Алексеев Л. Цит. соч. С. 246—247.
[339] Рыбаков Б. Цит. соч. С. 452—453.
[340] Данилевич В. Цит. соч. С. 57. Прим. 33.
[341] Татищев В. Цит. соч. Т. 2. С. 84.
[342] Тамсама.
[343] Рыбаков Б. Цит. соч. С. 454—457.
[344] Тамсама. С. 455.
[345] Тамсама.
[346] Тамсама. С. 184—197.
[347] Татищев В. Цит. соч. Т. 4. С. 155.
[348] Рыбаков Б. Цит. соч. С. 451.
[349] Тамсама. С. 454.
[350] Татищев В. Цит. соч. Т. 2. С. 85.
[351] ПВЛ. Ч. 1. С. 116.
[352] Тамсама. С. 115.
[353] Тамсама. С. 116.
[354] ПСРЛ. Т. 2. 1843. С. 272.
[355] Татищев В. Цит. соч. Т. 2. С. 86.
[356] ПВЛ. Ч. 1. С. 116.
[357] Тамсама. С. 401.
[358] Тамсама.
[359] Энцикл. слов. Брокгауза и Эфрона. Т. 7. Кн. 13. С. 107.
[360] НПЛ. С. 17.
[361] Татищев В. Цит. соч. Т. 2. С. 86.
[362] Алексеев Л. Цит. соч. С. 248.
[363] НПЛ. С. 17.
[364] Алексеев Л. Цит. соч. С. 248.
[365] Тамсама.
[366] Полоцко-Витебская старина. Вып. 2. С. 188.
[367] Татищев В. Цит. соч. Т. 2. С. 86.
[368] ПВЛ. Ч. 1. С. 116.
[369] Татищев В. Цит. соч. Т. 2. С. 86.
[370] Алексеев Л. Цит. соч. С. 184.
[371] Грушевский М. Очерки истории Киевской земли. Киев, 1891. С. 78.
[372] ПВЛ. Ч. 1. С. 121—122.
[373] Данилевич. В. Цит. соч. С. 69.
[374] ПВЛ. Ч. 1. С. 159.
[375] Довнар-Запольский М. Очерк истории... С. 87.
[376] Ивакин И. Князь Владимир Мономах и его «Поучение». М., 1901. С. 157.
[377] Грушевский А. Очерк истории Турово-Пинского княжества. С. 33.
[378] Довнар-Запольский М. Цит. соч. С. 88.
[379] Гісторыя Беларускай ССР. Т. 1. Мн., 1972. С. 108.
[380] ПСРЛ. Т. 2. С. 232.
[381] Голубовский П. Очерк истории Смоленской земли. С. 263.
[382] Маковский Д. Цит. соч. С. 70.
[383] Полоцко-Витебская старина. Вып. 2. С. 194; Алексеев Л. Цит. соч. С. 249; Довнар-Запольский М. Цит. соч. С. 80.
[384] Алексеев Л. Цит. соч. С. 249.
[385] Карамзин Н. Цит. соч. Т. 2. Прим. 134.
[386] ПВЛ. Ч. 1. С. 159.
[387] Ивакин И. Цит. соч. С. 158.
[388] БелСЭ. Т. 7. С. 565.
[389] Ивакин И. Цит. соч. С. 158.
[390] ПВЛ. Ч. 2. С. 443.
[391] Арцыбашев Н. Повествование о России. Т. 1. Кн. 2. М., 1838. С. 31.
[392] Довнар-Запольский М. Цит. соч. С. 86.
[393] Данилевич В. Цит. соч. С. 69.
[394] Алексеев Л. Цит. соч. С. 250.
[395] Арцыбашев М. Цит. соч. С. 34.
[396] ПВЛ. Ч. 1. С. 160.
[397] Ивакин И. Цит. соч. С. 173; Алексеев Л. Цит. соч. С. 250.
[398] Голубовский П. История Северской земли. Киев, 1881. С. 85.
[399] Полоцко-Витебская старина. Вып. 2. С. 125.
[400] Тамсама. С. 200.
[401] Рыбаков Б. Русские летописцы ... С. 459.
[402] Довнар-Запольский М. Цит. соч. С. 81.
[403] ПВЛ. Ч. 1. С. 13.
[404] Полоцко-Витебская старина. Вып. 2. С. 206—207.
[405] Довнар-Запольский М. Цит. соч. С. 91.
[406] Алексеев Л. Цит. соч. С. 253.
[407] Данилевич В. Цит. соч. С. 71.
[408] ПСРЛ. Т. 2. 1843. С. 293.

409 Татищев В. Цит. соч. Т. 2. С. 123.
410 Седов В. Курганы ятвягов // Советская археология. 1964. № 4. С. 41.
411 Штыхов Г. Города Полоцкой земли. С. 100.
412 Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 2. С. 92.
413 Алексеев Л. Цит. соч. С. 179.
414 ПСРЛ. Т. 32. С. 22.
415 Дмитриева Р. Сказание о князьях Владимирских. М.; Л., 1955. С. 138.
416 ПВЛ. Ч. 1. С. 183.
417 Татищев В. Цит. соч. Т. 2. С. 183.
418 ПВЛ. Ч. 1. С. 185.
419 Тамсама.
420 Алексеев Л. Цит. соч. С. 252, 253.
421 Беляев И. Очерк истории Северо-Западного края. С. 25.
422 Довнар-Запольский М. Цит. соч. С. 71.
423 ПВЛ. Ч. 1. С. 186.
424 ПСРЛ. Т. 2. 1843. С. 287.
425 Карамзин Н. Цит. соч. Т. 2. С. 92.
426 Татищев В. Цит. соч. Т. 2. С. 286.
427 Тамсама.
428 Рыбаков Б. Русские датированные надписи XI—XIV вв. М., 1964. С. 26—27.
429 Сапунов А., Друцкий-Любецкий В. Материалы по истории и географии Дисненского и Вилейского уездов. Витебск, 1896. С. 197.
430 Сапунов А. Двинские камни. Витебск, 1890. С. 7.
431 Тамсама.
432 Тамсама.
433 Тамсама. С. 22.
434 Тамсама. С. 25.
435 Тамсама. С. 14.
436 ПСРЛ. Т. 9. С. 143.
437 Алексеев Л. Цит. соч. С. 256.
438 Беляев И. Цит. соч. С. 256.
439 Narbutt T. Dzeje starożytne narodu litewskiego. T. 3. S. 270—273.
440 Татищев В. Цит. соч. Т. 2. С. 133—134.
441 ПВЛ. Ч. 1. С. 162.
442 Голубовский П. Очерк истории Смоленской земли. С. 265.
443 Татищев В. Цит. соч. Т. 2. С. 131.
444 ПСРЛ. Т. 9. С. 149.
445 Татищев В. Цит. соч. Т. 2. С. 131.
446 Тамсама.
447 Тамсама.
448 Тамсама.
449 Тамсама; ПВЛ. Ч. 1. С. 201.
450 Алексеев Л. Цит. соч. С. 259.
451 Данилевич В. Цит. соч. С. 75.
452 ПСРЛ. Т. 2. С. 285.
453 Татищев В. Цит. соч. Т. 2. С. 133.
454 Narbutt T. Op. cit. T. 3. S. 271—274.
455 ПСРЛ. Т. 2. С. 285.
456 Данилевич В. Цит. соч. С. 75.
457 Горемыкина В. И. К проблеме истории докапиталистического общества. Мн., 1970. С. 73 и др.
458 Полоцко-Витебская старина. Вып. 3. С. 104.
459 Татищев В. Цит. соч. Т. 2. С. 134.
460 Данилевич. В. Цит. соч. С. 76.
461 Алексеев Л. Цит. соч. С. 258.
462 Рыбаков Б. Русские летописцы... С. 181—197.
463 Татищев В. Цит. соч. Т. 2. С. 139.
464 Соловьев С. Цит. соч. Т. 1. С. 414.
465 Алексеев Л. Цит. соч. С. 258.
466 Довнар-Запольский М. Цит. соч. С. 93.
467 Киевская старина. 1888. Август. С. 193.
468 ПСРЛ. Т. 2. 1843. С. 293.
469 Алексеев Л. Цит. соч. С. 183—184.
470 Татищев В. Цит. соч. Т. 2. С. 140.
471 Тамсама.
472 ПСРЛ. Т.1. Л., 1926. С. 296.
473 Алексеев Л. Цит. соч. С. 260.
474 БелСЭ. Т. 2. С. 399.
475 Алексеев Л. Цит. соч. С. 260; БелСЭ. Т. 2. С. 399.
476 Татищев В. Цит. соч. Т. 2. С. 140.
477 Беляев И. Цит. соч. С. 27.
478 Алексеев Л. Цит. соч. С. 261.
479 Тамсама.
480 Тамсама.
481 ПСРЛ. Т. 1. 1926. С. 299.
482 Алексеев Л. Цит. соч. С. 261.
483 Татищев В. Цит. соч. Т. 2. С. 142.
484 Тамсама.
485 Тамсама.
486 Тамсама.
487 Тамсама.
488 Тамсама.
489 Тамсама.
490 Тамсама.
491 Тамсама.
492 Путешествие новгородского архиепископа в Царьград. СПб., 1872. С. 50, 167.
493 ПСРЛ. Т. 7. С. 253.
494 Татищев В. Цит. соч. Т. 2. С. 142.
495 ПСРЛ. Т. 2. С. 384.

[496] Тамсама. Т. 7. С. 28.
[497] Алексеев Л. Цит. соч. С. 263.
[498] Беляев И. Очерк истории Северо-западного края. С. 30.
[499] Довнар-Запольский М. Цит. соч. С. 96—97.
[500] Алексеев Л. Цит. соч. С. 263—264.
[501] Татищев В. Цит. соч. Т. 2. С. 142.
[502] Пашуто В. Образование Литовского государства. С. 13—14.
[503] Татищев В. Цит. соч. Т. 2. С. 143.
[504] Грушевский А. Очерк истории Турово-Пинского княжества. С. 36.
[504а] ПСРЛ. Т. 1. С. 302.
[505] Данилевич В. Цит. соч. С. 83.
[506] Татищев В. Цит. соч. Т. 2. С. 144.
[507] ПСРЛ. Т. 1. С. 302.
[508] Тамсама.
[509] Татищев В. Цит. соч. Т. 2. С. 145.
[510] ПСРЛ. Т. 1. С. 303.
[511] Псковские летописи. Вып. I. М.; Л., 1940. С. 10.
[512] Тамсама. С. 19.
[513] Алексеев Л. Цит. соч. С. 265.
[514] Данилевич В. Цит. соч. С. 84.
[515] Алексеев Л. Цит. соч. С. 265.
[516] ПСРЛ. Т. 1. С. 306.
[517] ПСРЛ. Т. 2. С. 308.
[518] Алексеев Л. Цит. соч. С. 265.
[519] ПСРЛ. Т. 1. С. 344.
[520] ПСРЛ. Т. 2. С. 314.
[521] Алексеев Л. Цит. соч. С. 252.
[522] Беляев И. Цит. соч. С. 32.
[523] ПСРЛ. Т. 2. С. 314.
[524] ПСРЛ. Т. 1. С. 311.
[525] Довнар-Запольский М. Цит. соч. С. 151; Данилевич В. Цит. соч. С. 85.
[526] Грушевский А. Цит. соч. С. 43.
[527] ПСРЛ. Т. 2. С. 310.
[528] Лысенко П. Цит. соч. С. 28.
[529] ПСРЛ. Т. 2. С. 312.
[530] Лысенко П. Цит. соч. С. 28.
[531] Грушевский А. Цит. соч. С. 45.
[532] ПСРЛ. Т. 1. С. 314.
[533] Татищев В. Цит. соч. Т. 2. С. 161.
[534] ПСРЛ. Т. 2. С. 384.
[535] Тамсама. С. 491—492.
[536] Лысенко П. Цит. соч. С. 38.
[537] Тамсама. С. 30.
[538] ПСРЛ. Т. 2. С. 521.
[539] Грушевский А. Цит. соч. С. 54. Прим. 4.
[540] ПСРЛ. Т. 2. С. 510.
[541] Тамсама. С. 520.
[542] Тамсама. С. 445—446.
[543] Алексеев Л. Цит. соч. С. 268.
[544] Данилевич В. Цит. соч. С. 86.
[545] Татищев В. Цит. соч. Т. 3. С. 35.
[546] Тамсама. С. 62.
[547] Данилевич В. Цит. соч. С. 86.
[548] Алексеев Л. Цит. соч. С. 276.
[549] Беляев И. Цит. соч. С. 27.
[550] ПСРЛ. Т. 2. С. 295.
[551] Татищев В. Цит. соч. Т. 2. С. 145.
[552] Тамсама. Т. 3. С. 62.
[553] Тамсама.
[554] Алексеев Л. Цит. соч. С. 276.
[555] Тамсама. С. 269—270.
[556] Тамсама. С. 278.
[557] ПСРЛ. Т. 2. С. 491—492.
[558] Татищев В. Цит. соч. Т. 3. С. 61.
[559] Алексеев Л. Цит. соч. С. 278.
[560] ПСРЛ. Т. 2. С. 491.
[561] Тамсама. С. 493.
[562] Тамсама.
[563] Довнар-Запольский М. Цит. соч. С. 151.
[564] Татищев В. Цит. соч. Т. 3. С. 62.
[565] Алексеев Л. Цит. соч. С. 277.
[566] Тамсама. С. 253.
[567] Довнар-Запольский М. Цит. соч. С. 151.
[568] Данилевич В. Цит. соч. С. 87.
[569] Татищев В. Цит. соч. Т. 3. С. 62.
[570] Тамсама.
[571] Тамсама.
[572] ПСРЛ. Т. 2. С. 494.
[573] Татищев В. Цит. соч. Т. 3. С. 62.
[574] Тамсама.
[575] ПСРЛ. Т. 2. С. 495.
[576] Татищев В. Цит. соч. Т. 3. С. 64.
[577] БелСЭ. Т. 2. С. 288.
[578] Татищев В. Цит. соч. Т. 3. С. 64.
[579] ПСРЛ. Т. 2. С. 496.
[580] Беляев И. Цит. соч. С. 37.
[581] ПСРЛ. Т. 2. С. 525.
[582] ПСРЛ. Т. 2. 1843. С. 306.
[583] Довнар-Запольский М. Цит. соч. С. 152; Данилевич В. Цит. соч. С. 89.
[584] ПСРЛ. Т. 2. С. 496.
[585] Тамсама.
[586] Насонов А. Цит. соч. С. 153.
[587] Татищев В. Цит. соч. Т. 3. С. 69.
[588] ПСРЛ. Т. 7. С. 71.
[589] Татищев В. Цит. соч. Т. 3. С. 69.
[590] Тамсама. С. 244.
[591] ПСРЛ. Т. 2. С. 519.
[592] БелСЭ. Т. 3. С. 346.
[593] ПСРЛ. Т. 2. С. 519. Вар. 14.
[594] Татищев В. Цит. соч. Т. 3. С. 76.
[595] Штыхов Г. В. Города Полоцкой земли. С. 23.
[596] Татищев В. Цит. соч. Т. 3. С. 76.

